# Забойства на Каляды

## *Аповесць*

### I

Вінцэнт Кастравіцкі падняў шыбу і падумаў, што ангельскае акно нагадвае гільяціну. Сіберны вецер шыбануў праз пакой і перакінуў старонку настольнага календара. Пятніца, 24 снежня 1936 года. Вінцэнт пасунуў крухмальную манжэтку на левай руцэ і дакрануўся ўказальным пальцам да халаднаватага гадзіннікавага шкла. Дзверы, быццам ад праймы, рэзка адчыніліся, і Вінцэнт азірнуўся. Нечаканы наведнік сціскаў у руцэ кароткую алебарду, упрыгожаную каляднай зоркай.

— Заходзь, — Вінцэнт кіўнуў чалавеку з алебардай у бок крэсла. — Дарма так сварыцца, сапсавалі ўсім свята. — Ён яшчэ раз глянуў на гадзіннік. Адзінаццаць гадзін.

— Апранайся, пайшлі калядаваць, — загадаў госць.

— Зараз, — Вінцэнт падышоў да шафы і ўзяўся за бронзавую ручку. Госць рэзка нахіліў алебарду і пацэліў лязом па Вінцэнтавай патыліцы. Удар атрымаўся цвёрдым і трапным. Лязо рассекла шыйныя пазванкі. Вінцэнтава галава глуха грукнулася ў шафу. На срэбнай каляднай зорцы чырвонымі кропкамі леглі пырскі крыві. Вінцэнт рухнуў на падлогу. А забойца схапіў газнічку, прачыніў дзверы і прыслухаўся. На калідоры было ціха. Забойца кінуў на Вінцэнтаў ложак запаленую

газнічку, зачыніў дзверы і знік у калідоры. Па прасцінах заскакалі празрыстыя агеньчыкі, полымя пабегла па ложку і саскочыла на падлогу.

* * *

У суботу ў мястэчку Друзгенікі а сёмай гадзіне раніцы Адам Кастравіцкі завітаў да свайго сябра Бруна Чыка, прыватнага эксперта. Бруна Чык папрацаваў больш за дваццаць гадоў крымінальным экспертам у Галандыі, быў вядомым хімікам, захапляўся дэкаратыўным мастацтвам. Нарэшце, калі яму канчаткова абрыдлі паўночныя марскія вятры і тлустыя амстэрдамскія стравы, ён вярнуўся на Радзіму і адкрыў у Вільні прыватную кансультацыйную кантору. Калекцыянеры з усяе Беларусі запрашалі вядомага эксперта.

Тыдзень таму Бруна Чык атрымаў запрашэнне ад графа Плятара паглядзець калекцыю дробнай пластыкі, якую граф сабраўся перавозіць у больш спакойныя мясціны, каб перачакаць ліхалецце. Граф быў з лепшых кліентаў, Бруна ўжо праз два дні прыехаў у Друзгенікі і спыніўся ў гатэлі.

Бруна Чык, высокага росту, немалады, па-еўрапейску элегантны чалавек, усё свядомае жыццё займаўся толькі тым, што канстатаваў, ацэньваў, адзначаў і высвятляў. У маладосці ён ажаніўся з сінявокаю нармандкай, але хутка аўдавеў, стаў аўтарам трох манаграфій па класіфікацыі парцэлянавых і шкляных вырабаў, якія на дзве траціны складаліся з матэматычных таблічак (яны мелі поспех у пачынаючых экспертаў), а таксама аўтарам папулярнага падручніка «Уводзіны ў крышталяграфію». У свой час Бруна Чык вучыўся разам з Адамам Кастравіцкім на хімічным факультэце Сарбоны, дзе яны, як землякі, пасябравалі. Пасля заканчэння вучобы Кастравіцкага пацягнула на Беларусь, а Чык пачаў бадзяцца па свеце і толькі праз дванаццаць гадоў ізноў апынуўся ў Вільні.

Летась яны колькі разоў сустракаліся ў Вільні: то падчас службы ў Вастрабрамскім касцёле святой Тэрэзы, то на пахаванні сэрца Пілсудскага. Аднаўляць старое сяброўства ўсё неяк не наважыліся, адно стрымана ківалі адзін аднаму. Калі цяпер Адам Кастравіцкі даведаўся, што ў Друзгеніккі прыязджае Бруна Чык, то, павагаўшыся, так і не знайшоў падстаў для наведвання універсітэцкага сябра.

Бруна Чык быў прыемна здзіўлены, калі адчыніў дзверы і ўбачыў Адама. Пасля прывітанняў ён запрасіў пана Кастравіцкага разам паснедаць і адначасова адзначыў, што той завітаў да яго а сёмай гадзіне толькі пад прымусам выключных абставін. У цёмным твідавым гарнітуры і белай кашулі з высокім каўнерыкам, зацягнутым чорнай стужкай матылька, Бруна Чык выглядаў рэспектабельна і афіцыйна. А Кастравіцкі, калі скінуў цяжкае футра і апынуўся ў хатняй аксамітавай марынарцы, надзетай на льняную кашулю, адно прамармытаў прабачэнні, што не паспеў належным чынам апрануцца.

— Ты служыш у пажарнай камандзе? — паспрабаваў жартаваць Бруна, але Адам спачатку зацята абурыўся і супакоіўся толькі тады, калі заўважыў чорную, перапэцканую сажай манжэтку марынаркі.

Падчас сняданку яны перакінуліся некалькімі нязначнымі сказамі са сваіх студэнцкіх успамінаў. Бруна разліў па філіжанках каву і пачаставаў Адама папяросаю з залатым паскам на муштуку. Яны ўладкаваліся перад столікам з каваю ў мяккіх, па-вясковаму ўтульных саламяных крэслах, і Адам, зацягнуўшыся араматызаваным тытунём, пачаў сваё апавяданне.

— Справа ў тым, — нервова вымавіў пан Кастравіцкі, — што сёння ўначы забілі майго пляменніка Вінцэнта Кастравіцкага — у маім маёнтку, тут, побач з Друзгенікамі. Калі быць дакладным, маён-

так належаў брату Генрыку, але ён мінулай зімой памёр і маёнтак перайшоў Вінцэнту ў спадчыну. Летась Вінцэсь паступіў у Віленскі універсітэт, пасля бацькавай смерці ў яго ўзніклі фінансавыя праблемы. Я дапамагаў яму і, параіўшыся з Ганнай, сваёй жонкаю, пакінуў Вінцэнту наш віленскі дом, а сам пераехаў у маёнтак. Праўду кажучы, пані Кастравіцкая была супраць такога абмену, але мой знаёмы доктар пераканаў яе, рэкамендаваў ёй лазні з мінеральных крыніц. Летам мы пераехалі ў маёнтак. У брата была неблагая майстэрня, і я атрымаў магчымасць аднавіць свае хімічныя доследы, выпісаў абсталяванне, перарабіўшы майстэрню ў лабараторыю.

Учора на калядныя вакацыі да нас прыехаў Вінцэнт з кампаніяй сяброў-студэнтаў. Яны спрабавалі наладзіць калядкі, але нешта паміж імі адбылося, хлопцы пасварыліся. Я і пані Ганна не ўмешваліся ў тэалагічныя спрэчкі моладзі. Адно павячэралі разам. Пасля вячэры хлопцы спявалі калядныя песні, але свята не атрымалася. Я з Фрыдэрыкам пайшоў у більярдную. Вінцэнт падняўся да сябе. Раптам наверсе пані Ганна заўважыла, як з-пад дзвярэй да яе ў пакой па падлозе запаўзае дым. Яна закрычала. Гарэў Вінцэнтаў пакой. Полымя ўдалося збіць толькі цудам. Там на падлозе мы знайшлі Вінцэнта.

Падчас сваёй прамовы Кастравіцкі не дакрануўся да філіжанкі і не зацягваўся папяросаю, якая хутка згасла. Нарэшце ён на імгненне спыніўся, запаліў новую папяросу і загаварыў спакайней:

— Я толькі што быў у паліцыі, яны пачалі афіцыйнае расследванне, а мяне папрасілі, каб я не пакідаў маёнтка. Я хацеў адразу звязацца са сваім віленскім адвакатам, ды даведаўся ад старога графа, што ты на пару дзён заехаў у Друзгенікі, вырашыў па старой памяці параіцца з табой як з чалавекам, безумоўна, кампетэнтным у крыміналістыцы. Спадзяюся, нашае сяброўства дазваляе мне гэта зрабіць?

— Калі ласка, Адам, — адказаў Бруна Чык і хацеў быў дадаць колькі слоў спачування, але Кастравіцкі ізноў хутка загаварыў:

— У мястэчку я чалавек новы, і ў мяне ёсць падставы для недаверу мясцовым уладам, асабліва следчаму. Я ўжо меў непрыемную гутарку з ім. Таму мне здаецца, што ты адзіны чалавек, да каго я магу звярнуцца з такога кшталту справай. Можа, ты дасі мне кансультацыю ці проста параіш, што рабіць, бо чакаць літасці ад паліцыі, склаўшы рукі, я адчуваю, небяспечна. Абставіны вымушаюць мяне дзейнічаць, каб не апынуцца ў безвыходнай сітуацыі. У справе замешаны Дамінік Плятар, сын старога графа. У мяне з графам апошнім часам былі даволі нацягнутыя адносіны, і я ўпэўнены, што стары Плятар пачне ціснуць на ўладу, каб абвінаваціць мяне. Дарэчы, следчы, пан Сокал, ужо распытваў мяне адносна Вінцэнтавага маёнтка. Стары пілсудчык лічыць, што я...

Адам Кастравіцкі не скончыў думкі і адным глытком выпіў халодную каву, а Бруна Чык займеў магчымасць пачаставаць расхваляванага сябра брэндзі.

— Выбачай за гэтую блытаніну і за мой трохі нервовы тон, але пасля размоў з местачковымі паліцыянтамі не вельмі добра сябе адчуваю.

Трэцяя чарачка брэндзі супакоіла Кастравіцкага, і ён нарэшце змог выпаліць папяросу.

— Наколькі я разумею, табе пагражае арышт па абвінавачванні ў забойстве пляменніка Вінцэнта. І ты прапануеш мне ў нейкім сэнсе ўзяць ролю твайго адваката і памагчы табе пазбегнуць арышту? — У голасе Бруна Чыка ледзь заўважна прагучаў нямецкі акцэнт і нечаканы халадок. Кастравіцкі паспрабаваў выправіць сваю памылку:

— Я вельмі шкадую, што гаварыў не пра тое і не так, як мне самому хацелася б. Але я спадзяюся, што ты паслухаеш мяне і дазволіш растлумачыць табе адну асноўную думку.

Я не веру ў існаванне вышэйшых ісцін і вышэйшай справядлівасці. У нашым грамадстве вышэйшы суд па сваім узроўні такі ж самы, як і ўсе дзяржаўныя судовыя ўстановы. А грамадская думка — гэта судовы прысуд такога гатунку, што звычайнаму чалавеку нельга яго абвергнуць і ні ў якім разе яму давяраць. Мы ўжо не ў тым узросце, калі даруецца максімалісцкі ідэалізм, і я не збіраюся займацца абстрактным гуманізатарствам. Жыццё ператварыла таго рамантычнага юнака, з якім ты вучыўся ў Сарбоне, у жорсткага, цалкам пазбаўленага ілюзій прагматыка. Вось тут я табе растлумачу, што, акрамя Вінцэнта, у мяне нікога не заставалася. Я на сваім жыццёвым вопыце пераканаўся, што чалавек не можа цалкам абапірацца на аўтарытэт навукі або на аўтарытэт рэлігіі ці ідэалогіі, яму неабходна знайсці свой адліковы пункт, сваю выспу ў моры адзіноты, каб абаперціся на цвёрдую глебу і знайсці прытулак сваёй пакутніцкай душы. Самая моцная, на маю думку, прывязка чалавечай душы — гэта Род. А я даўно страціў надзею мець сваіх дзяцей. Ганна цудоўная жанчына, але пасля дваццаці гадоў шлюбу нават яна пакінула ўсе свае намаганні перамагчы лёс.

Вінцэнта мы прымалі за роднага сына. Асабліва пасля смерці брата Генрыка. З Вінцэнтам мяне апроч чыста сваяцкіх адносін звязвае пачуццё Роду. Ты павінен мяне зразумець. Гэта не проста забілі майго пляменніка, гэта на родзе Кастравіцкіх паставілі крыж.

А наша паліцыя ў мяне пытаецца пра ягоную спадчыну. Ты ўяўляеш? Хіба ім растлумачыш, што Вінцэнт — гэта апошняя надзея роду Кастравіцкіх?

Я ўжо не баюся арышту і турмы як фізічнай пакуты. Мне неабходна знайсці забойцу і адпомсціць за смерць Кастравіцкіх. Ты разумееш, што Кастравіцкіх больш не існуе. Нас няма, нас вынішчылі, пазабівалі. Значыць, дарма мае дзяды

насілі княжацкі тытул, калі род сканаў так бессэнсоўна. Ты адзіны, каму я так шчыра магу выказаць свае перажыванні. І да таго ж папрасіць дапамогі. Ты не адмовіш мне. — Адам Кастравіцкі ўзняў над сталом яшчэ адзін кілішак брэндзі, але ягоныя пальцы нервова задрыжалі і бурштынавая вадкасць палілася на вышываную сурвэтку.

— Павінен цябе адразу папярэдзіць, — нарэшце адказаў Бруна Чык, — я не юрыст і крыміналістыкай займаюся толькі як эксперт па дэкаратыўным мастацтве. Аднак я шчыра табе спачуваю і паспрабую гэтую справу разблытаць. Але я хацеў бы ўдакладніць, чым ты тут займаўся гэтыя дваццаць гадоў? — Бруна хацеў выціснуць з сябе ўсмешку, але ўбачыў, як на змучаным Адамавым твары адбілася непаразуменне, і таму сур'ёзна дадаў: — Мяне цікавіць, ці не хавалася за Вінцэнтавай смерцю помста табе і твайму роду, калі ты гэта так хваравіта перажываеш?

— Не, я гэтак не думаю. Пасля універсітэта яператварыў частку спадчыны ў грошы і пабудаваў гуту, як мне здавалася, — лепшую ў свеце. Новае абсталяванне з Германіі, новыя тэхналогіі. Да таго ж ты памятаеш, я сам быў неблагім хімікам. І хутка ператварыўся ў заможнага гаспадара-фабрыканта. Дарэчы, выгадна ажаніўся, адно жонка і яе сваякі прыбыткі з маёнткаў спускалі на палітычныя авантуры. Цяпер, праўду кажучы, я ўжо разумею, куды завялі нас гэтыя авантурысты-рэвалюцыянеры накшталт нябожчыка Дзяржынскага. Калі дзве імперыі пачалі дзяліць Еўропу, нам дасталося болей за астатніх. Як ты разумееш, Беларусь падзялілі ў прамым сэнсе. Гуту разбурылі і нацыяналізавалі. Вось так. А жончыны маёнткі трапілі ў даволі сімвалічную сітуацыю. Па маёй зямлі пад Стаўбцамі правялі мяжу і з абодвух бакоў утварылі заставы, якія месцяцца па сённяшні дзень у маіх дамах. З аднаго боку Саветы забралі, а тут пілсудчыкі, гэтыя хоць кампенсацыю нейкую выпісалі. Ды не

ў гэтым справа, тое даўно было і асабліва мяне не закранула. Я нават быў удзячны лёсу, што ён пазбавіў мяне марных клопатаў, бо ў мяне не было нашчадкаў, каму тое дабро магло перайсці. Толькі цяпер я па-сапраўднаму гэта зразумеў.

Кастравіцкі падняў галаву, ненатуральна цвёрда выпрастаўся на крэсле, а потым, прыклаўшы руку да лба, цяжка ўздыхнуў. На ягоны смуглы, што пергамент, твар лягла маска тугі, адно яркія васільковыя вочы свяціліся непрыхаванай нянавісцю.

— Цяпер мой адзіны пляменнік стаў мне за сына, але лёс вырашыў пазбавіць мяне астатняга шчасця.

Бруна Чык адчуваў, што Адаму Кастравіцкаму неабходна выказацца, і ўважліва ўслухоўваўся ў ягоную блытаную плынь свядомасці.

Калі Бруна ўбачыў на твары сябра непадробную стому, што нарэшце пераадолела ўсе астатнія пачуцці, ён дастаў з кішэні залаты гадзіннік, падобны да тоўстага жука, і адзначыў як эксперт:

— Табе неабходна адпачыць. Хочаш — заставайся тут, паспі, а я тым часам перагавару з Плятарам, і ўвечары разам паедзем да цябе.

Кастравіцкі ўстаў, растлумачыў Бруна Чыку, як знайсці маёнтак, і стрымана развітаўся.

## II

А пятай гадзіне вечара Бруна Чык збочыў з Віленскага тракту і скіраваў «кадзілак» мадэлі 1928 года да неагатычнай брамы, што замыкала цагляны паркан. У кішэні падарожнага паліто з бабровым каўняром ляжаў ліст да следчага пана Сокала. Побач на вольным сядзенні валяўся пухлы скураны саквяж, пальчаткі і карычневы капялюш з шырокімі палямі. У машыне было горача, печка гнала цёплае паветра, і Бруна Чык крыху апусціў бакавое шкло. Трохарачная канструкцыя брамы

была вузкаватай, геральдычныя чыгунныя вароты ледзь не зачапілі задні бампер «кадзілака», але Бруна дакладна разлічыў шырыню брамы, прыціснуў акселератар і павольна закаціўся ў парк.

Кастравіцкія ганарыліся сваім паркам, закладзеным па праекце французскага батаніка Лявона Жана Жыльбера. Сіметрычны партэр абрамлялі пірамідальныя дубы і дэкаратыўныя ліпы. Уздоўж дарогі, што падбіралася да маёнтка, з-пад белага шорсткага дывана выбіваліся шарападобныя сумёты фігурна падстрыжаных кустоў. Па камбінацыі сцежак угадвалася веерная канструкцыя. Паміж атрутна-зялёных піхтаў і елак на перыферыі парку патаналі ў снезе пабеленыя альтанкі. Кастравіцкія не шкадавалі грошай, і парк нават узімку выглядаў адмыслова дагледжаным.

Двухпавярховы палац з баракальным фасадам і вуглавымі шатровымі вежамі-алькежамі быў пафарбаваны на тры колеры і меў дэкаратыўна-святочны выгляд. Бруна Чык спыніў «кадзілак» на шырокім дворыку, побач з абшарпанай «татрай» і заснежаным «ролс-ройсам». На вычышчаным ганку, каля адчыненых дзвярэй яго сустрэў вузкавокі трыццацігадовы мажардом. У вітальні эксперта чакалі Адам Кастравіцкі і следчы Багдан Сокал.

— У мяне да пана Сокала ліст, — пасля прывітанняў вымавіў Бруна і, перадаўшы следчаму разгорнуты аркуш, дадаў: — Я спадзяюся, гэтага дастаткова, каб пан следчы пазнаёміў мяне з матэрыяламі гэтай справы.

Багдан Сокал доўга разбіраў старамодную лацінку і нарэшце крыху нахабным тонам вымавіў:

— Граф Плятар рэкамендуе мне, калі не памыляюся, пана Чыка як аднаго з лепшых крымінальных экспертаў і раіць працаваць разам з панам. Але ў гэтай справе замешаны ягоны сын Дамінік Плятар. І як усе, хто мінулым вечарам знаходзіўся ў маёнтку, Дамінік, мякка кажучы, сведка, а калі шчыра, то ў

гэтай справе кожны сведка ў любы момант можа ператварыцца ў злачынцу. Я абавязаны захоўваць на гэтым этапе тайну следства, — следчы развёў рукі, дэманструючы, што не варта спрачацца.

— Пан Сокал падазрае Дамініка Плятара? — пацікавіўся Адам Кастравіцкі.

— У мяне пад падазрэннем усе, хто знаходзіўся ў гэтым доме мінулым вечарам. Што тычыцца Дамініка, я схільны прызнаць ягонае поўнае алібі, але ўсё можа змяніцца.

— Няхай пан растлумачыць сваю апошнюю думку, — патрабавальна вымавіў Бруна Чык.

— Два дні падаў снег, а на Божае Нараджэнне снегу не было. Брама на ноч зачыняецца, а эканом учора спусціў сабак. Дык вось, я агледзеў парк і не знайшоў ніякіх слядоў, вядома, апроч сабачых. Гэта значыць, што ноччу ніхто звонку не мог трапіць у дом. А калі так, то Вінцэнт загінуў ад рукі таго, хто начаваў у гэтым доме. Ці разумее пан Кастравіцкі, што гэта значыць?

— Так, — кіўнуў гаспадар.

— Таму я папрасіў усіх пару дзён не пакідаць межаў маёнтка, — следчы дастаў з кішэні тоўсты нататнік і пачаў яго ўважліва гартаць, паказваючы, што ўсе размовы скончаны.

— Наш мажардом пакажа пану Чыку ягоны пакой, і праз гадзіну, калі ласка, на вячэру, — вымавіў Адам Кастравіцкі і павёў сябра ў гасцёўню. Следам за імі ў гасцёўню ўвайшоў следчы.

— Мы накрываем у гэтай зале, за вячэрай пан Чык перазнаёміцца з усімі, хто начаваў у маёнтку, — удакладніў гаспадар і цяжка, крыху вінавата, уздыхнуў. Мажардом старанна складаў дровы каля каміна. Следчы прайшоў праз гасцёўню і ўладкаваўся ў фатэлі ў чаканні вячэры.

— Як ваша імя? — спытаў Бруна Чык у мажардома, калі яны разам выйшлі з гасцёўні.

— Рафал Дашкевіч, — суха адказаў чорны вузкавокі мажардом.

— Пан Рафал — караім?

— Так.

— Пан жанаты?

— Мая жонка служыць пакаёўкай у пана Кастравіцкага.

— Даўно?

— Ужо шмат гадоў.

Нарэшце яны падняліся па вінтавой лесвіцы на другі паверх, і Дашкевіч адчыніў перад Бруна Чыкам дзверы ягонага пакоя.

— Я папрасіў бы пана Рафала спачатку паказаць мне пакой пана Вінцэнта.

— Па калідоры далей, трэція дзверы з левага боку. Пан сам убачыць, — змрочна прабубніў Дашкевіч і, пакланіўшыся, знік у алькежы.

Вячэралі за доўгім сталом, засланым саматканым абрусам. Адам Кастравіцкі пазнаёміў Бруна Чыка з трыма маладымі панічамі, сярод якіх ён адразу пазнаў маладога Плятара па характэрным, як і ў старога графа, вялікім носе і вузкіх нервовых вуснах, па прыкметных арыстакратычных манерах. Пані Кастравіцкая ветліва працягнула Бруна Чыку руку і папрасіла прабачэння за свой выгляд. Гаспадар прапанаваў памянуць Вінцэнта і напоўніў чаркі каньяком. Кавалеры ўсталі, следам за імі падняліся астатнія.

— Увесь жах у тым, што за гэтым сталом знаходзіцца забойца, — ціха вымавіў гаспадар.

— Адам, не варта аб гэтым думаць, я не веру, — ціха заўважыла гаспадыня.

— Гэта факт, — запярэчыў следчы.

— А я лічу, што пан следчы памыляецца і ўсё яшчэ высветліцца, — пачала спрэчку гаспадыня .

— Пасля вячэры я яшчэ раз удакладню вашы паказанні, і не пазней дванаццатай гадзіны забойца будзе арыштаваны, — следчаму хацелася скончыць спрэчку, і ён схіліўся над талеркаю.

— Пан Сокал падазрае некага з прысутных, і адзін з нас будзе арыштаваны? — не здавалася пані

Кастравіцкая.

— Так, гэта бясспрэчна, — кіўнуў следчы.

— Дык як пан следчы можа вячэраць за адным сталом з забойцам? — спытала пані Кастравіцкая.

Следчы адклаў прыбор і адсунуў талерку.

— Я прашу ў пана Сокала прабачэння, мая жонкаператамілася, — Адам Кастравіцкі паклаў далонь на жончыну руку.

— Чына, васемнаццатае стагоддзе, — адзначыў Бруна Чык і дзынкнуў срэбраным відэльцам па талерцы. — Прабачце, прафесійная хвароба.

Пакаёўка Юзэфа Дашкевіч прыбрала талеркі і прынесла дэсерт. Гаспадыня разліла гарбату і прапанавала лікёры. Студэнты падчас вячэры зрэдку перакідваліся паміж сабою кароткімі сказамі. Бруна Чык выкурыў папяросу, выпіў колькі кілішкаў сунічнага лікёру і, з дазволу гаспадара, вырашыў паглядзець бібліятэку і сямейны архіў. На калідоры яго перахапіў следчы і запрасіў да сябе ў пакой.

— Калі пану Чыку цікава, я пазнаёмлю пана з некаторымі момантамі гэтай справы. Але ўсё павінна заставацца паміж намі. Я не хацеў гаварыць пры Кастравіцкіх. Ёсць пэўныя сумненні. Па-першае: нашто забойца падпаліў Вінцэнтаў пакой? Як пан лічыць? — следчы падняў дагары ўказальны палец і даў Бруна Чыку сабрацца з думкамі.

— Каб дакладна адзначыць час злачынства, — адказаў эксперт.

— Выдатна, пан Чык! — узрадаваўся Багдан Сокал. — Каб не гэты феерверк, то мы, магчыма, не змаглі б дакладна вылічыць час злачынства, а цяпер я маю поўную хранаметрыю. Вінцэнта забілі з дзесяці трыццаці да адзінаццаці. Нехта хоча нас пераканаць, што Вінцэнт загінуў менавіта ў гэты час. Пан мяне разумее. Гэта першае, што выклікала сумненні. Таму што ўсе менавіта на адзінаццаць гадзін плюс-мінус тры хвіліны маюць алібі. Усе, апроч Рафала Дашкевіча і Казіміра Кушаля, які, дарэчы, першы заўважыў полымя і

першы знайшоў труп. Казімір Кушаль і Рафал Дашкевіч у першую чаргу выклікаюць падазрэнні. Калі ўсе зараз афіцыйна пацвердзяць свае папярэднія паказанні, мне давядзецца арыштаваць Казіміра. І я б зрабіў гэта з вялікім задавальненнем, каб... — следчы ізноў падняў дагары ўказальны палец і ледзь не шэптам спытаў: — Ці верыць пан Чык у прадчуванні?

— Відаць, не, — адказаў Бруна Чык.

— Выдатна, і я не веру ані прадчуванням, ані інтуіцыі, я аналітык, прафесійна займаўся шахматамі, вывучаў новыя модныя тэорыі фізікі. Але ў гэтай справе ёсць нешта, што мяне непакоіць. Я не знаходжу матываў. І яшчэ дзіўнае адчуванне смерці... Пан мяне разумее? — следчы нахіліўся да Бруна Чыка і зазірнуў яму ў вочы.

— Смерць гэта стан, а не адчуванне.

— А я адчуваю яе ўсім арганізмам, як жывёліна адчувае небяспеку. Смерцю патыхае ад усяго ў доме, асабліва ад гэтых так званых студэнтаў. Хочацца ўсё кінуць і хутчэй уцячы адгэтуль. Цяжка ў гэтым прызнавацца, мне даводзілася мець справу з рознай публікай, але каб на мяне так ціснула, так паралізавала волю... Нешта неверагоднае.

— Я таксама лічу, што пану не варта спяшацца і неабходна яшчэ раз пераправерыць усе паказанні.

## III

У бібліятэцы Бруна Чык пагартаў падшыўкі віленскіх і мясцовых газет, знайшоў скрынку старых лістоў Генрыка Кастравіцкага і толькі пачаў уважліва іх праглядаць, як у дзвярах заўважыў Дамініка Плятара.

— Пан Плятар жадае што-небудзь узяць пачытаць?

— Не маю звычкі чытаць нанач, чытанне — гэта праца, якая патрабуе свежай галавы.

— Прыемна чуць гэта ад маладога чалавека. Але я дазволю сабе спытаць, што цікавіць пана ў бібліятэцы?

— Я шукаю Фрыдэрыка, мы дамовіліся на пару партый у більярд.

— Як пан ведае, я прыватны эксперт. Прыехаў сюды па рэкамендацыі вашага бацькі, якога непакоіць гэтая гісторыя.

— Для экспертаў забойства — гэта гісторыя? — з'едліва пацікавіўся Дамінік Плятар.

— Давайце крыху зменім тон. У мяне да пана адно пытанне. Што прывяло вас, чатырох кавалераў, у гэты палац? Вы ж мелі магчымасць куды весялей пагуляць у Вільні.

— Свята, — адказаў Дамінік.

— Каляды? — удакладніў Бруна.

— Так, і менавіта паганскія Каляды, у гэтым увесь цымус!

— Вінцэнт вывучаў тэалогію, а на вакацыях збіраўся ладзіць паганскае свята? — Бруна зрабіў здзіўлены выгляд.

— Так, я кажу пану, што ў гэтым увесь сэнс, — павысіў тон Дамінік.

— Тады, калі можна, у двух словах, што адбылося ўчора вечарам? — Бруна механічна выцягнуў з шафы кнігу і прачытаў назву «Сады, або Мастацтва ўпрыгожваць вясковыя краявіды».

— Хіба што ў двух словах, — у роспачы вымавіў Дамінік. — Мы прыехалі ў Друзгенікі раніцай, паснедалі ў бацькі, ён набыў тут былую дачу Пілсудскага для зімовага палявання. Вінцэнт параіў, што лепей святкаваць у ягоным маёнтку. Мы прыхапілі з сабою святочныя строі каляднікаў. Развучвалі калядныя песні, цікавіліся абрадавымі гульнямі. Тут я звяртаю ўвагу пана, што свята мы рабілі для саміх сябе. І лепшага месца за гэты маёнтак немагчыма сабе ўявіць. Пана, можа, здзіўляе, чаму мы не хацелі далучыцца да якой-небудзь мястэчковай кампаніі і не пайшлі па хатах каля-

даваць? Ды таму, што мы іншым чынам ставіліся да паганства. Я спадзяюся, што з адраджэннем міфалогіі, калі вернуцца на нашую зямлю яе спрадвечныя Багі, гэта будзе нашым Рэнесансам з вялікай літары, Рэнесансам Беларускага Духу. Мы паўстанем, як вялікі народ, моцнымі, непахіснымі. Калі ў нас з'явіцца свой Бог, мы пачнём верыць сабе, і ён аб'яднае нас у маналітны кулак, — Дамінік ускінуў голаў і, змерыўшы вокам эксперта, падышоў да акна. — Цяпер для звычайных калядНікаў няма ніякай патаемнасці ў гэтым свяце. Каляды ўяўляюцца як традыцыйны абрад, пазбаўлены ідэйных, культавых і рэлігійных пачаткаў. Нашая міфалогія безнадзейна сапсавана хрысціянскімі байкамі і анекдоцікамі. Краўцы ад тэалогіі даўно перарабілі ўсе народныя святы на свой хрысціянскі капыл. — Дамінік рэзка павярнуўся і падышоў да Бруна. — Але мы навучым усіх паважаць наш народ і навучым беларуса паважаць самога сябе. Таму мяне цікавіць толькі спрадвечная форма святкавання Калядаў і толькі яе культавы змест. А танная гарэлка, вяндліна і каўбасы, ідыёцкія жарцікі і астатняе ў гэтым стылі мяне не хвалюе. Нас займае асэнсаванне зоркі і мядзведзя, казы, ваўка. Праз жывёльныя формы — да чалавека і далей, да зорак. Сувязь з космасам. — Дамінік заклаў рукі за крысо пінжака. — У гэтым я бачу адзіны шлях стварэння і існавання нашага народа, які, пан гэта добра ведае, перастаў існаваць і даўно ператвораны з аднаго боку ў акаталічанае быдла, з другога — у русіфікаванае. Мы падзеленыя, разарваныя, здаецца, паміж супрацьлеглымі рэлігіямі, а на самай справе гэта адно і тое ж хрысціянства. Гэта яно ператварыла нашы храмы ў архітэктуру, а нашых багоў у каменных баб.

Бруна Чык паставіў кнігу на паліцу і перабіў Дамініка:

— Германія і Расія даўно займаюцца міфалагіч-

нымі пошукамі, толькі з той розніцай, што немцы культывуюць старых багоў, а рускія — новых. Вас не бянтэжыць, што абедзве краіны маюць пры гэтым таталітарныя рэжымы?

Дамінік, відаць, быў падрыхтаваны да гэтага пытання, таму адразу пачаў гаварыць:

— Так, я згодны, немцы і рускія пры сваім таталітарызме займаюцца штучнай міфалагізацыяй, аднак гэтыя народы дыктуюць сваю волю ўсёй Еўропе. А рэжымы — з'ява часовая. Учора ў іх рэвалюцыя, сёння — рэстаўрацыя, а заўтра будзе кансервацыя, але пры ўсіх сваіх урадах яны захоўваліся як нацыі. А беларусы — не! Мы народ тутэйшых прыстасаванцаў! — апошнюю фразу Дамінік вымавіў экспрэсіўна і злосна.

— Давайце вернемся да пачатку нашае размовы. Што адбылося ўчора ўвечары? — спытаў Бруна Чык.

— Калі пана цікавіць толькі ход падзей, а не іх ідэйны змест, то пан нагадвае следчага. Мы ўчора крыху паспрачаліся. Размова пайшла на высокіх танах. Мы папярэджвалі следчага, і я паўтару гэта вам. Вінцэнт Кастравіцкі не ўдзельнічаў у нашай спрэчцы. Ён займаў нейтральную пазіцыю ці, хутчэй, увогуле не займаў ніякай пазіцыі. Гаворка ішла пра шляхі і сродкі адраджэння пантэона славянскіх багоў, які ў 988 годзе спалілі хрысціяне. Свята ў нас не ладзілася. За вячэраю мы доўга гаварылі і адно перабралі віна і налівак. Каля адзінаццаці гаспадар, пан Кастравіцкі, падбіў Фрыдэрыка Стральчэню згуляць у більярд. Гаспадыня першая пакінула залу і паднялася да сябе. Следам за ёю пайшоў Вінцэнт. У зале заставаліся я і Казімір Кушаль. Я параіў Казіміру апрануцца ў строі калядніків і паспяваць. Ён узяў алебарду з папяровай зоркай і пайшоў наверх.

— З алебардай? — удакладніў Бруна.

— Так, следчы яго падазрае з-за гэтай алебарды. Па дарозе Казімір сустрэў у бібліятэцы мажар-

дома. Наверсе Казімір пакінуў алебарду на калідоры і пайшоў пераапранацца, а калі праз пару хвілін выйшаў, то алебарда знікла і Вінцэнтаў пакой гарэў. Вось так. — Дамінік скончыў сваё апавяданне і расчаравана паглядзеў на Бруна, які, здавалася, зусім яго не слухаў, а ўзяў з паліцы працу французскага садавода і разглядаў лінарытныя ўклейкі.

— Дзякуй за падрабязнае тлумачэнне, — эксперт паставіў кнігу на паліцу, кіўнуў і выйшаў з бібліятэкі, прыхапіўшы скрынку з лістамі Генрыка Кастравіцкага. У зале каля каміна Бруна ўбачыў мажардома і спытаў, у якім пакоі спыніўся Фрыдэрык. Мажардом адно паціснуў плячыма і сказаў, што не ведае імёнаў маладых людзей, апроч маладога Плятара.

## IV

Фрыдэрык Стральчэня, высокі, з атлетычным торсам і хваравітым нервовым тварам у рагавых акулярах, прапанаваў Бруна Чыку прысесці на драўлянае крэсла, а сам уладкаваўся на скуранай канапе.

— Пана Фрыдэрыка чакае на партыю ў більярд Дамінік, і я пастараюся не затрымліваць пана. Таму пачну з канкрэтнага пытання. Учора загінуў ваш сябар, і я спрабую аднавіць на свежы розум падзеі мінулага вечара.

— Мы ўсе гэтым займаемся, — Фрыдэрык паправіў акуляры, — і следчы, пан Сокал, атрымаў ад мяне вычарпальную інфармацыю. Пану Чыку лепш звярнуцца да яго. Пан не прадстаўляе афіцыйную ўладу, і я маю права не адказваць на вашы пытанні, — расцягваючы словы, вымавіў Фрыдэрык.

— Так, я прыватны эксперт, і калі пана Фрыдэрыка задавальняе афіцыйнае следства, то не настойваю.

— Следчы мяне не задавальняе. Выбачайце за

маю рэзкасць. Пана Сокала не цікавіць наша спрэчка, бо Вінцэнт у ёй не ўдзельнічаў. Але я прыйшоў да высновы, што пачынаць трэба з ідэй, а не з паводзін. Следчы перакананы, што людзі падзяляюцца на злодзеяў, якія лічаць сябе сумленнымі, і на сумленных, якія лічаць сябе злодзеямі. Вінцэнт належаў да апошніх. Я яго слаба ведаў, нас пазнаёміў Дамінік тыдні тры таму, і Вінцэнт не паспеў увайсці ў нашу справу. Можа, пан Чык ведае, што я з Дамінікам вучыўся ў адным класе гімназіі. Яшчэ там, у гімназіі, мы вырашылі даказаць усім, што беларусы ва ўсякім разе не горшыя за палякаў і астатніх. Мы далі слова, што абставім усіх па ўзроўні ведаў і па фізічнай падрыхтоўцы. Улетку ездзім у вандроўку на роварах па Еўропе — Рым, Парыж, Берлін. Сталі лепшымі вучнямі. У гімназіі нам не было роўных. Разам паступілі на медыцынскі факультэт. На першым курсе да нас далучыўся Казімір. Нас аб'ядноўвае ідэя адраджэння міфалогіі як спрадвечнай рэлігіі, але мы разыходзімся ў сродках дасягнення нашае мэты. Мяне і Дамініка цікавіць непасрэдна культавы падмурак, без усялякіх бутафорска-мастацкіх экзэрсісаў. Мы згуртуем вакол нашай ідэі аднадумцаў, створым палітычны рух, пабудуем Сабор. Славяне апошнімі ў Еўропе прымалі хрысціянства, а на Палессі яшчэ дагэтуль захаваліся мясціны з моцным культам славянскіх багоў. Пярун і Вялес яшчэ жывуць на Беларусі. Ідэя адраджэння Перуна, як спрадвечнага беларускага Бога, блізкая нашаму народу і пойдзе ў народ. Мы прачнёмся і скінем хрысціянскія путы, і тады сытая Еўропа і нямытая Расія яшчэ ўзгадаюць Вялікае княства ад мора да мора. Нас будуць паважаць і трапятацца. Вітаўт і Гедымін ставілі Еўропу на калені. Голас крыві нашых продкаў павядзе Беларусь да перамогі. Але напачатку нам неабходна перамагчы саміх сябе. Гэта самая цяжкая бітва — сам-насам. І нам нельга яе прайграць, бо Беларусь даведзена да апошняй ступені і

мы стаім перад будучыняй, дзе ёсць толькі смерць на крыжы або смерць на кані з мячом у руцэ. Мы абралі апошні шлях, лепш загінуць з мячом у руцэ, чым жыць на каленях перад крыжам. А крыжакоў у свой час мы секлі.

— Пан Фрыдэрык мае на ўвазе Грунвальд, — падтрымаў размову Бруна Чык.

— Так, і не толькі Грунвальд, — усхвалявана кіўнуў Фрыдэрык і паправіў акуляры.

— Дык з-за чаго вы пасварыліся?

— Казімір Кушаль учора паведаміў, што збіраецца напісаць нашу міфалогію. Яго мэта — стварэнне нацыянальнай Святой кнігі. Свайго роду Бібліі беларуса, якую ён сам збіраецца напісаць. Гэта было ганебна слухаць. Я і Дамінік спачатку палічылі, што Казімір сказіўся. Ён на поўным сур'ёзе заявіў, што напіша ў форме навелак кнігу міфаў і паданняў. Сама ідэя такой кнігі можа быць толькі ўхвальнай. Але Казімір сцвярджае, што надасць свайму твору святарскую афарбоўку. Ён лічыць, што ягоны зборнік пойдзе ў народ як Святое пісанне. Мы запярэчылі яму. Нельга замахвацца на аўтарства святыні, яна — ад Бога. Ён смяяўся нам у твар і абяцаў, што не будзе яе падпісваць, а выдасць ананімна, як апокрыф. Мы казалі, што наяўнасць святасці, як і таленту, можна ўспрымаць толькі як звышдадзенае, і такая кніга з'явіцца толькі ад Бога, а не ў выніку разумовых і рацыянальных разлікаў. Казіміра апанавала бязмежная ягамосць, калі ён нават не збіраецца падпісваць свой твор. Ды гэта абсурд, спадзявацца на зборнік навелак з рэлігійным зместам і святымі ідэямі, калі наш народ не падрыхтаваны ўспрымаць наогул ніякія ідэі. І мастацкі твор тут можа толькі моцна напсаваць. Нельга змагацца з хрысціянствам па сутнасці тымі ж езуіцкімі сродкамі. Наша зямля нараджае нашых багоў, а не розум і не ідэі, нават калі яны па-мастацку выкананы. Мы пераконвалі Казіміра, што пачынаць трэба з адраджэння рэаль-

ных святынь, са стварэння рэальнага пантэона сапраўдных багоў, а не займацца літаратурнымі намаганнямі і пошукамі абстрактнай эстэтыкі. Вонкава прыгожыя хрысціянскія ідэі разбурылі свядомасць нашага народа, ён заняты пошукамі райскага жыцця, яго перастала цікавіць рэальнасць, і тут неабходна не ўцякаць у свет ілюзій, а, наадварот, адмаўляючы мастацкія формы, несці меч і паходню і змагацца з жыццём, каб перамагчы смерць.

Што тычыцца Вінцэнта, то ён не падтрымліваў Казіміра, але і нас таксама. Ён лічыў, што любы культ трымаецца на тэатральна-мастацкім дзеянні. Мастацтва нараджае рэлігію, рэлігія — культ, а культ пачынае адмаўляць мастацкія пачаткі. Вось гэты ланцуг і павінен быў, паводле Вінцэнтавых разваг, з'яднаць наш народ. Ён лічыў, што нам цяпер нельга сварыцца, а кожны няхай робіць сваю справу. Як пан бачыць, сварыліся мы з-за сродкаў, а мэта ў нас агульная.

Бруна Чык падняўся і, падзякаваўшы за размову, сабраўся быў пайсці, але быццам нешта ўспомніў і спытаў:

— Калі пан Фрыдэрык не стаміўся ад бясконцых допытаў, то я дазволю сабе пацікавіцца, што адбылося пасля вячэры? Як усе разыходзіліся?

— Калі ласка, але мяне даўно чакае Дамінік, таму я паўтару гэта як мага карацей, — Фрыдэрык таксама падняўся з канапы і прайшоўся па пакоі.

— Свята ў нас не ладзілася. Мы спрабавалі спяваць, але атрымоўвалася неяк па-штукарску выпакутавана. Гаспадыня, пані Ганна, пайшла да сябе. Мажардом недзе знік. У зале засталіся Адам Кастравіцкі, я, Дамінік, Вінцэнт і Казімір. Вінцэнт пайшоў ледзь не адразу за гаспадыняй. Адам Кастравіцкі прапанаваў більярд. Я пагадзіўся і пайшоў у більярдную за гаспадаром. Праз пару хвілін зайшоў Дамінік і зняў са сцяны алебарду, сказаўшы, што яны вырашылі яшчэ раз паспрабаваць

наладзіць фэст і праз дваццаць хвілін чакаюць усіх у зале. Дамінік пайшоў, і не паспелі мы скончыць першую партыю, як пачулі крык пані Ганны. Прыбеглі на другі паверх, там ужо быў Казімір. Астатняе пан ведае.

— Ці ведае пан Фрыдэрык, што следчы падазрае Казіміра?

— Так, але гэта неверагодна, Казімір не мог некага забіць. Па-першае, Казімір не здатны на гэта, а па-другое — нашто яму забіваць Вінцэнта? Яны пазнаёміліся тры тыдні таму, амаль не ведалі адзін аднаго і ніколі не былі ворагамі.

— Ці не варта ў гэтай справе пашукаць жанчыну? Магчыма, які-небудзь віленскі раман? — быццам між іншым пацікавіўся Бруна.

— Не, пан Чык памыляецца. Пан не ведаў Вінцэнта. Вінцэнт быў тэолагам. Захапляўся Кантам і, у адрозненне ад Казіміра і Дамініка, быў рафінiраваным аскетам, меў пурытанскія схільнасці. Пан Сокал закранаў гэтую тэму, але беспаспяхова. І я параю пану Чыку не паўтараць гэтую памылку.

## V

Палац Кастравіцкіх колькі разоў перабудоўваўся, але гаспадары захоўвалі знешнія аксесуары XVIII стагоддзя. Калі меркаваць па бакавых алькежах з вузкімі байніцамі і шатровымі, у раманскім стылі дахамі, то будынак, магчыма, яшчэ ў часы Вітаўта бараніў гэтую зямлю ад нашэсцяў паўдзікай жмудзі. Але дойлідства губляла абаронччы сэнс, да палаца прыляпілі вытанчаны баракальны фасад з мяккімі паўкруглымі абрызамі і паўпразрыстымі валютамі па карнізах.

За вузкаватай вітальняю і люстраным перадпакоем ішоў змрочны, задрапіраваны цьмянымі габеленамі партэр, які адначасова выконваў функцыю гасцёўні, вялікай залы і — на святы — сталовай. З высачэзнай, на два паверхі, столі звешвалася

каваная жырандоль, абсыпаная буйнымі крышталямі. Сіметрычна закладзеныя каміны кідалі прымружанае масянжовымі экранамі святло на ўсходні дыван. Прамакутны стол за чарадою крэслаў, пара ўтульных фатэляў, фісгармонія і цвёрдыя канапы па перыметры пакоя былі вытрыманы ў традыцыйным стылі Жыгімонта Вазы.

На ўзроўні другога паверха праз партэр цягнуліся падобныя да хораў антрэсолі з драўлянай балюстрадай. На першым паверсе зала разыходзілася кароткімі калідорчыкамі. Налева ішлі більярдная, кухня і пакойчык кухаркі, направа — бібліятэка, пакой Дашкевічаў і дробныя гаспадарчыя памяшканні. З більярднай і з бібліятэкі дзверы выходзілі на вінтавыя лесвіцы, што віліся па алькежах з абодвух бакоў будынка. Такім чынам, трапіць на другі паверх магчыма было або праз більярдную і далей праз левую алькежу, або праз бібліятэку і правую алькежу. Другі паверх займалі: у левым крыле — спачывальня, кабінет і імправізаваны будуар Кастравіцкіх; правае крыло прызначалася для гасцей. Адзіны доўгі калідор на другім паверсе перарываўся антрэсолямі з балюстрадаю, што выходзілі на вялікую залу.

Бруна Чыку быў прыгатаваны пакой насупраць кабінета Адама Кастравіцкага. Учарнелыя, крыху абвугленыя дзверы Вінцэнтавага пакоя знаходзіліся побач з кабінетам. З-за кароткіх ценяў ад балясін сцяна паміж Вінцэнтавым пакоем і кабінетам нагадвала сходы.

Бруна Чык выйшаў на антрэсолі і глянуў уніз. На непрыбраным стале яшчэ дагэтуль заставаўся посуд. Бруна глянуў на гадзіннік і вырашыў, што пакаёўка пані Дашкевіч, відаць, не вельмі руплівая гаспадыня. З більярднай даляцела бомканне касцяных шароў, але галасоў не было чуваць. Нарэшце Бруна Чык пачуў пругкія крокі і азірнуўся. Па калідоры спяшаўся да правай алькежы Казімір Кушаль.

— Я хацеў бы задаць пану Казіміру колькі пытанняў, — Бруна заступіў яму дарогу.

— На калідоры? — пацікавіўся Казімір і паказаў рукою на свой пакой. — Можа, пан эксперт зойдзе да мяне?

— Так будзе лепш, — пагадзіўся Бруна.

У пакоі было накурана, і малады чалавек адчыніў фортку. Па ўстойлівым араматызаваным водары Бруна адразу адзначыў, што Казімір паліць дарагі галандскі тытунь. Казімір сеў за стол і дастаў з кішэні люльку. Сярод папер і часопісаў на стале Бруна заўважыў сваю манаграфію «Уводзіны ў крышталяграфію».

— Цікавіцеся даследаваннем крышталёў? — спытаў Бруна і апусціўся ў фатэль, што зарыпеў прасохлаю скураю.

— На папулярным узроўні займаюся гісторыяй камянёў, — адказаў Казімір.

— У мяне ёсць раздзелы, прысвечаныя гісторыі буйных алмазаў.

— Так, я паглядзеў, але, на жаль, ваша праца не прадстаўляе для мяне цікавасці.

— Чаму? — сур'ёзна ссунуў бровы Бруна Чык.

— Таму што яна напісана па-нямецку.

— Хіба пан Казімір не валодае нямецкай мовай?

— Я чытаю па-нямецку, але не ў гэтым справа. Я меў на ўвазе агульны здабытак культуры. Для нямецкай культуры вы, пан Чык, выбачайце — нуль, як і для Радзімы. У тым ліку і для навукі нашай, іхняй, сусветнай, пан Чык — дробны даследчык. Навука хутка змяняецца, а творы навукоўцаў захоўваюцца з-за мовы як помнікі гісторыі і культуры. А нямецкая культура не прымае іншародцаў.

— Дзякуй за шчырае слова. Але павінен заўважыць, што немцы нават сваіх славутых суайчыннікаў не надта шануюць. Паўтара года, як з Германіі з'ехалі браты Маны, і мне здаецца, надоўга, калі не назаўсёды. — Бруна дастаў з тытунёвай скрынкі папяросу, нервова пастукаў папяровым

муштуком па гатычнай манаграме на накрыўцы і запаліў.

— Маны застануцца немцамі, дзе б яны ні жылі, пан Чык. І Германія яшчэ будзе стаяць на каленях і прасіць іх вярнуцца.

— Лёгка быць прарокам у дваццаць гадоў, — бяскрыўдна ўсміхнуўся Бруна.

— Пажывём — пабачым.

— Я займаюся забойствам і паспеў пагаварыць з Дамінікам і Фрыдэрыкам. Цяпер, калі пан нічога не мае супраць, мне хацелася б пачуць меркаванні пана адносна падзеяў мінулага вечара, — Бруна, у спадзяванні пачуць чарговае апавяданне, адкінуўся на мяккую спінку фатэля.

— Што пан мае на ўвазе?

— Вам пагражае арышт.

— Я гэта ведаю. Вы нешта хочаце мне параіць?

— Я хачу вас выслухаць і, наколькі гэта магчыма, знайсці выйсце са становішча, у якім усе апынуліся.

Казімір Кушаль выглядаў маладзейшым за Дамініка і Фрыдэрыка. Ускудлачаныя рудыя валасы густымі пасмамі закрывалі вушы і аксамітавы каўнер пінжака. Чыста паголены твар. Халодны, немігаючы позірк зеленавата-блакітных, як кітайская біруза, вачэй. Нерухомыя бяскроўныя вусны і тонкі нос ператваралі ягоны твар у мармуровую маску. Бруна са здзіўленнем адзначыў, што ён пазбягае глядзець у Казіміравы вочы.

— Я ўяўляю, якіх баек вам давялося наслухацца ад маіх сяброў. Відаць, учора я так зачапіў іх за жывое, што яны дагэтуль не размаўляюць са мною.

— Яны занятыя більярдам.

— Спартсмены і будучыя хірургі са сталёвымі нервамі і здаровай псіхікай. Але не ў тым справа. Забойцу трэба шукаць па-за межамі гэтага будынка.

— Пан Сокал сцвярджае адваротнае. Ён агледзеў парк...

Казімір не даў Бруна скончыць думку:

— Адзіны чалавек, каму ўчора пагражала смерць, гэта я. Ды і тое наўрад ці. Хіба што нейкае імгненне. А Вінцэнта ўсе любілі, у станоўчым сэнсе ён быў святы.

— Цяпер гэта гучыць парадаксальна, — заўважыў Бруна. — І давайце вернемся да вашай спрэчкі. Мяне цікавіць ваша канцэпцыя, — у пытанні прагучала іронія, але на твары Бруна захаваў зацікаўлены выгляд. Казімір адкінуў далонню валасы з ілба і схіліўся над сталом.

— Калі гэта на самай справе вас цікавіць, я апошні час займаюся міфалогіяй, у прыватнасці нашым фальклорам. І ў мяне з'явілася ідэя зрабіць літаратурную апрацоўку народных паданняў пра Перуна, Вялеса, Ярылу. Стварыць літаратурны пантэон беларускіх паганскіх багоў. З дахрысціянскіх часоў да нас дайшло шмат цікавага. Ёсць над чым папрацаваць. Але паміж вусным і літаратурным словам розніца, як паміж скульптурай і жывапісам — розныя мастацкія формы. Тое, што існавала тысячагоддзямі толькі ў вуснай форме, цяперператварыць у іншую мастацкую структуру — гэта значыць якасна змяніць. Такі твор будзе ў большай ступені належаць мне, а не народу. Аўтэнтычнага фальклору не існуе. З гэтым не хочуць пагадзіцца Дамінік і Фрыдэрык. Для іх міфалогія недатыкальная святыня, і я, у іхнім уяўленні, павінен рабіць нейкую абстрактную рэч.

Міфы — катэгорыя лагічная, гэтую выснову я зрабіў на пачатку сваіх даследаванняў. У народзе Космас з ягонымі Зямлёю і Небам, акіянамі і зоркамі, паветрам і падземным светам успрымаюцца як разумовая цэласнасць. І чалавек атаясамлівае сябе з Космасам, Прыродаю і Зямлёю. Ён адчувае сябе часцінкаю адзінай, цэльнай структуры, узаемазалежнай і ўзаемавыключальнай. Чалавек — гэта Космас, і Космас — гэта чалавек. Хрысціянства давяло гэта да фетышызму, ператварыла Кос-

мас у Бога і супрацьпаставіла яго чалавеку. Раней беларусы нараджалі сваіх багоў, а цяпер ператварыліся ў рабоў. Ды і хрысціянства ўзнікла як рэлігія рабоў і застаецца культам рабства. Праўда, у магутных вялікіх народаў дзейнічаюць іншыя законы. Вось у нашых усходніх братоў. Вам вядомыя працы так званых хрысціянскіх славянафілаў? Яны ператварылі хрысціянства ў сродак і форму ажыццяўлення каланіяльнай палітыкі. Адны пішуць пра Бога як форму ўсеагульнай еднасці, безумоўна, маючы на ўвазе, што іхні народ застанецца носьбітам базіснай мадэлі. Яны хаваюцца за трыяды Гегеля і Кузанскага і выводзяць прынцыпы еднасці, паводле якіх увесь свет павінен належаць адзінай імперыі з адзіным Богам, з адною мараллю і мовай. Або, як Дастаеўскі і Хамякоў, разважаюць на тэмы вялікай месіянскай ідэі, ізноў жа, толькі сабе пакідаюць ролю носьбіта звышідэі, і толькі яны павінны выратаваць чалавецтва. Руская праваслаўная царква на ўвесь свет. — Казімір Кушаль рэзка ўстаў з-за стала, дастаў з саквояжа пляшку віна і прапанаваў Бруна Чыку з прабачэннямі, што не мае магчымасці пачаставаць шаноўнага эксперта чым-небудзь больш далікатным.

— Міфалогія як светапогляд — сістэма сіметрычная, — працягваў размову Казімір. — Чалавечае цела і душа, паводле народных ідэй, знаходзяцца ва ўзаемазалежнай сувязі, а паводле хрысціянскай — адно з'яўляецца сродкам другога. Скажам, Зямля — адзіны ўладар нараджэння і смерці, і гэта Зямля стварае нашых багоў, а не Бог — Зямлю. У народнай міфалогіі існуе гармонія паміж чалавекам і Космасам, і няма лепшых і горшых, няма выключных і звычайных — усе роўныя перад Перуном, як перад Космасам. І не існуе Хрыста паміж Богам і чалавекам. У кожнага свой шлях да Бога, і кожны можа стварыць свайго Бога, і толькі Зямля і Неба злучаюць усіх нас.

Але пан Чык, відаць, стаміўся ад маіх развag, — нарэшце вымавіў Казімір.

— Што асабліва закранула ўчора Фрыдэрыка і Дамініка? — спытаў Бруна і дакрануўся вуснамі да чаркі.

— Хутчэй за ўсё мая прэтэнцыёзнасць. Я замахваюся на святыя рэчы ў прамым сэнсе. Збіраюся напісаць стылізаваны пад фальклор міфалагічна-паганскі запавет, свайго роду тастамент беларускага паганства.

— Гэта зайздрасць? — пацікавіўся Бруна.

— Магчыма, але наўрад ці. Хутчэй пачуццё ягамосці. Я прэтэндую на аўтарства Святога Пісання.

— Але ж твора яшчэ няма, і няма пра што гаварыць? — здзівіўся Бруна Чык.

— Таму і ёсць аб чым спрачацца. Калі з'явіцца рукапіс, яны проста скажуць, што ў мяне нічога не атрымалася ці што твор у мастацкім стылі слабы, што гэта стылізаваны плагіят і яшчэ што-небудзь у гэтым сэнсе. Як кажуць, пастфактум, і нічога не зменіш.

— Вінцэнт падтрымліваў вас ці Фрыдэрыка і Дамініка?

— Вінцэнт наогул не ўмешваўся. Яго гэта не займала. Адно перажываў, што не атрымалася Калядак.

— Вінцэнт першы пакінуў залу і падняўся наверх?

— Не, першая ўстала з-за стала пані Кастравіцкая і паскардзілася, што блага сябе адчувае, і паднялася наверх.

— Пан Казімір не заўважыў, яна заходзіла ў бібліятэку ці ў більярдную?

— Вядома, гаспадыня ходзіць праз бібліятэку, але я дакладна не памятаю.

— І следам за ёю наверх пайшоў Вінцэнт?

— Так.

— Праз бібліятэку?

— Так.

— У зале засталіся вы, Дамінік, Фрыдэрык і Адам Кастравіцкі. Што было далей?

— Гаспадар прапанаваў партыю, Фрыдэрык згадзіўся, і яны зайшлі ў більярдную. Я збіраўся быў пайсці да сябе. Ні ў кога не было настрою ладзіць свята, але Дамінік вырашыў выратаваць становішча і прапанаваў мне пераапрануцца мядзведзем, каб, нягледзячы ні на што, наладзіць свята. Мы прыхапілі з Вільні строі калядніка́ў. Яшчэ перад вячэрай Вінцэнт зрабіў калядную зорку. Дамінік прынёс алебарду. Невядома нашто, неяк аўтаматычна, я ўзяў алебарду з зоркай і пайшоў наверх. У бібліятэцы заўважыў мажардома Рафала і запрасіў яго на наш імправізаваны фэст. Наверсе мой пакой аказаўся замкнёны, я прытуліў зорку да сцяны, доўга па кішэнях шукаў ключ. І, адамкнуўшы дзверы, я пакінуў алебарду на калідоры. А калі пераапрануўся і выйшаў са свайго пакоя, то пачуў, як цягнула смуродам — гарэў Вінцэнтаў пакой, а зорка з алебардаю зніклі. Вось і ўсё, — паціснуў плячыма Казімір.

— Вы як-небудзь можаце гэта вытлумачыць? — спытаў Бруна.

— Не.

— Вы каго-небудзь сустракалі на калідоры або на сходах, калі падымаліся да сябе?

— Не, — упэўнена адказаў Казімір.

## VI

Пасля размовы з Казімірам Кушалем эксперт вырашыў яшчэ раз пагаварыць з Адамам Кастравіцкім. У кабінеце ён знайшоў следчага, які за вялікім сталом схіліўся над пратаколамі. Зашклёныя стэлажы і ампірныя крэслы надавалі кабінету афіцыйны лад. Багдан Сокал адклаў папяровую папку і паказаў Бруна Чыку на крэсла перад сталом.

— Я шукаю пана Адама, каб яшчэ раз яго рас-

пытаць. — Бруна застаўся стаяць і сунуў рукі ў кішэні.

— Сядайце, калі ласка, пан Кастравіцкі выйшаў на хвілінку з мажардомам па гаспадарчай справе.

Бруна неахвотна апусціўся ў крэсла.

— Я раніцай даў некалькі тэлеграм у Вільню і Варшаву. Зараз мне патэлефанавалі з Друзгенікаў — нічога вартага ўвагі. Яшчэ раз пераканаўся, што забойцу шукаць трэба тут.

— Пан следчы, відаць, спадзяваўся спіхнуць справу дэфензіве? — услых паразважаў Бруна.

— Не, гэта занадта моцна, я не збіраўся нікому перадаваць гэтае забойства, але неабходна было высвятліць палітычныя погляды студэнтаў. Ці не хаваліся за гэтым забойствам палітычныя матывы; але, як пан заўважыў, віленскую дэфензіву не цікавіць гэтая справа. Скажу шчыра, што ў мяне была надзея на палітычны паварот справы. Польскія ўлады з недаверам ставяцца да беларускіх арыстакратаў, таму мяне здзівіў нечакана станоўчы водгук дэфензівы. Ды і крымінальная паліцыя ў Вільні не знаходзіць нічога, за што можна было б зачапіцца. Быццам не людзі, а божыя анёлы. І не хочацца зацягваць гэтую справу, усё на першы погляд проста раскладаецца, — следчы раскрыў папку і злосна стукнуў па стосе спісанай паперы. — Усе паказанні супадаюць, ніхто нікому не пярэчыць, ніхто звонку не мог трапіць у будынак. Учора тут знаходзілася восем чалавек, з іх аднаго засеклі алебардаю, пяць — маюць алібі, двое пад падазрэннем, і цалкам, — следчы зноў злосна ляпнуў далонню па стале, — цалкам ніякіх матываў, ніхто не меў аніякіх падстаў, каб забіць Кастравіцкага. Ды як непрыемна працаваць, калі табою пагарджаюць. Слова з іх не выцягнеш.

— Давайце сыходзіць з таго, што мы дакладна ведаем, — прапанаваў Бруна Чык. — Калі адсутнічаюць знешнія відавочныя матывы, то на хвіліну мы можам прыняць версію нематываванага забой-

ства.

— Пан Чык схільны думаць, што тут дзейнічаў маньяк? — расчаравана спытаў следчы. — Усё можа быць, але гэта неяк занадта па-жаночы. Да таго ж маньякаў трэба лавіць тымі ж сродкамі, што і звычайных злачынцаў.

— Я не казаў, што мы маем справу з маньякам, я выказаў ідэю нематываванага забойства, калі першую ахвяру забіваюць дзеля таго, каб парушыць логіку следства і схаваць наступнае злачынства.

— Разумею, — пагадзіўся следчы, — але версія занадта прыгожая, каб мець права на існаванне. Пан эксперт — ідэаліст.

— Пана Сокала можа зацікавіць адзін факт, які я знайшоў у лістах Генрыка Кастравіцкага, бацькі Вінцэнта, — сумна вымавіў Бруна і перадаў следчаму скрынку з лістамі.

— Цікава, я не паспеў прагледзець архіў, — следчы рэзка выхапіў лісты і рассыпаў па стале.

— Вы знойдзеце ў іх, што ў Вінцэнтавага бацькі было пазашлюбнае дзіця, хлопчык, старэйшы за Вінцэнта.

— Значыць, у нябожчыка быў брат, — кіўнуў у адказ следчы, не адрываючы вачэй ад зжоўклых аркушаў.

— Так, і ён знаходзіцца ў маёнтку, — спакойным голасам вымавіў Бруна.

— Каго пан мае на ўвазе? — спытаў следчы.

— У лістах вы знойдзеце, што пазашлюбнае дзіця нарадзілася ад пакаёўкі-караімкі.

— Рафал Дашкевіч — пазашлюбны сын Генрыка Кастравіцкага? — ад нечаканасці следчы ледзь не падскочыў над сталом. — Так, гэта можа істотна паўплываць на справу, пан эксперт, — супакоена дадаў следчы.

На апошніх словах следчага ў пакой увайшоў Адам Кастравіцкі, і следчы адразу сустрэў яго пытаннем:

— Ці ведае пан Адам, што ягоны мажардом Рафал у нейкім сэнсе з’яўляецца сынам Генрыка Кастравіцкага?

— Так. Рафал мой пляменнік і гаспадаркай у маёнтку займаецца па сваім уласным жаданні, — неахвотна адказаў Кастравіцкі.

— Чаму мяне адразу не папярэдзілі, што мажардом — панскі сваяк? — зазлаваў следчы.

— Пан не пытаўся, — пацiснуў плячыма гаспадар.

— Ён можа прэтэндаваць на частку спадчыны? — у лоб спытаў следчы.

— Генрык яго цалкам забяспечыў, Рафал нават за сваю службу ў маёнтку не бярэ грошай, — пачаў тлумачыць Кастравіцкі.

— Пан не адказаў на маё пытанне, — настойваў следчы.

— Я не юрыст, але вядома, што Рафалу належыць частка зямлі і ён мае права на нейкую частку Генрыкавай спадчыны. Адно я ведаю дакладна, — што пан следчы памыляецца і робіць захады не з таго боку. Рафал любіў Вінцэнта як малодшага брата.

— Прабачце, што ўмешваюся ў размову, але я маю адно пытанне да пана Адама, — Бруна ўстаў і абапёрся на высокую спінку крэсла. — Ты не заўважыў, з більярднай хлопцы ўзялі толькі алебарду? Ці не знікла са зброі яшчэ што-небудзь?

Кастравіцкі на імгненне задумаўся і правёў далонню па стомленым твары:

— Магчыма. Мне здаецца, я не бачыў паляўнічага нажа. Дакладна не скажу, бо не звяртаў увагі. Ды гэта лёгка высветліць, мы можам спусціцца ўніз, і я пагляджу, што засталося на сцяне.

Следчага таксама зацікавіла пытанне эксперта, і яны ўтрох скіраваліся ў більярдную.

Фрыдэрык і Дамінік крыху збянтэжана перапынілі гульню.

— Зайздрошчу моладзі — у доме нябожчык,

а яны забаўляюцца, — скептычна сказаў следчы.

Уважліва агледзеўшы калекцыю зброі, што аздабляла сцяну, Адам Кастравіцкі падышоў да Бруна Чыка і спалохана зашаптаў:

— Знік паляўнічы нож.

— Што? — умяшаўся следчы.

— Я не знаходжу паляўнічага нажа, — уголас вымавіў Кастравіцкі.

— Пан Чык лічыць, што гэта мае дачыненне да забойства? — спытаў следчы.

— Так, але вытлумачыць гэта я змагу пазней, мне неабходна ўдакладніць некаторыя дэталі, — адказаў Бруна і выйшаў з більярднай у залу. Ён спыніўся пасярод гасцёўні і нейкі час разглядаў антрэсоль, потым падышоў да фісгармоніі і адгарнуў рог цяжкага дывана. На бурштынавым паркеце бялела, быццам шнар, доўгая свежая драпіна. У більярднай стрэлілі кійком і глуха загрукаталі шары. Бруна Чык пасунуў на месца дыван і праз бібліятэку трапіў у квадратны прадпакойчык, які выходзіў у левую алькежу. Бруна пастукаў у вузкія філянговыя дзверы, што ішлі адразу за бібліятэкай, і апынуўся ў Дашкевічаў. Мажардом і пакаёўка займалі два невялікія пакойчыкі.

— Мне неабходна пагаварыць з панам Рафалам, — растлумачыў Бруна пакаёўцы Юзэфе.

— Рафал недзе наверсе, відаць, у кабінеце пана Адама размаўляе са следчым, — адказала Юзэфа і правяла далонню па буфетнай паліцы, быццам выцірала нябачны пыл.

Па-скандынаўску прыгожая, статная, блакітнавокая маладзіца цалкам не адпавядала невысокаму караіму.

— Пані Юзэфа каталічка? — спытаў Бруна, заўважыўшы на шыі пакаёўкі залаты ланцужок з тонкім крыжыкам.

— Так. Відаць, пан хоча даведацца, ці венчаныя мы. Рафал, як усе караімы, — іудзей, і нас не павянчалі ў касцёле. Але хіба гэта істотна для пана экс-

перта?

— Прашу прабачэння ў пані Юзэфы. Я сам не ведаю, што істотнае, а што неістотнае ў гэтай справе, — адказаў Бруна і паглядзеў на гадзіннік.

— Пайду пашукаю Рафала наверсе, — у заключэнне вымавіў эксперт і, быццам нешта ўспомніўшы, спытаў: — Учора пасля вячэры пані Юзэфа была ў спачывальні гаспадыні: ці не ўдакладніце, чым вы займаліся?

— Я сказала следчаму, што пані Кастравіцкая папрасіла ёй паваражыць. Я хутка прыбрала посуд і, прыхапіўшы карты, паднялася ў спачывальню. Усе жанчыны варожаць на Каляды. Мы не паспелі раскласці першы пасьянс, як пані Кастравіцкая адчула смурод.

— Пані сустракала каго-небудзь на калідорах?

— Не.

— Пані не заўважыла, калі знік паляўнічы нож са сцяны ў більярднай?

— Здаецца, учора ўвечары. Дакладна не скажу, але сёння раніцою я выпадкова заўважыла, што яго няма на месцы. — Юзэфа Дашкевіч змоўкла і глянула на дзверы. У пакой зайшоў мажардом і кінуў змрочны позірк на Бруна Чыка.

— Я чакаю пана Рафала, — не зважаючы на непрыхаваную агрэсіўнасць эканома, вымавіў Бруна.

— Што пану трэба?

— Я хачу ведаць, чым вы займаліся ўчора пасля вячэры?

— Я пераказваў следчаму разы чатыры адно і тое ж, з мяне дастаткова, — злосна адказаў Рафал.

— Гэта непрыемна, але неабходна, ды я не следчы, а эксперт.

— Не бачу прынцыповай розніцы.

— Я займаюся гэтай справаю па асабістай просьбе пана Адама Кастравіцкага, які не надта давярае афіцыйным уладам.

— І добра робіць, што не давярае, хіба гэтым

ідыётам можна верыць? — мажардом правёў далонню па чорных, што антрацыт, валасах.

— Учора я дапамог Юзэфе прыбраць посуд і пайшоў рыхтаваць пакоі для Вінцэнта і астатніх. Гэта заняло не шмат часу. Калі я скончыў і выйшаў на антрэсолі, то заўважыў, што Вінцэнта ў гасцёўні не было. Мне захацелася пагаварыць з ім, мы паўгода не бачыліся. Я вырашыў, што сустрэну яго ў алькежы, і спусціўся ўніз, не зазірнуўшы ў ягоны пакой.

У бібліятэцы я зразумеў, што памыліўся і Вінцук ужо наверсе, але покуль я ў разгубленасці стаяў, у бібліятэку з алебардай у руцэ зайшоў Казімір. Ён запрасіў мяне пайсці разам з імі пакалядаваць. Я адмовіўся і вырашыў чакаць Вінцэнта ў бібліятэцы. Праз пяць хвілін наверсе залямантавала гаспадыня, і ў бібліятэку з гасцёўні прыбег Дамінік. Наверсе мы ўбачылі перапалоханага Казіміра.

— Пан Рафал каго-небудзь падазрае?

Мажардом не адказваў і зацята маўчаў. Бруна вырашыў выцягнуць паўзу і ў чаканні адказу ўважліва разглядаў круглы твар эканома. Юзэфа разгублена правяла далонню па буфетнай паліцы. Бруна Чык вырашыў нарэшце развітацца з Дашкевічамі, як у пакой нахабна ўваліўся Багдан Сокал.

— Дзе Казімір Кушаль? — выбухнуў следчы.

— Што здарылася, пан Сокал? — спытаў Бруна.

— Не магу знайсці Казіміра, і з шафы ў кабінеце знікла алебарда, пся крэў! — па-польску вылаяўся следчы. — Хто і калі бачыў Казіміра апошні раз? — следчы ўчэпістым позіркам абвёў усіх прысутных.

— Я гаварыў з Казімірам гадзіны паўтары таму ў ягоным пакоі, — спакойна адказаў Бруна Чык.

Рафал не адказваў следчаму.

— Неабходна абысці ўвесь будынак, пачынаючы з гарышча і да скляпенняў, — загадаў Сокал і рашуча рушыў з пакоя.

У гасцёўні Бруна глянуў у акно. У цемры густа

сыпаў снег. Цяжкія сняжынкі таўкліся ў шыбу. Следчы зноў вылаяўся і, ні да кога не звяртаючыся, паразважаў уголас:

— Няўжо гэта Казімір? У такім разе ўсё робіцца зразумелым. Ён у прадчуванні арышту ўцёк і пацвердзіў усе нашыя падазрэнні. Калі на самай справе ён уцёк, то гэтага дастаткова, каб абвінаваціць яго ў забойстве.

Пошукі Казіміра Кушаля занялі гадзіны паўтары. У склепе пан Кастравіцкі пачаў частаваць вінам і следчы памягчэў. Нават пачаў скардзіцца на благія прадчуванні. І што ад гэтай справы чакае ліхога. Ён расшпіліў чорны фрэнч і са збанком у руцэ прысеў на шырокую лаву.

— Я ніколі не хацеў займацца палітыкай, таму вось ужо ў гадах, а застаўся звычайным следчым. Кар'еру цяпер усе робяць на палітыцы. Моладзь спрытная пайшла. Не паспеюць справу пачаць, як ужо вышукваюць, хто ў якой партыі, якія кнігі чытае, якіх поглядаў прытрымліваецца. А я дык ведаю дакладна, што чалавек ідзе на злачынства альбо з-за грошай ці іншага матэрыяльнага інтарэсу, — следчы пачаў загінаць пальцы, — альбо з-за жанчыны — рэўнасць і гэтак далей; альбо з-за помсты — тут шмат варыянтаў.

— Пан Сокал не ўлічвае злачынства з-за ідэі, — Бруна Чык дапіў віно і паставіў збанок на паліцу.

— Можа, яшчэ пакаштуеш выдатны пяцігадовы партвейн? — прапанаваў гаспадар, але Бруна адмовіўся і пакруціў галавою.

— А вось тут я не згодны. Забойства з-за ідэі ці палітычных матываў у сваёй аснове ўсё роўна абапіраецца на матэрыяльныя інтарэсы. Гэта можа тычыцца не асабіста забойцы, але ягоная ідэя ўскосным чынам абавязкова прывязана да матэрыяльнага свету, — следчы ўстаў і зашпіліўся.

— Пан Сокал лічыць, што любую ідэю можна вытлумачыць матэрыяльным інтарэсам?

— Так, безумоўна. І калі б я не быў у гэтым пера-

кананы, то кінуў бы службу і падаўся ў святары.

— Цікава, як пан вытлумачыць ідэю адраджэння нацыянальнай рэлігіі з меркантыльнага боку?

— Дарма пан Чык наслухаўся гэтый лухты ад студэнтаў. Гэта не тычыцца справы.

Студэнты не бралі ўдзел у пошуках. Фрыдэрык і Дамінік засталіся чакаць у гасцёўні. Следчы Багдан Сокал, а за ім пан Чык і гаспадар з мажардомам педантычна агледзелі ўвесь будынак, нават спачывальню пані Кастравіцкай, і скончылі Казіміравым пакоем. Следчы неахвотна сагнуўся і зазірнуў пад ложак.

— Пся крэў! — ён памацаў пад ложкам рукою і выцягнуў крыху ўчарнелую алебарду. — Гэтай алебардаю быў забіты Вінцэнт, але як яна патрапіла ў Казіміраў пакой?

Пан Кастравіцкі разгублена паціснуў плячыма. Мажардом, унурыўшы голаў, узяў кароценькую качаргу і паварушыў жар у грубцы. Бруна Чык падышоў да акна і падняў шыбу. Буйныя сняжынкі пакаціліся па шырокім падаконніку і пасыпаліся на дыван.

— Ці не Казімір там? — не паспеў вымавіць Бруна, як следчы рвануўся да акна. Каля падмурка на белай паверхні выгінаўся ледзь заўважны сумёт.

— Ты выпускаў сабак? — спытаў пан Кастравіцкі мажардома.

— Не, сёння пашкадаваў, занадта холадна.

З вокнаў бібліятэкі на бухматы, што маладзенькая аўчына, снег падала электрычнае святло. Ад падмурка ў бок парку цягнуўся пляскаты сумёт. Следчы з ліхтаром у руцэ адвярнуў мыском чаравіка стужку снегу пасярэдзіне выцягнутага грудка і папрасіў пана Чыка патрымаць ліхтар. Казіміраў труп быў прысыпаны снегам. Следчы перавярнуў Казіміра тварам дагары і выцягнуў з грудзей шырокае лязо паляўнічага нажа.

— Гэты нож знік з більярднай? — ён павярнуўся

да Адама Кастравіцкага.

— Так.

Нябожчыка перанеслі ў зашклёную аранжарэю, дзе ўжо ў глыбокай прамакутнай труне ляжаў Вінцэнт Кастравіцкі. У Друзгеніцкім касцёле была замоўлена імша. Пахаванне прызначана на панядзелак. Казіміра Кушаля паклалі на шырокую лаву.

## VII

Усе сабраліся ў вялікай зале. Покуль Богдан Сокал тэлефанаваў у Друзгенікі і Вільню, Юзэфа заслала стол абрусам і паставіла чаркі. Адам Кастравіцкі папрасіў Дашкевіча прынесці каньяк і чырвонае віно. Гаспадыня хуталася ў турэцкі цёплы шаль, седзячы ў скураным фатэлі, каля яе ног леглі два флегматычныя добэрманы. Фрыдэрык і Дамінік селі за стол насупраць Кастравіцкага. Рафал Дашкевіч займаўся камінамі — то варушыў жар, то падкідаў сухія бярозавыя паленцы. Бруна Чык узяў са стала чарку і ўладкаваўся на крэсле каля каміна. Следчы паклікаў з кухні Юзэфу і сеў паміж Кастравіцкім і Дамінікам.

— Казіміра Кушаля забілі паляўнічым нажом прыблізна ў адзінаццаць гадзін, магчыма, крыху раней. Казіміра ўдарылі ў грудзі нажом у ягоным пакоі і, відавочна, выкінулі праз акно на двор.

— Я папрашу пана Сокала пакінуць усе анатамічныя развагі, — перапыніла следчага Ганна Кастравіцкая.

— Калі ласка, перайду адразу да сутнасці справы. Мяне цікавіць, хто чым займаўся ў адзінаццаць гадзін і дзе знаходзіўся ў гэты час. Пачну з сябе. Пасля вячэры я займаўся афармленнем афіцыйных папер па выніках папярэдняга расследавання. Прызнаюся, што сур'ёзныя падазрэнні выклікалі ўчарашнія паводзіны Казіміра і ў мяне былі ўсе падставы для арышту, але, на жаль, я спазніўся.

Горка пра гэта думаць. На мне ў нейкай ступені ляжыць віна перад нябожчыкам. Арышт выратаваў бы яго ад рукі забойцы. Парадокс: я не паспеў запоўніць пратаколы, — следчы вытрымаў паўзу і выпіў каньяк. Адам Кастравіцкі напоўніў чаркі.

— З ласкі пана Кастравіцкага я працаваў у ягоным кабінеце на другім паверсе. З дзевяці гадзін мне ўдалося пагаварыць спачатку з Рафалам Дашкевічам, затым па чарзе я выклікаў для размовы Дамініка Плятара, Фрыдэрыка Стральчэню. За імі ў кабінеце былі пан Кастравіцкі і пан Чык.

Прыблізна а адзінаццатай мы ўтрох спусціліся ў більярдную і заўважылі знікненне паляўнічага нажа. Узнікла неабходнасць у яшчэ адным допыце Казіміра Кушаля. Яго не было ў сваім пакоі. Покуль мы былі ў більярднай, з шафы ў кабінеце знікла алебарда. Я абышоў усе пакоі другога паверха — Казіміра нідзе не было. А палове дванаццатай мы пачалі пошукі, вынікі якіх усе ведаюць. Цяпер, я лічу, неабходна па чарзе кожнаму выказаць свае меркаванні і ўдакладніць, дзе ён знаходзіўся з паловы адзінаццатай да адзінаццаці і чым займаўся на працягу гэтага часу. Магчыма, у некага ўзнікнуць пярэчанні, і таму прашу ўважліва паслухаць адзін аднаго, — следчы пакруціў галавою і абвёў доўгім поглядам усіх прысутных. Нікому не хацелася гаварыць, і следчы сам пачаў допыт.

— Казімір застаўся ў сваім пакоі, калі пан Чык выйшаў ад яго на калідор?

— Так.

— Пан каго-небудзь заўважыў на калідоры?

— Так. Рафала Дашкевіча.

— Пан Чык адразу зайшоў да мяне ў кабінет?

— Не, я ўзяў лісты Генрыка Кастравіцкага ў сваім пакоі і праз хвіліну быў у кабінеце. — Бруна Чык выцягнуў ногі і ўпёрся абцасамі лакіраваных чаравікаў у экран каміна. Следчы занатоўваў адказы.

— Калі другі раз вы апынуліся на калідоры, вы

ўбачылі каго-небудзь?

— Не, на калідоры нікога не было.

— Значыць, Казімір заставаўся ў сваім пакоі?

— Магчыма.

— Гэта было прыблізна ў дзесяць трыццаць?

— Так.

— Хто-небудзь з прысутных бачыў Казіміра Кушаля пасля дзесяці трыццаці? — следчы па чарзе абвёў усіх пільным позіркам.

Ніхто не адказваў, і следчы зноў вярнуўся да Бруна Чыка:

— Колькі часу забрала ў пана размова з Казімірам?

— Хвілін сорак.

— Аб чым ішла гаворка?

— Казімір падзяліўся са мною сваімі творчымі планамі і ў некалькіх словах апісаў учарашнія падзеі.

— Ён каго-небудзь падазраваў, што-небудзь выклікала ў яго падазрэнні?

— Я ўстрымаюся ад адказу на гэтае пытанне, — неахвотна вымавіў Бруна, і следчы выпаліў наступнае пытанне:

— Казімір некага баяўся? Ён адчуваў пагрозу ці ведаў, што нехта яму пагражае?

— Калі ўсур'ёз, не.

— Удакладніце, калі ласка, вашую думку.

— Пазней, калі пан следчы дазволіць, я выкажу свае развагі крыху пазней. — Бруна Чык зняў ногі з масянжовага экрана і пераставіў крэсла бліжэй да каміна.

— Пан Чык ведае імя забойцы? — спытала пані Кастравіцкая, пераводзячы позірк то на Бруна Чыка, то на следчага.

— Пэўна, не, — кіўнуў Бруна.

Следчы здагадаўся, што не варта спяшацца і прымушаць Бруна Чыка выказвацца.

— Дазвольце мне весці допыт, — Багдан Сокал крыху павысіў голас і перапыніў наступныя

пытанні Ганны Кастравіцкай.

— Дарэчы, дзе ў адзінаццаць гадзін знаходзілася пані Ганна?

Гаспадыня ўцягнула шыю ў пуховы шаль і з абурэннем паглядзела на мужа, што сядзеў, схіліўшы галаў, побач са следчым.

— У маёй спачывальні, вядома. Пасля вячэры я не выходзіла на калідор і нават не глядзела на гадзіннік.

— Папрашу пана Кастравіцкага адказаць на гэтае пытанне, — следчы застрачыў самапіскай у нататніку.

— Пан Сокал ведае, што з кабінета я выйшаў разам з мажардомам. Мы вырашалі невялікую справу па гаспадарцы, і я пайшоў да пані Ганны, якая прасіла, каб я ўголас пачытаў ёй. Пані Ганна цяжка перажывае Вінцэнтаву смерць. Да адзінаццаці мы гаварылі, і я вярнуўся ў кабінет па томік Міцкевіча. Потым з панам Сокалам заходзіў у більярдную і зноў падняўся да пані Ганны.

— Пан каго-небудзь сустракаў на калідоры па дарозе са спачавальні ў кабінет?

— Не, хіба што Рафала, ён параіўся са мною, ці выпускаць сабак на двор.

— Калі пан Кастравіцкі апошні раз бачыў Казіміра?

— За вячэраю, — Кастравіцкі разгублена паціснуў плячыма. Следчы павярнуўся да Рафала Дашкевіча, што доўгімі абцугамі мяшаў у каміне попел.

— Што пан Дашкевіч рабіў на другім паверсе ў дзесяць трыццаць?

— Хацеў пагаварыць з панам Адамам.

— Вы чакалі гаспадара на калідоры?

— Так. — Рафал павесіў абцугі на паліцу.

— Чаму ж не зайшлі да яго?

— З-за дробязі не хацелася турбаваць.

— Пан Рафал бачыў, як Бруна Чык выходзіў з Казіміравага пакоя?

— Так.

— Што пан Рафал рабіў пасля гэтага?

— Пайшоў да сябе. Потым вырашыў паглядзець грубкі на другім паверсе. Вярнуўся і абышоў усе пакоі для гасцей.

— Вы заходзілі да Казіміра?

— Так, але ў пакоі нікога не было.

— Вы бачылі каго-небудзь у пакоях ці на калідоры ў гэты час?

— Не, наверсе нікога не было. Да гаспадароў я не заходзіў. Потым убачыў пана Адама і спытаў пра сабак.

— Калі пан Рафал вырашыў вярнуцца наверх? — Следчы адарваўся ад нататніка і паглядзеў на Дашкевіча, што ўсё стаяў побач з камінам.

— У алькежы.

— Якой алькежы — правай ці левай? — спытаў мажардома Бруна Чык.

— У левай: я думаў ісці праз більярдную.

Бруна Чык папрасіў у следчага прабачэння, што ўмяшаўся ў размову, і Багдан Сокал прадоўжыў допыт Рафала Дашкевіча.

— Вы пачалі глядзець грубкі з Казіміравага пакоя?

— Не, з пакоя пана Чыка.

— Праз колькі хвілін вы зайшлі да Казіміра?

— Хвілін праз дзесяць.

— У пакоі нікога не было?

— Так.

Следчы павярнуўся да студэнтаў, што не вельмі ўважліва прыслухоўваліся да размовы. Дамінік гартаў на каленях часопіс «Калосьсе», які ледзь не на пачатку допытаў выцягнуў з кішэні пінжака. Фрыдэрык пускаў у столь струмені тытунёвага дыму і час ад часу нахіляўся да Дамініка, каб зазірнуць у разгорнуты часопіс.

— Што скажуць панічы студэнты?

— Мы гулялі ў більярд, на другі паверх не падымаліся, — за абодвух адказаў Фрыдэрык.

— Да адзінаццатай гадзіны хто-небудзь з вас

пакідаў більярдную?

— Так, — Дамінік адарваўся ад часопіса і паказаў у бок пакаёўкі Юзэфы, што сядзела на крэсле побач з Рафалам, склаўшы перад сабою рукі ў чаканні сваёй чаргі. — Пані Юзэфа можа пацвердзіць, што на хвіліну я заходзіў у бібліятэку. Пані Юзэфа ў гэты час прыбірала посуд у гасцёўні.

— Калі гэта было? — следчы павярнуўся да Дамініка.

— Прыблізна за дваццаць хвілін да таго, як вы разам з гаспадаром і панам Чыкам завіталі ў більярдную і разглядалі калекцыю зброі.

— Пан Фрыдэрык адзін застаўся ў більярднай?

— Так, але не болей дзвюх хвілін. Дамінік узяў з бібліятэкі нямецкую энцыклапедыю і вярнуўся ў більярдную.

Следчы запісаў адказы Фрыдэрыка і Дамініка і звярнуўся да пакаёўкі.

— Што рабіла пані Юзэфа з дзесяці трыццаці да адзінаццаці?

— Прыбірала са стала ў гасцёўні і мыла посуд, — пакаёўка паклала рукі на калені, але не паднялася і адказвала седзячы.

— Пані Юзэфа бачыла, як Дамінік Плятар з більярднай праз гасцёўню заходзіў у бібліятэку?

— Так, я складала абрус.

— Пані бачыла, як ён вяртаўся?

— Так, я склала абрус і выходзіла на кухню. На калідоры азірнулася — пан Дамінік грукнуў дзвярыма ў бібліятэцы і праз залу скіраваўся да більярднай.

## VIII

Следчы падняўся з-за стала і нетаропка, шырокімі крокамі пачаў прахаджвацца па зале.

— На сёння дастаткова, з раніцы кожны падпіша свае паказанні на афіцыйным бланку, але цяпер я дазволю сабе яшчэ на колькі хвілін затры-

маць усіх, каб зрабіць тое, што я, на жаль, не паспеў выканаць раней. Я збіраюся арыштаваць па падазрэнні ў забойстве Казіміра Кушаля аднаго з прысутных. Я не абмовіўся. Менавіта за аднаго Казіміра Кушаля, таму што Вінцэнта Каставіцкага забіў іншы чалавек, і я таксама ведаю ягонае імя. На гэты раз я не збіраюся адкладаць арышт, бо ўсё адносна відавочна. — Следчы спыніўся каля дзвярэй і, сашчапіўшы пальцы на жываце, узняў падбароддзе і выклаў сваю версію:

— Учора дзве асобы не мелі пэўнага алібі. У такіх выпадках амаль ніхто не мае пэўнага алібі, але два чалавекі — Кушаль і Рафал Дашкевіч — выклікалі ў мяне падазрэнне. Гаспадыня, пані Каставіцкая, у сваёй спачывальні варажыла з пакаёўкай, Фрыдэрык з гаспадаром гулялі ў більярд, Рафал знаходзіўся ў бібліятэцы, Дамінік быў у зале, але на другі паверх можна трапіць толькі праз адну з алькежаў, а для гэтага неабходна прайсці або праз більярдную, або праз бібліятэку. Такім чынам, і Дамінік Плятар быў выключаны з ліку тых, хто меў магчымасць здзейсніць забойства. Гэта значыць, што забіць Вінцэнта маглі або Рафал, або Казімір, які занёс алебарду на другі паверх. Відавочны факт. Зброя была ў Казіміра, і толькі ён меў магчымасць забіць Вінцэнта. Але я не знаходзіў матываў, нашто Казіміру ісці на гэтае злачынства. Вось гэтае пытанне не дазваляла мне канчаткова вырашыць гэтую задачу і зрабіць цалкам лагічную выснову, што менавіта Казімір Кушаль з'яўляецца злачынцам. Я зрабіў недаравальную памылку — адклаў на дзень арышт Казіміра — і спазніўся. Казімір ператварыўся ў ахвяру наступнага, не менш жудаснага злачынства. — Следчы дастаў з кішэні хустачку і выцер кропелькі вільгаці, што заблішчалі на пачырванелым ад стомы твары.

— Цяпер вернемся да сённяшніх падзей. Амаль ніхто на момант злачынства не мае алібі, апроч

хіба што Дамініка і Фрыдэрыка, ніхто. Узнікае шмат версіяў і падазрэнняў. Напрыклад, што Казімір бачыў забойцу — не прызнаўся і быў забіты, як небяспечны сведка. Але што ў такім разе прымусіла Казіміра замоўчваць імя злачынца? Калі гэта быў Рафал Дашкевіч, то наўрад Казімір меў падставы, каб не прызнацца ў гэтым і прыкрываць Рафала. Казімір раней не быў знаёмы з Дашкевічам і ў змову з малавядомым яму чалавекам не ўступіў бы. Гэта нерэальна. Напрошваецца выснова, што менавіта Казімір Кушаль забіў Вінцэнта, і гэта мог выпадкова ўбачыць Рафал ці тым жа шляхам, што і я, прыйсці да гэтай думкі. Усе, апроч студэнтаў, ведаюць, што Вінцэнт даводзіўся зводным братам Рафалу Дашкевічу, і я схіляюся да пэўнай думкі, ці не з'яўляецца помста за брата падставаю для матываў злачынства... — Следчы падышоў да скамянелага Рафала і зашчоўкнуў тонкія сталёвыя бранзалеты кайданкоў на сціснутых у кулак руках караіма, які не вымавіў ні гуку і ўтаропіў цяжкі позірк у падлогу. Следчы з інтанацыяй педагога звярнуўся да ўзбуджанных слухачоў:

— Рафал здагадаўся, што брата забіў Казімір Кушаль, і, падпільнаваўшы момант, адпомсціў Казіміру, скарыстаўшы паляўнічы нож.

— Па-першае, нашто Казіміру было падпальваць Вінцэнтаў пакой? І па-другое, хто ўзяў алебарду з шафы ў кабінеце і кінуў пад Казіміраў ложак? — Бруна Чык на адным дыханні выпаліў пытанні і адкінуў далонню з ілба пасму сівых валасоў. — Алебарду ўзяў мажардом, — сам адказаў Бруна і звярнуўся да акрыяўшага Рафала: — Гэта вы зрабілі?

— Я, — кінуў Рафал.

— Пан Сокал дакладна вытлумачыў паводзіны Рафала. На самай справе мажардом вырашыў адпомсціць Казіміру за забойства Вінцэнта і ўзяў з шафы алебарду, каб ёю нанесці ўдар, але Казіміра ў ягоным пакоі не было. Рафал, не дачакаўшыся

ахвяры, кінуў алебарду пад ложак і пайшоў да сябе. Ці, можа, я памыляюся, і пан Рафал, нарэшце, сам вытлумачыць свае паводзіны?

— Так, алебарду ўзяў я, але Казіміра ў пакоі не было, — Рафал Дашкевіч скорагаворкаю забубніў сабе пад нос. — Я вырашыў, што заб'ю гада, бо гэта ён Вінака... Я здагадаўся і хацеў адпомсціць, ды не паспеў. Нехта апярэдзіў мяне.

Бруна Чык не даў выгаварыцца ўзведзенаму Рафалу.

— Ці на свае вочы бачыў пан Дашкевіч, як Казімір заходзіў у Вінцэнтаў пакой?

— Не. Але хто ж яшчэ, калі не ён? Наверсе адныя жанчыны былі, а ўнізе пан Адам з Фрыдэрыкам у більярднай, я ў бібліятэцы, з залы ніяк не трапіш наверх, апроч як праз більярдную ці бібліятэку. А болей у доме нікога не было, хіба што прывід пана Генрыка.

Нечакана Бруна Чык спрытна падхапіўся з крэсла і выйшаў на сярэдзіну пакоя. Усе з цікавасцю назіралі за ягонымі рэзкімі рухамі. Каля стала ён спыніўся і ўзняў руку, паказваючы на балюстраду антрэсолі, што цягнулася праз залу і з'яўлялася часткаю калідора другога паверха. Да балясін было метры тры з паловай.

— На другі паверх можна трапіць праз антрэсолі! — задаволена вымавіў Бруна Чык і павярнуўся да збялелага Дамініка Плятара.

— Можа, пан эксперт прадэманструе, як гэта ў яго атрымаецца? — Плятар скрывіў вусны ў іранічнай усмешцы.

— Калі ласка, але спачатку спытаю гаспадароў, калі апошні раз у доме вашчылі паркет?

— Перад святам, дні тры таму, — адказала за разгубленую гаспадыню пакаёўка.

Бруна Чык папрасіў следчага саступіць на паркет і адвярнуў рог дывана, што ўпінаўся ў фісгармонію. Следчы з сур'ёзным выглядам памацаў шырокую драпіну на бліскучым навошчаным пар-

кеце. Дамінік застаўся сядзець, а Фрыдэрык і Адам Кастравіцкі падышлі да Бруна Чыка, які зноў паказаў на антрэсолі.

— Так да балясін немагчыма дацягнуцца, нават калі падскочыш ці станеш на крэсла, то наўрад ці схопіш рукою карніз. Але дастаткова на метр пасунуць фісгармонію (гэта было зроблена ўчора, бо засталася свежая драпіна пад дываном) і выкарыстаць інструмент у якасці прыступак, як адкрываецца яшчэ адзін шлях на калідор другога паверха. Маладому, спрытнаму чалавеку няцяжка падцягнуцца на балясінах і пераскочыць на той бок балюстрады. З гэтага вынікае, што ўчора на другі паверх такім чынам трапіў і затым спусціўся чалавек, які не хацеў карыстацца звычайнымі сходамі і спадзяваўся застацца незаўважаным. Паводзіны такога кшталту належаць злачынцу.

Дамінік Плятар, які дагэтуль быццам не слухаў Бруна Чыка, а разглядаў дробныя кветкі на вышываным абрусе, нарэшце адарваў позірк ад стала і спадылба глянуў на следчага. Багдан Сокал з крыху скептычным выглядам сачыў за экспертам.

— Не варта цяпер соваць фісгармонію, гэта і так відавочна, — выкладаў свае развагі Бруна Чык, — таму я перайду да другога забойства. Пан Сокал дакладна высветліў, хто дзе знаходзіўся ў момант забойства Казіміра Кушаля. Я дазволю сабе паўтарыць, што Рафал Дашкевіч чакаў з алебардаю ў Казіміравым пакоі, каб здзейсніць свой намер і пакараць забойцу. Але давайце на хвіліну ўявім сабе, што гэтак усё і было. У нас атрымліваецца іншы расклад, з якога вынікаюць супрацьлеглыя высновы. Казіміра ў дзесяць трыццаць не было ў ягоным пакоі, і Рафал Дашкевіч не сустрэў яго на калідоры. Значыць, крыху раней Казімір пайшоў у іншае месца. Калі гадзіны каля дзевятай я спаткаў Казіміра, то ён збіраўся спусціцца ў бібліятэку. Тут варта адзначыць яшчэ адну істотную акалічнасць — Казіміраў пакой знаходзіцца якраз

над бібліятэкай, таму не цяжка здагадацца, што, магчыма, Казімір быў забіты не ў сваім пакоі, а паверхам ніжэй, і, адпаведна, труп выкінулі праз вакно ў бібліятэцы, а не, як лічыць пан Сокал, з Казіміравага пакоя. Такім чынам, я звяртаю ўвагу пана Сокала на іншую арганізацыю фактаў, з якой вынікае, што забойцу трэба шукаць не на другім паверсе, а на першым. Такім мне ўяўляецца ход падзеяў.

І на хвіліну ўзнікла ненатуральная, як у сне, цішыня. Яе разбурыў голас Даменіка Плятара.

— Пан Чык робіць захады супраць мяне і Фрыдэрыка, але як пан вытлумачыць матывы злачынстваў?

— Цікавая версія, — следчы сам наліў сабе і ўзяў чарку з каньяком. — Пан Чык арганізаваў факты, ды не хапае самага істотнага — не хапае матываў: каб каго-небудзь абвінаваціць у гэтых жорсткіх злачынствах, неабходна ведаць, нашто ён гэта зрабіў?

— Не ведаю, наколькі сур'ёзна паставяцца да гэтай версіі судовыя ўстановы, але я выкажу свае меркаванні, — не надта ахвотна пачаў Бруна Чык. — Звычайна злачынца забівае ахвяру зыходзячы з нейкіх пэўных матываў, але не выключаецца ідэя нематываванага забойства, калі злачынца забівае першую ахвяру, каб парушыць логіку следства і схаваць матывы наступнага злачынства. Ствараецца прэцэдэнт, у якім першы гіне сведка злачынства, а потым ахвяра, а не наадварот. Скажам, нехта Ікс збіраецца забіць ці нейкім іншым чынам знішчыць Казіміра Кушаля, і гэты Ікс падпільноўвае такі момант, калі Казіміра можна выставіць у якасці або, у лепшым разе, сведкі, або нават забойцы. Ікс удае, што спрабуе наладзіць свята, падбівае Казіміра пайсці пераапрануцца, бярэ са сцяны ў більярднай алебарду і аддае яе Казіміру, а сам узбройваецца паляўнічым нажом. Калі Казімір праз левую алькежу падымаецца да

сябе, то Ікс крыху пасоўвае фісгармонію, становіцца на інструмент і, падцягнуўшыся на балясінах, апынаецца на антрэсолях. На калідоры другога паверха Ікс заўважае, што Казімір пакінуў алебарду з зоркаю каля дзвярэй. Вось дык пашанцавала! Магчыма, у гэты момант узнікла ідэя стварыць прэцэдэнт нематываванага злачынства, магчыма, план гэтага злачынства быў складзены яшчэ ўнізе. Мне здаецца, што, так ці інакш, Ікс крыху павагаўся ў сумненнях, калі ўбачыў алебарду, як лепш выкарыстаць такі падарунак ад д'ябла. Ікс бярэ алебарду і засякае Вінцэнта. Забойцу неабходна адзначыць час злачынства, каб выклікаць падазрэнні на Казіміра, і ён падпальвае Вінцэнтаў пакой. Такім жа шляхам Ікс вяртаецца ў залу. А следства пачынае раскручвацца ў памылковым кірунку і заходзіць у тупік. Следчы, пан Сокал, не ведае, каго абвінаваціць — Казіміра ці Рафала, не знаходзіць матываў. Ікс пачынае дзейнічаць ізноў. Гэтым разам ён скарыстоўвае той паляўнічы нож, якім збіраўся забіць першую ахвяру, каб не падвярнулася алебарда. Выпадкова Ікс сустракаецца ў бібліятэцы з Казімірам. Ён дзейнічае не разважаючы, імгненна з'яўляецца думка выкарыстаць выпадковую сустрэчу. Ікс забівае Казіміра і выкідае труп праз акно. Ён спадзяецца на тое, што следчы вытлумачыць знікненне Казіміра як уцёкі. Казіміра няма — значыць, ён уцёк ад следства і правасуддзя, але гэтага не атрымалася, мы знайшлі нябожчыка, і пан Сокал абвінаваціў у злачынстве Рафала.

У мяне адразу выклікалі сумненне два ўзаемавыключныя факты: алебарда як сродак злачынства і падпалены пакой. Казімір узяў алебарду ва ўсіх на вачах, і калі б ён сам выкарыстаў яе такім чынам, то ніколі не стаў бы падпальваць пакой і чакаць, покуль заўважаць дым і смурод. Па логіцы, Казімір або не падпальваў бы пакой, або не карыстаўся б такой прыкметнай зброяй.

Прыблізна гэтыя ж развагі непакоілі пана Сока-

ла, і ён марудзіў з арыштам Казіміра.

Бруна Чык перарваў прамову, запаліў папіросу і, зацягнуўшыся тытунёвым дымам, прайшоўся па пакоі. Добермааны каля фатэля Ганны Кастравіцкай напружана павялі галовамі. Гаспадыня паправіла шаль і папрасіла пана Адама наліць ёй кілішак віна. Бразнуў сталёвымі бранзалетамі Рафал, але следчы не спяшаўся здымаць з яго кайданкі, адно лагодна паляпаў яго па плячы, быццам супакойваючы, што ўсё высветліцца. Дамінік моўчкі піў каньяк, а Фрыдэрык, сашчаміўшы пальцы на патыліцы, фамільярна разваліўся на канапе. Усе застылі ў чаканні развязкі.

— Усё тое, што я расказаў, магло б існаваць на тым жа ўзроўні, як і версія пана Сокала, калі б я не паспеў пагаварыць з Казімірам Кушалем. Праўда, ён не ўспрымаў пагрозу як рэальную небяспеку, але падзяліўся са мною сваімі развагамі. Ён збіраўся напісаць літаратурны пантэон славянскіх багоў, стварыць у сваім родзе Святое пісанне беларускай міфалогіі. Гэтыя намаганні пачынаючага літаратара ўзбудзілі юнацкі тэмперамент ягоных сяброў. На глебе рэлігійных перакананняў і моцна падагрэтыя віном сябры пасварыліся. Для Казіміра гэтая спрэчка не была прынцыповай. Хвароба рэлігійнага фанатызму не разбурыла ягонай свядомасці. Я не буду пераказваць усё, што мне давялося пачуць, але гэтага было дастаткова, каб зрабіць наступнае адкрыццё. Забойства Казіміра Кушаля мела рэлігійныя матывы. Руку забойцы скіраваў рэлігійны псіхоз. Рэлігія, нават нацыянальная, ды якая заўгодна, здатная ператварыць чалавека ў вар’ята.

Фрыдэрык саскочыў з канапы і спыніўся каля Дамініка, што круціў у доўгіх пальцах шкляную чарку.

— Ты забіў Вінцэнта і Казіміра! — не вытрымаў Фрыдэрык і, схапіўшы за пінжак, паставіў на ногі расплаўленага каньяком, быццам пластылінавага,

Дамініка. Ягоны шкляны позірк слізгануў па Фрыдэрыку і скіраваўся ў падлогу. — Ты гэта зрабіў?! — крыкнуў Фрыдэрык і ўдарыў кулаком яму ў твар. Дамінік, што і так ледзь трымаўся на нагах, упаў на дыван. Багдан Сокал пераскочыў праз перакуленае крэсла і схапіў Фрыдэрыка за руку.

— Супакойцеся, пан Фрыдэрык, — загадаў следчы, — усё вырашыць суд, — следчы дапамог Дамініку падняцца і зняў з Рафала кайданкі.

Раніцою Багдан Сокал павёз Дамініка Плятара ў мястэчка, але па дарозе Дамінік збіў следчага і выкінуў з машыны. Ён зняў кайданкі і з'ехаў на старой «татры» ў невядомым напрамку. Болей у тых мясцінах ніхто яго не бачыў.

* * *

Бруна Чык вярнуўся ў Вільню і толькі праз восем гадоў, улетку 1944 года, выпадкова заўважыў маладога мужчыну ў вайсковым фрэнчы, што выбег перад ім з брамы гатычнага будынка і заскочыў у чорную машыну. Малады афіцэр некуды спяшаўся і не звярнуў увагі на Бруна Чыка. Машына хутка знікла за рагом. Бруна Чык доўга не мог успомніць, дзе ён бачыў гэты знаёмы, мужны, гарбаносы твар. Але пазней памяць старога эксперта аднавіла друзгеніцкую трагедыю, і ён прыгадаў Дамініка Плятара.

Гэта здарылася на пачатку ліпеня, якраз у той час, калі Вільня нікому не належала. Эксперт дакладна не разгледзеў, у якую форму быў апрануты Дамінік Плятар.

# КАХАНКА Д’ЯБЛА,

## або Карона Вітаута Вялікага

*Трылер*

* * *

Маладая жанчына сядзела ў глыбокім скураным фатэлі ў холе Дома творчасці ў Кок-Тэпэ. Побач стаяў чорны пластыкавы, падобны да дамавіны, чамадан на колцах і дзве ёмістыя валізкі. За расчыненымі шклянымі дзвярыма начны змрок ахутваў субтрапічны парк. У хол дасягаў ледзь чутны пошум хваль і сухі шэпт бамбукавага лісця. Жанчына трымала ў руцэ разгорнуты нататнік, спісаны акуратным жаночым почыркам. Яна чытала:

### ГІСТОРЫЯ ПРА БІСХАЙМ*

У мястэчку пад Менскам апошняга нябожчыка занеслі на Бісхайм гадоў дваццаць таму. Цяпер усіх: каталікоў і праваслаўных, жыдоў, татараў, цыганоў і камуністаў хаваюць на адных могілках. А замшэлыя камяні з Бісхайма пачалі паціху расцягваць на падмуркі новых дамоў. На апусцелым без надмагільных помнікаў пляцы для пачатку ўкапалі пару слупоў і нацягнулі валейбольную сет-

* Бісхайм — жыдоўскія могілкі.

ку. Моладзь гуляла ў мяч, а старыя кабеты ўспаміналі і палохалі старадаўняй гісторыяй.

Быццам на тым самым месцы, дзе зараз Бісхайм, падчас вайны з крыжакамі ці маскалямі схаваў падскарбі Вялікага князя Вітаўта скарб, а сам загінуў. Быў той падскарбі перахрышчаным жыдам. І неяк местачковыя жыды пра тое месца дазналіся і пачалі хаваць на гэтым груду сваіх нябожчыкаў. Капалі яўрэі магілы і ўсё спадзяваліся знайсці Вітаўтаў скарб. Так з’явіўся Бісхайм. Але скарб нікому ў рукі не даваўся, бо бараніў тое золата падскарбі-прывід.

Старыя яўрэі расказвалі, як аднаго разу два далакопы знайшлі залаты ланцуг. І засек адзін другога рыдлёўкаю. А як засек, то ланцуг пад зямлю, што вужака, сам запоўз. Ухапіўся той далакоп за ланцуг, хацеў утрымаць, а яго самога пад зямлю зацягнула.

Цяпер, як наехала ў мястэчка новых людзей, аддалі стары Бісхайм пад забудову. Тутэйшыя на могілках будавацца не сталі, а вайскоўцы ды міліцыянты ўзялі могілкавай зямлі і пабудавалі дамы, і панастаўлялі прыбіральні проста над жыдоўскімі магіламі, і перааралі капцы на грады. Але і гэтым скарб у рукі не даўся. Падымаўся з зямлі падскарбі-прывід, то задушыць каго, то ў прыбіральні ўтопіць...

* * *

Жанчына закрыла нататнік і схавала ў валізку.

— Вас правядуць да катэджа, — сказала кансьержка.

Дарога праз парк была нядоўгаю.

— Асцярожна, прыступкі, — сухі барытон прагучаў у цемры абыякава. Відаць, гэтую фразу паўтаралі кожнаму новаму жыхару катэджа.

— Ды ўжо зразумела, — чамадан грымнуў па прыступках. — Чаму над дзвярыма няма ліхтара?

Жаночы голас гучаў патрабавальна, але залішне інтэлегентна, і барытон не адказаў.

Уключальнік шчоўкнуў, як затвор пісталета. Разам з цемраю зніклі пачуццё небяспекі і казытлівае трымценне цыкадаў. Яго замяніла манатоннае гудзенне лямпаў дзённага святла. Цемра, як растоплены бітум, заліла вокны. І іх чорна-люстраная паверхня падзяліла свет на дзве часткі: маладзіковая ноч за шклом і туман штучнага святла ў катэджы.

Уладальнік барытона аказаўся яшчэ старэйшы, чым падалося Магдзе ў цемры, — твар ягоны быў задубела-мярцвяны, як з даведніка паталагаанатама, твар таго, хто ніколі не глядзіцца ў люстэрка. Постаць, туга ўпакаваная ў джутавы камбінезон і вайсковую цяльняшку, з доўгімі, ніжэй каленяў рукамі, нагадвала арангутанга. Напаўсагнутыя ногі хаваліся да каленяў у шырокіх халявах гумовых ботаў. У яго руках, што зараслі рудою поўсцю, Магдзіны торбы выдавалі зусім бязважкімі цацкамі.

— Дарэчы, з гэтага акна заўтра я ўбачу мора?

Відавочна, яна хацела пачуць: «Так».

— Дарэчы, мяне завуць Кадук, — ён паклаў на стол ключ і пасунуўся да дзвярэй.

Яго спыніў нечакана прыязны жэст жанчыны. Дзіўна, але развітвацца яна не спяшалася.

— Магдалена Агінская, — яна пачціва схіліла галаву. — Дык з гэтага акна я заўтра ўбачу мора?

Яна не дакранулася да ключа.

— Заўтра? — перапытаў Кадук і з-пад калматых броваў стомлена паглядзеў на Магду.

Яна не раз чула, што ў яе можна неадольна закахацца з першага погляду, але ёй больш падабалася іншае — калі да яе ставіліся не толькі як да прыгажуні. Да таго ж жаночая прыгажосць і брыдкая знешнасць Кадука былі з розных лагічных радоў. Яе васількова вочы пасавалі да тыпова славянскіх абрысаў твару і ільняных валасоў, што спадалі па самы ўпрыгожаны пацеркамі пас. Лёгкі, як

цыгарэтная папера, ядваб сукенкі не ўтойваў класічных прапорцый яе паставы.

— З гэтага акна не ўбачыце ані заўтра, ані пaслязаўтра. — не дачакаўшыся адказу, прамовіў Кадук і ўдакладніў: — Бамбук.

— А з кабінета?

— Самшытавы гай.

— Шкада. Другая палова занятая?

— Цяпер тая палова надоўга вольная... — Кадук відавочна спыніўся на паўслове і зноў пасунуўся да дзвярэй.

— Я павінна бачыць мора. Можна ж замяніць гэтую палову на тую?

— Я лодачнік, мая справа — водныя ровары і лодкі. Але мяняцца не раю, усё адно заўтра прыйдзеце прасіцца назад.

— Не разумею, што вы маеце на ўвазе?

— Хіба вы не чулі? Гэта ж здарылася менавіта там, у суседнім нумары. Цяпер толькі вар'ят пагодзіцца там жыць.

— Здарылася? — Магда зняла цэлафанавую абгортку з пачкі і прапанавала Кадуку цыгарэту.

— Я паперу не палю, — з кішэні на грудзях Кадук выняў учарнелую абпаленую люльку з парэпаным мундштуком і грунтоўна пасадзіў яе паміж рэдкіх і вострых зубоў. Пыхнула сярнічка, і з дзюбатага носа пайшоў дым.

— То што здарылася ў суседнім нумары? — Магда села ў плеценае з лазы крэсла, пстрыкнула запальнічкаю, узняла руку і паглядзела на Кадука праз агеньчык.

— Нічога страшнага, — Кадук уважліва паглядзеў на Магду, — такое тут здараецца. Спачатку адзін скончыў жыццё самагубствам, а другі не ўспрыняў гэта ўсур'ёз, хаця ўсе папярэджвалі.

— Самазабойства неўсур'ёз? — не зразумела Магда.

— Ды не, прывід самазабойцы. А той лічыў, што ўсё гэта лухта: і грукат у шыбы па начах, крокі,

рыпенне масніц.

— Ну, і?..

— Знік. На трэцюю ноч. Рэчы раскіданы па ўзбярэжжы, магчыма, утапіўся, хаця гавораць рознае. Ды ці варта расказваць проці ночы?

— Наадварот, такое толькі на ноч і слухаць. — Магда бесклапотна закінула нагу за нагу і ветліва ўсміхнулася. — Прывіды?

— Толькі адзін...

— Прывід Дома творчасці Кок-Тэпэ, — перапыніла Кадука Магда. — Прывіды — мая спецыяльнасць.

— Пані — вядзьмарка? — нарэшце з'явілася непадробная павага да Магды.

— Амаль што так. Я займаюся акультызмам. Ведзьмакі, варажба, ваўкалакі, упыры і, вядома, прывіды.

— Няўдзячны і небяспечны занятак. Так не жартуюць. Ты або свой сярод іх, або чужаніца. Гэтым не займаюцца.

— А вы ведаеце праўдзівых вядзьмарак?

Кадук не адказаў, і сцішаную цемру раптоўна прабіў выбух марской хвалі.

— Шторм пачынаецца.

— Я люблю непагадзь.

— Як шторм, то заўсёды нейкае няшчасце здараецца.

Грукат у дзверы перапыніў Кадука, ён павольна азірнуўся і апярэдзіў Магду.

— Адчыню я, так будзе лепей.

У парозе стаяла немаладая кабета, аберуч трымаючы стос бялізны.

— Вечар добры. Зноў ты людзей страшыш. Ды вы яго не слухайце, ён вам нагаворыць, — кастэлянка саступіла дарогу Кадуку і выпусціла яго з пакою на тэрасу.

— Мне, наадварот, цікава паслухаць мясцовыя жахі, — Магда паднялася насустрач.

— Выбачайце, што позна прынесла, — кастэлянка пачала слаць ложак, — а на Кадука не зва-

жайце, у яго не ўсё ў парадку.

— Дык гэта казкі для дарослых?

— Якія казкі? — насцярожылася кастэлянка і нагнала прасцінаю хвалю.

— Пра суседні пакой.

— А што ў суседнім пакоі? Такі ж самы нумар, як у вас.

— Ён і не казаў, што іншы. Згадваў толькі пра самагубства, прывідаў.

— Каб яму язык аблез! — кастэлянка растрэсла наступную прасціну і перайшла на другі бок ложка.

— Як было папраўдзе? Мне цікава — ёсць там прывід ці не?

— Ды якія прывіды! Як панапіваюцца, то соваюцца як прывіды, і чэрці ім у вачах скачуць, — кастэлянка злосна ўзбівала падушку.

— І моцна п'юць?

— Шахцёры ў зімовыя заезды болей п'юць, але гэтым нічога не мроіцца. А ў сезон — пісьменнікі, ад гэтых і цвярозых чакай ліха. Не зразумееш, хто да чаго здатны.

— А самагубца з суседняга нумара як выглядаў?

— Той? — кастэлянка на хвіліну задумалася. — Ён з групай кіношнікаў быў. Бегаў з раніцы, а з вечара ў бары ад стойкі не адыходзіў. Дзевак з кэмпінга вадзіў. І дагуляўся.

— Да чаго? — Магда расчыніла чамадан, але так, каб кастэлянка не бачыла, што ў ім напакавана, і ўзняла над накрыўкаю бліскуча-залацісты балончык дэзадаранта. — Гэта вам, калі ласка.

— Дзякуй. — Кастэлянка завучаным жэстам схавала балончык у вялікую кішэню белага халата. — Дык пра што вы пыталіся?

— Як гэта адбылося? Самагубства.

— Ён застрэліўся, казалі, няшчасны выпадак.

— З пісталета? — удакладніла Магда.

— З падводнай стрэльбы: як прыехаў, усё на акул паляваў, дэльфіна застрэліў, маленькага. А ў

той вечар, казалі, круціў стрэльбу ў пакоі, гарпун сарваўся — і ў шыю. Яго Кадук знайшоў, убачыў праз незачыненае акно.

— А што, Кадук мае звычку зазіраць у чужыя вокны?

— Нябожчык на досвітку па лодку не прыйшоў, як дамаўляліся. Той і рашыў паглядзець — ці не спіць.

— Ён адзін, без жонкі прыязджаў?

— Якая жонка, яго сваякоў наогул не знайшлі, і сябры, з якімі піў, цела забіраць адмовіліся. Тут, на нашых могілках, і пахавалі.

— Няўжо зусім сваякоў няма?

— На спадчыну, мо, хто і знойдзецца, а каб пахаваць па-людску, то нікога, — кастэлянка кінула плед і дадала, — ён з Вільні прыехаў.

— І калі гэта здарылася? — Магда запаліла новую цыгарэту.

— Месяца не прайшло; а вы адкуль прыехалі?

— З Менску.

— Прыгожы горад. Я васемнаццаць гадоў таму была ў вас, вясельнае падарожжа. Я ж не ўмею на моры адпачываць, — разгаварылася кастэлянка. — Пасля ў той пакой ніхто сяліцца не хацеў, бо нехта чутку пусціў, што нябожчык туды па начах прыходзіць і нечага шукае. Нехта пусціў, а Кадук разнёс: сам ён прыдумаць такое не здатны, а любіць, каб яго слухалі. Каму прыемна ў пакоі жыць, дзе смерць была? Але знайшоўся адзін, што сам туды напрасіўся. Ён спачатку на вашай палавіне жыў. А як пачалі з таго пакоя людзі ўцякаць, то сваё месца саступіў і туды перабраўся, ніхто яго нават не прасіў.

— А гэты адкуль прыехаў?

— Таксама з Вільні, Эдвард Астрожскі.

— І пра яго Кадук жахі расказваў.

— Рознае кажуць, а па мне — ніякіх жахаў няма. Ён або ўтапіўся, ды яшчэ не знайшлі, ці як з той ночы загуляў, то і дагэтуль гуляе. Ужо раз так было

ў нас: аднаго пісьменніка месяц шукалі, а ён з жанчынаю зблытаўся ды ад жонкі ўцёк, а потым вяртацца баяўся. Можа, і гэты вернецца.

— А як мне той пакой паглядзець?

— Нашто? — насцярожылася кастэлянка.

— Каб з часам перабрацца туды, — у Магдзіным адказе не чулася жартаў.

— ..? — на твары ў кастэлянкі адбілася непаразуменне.

— Хачу пазнаёміцца з прывідам. Хаця лепш пагаворым пра гэта заўтра.

— Дабранач, — развіталася кастэлянка.

Магда замкнула за ёю дзверы, стаяла і ўслухвалася, як аддаляюцца крокі. Праз шамаценне бамбука ўсё выразней прабіваліся выбухі хваль. Паляпвала пад перагонамі ветру палатно шэзлонга на тэрасе. Магда трывожна зірнула ў цемру: за шклом зафурчэў і бомкнуў у шыбу цяжкі, як бульбіна, трапічны мармуровы хрушч. Яна з палёгкаю ўздыхнула і яшчэ раз спраўдзілася, ці грунтоўна замкнёныя дзверы на тэрасе. Ёй не хапала святла, і яна запаліла яго паўсюль: у кабінеце і ў ванным пакоі. Манументальны, як більярд, пісьмовы стол займаў усю сцяну за вакном. Гнуткая сучасная лямпа кідала пражэктарнае святло на дубовую акантоўку і зялёнае сукно.

Магда падкаціла да стала фатэль. Выняла з рыдыкюля нататнік і паправіла абажур лямпы, каб святло не біла па вачах. З сангінавага абрэзу нататніка тырчала папяровая закладка з машынапіснымі літарамі: «Вітаўт Вялікі» — і ніжэй прыпісана ад рукі: «Э. А.» Магда адгарнула нататнік на закладзенай старонцы і пачала разбіраць тэкст, выведзены педантычнай мужчынскай рукою:

## КАРОНА ВІТАЎТА ВЯЛІКАГА

У 1429 годзе вырашыў Вялікі беларускі князь Вітаўт ператварыць Вялікае княства ў каралеўства

і заказаў у ватыканскіх майстроў карону. Каранаванне мелася адбыцца ў Луцку на Валыні, у прысутнасці наймагутнейшых уладароў Эўропы, пасланцоў Рыму і Бізантыі. І тыя каралі, і князі, і імператары гасцявалі ў Вітаўта Вялікага шэсць тыдняў, чакалі, покуль прывязуць карону з Ватыкану. Да каранавання, аднак, не дайшло. Польская шляхта перахапіла пасланцоў, што везлі карону, і ўкрала яе. Каранаванне адклалі на наступны год, але Вітаўт неўзабаве загадкава памёр. Карону шукалі і ў Польшчы, і на Беларусі, але не знайшлі.

Залатая карона ўяўляла сабою абруч, аздоблены па пэрыметру буйнымі дыяментамі і пярлінамі. Абруч аблямоўвалі восем карункавых лісцяў. Купал кароны ўтваралі перакрыжаваныя палосы з шарам і крыжам наверсе. Важыла яна трыста залатнікоў.

Існуюць звесткі, паводле якіх карона Вітаўта Вялікага трапіла да бізантыйскага імператара і ён, каб уратаваць яе ад туркаў, загадаў схаваць карону ў адной з чарнаморскіх калоніяў.

* * *

Магда паднялася. Нататнік застаўся на стале. Фатэль на бліскучых колцах лёгка адкаціўся да вузкай канапы. Перакрыжавала рукі: бязважкі прыпол сукенкі пайшоў угору.

Калі Магда выйшла ў гасцёўню, на ёй засталіся адно басаножкі і срэбны медальён на вітым ланцужку. Яна ўзяла з падушкі шырокі пляжны ручнік.

Пераступіла невысокі край ванны: тонкія, як лёска, струменьчыкі летняй вады разышліся над Магдаю шумным веерам. Па чорнай кафлі пабегла шэрань кандэнсату. Вада пругка біла ў яе неапаленыя плечы, абцякала грудзі. Праз прачыненыя дзверы быў відаць край нізкага ложка і палова люстэрка над ім.

Магда адкінула з ілба валасы. Краем вока заўва-

жыла, як па люстэрку прабег цень. Яна піхнула дзверы і ўбачыла, як апускаецца падхопленая проймаю фіранка, а разам з ёю і цень, што адбіваўся ў люстэрку.

За сцяною пачуліся крокі. Магда таропка закруціла краны — у кабінеце рыпнуў паркет. Кінула на плечы махровы рушнік і выбегла ў гасцёўню. Рыпенне сціхла. Раптоўна ў катэджы згасла святло. Недарэчны ў замкнёным пакоі халодны парыў ветру асцюдзіў вільготнае цела. Захрусцела ссохлаю фарбаю даўно неадчыняная шыба. Магда зрабіла крок да стала і ўжо кранула прахалодны метал запальнічкі, як ёй ударылі ў бок. Яна страціла раўнавагу і павалілася на ложак. Пачула, як пакацілася паркетам запальнічка. Сцішала — адно мора і папяровае шапаценне бамбука. Магда паднялася і павольна выпрастала руку ў цемру. Пальцы сутыкнуліся з нечым вільготным. Магда ўскрыкнула, тарганула руку і ўскочыла з нагамі на ложак. Плечы і сцёгны адчулі шурпаты, халодны, як зямля, тынк сцяны.

Паступова вочы прызвычаіліся да цемры, і Магда згледзела тое, да чаго дакранулася рукою. Перад ложкам сцялася, быццам рыхтавалася да скачка, невядомая пачвара.

Так жа знянацку, як згаслі, успыхнулі лямпачкі. У святле пачвара знерухомела. Яе рэзка акрэслены цень падступіўся да ног Магды — пачвараю быў вялікі кабінетны фатэль на колцах. На скураной абіўцы блішчэлі кроплі вады — след ад удару ў бок.

Акно над пісьмовым сталом — наросхрыст, за ім густыя зарасці. Нататнік са стала знік. Магда выхапіла з чамадана крацястую кашулю-каўбойку і, нават не зашпіліўшы яе, падбегла да акна і пацягнула шпінгалеты ўніз. І тут, адчуўшы на сабе позірк, азірнулася. У кабінеце — нікога, толькі ў расчыненай шафе тонкія паскі жвіру — сляды рыфлёных падэшваў, такі ж след на сукне стала пад вакном.

У гасцёўні таксама нікога, але Магда ўсцяж адчувала: за ёю сочаць. Яна адкінула круглае вечка валізкі: у яе руках бліснуў трохгранны клінок стылета. З цемры за вакном узнік і расплюшчыўся на шкле жоўты твар. Магда пазнала Кадука, адразу ж схавала стылет за спіну.

— Са святлом цяпер усё ў парадку? А то недзе замкнула, я ўключыў.

— Нехта хаваўся ў маім кабінеце, — Магда прытрымала кашулю.

— Калі? — спытаў Кадук.

— Зараз. Адчыніў акно і ўцёк.

— Вы яго бачылі?

— Не паспела, згасла святло.

— Гэта прывід.

— Я здагадалася.

Кадук знік у цемры. Магда зняла са сцяны вялікае люстэрка і паставіла яго на падваконне. Запаліла. Пусціла тонкі струменьчык дыму ў свой адбітак. Дым зліўся з адлюстраваннем і, здавалася, прайшоў люстэрка наскрозь.

Доўгі слупок попелу ўпаў на падлогу, і яна згасіла цыгарэту. Абапал люстэрка паставіла і запаліла дзве касцельныя свечкі. Абышла нумар і паўсюль згасіла электрычнае святло. Два агеньчыкі злёгку пагойдваліся і множылі на сценах рухлівыя цені. Па кутках душылася цемра. Магда дастала з чамадана пакунак, разгарнула чорную аксамітную хустку, бліснуў авал настольнага люстэрка ў тонкай драўлянай аправе. Меншае люстэрка стала насупраць большага, над аправаю адбіваліся Магдзіны вочы. Ва ўяўную глыбіню большага люстэрка пабег бясконцы шэраг усё драбнейшых адбіткаў. Магда адлічыла трынаццаты і пільна ўглядзелася ў яго. Прымружыла вейкі. Там, у чароўнай глыбіні, куды не дадзена трапіць чалавеку, замігцелі прывідныя цені, на імгненне сабраліся ў пэўны малюнак і зніклі ў бясконцасці.

Зноў у люстэрку былі толькі Магдзіны вочы і

трапяткія агеньчыкі. Наструненую цішыню за акном працяў тужлівы крык паўліна. Варажбітка ўскінула галаву і глянула ў акно:

— Гэта ён. Я бачыла яго. — Магда згасіла свечкі. Скінула кашулю, легла ў ложак. Руку са стылетам засунула пад коўдру.

Каб хто зазірнуў у акно, палічыў бы, што Магда імгенна заснула, аднак яна нязрушна глядзела ў цемру, прыслухоўвалася ажно да таго часу, покуль зноў не закрычаў паўлін, покуль шэры досвітак не запанаваў у пакоі. Сон урэшце перамог, рука пусціла касцяное дзяржальна стылета.

* * *

Тэнісны мяч ударыў у капронавую сетку і скаціўся Магдзе пад ногі. Яна набіла колькі разоў мяч ракеткай і перакінула на другі бок корта:

— Даўно не гуляла, страціла форму.

— Я таксама стамілася, — да Магды падбегла дзяўчына ў белым тэнісным строі. З-пад шырокай трохколернай стужкі выбіваліся доўгія рудыя валасы. — А ты класна гуляеш.

Яна спакавала ракеткі і мячы ў шырокую валізку.

— Прыходзь заўтра з ранку, патрэніруемся. Першую ноч на новым месцы заўсёды блага сплю. — Магда расчасала валасы. Скінула майку і нетаропка надзела доўгі кітайскі халат з агнявым цмокам на спіне.

— Спіш адна?

— Пакуль адна. Заснула на досвітку, прачнулася пасля палудня.

— Выбачай, у мяне кепская памяць на імёны...

— Магдалена — Магда, — вецер падхапіў крысо шаўковага халата.

— А мяне Ліда — на выпадак, калі і ты забылася. Даўно тут?

— Сёння другі дзень. Табе пра жахі яшчэ не расказвалі? — яны зайшлі ў душавую кабіну.

— Відаць, не паспелі, — Ліда скінула белую спадніцу і стала пад ваду.

— Добра зрабілі, бо іначай і ты не спала б, — Магда заняла суседнюю кабінку. Над перагародкай раз-пораз узнікалі Лідзіны рукі. — Прывідаў не баішся?

— З дзіцячага ўзросту выйшла, а сапраўдны жах тое, што на нас яшчэ ніхто не звярнуў увагі.

— Да мяне прыходзілі ноччу.

— І які ён з выгляду?

— Натуральны прывід. Зайшоў праз замкнёныя дзверы і выйшаў праз зачыненае вакно. Разгледзець не паспела.

— Дурное становішча, — Ліда зазірнула за перагародку.

— Гэта зараз, удзень, смешна, а мне адной было не да смеху. Згасла святло, я голая, па пакоі ў цемры нехта ходзіць, а мне толькі расказалі, што ў суседнім нумары было самагубства.

— Я ж казала ад самага пачатку: нельга спаць адной — без мужчыны нічога людскага не будзе.

— Ты ўсур'ёз лічыш, што мужчына — абаронца?

Яны зноў выйшлі з душа на корт. У сцяну гуляў атлет гадоў каля трыццаці пяці. Запаволеныя, але дакладныя рухі выдавалі ў ім прафесіянала. Ён злавіў мячык і прыветна памахаў ім рукой. Шляхетна адкінуў з твару густую пасму пякельна-чорных валасоў.

— Вось такі можа стаць абаронцам. Хочаш, пакіну яго табе? — шэптам сказала Ліда і, не дачакаўшыся адказу, пайшла насустрач мужчыну.

— Прывітанне, паненкі, — сказаў ён. — Даўно гуляеце?

На апаленым твары бліснула безадносная ўсмешка.

— А ты заўсёды гуляеш сам-насам? — спытала Ліда.

— Мне тут цяжка знайсці партнёра, бо ніхто не любіць прайграваць.

— З партнёрамі і ў нас праблемы, — Магда вытрымала паўзу і дадала: — Лідзе трэба ісці, а я не люблю гуляць у сцяну.

— Я сам хацеў прапанаваць, але вы апярэдзілі. Прапанову прымаю.

Ліда пацалавала Магду ў шчаку і шэптам прамовіла:

— Трымайся, калі не дасі рады, бяру я.

Мужчына счакаў, калі Ліда адыдзе, і схаваў ракетку ў похвы:

— Мяне завуць Дамінік, — назваўся ён, — Дамінік Рэй.

— Магдалена Агінская. Ты гуляеш супраць сонца? — Магда скінула халат.

Дамінік моўчкі падняў яго і накінуў на Магдзіны плечы:

— Гульні не будзе. Ці я памыліўся? Ты ж не збіралася гуляць?

— Добра, адкладзем партыю.

— Я прызнаю ўмоўнасці флірту, і будзем лічыць, што мы іх выканалі. А цяпер, Магда, я запрашаю на вячэру.

— Мушу пераапрануцца, бо таксама не супраць умоўнасцей.

— Я маю вяндліну і віно, таму запрашаю да сябе. Я зайду за табой праз паўгадзіны. Ці ты хочаш пайсці ў рэстарацыю?

— Там людна. Так што праз гадзіну чакаю на тэрасе.

— Згода, я правяду цябе.

Ён перакінуў валізку праз плячо, ручка ракеткі тырчала з-за спіны, як руля стрэльбы. Яны выйшлі на кіпарысавую алею.

— Я ніякавата адчуваю сябе. Усё залішне хутка атрымалася. Ты можаш падумаць абы што, — Магда запаволіла крокі.

— Гэта я вінаваты. Выбачай, але чуў вашу размову. Вы ж думалі, што нікога на кортах няма.

— І што ты чуў?

— Мяне зацікавіў прывід. І захацелася паглядзець на цябе, каб потым знайсці нагоду пазнаёміцца.

— Ты знарок падслухоўваў? — Магда спынілася.

— Вы гаварылі занадта голасна, бо перашкаджаў шум вады. А мне раскажаш пра прывіда?

— Калі не перадумаю наконт сустрэчы, то раскажу, — Магда развітальна ўскінула руку і папраставала газонам да свайго катэджа.

Дамінікаў позірк зрабіўся зімнім. Ён адзеў акуляры і дачакаўся, покуль Магда знікне за дзвярыма.

* * *

Вечарэла, калі Дамінік з Магдаю ўзышлі на ганак ціхага катэджа. Магда прыўзняла на прыступках даўгі прыпол вечаровае сукні, на руцэ пагойдваўся шыты пярлінамі рыдыкюль.

— Адмыкай, — яна паспрабавала прапусціць Дамініка наперад, але ён саступіў дарогу:

— Я ніколі не замыкаю.

— Нават нанач? — здзівілася Магда.

— Гэта ж ты баішся прывідаў.

Нумар быў такі самы, як у Магды. На стале пасярод гасцёўні ўзвышалася, як гатычная званіца, бутэлька сухога віна. Тонка пакроеная паляндвіца на лістах салаты і міса з зелянінаю і гароднінаю ўтваралі селянку — ідылію.

— Такі нацюрморт шкада разбураць, — Магда села ў венскае крэсла. Дамінік адкаркаваў бутэльку і наліў па палове шклянкі.

— Адмысловае віно, — Магда адпіла глыток.

Дамінік сеў насупраць.

За расчыненым акном над шыпшынавым жываплотам успеньвалася вузкая паска мора. Пяцібальныя хвалі каціліся пірсам, але ва ўтульным пакоі яны здаваліся не грознымі.

— Ты працуеш? — Дамінік паклаў руку на край стала.

— Тут? Адпачываю. А ты?

— Я спадзяваўся працаваць. Да нашае сустрэчы.

— З выгляду ты цягнеш на празаіка.

— Залішне занудны? — Дамінік зноў падліў віна.

— Метад выключэння: на тумбачцы машынка, а паэты пішуць ад рукі.

— Не згадала, але гэта праўда — я не паэт.

— Драматург? — расчаравалася Магда.

— Яшчэ горш — кіношнік, — Дамінік склаў з пальцаў рамку і праз яе паглядзеў на Магду.

— Чакай, дык гэта ты здымаў пра Скарыну?

— Пісаў сцэнарый, — кінуў Дамінік, — а цяпер здымаю «Грунвальд».

— Тут, у Кок-Тэпэ? Грунвальд? Пакажаш дэкарацыі?

— Здымаць буду ў Нямеччыне, брыгада ўжо там, а я апошні тыдзень у адпачынку даганяю сцэнарый. А ты пра сябе раскажаш?

— Калі абяцаеш, што не будзеш смяяцца.

— Любіш інтрыгаваць?

— Ты не адказаў, — Магда заціснула шклянку паміж далоняў, быццам хацела сагрэць віно.

— Абяцаю, калі табе падабаецца жыць усур'ёз.

— Я — этнограф...

— Відаць, збіраеш непрыстойныя показкі і анекдоты.

— Міма, я займаюся варажбою: ведзьмакі, прывіды, дамавікі...

— Спадзяюся, я не аб'ект тваіх даследаў? — Дамінік паглядзеў Магдзе ў вочы.

— Залішне рэальны, — Магда не адвяла позірку.

Дамінік шчоўкнуў запальнічкай, і стала прыкметна, як за час іхняе размовы ў пакоі неўпрыкмет запанаваў змрок. Аднак запаліць святло ніхто не памкнуўся.

— Рэальны, ажно да намацальнасці, — Дамінік паклаў сваю далонь поруч з Магдзінай.

— Не пярэчу, — Магда прыняла руку, — але

мяне больш вабяць здані.

— Спірытызм — чыста жаночы занятак, — Дамінік няспешна зрэзаў сцізорыкам корак з другой бутэлькі. — Цябе цяжка зразумець: Лідзе казала, што шукаеш абаронцу, а зараз заводзіш гаворку пра здані.

— Выбачай, ты спрабуеш думаць за мяне, і сам даеш адказ. Цябе, як мужчыну, вабяць знешнія формы: постаць, малюнкавая прыгажосць. Мяне, наадварот, менш цікавяць знешнасць і форма. Я не азіраюся на мужчын, ідучы па вуліцы. Жанчын займае сутнасць, ім не так лёгка задурыць галаву, як здаецца.

— Але пагадзіся, што задурыць можна.

— Можна, толькі згадаем пра ўмоўнасці — яшчэ недастаткова цёмна.

— Цемра сама па сабе нічога не вырашае. Людзей яднае страх адзіноты і, калі ў цемры знікаюць твары, нам застаецца адно — дотык. А зараз змярканне — не досвітак. І на ўсё яшчэ знойдзецца час. Любіш слухаць страшныя гісторыі?

— Каб змрок здаваўся гусцейшым? Так, жахліва. — Магда паклала рукі на стол, нібыта выдатніца на парту.

* * *

## ГІСТОРЫЯ ПРА УПЫРА

Мяне ў дзяцінстве ўразіла адна гісторыя. Здарылася яна ў невялікім заходнім мястэчку, дзе на старадаўні лад стаялі насупраць белая царква і чырвоны касцёл, сінагога і мячэць. Каля каталіцкіх могілак жыла адна дзяўчынка. Сябравала яна з суседскім хлопчыкам. Кожную нядзельку вадзілі бацькі дзяўчынку да касцёла, а хлопчыка ў царкву. Імя дзяўчынкі было Ганна, а хлопчыка Сымон. Дзяўчынка грала на фартэпіяна, а хлопчык маля-

ваў. Прайшоў час, і яны зразумелі, што кахаюць адзін аднаго. А каб людзі не дазналіся пра іхняе каханне, пачалі яны сустракацца ўночы на могілках, што побач з домам, дзе жыла Ганна.

Аднаго разу да Сымона прыйшлі вайскоўцы і забралі хлопца ў войска. Засталіся Ганне Сымонавы малюнкі — яе партрэты, ды ўспаміны пра таемныя спатканні на могілках.

Пайшло войска на вайну, і прынеслі Сымонавым бацькам паштоўку, што загінуў іхні сын у баі. Не паверыла Ганна казённай паперы і вырашыла чакаць свайго каханага.

Неяк, калі Ганніны бацькі даўно ўжо спалі, сядзела яна ў гасцёўні, гартала альбом з Сымонавымі малюнкамі — і раптам пачула, як нехта пагрукаў у шыбу. Расчыніла Ганна акно і ўбачыла Сымона ў вайсковым шынялі. І падаўся ў месячным святле Сымонаў твар нежывым:

— Ганна, не палохайся, я жывы, я з войска ўцёк.

Маўчала Ганна, не ведала, што адказаць хлопцу.

— Ганна, прыходзь заўтра апоўначы на могілкі, я чакаць буду, — сказаў ён, і найшла хмара на месяц, і знік Сымон у цемры.

Не сказала нікому Ганна пра тое, што бачыла ноччу, бо і сама пэўна не ведала: ці не прымроілася ёй гэта.

Малілася Ганна з ранку і да змяркання, а як прабіў гадзіннік палову на поўнач, пайшла яна на могілкі. Страшна было дзяўчыне адной сярод магіл, ды выйшла з-за хмар поўня, і зрабілася светла, як удзень. Вырашыла Ганна ісці не той дарогай, якой раней хадзіла на спатканні з Сымонам, а з другога боку, дзе свежыя магілы. Ціха ідзе дзяўчына паміж пясчаных капцоў, ды раптам спынілася, сціснула ў руцэ ружанец, бо пачула жахлівыя гукі. Бачыць раскапаны дол, а ў ім на раскрытай труне сядзіць чалавек ды грызе мерцвяка. Закрычала Ганна ад жаху. Азірнуўся чалавек з долу, і пазнала ў ім Ганна Сымона. Кінулася бегчы, ды пачула, што

даганяе яе ўпыр. Убачыла незамкнёную каплічку, ускочыла ў яе, зачынілася і закруціла клямку ружанцам з крыжыкам. Хапіўся Сымон-упыр за клямку, а святы ружанец яму рукі апёк, не змог ён дзверы адчыніць. Пачаў Сымон прасіць Ганну, каб яна пусціла яго. Адмовіла Ганна, не ўпусціла ўпыра. Пачаў Сымон клікаць нябожчыка, што быў у той капліцы пахаваны:

— Устань з долу, брат, адкруці ружанец, аддай мне дзяўчыну.

Устаў мярцвяк з магілы і адказаў Сымону:

— Ідзі прэч, упыр-людажэр, не аддам табе дзяўчыны.

— Выходзь тады біцца, — закрычаў Сымон.

Выйшаў мярцвяк з капліцы, і перамог упыра, і забіў яму ў голаў доўгі цвік. А Ганну адпусціў дадому.

Праз год пасватаўся да Ганны іншы хлопец. Але, калі ехала вяселле да касцёла, выбег з могілак вялікі воўк, праскочыў паміж коньмі і брычкай, і ператварылася вяселле ў воўчую зграю, ці, як кажуць, у ваўкалакаў.

* * *

За акном мільгануў прывідны цень.

— Дап’ем віно? — Дамінік узяўся за бутэльку.

— Лепш запалім, — Магда накруціла на палец ланцужок з медальёнам з выявай Божай Маці.

Дамінік прыпаліў дзве цыгарэты, адну паклаў паверх недапітай шклянкі з віном і прапанаваў другую. Магда адштурхнулася ад стала, крэсла пахіснулася на дзвюх ножках. Дамінік падхапіў яго. Магда падціснула ногі пад сябе і закінула галаву, у чаканні цыгарэты растуліла вусны. Яе валасы казытліва кранулі яго руку. Дамінік схіліўся і нямоцна ўкусіў Магду.

— Гэта ты так цалуешся?

— Не, я так кусаюся, — Дамінік паклаў ёй руку ў

дэкальтэ.

Шлейка сукенкі збілася з пляча і з’ехала на локаць. Дамінік правёў рукою па Магдзіным плячы і крануў аголеныя грудзі. Іхнія рухі былі запаволеныя і плаўныя.

— Згасі цыгарэту, — сказала Магда яму на вуха.

Дамінік навобмацак знайшоў сподак: згас апошні агеньчык у пакоі. Магда сашчапіла яму на шыі рукі. Дамінік падхапіў яе пад калені і занёс на ложак.

— Пачакай, — яна схапіла яго за руку, — чуеш?

— Што? — Дамінік асцярожна сеў побач.

— Крокі.

— Дзе?

— Пад самым вакном. За намі нехта сочыць. Вунь, ягоны твар у акне!

Дамінік падбег да акна:

— Тут няма нікога і не было. Ты трызніш. Калі баішся, давай ссунем фіранкі.

— Гэта прывід самазабойцы. Ён прыходзіў учора.

— Ты звар’яцела. Хто табе расказаў пра яго?

— Ты яго ведаў, самазабойцу? Ён таксама быў кіношнікам.

— Ну і што, якое гэта мае дачыненне да нас? — Дамінік запаліў бра над ложкам і зашпіліў кашулю.

— Згасі святло, — Магда расправіла прыпол сукні.

— Хадзем, я цябе правяду.

— Ты крыўдуеш? — Магда ўстала.

— Не. Але табе лепш зараз пайсці дахаты. Я праводжу.

— Не варта праводзіць. Я не такая палахлівая, як ты думаеш, — Магда зняла са спінкі крэсла рыдыкюль і выйшла ў парк. Азірнулася на ганак. Дамінік у чорных акулярах стаяў на верхняй прыступцы.

Да сябе Магда не пайшла. Штармавы вецер на праменадзе падхапіў яе валасы і кінуў на твар.

Сукенка затрымцела і шчыльна аблегла цела. Хвалі білі пад самую балюстраду. Успененыя грэбні на чорнай вадзе выдавалі шклаватай. Яе падфарбоўвала каляровае святло рэкламы бара. Цемру прабівалі рытмізаваныя выбухі рок-н-ро-ла. Магда штурханула шкляныя дзверы-турнікет, і пражэктар на імгненне выхапіў з паўзмроку постаці на пляцоўцы для танцаў. Замігцела бліс-кавіца-страбаскоп. Свет распаўся на серыю стоп-кадраў. Адзіны, хто застаўся рэальным у пекле бара, быў падсветлены ніжнімі лямпамі гаспадар: курчавы, з тонкімі вусікамі і тонкім мятлікам бар-мэн, на белай, з кароткімі рукавамі кашулі якога блішчэла, што зорка шэрыфа, нікеліраваная бля-ха: «Эрык...» — прачытала Магда: «Бармэну досыць імя».

— Каньяк і апельсінавы сок, — замовіла яна і ўбачыла вольны столік у нішы.

— Каньяком не гандлюем, — тлумачыў Эрык, калі наліваў замоўлены напой у філіжанку для кавы. Сок і градзіны лёду ён падаў асобна, у дзвюх высокіх шклянках.

У зацішку нішы ёй хацелася пабыць адной. Праз усю залу з такой жа, як у Магды, філіжанкай у руцэ прайшоў дужы сівы мужчына з хітрым тварам польскага паліцыянта на пенсіі:

— Я бачу, у вас не занята, — ён пацягнуў воль-нае крэсла да сябе. Магда прытрымала пад сталом крэсла нагою.

— Вы памыліліся.

— Я ніколі не памыляюся, — ён паставіў філі-жанку на столік і падсунуў да сябе іншае крэсла, — не магу глядзець, як сумуе такая прыгажуня.

— Не думаю, што вы здатны мяне развесяліць.

— Няма праблемы. Я здатны і не на такую дро-бязь, — ён прыўзняў філіжанку і змоўніцкі пад-міргнуў. — Мяне цяпер цікавіць толькі сэкс. Вас не павінен бянтэжыць мой узрост: калі цалкам ахвя-раваць сябе сэксу, то ўзрост не мае значэння,

побач з вамі я адчуваю сябе юнаком.

— Мяне не хвалююць вашы праблемы, — Магда заўважыла каля стойкі бліскучы, як луска стронгі, гарнітур Дамініка. Ён быў не адзін: побач з ім на высокім зэдліку сядзела Ліда. На фоне люстраных паліц з калекцыйнымі бутэлькамі яны глядзеліся, як вітрынныя экспанаты. Дамінікава рука нязмушана адпачывала на аголеных плячах Ліды.

— Што так няветліва? — шчыра пакрыўдзіўся сівы. — З такім настроем не варта хадзіць у бар.

— Вы яшчэ не здагадаліся, што нічога не будзе? Ці мне самой перасесці за іншы столік?

— Прашу прабачэння, пісьменнік-дэтэктыўшчык Анатоль Юр, — мужчына паклаў на стол візітоўку, па-старасвецку развітаўся і пайшоў да стойкі.

Магда замовіла каньяк. Выбіраць, дзе стаць каля стойкі, не выпадала: Магда апынулася паміж Юрам і Дамінікам. Ліда выбачальна развяла рукамі. Дамінік азірнуўся і зрабіў выгляд, што не пазнаў Магду.

— Чакайце, няма вольных філіжанак, — бармэн Эрык раўняў распалены жвір на паніве. Пахла перапаленым цукрам і каваю. — Сядайце, я падам за столік.

Магда вярнулася. Пад сумны блюз Дамінік запрасіў Ліду. Яна лёгка саскочыла з высокага зэдліка і пацягнула Дамініка на сярэдзіну залы. Стомленая рок-н-ролам публіка разышлася па століках. Дамінік і Ліда засталіся на пляцоўцы ў адзіноце, іх запаволены танец быў залішне цнатлівы і тэатральны. Магда сачыла за партнёрамі, нервова круціла пустую пляшку.

— Яшчэ раз прашу прабачэння, — над Магдай нечакана схіліўся дэтэктыўшчык Анатоль Юр. На столік важка стала нераспачатая бутэлька каньяку: — Апошняя. Эрык выдаў адну на дваіх.

— Добра, сядайце, у мяне змяніўся настрой.

Давядзецца піць разам, але не больш за тое.

— Шчыра кажучы, я займаюся тут адным аматарскім расследаваннем і збіраюся з вамі пагаварыць, але адразу абраў не лепшую тэму.

— Сапраўды, першае ўражанне не з лепшых.

— Затое цяпер я нічым не магу вас здзівіць.

Магда дастала з рыдыкюля партманэтку, але яе спыніў Юр:

— Схавайце грошы, я вас частую. Лічыце, што гэта кампенсацыя за малапрыемную размову наперадзе.

— Што вас цікавіць? — Магда глядзела ў залу: Дамінік з Лідаю занялі цэнтральны столік. Ліда праз саломінку смакавала кактэйль. Дамінік трымаў яе руку ў сваёй.

— Тое, што і ўсіх тут, — неакрэслена сказаў Юр.

— У бары? — здзівілася Магда, каньяк апёк ёй вусны. — Зноў вяртаемся да папярэдняй размовы?

— Думаеце, чаму ўсе так п’юць тут? Бо цвярозым не надта заснеш. Вось і мы п’ем.

— Бяссонніца?

— Ратуемся ад прывіда.

— Вас палохае прывід?

— Мяне не палохае. А вас?

— Хто вам сказаў, адкуль вы ведаеце? Гэта вы хаваліся ў маім кабінеце?

— Я і хачу, каб вы мне пра гэта расказалі, — дэтэктыўшчык правёў далонню па сівых валасах.

— Калі гэта звычайная цікаўнасць, то мне не да жартаў.

— Па Доме творчасці пайшлі плёткі, што ў адным з катэджаў з’яўляецца таямнічая пачвара. Некаторыя сцвярджаюць, што гэта прывід самазабойцы.

— Хто сцвярджае? — патрабавальна спытала Магда.

— Адзін малады чалавек — Эдвард Астрожскі, ён добра ведаў самагубцу пры жыцці. І нават зай-

маўся ягоным пахаваннем, а потым не раз бачыў ягоны цень. Калі ж і сам Эдвард знік, то ў прывіда паверылі ўсе. Нават сантэхнік мне прызнаўся, як аднойчы твар у твар сутыкнуўся з нябожчыкам у сутарэннях пад старым корпусам.

— Даволі цікава, але якое дачыненне гэта ўсё мае да мяне?

— Вас пасялілі ў тым самым катэджы, дзе жыў самагубца, і, відаць, не ад мяне першага вы пачулі пра гэта, — здавалася, трэцяя порцыя каньяку ад пачатку іхняй размовы, і невядома якая з ранку, канчаткова працверазіла Юра.

— Так, я чула гэта ад Кадука і магу сказаць болей. Гэтай ноччу нехта хаваўся ў маім нумары.

— Вы яго бачылі?

— Дык гэта былі не вы? — Магда ўжо грунтоўна ап'янела.

— Значыць, вы яго не бачылі, — кіўнуў Юр. — Адразу вас супакою — я не прывід, да таго ж рэаліст, і мне падабаецца, калі ў жыцці з'яўляецца зашмат містыкі.

— Спадзяецеся знайсці крымінал?

— У гэтай гісторыі ёсць крымінал, я гэта адчуваю. Калі за нябожчыкам ніхто не прыязджае, каб пахаваць цела, то я дэкларую, што ён жыў не пад сваім прозвішчам. За вамі ж знойдзецца каму прыехаць? Бацькі? Муж?

— Брат. — Яна дапіла каньяк. — Змрочная перспектыва.

— Бачыце, а ў самагубцы не знайшлося ніводнага сваяка. Яго пахавалі на тутэйшых могілках. І там я заўважыў адну дзіўную дэталь — на ягоным капцы час ад часу з'яўляецца свежы жвір. Сёння мясцовы далакоп расказваў у мястэчку, быццам магіла дыхае.

— Як звалі самагубцу? — па Магдзіным твары было відаць, што раніцай яна нічога не ўспомніць.

Юр падліў з бутэлькі ў Магдзіну шклянку:

— Альгерд Царык, па пашпарце, нарадзіўся ў Дзвінску, 40 гадоў, — твар яго брыдка перакрывіўся. — Жыд!

— Таксама па пашпарце?

— Так.

— Хто яшчэ бачыў прывіда?

— Рудая дзяўчына, што танцавала з высокім брунетам, — Анатоль Юр паказаў на Ліду. — Яна ж раней жыла на вашым месцы, а начаваць хадзіла на другую палову.

— Яна была Эдвардавай каханкай?

— Ад каго вы даведаліся ягонае імя?

— Кастэлянка, але пра Ліду яна не ўспамінала. І што ж Ліда бачыла?

— Бачылі яны разам — Эдвард і Ліда. Прахапіліся ўначы, а над імі прывід. Наступнай ноччу Эдвард і знік.

— Чаму я павінна вам давяраць?

— Калі вы ўсё яшчэ лічыце, што прывід — гэта я, то падумайце — навошта выкрываць самога сябе? — пераканаў Юр Магду.

— Добра, можаце не казаць, адкуль вы гэта ведаеце, але я мушу мець пэўнасць.

— Пэўнасць? Калі ласка. Я пакажу прывіда, але не зараз. Зараз я сам не маю пэўнасці. — Анатоль Юр азірнуўся: за шкляным турнікетам стаяў паўнатвары чалавек, рукі ён трымаў у кішэнях адпрасаваных нагавіц, відавочна, некага шукаў і не знаходзіў. Анатоль падняўся.

— Дагаворым заўтра, спадзяюся, у гэтую ноч нічога непапраўнага не здарыцца. Я пакідаў сваю візітоўку?

— Так.

— Дабранач.

Яго прысадзістая постаць мінула турнікет. Ужо праз шкло Магда ўбачыла, як вецер раскідаў ягоныя сівыя валасы. Паўнатвары мужчына пайшоў услед. Насустрач ім па сходках узнімаўся Кадук.

Магда ўзяла ў рукі недапітую бутэльку каньяку,

паціснула плячыма і зноў паставіла яе на стол — не піць жа адной. Глянула на стойку: у люстраной паверхні за бутэлькамі былі зноў яны — Дамінік і Ліда, куды ні паглядзіш, паўсюль нешта пра іх нагадвала. І нарэшце яна вырашыла не ўглядацца ў цьмяныя выявы, што паўсюдна і навязліва з'яўляліся ў шклянках і лакіраваных паверхнях, а глядзець упрост на арыгіналы.

Дамінік пад столікам паклаў спачатку адну, а потым праз пэўны інтэрвал і другую далонь на Лідзіны калені і паглядзеў ёй у вочы. Ліда ледзь заўважна ўсміхнулася і нахілілася наперад. Дамінік перасеў на вольнае крэсла побач з ёй. Цяпер Магда бачыла іх са спіны. Ліда схіліла галаву, і яе валасы, як фіранка, закрылі ад Магдзінага позірку доўгі і лянотны пацалунак.

— Шалом, пані!

Магда спалохана зірнула ўбок. За яе столікам у нішы сядзеў Кадук. Яна не заўважыла, калі і адкуль той апынуўся побач з ёю.

— Што табе трэба? — Магда наліла каньяк сабе на донца, другую шклянку на трэць і падсунула яе да Кадука.

— Каб усё збывалася, асабліва ў пані! — Кадук выпіў нагбом.

Магда чакала адказу і покуль што не дакранулася да шклянкі.

— Я ўспомніў учарашнюю размову. Пані яшчэ цікавіцца жахлівымі гісторыямі?

— З кожным днём усё болей. Ты дазнаўся, хто быў у маім кабінеце?

— Шчыра кажучы, і не спрабаваў. Затое ўспомніў адну падобную гісторыю. Гэта здарылася з маці аднаго блізкага мне чалавека. Яе звалі Ганна.

— Я ўжо чула сёння гісторыю пра Ганну, — Магда зноў наліла каньяк.

— Гэтую гісторыю ведаю толькі я. Успомніў і вырашыў знайсці пані. Але бачу, вас цяпер цікавіць іншае, а дакладней, іншыя.

Кадук звёў у адно калматыя брові, і Магда ўпершыню заўважыла, што ягоны твар хоць і страшны, але не пазбаўлены інтэлекту.

— Мяне мала цікавяць чужыя пацалункі, да таго ж яны не замінаюць мне займацца справай. — Магда паднесла шклянку да вуснаў.

Кадук адпіў невялікі, у параўнанні з ягонымі магчымасцямі, глыток:

— Да гэтых дваіх мы яшчэ, спадзяюся, вернемся. Але ж вернемся да гісторыі з Ганнай. Жыла ў адным горадзе дзяўчына Ганна, — Кадук паказаў на Магду. — І закахалася яна ў хлопца...

Кадук расказваў, а Магда глядзела на яго і не пазнавала ў ім учарашняга лодачніка. Побач з ёю сядзеў жахлівы, але ж пэўны сябе чалавек. Недарэчная ў прыстойным бары вопратка пачынала здавацца даравальным дзівацтвам. Наступную шклянку ён не піў, а, як чалавек яе асяроддзя, смакаваў. Магда зразумела, што ён з тых, хто ўмее ў кожным інтэр'еры адчуваць сябе нязмушана.

## ГІСТОРЫЯ ПРА ГАННУ — КАХАНКУ Д'ЯБЛА

А жыла ў адным горадзе дзяўчына Ганна, і пакахала яна аднаго хлопца. Але той не звяртаў на яе ўвагі, і, здавалася, ніхто не дапаможа дзяўчыне. Але аднаго разу яна знікла з горада, а калі вярнулася, хлопец сам прыйшоў да яе і прапанаваў пайсці за яго замуж; дзяўчына нават не здзівілася, прыняла як належнае, нібыта загадзя ведала, што будзе.

Пражыла Ганна з мужам месяц, але скончыўся ў яго адпачынак, і мусіў ён зноў ісці на працу. А працаваў ён хірургам у шпіталі. Дзяжурыць даводзілася то ўдзень, то ўночы. Працаваў ён удзень — усё было добра. Заставалася Ганна адна дома і чакала мужа. А як надыйшоў час ісці нанач, пачала Ганна прасіць, каб не хадзіў, а застаўся з ёю, бо баялася Ганна адна заставацца ўначы. Казала, баіцца, што

нехта прыйдзе.

Тады муж сказаў, каб нікому не адчыняла, і нават да дзвярэй не падыходзіла, калі хто пагрукае.

Пайшоў муж на дзяжурства, а Ганна ўсё заснуць не магла, сядзела глядзела тэлевізар. Прабіла дванаццаць, згас экран, і пачула Ганна крокі па сходах. Спадзявалася: вышэй пойдуць, але крокі спыніліся, і пагрукаў нехта ў дзверы. Затаілася Ганна, не азвалася. І пачула голас з-за дзвярэй:

— Ганна, гэта я, твой муж.

Падышла Ганна да дзвярэй і спытала:

— Чаго ты вярнуўся, ты ж на працу пайшоў?

Ніхто не адазваўся з-за дзвярэй, і раптоўна запаліўся зноў экран тэлевізара. Прачыніла яна дзверы, а за імі нікога — пусты пад'езд. А галоўнае, не чула яна, каб нехта сыходзіў. Спалохалася Ганна, пазамыкалася на ўсе засаўкі і праседзела на ложку да раніцы. Вярнуўся з працы муж. Расказала яна, што ноччу здарылася. І пачала прасіць, каб ён замяніўся з кім і толькі ўдзень на працу хадзіў. Пільнаваў муж тры ночы, але ніхто не з'яўляўся, і вырашылі яны, што ёй прымроілася.

Сабраўся муж ізноў у начную змену і паабяцаў, што да раніцы не вернецца, і каб дзверы нікому, нават яму самому, не адчыняла. Засталася Ганна адна. І паўтарылася ўсё тое, як было мінулым разам: згас тэлевізар, пачуліся крокі і нехта пагрукаў у дзверы. Ганна не адчыніла. Пачуўся голас з-за дзвярэй:

— Ганна, гэта я, твой муж. Я ведаю, што прасіў нікому не адчыняць, нават мне самому, але я пропуск забыўся, і мяне на працу не пускаюць.

— А дзе той пропуск ляжыць? — спытала праз дзверы Ганна.

— У спачывальні на тумбачцы, — адказаў голас.

Пайшла Ганна ў спачывальню. А на тумбачцы нічога няма. Вярнулася яна да дзвярэй і сказала, што нічога не знайшла. А за дзвярыма цішыня. Падбегла Ганна да акна, сачыла да раніцы, а з

пад'езду так ніхто і не выйшаў.

Як прыйшоў муж, спытала яго Ганна, ці не забываўся ён пропуск, а муж яго з кішэні дастаў і сказаў, што яго на працы і так добра ведаюць, пусцілі б і без пропуска.

Пайшоў муж на трэцюю ноч і папярэдзіў жонку, што ні ў якім разе вяртацца ён не будзе, што б ні забыўся, і каб нікому не адчыняла і нават да дзвярэй не падыходзіла.

Паўтарылася ўсё ізноў: і тэлевізар, і крокі, і грукат:

— Ганна, адчыні, гэта я, твой муж, я хоць і абяцаў не вяртацца, але мушу. Я інструменты дома забыўся.

Не адказала Ганна.

— Калі не верыш, то паглядзі, яны на буфеце ляжаць.

Пайшла Ганна, і сапраўды, на буфеце інструменты ляжалі. Узяла яна іх і пайшла дзверы адмыкаць. Адкінула засаўкі, і адразу ж згасла святло, і ўскочыў у кватэру мярцвяк. Схапіў Ганну і занёс на могілкі.

Вярнуўся муж, а яму ўсё суседка расказала, яна праз вочка ў дзвярах глядзела. Пайшоў муж на могілкі, убачыў сярод старых капцоў магілу са свежым жвірам, схаваўся за крыжам і пільнаваў да цемры. Апоўначы заварушылася зямля, узнялася з долу дамавіна, расчынілася, і выйшаў з яе мярцвяк, і пайшоў у горад.

Муж лёг у дамавіну і стаў чакаць. Пад раніцу вярнуўся мярцвяк — бачыць — занятая дамавіна. Пачаў ён прасіць, каб пусціў яго ў дамавіну, бо неўзабаве сонца ўзыйдзе.

— Адкажы, дзе Ганна? Тады пушчу.

І прызнаўся мярцвяк, што Ганна прадала душу Д'яблу, каб за каханага замуж пайсці. І цяпер Ганна ў Д'ябла.

— Няхай тады Д'ябал маю душу замест Ганінай возьме, а яе пусціць, — сказаў муж і адпусціў

мерцвяка.

Вярнулася дамавіна долу. Чакаў-чакаў муж і не дачакаўся. Пайшоў дахаты і ўбачыў Ганну.

Праз некаторы час нарадзіўся ў Ганны хлопчык. Сабраліся яго ў царкве ахрысціць. То ўночы ў яе стрэліў пярун. Павезлі да касцёла, а ў гэты час ксёндз раптоўна памёр. Па дарозе да дому раскруціўся хлопчык з пялюшак і з кумоў і з бацькоў кроў павысмоктваў, бо хлопчык той нарадзіўся ўпыром-людажэрам. І сапраўдным бацькам яго быў Д'ябал. Павысмоктваў кроў і ўцёк. Цяпер ён дарослы мужчына. І жыве між людзей. І ведаю я яго добра.

* * *

Кадук скончыў расказваць і дапіў каньяк, але Магда, здавалася, гэтага не заўважыла. Яна пільна глядзела на Даменіка і Ліду. Яны сядзелі абняўшыся. Да таго ж бессаромна цалаваліся, з пэўным разлікам на публіку. Ліда смяялася, закідала галаву і ўнікала пацалункаў. Дамінік прытрымліваў яе за талію, каб не павалілася разам з крэслам.

— Што далей? — спытала нарэшце Магда.

— Гляджу, пані не зацікавілася маёй гісторыяй.

— Дык гэта вы — хлопчык-людажэр?

— Вядома ж, не! Аднак я знаёмы з ім.

— І ад яго імя вы гаворыце са мною?

— Амаль што так. Вы ж чакалі сустрэчы з ім?

— Сустрэчы чакала, але не з людажэрам. — Магда выняла з рыдыкюля медальён на аб'ёмным ланцужку, расчыніла яго і паклала перад Кадуком: на срэбным полі былі высечаны тры лічбы — «Аблічы лічбу звера».

— «І лічба тая 666», — скончыў цытату за Магду Кадук. — Апакаліпсіс — прыгожая літаратура, і не болей таго. Хаця адрас у асноўным правільны. Праўда, можна было абысціся і без тэатральных эфектаў, я ж ведаю, што пані ўчора варажыла.

— Так, я выклікала Д’ябла.

— У сувязі з гэтым я маю даручэнне.

— Якое даручэнне? — Магда схавала медальён.

— Выканаць ваша жаданне, я маю паўнамоцтвы.

— За які кошт?

— Усё аплачана наперад, — Кадук паклаў на столік круглае люстэрка і ссунуў пустыя шклянкі набок, — засталося аформіць пагадненне.

Магда зазірнула ў люстэрка: замест шэрай фактурнай столі ў ім адбівалася паўднёвае зорнае неба, на якім праступаў шасціканцовы крыж.

— Што ў ім за адбітак? — спытала яна.

— Апошняе, што пані ўбачыць перад смерцю. Але гэта адбудзецца не сёння і не заўтра. Пакладзіце далонь.

Магда накрыла кола люстэрка рукой і адчула прахалоду бяздоння: пад далонню не было шкла — прорва.

— І што далей? — спытала яна ў Кадука, не здымаючы рукі з магічнай выявы.

— Ваша жаданне мне вядома, а кошт выканання абумовіла ўчарашняя варажба. Пані хацела, каб у яе закахаўся кожны, каго яна выбера? Так будзе.

— Магчыма. Што я павінна за гэта?

— Душу, але яна вам ужо даўно не належыць. Варажба — небяспечны занятак.

— Калі я павінна аддаць доўг? — залішне легкаважна спытала Магда.

— Пані мае на ўвазе смерць? Гэта вырашыць Гаспадар.

— Д’ябал?

— Гэта ён іншым Д’ябал, — Кадук абвёў рукой залу, — а нам з вамі — Гаспадар.

Магда сцялася і сціснула пальцы вакол тонкай шклянкі.

Дамінік устаў і падаў руку Лідзе. Яны падаліся да шкляных створак турнікета, што павольна круціліся перад перагонамі марскога ветру. Дамінік прапусціў Ліду наперад. Магда чакала, што ён азір-

нецца, але ён не павярнуў галавы. Яны распусціліся ў густой цемры.

— Каб спраўдзілася жаданне, дастаткова толькі маёй волі? — скептычна спытала Магда.

— Не, вяртаць яго сюды ў бар не варта. Чакайце, усё спраўдзіцца. Нават замоўленае каханне прыходзіць знянацку.

— Якія гарантыі я магу атрымаць? — Магда ўжо ледзь стрымлівалася, каб не засмяяцца.

— Ніякіх, — Кадук падняўся, — Бог не дае гарантыі. Бог дае веру. Пані ж верыць?

— Мы мусім верыць, інакш усё траціць сэнс...

— Не варта нудзіцца, — Кадук узмахнуў на развітанне рукою і зноў стаў падобны на звычайнага лодачніка.

Магда паднялася і адразу абаперлася на спінку крэсла: маёліка падлогі пахіснулася, як карабельная палуба, і знерухомела ў чаканні наступнага кроку. «Ад мужчынскай дозы каньяку магло быць і горай», — супакойвала сябе Магда. Сабраўшыся з духам, яна пусціла спінку крэсла і пераадолела адцінак дарогі да турнікета. Свежае паветра вярнула яснасць думак, але ногі слухаліся слаба. Пад балюстрадай шаргацела каменнямі мора. У разрывах нябачных далёкіх хваляў то ўзнікалі, то хаваліся агеньчыкі карабля. Магда выйшла на пірс, у святле агнёў маяка ўзнялася вялікая хваля і выкінула да яе ног шырокую паску пены. Магда ўхапілася за белыя парэнчы парапета, яе самотная постаць на бязлюдным узбярэжжы нагадвала самагубцу. Шторм мацнеў, і здавалася, хвалі вось-вось змыюць Магду ў мора. Пірс дрыжэў, нібыта пад ім бясконцаю чарадою ішлі цягнікі метрапалітэна. Затое дыхалася надзвычай лёгка. Ап'яненне праходзіла, скалынаўся ўвесь свет, але сама Магда стаяла нязрушна. Яна ўглядалася ў чорныя прагаліны між грэбнямі хваль, вада перастала быць звычайнаю вадою, мора ўяўлялася суцэльнаю жывою істотаю, якая білася з абыякавым да

ўсяго ўзбярэжжам. З акіянічных глыбіняў да Магды даходзілі трывожныя і таемныя гукі.

Жанчына не вытрымала, пусціла нагрэтыя рукой парэнчы і шпарка выйшла на праменад. Тут, у зацішку самшыта і бамбука, не верылася, што на адлегласці сто крокаў шалее небяспечная стыхія. Брама Дома творчасці свіцілася ў цемры спакоем. Магда кранула нагрэты за дзень пясчанік пілонаў і вярнула сабе веру ў рэальнасць свету. У канцы алеі праглядалася асветленая поўняю Магдзіна тэраса. Бляклы цень слізгануў па ганку і знік у прыцемку.

Магда спынілася і сціснула ў руцэ вузкае касцяное дзяржальна стылета, рыдыкюль бязважка ўпаў на каменныя пліты алеі. Магда зрабіла колькі асцярожных крокаў і ўзнялася на ганак. Лязо стылета было скіравана ў затоеную цемру.

Цвёрдая рука схапіла і ўпэўнена сціснула Магдзін локаць. Магда паспрабавала вызваліцца, але яе рука, падпарадкоўваючыся чужой волі, пайшла наперад, вастрыё стылета глыбока ўбілася ў патачаную шашалем балясіну. Каб не парэзаць пальцы, яна пусціла дзяржальна стылета. Магду прымусілі адступіць крок назад і пусцілі. Яна азірнулася. На ніжняй прыступцы стаяў Дамінік і трымаў у двух пальцах яе рыдыкюль.

— Пані хацела мяне забіць?

— А пан?

— Здаецца, яшчэ сёння мы былі на ты, — ён падняўся на адну прыступку вышэй.

— У маім рыдыкюлі ключ, — Магда паклала руку на дзяржальна стылета.

Магдзіна рука разам з дзяржальнам схавалася ў моцнай далоні Дамініка. Яны разам вырвалі клінок з балясіны. Паліраваная сталь цьмяна бліснула ў месячным святле.

— Прыгожая рэч, — Дамінік аддаў рыдыкюль.

— Ліду ты таксама лічыш прыгожай? Бо ў бары ў мяне ўзніклі сумненні наконт твайго густу, — Магда адамкнула дзверы.

Дамінік зайшоў першым і паімкнуўся запаліць святло, але цяпер ужо Магда спыніла ягоную руку:

— Пачакай, ты не адказаў.

— Я не ўспрымаю яе ўсур'ёз.

— А можа, яна цябе прагнала?

— Хіба я падобны да таго, каго можна прагнаць?

— Ты падобны да палюбоўніка.

— Я не люблю гэтага слова, — Дамінік зачыніў дзверы.

Пакой агарнула густая паўднёвая цемра. Дамінік выцягнуў рукі, але там, дзе ён спадзяваўся знайсці Магду, было пуста. Ён зрабіў яшчэ пару крокаў і сутыкнуўся з мяккім фатэлем. Недзе ў глыбіні пакоя рыпнуў паркет.

— Магда! — яго голас прагучаў самотна.

Яна не адказала. Ён адкаціў фатэль і дайшоў да стала. Дзынкнулі шклянкі.

— Я запалю святло, мне шкада посуду, — сказаў Дамінік у цемру.

— Спадзяешся лёгка знайсці выключальнік? Ён усё ж такі драбнейшы за мяне. — Магдзін голас гучаў на другі бок стала.

— Я магу бачыць упоцемку.

— І што ты зараз бачыш?

— Як ты насміхаешся.

Дамінік пачаў асцярожна абыходзіць стол, але па-здрадніцку зарыпелі масніцы.

— Я больш не адказваю, ты вылічыш мяне па голасе.

Дамінік зразумеў, што Магда за гэты час таксама не стаяла на месцы. Ён намацаў спінку крэсла і сеў.

— Шчыра кажучы, цемра — гэта мая стыхія. Цемра супакойвае, як мора. Цемру немагчыма вымяраць — у яе няма ані верху, ані нізу, у цемры няма ані добрага, ані ліхога, у ёй усё знікае, ператвараецца ў нішто, у цемры чалавек безабаронны, бо ягоная душа застаецца сам-насам. І прыгожае ў

цемры можа здацца жахлівым, а жахлівае прыгожым. Бо цемра адзінае, што не адбіваецца ў люстэрку. У ёй пачатак і ў ёй канец, — Дамінік устаў. — І ў цемры я арыентуюся лепш, чым у святле.

Ён сеў на край ложка і ўпэўнена ўзяў Магду за руку.

Ёй падалося, што ягоныя вочы на імгненне загарэліся зялёным, прывідным агнём. Загарэліся і згаслі.

Магда прыўзнялася на локці і запаліла настольную лямпу. Дамінік апусціў плафон ледзь не да самай стальніцы.

— Ніжэй не трэба, мне падабаецца бачыць цябе.

Магда выпрастала рукі ўздоўж цела і заплюшчыла вочы. Дамінік схіліўся над ёю, але яна павярнула твар да сцяны:

— Ты зноў укусіш?

— Не адразу, — Дамінік асцярожна крануў вуснамі яе вуха.

— Мне казытліва, — яна павяла плячом.

— Даруй, я хацеў, каб было прыемна, — ён расшпіліў верхні гузік кашулі.

— Каму, мне ці табе?

— Нам.

Ягоны пінжак упаў на падлогу.

— Так не бывае, у кожнага свой кайф.

— Зараз я згодны думаць толькі пра цябе, — Дамінік кінуў кашулю на пінжак.

— А потым успомніш пра сябе? — Магда глядзела ў сцяну.

— Пасля акту — сум, і ні пра што не думаеш. — Шчоўкнула спражка рэменя.

— Прыходзь пасля акту.

— Ты не любіш распранацца сама?

Ён паклаў далонь на яе сцягно: ядваб сукенкі пайшоў за рукою. Магда сціснула ногі.

— Я не буду распранацца.

— Я кахаю цябе.

— Гэта ўсур'ёз? Не жартуеш? — Магда высліз-

нула з-пад Дамініка і села, прытуліўшыся да сцяны.

— Можаш не верыць, але сапраўды так. Я кахаю цябе.

— Самае смешнае, я веру, — Магда ўсміхнулася і адвяла ягоную руку. — Але голы мужчына ў белых шкарпэтках — гэта сапраўды смешна. Паглядзіся ў люстэрка, — Магда зарагатала. — Ты мой палюбоўнік!

— Ты вядзьмарка, — Дамінік стаў перад ложкам.

— Я варажбітка.

— Я не крыўдую, бо, сапраўды, кахаю, — ён, нягледзячы на кпіны, годна апранаўся.

— І я не крыўдую, проста мне смешна, гэта мой кайф. Усё магло быць інакш, але толькі ў ложку я зразумела, што ты не паспеў памыць рукі пасля Ліды, і не толькі пасля яе. Прыходзь другім разам.

— Заўтра ўвечары? — Дамінік паклаў гальштук у кішэню.

— З раніцы, на кортах. Пачынаць лепш з гульні.

— Не баішся застацца адна? — ён спыніўся ў дзвярах.

— Мяне абароніць прывід.

— Дабранач.

Дамінік выйшаў. Магда паклала на пісьмовы стол запячатаны навюткі нататнік у тоўстай скураной вокладцы, сарвала папяровую стужку, адгарнула тытульную старонку і пачала занатоўваць падзеі мінулага дня. Яе хіліла на сон. Яна адклала ручку ў футарал і паглядзела ў расчыненае акно. Святло настольнай лямпы выхоплівала з цемры няроўнае самшытавае галлё, абсыпанае дробным, бліскучым лісцем.

«Учора за гэтым акном, здаецца, быў бамбук...» — прыгадала Магда — ёй падалося, што дом змяніў арыентацыю. Яна ўважліва агледзела пакой: не, ён быў той самы, учарашні. «Але адкуль за вокнамі іншыя краявіды?» Адказу яна не знайшла.

За сцяной нешта грукнула. Яна прыслухалася: у суседнім нумары гучалі прыцішаныя галасы. Яна выйшла на тэрасу і перагнулася за балюстраду. У вокнах самагубцы гарэла святло. Магда адышлася і здалёк зазірнула ў акно.

У фатэлі пасярод пакоя сядзеў Дамінік. Ненатуральна вывернутыя рукі звісалі з парэнчаў. Нерухомы твар закрывалі чорныя акуляры. Магда наблізілася да шкла. У яе на вачах з-пад Дамінікавых акуляраў выкаціўся і павольна споўз па твары згустак крыві, пакідаючы за сабою шырокі цёмна-чырвоны след. Магда адхіснулася і кінулася па алеі да яркіх, прарэзлівых агнёў адміністрацыйнага будынка. З-за маладога стромкага кіпарыса з'явілася постаць:

— Ці не да мяне так спяшаецца пані?

Магда з надзеяй кінулася насустрач, яна пазнала па голасе Анатоля Юра.

— У маім катэджы нябожчык!

Юр застаўся надзіва спакойным:

— Пані бегла па адміністрацыю?

— Там, у пакоі самагубцы, Дамінік, ён забіты...

— Не варта ў чарговы раз збіраць натоўп, хадземце даведаемся, баюся, што гэта зноў прывід, — Анатоль азірнуўся і сказаў кіпарысу. — Хадзем з намі, Хведар.

З-за камля выйшаў на алею той, каго Магда сёння бачыла ў бары — паўнатвары мужчына.

— Гэта за час майго адпачынку ўжо трэці выпадак, — абгрунтаваў свой спакой Анатоль. Паўнатвары кіўнуў Магдзе, і яны шпарка пайшлі. Магда за імі. За колькі крокаў да катэджа Магда спынілася і паказала на вокны, за якімі цяпер ужо не было святла:

— Ён там. Але раней гарэла лямпа.

Мужчыны наблізіліся да акна, у руках Анатоля з'явіўся кішэнны ліхтарык:

— Мінулым разам прывід вісеў у пятлі, — Анатоль скіраваў дакладна сфакусаваны прамень ліхтарыка ў пакой.

— Ён у фатэлі, пасярод пакоя, — Магда выглядала з-за Юравага пляча. Прамень слізгануў па столі і спыніўся на скуранай абіўцы пустога фатэля.

— Там? — спытаў паўнатвары.

— Так, — адказала Магда. — Але ж нікога няма. Там яшчэ нехта быў, я чула галасы. — Яна падышла да дзвярэй і тарганула клямку — замкнёна. — Трэба бегчы па ключы.

— Ключ у дзвярах. — Анатоль высвеціў накладку замка: з адтуліны тырчэў закручаны штопарам зломак ключа. — Мы з Хведарам сёння спрабавалі трапіць у гэты нумар, але бракуе вопыту — зламалі адмычку. Вокны на шпінгалетах, такім чынам цяпер у нумар не трапіш і з яго не выберашся.

— Калі гэта было? — Магда паторгала зломак.

— Адразу пасля нашай размовы ў бары, — Анатоль узяў Магду пад локаць. — І пасля гэтага ніхто проста фізічна не мог туды трапіць, хіба што прывід.. Але, спадзяемся, другі раз ён не з'явіцца.

— А лепш за ўсё не зазіраць па начах у чужыя вокны, — параіў Хведар. — Так спакайней жыць.

— Дарэчы, я вас не пазнаёміў, — спахапіўся Анатоль. — Хведар Абілка, мой сябар, пракурор на адпачынку, але гэта між іншым, рэкамендую: анекдотчык, распуснік і класны більярдзіст.

— З пані Магдай я ўжо знаёмы завочна са слоў Анатоля, — кіўнуў паўнатвары. — А каб апраўдаць рэкамендацыю, успомніў анекдот: «Ідзе мужчына паўз могілкі, бачыць — паміж капцоў нейкі мужык з дзвюма дзяўчатамі забаўляецца. Мужчына спыніўся і кажа: «Нашто табе дзве, аддай мне адну». Той адказвае: «Вось рыдлёўка, выкопвай колькі трэба...»

— Чакайце з вашымі паліцэйскімі жарцікамі, трэба знайсці Дамініка. Хадземце дазнаемся, — Магда спусцілася з тэрасы, — дзе ён зараз? Пайшлі да яго ў катэдж.

— А калі і там няма? — спытаў паўнатвары.

— Нават калі ён у сябе, то нічога не праясніцца, — прабурчэў Анатоль, але за Магдай пайшоў.

Дарога да Дамінікавага катэджа падалася ў цемры карацейшаю, чым удзень. Нават праз самшытавыя зарасці было відаць, што ў вокнах няма святла. Змрок і безжыццёвая цішыня.

— Нікога, — сказаў Хведар. — Можна вяртацца, бо другой адмычкі ў нас няма.

— Пані спадзяецца, што ён спіць? — спытаў Анатоль.

— Так, — Магда выйшла наперад. — Не думаю, каб ён зараз спаў. Трэба паглядзець. Ён ніколі не замыкае дзвярэй.

Магда ўвайшла і запаліла святло. За ёй стаялі Анатоль і Хведар. Упоперак шырокага ложка ляжалі аголеныя Дамінік і Ліда. На іхніх тварах не было ані здзіўлення, ані разгубленасці. Ліда ўсміхнулася і накрылася да пояса прасцінай:

— Кампанія невелька, але бардзо пожондна...

— ...Я, пан ксёндз і дзве курвы, — закончыў Дамінік, падняўся і накінуў халат.

— Пані Магдзе прымроіўся прывід у вашым абліччы, — у Анатолевым голасе не было і ценю збянтэжанасці. Ён сеў у прапанаванае Дамінікам крэсла. — Яна спрабавала пераканаць нас, што вы нежывы.

— Спадзяюся, даводзіць адваротнае не трэба, — Дамінік падаў Лідзе кашулю.

— Я бачыла твой акрываўлены твар праз акно, — Магда наблізілася да Дамініка. — Ты быў у чорных акулярах.

— Калі? — спытаў Дамінік.

— Толькі што, — Магда пільна зірнула яму ў вочы.

— Увесь вечар мы не сыходзілі з гэтага ложка, — Ліда паднялася, кароткая кашуля збольшага прыкрывала яе клубы.

Яна села насупраць Юра і паклала рукі на калені.

— Яны кахаліся, — удакладніў Юр.

— Дарэчы, наконт акуляраў, я іх згубіў, відаць, у бары, — Дамінік прыўзняў над сталом бутэльку.

Юр падсунуў шклянку:

— Не больш як палову.

Хведар таксама ўзяў шклянку.

— У цябе хваравітая фантазія, — Ліда пазяхнула, выбіла з пачка цыгарэту і перахапіла яе вуснамі. — Ты ж на свае вочы бачыла, як я з Дамінікам выйшла з бара. З гэтага часу ён ані на хвілю не адыходзіў ад мяне.

— Зноў прывід? — Юр паднёс агеньчык да Лідзінай цыгарэты. — Неўзабаве і я ў яго паверу, тады канчаткова Дом творчасці ператворыцца ў вар'ятню.

— Нешта занадта хутка людзі на адпачынку пачынаюць верыць у д'ябальшчыну і містыку, — Хведар паставіў на стол пустую шклянку.

— Выбачайце, што перапынілі, — Юр па чарзе пакланіўся Дамініку і Лідзе.

Хведар затрымаўся на парозе:

— На развітанне раскажу пра адно здарэнне са сваёй практыкі: ішла цяжарная дзяўчына ўначы праз моглікі і баялася. Выйшаў з-за крыжа хлопец, супакоіў яе, узяўся правесці. Выйшлі яны да брамы. Дзяўчына падзякавала і на развітанне кажа: «Любіш глядзець на зоры?» Хлопец адказвае: «Любіў, покуль жывы быў». У дзеўкі выкідыш. А хлопцу за злоснае хуліганства два гады.

Анатоль Юр, Хведар, а за ім і Магда выйшлі на алею.

— Ты, Анатоль, правядзі Магду, — Хведар на развітанне махнуў рукой і збочыў на высыпаную марскім жвірам сцежку.

— Давядзецца пані прыняць маю прапанову, — Юр асвятляў дарогу ліхтарыкам.

Магда не адказала. Пад падэшвамі яе басаножак храбусцелі і трушчыліся дробныя ракаўкі. Конус жоўтага святла ад ліхтарыка адно згушчаў цемру. Сцішэла, шум шторму змяніўся на цвыркатанне

цыкад. Аднак гэтае цвыркатанне і шамаценне рэдкіх аўтамабіляў на шашы толькі падкрэслівалі сцішанасць субтрапічнай ночы.

— Маўчанне прымаць за згоду?

Святло ліхтарыка зламалася на сходах Магдзінага катэджа, і Юр абапёрся на парэнчы.

— Пачынаю падазраваць, што вы наўмысна страшылі мяне, каб я збаялася спаць сама, — Магда пацэліла ключом у замок, — але ў пана нічога не атрымалася. Я не палахлівая.

— Для пачатку на філіжанку кавы я магу разлічваць? — не дачакаўшыся адказу, Юр увайшоў у нумар і прычыніў дзверы.

— Тады гатуйце самі, — Магда паставіла на стол бляшанку кававых гранул, кіпяцільнік і шклянкі, — вада ў графіне.

Магда кінула на руку шаўковы халат: вышыты золатам агнявы цмок узвіўся і бездапаможна павіс на яе локці.

— Нашто пані ідзе распранацца ў ванны пакой? — Юр запаволена ўсадзіў штэкер у разетку. — Даверце гэтую справу мужчынскім рукам.

— Я іду пераапранацца. І кіньце заляцацца. Са мною нумар не пройдзе.

— Пані мяне не даацэньвае. Я ў форме, і скарыстоўваць мяне для гатавання кавы — марнатраўства.

Магда не адказала і прычыніла дзверы.

— Не замыкайцеся, раптам што здарыцца, — крыкнуў Юр.

— Стары маркітун, — Магда распранулася і паглядзела на сябе ў люстэрка, адкруціла масіўны парцэлянавы махавік крана. З нікеляванага раструба на яе далоні пацякла тонкім струменьчыкам загусцелая чорная кроў. Магдзе заняло дух. Кран здрыгануўся і чмыхнуў: у ракавіну паляцелі крывавыя пырскі, а за імі следам шырокім веерам выбухнула халодная, што снег, вада.

Нарэшце Магда закрычала. У ванны пакой увар-

ваўся Анатоль Юр:

— Дзе прывід? — Юр спыніў позірк на Магдзіных грудзях і болей яго, відавочна, нічога не цікавіла. Магда забылася, што на ёй няма вопраткі.

— Кроў. У кране кроў, — яна ўсё яшчэ трымала раптоўна збялелыя далоні пад струменем празрыста чыстай вады.

— Я бачу, — пагадзіўся Юр, — гэта галюцынацыі або яшчэ горай.

Юр закруціў кран і паклаў ёй руку на плячо.

— Прэч адсюль, — Магда адштурхнула яго і накінула халат. — Там сапраўды была кроў.

— Я веру.

— Яе змыла струменем вады, — Магда ізноў адкруціла кран: пайшла звычайная вада. — Вось бачыце.

— Я не пярэчу. Пані пераконвае хутчэй сябе, а не мяне.

— Вы прымаеце мяне за шызафрэнічку? — абурылася Магда.

— За эксгібіцыяністку, калі не блытаю з эратаманкаю: я маю на ўвазе тых, каму падабаецца дэманстраваць свае геніталіі. Хадземце на каву.

У гасцёўні яны селі па розныя бакі стала. Кава ў прысадзістых літых шклянках глядзелася, як беларускі бальсан. Колькі хвілін яны моўчкі чакалі, покуль астыне напой.

— Пані дазволіць запаліць?

Магда падсунула да яго пачак цыгарэт і вымытую да рыпення попельніцу. Юр дастаў з задняй кішэні алюмініевы партсігар з залатой гаванскай каронай. Пальцы завучана адламалі кароткі мушт на цыгары і кінулі ў попельніцу. Смалісты водарны дым расцёкся па стале.

— Я прыгадаю адну цікавую гісторыю, — распачаў Анатоль Юр, — якая здарылася са мною гадоў дваццаць таму.

## ГІСТОРЫЯ ПРА МАРУ

Аднаго разу трапіў я ў мястэчка паміж Гомелем і Менскам. Запрасілі мяне на літаратурную вечарыну на заводзе «Чырвоны шыннік». Пасялілі ў драўляным двухпавярховым гатэлі. Пасля вечарыны застаўся я на танцы і пазнаёміўся з дзяўчынаю гадоў семнаццаці-васемнаццаці. Запрасіў яе да сябе ў нумар. Па дарозе зайшоў у буфет і пазычыў бутэльку каньяку, папрасіў, каб кошт каньяку ўключылі ў рахунак, які аплачваў завод, бо на той час зусім застаўся без грошай. Нумар мой быў просты і без выгодаў: жалезны ложак, адно крэсла і стол.

Выпілі па паўшклянкі, і дзяўчына сама пачала распранацца. Было гэта на Каляды, стаялі маразы. Скінула яна спадніцу, а там пад ёй цёплыя байкавыя рэйтузы да каленяў. Мяне гэта ўразіла, бо сталічная дзеўка зняла б рэйтузы разам са спадніцаю, а гэта нават не збянтэжылася.

Пасадзіў я яе да сябе на калені, ды, раптоўна, грукат у дзверы — адміністратар прыйшоў сварыцца з-за дзеўкі. Нехта яму падказаў. Давялося адчыняць. А дзеўка адно што паспела — нацягнуць рэйтузы і накінуць паліто.

Праз гадзіну ў мяне адыходзіў цягнік. Правёў я яе да дому, а сам на вакзал. Сеў у мяккі вагон. Адзін на купэ. Прайшоўся па вагоне, пашукаў, з кім дапіць каньяк, і нікога не знайшоў, нават праваднiца недзе знікла. Заслаў канапу, згасіў святло і лёг. Гляджу, адчыняюцца дзверы і заходзіць дзяўчына, скідае паліто моўчкі, а на ёй адны рэйтузы, кінулася яна да мяне.

— Ты куды? — пытаюся.

— Паеду з табою ў Менск.

— Ці ты ашалела?! Як жа ты паедзеш? У адных рэйтузах?

— Нічога, паеду.

— Гэта ж смешна.

— Няхай сабе, — адказвае яна, ды давай мяне абдымаць і цалаваць.

Расклала мяне на канапе. Уселася, рукамі ў плечы ўпёрлася, і як пачне слакатаць — смеху як не было. Я туды-сюды — не магу вырвацца. Гляджу, пачала яна з твару мяняцца — ледзь не самлеў. Бачу — ужо не дзяўчына, а нейкая пачвара. Прыбірае яна розныя звярыныя аблічча: то ваўчыцаю абернецца і сліна з языка цячэ, то вялізнаю савою і дзюбаю ў бакі водзіць, то мядзвежаю поўсцю пакрыецца.

Спыніўся цягнік на станцыі. Маё акно пад ліхтаром. Бачу, а на ёй скуры няма і вантробы відаць. Ухапіўся рукой за парэнчыну, упёрся нагамі і вывернуўся з-пад яе. А яна на калідор выскачыла. Я следам. Гляджу, у адчынены тамбур вылятае варона, а на калідоры нікога няма.

Пазней здагадаўся я, што гэта была Мара.

* * *

Анатоль пусціў у столь колца едкага дыму, яно ўдарылася ў плафон і страціла форму.

— Ну і?.. — спытала Магда.

— Усё.

— Што было далей?

— Дапіў каньяк і лёг спаць.

— Дык пан ужо меў справу з тым светам, а цяпер не верыць у яго? — паківала галавой Магда.

— А хіба ў такое можна верыць? Я нават самому сабе не веру. Раніцай, калі прыехалі ў Менск, начныя прыгоды ўспрымаліся нібыта сон.

— А для мяне няма розніцы паміж сном і рэальнасцю: і тое, і гэта існуе як успамін, — Магда паднялася. — Ужо позна, я хачу адпачыць.

— Чакайце, — Юраў тон змяніўся, — нам варта пагаварыць шчыра. Сядайце.

Магда насцярожылася, але ўсё ж вярнулася да стала.

— Я перакананы, што пані прыехала сюды не адпачываць.

— Так, — спакойна пагадзілася Магда. — Як і пан.

— Пані шукае каралеўскую карону Вітаўта Вялікага, — упэўнена сказаў Юр.

— Я шукаю брата.

— Ваш брат — Эдвард Астрожскі? — відавочна, Юр не быў да гэтага падрыхтаваны, але хутка авалодаў сабой. — Цяпер разумею, чаму вы так зацікавіліся Дамінікам і Лідай. Ліда была Эдвардавай каханкай і апошняй бачыла яго перад знікненнем.

— Апошнім яго бачыў забойца, — перакананa вымавіла Магда.

— Вы ўпэўнены, што ён нежывы?

— Я варажыла, яго няма на гэтым свеце.

— Спадзяюся, вы не лічыце, што яго забраў прывід?

— Яго забіў той, хто ўдае прывідаў. Вы былі знаёмы з маім братам?

— Збольшага, як з вамі. Але яго я не паспеў папярэдзіць, каб асцерагаўся Дамініка. А ён ім верыў, як і пані.

— Я нікому не веру. І ў шчырасць не веру таксама, — Магда паднялася.

— А я не веру ў прывідаў, і тым, хто гаворыць, што іх бачыў. Гэта як з крывёю ў кране, расказваць можна, што хочаш. А існуюць толькі рэальныя людзі, якім выгадна, каб іншыя верылі ў прывідаў.

Анатоль Юр выйшаў з катэджа. Магда замкнула дзверы на два павароты і легла ў ложак. Праз хвіліну яна правалілася ў сон, але на мяжы свядомасці і цемры сну адчула, як захістаўся пакой, і здалося, што катэдж нібыта паварочваецца вакол нябачнай восі і месячнае святло сыходзіць з яе заплюшчаных павек.

* * *

І сніліся ёй сны.

## ГІСТОРЫЯ ПРА ВІТАУТА ВЯЛІКАГА І Д'ЯБЛА

Выправіла польская шляхта злодзеяў, каб перахапіць каралеўскую карону Вітаўта Вялікага, якую везлі пад аховаю з Ватыкану. Ды толькі не ўдалося ім гэтага зрабіць. Знайшлі яны адно перабітых рыцараў і жаўнераў, ды разбітую скарбонку, у якой везлі тыя карону, бо апярэдзіў іх Д'ябал. Наляцеў са сваім войскам, пазабіваў ахову і забраў карону сабе.

Даведаўся Вітаўт, што карона ў Д'ябла, і пачаў меркаваць, як сустрэцца з ім. Але Д'ябал сам прыйшоў да яго ўначы і сказаў:

— Прадай мне душу, і вярну табе карону.

І не згадзіўся Вітаўт. Тады Д'ябал usклаў карону сабе на галаву і сказаў:

— Карона твая адгэтуль будзе належаць мне, і стану я каралём у тваёй зямлі. І ніколі не будзе мецъ караля апроч мяне. І зраблю я сабе новую сталіцу, а тваю — Вільню, аддам паганцам на здзек; будзе мая сталіца ў Менску. Пабудую сабе замак і адтуль буду панаваць над усёй Беларуссю.

Кінуўся Вітаўт на яго, але Д'ябал знік. Не вытрывала Вітаўтавае сэрца, і адразу ж сканаў ён. А Д'ябал і дагэтуль каралём над Беларуссю.

* * *

Магда прачнулася, як настройвала сябе, рана. Сонца толькі ўзнялося над роўняддзю вады і падфарбоўвала даламітавыя скалы празрыстаружовым святлом. На ўзбярэжжы не было ніводнага чалавека. З-пад чарады дашчаных лежакоў вылез і прычапіўся за Магдай валацужны сабака, худы, з чырвонымі вачыма. Ён бег за ёю на адле-

гласці, баючыся наблізіцца, але і баючыся адстаць.

Магда выйшла з мястэчка. Перад ёю разаслаўся некрануты пасля шторму і сапсаваны хвалямі жвір пляжа. Яна ўсё ішла ўздоўж мора. Сабака асвойтаўся і выбег наперад. На плячы ў Магды матлялася спартовая валізка. Праз волкае ранішняе паветра ля самага падножжа ўкрытых трапічным лесам гор выразна вымалёўваліся абрысы напаўразбураных, патрушчаных часам муроў. За імі ўздымалася такая ж безжыццёвая візантыйская базіліка.

Чым бліжэй Магда падыходзіла да руін, тым большымі рабіліся валы сухіх водарасцяў і карчоў. Напэўна, людзі тут бывалі зрэдку, і пляж ніхто не даглядаў. Раптам сабака матлянуў галавой і закруціўся вакол некранутых свежых слядоў, што вялі ад мора і знікалі на парослай чэзлаю травою раўніне.

Магда прымерала сваю нагу да адбітка на пляжы. След быў большы і шырэйшы. Сабака колькі разоў адбягаўся, але вяртаўся зноў, нібыта клікаў Магду за сабою. Ён, відавочна, непакоіўся і нечага баяўся. А калі ўбачыў, што Магда падалася да руінаў, пабег назад у мястэчка.

Магда мінула браму занядбалага манастыра і апынулася на пляцы, што зарос рэдкім хмызняком. Перад ёй паўстаў пазбаўлены дэкору фасад храма. У правалах вокнаў свяціўся блакіт неба. Па краях праваленага купала, як парцэлянавыя анёлы, сядзелі белыя чайкі. Магда зайшла за апсіды і агледзелася: густы хмызняк паміж цыклапічных блокаў і абламаных калон.

Магда вызначыла напрамак і пачала прадзірацца праз шыпшынавыя зарасці, абсыпаныя буйнымі чырвонымі ягадамі. Галлё чапляла шыпамі за лёгкую блузку. У прагале з’явіўся прысадзісты, выкладзены з базальтавых блокаў калодзеж. Магда зрабіла неасцярожны крок да яго, і

шып засохлай галінкі балюча ўпіўся ў сцягно. На апаленай скуры выступілі кроплі крыві. Не зважаючы на боль, Магда прысела на край калодзежа і схілілася над чорным жаралом студні. Яна падштурхнула далонню зломак плінфы і скінула яго долу: было чутно, як, адбіваючыся ад сценак студні, зломак ляціць у бяздонне. Удару аб дно яна не паспела пачуць. Поруч на пліты калодзежа лёг цень — Магда ўскочыла і азірнулася. Перад ёю стаяў Дамінік Рэй.

— Тут глыбока, сцеражыся, каб не сарвацца.

— Нашто ты тут? — Магда зрабіла крок у бок.

— Цябе чакаў, але не дзеля таго, каб укінуць у студню, — Дамінік заўважыў кроў на Магдзіным сцягне: — Але ты не асцярожны чалавек.

— Шыпшына, — Магда прыклала да драпіны насоўку.

— Ты не здзівілася, што я чакаю цябе.

— Я ведала — тут нехта ёсць, адно не спадзявалася, што гэта ты. Прыплыў на маторцы?

— Так. Нам трэба пагаварыць пра твайго брата.

— Адкуль ты ведаеш, хто мой брат?

— Эдвард мне расказваў пра цябе. Мы шукалі тут разам, — Дамінік паказаў на жарала студні. — Царык загінуў, а твой брат знік. Я ўжо не спадзяюся, што ён жывы. Ты, відаць, таксама.

— Эдвард знайшоў карону?

— Мы знайшлі карону, але яна знікла, — Дамінік падаў Магдзе руку. — Давай выйдзем з зарасцяў, я не маю пэўнасці, што мы тут адны.

Яны няспешна ішлі ўздоўж высокай абарончай сцяны.

— Вы знайшлі? — перапытала Магда. — Эдвард збіраўся шукаць адзін. Пра карону ён расказаў толькі мне.

— Я працаваў у архівах і бібліятэках, збіраў матэрыял пра Вітаўта Вялікага, Ягайлу — і выпадкова заўважыў, што наперадзе мяне нехта заказвае

і грунтоўна вывучае літаратуру па першай чвэрці пятнаццатага стагоддзя. Я, каб не губляць час на падборку, проста стаў заказваць тое, што і ён.

— Ты ведаеш старагрэцкую?

— Мяне кансультаваў Царык, рабіў для мяне пераклады з лаціны і грэцкай. Я не заўважыў бы той дакумент. Падзеі ў Візантыі мяне не цікавілі, але яго заказаў Эдвард. Так мы з Царыкам даведаліся пра Вітаўтаву карону. Спачатку не паверылі, як і ўсе, хто чытаў тую ахоўную грамату перад намі. Але, дзеля цікаўнасці, я вырашыў сустрэцца з Эдвардам. Сама разумееш, як я адрэагаваў, калі даведаўся, што Эдвард з'ехаў у Кок-Тэпэ, сюды, дзе схавана карона Вялікага князя. Я і Царык паехалі следам. Знайшлі Эдварда і сказалі яму, што ведаем, дзеля чаго ён тут.

— І як ён на гэта адрэагаваў? — Магда прысела на каменную прыступку і закінула нагу на нагу.

— Мусіць, пашкадаваў, што не знішчыў ахоўную грамату ў сховішчы, але нічога ўжо зрабіць не мог. Яму давялося пагадзіцца з намі. — Дамінік стаяў насупраць сонца, і ў контрсвятле Магда не магла разгледзець яго твару.

— Эдвард сапраўны навуковец, а не злодзей, каб нешта нішчыць. Думаю, для цябе не будзе навіною тое, што я скажу: цяпер граматы ў сховішчы няма — гэта ж вы з Царыкам знішчылі яе!

— Я зняў ксеракопію, а дакумент пакінуў, бо не адразу паверыў у яго. Але калі ты кажаш, што дакумент знік, то я здагадваюся, хто яго ўзяў, — Дамінік павярнуўся бокам, яго чаканны профіль наклаўся на залаты дыск сонца. — Яго ўкраў Анатоль Юр. Я перакананы, што ён таксама палюе на карону.

— Так, — пагадзілася Магда, — учора я гаварыла з ім, дакладней, ён са мною. Юр згадаў карону Вітаўта Вялікага.

— І ты прызналася, што шукаеш карону? — занепакоена спытаў Дамінік.

— Я шукаю брата. Карона на самай справе мяне не цікавіць, — Магда запаліла, агеньчык запальнічкі заставаўся нябачным у сонечным святле.

— А мяне цікавіць толькі карона. Карона Вітаўта Вялікага, беларускага князя, уладара Еўропы. Карона Беларуска-літоўскай зямлі ад мора і да мора. Я трымаў яе ў руках — святы сымболь нашага адраджэння. Яе ўкралі ў Вітаўта, у майго народа, і з гэтага пачаўся заняпад, які доўжыцца і да сёння. А я даў сабе слова, што яна вернецца, і ўваскрэсне Вітаўт, які ўскладзе карону і, як кароль, павядзе ў «залаты век». Карона — гэта той сымболь, якога сёння нестае нам, каб узняцца і перамагчы. З кароны пойдзе нашае адраджэнне...

— Так мяркуеш ты. Я ведаю, як меркаваў Эдвард. А ці быў Царык вашым аднадумцам? — Магда перапыніла Дамініка.

Ледзь заўважны дым узнімаўся па абарончай сцяне, зліваўся з блакітам неба.

— Не, Царыкам ён быў па падробленым пашпарце, а на самай справе ён польскі яўрэй, які дапамагаў мне пісаць сцэнарый, і карона яго цікавіла адно як кавалак золата і жменя дыяментаў. Віза не дазваляла яму выехаць за межы Беларусі, але гэта дэталі. Яго найбольш цікавілі грошы, і калі ён прыкінуў, колькі зможа на ёй зарабіць, то ледзь не звар’яцеў. Мы ж з Эдвардам цвёрда вырашылі, што вернем яе на Радзіму. Адразу ж паўстала праблема: каму пакінуць карону на захаванне. Дамовіліся перадаваць штодня адзін аднаму, бо ў такой справе не мелі права на давер. Кінулі жарабкі — на першую ноч выпала Царыку. Карона засталася ў яго, а Эдвард абяцаў сачыць за ім. Эдвард жыў у тваім нумары, а Царык за сцяною. Раніцай Царыка знайшлі з гарпуном у шыі, карона знікла.

— І ты стаў падазраваць Эдварда? — спытала Магда.

— Так, я і зараз упэўнены, што яго забіў Эдвард,

больш не было каму.

— Я думаю інакш.

— Я разумею, ён твой брат.

— Мяркуеш, ён забіў Царыка, забраў карону і праз тыдзень уцёк, а мяне прыслаў сюды, каб я пераканала цябе ў яго смерці?

— Пасля смерці Царыка карона была ў твайго брата, я гэта адчуваў. Ён не мог наважыцца пазбавіцца ад мяне: адна справа забіць яўрэя за ідэю, а іншае — свайго аднадумцу.

— Калі разважаць як ты, то выходзіць: карона ў Эдварда, пра гэта ведаеш толькі ты. Ты забіваеш яго і забіраеш карону...

— І што? Хаваюся тут, чакаю цябе, каб укінуць у студню? Каб карона была ў мяне, то навошта мне заставацца? Я б адразу ж уцёк. Значыцца, не я забіў твайго брата.

— Я гэтага і не сцвярджала, адныя абстрактныя развагі, — Магда паднялася.

Дамінік падаў ёй руку, і яны ўзняліся на прыступкі да храма. Успуджаныя чайкі ўзляцелі ў паветра. Сонца выйшла з-за шчарбатых муроў, і зрабілася адчувальнай ягоная гарачыня. З самага купала сарваўся і прашаргацеў па сцяне маленькі каменьчык, і пакаціўся Магдзе пад ногі — яна падняла і ўзважыла яго на далоні.

— Усё было дакладна так, як напісана ў грамаце? — спытала яна.

— Так. У шыпшынавых зарасцях і дагэтуль схаваны канат, па якім мы спускаліся ў студню. Цяпер у ёй няма чаго браць, так што не страшна, калі хто і залезе, — Дамінік пытальна паглядзеў на Магду.

— Ты паможаш мне трапіць туды. Я мушу паглядзець на тое месца.

— Пайшлі.

Не зважаючы на калючае галлё, яны зноў выйшлі да студні. Дамінік разматаў бухту каната, завязанага дзе-нідзе вузламі. Свабодны канец абкруціў вакол зломка калоны і праверыў надзей-

насць вузла.

— Я палезу першым і падстрахую цябе, — Дамінік знік у чорным жарале студні.

Магда перакінула рэмень валізкі цераз плячо і замацавала на ім мініяцюрны электрычны ліхтарык. Чакала, покуль аслабне канат. Навокал была наструненая цішыня. Са студні цягнула холадам і небяспекай. На нагрэты сонцам камень калодзежа выскачыла і імкліва знікла пясчаная яшчарка. Канат правіс, і з глыбіні пачуўся Дамінікаў голас:

— Спускайся!

Магда перакінула нагу на край калодзежа, колькі было сілаў сціснула канат і павісла над цемрай. Першыя метры даліся цяжка, шурпаты джутавы канат апякаў далоні. Магду разгойдвала, і яна збіла сабе плячо аб каменную кладку вузкага канала студні. Чысты лапік неба ўсё меншаў. Ліхтарык выхопліваў са змроку абімшэлыя камяні кладкі. Здавалася, спуску не было канца.

Нарэшце яна адчула, як яе падхапілі Дамінікавы рукі. Ён упінаўся нагамі і спінаю ў процілеглыя сценкі. Студня ішла яшчэ ніжэй. Праваруч ад яго кладка была праламаная. З пралому павявала пройма.

— Вось тут, пад крыжам, — Дамінік адвязаў ліхтарык і высвеціў вышэй пралому рэльефны шасціканцовы крыж. — Мы адразу знайшлі пазначанае месца і разбілі кладку альпенштокам.

Дамінік дапамог Магдзе залезці ў пралом. Намацаў у нішы высокую бляшанку з парафінам і запаліў кнот. Самаробная паходня асвятліла цыліндрычную столь. Яны пайшлі вузкім, толькі працiснуцца аднаму, ходам.

— Я назад не выберуся, — шэптам сказала Магда.

— Я падымуся першым, ты абвяжашся канатам, і я цябе выцягну.

— Як у казцы пра падземнае каралеўства. Ста-

рэйшыя браты выцягнулі скарб, а малодшага так і пакінулі ў студні.

Дамінік не адказваў. За наступным паваротам ход раздвойваўся. Дамінік упэўнена выбраў напрамак. Праз колькі крокаў паходня высветліла невялікае высечанае ў даламітавай скале памяшканне.

Агонь у бляшанцы затрапятаўся, і Дамінік затуліў яго ад скразняку. Перад імі ў прывідных сполахах агню паўстала прастакутная мармуровая пліта з такім жа, як у студні, шасціканцовым крыжам. Пад ім былі высечаны лацінскія літары: «REX». Дамінік аберуч узяўся за паедзеную купаросам бронзавую скабу:

— Узнімі паходню.

Пліта захрабусцела, як жорны, і павярнулася вакол сваёй восі. З-за пліты вываліўся аголены труп. Магда пусціла паходню і ўскрыкнула:

— Эдвард!!!

Дамінік схіліўся над нябожчыкам і пасвяціў ліхтарыкам яму на твар:

— Так, гэта Эдвард.

Магда ўкленчыла і з каменным тварам глядзела на праломлены чэрап брата.

— Яго забілі вось гэтым, — Дамінік дастаў з-за пліты альпеншток у плямах запечанай крыві.

— Ты знайшоў мяне, Эдвард, — Магда схілілася да самай падлогі, і яе валасы леглі на шурпатыя камяні.

Дамінік паклаў ёй руку на плячо. Магда не адрэагавала. Яна бязгучна плакала, схаваўшы твар у далонях.

— Ты павінна ехаць адсюль, — сказаў Дамінік. — Забілі Эдварда — заб’юць і цябе. А я паведамлю, каб шукалі забойцу. Ён не спыніцца і не паедзе адсюль, покуль не знойдзе карону.

— Уладам? — Магда выпрасталася і адняла ад твару далоні, яе вочы былі сухімі. — Не, я адпомшчу сама. Я пакараю забойцу і вярну карону на Бацькаўшчыну.

— Дзе пахаваем Эдварда? — Дамінік сеў пад сцяною і зноў запаліў паходню.

— Тут. За плітою, — Магда скіравала прамень ліхтарыка ў нішу.

— Сапраўды. Мы ж на чужыне. І свае праблемы мусім вырашаць самі. Нам нельга рызыкаваць каронай.

— Мы і на сваёй зямлі чужынцы.

— Да часу, — Дамінік падняўся і прыўзняў упруцянелага нябожчыка. — Мы вернемся туды з каронай.

* * *

Мора выкінула на бераг чарговую хвалю. Паміж каменьчыкаў мільгануў бліскучы панцыр краба. Анатоль Юр запусціў руку ў жвір і злавіў яго. Краб паспрабаваў вывернуць клюшню і схапіць Юра за палец, але не мог дацягнуцца.

Юр выпрастаўся і пайшоў па ўзбярэжжы да пірса, першы ўзровень якога быў усяго на метр вышэйшы за пляж. Тут ляжалі перакуленыя лодкі і катамараны. З-пад зачыненай брамы ангара выходзілі іржавыя рэйкі апарэляў і знікалі ў моры. Над першым узроўнем быў другі, ён узнімаўся на высокіх бетонных палях. Там стаялі лежакі, шэзлонгі. Драўляныя жалюзі навеса рассякалі ранішняе святло на квадраты. Знізу здавалася, што на салярыі нікога няма.

Анатоль Юр узняўся па металічных сходках на другі ўзровень. У самым канцы салярыя, там, дзе ён звісаў над морам, на лежаку загарала агаленая жанчына. Яе твар быў закрыты саламяным капелюшом. Юр пусціў краба і пайшоў уздоўж пустых лежакоў так, нібыта шпацыраваў па сталічным праспекце. На ім былі выцвілыя да белі палатняныя нагавіцы і расшпіленая, адно што завязаная на вузел крацястая кашуля. Юр спыніўся ў тарцы салярыя насупраць жанчыны і

абапёрся на трубчасты парапет. Жанчына не зварухнулася нават тады, калі Юр выняў свой заўсёдны партсігар і запаліў, адламіўшы муштук. Анатоль і не спяшаўся распачынаць размову, ён моўчкі паліў і засяроджана вывучаў жаночае цела: невялікія грудзі, падцягнуты жывот, над якім ледзь прыкметна праступалі рэбры, вузкія сцёгны і натрэніраваныя лыткі выдавалі ў ёй спартоўку. Нафарбаваныя маціцовым лакам пазногці блішчэлі на сонцы.

— У пані пекныя грудзі, не завялікія і не замаленькія, якраз узяць у руку, рыхтык у адной маёй каханкі з Пруската ўзбярэжжа, — Анатоль Юр сеў на суседні ляжак.

— Гэта было гадоў сорак назад? — Ліда зняла капялюш і перакулілася на жывот, на плячы праступіў адбітак махровага ручніка.

— Сорак шэсць, мне было гадоў шаснаццаць, а ёй, як вам — за трыццаць.

— Стары слакатун, мне дваццаць пяць! — удала крыўду Ліда.

— А гэтак казала адна з маіх сёлетніх каханак, у яе такія ж гладкія і прывабныя клубы, як у вас, але ўсё астатняе ў іншым стылі, я сказаў бы, эклектычным, — Юр падняўся і занёс цыгарны канар у сметніцу. — Я таксама распрануўся б, але баюся, што не саўладаю з сабою. Мы ж тут, як у вітрыне.

— Хворае сэрца?

— На жанчын.

Ліда паднялася: на яе смуглым целе не было і следу ад купальніка. Яна накінула халат і падперазалася срабрыстым паскам.

— Я не люблю працаваць на публіку, — Ліда распусціла і расчасала валасы.

— А ў бары з Дамінікам — усе толькі і глядзелі на вас?

— У бары было натуральна, і я там, здаецца, не распраналася.

— Але да гэтага ішло, толькі вы чамусьці хутка зніклі, не было яшчэ і дванаццаці.
— Мяне спудзілі, — Ліда развярнула шэзлонг да мора, села ў яго і паклала ногі на парэнчы парапета.
— Хто? — Анатоль абапёрся на парэнчы поруч з Лідай.
— Д'ябал, з пэўнага часу ён усюды сочыць за мною.
— Нават у ложку?
— Таму я асцерагаюся заставацца нанач адна. А ўсё пачалося з майго вяселля.

## ГІСТОРЫЯ ПРА Д'ЯБЛА І ЛІДУ

Перад сваім вяселлем ездзіла я ў адведзіны да дзеда. Ён і пытае, куды паедзем пасля касцёла. А калі ўчуў, што гуляць будзем у музычнай кавярні, вельмі ж занепакоіўся і пачаў упрошваць, каб пасля поўначы не танцавалі. Бо ў поўнач абавязкова здараецца якое-небудзь ліха. Я дэкларавала, што споўню яго просьбу.

Праз тыдзень гулялі вяселле, і я пра сваю абяцанку забылася. Пасля вянцу ў кавярні пачаліся такія скокі, што немагчыма расказаць. Хто там чуў, калі прабіла дванаццаць?! Акурат у поўнач сярод залы з'явіўся прыгожы паніч у белым гарнітуры і белых пальчатках. Мае госці падумалі, што ён сябар жаніха, а жаніховы — што мой сваяк. А я выпіла дастаткова, каб ні пра што не задумвацца. І не вельмі здзівілася, калі ён запрасіў мяне на танец. Выйшлі мы да сцэны. Кінуў ён банкноту музыкам і папрасіў, каб зайгралі для нас новую, але абавязкова доўгую мелодыю. Зайгралі музыкі, і пайшлі мы танцаваць. Мой паніч падхапіў мяне і пачаў круціць, падкідаць і перахопліваць, ажно ў мяне галава закружылася, а ён яшчэ рытм абцасамі выбіваць паспявае.

Пачаў прыглядацца кантрабасіст, чым жа ў

паніча абцасы падбітыя, што так грукаюць. Божа літасцівы — а ў яго капыты! Кантрабасіст далей басы шчыпле, ды паціху аркестрантам гаворыць: «Хлопцы, зменім мелодыю і грымнем «Святы Божа, Уладар сусвету». Глядзіце, з нашаю маладою сам Д'ябал танцуе».

Толькі пачалі музыкі святы гімн, дык паніч у дзверы — і наўцёкі. А там поўна вясельнікаў. Ён капытом шыбу высадзіў і праз акно вышмыгнуў. Каб не ўратаваў мяне кантрабасіст, то я, можа, даўно з Д'яблам у пекле была б. Вось таму я ніколі пасля дванаццаці не балюю.

* * *

— Спадзяешся гэтым уратавацца, не дапаможа. — Анатоль палашчыў Лідзіну точаную смуглаватую лытку, — яму без розніцы, ноч ці дзень, абы дванаццаць гадзін. — Анатоль паказаў на гадзіннік.

— Апоўначы і апоўдні я асцерагаюся малазнаёмых мужчын, — Ліда захінула крысо халата.

Хвалі мерна, як гадзіннік, білі ў палі салярыя. І тут, на вышыні, іх нямоцныя ўдары рабіліся адчувальнымі. Праз застылае спякотнае паветра прабілася гудзенне рухавіка. З-за мыса ўзнікла і легла ў галс маторная лодка. Яна ішла на поўнай хуткасці, гліссіруючы па марской паверхні, кіравала да пірса. У лодцы было трое: на карме Магда і Дамінік, а за штурвалам Кадук. Юр перахапіў Лідзін расчараваны позірк.

— Здаецца, учора быў іншы расклад?

Ліда не адказала. Лодка збавіла хуткасць і прышвартавалася да пірса, Дамінік дапамог Магдзе ўзняцца на сходы. Яны разам пайшлі ў парк. Кадук зацягнуў лодку на паўзатопленую платформу на канцы апарэляў, адамкнуў ангар і ўключыў электралябёдку. Платформу разам з лодкай зацягнула ў ангар.

— Мо, і мы пойдзем? — прапанавала Ліда.

— Да пані? — удакладніў Юр.

Яны спусціліся металічнымі сходамі з салярыя. Прыступкі звінелі пад цвёрдымі абцасамі Юра, Ліда ж ішла бязгучна, як котка.

Да катэджу яны дайшлі моўчкі. Перад тэрасай Ліда спыніла Юра:

— Чакайце, хвілінку, я зайду першая, у мяне не прыбрана, — Ліда пагойдвала ключом, заціснуўшы ў пальцах металічную бірульку.

— Ложак прыбіраць не варта, — Юр ашчэрыў зубы і нечакана выхапіў ключ з Лідзінай рукі. Яна паспрабавала заступіць яму дарогу, але ён усё адно адамкнуў дзверы і першым увайшоў у пакой.

У катэджы сапраўды было непрыбрана: на разасланым ложку валялася чорная карункавая бялізна, на спінцы фатэля віселі доўгія панчохі, каля ложка на падлозе рассыпаны стос газет і часопісаў.

— Я не люблю, калі ключы забіраюць, нават у жарт, — Ліда сабрала і закінула бялізну ў шафу.

— Я хацеў, каб ты трохі зазлавала, але не ўсур'ёз, — Юр адгарнуў край прасціны і сеў на ложак. — Ты ж нічога крымінальнага не хаваеш, каб так непакоіцца? — Юр прыўзняў падушку і зазірнуў пад яе. — Адна мая каханка заўсёды трымала зброю ў ложку, покуль яе не застрэлілі. Яна служыла ў паліцыі.

— Я трымаю зброю ў іншым месцы.

— Я таксама, — Юр кінуў падушку на сярэдзіну ложка.

— Чакайце, я зараз, — Ліда зайшла ў ванны пакой.

Палілася вада. Юр адразу ж падаўся ў кабінет і агледзеў шуфляды пісьмовага стала. Яго зацікавіла адна, замкнёная. Юр падсунуў крэсла і зазірнуў на шафу. Да стала ён вярнуўся з ключыкам у руцэ. Адамкнуў шуфляду і знайшоў нататнік у скураной вокладцы. З сангінавага абрэзка

вытыркалася папяровая закладка з надрукаванымі літарамі: «Вітаўт Вялікі». Юр прагарнуў нататнік. Сціхла вада. Юр падбег да ложка і схаваў нататнік пад коўдру.

— У лядоўні ёсць віно, — прапанавала Ліда. — Я думала, вы здагадаецеся і знойдзеце самі.

Яна ўзялася за ручку лядоўні.

— Да лядоўні я не паспеў дабрацца, мяне зацікавіў пісьмовы стол.

Ліда азірнулася і сціснула ў руцэ рыльца масіўнай бутэлькі:

— Вы дапытлівы, як кабета.

Халат шырока расхінуўся, але Ліда не прытрымала яго.

— Затое я не займаюся марадзёрствам, — Юр адкінуў коўдру і паказаў Лідзе нататнік: — «Э. А.» — Эдвард Астрожскі, гэты нататнік належаў яму.

Ліда шпурнула бутэлькай у Анатоля Юра. Ён паспеў ухіліць галаў. Бутэлька грымнула ў сцяну, чырвонае віно заліло прасціны.

— Гэта не ўсё, — Юр падбіў нагой стос газет. — Пані толькі выдае сябе за беларуску, а сама чытае жмудзінскія газеты.

— Гэта таксама крымінал? — яна злосна ляснула дзвёркай лядоўні.

— Ты літоўка і палюеш на карону Вітаўта Вялікага. Спачатку ты спакусіла Эдварда, а цяпер мілуешся з Дамінікам, але думаеш толькі пра карону.

— Так, я літоўка, і карона вернецца ў Літву. Вітаўтас наш князь, а вы, беларусы, быдлячы народ, нават на нацыю не цягнеце. Ані дзяржавы, ані мовы, адно слова — БэпСэСэРаўцы. І з якіх толькі нор вы зараз павыпаўзалі?

Юр падняўся і рушыў на Ліду.

— Я закрычу, — Ліда загарадзілася крэслам.

— Абыдземся без крыку, — Анатоль ударыў па крэсле нагой і яно адляцела да стала.

Ліда адступіла пад сцяну. Юр кінуў нататнік на стол і зрабіў крок наперад.

— Што табе трэба? — Ліда выставіла наперад далонь.

— Вярні карону, — Юр схапіў яе за руку.

— Я нават не бачыла яе.

— Яна была ў Эдварда, калі ён знік. Нататнік ягоны ў цябе, значыць, і карона недзе тут. Раю вярнуць мне, — па Анатолевым твары было відаць, што ён не блефуе.

— Нататнік я знайшла ў Дамініка.

— Эдвард пакінуў карону табе, ты апошняя, хто была з ім.

— Кароны ў Эдварда не было.

— Я думаю інакш, — Юр кінуў Ліду на ложак.

* * *

Магда сядзела за пісьмовым сталом. Вечарэла. Яна запаліла настольную лямпу. Адразу ж зрабілася ўтульна, але і самотна. Магда сядзела, склаўшы рукі, перад чыстым аркушам паперы: яна так і не здолела напісаць ані радка. Поруч ляжала непадпісаная капэрта. Яна нават не зварухнулася, калі ціха пастукалі ў дзверы. Грукат паўтарыўся.

— Незамкнёна! — сказала яна і выйшла ў гасцёўню.

У дзвярах стаяў Дамінік. Белая шаўковая кашуля, клубны гальштук і шырокія баваўняныя нагавіцы, палатняныя чаравікі. Ён адкінуў з ілба растрапаныя ветрам чорныя валасы. На смуглым твары стома і неспакой. Правёў рукою па чыста паголенай шчацэ:

— Ты не хадзіла вячэраць?

— Я і забылася. — Магда прапанавала Дамініку крэсла.

Некаторы час яны сядзелі ў прыцемку і маўчалі. Ціха гудзела лядоўня. Дамінік нервова то расшпільваў, то зашчоўкваў бранзалет гадзінніка.

— Я мушу ехаць.

— Калі?

— Праз два дні. Рыхтавацца да здымкаў. Калі хочаш, паедзем разам.

— У мяне яшчэ два тыдні, — Магда скрыжавала рукі на грудзях.

— Што збіраешся рабіць?

— Я знайду забойцу, — пераканана сказала Магда.

— Заставацца тут небяспечна. Да таго ж мы не прафесійныя следчыя.

— Нешта занадта лёгка ты вырашыў выйсці з гульні! — здзівілася Магда.

— Калі мы сёння хавалі Эдварда, то я зразумеў, што наступнай ахвярай будзе нехта з нас: або я, або ты.

— Ты спалохаўся? — у Магдзіным голасе прагучала пагарда.

— І я мог бы застацца, каб быў упэўнены, што карона будзе ў нашых руках. Але карона, як ты сама разумееш, занадта дарагая рэч, якую можна страціць і лёгка знайсці. Не людзі гаспадараць над ёй, а яна, як фатум нашае Бацькаўшчыны, уладарыць над намі. Каб яна давалася ў рукі, трэба мець на яе правы. А яна, дарэчы, забівае. І сама абярэ таго, хто варты яе. Астатнія загінуць. А калі сярод нас не знойдзецца такога, то карона зноў на стагоддзі знікне ў зямлі, да наступнага адраджэння, — Дамінікавы вочы блішчэлі шалёным агнём.

— Ты файны тэарэтык беларускага манархізму, — каб схаваць усмешку, Магда запаліла. — Ты нагадаў мне адну гісторыю пра скарбы.

## ГІСТОРЫЯ ПРА СХАВАНЫЯ СКАРБЫ

— У нашай зямлі схавана шмат скарбаў, і на кожным вялікім скарбе сядзіць Злы Дух, які не дае яму выйсці на паверхню і паказацца на свет, бо скарбы належаць людзям, і зямля хоча аддаць іх.

Адзін раз у год яны з'яўляюцца на паверхні — гэта калі судзяць Пана Ісуса. Злыя Духі тады злятаюцца да касцёлаў слухаць набажэнства. Цешацца, што Хрыстос ідзе на смерць. У гэты дзень скарбы адкрываюцца людзям, бо няма каму іх пільнаваць.

Аднойчы, якраз у такі дзень, ішла кабета з немаўлём праз лес. Тут бачыць: ляжыць на паляне вялікая крушня каштоўных каменняў, золата і срэбра. Паклала яна дзіця на крушню і пачала зграбаць золата ў прыпол. Нагрэбла яго і пабегла хаваць. Вярнулася. Набрала другі прыпол — ізноў мала. А за трэцім разам вярнуўся Злы Дух, бо набажэнства скончылася. І пайшоў скарб разам з дзіцем пад зямлю. Плакала, лямантавала маці, але што тут парадзіш?

На другі год пайшла яна на тое самае месца. І ўбачыла свайго хлопчыка. Сядзеў ён на залатой крушні, гуляў з рондлікам, а апрануты быў у рызманы, пашытыя з размаітых лапікаў. Не паквапілася кабета на тыя скарбы, а схапіла хлопчыка і пабегла дадому.

Еў хлопчык у Злога Духа з таго рондліка ўсё, што гандляры не даважвалі людзям, калі прадавалі. А апрануты быў ва ўсё тое, што гандляры не дамяралі, бо ўсё гэта крыўда, гэта ўсё адно Злы Дух забірае, і людзі з таго нічога не маюць.

* * *

— Ты яшчэ здольная жартаваць? — Дамінік узняў галаў.

— Гэта не жарты, — Магда азірнулася на дзверы.

— Дазволіш застацца ў цябе?

— Не цяпер, — Магда прыслухалася. — Сапраўды, нехта ідзе.

У нумар без стуку ўбегла Ліда. На ёй быў белы напаўспартовы гарнітур, чорныя кеды, рудыя валасы хаваліся пад чырвоным жакейскім капту-

рыкам. Па твары было пазнаць, што яна толькі што плакала і гатовая расплакацца хоць зараз. Прыпухлыя павекі і змазаны макіяж, пачырванелы мініяцюрны носік. І пурпуровыя вусны.

— У цябе такі выгляд, — замест прывітання змрочна сказала Магда, — нібыта цябе тры хвіліны таму згвалціў Юр.

— Ты амаль угадала, — Ліда села на тумбачку каля дзвярэй.

— Імпатэнт згвалціць не можа, — пазяхнуў Дамінік. — Кажы, што здарылася?

— Гэты маньяк мяне ледзь не забіў. Спачатку спакушаў, а потым пачаў пагражаць, патрабаваў, каб я вярнула тое, што мне быццам бы пакінуў Эдвард, а ён мне нічога не пакідаў, — на адным выдыху выдала Ліда.

— Ён удакладняў, што ты павінна вярнуць? — Дамінік глянуў на Магду.

— Тое, што мне пакінуў Эдвард, — спалохана паўтарыла Ліда.

— А што ён табе пакінуў? — Магда падала Лідзе паўшклянкі віна з лядоўні.

— Нічога. Нічога ён мне не пакідаў! — Лідзін голас задрыжэў і сарваўся на крык.

— І за гэта ён меўся забіць цябе? — Дамінік наліў Магдзе і сабе.

— Згвалціць і забіць, — удакладніла Магда.

— Табе жартачкі, — упершыню Ліда ўсміхнулася. — Трапіла б ты на маё месца. Ён пакінуў мне дзве гадзіны на роздум і загадаў прынесці гэтае невядома што на пірс, чакаць яго на салярыі. Смеху ў гэтым мала, я баюся.

— Дзе ён зараз? — спытаў Дамінік.

— Відаць, сочыць за мною, — Ліда з-за фіранкі паглядзела ў акно.

— Хадзем, я пагавару з ім, — прапанаваў Дамінік.

— Я баюся, будзе яшчэ горш, — Ліда камячыла ў кулаку насоўку.

— Тады заставайся тут, а я пайду з Дамінікам, — Магда ўстала.

— Ён убачыць вас і зразумее, што я зноў засталася адна, на другі раз мяне не хопіць.

— Памяняемся вопраткай, — Магда падала Лідзе свой халат. — Распранайся.

Дамінік моўчкі павярнуўся спінай да жанчын. Магда хутка апранула Лідзін гарнітур і заправіла валасы пад чырвоны жакейскі каптурык.

— Зачыняйся, мы вернемся праз гадзіну, — Магда дастала з рыдыкюля стылет, але яе спыніў Дамінік:

— Пакінь яго Лідзе, з табою буду я.

Магда аддала стылет і здзівілася, наколькі Ліда зрабілася падобнаю да яе.

— Выйдзем разам на цэнтральную алею і нібыта развітаемся. Ты падымешся на салярый, а я абыду парк і схаваюся ў бамбуках, недалёка, так каб бачыць цябе.

Дамінік з Магдаю выйшлі на ганак і пачулі, як Ліда павярнула ключ у замку.

Магда выйшла на праменад. Дамінік здалёк махнуў ёй рукой. За сходамі салярыя свяцілася акенца лодачнага ангара. За ім Магда заўважыла Кадука. Ён ляжаў з заплюшчанымі вачыма на лежаку. Са сціснутых зубоў тырчэў бурштынавы муштук люлькі. Як ні старалася Магда сцішана ступаць, але металічныя сходы гулі, нібыта памінальны звон. На бязлюдным салярыі кідаў невыразныя плямы святла падслепаваты ліхтар. Глыбока ўнізе за парэнчамі выгіналася марская паверхня. На далёкім мысе канвульсіўна ўспыхваў маяк. Чарната мора злівалася з зорным небам, далягляду не існавала, недзе паміж зораў і іх адбіткаў праступалі агні прагулачнага катамарана.

Магда сачыла за ім, покуль ён не знік за далёкім мысам. Начны брыз выносіў шматкі рок-н-рола. Здавалася, ва ўсім свеце не засталося людзей, іх

усіх праглынула цемра. Магда пачала мерзнуць, як яе насцярожылі крокі на алеі: хто там ішоў, яна не бачыла. Загулі сходкі. Магда села ў шэзлонг і напружана сціснула парэнчы. На салярый узняўся Дамінік:

— Магда? Ён, відаць, не прыйдзе.

— Так, пайшлі, я ўшчэнт змерзла. Ліда, напэўна, думае, што нас пазабівалі, — Магда пайшла ўслед за Дамінікам.

Ужо на алеі яна азірнулася — у ангары было цёмна.

Дзверы Магдзінага катэджа былі наросхрыст. Магда кінулася наперад, але Дамінік прытрымаў яе за руку.

— Так не павінна быць, — задыхнулася Магда.

Першым ніхто не адважыўся запаліць у пакоі святло. Нарэшце Магда намацала ўключальнік. Заміргала лямпа дзённага святла.

На ложку накрытае прасцінаю ляжала нерухомае цела. Магда падышла да яго і не магла прымусіць сябе адгарнуць покрыва. Дамінік павольна сцягнуў прасціну. На ложку ляжала Ліда, яе шыя была зацягнута капронавай панчохай, на пасінелым твары адбіваліся пакута і жах. У руцэ яна сціскала стылет. У шырока раскрытых вачах не было ўрачыстасці і спакою, уласцівых смерці.

Дамінік зноў накрыў нябожчыцу:

— На яе месцы мусіла быць ты.

Магда не адказала. Яе калаціла. Яна апусцілася на падлогу і абаперлася на ложак. Па шчаках пабеглі буйныя слёзы. Магда абхапіла Дамінікаву нагу і прыціснулася да яе шчакою. Больш яна не стрымлівала сябе. Пачалася істэрыка.

Дамінік асцярожна адвёў яе рукі. Адчыніў лядоўню. І плеснануў у шклянку каньяку. З нагруднай кішэні дастаў бліскучую канвалютку і ўкінуў у шклянку чатыры таблеткі. Пайшлі бурбалкі, таблеткі рассыпаліся на парашок і распусціліся.

— Выпі, — Дамінік падаў шклянку Магдзе.

Расплёхваючы трунак, Магда выпіла яго да астатку.

— Што гэта?

— Табе трэба супакоіцца.

— У мяне дзеравянеюць вусны. Ты атруціў мяне! — яна паспрабавала падняцца, але ногі не слухаліся.

— Там соннае. Каньяк і соннае, — Дамінік падхапіў бязвольную Магду і занёс на канапу ў кабінет. — Там соннае, супакойся.

Ён нахіліўся над ёю.

Але Магда ўжо амаль не чула яго.

* * *

Анатоль Юр выйшаў на алею: за жываплотам з колкай аўстралійскай асакі і пульхнай агавы блішчэлі ў ліхтарным святле лаўровыя кусты. Невысокія ліхтары-таршэры хаваліся паміж мексіканскіх кактусаў і альясаў. Раптоўна ўключылася і залапатала палівальная ўстаноўка. За дэндрарыем пуставаў пляц тэніснага корта.

На тэрасе катэджа ў шэзлонгу сядзеў Хведар Абілка: у кароткіх, як сточаныя алоўкі, пальцах ён трымаў прасціну курортнай газеты. Шырокую руку перахопліваў залаты бранзалет гадзінніка. Падкасаныя рукавы джутавай марынаркі, сінія спартовыя нагавіцы з лампасамі і белыя красоўкі выдавалі ў ім аматара спартовых відовішч.

— Дзе ты ходзіш? — Хведар адклаў газету, яго шырока пасаджаныя вочы дапытліва глядзелі на Юра.

— Як звычайна — па бабах, — Анатоль сеў насупраць і будзённа запаліў цыгару.

— А я думаў, ты заняты толькі каронай.

— Адно другому дапамагае.

— Відаць, ты знайшоў карону ў Магды пад ложкам?

— Каб яна была пад ложкам, мы б ужо былі

дома, — сур’ёзна адказаў Юр.

— То навошта марнуем час? Мы дамаўляліся на два тыдні, і я пачынаю сумнявацца ў сапраўднасці тваіх звестак. Я зрабіў памылку, што паслухаў цябе і не перадаў справу афіцыйным уладам.

— Яшчэ скажаш — кампетэнтным органам. Яны знайшлі б і кампетэнтна загналі яе на міжнародным аўкцыёне, — зазлаваў Юр і ледзь не пракусіў цыгару.

— Мяне непакоіць, што справай займаюцца крымінальнікі.

— Паглядзі, што я знайшоў у Ліды, — Юр паклаў на стол перад Хведарам аркуш паперы. — Ксеракс з візантыйскага арыгінала, таго, які ўкралі.

— Ну, ты мяне здзівіў. Такі ж ксеракс ёсць у нас. Толькі ён ні да чаго не варты. Карона цяпер у іншым месцы, і, відаць, далёка адсюль. Магчыма, з яе ўжо дантысты ставяць зубы.

— А я вылічыў, дзе карона, — Анатоль уладным жэстам перапыніў Хведара. — Яе забраў Царык...

— На той свет?

— Пачакай, у Царыка кароны не знайшлі, і мы зрабілі памылку, калі ўзялі на веру, што яе забраў Эдвард. Усё прасцей: уяві сябе на месцы Царыка. Табе на адну ноч пакідаюць карону. Што ты робіш далей?

— Уцякаю з каронай, — пагадзіўся Хведар.

— За табой сочыць Эдвард. Выйсці з дому ты можаш толькі з пустымі рукамі.

— Мне спатрэбіцца памагаты...

— І заўваж — такі, які нічога не ведае пра карону і не выклікае падазрэнняў, можа хадзіць па ўсім Доме творчасці. Карацей, нехта з персаналу. Царык у той вечар дамовіўся наконт лодкі з Кадуком і папрасіў зайсці ў катэдж — узяць валізку і вуды. Карона была ў валізцы. Эдвард сачыў за Царыкам, але не ўпільнаваў Кадука. Вось чаму ў Царыка не знайшлі карону. На раніцу Кадук зайшоў пабудзіць Царыка, а той — нежывы.

— Калі карона ў Кадука, то чаму ён яшчэ тут? — спакойна спытаў Хведар.

— А куды яму ўцякаць? Ён у сябе на радзіме, заўваж, адзіны, каму нікуды не трэба выязджаць, а ўсе скарбашукальнікі, раней ці пазней, раз'едуцца.

— Хадзем да Кадука, — Хведар падняўся. — Але гэта ўжо твая пятая беспамылковая версія. Ты адно па бабах прафесіянал, а як следчы ты — аматар. Маё ж меркаванне такое: следствам па смерці Царыка займаліся грунтоўна, і Кадука трэслі як мае быць.

На праменадзе было нечакана ветрана. Спакойнае ўдзень мора зноў пайшло небяспечнымі хвалямі, што залівалі пляж пад самы парапет. Рэдкія аматары моцных трункаў і вячэрніх прыгод шпацыравалі паміж барам і кавярняю. Анатоль з Хведарам выйшлі да пірса. Юр зазірнуў у асветленае акенца ангара:

— Кадук у сябе.

Хведар адчыніў дзверы. Кадук ляжаў на тапчане і глядзеў тэлевізар. Юр прыбраў гук і без запрашэння сеў у крэсла. Кадука паводзіны наведвальнікаў не здзівілі, ён нібыта чакаў менавіта такога візіту.

— Нас цікавіць адна дробязь, — пачаў Хведар. — Гэта звязана з самагубцам, Альгердам Царыкам.

Кадук не адказваў.

— Увечары ён заказваў лодку.

Кадук кіўнуў галавою.

— Нараніцу ты знайшоў ягоны труп.

Кадук ізноў пацвердзіў.

— Ягоная валізка заставалася ў цябе.

Кадук ізноў кіўнуў, але адразу ж спахапіўся і запярэчыў:

— Ніякай валізкі ў мяне не было.

Юр моўчкі падняўся і ўключыў гук у тэлевізары на ўсю магутнасць.

— Я не пытаюся. Я сцвярджаю, — пракурор-

скім голасам Хведар перакрыў тэлевізійную музыку.

— Дзе рэчы Царыка? — Юр стаяў у дзвярах.

— Хочаш, каб мы растрыбушылі тваю нару? — Хведар падняўся.

— Яна была ў мяне, — Кадук сеў, — а цяпер няма. Яе выкупіў Эдвард у той жа дзень.

— Хто пра гэта ведаў яшчэ? — Юр не адыходзіў ад дзвярэй.

— Ніхто. Бо ніхто і не цікавіўся.

— А ты сам пацікавіўся, што ў валізцы? — Хведар змяніў тон.

— Не, не паспеў. Эдвард ад мяне не адыходзіў. А што там было?

— Каменні, — Юр выйшаў на праменад.

Хведар прыглядзеў лаўку ў бамбуках, куды не даходзіла ліхтарнае святло. Яны з Анатолем селі і запалілі.

— Ты яму верыш? — спытаў Юр.

— А што зробіш? Не паліць жа яму пяты? — Хведар паказаў на агеньчык Юравай цыгары.

— Каб карона і зараз была ў Кадука, ён нам не расказаў бы пра валізку.

— Маеш рацыю, — пагадзіўся Хведар. — Але ад гэтага не робіцца лягчэй.

— Я зноў ведаю, дзе карона, — падхапіўся Юр.

— З мяне хопіць, я — пас, — махнуў рукою Хведар.

— Гэтым разам памылкі не будзе, — настойваў Юр. — Глядзі: Эдвард займаўся Царыкавым пахаваннем і ведаў, што за ім сочым і мы, і Дамінік, і Ліда. Уцячы з каронай ён не можа, бо тады выдасць сябе. Ён мусіць прыхаваць карону да часу. Я на ягоным месцы паклаў бы яе ў труну да Царыка.

— Не, на начную эксгумацыю трупа і марадзёрства я не здатны, да таго ж твае здагадкі мяне не пераконваюць. Ты запрасіў мяне як спецыяліста, і вось табе мая парада: цябе пасадзяць, і ніякі праку-

рор не дапаможа.

— Дзікая ў нас дзяржава: ёй дапамагаюць не адвакаты, а пракуроры. Вось таму і мае ўчынкі будуць дзікімі, — Юр шпарка пайшоў да пірса.

— Вар'ят, — сказаў Хведар, калі згледзеў, што Юр сарваў з пажарнага стэнда чырвоную рыдлёўку.

Ён падняўся і няспешна накіраваўся ў парк. Цёмныя вокны Магдзінага катэджа выдавалі нежывымі і прымусілі Хведара насцярожыцца. Ён узняўся на тэрасу, пагрукаў у дзверы. Ніхто не азваўся, і ён паторгаў клямку — незамкнёна.

— Пані спіць? — Хведар увайшоў у гасцёўню, і ягоны голас самотным рэхам азваўся ў пакоі. Ён запаліў святло. На непрыбраным ложку пакамечаныя прасціны, на падушцы завязаная на вузел панчоха. Хведар зазірнуў у кабінет. На вузкай канапе ляжала Магда. На тумбачцы побач з пустой шклянкай пакамечаная канвалютка соннага. Хведара насцярожыла ненатуральна падкурчаная Магдзіна рука. Ён нахіліўся і зазірнуў у шклянку — на донцы белы асадак. Хведар узяў Магду за руку і намацаў пульс. Яна не рэагавала. Ён запаліў святло і прыўзняў Магдзе павекі. Яна злёгку прачыніла вусны. Хведар падхапіў яе і занёс у ванны пакой.

Калі па Магдзіных валасах пабеглі струмені халоднай вады і яна прачыніла вочы, ён прымусіў яе выпіць ледзь не поўны графін вады.

Праз паўгадзіны аматарскай рэанімацыі Магда здолела выйсці ў гасцёўню. Некаторы час яна глядзела на непрыбраны ложак:

— Яе ўжо забралі? — спытала яна і апусцілася ў фатэль.

— Яшчэ б паўгадзіны і забіраць давялося б пані. — Хведар наліў сабе каньяку і ўзняў шклянку. — За ваша здароўе.

— Дзе яна?

— Хто? — здзівіўся Хведар.

— Ліда. Яе труп ляжаў на гэтым ложку. Яе заду-

шылі вось гэтай панчохай, — Магда абхапіла галаву рукамі.

— Пасля смяротнай дозы соннага можа прымроіцца і не такое.

— Я на свае вочы бачыла труп!

— І гэта ўжо другі раз: спачатку Дамінік, цяпер Ліда. — Хведар наліў яшчэ.

— Як вы сюды трапілі? — занепакоілася Магда. — Што вам трэба?

— Праз незамкнёныя дзверы, а трэба мне, каб вы зноў не спакусіліся на сваё жыццё. Таму я не пайду адсюль, покуль не ўпэўнюся, што небяспека мінула.

— Я не веру вам. Гэта Юр забіў Ліду, магчыма, з вашаю дапамогаю.

— Юр забіў Ліду? — на чырвоным Хведаравым твары адбілася расчараванне. — Каб пані сказала: «згвалціў» — я б паверыў. З якой нагоды было піць столькі соннага?

— Я і не піла.

— А вось цяпер я ўжо не веру пані. Дарэчы, пазваніце: магчыма, Ліда ў сваім катэджы. — Хведар паставіў на стол тэлефонны апарат і паклаў побач спіс нумароў.

Магда накруціла нумар. У Лідзіным катэджы ніхто не браў трубкі. Яна ўдарыла пальцам па рычагу і набрала нумар дзяжурнай кансьержкі, ад якой даведалася, што Ліда з’ехала і паўгадзіны назад пакінула ключы ад катэджа.

— Ну што, пераканаліся? — спытаў Хведар.

— Ага, — няпэўна адказала Магда.

— Быў у маёй практыцы адзін анекдатычны выпадак.

## ГІСТОРЫЯ ПРА ГАРНІТУР НЯБОЖЧЫКА

Неяк у гарадскую пракуратуру пайшлі скаргі, што труцяцца людзі, а міліцыя ніякіх захадаў не робіць. Даручылі мне разабрацца. Падняў я справы

і даведаўся, што насмерць ніхто і не атручваўся. Але скардзіліся ўсе на адно і тое ж: купляюць на Камароўскім рынку рыбу — вось такіх карпаў, кілаграмы па тры, — прыносяць дахаты, а яны няўежныя, смярдзяць, як грамадскія прыбіральні.

Прынялі мы аператыўныя меры і затрымалі на Камароўцы мужыка, што там карпамі гандляваў. Карпы ў яго былі — я такіх вялікіх раней і не бачыў, як парсюкі. Спыталі, дзе ён іх бярэ; спачатку не хацеў казаць, а потым прызнаўся. Ён вартаўнікам працаваў на гарадскіх палях фільтрацыі, дзе ўся каналізацыя адстойваецца. Дык у тых ставах з фекаліямі ён карпаў і разводзіў. Карміць рыбу не трэба было, але і есці яе было немагчыма.

Далі яму год «хіміі». Але гэтым гісторыя не скончылася.

Адзін чалавек зайшоў неяк у камісійную краму; бачыць — вісіць там між іншымі гарнітур, рыхтык такі, у якім ён бацьку свайго месяц таму пахаваў. Папрасіў ён той гарнітур паглядзець. Сунуў руку ў кішэнь і знайшоў крыжык, які сам бацьку паклаў, як хавалі. Іншы хто сказаў бы — містыка, а ўсё было іначай. Па квітанцыі знайшлі таго, хто гэты гарнітур у краму здаў. І быў гэта той самы мужык, што раней карпамі гандляваў. Пачалі мы за ім сачыць. І даведаліся, што цяпер ён працуе вартаўніком на могілках, а на Камароўцы замест карпаў гандлюе парсюкамі, якіх недалёка ад могілак і гадуе ў хлеўчыку.

Прыціснулі яго з тым гарнітурам, ён і прызнаўся, што выкопвае нябожчыкаў і корміць імі парсюкоў. А парсюкі, трэба пагадзіцца, што добрыя валы, і сала амаль няма. А галоўнае — паху ніякага. Каб не той гарнітур, то і дагэтуль бы гандляваў.

* * *

— Кажаце, па гарнітуры знайшлі, — Магда заўважыла на суседнім крэсле чырвоны жакейскі

каптурык. — Пан следчы не пазнае, чый на мне гарнітур?

Магда адзела каптурык і паднялася, дэманструючы белы спартовы гарнітур.

— Гарнітур Лідзін, але з гэтага не вынікае, што яе забілі, і тым больш, што яе забіў Юр.

— Ва ўсім гэтым наогул няма логікі. Я мушу знайсці Дамініка, — Магда паднялася і выйшла на тэрасу.

* * *

Анатоль Юр убіў рыдлёўку ў мяккі жвір капца і сеў адпачыць. Па-за могілкавай агароджай цьмяна прамалёўваліся абрысы закінутага візантыйскага манастыра. Абапал долу высіліся гурбы свежай зямлі. На імгненне Юру падалося, што за помнікамі мільганула постаць. Ён згасіў цыгару і саскочыў у дол. З яміны тырчэла адно ягоная галава. Прыслухаўся: з адхону ў раскапаную магілу прашаргацеў струмень сухога жвіру, цвыркаталі цыкады і чулася штармавое гудзенне мора. Юр зноў пачаў капаць. Нарэшце лязо рыдлёўкі глуха ўдарыла ў вечка труны. Шырока расставіўшы ногі, Юр адчысціў яго ад жвіру. Выняў насоўку і перавязаў твар, лязо рыдлёўкі ўбіў пад вечка і націснуў на яго нагой — зарыпелі цвікі і захрабусцела дрэва. Непатрэбную ўжо рыдлёўку Юр выкінуў з ямы, падчапіў вечка рукамі, і, затрымаўшы дыханне, адвярнуў яго набок. У прывідным святле месяца бліснулі дыяменты і залатыя пялёсткі кароны. Стараючыся не глядзець на тое, што некалі было чалавечым тварам, Юр узяў карону і нагою завярнуў вечка на месца. Выпрастаўся і паставіў карону на край магілы. Над яго галавою бліснула лязо рыдлёўкі і раскроіла чэрап. Цела Анатоля Юра безуладна павалілася на вечка труны.

Кадук упэўненым рухам кінуў карону ў торбу і

пачаў засыпаць магілу. Праз дзесяць хвілін усё было скончана: на пустых могілках высіўся акуратны капец з драўлянай пірамідкай і надпісам: «Альгерд Царык, 1950—1990».

Рыдлёўка, як гарпун, рассекла хвалю і знікла. Кадук ішоў уздоўж мора, яго сляды залівала марская пена.

* * *

Магда паторгала клямку на дзвярах у Дамінікавым катэджы. Замкнёна.

— Адмычак у вас болей няма? Але ж я павінна трапіць туды.

Хведар моўчкі падышоў да акна і праз адчыненую фортку адкінуў шпінгалет, папхнуў фрамугу. Магда, а за ёй Хведар трапілі ў нумар. Хведар надзейна зачыніў акно, зашморгнуў фіранкі і толькі тады запаліў кішэнны ліхтарык.

У пакоі, відавочна, усё было падрыхтавана да ад'езду. Спакаваная валізка і чамадан стаялі на ложку. Магда расшморгнула маланку валізкі: наверсе ляжалі скручаны Магдзін халат з агнявым цмокам, які яна пакідала Лідзе. Яна разгарнула халат — на ложак выпалі знаёмыя Магдзе рэчы: Эдвардаў нататнік у скураной вокладцы, Дамінікавы акуляры, Магдзін ручнік, перапэцканы сінім грымам. Хведар скіраваў ліхтарык у валізку: прамень выхапіў бляшанку са штучнай бутафорскай крывёю і грымёрскі набор.

— Вось і ўвесь джэнтльменскі набор прывіда, — Магда паклала рэчы на месца.

— Цішэй, — Хведар згасіў ліхтарык.

Пад самымі вокнамі пачуліся крокі. Дамінік адамкнуў дзверы і запаліў святло, следам за ім у катэдж увайшла Ліда:

— Ты перакананы, што ён не ўцячэ іншым шляхам?

— Я паглядзеў — ён падрыхтаваў лодку, — Дамі-

нік узяў рэчы з ложка, патушыў святло і яны з Лідай выйшлі на вуліцу.

Магда адчыніла шафу і перавяла дыханне:

— Пайшлі?

Хведар дапамог ёй выбрацца.

— Чуткі пра Лідзіну смерць, мусіць, перабольшаны, — Хведар адхіліў рог фіранкі і глядзеў у акно.

— Тады адкуль у іх мой халат, а на мне Лідзін гарнітур?

— Відаць, вы ўтраіх забаўляліся ў ложку, ды ўпоцемку паблыталі вопратку.

— З-за чаго я і вырашыла скончыць жыццё самагубствам, а Дамінік з Лідай з'ехаць? — Магда таксама глянула ў акно.

Дамінік з Лідай ішлі па алеі да пірса.

— Каб яны збіраліся з'язджаць, то пайшлі б у другі бок, да вакзала. З-за шторму на кацеры ў мора не выйдзеш, — услых заўважыў Хведар.

— Яны мяне палохалі, толькі не разумею, навошта? — Магда адчыніла акно.

— Яны палохалі ўсіх, хто паляваў на карону.

— Я не палюю на карону, у мяне з імі іншыя рахункі, — Магда саскочыла на газон. — Вы пойдзеце са мной?

— Не ведаю, — Хведар пацiснуў плячыма.

* * *

Кадук з вайсковай брызентавай торбай на плячы спыніўся ў цемры перад асветленымі бетоннымі канструкцыямі пірса. Ані на салярыі, ані на ніжняй пляцоўцы, па якой каціліся магутныя хвалі, нікога не было. Цёмнае круглае акно ангара выдавала ілюмінатарам затопленага карабля.

Кадук ухапіўся за парэнчы і спрытна ўскочыў на пірс. Чарговая хваля нанізалася на рэйкі апарэляў і рассыпалася на бетонных палях. Кадук адамкнуў дзверы і зайшоў у цёмны пакой. Запалілася святло. За сталом разняволена сядзеў Дамінік.

Абабітыя бляхаю дзверы ў ангар былі прачынены, там у глыбіні бялеў корпус кацера.

— Як там на могілках маецца Юр? — парушыў маўчанне Дамінік.

Кадук зацята маўчаў.

— Рыдлёўку раю павесіць на месца, раптам пажар, — Дамінік запаліў.

Кадук асцярожна зняў з пляча торбу.

— Хочаш паказаць мне карону? Яна належыць мне. Пастаў на стол і адыдзіся да сцяны, — Дамінік адсунуўся разам з крэслам, у ягонай руцэ бліснуў кароткі клінок стылета.

Кадук, не зводзячы вачэй з Дамініка, запусціў руку ў торбу і выхапіў адтуль вялікі садовы нож з крывым, што ў асманскага ятагана, лязом.

— Ты і Анатоля гэтым нажом? І дагэтуль носіш яго з сабою? — Дамінік павесялеў. — Я сказаў — карону на стол.

Кадук зрабіў крок назад, не выпускаючы торбы з рук. Яму ў патыліцу скіраваўся гарпун падводнай стрэльбы.

— Стаяць! — загадала Ліда, яе палец ляжаў на спуску стрэльбы.

Кадук павольна азірнуўся, пад калматымі бровамі вочы набрынялі крывёю. На твары з'явіўся драпежны выскал.

— Супакойся. Ты ж бачыў, як загінуў Альгерд? Ліда не схібіць і цяпер, — Дамінік падняўся.

Кадук зрабіў крок да Дамініка, і, раптоўна прыгнуўшыся, завярнуў на яго стол. Ліда націснула спуск стрэльбы, тонка прасвістаў гарпун і навылёт прабіў Кадуку шыю. Ротам пайшла крывавая пена. Кадук у агоніі сашчапіў пальцы на ручках торбы. Ліда адкінула непатрэбную ўжо стрэльбу і паспрабавала вырваць торбу з Кадуковых рук, але нябожчык не аддаваў. Дамінік падчапіў донца торбы і разадраў брызент. У яго руцэ з'явілася і заззяла сполахамі дыяментаў карона Вітаўта Вялікага. Дамінік пераступіў праз труп Кадука і ўсклаў каро-

ну на голаў.

— Не намуляе вушы? — у дзвярным праёме стаяў Хведар, а за ім Магда. Хведар сціскаў у руцэ доўгае дзяржальна пажарнай сякеры.

Ліда ўскочыла ў ангар. Дамінік адступіў за ёю. За імі імгненна зачыніліся ababiтыя бляхаю дзверы, бразнула засаўка. Хведар чартыхнуўся і з усяе сілы сакануў па блясе. Сякера адскочыла, з-пад рассечанага металу пасыпаліся на падлогу кавалкі асбесту.

— Паспрабуем праз браму, — Хведар выбег на пірс і пачаў шчапаць вялізныя створкі ангарнай брамы, замкнёнай на завалу з сярэдзіны.

Брама рэзка расхінулася і кінула Хведара на іржавыя рэйкі парэляў. Набіраючы хуткасць, з глыбіні ангару ляцела, як лакаматыў, па рэйках цялежка з кацерам. Яна рассекла Хведара, ягонае знявечанае цела падхапіла і скінула ў мора ўспененая хваля. Кацер узняўся на грэбні хвалі, і Магда пачула, як запусціўся рухавік. Кацер пераваліў за грэбень і знік з вачэй.

Магда па сходах выбегла на салярый. Унізе шалеў шторм. Кіруючыся ўздоўж вадзяных валоў, кацер выходзіў на глісіраванне. Шырока расставіўшы ногі, Дамінік выварочваў штурвал, над ім зіхацеў дыяментавы арэол каралеўскай кароны. Ліда стаяла побач, аберуч трымаючыся за ветравое шкло.

Магда зняла з шыі медальён і шпурнула яго. Срэбнай знічкай ён бліснуў над морам. Яна ўскінула рукі і ўкленчыла.

З чорнага зорнага неба вогненным росчыркам абрынулася на кацер маланка. На імгненне ўсё: і шторм, і людзі, і прыгнутыя ветрам бамбукі — знерухомела ў галагенавым святле бліскавіцы. Грымнуў пярун. Ахоплены агнём кацер павольна перакуліўся ў слупах пары. Над ім вырасла гіганцкая хваля і праглынула яго.

Па-над чорным далягдядам праступіў зорны крыж Вітаўта.

*Лістапад, 1990*
*Менск*

## ЭПІЛОГ

Машыністка, аддаючы аўтару перадрукаваны рукапіс гэтага трылера, патупіўшы вочы ў стол, спытала:

— Дык гэта ўсё праўда?

— Вядома, не... — адказаў аўтар.

— Дык вы ўсё гэта прыдумалі?!

— Так.

Машыністка з палёгкаю ўздыхнула і ўзрадавана сказала:

— Калі яшчэ што напішаце, то прыносьце перадрукоўваць толькі мне.

# Заусёды светла
# каля турэмных муроу

*Трылер*

## Пралог. Пішчалаўскі замак

Больш за дзвесце гадоў пад шарым менскім небам стаіць шары Пішчалаўскі замак. Як і большасць каралеўскіх палацаў, з часам ён абярнуўся турмою.

Прастакутнік, фланкіраваны прысадзістымі зубчастымі вежамі, пазней абнеслі яшчэ адным мурам, зацягнутым паверсе калючым дротам. Паміж першым і другім абводам расцягнулі на зямлі сетку з калючага дроту. Усе дрэвы вакол турмы спілавалі на ўзроўні знешніх муроў. Як бастыёны, на рагах паставілі бетонныя піраміды кулеўлоўнікаў.

Пішчалаўскі замак — той помнік архітэктуры, да якога не прыводзяць экскурсій, які не з'яўляецца на паштоўках і ў альбомах, на тле якога не фатаграфуюцца турысты. Гэта адзіны замак на Беларусі, які не стаў сувенірам, і таму захаваў сваю годнасць, уладнасць і ягамосць. Пра яго стараюцца не згадваць, а калі ўжо нестае аргументаў, каб спалохаць, у сталіцы зазвычай кажуць: «Пішчалаўскі замак побач».

Колькі розныя ўлады, ад германцаў да расейцаў, не збіраліся вынесці турму за межы горада, нічога

не атрымлівалася: бо ніхто ў цывільным не наважыўся ўвайсці пад змрочныя скляпенні і гаспадарыць там. І нават калі ўзнікла неабходнасць ушанаваць памяць аднаго з вязняў — паэта Якуба Коласа, дык замест таго, каб прышрубаваць мемарыяльную табліцу на Пішчалаўскі замак, турэмныя ўлады перадалі музею дзверы ад камеры. Магчыма, гэта былі і не тыя дзверы, за якімі сядзеў паэт. Але хто ведае?..

Ахоўнік Баляслаў Катавіцкі крочыў турэмным калідорам. Паўсюль панавала эстэтыка кратаў, і нават лямпачкі былі забраныя ў драцяныя плафоны. Спіну ахоўніка перакрыжоўвала скураная партупея. Тупым бляскам зіхцелі ялавыя боты. Вострае рэха крокаў крышылася аб сцены. Каля пляча колеру хакі плыла чарада пранумараваных дзвярэй. На рэмені ўздрыгвала важкая звязка ключоў.

Катавіцкі спыніўся і адчыніў дзвярное акенца. Камера патанала ў дзяжурным святле. Баляслаў адамкнуў дзверы. З камеры патыхнула цяжкім духам страты. Ахоўнік стаў у парозе і заклаў вялікія пальцы за рэмень. У куту на падлозе скурчыўшыся сядзеў вязень у вайсковай форме. Рукі з перарэзанымі венамі ляжалі на каленях. Набрынялыя крывёю нагавіцы выдавалі чорнымі. Па цэментавай падлозе ледзь заўважна шырылася крывавая калюга. У пальцах вязень сціскаў лязо.

Катавіцкі глянуў на гадзіннік. Ахоўнік зноў няспешна пайшоў пустым калідорам. На тарцавой сцяне вісеў тэлефонны апарат без дыска. Катавіцкі зняў трубку і паведаміў:

— Адзінаццаты пост. Здарэнняў няма.

У кабінеце начальніка турмы ва ўсіх крэслах, апроч ягонага, на дзесяць сантыметраў былі падпілаваныя ножкі. Калі прысутныя рассаджваліся, што здаралася нячаста, то начальнік заўсёды ўзвышаўся на паўгалавы. Хто і калі прыдумаў іерархію з

крэслаў — невядома. Паданне гаворыць, што гэта зрабіў падчас першай сусветнай вайны кайзераўскі афіцэр, але ўсе начальнікі, што займалі кабінет пазней, з задавальненнем выкарыстоўвалі знаходку і нават загадвалі адпілоўваць ножкі ў новых крэслаў.

Паветра ў кабінеце настоенае на едкім папіросным дыме, трайным адэкалоне і вайсковай форме. Агромністы, бы шафа, металёвы сейф, у які лёгка можна схаваць чалавека, мастакі-вязні расфарбавалі пад італьянскі мармур. Самым рамантычным аздабленнем кабінета глядзелася зубчастая вежа за акном.

Баляслаў Катавіцкі быў адным з тых, каму начальнік турмы не прапаноўваў сесці. Іхняя размова пачалася так:

— Ведаеш, нашто выклікаў? — начальнік сеў на высокае крэсла.

— Не, — адказаў Катавіцкі.

— Спадзяешся атрымаць падзяку?

— ...

— Думаеш, прапаную табе сваё крэсла, каб заўтра палову вязняў з камераў перанеслі ў морг? — начальнік быў задаволены жартам.

— Я не супраць, — без ценю іроніі пагадзіўся ахоўнік.

— І я не супраць, каб ты напісаў рапарт на звальненне.

— Нашто? Кантракт скончыцца толькі праз год.

— Для мяне твой кантракт скончыўся ўчора. Бо толькі ты мог сказаць: «Здарэнняў няма». А я папярэджваў, што на вязня ёсць спецыяльны загад.

— Вены рэзаў не я.

— Але ў камеру ты заходзіў.

— Ён быў нежывы.

— Ён паміраў паўночы, а ты праз кожныя паўгадзіны дакладаў: «Здарэнняў няма». Скончым. Рапарт на стол. І памятай, для цябе Пішчалаўскі замак заўсёды побач.

Дома Баляслаў Катавіцкі зняў форму, але не павесіў на плечыкі, а пазразаў іменныя цэтлікі і акуратна спакаваў яе ў поліэтыленавы пакет. Боты звязаў вяровачкаю за матузкі на халявах. Пакет з формаю і боты Катавіцкі вынес на сметнік. Форму закінуў у кантэйнер, а боты пашкадаваў і паставіў на зямлю.

## Раздзел першы.
## Ахоунік

Баляслаў Катавіцкі ішоў праспектам, бязмэтна і павольна. Рукі ў кішэнях доўгага незашпіленага плашча. Вузкія чаравікі на тонкай скуранай падэшве выдавалі бязважкімі і мякка апускаліся на сухі травеньскі асфальт. Раптоўны перагон ветру вынес з падваротні слуп вясновага пылу, у якім круціліся шматкі газет, цукерачныя абгорткі і каляровыя паперкі ад жавальнай гумкі. Баляслаў павярнуўся бокам і прыгнуў палі капелюша. Жвір, падхоплены ветрам, секануў па твары, і Катавіцкі рэзка павярнуўся да яго спінай. Каля бакалейнай вітрыны стаяў саракагадовы мужчына, на ім нават цывільныя марынарка і кепка глядзеліся уніформаю.

Катавіцкі адчуў, што за ім сочаць, і пачаў шукаць па кішэнях цыгарэты. Але паліць не стаў, бо на другім баку праспекта заміргаў светлафор. На жоўтае святло Баляслаў паспеў перабегчы на другі бок. Незнаёмец стаяў на астраўку пасярод дарогі, адрэзаны ад тратуараў трайным радам машын і тралейбусаў.

Катавіцкі зайшоў у кнігарню, прабег праз прылаўкі і стэлажы. Другія дзверы выводзілі на завулак. Насупраць гарэла ліхтарня метро. На эскалатары Катавіцкі зноў азірнуўся — незнаёмца за ім не было. Пустыя рыфлёныя сходы ішлі, здавалася, пад столь. Доўгім тунелем ён перайшоў на суседнюю станцыю. Калі за Баляславам ссунуліся вагонныя

дзверы, адчуванне, што за ім сочаць, знікла. Цягнік набіраў хуткасць. Мільганулі і зліліся ў адно чыгунныя цюбінгі тунеля. Катавіцкі пачаў прыглядацца да пасажыраў. Двое хлопчыкаў трымалі на каленях плецены з лазы кошык з пасястай коткаю. Старая кабета сядзела насупраць, заплюшчыўшы вочы і склаўшы рукі на самаробнай кавеньцы. Маладзён з незапамінальным тварам гартаў музычны часопіс... Ніхто не парушаў будзённасці, апроч маладога мужчыны з важкім фотакуфрам цераз плячо. Той па чарзе прыглядаўся да пасажыраў, нібыта шукаў ахвяру для газетнага фотанарыса. Васількова-ільдзістыя вочы на адно імгненне сустрэліся з цяжкім іртутным позіркам Катавіцкага. Цягнік спыніўся. Фотакуфар хіснуўся і ляпнуў па джутавай назе. Катавіцкі не спяшаўся выходзіць, і толькі калі з дынамікаў прагучала папярэджанне: «...дзверы зачыняюцца», — выскачыў на перон.

Як кадры фотастужкі, паплылі вокны вагонаў.

Баляслаў перасеў у сустрэчны цягнік, сеў у тарцы паўпустога вагона, насунуў на вочы капялюш і, не ўзнімаючы галавы, праехаў дзве станцыі.

Ён выйшаў на вакзале. На плошчы заўсёдная мітусня зноў прымусіла азірнуцца. Мільганне незнаёмых твараў аднавіла пачуццё небяспекі. Катавіцкі шпарка накіраваўся да прахадных універсітэцкіх двароў. Праз высокую арку ён трапіў на парадны пляц перад Чырвоным касцёлам. Пад неараманскімі вежамі на цвінтары стаяла купка мнішак, над імі ўзвышалася міндалеабрысная шапачка ксяндза. Баляслаў праз касцельную галерэю прайшоў у сквер, дзе на лаўцы перад фантанам нарэшце запаліў цыгарэту. Паміж гатэлем і рэстарацыяй высілася кутняя вежа Пішчалаўскага замка. Дапаліўшы цыгарэту, ён зайшоў у бар, дзе непрыгожая жанчына ў маленькіх акулярах ветліва спытала з-за стойкі:

— Вам, як звычайна, падвоеную?

— І сто белавежскай...

— Тады, відаць, і канапку з вяндлінаю?

— Як звычайна...

Калі Катавіцкі разлічваўся, да стойкі падышоў мужчына ў шэрам паліто, чорны шалік кантраставаў з сівізною:

— Мне тое ж самае, толькі без кавы, — ён паставіў перад сабою пераламаную напалам банкноту.

Былому ахоўніку падалося, што звярталіся да яго. Ён прыгледзеўся да мужчыны, які нечым нагадваў настаўніка элітарнага ліцэя. Твар выдаваў знаёмым, але Катавіцкі так і не здолеў успомніць, дзе бачыў яго раней.

Мужчына ўзяў чарку, накрыў яе лустачкай канапкі, прайшоў у дальні кут бара і сеў на высокі зэдлік побач з Баляславам.

Халодны мармур стойкі сцюдзіў далоні. Катавіцкі запытальна паглядзеў на незнаёмца.

— Нам з вамі трэба пагаварыць, — сказаў той.

Катавіцкі не адказаў. Гаварыць з незнаёмцам, падобным да настаўніка, яму не хацелася, бо праз вітрыннае шкло ўбачыў чалавека ў марынарцы.

Пазней Баляслаў не раз будзе згадваць гэту сустрэчу, малапрыемны момант, калі невядомы чалавек правільна вымавіць тваё імя і прозвішча, але ніколі не пашкадуе, што пагадзіўся на размову.

— Я правільна назваў ваша імя?

— Так, але адкуль...

— У мяне да вас прапанова, і прапанова не зусім звычайная. Я знайшоў вам працу. Тое, што скажу зараз, можа падасца дзіўным, але вопыт падказвае — я не памыліўся.

Катавіцкі выпіў чарку белавежскай і надкусіў канапку.

— Я слухаю...

— Спачатку адкажыце на колькі пытанняў.

— Калі ласка.

— У вас ёсць сваякі?

— Няма, — адказаў Баляслаў.

— Вы забівалі чалавека?
— Не, ніколі.
— Але кіраўніцтва менавіта так расцаніла здарэнне ў Пішчалаўскім замку.
— Яны палічылі, што самагубца можна было ўратаваць, але памыліліся. Нашто замінаць чалавеку рабіць наканаванае?
— З вашых слоў вынікае: ахвяра — вы, а кіраўніцтва не мела рацыі, падпісаўшы рапарт.
— Я не той чалавек, каб быць ахвяраю. Вы ж самі сказалі, я — забойца.
— Ці не занадта лёгка вымаўляеце гэта слова? — мужчына з тварам настаўніка нарэшце зрабіў глыток белавежскай.
— Не задумваўся. Калі працуеш у ахове — прывыкаеш і да смерці. Зрэшты, усё жыцце — падрыхтоўка да яе. Адзінае пытанне, над якім варта задумвацца, — марнасць жыцця.
— Пакінем гэту тэму. Я знайшоў вам працу, і яна непасрэдна знітавана з забойствам. Падумайце. Праз тыдзень-два я знайду вас. Вось грошы, — на мармур стойкі легла капэрта, — тут няшмат, але хопіць, каб два тыдні не ўладкоўвацца на працу і не задаваць непатрэбных пытанняў.
— На каго я буду працаваць? — Катавіцкі ўзяў капэрту.
— На мяне, — мужчына падаў руку, — Рублеўскі.
Ён падняўся і, не развітваючыся, выйшаў.
За вітрынным шклом мільганула постаць у марынарцы.
Баляслаў разарваў капэрту, выняў банкноту:
— Яшчэ сто белавежскай.
Жанчына адмерала настойку і спытала:
— Знаёмы?
— Мой настаўнік.

Кватэра Баляслава Катавіцкага нагадвала майстэрню. Пасярэдзіне пакоя на авальным стале

высіўся незавершаны макет Мірскага замка. Папярова-кардонныя вежы былі расфарбаваныя акварэллю пад старасвецкія цагляныя муры. Па сценах — афорты Джавані Бацiста Піранэзі з серыі «Турмы». На незашклёных стэлажах — бляшанкі з фарбамі і слоікі з клеем. Пад вакном, замест пісьмовага стала, — варштат. На ім акуратна раскладзены рознакаліберныя нікеліраваныя прылады: нажніцы, пінцэты, скальпелі...

Катавіцкі падсунуў да стала з замкам абцягнуты пурпуровым аксамітам фатэль. Тонкім пэндзлікам пачаў расфарбоўваць дахавіцу на замкавай вежы. Адна за адною ўзнікалі пад пэндзлікам мініяцюрныя прамакутнікі: яны, як клеткі ў вучнёўскім сшытку, складаліся ў радкі. Але думкі Баляслава былі далёкія і ад гэтага пакоя, і нават ад нядаўніх падзей...

## Першая навела-мроя Баляслава Катавіцкага

У Мірскім замку балявалі. Князь Радзівіл жаніў свайго сына. За накрытымі ў замкавым двары сталамі весяліліся госці. На засланых ільнянымі абрусамі сталах красавалася столькі шэдэўраў кулінарнага мастацтва, што паводле іх мажліва было скласці цэлы фаліянт з рэцэптаў і парадаў лепшых кухняў свету. Вабныя пахі ахутвалі замак, плылі над возерам і расцякаліся па мястэчку, дзе сквапныя жыды-крамнікі глыналі сліну, а рамеснікі кроілі сала.

Па замкавых галерэях навідавоку ва ўсіх гасцей павольна рухалася чарада служак са срэбнымі сподамі ў руках. Гэтая чарада замыкала ў кола і паднявольнае царства кухара, і княжацкі фэст.

Чаляднік Антон вынес з кухні залацістае смажанае парася, нафаршыраванае блінцамі, яблыкамі і нечым такім духмяным, ад чаго нават у сытага шляхціча ўзнікала жаданне схапіцца за відэлец. На вежавых сходах Антон ледзь не ўпусціў спод,

калі сутыкнуўся з пакаёўкай Яняю. Мажная прыгажуня ў святочным хвартуху заступіла дарогу.

— Гэта ты мне нясешь? — Яніна ўсмешка рассунула румяныя шчокі.

— А ты не ведаеш, чым гэта ён так пахне? — Антон паднёс парася ад Янінай усмешкі. — Нечым такім... У мяне ажно страўнік курчыцца.

Яня пасур'ёзнела:

— Нафаршыраваны.

— Я і без цябе ведаю.

— Дай пакаштаваць, і я скажу, чым.

— Ты што, здурэла? Яго ж загадана паставіць на княжацкі стол!

— А хіба я горшая за князёўну? Ты толькі паглядзі на мяне, — пакаёўка прыўзняла далонямі вялікія, як падушкі з княжацкай спачывальні, грудзі.

— Ведаю, ведаю — там, дзе ты, там і грэх.

— А калі ведаеш, то нясі парася не да стала, а на ложак.

— А як заўважаць? — на Антонавым твары мільгануў сполах.

— Князь не свінапас, каб свіней лічыць.

Залацістае малочнае парася з райскім яблычкам у лычы патанала ў карункавых лістах салаты.

Антон апусціў спод на белы покрыў квадратнага ложка:

— А можа, не трэба? Мне ж заб'юць... — безнадзейна прапанаваў Антон.

Яня ўзбілася з нагамі на ложак, выхапіла з парасячага лыча райскі яблык і засунула за шчаку.

— Задзірай спадніцу, — Антон пасунуў спод на край ложка.

— Спачатку давай глянем, што там у сярэдзіне, — Яня легла на жывот і пацягнулася за парасём.

— Ну, тады і я гляну, — Антон завярнуў спадніцу Яні на плечы.

Перад Антонавым тварам крутнуліся белыя, як

палітыя смятанаю, клубы. Яня ўскочыла на калені і штурхнула Антона:

— Не буду ж я есці і мілавацца!

— Добра, — Антон падпоўз да спода і разламаў парася: у лісце салаты пападалі гарачыя блінцы.

Пульхнымі пальцамі Яня схапіла блінец і адкусіла палову.

Антон злупіў з парасяці хрумсткую скурку.

— Гарэхі, аблыкі і гусіная пячонка з каляндраю, — з поўным ротам ледзь пералічыла Яня.

— І грыбы, грыбы ёсць, — удакладніў Антон і закусіў блінец вялікім салатным лістом.

— А ў лычы яшчэ суніцы і мігдал, — Яня абсмактала тлушч з вялікага пальца.

— А каб віна, я б яшчэ адно парася з'еў, — запэўніў Антон і скінуў нагавіцы.

— Пачакай, хвартух нашто крухмаліла, здыму, а то пакамечыцца.

Яня ўскінула спадніцу і падставілася. Антон прыладкаваўся да сметанковых клубоў і ўзяўся за Яніны грудзі.

На срэбным сподзе падскоквала парасячая галава.

Антон з Яняю так захапіліся гулямі, што не заўважылі, як у пакой ускочыў вялікі пярэсты сабака. Ён ухапіў са споду парасячую галаву, і, адно матлянуўшы закручаным хвастом, пацягнуў здабычу за дзверы.

На вежавых сходах мажардом паліў люльку і праз вузкую мушкетную байніцу сачыў за баляваннем. Паўз яго прабег сабака з парасячаю галавою ў пашчы. Мажардом гукнуў, але той не спыніўся. Тады мажардом паклаў люльку на байніцу і крадком выйшаў на калідор. Праз прачыненыя дзверы ён згледзеў высока ўзнятыя Яніны ногі над худымі Антонавымі плячыма.

Спод у чарговы раз падскочыў і грымнуўся з высокага ложка на люстраны паркет. Яня войкнула, павярнулася і ўбачыла злосны твар раз'юшана-

га мажардома. Яна сціснула каленьмі Антонаву галаву. Той, не разумеючы, што адбылося, вылаяўся. Мажардом падскочыў і выцяў Антона нагою ў жоўтым боце пад рэбры, завярнуўся і выйшаў з пакою.

Антон адно паспеў ускласці нагавіцы, а Яня завязаць матузкі накрухмаленага хвартуха, як у пакой забегла варта.

Князь, выслухаўшы мажардома, рассмяяўся:

— Дык хто з вас больш з'еў? Відаць, румяная адно свінячы хвост пакінула?

— Гэта ўсё ён, я толькі райскі яблычак пакаштавала, — Яня выцірала слёзы рогам хвартуха.

— Дык ты што, цэлае парася з'еў? — з недаверам запытаў князь.

— А каб было віно, я б яшчэ адно мог з'есці, — недарэчна пахваліўся чаляднік.

— Зараз паглядзім.

Князь загадаў прынесці і паставіць перад Антонам яшчэ адно парася. Другое было ў два разы большае за першае, бо кухар, відавочна, стаяў на баку князя, а не служкі.

— Калі з'ясі — дарую, а не з'ясі — скуру злуплю...

Вырачыўшы вочы, Антон запхаў пальцамі ў рот апошні кавалак смажанай парасяціны. Князю падалося: з вялікага спода пасміхаецца парасячая галава.

— Такога небяспечна трымаць у замку, — заўважыў князь і загадаў: — Выкінуць ненажэру і ягоную палюбоўніцу за браму.

Калі Антон з Яняю выйшлі да мястэчка, ненажэрнага чаляднікa нарэшце заванітавала. Ён азірнуўся на замак, вежы якога адбіваліся ў нежывым люстэрку штучнага возера, і змрочна сказаў:

— Ты будзеш сведкаю, а мажардома я заб'ю!

Баляслаў сядзеў перад макетам Мірскага замка і вострым пэндзлікам маляваў шалёўку на браме. У пакоі было цёмна, адно толькі макет ззяў пад

чатырма настольнымі сафітамі.

Катавіцкі з Рублеўскім сустрэліся на стадыёне. Яны прайшлі доўгай ампірнай галерэяй і нарэшце завярнулі ў вузкі пераход пад трыбунамі. Двое рабочых у памаранчыкавых камізэльках паверх ватовак падмяталі гумовую бегавую дарожку. Безжыццёвыя прыступкі трыбун вялі ў неба.

Рублеўскі заслаў пыльную лаўку сённяшняй газетай. Баляслаў сеў побач:

— Я не люблю стадыёны.

— Дарма. Кожны стадыён разлічаны на гладыятараў. Толькі цяпер навучыліся падмяняць сапраўдны бой таннымі гульнямі. Людзі страцілі годнасць і не ўмеюць паміраць.

— Хіба можна навучыцца паміраць? Навучыцца можна толькі таму, што робіш не адзін раз.

— Вучацца на памылках.

— Спадзяюся, я не паспеў памыліцца? — спытаў Катавіцкі.

— Як сказаць, — Рублеўскі паглядзеў, як сыходзяць са стадыёна рабочыя.

— Дык што я мушу рабіць?

— Забіваць.

— Прапануеце стаць катам?

— Забойцам. Спадзяюся, з цягам часу зразумееце: кат — толькі выканаўца, а забойства — найвышэйшае з мастацтваў. Я зраблю з вас мастака.

Колькі хвілін Рублеўскі пакінуў на адказ, але Катавіцкі маўчаў.

На пыльныя стадыённыя трыбуны зацерушыў імжысты дождж. Паярчэла трава футбольнага поля. Сеткаю тонкіх рысак пакрыўся тынк муроў.

— Магу я адмовіцца? — спытаў Баляслаў.

— Гэта апошняе, што вы можаце: зрабіць памылку.

— Згодны.

Рублеўскі падняўся:

— Каб скончыць размову, хадземце падпішам кантракт.

Яны зайшлі на прадапошні паверх звычайнага жылога дома.

— Аддзел кадраў? — спытаў Катавіцкі.

— Гэта места, дзе нам ніхто не будзе перашкаджаць, — Рублеўскі адамкнуў дзверы доўгім, падобным да штопара, ключом.

З-за металёвых стэлажоў з апаратураю і дзюралевых жалюзі на вокнах кватэра нагадвала радыёрубку падводнай лодкі. Адзінаю мяккаю рэччу ў пакоі была парэпаная скураная канапа, перад якою на часопісным століку ляжала канторская папка.

Рублеўскі падаў Баляславу вечнае пяро:

— Покуль вы будзеце запаўняць дакументы, я згатую каву.

Катавіцкі пераадольваў непрыязь да ўедлівага, застарэлага паху каніфолі і гарэлай ізаляцыі, што грунтоўна панавалі ў памяшканні. Але нягледзячы на знешнюю спраўнасць, было відавочна, што апаратуру спісалі.

Рублеўскі перачытаў напісанае:

— Але не ўсё, — ён паклаў перад Баляславам два чыстыя аркушы, — пастаўце подпіс.

Не пытаючыся, Катавіцкі падпісаў.

## Раздзел другі.
## Акцёрка

Баляслаў стомлена ішоў уздоўж цаглянага мура. Плямісты маскхалат быў перапэцканы ў глей. Цяжкія высокія чаравікі гразлі ў вільготным жвіры.

З-за рога з’явілася і завісла над Катавіцкім постаць з сякераю ва ўзнятых руках. Баляслаў ускінуў пісталет, ломкі гук стрэлу патануў у лабірынце палігонных пабудоў. У брызентавых грудзях манекена заззяла ірваная дзірка, дыктавая сякера адляцела ўбок і ўваткнулася ў жвір.

«Ніколі не пытайся “нашто?”, ніколі не цікаўся “чаму?”, — казаў Настаўнік, — гэта справа чыноўнікаў, а не мастакоў. Ты павінен задумвацца над пытаннямі: “як?”, “дзе?”, “калі?”. І твае пытанні больш складаныя, чым іхнія. Твае пытанні вечныя, а іх — залежныя ад сістэм, кодэксаў і дзяржаў».

Тонкія металёвыя прэнты-папярочкі пажарнай драбіны рэзалі рукі. Незацвярдзелыя нацёкі алейнае фарбы расціскаліся пад пальцамі. У разадраным маскхалаце на плячы чырванеў шнар. Катавіцкі з пажарнай драбіны паставіў нагу на падваконне, і адразу ў ваконным прагале супрацьлеглай сцяны ўзнікла дыктавая грудная мішэнь. Вайсковы чаравік слізгануў па свежай фарбе падваконня, з вышыні другога паверха Катавіцкі абрынуўся на ўтрамбаваны глей.

«Ты робіш толькі адно парушэнне ў агульнапрынятай маралі, і тэатр ператвараецца ў сапраўднае жыццё, — казаў Настаўнік. — Ты знішчаеш мяжу, рысу, раму паміж акцёрамі і гледачамі, ты яднаеш іх. І тады ніхто не можа зразумець: акцёр ён ці глядач. Для цябе непадзельныя, зліваюцца ў адно этыка і эстэтыка. Хай іншыя думаюць, што Гай Юлі Цэзар і акцёр, які выконвае ролю Цэзара — розныя асобы. На самай справе ёсць толькі адзін Цэзар. Ён можа быць адначасна ў трох месцах, ён можа ў кожным месцы рабіць па тры справы, і кожную справу разглядаць з трох бакоў, але ён адзін».

Пярэсты вялікі сабака з настаўленымі па-воўчы вушамі і закручаным хвастом выбег з хмызняку на пляц перад мішэннай групай. Ён мінуў дыктавыя раставыя постаці і ўскочыў у неглыбокі равок, з якога выбраўся каля цаглянага лабірынта. Катавіцкі сядзеў на зялёнай дашчанай скрыні, перад ім на разасланым кавалку брызенту ільснілася разаб-

раная зброя. Побач ляжаў на траве і паліў інструктар з белаю павязкаю на рукаве. На абветраным твары інструктара адбівалася стома і разам з тым палёгка. Гэта быў твар чалавека, які нават у вялікім аркестры чуе толькі барабаны.

Баляслаў загнаў абойму ў рукаятку пісталета і пачуў, як на дно траншэі абсыпаецца жвір. Ён перасунуў затвор і азірнуўся. На яго, ашчэрыўшы пашчу, бег сабака. Гук стрэлу падхапіў інструктара:

— Ты што робіш?! Гэта ж сабака палігоншчыка! — інструктар хацеў яшчэ нешта сказаць, але па вачах Катавіцкага зразумеў, што наступныя словы могуць стаць ракавымі.

«Ты робіш толькі адно парушэнне... Ты пачынаеш жыць па новых законах, па законах найвышэйшага з мастацтваў, і толькі забойца можа назваць сябе сапраўдным мастаком. Толькі ён па найвышэйшае волі разбурае імгненнае і творыць вечнае.

Ідзі ў тэатры і глядзі, і ты ўбачыш, як усе прагнуць сапраўднасці. Яны будуць глядзець на сцэну, блазны будуць занятыя паўтарэннем чужых жэстаў, і толькі ты застанешся сам сабою, і ўбачыш неадольную прагу сапраўднага.

Ідзі на стадыёны і глядзі, як усе будуць чакаць падзення, як усе будуць чакаць бойкі, прагнуць парушэння правілаў, скасавання дамоўленасці, крычаць: «Забі!». Ты ўбачыш падзел паміж тымі, хто ў зале, і тымі, хто на сцэне, паміж тымі, хто на полі, і тымі, хто запаўняе амфітэатр. Ты ўбачыш падзел і навучышся пераходзіць яго».

Так вучыў Настаўнік.

У траецкай кавярні Катавіцкі назіраў за гульцамі, якія спрабавалі перайграць стракатыя аўтаматы, што пазвоньвалі дробяззю ў металёвых вантробах, нібы турнікеты метрапалітэна. Баляславу было цікава сачыць за азартнымі хлопцамі ў

чорных скураных куртках, якія шчыра перажывалі кожную страту. Каля покернага аўтамата пачуўся шум. Раз'юшаны маладзён, пэўна, прайграў аўтамату, не стрымаўся і ўдарыў кулаком па размаляваным шкле. Гульцы, якія стаялі побач, паспрабавалі супакоіць хлопца, але той вісклівa лаяўся і плакаў. Са службовага памяшкання выйшлі двое мужчын з тварамі прафесійных баксёраў і вывелі маладзёна за дзверы.

І сітуацыю з аўтаматамі Катавіцкі будзе згадваць пазней. Для сябе ён назаве яе «прасвятленне», бо менавіта ў той момант адчуў сябе адметным, іншым, калі не казаць — лепшым за астатніх людзей. І яшчэ адно адкрыццё зрабіў для сябе Баляслаў: калі мастак пачынае думаць пра грошы, ён перастае быць мастаком.

З кавярні Катавіцкі накіраваўся ў Верхні горад. Вышчарбленымі каменнымі сходамі ён ўзняўся да сабора святога Бернарда, на якім цяпер кічова зіхцелі праваслаўныя крыжы. Паўз нахілены плот метрабуда выйшаў да раскапаных сутарэнняў Святадухаўскай царквы. Пад праламанымі скляпеннямі ён убачыў, як лысы археолаг з профілем Саванаролы складае ў поліэтыленавы мех зямлістыя чарапы.

За плотам, які мясцовыя патрыёты размалявалі бел-чырвона-белымі сцягамі і параспісвалі лозунгамі накшталт «Ірак пераможа» і «Жыве Беларусь», цягнуўся будынак Дамініканскага кляштара з недабудаваным баракальным шчапцом. З-пад разабранага шыфернага даху месцамі тырчэлі рабрыны крокваў. Баляслаў паглядзеў на закладзеныя цэглаю вокны сутарэнняў, дзе калісьці месціліся катоўні інквізіцыі. Ён абмінаў гурбы рэстаўрацыйнага друзу і аслізлым брукам выйшаў да Дома масонаў.

Каля стромы, парослай рэдкім хмызняком, стаяў ужо знаёмы Катавіцкаму чалавек у мары-

нарцы — сувязны. У пад'езд яны зайшлі разам. Падняліся на другі паверх і спыніліся каля венецыянскага акна. У закінутым будынку проймы суха шархацелі старымі газетамі і паабрыванымі шпалерамі.

— Вось заданне, — связны кінуў капэрту на палушчаную фарбу падваконня.

— Тэрмін? — капэрта знікла ў кішэні.

— Чым хутчэй, тым лепш.

— Аванс?

Сувязны дастаў капэрту з грашыма:

— Пералічы і напішы распіску.

Катавіцкі пачаў лічыць грошы.

— За тое, што атрымліваў ад Рублеўскага, таксама напішы.

— Ты пойдзеш першым, — сказаў Баляслаў.

Праз мыльнае шкло было відаць, як сувязны, не вымаючы рук з кішэняў, хутка збег па адхоне да Свіслачы.

Катавіцкі ўскрыў заданне: невялікі фотаздымак і складзены ўдвая аркуш паперы. «Агінская Рэгіна, 30 гадоў, прафесійная акцёрка і мадэлька. Ужывае наркотыкі». На фотакартцы быў твар парцэлянавай прыгажуні, якой аднолькава лёгка даюцца ролі і мнішкі, і вядзьмаркі-распусніцы. Такія людзі звычайна знаходзяцца ў перманентных пошуках кайфу, таму слова «наркотыкі» было залішнім.

На зацемненай сцэне ледзь прамалёўваліся кафляныя сцены і нікеляваныя трубкі душа. Нешматлікая публіка паволі запаўняла першыя рады партэра. У глыбіні ўрадавай ложы цямнела самотная постаць прэзідэнта. Шолах прыцішаных размоў мякка разыходзіўся ў аксамітна-залатым інтэр'еры.

Баляслаў зайшоў у пустую ложу бенуара. Прысеў на край фатэля і паклаў рукі на вішнёвую абіўку парэнчаў балюстрады. Зіхатлівыя падвескі хрус-

тальнай жырандолі нагадвалі перакулены фантан. Катавіцкі разгарнуў праграмку.

### Здарэнне у ванным пакоі

Жанчына скінула халат і пераступіла край вялікай прастакутнай ванны. Пена ўзнялася і пацякла на мармуровую падлогу. У парозе з'явіўся мужчына ў пасястым халаце:

— Нашто столькі пены?

— Я люблю, калі шмат пены.

— А я не люблю, — мужчына згроб пену на падлогу, распрануўся і ступіў у ванну: — У такой вадзе ў мяне ўсё зварыцца!

— Ты сёння не ў настроі. Сядай, — жанчына паклала ногі яму на плечы, — пачакай, крыху адпачнем у вадзе.

Яна сцёрла пену са шчакі.

— Тады папалю.

— А я не пераношу, калі паляць у ванне і прыбіральні!

— А я не люблю, калі мне нешта забараняюць, — мужчына перагнуўся цераз край ванны і ўзяў цыгарэты.

— Дай мне, — жанчына перахапіла запалкі, — я так люблю паліць запалкі, ты нават сабе не ўяўляеш, — яна падпаліла ўсю скрыначку, запахла серай. Запалкавая паходня схавалася пад вадой.

— Я цябе зараз утаплю! — цыгарэтны пачак паляцеў на пярэсты халат.

Мужчына схапіў жанчыну за лыткі і ўзняў іх над вадою, жаночы твар схаваўся ў пене.

Раптам у ванны пакой зазірнуў вусаты мужчына ў паліто.

Жаночыя лыткі выслізнулі з рук, і над вадою з'явілася галава — скажоны злосцю твар крэслілі пасмы цёмных валасоў.

— Ты што, вар'ят? Я ледзь не захлынулася...

— Супакойся, мы не адны, у нас госць.

Жанчына адкінула валасы з ілба, злосць змянілася здзіўленнем:

— Адкуль ён узяўся? У доме нікога не было...

— Прабачце, гэта мой дом. І чым гэта вы займаецеся ў маім ванным пакоі? — нарэшце абурыўся вусаты.

— Чым хочам, тым і займаемся. Ва ўсялякім разе, не нудзімся, — сказала жанчына.

— Марыля, — закрычаў мужчына ў палітоне, — ты нікога не запрашала ў госці?

— Якія госці? — у пакой зазірнула жанчына з папугаем на плячы. Птушка нашатарылася і сказала:

— На цугундзер!

— А цябе не пыталіся, — зазлаваў вусаты.

— Папугай мае рацыю, — сказала жанчына ў халаце, — гэта нахабныя злодзеі.

— Якія мы злодзеі? Мы нічога не кралі. Ці вам шкада вады з-пад крана? — аголеная села на край ванны.

Яе мужчына вылавіў з вады размоклую скрыначку запалак і паклаў на мармуровую палічку:

— Выбачайце, можа, у вас знойдуцца запалкі? Бо мае падмоклі. А красці за свае дваццаць гадоў я не навучыўся.

— Марыля, да злодзеяў яны не падобныя. Відаць, гэта здані. Нас папярэджвалі, што не трэба купляць гэты дом.

— Ён лічыць, што я русалка, а ты вадзянік, — звярнулася аголеная да свайго партнёра, які пяшчотна лашчыў яе бліскучае калена.

— Хто вы такія? — асцярожна спытала жанчына з блакітнай птушкай на плячы, тая ўзмахнула крыламі і зноў пракрычала:

— На цугундзер!

— А вы адгадайце, — аголеная саслізнула ў ваду.

— Мы праходзілі паўз ваш дом, — аголены зрабіў сабе з пены пагоны: — Я падобны да вясельнага генерала? Можаце не адказваць. Дык вось, мы

праходзілі паўз ваш дом, і мая каханая захацела прыняць ванну.

— А чаму менавіта да нас?

— У вашых суседзяў душ не працуе. Дык вы дасцё мне запалкі ці не?..

— Дадзім, — мужчына дастаў з палітона бензінавую запальнічку.

Баляслаў прыпаліў цыгарэту і кінуў запалку ў хрустальную попельніцу, што стаяла на грымёрным століку перад ілюмінаваным лямпачкамі трыльяжам. На шырме побач з дзвярыма вісела на плечыках чорная шаўковая сукенка, на якой шляхетна ззяла карункавая пелерына. Па сценах на цвіках была развешана бутафорская зброя, бляшаныя кароны, шыракаполыя капелюшы і цыклістоўкі з канфедэраткамі.

Першае, што сказала Рэгіна Агінская, калі ўбачыла ў сваёй грымёрнай Баляслава, было:

— Прабачце, гэта мая грымёрная. І чым гэта вы займаецеся каля трыльяжа?

— Чым хачу, тым і займаюся, — у тон Агінскай адказаў Баляслаў, — прынамсі, не нуджуся. Я збіраўся прыняць ванну, але ані ў вас, ані ў суседзяў няма нават душа.

— А цяпер сур'ёзна: я мушу пераапрануцца. Калі вы па справе, то пачакайце за дзвярыма.

— Па-першае, ёсць шырма, па-другое, я магу адвярнуцца. І я сапраўды па справе...

— І ўсё ж будзе лепш, калі вы пачакаеце за дзвярыма, — Рэгіна зняла сукенку з плечыкаў. — Калі я распраналася на сцэне, гэта не азначае, што я мушу распранацца перад незнаёмым у грымёрнай. Не блытайце мастацтва з побытам.

— Мая прафесія вымагае жыць у мастацтве і не падзяляць свет на сцэну і грымёрную, — Катавіцкі выйшаў на калідор, паўз яго прайшоў мужчына ў расшпіленым палітоне з чучалам блакітнага папугая на плячы.

Агінская паклікала з-за дзвярэй:

— Вы яшчэ там? Заходзьце.

Баляслаў вырашыў не казаць загадзя падрыхтаванага камплімента наконт артыстычнасці чорнай сукенкі і карункавай пелерыны.

— Нарэшце можам пазнаёміцца. Я — Антон Радкевіч, мастак і фатограф. А вы — Рэгіна Агінская, акцёрка і мадэлька.

— Вы мне нічога не пакінулі сказаць, апроч як спытацца, дзеля чаго вы тут?

— Чыста прафесійны інтарэс. Маю намер зрабіць некалькі тэатралізаваных хэпенінгаў і галоўную ролю прапанаваць вам.

— Звычайна я спачатку чытаю сцэнарый...

— Мы не будзем ставіць п’есу і здымаць кіно. Я збіраюся рабіць фотаказку з працоўнай назвай «Сады зямное асалоды» і запрашаю вас у сааўтары. Я буду адказваць за асяроддзе і фіксацыю, а ўласна вобразы аддаю вам.

— Прашу прабачэння, я не падрыхтаваная да сур’ёзнай размовы. Бо, па-першае, я стамілася, а па-другое, пасля такіх спектакляў у грымёрнай, бывае, з’яўляюцца людзі з сэксуальнымі адхіленнямі, і тады даводзіцца выклікаць рабочых сцэны. Спадзяюся, вы разумееце — апошнім часам нам даводзіцца граць сцэны, перанасычаныя стрыптызам і садызмам, каб збіраць залу.

— Я сёння і зайшоў толькі на тое, каб зрабіць прапанову. Давайце сустрэнемся заўтра ў зручны для вас час...

З тэатру Катавіцкі і Агінская выйшлі разам.

## Раздзел трэці.
## Хэпенінг

Пад скляпеннямі былога архірэйскага палаца ёсць бар, вядомы пад назваю «Каламутнае вока». У ім штовечар адпачывае мастацкая эліта. Там паэты чаргуюць каньяк з вершамі, а балетмайстары

п'юць шампанскае і не хаваюць сваіх гомасэксуальных схільнасцяў, там журналісты спрабуюць утапіць палітычныя праблемы ў рабінавай настойцы, і ніхто не прымушае другога быць лепшым, чым ён ёсць.

На століку перад Катавіцкім і Агінскай стаяла бутэлька шампанскага і штоф з каньяком. Ідылічную размову паміж акцёркаю і былым ахоўнікам, які выдаваў сябе за фотамастака, парушыў нахабны голас:

— Разумею, што буду перашкаджаць, але месцаў болей няма, — са сваёю пляшкай рабінавай настойкі да іх падсеў маладзён у джутавым строі, фотакуфар схаваўся пад крэсла. — Гэта я вас здымаў у тэатры, сцэна ў ванным пакоі?

— Твой калега? — Рэгіна запытальна паглядзела на Катавіцкага.

— Вы таксама фатограф? — здзівіўся журналіст.

— За каньяком я не люблю гаварыць на прафесійныя тэмы, — холадна адказаў Баляслаў.

— А я без камеры з дому не выходжу. У свеце столькі цікавага — толькі хадзі і здымай.

— Цікавае і прыгожае — розныя рэчы, — зазначыў Катавіцкі.

— Я не камплексую на мастацтве, я — журналіст. Мяне цікавяць сенсацыі і скандалы. Калі чытачы жадаюць бачыць на старонках майго выдання прастытутак, забойцаў і наркаманаў — яны іх убачаць.

Твар Агінскай неўпрыкмет змяніўся, нібыта на яго ўпала месячнае святло, і Рэгіна стала рыхтык парцэлянавая прыгажуня, чый фотаздымак хаваўся ў партманэце Катавіцкага.

— У вас няма жадання выпаліць па цыгарэце? — ён паклаў руку на джутавае плячо журналіста.

— Давайце папалім тут, дым пад стол, — прапанаваў той.

— Нявартa, — мякка сказаў Баляслаў і ўзняўся: — Спадзяюся, ты, Рэгіна, не засумуеш. А я, у сваю чаргу, не забаўлюся.

Былы ахоўнік і журналіст выйшлі ў неасветлены двор, над імі навісалі канструктывісцкія вежы Дома афіцэраў. Іх цэментавы колер на тле начнога неба згусцеў да чарнаты. У той момант, калі сполах запалкі выхапіў з цемры твар журналіста, Катавіцкі ўдарыў яго ў сківіцу. Толькі шурпаты мур не даў журналісту ўпасці. Другі ўдар Катавіцкі нанёс нагою ў жывот. Журналіст скурчыўся. Катавіцкі схапіў яго за джутавы каўнер, прыўзняў і колькі разоў ударыў тварам у мур.

Калі да журналіста вярнулася здатнасць бачыць і разумець, ён пачуў:

— Будзем лічыць, што я цябе папярэдзіў, наркаманаў чытачы ўбачаць на старонках іншых выданняў.

Журналіст асцярожна дакрануўся да разбітага твара:

— Зразумеў, буду здымаць краявіды.

— Убачу побач з Агінскай — паб’ю камеру, — Катавіцкі пайшоў.

Рэгіна трымала ў руцэ тонкую ножку келіха.

— Шкада, але мусім адсюль сысці, — Баляслаў разлічыўся.

Начным праспектам яны спусціліся да брутальнай каланады Дзяржаўнага цырка. У месячным святле зіхацела металёвая луска купала. За геральдычнай агароджай скублі баскетную зяляніну дагледжаныя цыркавыя коні.

— Пойдзем у парк? Уначы люблю глядзець на раку і слухаць вадаспад, — Рэгіна спынілася.

Пад цяжарам вады рыпелі ланцугі на блоках шлюзавага пад’ёмніка. Баляслаў з Рэгінаю зайшлі на балкон маста. Глыбока ўнізе круціліся ў вірах карункавыя пляміны шуму.

— Я з дзяцінства баюся ракі, але люблю над ёю стаяць, — Регіна апусціла локці на парэнчы.

— Ты не ўмееш плаваць? — Катавіцкі паклаў рукі ёй на плечы.

— Не толькі ўмею, але і люблю — у кафляным басейне, а рака з яе збуцьвелымі карчамі, слізкім мулам і водарасцямі, якія хаваюць бутэлькі і кансароўкі, выклікае гідлівасць. У дзяцінстве я бачыла, як даставалі тапельца. Гэта была жанчына. Тады на імгненне адчула, што і са мною можа здарыцца нешта падобнае. Баюся выглядаць непрыгожай пасля смерці.

— Ты залішне прагматычна ставішся да жыцця.

— Наўрад...

— Ты каго-небудзь баішся?

— Побач з табою — не.

Баляслаў пацалаваў Рэгіну.

Пікап Катавіцкага звярнуў з шашы да закінутага кар'ера. Машына мінула гурбы смецця, па якіх шпацыравалі фаянсава-белыя чайкі.

— І гэта найлепшае месца, каб здымаць сюжэт «Сады зямное асалоды»? — спытала Рэгіна, калі Катавіцкі аб'язджаў ангар з металаломам.

— Мне падабаюцца кантрасты. Райская жанчына на рэчавым пагосце. Ты пойдзеш паўз сумёты металёвых габлюшак, мядзяных дратоў, шкілетаў радыёапаратуры, а я пачну фатаграфаваць.

Баляслаў плаўна спыніў пікап каля штабеля зношаных аўтапакрышак.

Рэгіна пайшла лабірынтам знявечанае тэхнікі. На скарабачаным метале палымнелі пляміны іржы, на тле якой белая сукня мадэлькі канцэнтравала чысціню.

— Не заўважай таго, што вакол цябе. Твой твар не павінен быць люстэркам, дзе адбіваецца сталічнае смецце. Падумай пра тапалёвую алею ў Залессі, згадай маёнтак, уяві яго ў часы Міхала-Клеафаса Агінскага, — Катавіцкі глядзеў на Рэгіну праз рамку кадра.

— Ты лічыш, што маё паходжанне вымагае

любові да паланезаў? А яны выклікаюць у мяне толькі пачуццё жалобы і страты, як і сам маёнтак. Спадзяюся, паланезы не будут гучаць у раі.

— А хто абяцаў рай? Я запрашаў у сады зямное асалоды.

Рэгіна не пазіравала. Яна рухалася па звалцы, нібыта па анфіладзе музейных залаў, пакуль не спынілася побач з каркасам шырокага ложка. На высокіх білах свяціліся сталёвым холадам ланцугі шароў.

— Хопіць на сёння, я стамілася.

— Яшчэ колькі кадраў, — Баляслаў навёў камеру на стомлены твар акцёркі.

— А табе не здаецца, што ложак на сметніку выглядае банальна і танна? Мне бачыцца ў ім другасны сімвалізм.

— У нашым спектаклі за дэкарацыі адказваю я. І калі табе бачыцца танны сімвалізм, то для мяне гэта класічны вобраз.

— І для вобразу нестае аголенае жанчыны?

— Так, аголенае райскай жанчыны.

Белую сукенку Рэгіна павесіла на біла. Яе цела ў прахалодным травеньскім паветры набыло штучнасць вітрыннага манекена. Яна села на блакітную рэйку ложкавае рамы.

— Выдатна! — Катавіцкі рабіў кадр за кадрам і абыходзіў ложак. Калі ў відашукальніку з'явілася Рэгініна спіна, ён скінуў са сваёй шыі тонкую шаўковую лямку камеры і загадаў: — Не паварочвайся, усё выдатна.

Лямка ў руках Катавіцкага ператварылася ў пятлю. На змярцвелым твары забойцы вочы звузіліся. Бязгучна ступаючы па мяккім пяску, Катавіцкі наблізіўся да ахвяры. Рэгіна здрыганулася — з ангара бязгучна выкаціўся кар'ерны самазвал. У канцы спуску, каля штабеля аўтапакрышак, ён тарганууся, і над звалкаю завісла вуркатанне рухавіка.

Калі самазвал праязджаў паўз Рэгіну і Катавіц-

кага, з адчыненага акна кабіны пачуўся смех.

— Я згадала адну гісторыю, — Агінская няспешна расправіла сукенку.

### Гісторыя, якую згадала Рэгіна Агінская

На шашы, перад мастом, стаяў мужчына ў чорных акулярах і з важкім саквояжам. Перад фірмовым аўтобусам са срэбным надпісам праз увесь кодаб — «Тэатр моды» ён ускінуў руку. Аўтобус спыніўся.

— Вы на свята? — мужчына ўладкаваўся на паваротным фатэлі каля дзвярэй.

— На Мазырскі нафтаперапрацоўчы камбінат, — адказала прыгажуня ў лісіным футры.

— Столькі прыгажунь, і ўсе на завод?

— А што дзіўнага? — азвалася дзяўчына ў шыракаполым чырвоным капелюшы.

На твары пасажыра з'явілася малапрыемная ўсмешачка:

— І вас ніхто не папярэдзіў, што здараецца на заводзе з маладымі і занадта прыгожымі жанчынамі?

— З намі ўсё, што магло здарыцца, здарылася, — падрэзала тая, што ў рыжым футры.

— Памыляецеся, бо тое, што раскажу, ёсць толькі ў Мазыры.

Мадэлькі скептычна пераглянуліся, але пасажыр не зважаў і працягваў:

— Калі будавалі завод, у адной кладаўшчыцы нарадзілася дзіця. Бацьку хлопчыка ніхто не ведаў. Казалі рознае: і што жыд, і што цыган, і што чачэнец. Людзям рот не зачыніш на замок. Плявузгалі і плявузгалі. У радзільні дактары ніякіх адхіленняў і анамалій не заўважылі. Жахі пачаліся, калі кладаўшчыца вярнулася ў інтэрнат.

Яе суседзі скардзіліся, нібыта па начах чуюцца нялюдскія крыкі. Кладаўшчыца адмоўчвалася ці пачынала даводзіць, што так плачуць звычайныя

дзеці.

Праз колькі месяцаў яна паціху з’ехала з Мазыра.

Калі камендант інтэрната зразумеў, што маці-самотніца больш не вернецца, узламалі пакой і жахнуліся: мэбля, падлога і нават плінтусы былі пагрызеныя, нібыта бабрыная зграя шалела цэлы тыдзень. Тады ніхто нават і не падумаў, што такое мог утварыць дзіцёнак. Пазней высвятлілася: праз тыдзень пасля нараджэння ў хлопчыка выраслі вялікія пацучыныя зубы. Дзіця грызла ўсё чыста. Кладаўшчыца спачатку спрабавала навязваць яго на брызентавы пас, але паса хапала на гадзіну; потым здагадалася прымацаваць да батарэі сабачы ланцуг. Тады суседзі і пачулі нялюдскія енкі і скавытанні. А навязвала хлопчыка таму, што баялася, каб не загрыз яе самую ўначы. Калі ж зразумела — неўзабаве не дапаможа і ланцуг, пасадзіла дзіця ў мех і занесла на сметнік. Сама ж хуценька сабрала рэчы і з’ехала.

І вырасла на сметніку з таго хлопчыка пачвара, якую мазыране называюць Нафтавік, бо ад яго смярдзіць газаю. Цяпер Нафтавік рабуе і гвалціць самотных жанчын. І колькі ні палявалі на яго, нічога не атрымалася, бо Нафтавік, як здань, няўлоўны.

— А вось аднойчы... — раптам мужчына ў чорных акулярах перарваў апавяданне і папрасіў шафёра спыніць аўтобус.

Калі пасажыр сышоў, прыгажуня ў лісіным футры падсумавала:

— Правінцыйныя байкі.

— Але цікава, — запярэчыў малады шафёр.

Пасля выступленняў на свяце горада змучаныя мадэлькі пасяліліся ў гатэлі. Прыгажуня, якая насіла рыжае футра, займала аднамесны люкс. Калі яна змыла сцэнічны макіяж і зірнула ў люстэрка, то ўбачыла — за спінаю стаіць пачвара ў чырвонай касцы. Жанчына адчула атрутны дух

газы.

— Няпраўда! — прыгажуня звярнулася да люстэрка, дзе адбіваўся цёмны, абліты нафтаю твар пачвары.

— Праўда! — вуркатаў Нафтавік.

Пераляканая мадэлька кінулася ўцякаць, але нафтавікова рука ў гумовай пальчатцы схапіла яе за шыю.

— Не люблю мець стасункі з мерцвякамі і вар'яткамі, — рукі ў тоўстых пальчатках расхінулі купальны халат. У вачах зняможанай жанчыны заззяла жудасць.

— Упрыся рукамі ў сцяну!

Махровы халат упаў на падлогу.

Ані ахвяра, ані гвалтаўнік не пачулі, як у нумар зайшоў малады вадзіцель аўтобуса з бутэлькай шампанскага ў руцэ.

Нечаканы ўдар бутэлькаю ніжэй скроні зваліў Нафтавіка, чырвоная каска адляцела пад таршэр.

— Няўжо забіў? — шафёр паклаў шампанскае ў рукамыйнік і пусціў ваду. Аголеная мадэлька захінулася ў халат.

— Што рабіцьмуць з трупам?

Вадзіцель набраў шклянку і лінуў на твар Нафтавіка. Той расплюшчыў вочы і паспрабаваў быў устаць, але не змог.

— Ляжаць! — згадаў вадзіцель і гучна зарагатаў: — А я цябе адразу і не пазнаў у касцы, з нафарбаваным тварам! Гэта ты, Нафтавік мазырскі, дзевак палохаў у аўтобусе?

— Я, — ледзь вымавіў той.

— Прэч адсюль! — завішчала прыгажуня. — Прэч! Ад вас абодвух смярдзіць газаю.

Па дарозе ў горад Баляслаў прапанаваў Рэгіне заехаць да яго:

— Я сапсаваў табе настрой гэтым задушлівым сметнікам і таму лічу сябе абавязаным выправіцца.

— А як гэта будзе выглядаць?

— Убачыш... у мяне ёсць адно захапленне...

— Спадзяюся, не калекцыя марак? — у голасе Рэгіны прагучаў скепсіс.

— Маё захапленне — гісторыя замкаў і турмаў.

## Раздзел чацвёрты.
## Забойства

У кватэры Катавіцкага Рэгіна дапамагла гаспадару пераставіць макет замка на варштат.

— Я даўно не прымаў гасцей і развучыўся гэта рабіць, — Баляслаў паставіў на стол бутэльку алжырскага віна.

— Твой макет нагадвае эскіз тэатральнай дэкарацыі. У тэатры, апроч сцэны, я люблю майстэрню мастакоў. Для мяне роля пачынаецца не з п’есы, а менавіта з эскізаў, з макета. Можа, таму, што я некалі грала ў лялечным тэатры? — Рэгіна састроіла драўляны твар, на якім акругліліся і знерухомелі нефрытавыя вочы, і дыктавым голасам прадэкламавала: — У чорным-чорным горадзе ёсць чорны-чорны замак, у чорным-чорным замку ёсць чорная-чорная вежа, у чорнай-чорнай вежы ёсць чорныя-чорныя сходы, па чорных-чорных сходах ідзе чорны-чорны чалавек...

— Гэта я, — Катавіцкі разліў віно па шклянках.

— І гэты чорны-чорны чалавек, — Рэгіна наблізілася да Баляслава, — знаходзіць чорны-чорны пакой, у чорным-чорным пакоі — чорная-чорная труна, з чорнай-чорнай труны высоўваецца чорная-чорная рука — аддай маё сэрца!!!

— Маё сэрца належыць табе, — Катавіцкі абняў Рэгіну.

У пакоі запала ціша. Баляслаў крануў вуснамі скроню акцёркі. Яна схіліла галаву і ўзняла яго за рукі:

— Пачакай, не люблю, калі мяне распранаюць.

Лёгкі шоўк сукенкі слізгануў на падлогу. Рэгіна села на край канапы. Яе цела страціла манекенную

тэатральнасць, набыло цеплыню і вабнасць.

У цёмным бутэлечным шкле адбіваліся макетныя вежы замка і няспешныя рухі кахання.

Агінская прыўзнялася на локцях і сціснула ў пальцах коўдру. Цёмная плынь валасоў перацякала цераз край канапы. Праз вузкую шчыліну ў парцьерах сонечнае святло праразала пакой і клалася касою паскай на ложак.

Катавіцкі не адчуў палёгкі, толькі стому. Ён паспрабаваў падняцца, але Рэгініны рукі скрыжаваліся на ягонай спіне.

— Я прынясу віна.

— Яшчэ хвілінку. Я чамусьці баюся, што ты зараз устанеш і гэта ніколі не паўторыцца, — Рэгіна пацалавала Баляслава, але той не адказаў.

— І ўсё ж я прынясу віна.

Катавіцкі зачыніўся ў ванным пакоі і пусціў ваду. Не апранаючыся, Рэгіна села за стол і наліла віна, кранула донцам зрэз Баляслававай шклянкі і выпіла.

Калі Катавіцкі вярнуўся, Агінская сядзела каля варштата і, прыўзняўшы дах палаца, разглядала кардонныя інтэр’еры.

— Выдатная цацка, але яна не адпавядае сапраўднасці, на вежах занадта спічастыя дахі...

— Можна паехаць і спраўдзіць.

— Прапанова рамантычная, і я падумаю, калі буду прымаць душ.

Покуль у ванным пакоі шумела вада, Катавіцкі паспеў апрануцца, дастаць з варштата і пакласці ў аксамітную труну фотакуфра важкі аўтаматычны пісталет.

— Ты бярэш фотаапарат? — пачуў за спінаю Катавіцкі і рэзка зашчоўкнуў куфар. — Калі мы прыедзем, будзе ўжо цёмна.

— Ты лічыш, у «Садах зямное асалоды» не можа настаць ноч?

Баляслаў прыпаркаваў пікап каля замкавай брамы.

— У мяне такое адчуванне, что мы не можам выбрацца са сметніка, — Рэгіна кранула рукою пабеленую вапнаю сцяну.

— Няўжо нават у замку ты не адчуваеш сябе князёўнай?

— Князёўна — тая роля, якую мне ніколі не даводзілася выконваць.

— Прапаноўваю ролю князёўны. Тут больш будоўлі, чым разбурэння. Уяві, ты аднаўляеш свой замак.

Агінская падышла да кутняй вежы ў рэстаўрацыйных рыштаваннях і пачала ўздымацца па дашчаных драбінах. За грэбнем дахавіцы разгортвалася возера. Бязгучна віравала вада на далёкай грэблі. Недагледжаны парк падступаўся да самае вады. Над засохлымі вершалінамі клёнаў завіс коршак. Рэгіна ўзнялася на апошні ярус. За местачковымі дамкамі ў вечаровай смузе цямнелі дрэвы над татарскімі могілкамі. У малочна-бэзавым небе праступіў нікеліраваны серп маладзіка. Раптам вечаровую вусцішнасць прашыў ломкі палёт кажана. Рэгіна прыхінулася да халоднай трубчастай стойкі рыштаванняў. Баляслаў прайшоў па дашчаным насціле і стаў поруч.

— Цябе палохае вышыня? — мыском чаравіка ён скінуў зломак дахавіцы. Доўгая цішыня падзення і крохкі гук удару аб брук спарадзіў страх.

— Я баюся, — Рэгіна адступіла да сцяны.

Катавіцкі ўзяў яе за руку.

— Мяне раздражняе кажановы піск. Пайшлі.

У той момант, калі Рэгіна павярнулася да яго спінаю, ён штурхнуў яе. Апошняе, што ўбачыў Катавіцкі, было непаразуменне ў нефрытавых вачах.

На няроўным цёмным бруку замкавага двара сцюдзёным холадам свяцілася белая сукенка.

Катавіцкі сышоў па рыштаваннях, якія хісталіся і скрыгаталі пад ягонымі важкімі крокамі, і пера-

сёк наўскос двор.

Баляслаў зняў машыну з ручнога тормаза, і яна бязгучна выкацілася з брамы. У парабалічным авальным люстэрку хутка змяншаўся адбітак Мірскага замка.

## Другая навела-мроя Баляслава Катавіцкага

— Ты будзеш сведкаю, а мажардома я заб'ю! — былы чаляднік Антон выцер рукавом рот.

— Як жа ж, заб'еш ты гэту падлу! — засумнявалася Яня.

— Ты дапаможаш, — Антон ушчыпнуў былую пакаёўку за бок.

Праз колькі дзён, калі княжацкае баляванне аціхла і госці раз'ехаліся ў карэтах, аздобленых гербамі, Яня ўжо працавала ў жыда на сыраварні, а Антон — малатабойцам у заможнага каваля.

Як толькі сутонлівы змрок апускаўся на княжацкі замак і мястэчка, Антон з Яняю сустракаліся за татарскімі могілкамі і са смакам абмяркоўвалі, як заб'юць гнюснага мажардома.

— Хай толькі з'явіцца на кузні, — летуценіў малатабойца Антон, — дзеўбану па лобе молатам, а ўсім скажу, што конь убрыкнуў.

— Не паверанць, — сумнявалася Яня і клала русявую галаву на Антонаў плячук, — давай лепш, як мажардом на сыраварню зойдзе, я голку ў сыр засуну і яго пачастую: праглыне гад і выпруціцца, як той Сцяпанаў сабака, якому Мікола голку ў сале даў.

— Не праглыне, выплюне. З тваіх рук ён і сыра не возьме.

— Столькі разоў браў, а тут не возьме?.. Хіба ты не здагадаўся, Антончык? Ён жа не з-за парасяці, якога мы ўкралі і з'елі, да князя пабег, а з-за таго, што мяне з табою за гулямі заспеў. Ён нават шлюбам пабрацца абяцаў.

— Ну тады я ведаю, як гада на могілкі пакласці, —

узрадаваўся Антон. — Ты, Яня, як панясеш сыры ў замак, дык знайдзі мажардома, пакруціся перад ім, паплач, скажы, што гэта я цябе прымусіў і парася з'есці, і на панскім ложку пакачацца. А як заляцацца пачне, скажы, што спяшаешся, а ўвечары чакацьмеш за татарскімі могілкамі.

— А можа, нявартa забіваць? Нашто грэх на сябе браць? — Яня зазірнула ў Антонавы вочы.

— Забіваць — не забіваць, а папалохаць трэба!

Як і дамовіліся, Яня запрасіла мажардома сустрэцца ўвечары за татарскімі могілкамі, але Антон не даў веры дабрадушнай Яні і схаваўся ў княжацкім парку каля возера.

На прыцемку мажардом зайшоў да кухара і спакаваў кошык на добрую вячэру: мармуровы брус сальцісона, бутэльку слівовай наліўкі, ладны кус вэнджанае паляндвіцы і белы пірог з разынкамі.

З кошыкам у руках ён не пайшоў у браму, а паціху выйшаў патаемнай форткаю ў ацiхлы вільготны парк. Пад разгалістымі клёнамі свіцілася свежа-блакітная каланада альтанкі-ратонды.

Мажардом выйшаў на алею і прамінуў альтанку. Услед з-за калоны бязгучна з'явіўся Антон з вяровачнаю пятлёю ў руках. Праз імгненне пятля зашморгнулася на тоўстай мажардомавай шыі. Вочы ў ахвяры вырачыліся, твар збарвавеў, рукі выпусцілі кошык з вячэраю і ўхапіліся за пятлю. Але дзе ж ты дасі рады рукам малатабойца?

Антон упэўніўся, што мажардомава душа ўзнялася над паркам, і пацягнуў нябожчыка да крывога дуплястага дуба. Канец вяроўкі ён перакінуў цераз сук, а сам улез на дрэва і замацаваў вяроўку так, што мыскі мажардомавых ботаў захісталіся над высокаю травою.

Антон выкаціў з альтанкі загадзя падрыхтаваны для чорнае справы бярозавы цурбэлак і кінуў нябожчыку пад ногі: маўляў, прыйшоў мажардом у парк з цурбэлкам і вяроўкаю, ды развітаўся з

жыццём.

Яня ўжо зачакалася, калі пачула шпаркія крокі. З-за могілкавае агароджы з плеценым кошыкам у руках выйшаў Антон:

— А твой палюбоўнік так і не прыйшоў?

— Відаць, здагадаўся...

— То ён і не прыйдзе. Я вось тут паесці прынёс, — Антон аддаў Яні важкі кошык.

Тая разаслала на траве радзюжку і пачала раскладаць на ёй прысмакі. Раптам яна войкнула і выцягнула з кошыка мажардомаву люльку:

— А гэта што?

— Задавіўся твой мажардом у парку, за ратондаю. На дуплястым дубе вісіць.

— Што ж ты, Антон, нарабіў? — Яня перахрысцілася і заплакала. — Князь жа зловіць і заб'е!

Антон адкаркаваў бутэльку наліўкі і сербануў з рыльца:

— Салодкая, халера, толькі дзеўкам піць, — ён адкроіў скрыль сальцісона і са смакам зжаваў. Яня выцерла рагом хвартуха слёзы і заліла гора наліўкаю.

Мажардома, як самагубцу, пахавалі не на могілках, а на тым самым месцы, дзе вечарамі Антон з Яняю сцялілі радзюжку.

Гаварылі ў мястэчку рознае, покуль князь не паклікаў Антона і не прапанаваў яму мажардомава месца.

У бары «Каламутнае вока» было тлумна. Катавіцкі сядзеў за кутнім столікам і абыякава вывучаў публіку, покуль не згледзеў джутавую спіну журналіста. Той нібыта адчуў небяспеку і азірнуўся. На здзіўленым твары бялеў пластыравы крыжык. Баляслаў наколькі мог прыязна ўсміхнуўся і запрашальна махнуў рукой. Журналіст завагаўся, але падышоў.

— Здымаеш краявіды? — Баляслаў прапанаваў сесці.

Той сеў, але на пытанне Катавіцкага не адказаў.

— Мінулым разам я, напэўна, перабраў і таму сёння хацеў бы цябе пачаставаць.

— А дзе Агінская? Мне і дагэтуль нельга з'яўляцца побач з ёю? — журналіст узяў чарку.

— Я на тое і прыйшоў, каб даведацца, дзе яна. Мы дамовіліся сустрэцца ўдзень, але яе не было.

— А ты не падобны да чалавека, які даруе падман.

— Зрэшты, мы гаворым не пра мяне.

Журналіст нахіліўся да Катавіцкага і, гледзячы ў сваю поўную чарку, сказаў:

— Я чуў, нібыта Рэгіна скончыла жыццё самагубствам, але дакладнай інфармацыі ў мяне няма.

— Мяркую, смерць пасрэднай акцёркі, — Баляслаў зрабіў паўзу, нібыта прапусціў слова «наркаманкі», — цябе мала абыходзіць.

— Мы дамовіліся, я здымаю краявіды.

— Тады зычу поспехаў, — Катавіцкі падняўся.

— А палацы і замкі, так бы мовіць, архітэктурныя краявіды, можна здымаць?

— Непрыемна мець справу з ідыётамі, — Баляслаў выйшаў.

Прахалодным начным праспектам ён накіраваўся да пляца Перамогі. Стомленыя за дзень светлафоры абыякава міргалі вогненна-памаранчыкавым святлом. Самотныя прахожыя спяшаліся заняць свае месца ў салонах напаўпустых аўтобусаў. Залатое святло ліхтарняў крышылася бліцамі ў свежай лістоце дрэў. У паркавай цемры свіціліся свежым блакітам беленыя вапнаю вазы і балюстрады. Страката апранутыя дзяўчаты на таксовачным прыпынку спрабавалі заспяваць разам, але ў іх не атрымлівалася, і кожная чарговая спроба сканчвалася смехам.

Катавіцкі спусціўся ў падземны пераход, дзе бурштынава палымнеў манументальна-ўрачысты шкляны жалобны вянок. Па сценах зіхцелі бронзавыя спісы пераможцаў.

## Раздзел пяты.
## Настаўнік

У тэатральным скверыку Катавіцкі яшчэ здалёк заўважыў знаёмую постаць у кепцы з доўгім брылём і марынарцы. Сувязны стаяў каля фантана, пасярод якога на базальтавым пастаменце бронзавы хлопчык абдымаў лебедзя. Пругкія струмяні фантана скрыжоўваліся над скульптураю і рассыпаліся на буйныя кроплі. Сувязны аддаў Баляславу дзве капэрты.

— Тут грошы і наступнае заданне.

Катавіцкі напісаў распіску.

— Спадзяюся, ніякіх пытанняў? — сувязны схаваў распіску.

Баляслаў паглядзеў на яго так, нібыта ў капэрце з заданнем ляжаў фотаздымак сувязнога. Ён адышоўся ў бакавую алею, з якой спусціўся ў падземны пераход. Але замест таго, каб ісці ў метро, ён развярнуўся і зноў выйшаў на бакавую алею. Спіна сувязнога схавалася за рогам Акадэмічнага тэатра. Катавіцкі аббег будынак і ўбачыў, як сувязны зайшоў у камісійную краму.

Баляслаў вярнуўся да свайго пікапа, выехаў са стаянкі і спыніўся насупраць камісійнай крамы. Чакаць давялося нядоўга: з аркі прахаднога двара з’явіўся белы легкавік, за рулём якога сядзеў сувязны. Катавіцкі крануўся следам. Праз два кварталы машына сувязнога збочыла ў двор. Баляслаў заехаў двума коламі на броўку і спыніўся. Праз арку ён бачыў, як сувязны выйшаў з легкавіка і зайшоў у пад’езд. Праз хвіліну ў вакне другога паверха запалілася святло, і сувязны зашморгнуў фіранкі.

На стаянцы пад стадыёнам Катавіцкі ўскрыў капэрту з заданнем: на фотаздымку быў настаўнік у вайсковай форме. Агеньчык запальнічкі расцёкся па ражку фотакарткі.

Над возерам сцяліліся пасмы ранішняга туману,

праз які акварэльна прамалёўваўся далёкі бераг з цыліндрам шматпавярховага гатэля і светлымі кубікамі катэджаў. Нізкія хвалі павольна набягалі на халодны жвір пляжа. Каля дашчанага прычала пагойдваўся кацер з брызентавым зашклёным тэнтам.

Рублеўскі ішоў ад прычала па спрасаваным начнымі залевамі пяску. Ён мінаў купкі ссохлых водарасцяў, у якіх пракідаліся маціцовыя ракаўкі пярловіц. Праз сасоннік Рублеўскі выйшаў да акуратнага старасвецкага дамка. Драўляныя калоны падтрымлівалі белы трохкутны франтон. Перад ганкам, у атачэнні высыпаных жвірам сцежак, узвышаўся кветнік з нарцысамі.

## Навела-успамін Рублеускага

У дзяцінстве я жыў недалёка ад Цэнтральнае плошчы. Ад нашага дома можна было прайсці, не пераходзячы вуліцу, у парк, што прымыкаў да плошчы. Бацькі часам адпускалі мяне туды аднаго. Мне падабалася стаяць на старым драўляным вантавым мосце і глядзець на Свіслач. У празрыстай вадзе выгіналіся доўгія водарасці, і хацелася верыць, што гэта валасы русалак, якія хаваюцца за пілонамі. Я крышыў у ваду булку: імклівыя верхаводкі выскоквалі з русалчыных валасоў і хапалі белыя крошкі.

Парк мне заўсёды помніцца ўвосень. З гарадскіх высокіх клёнаў сыпалася лісце, і садоўнік зграбаў яго ў шапаткія гурбы: жоўтыя гурбы на яшчэ зялёнай траве і прасветленае холадам неба над паркам. Лісце падпальвалі, і яно доўга курылася нізкім, спакойным дымам. У такія дні я набіраў з дому бульбу, разграбаў кійком лісце да прысаку, клаў туды бульбу.

Пасля бег да грота, дзе за пазелянелым шклом сонна варушылі плаўнікамі вялікія азёрныя сазаны. Адтуль ішоў да ўрадавых трыбун, што ўзвышаліся над Цэнтральнаю плошчай. Я пералазіў

цераз літую чыгунную брамку і стаяў, паклаўшы рукі на паліраваны гранітны парапет. Унізе ішлі людзі, ехалі машыны. Мяне ніхто не заўважаў, а я у гэты час быў самы галоўны ў рэспубліцы, бо стаяў на прэзідэнцкім месцы. Маёй ягамосці хапала якраз на столькі, каб спяклася бульба.

Але аднойчы, калі падышоў да трыбуны, там ужо стаялі людзі і глядзелі на плошчу. Я праціснуўся да балюстрады і першы раз у жыцці ўбачыў нябожчыка. Ён ляжаў, накрыты сцягам, пасярод плошчы, вакол стаяў натоўп. На памосце, каля труны, выступаў прамоўца. Адзінае, што ведаў пра пахаванні, — трэба зняць шапку. Я зняў.

Я камечыў у руках сваю цыклістоўку. З прамовы зразумеў, што хаваюць прэзідэнта. Я глядзеў наўкола і не знаходзіў на тварах ані жалобы, ані ўрачыстасці. Вачыма сустрэўся з мужчынам у куртцы, які трымаў папяросу ў кароткіх пальцах. Ён падкрэслена лагодна, як большасць дарослых звяртаюцца да чужых дзяцей, сказаў:

— Надзень шапку, холадна.

Ён зазлаваў, бо я не паслухаўся.

Пасля наступнага папярэджання давялося сысці, хоць і хацелася дабыць да канца.

Я вярнуўся да гурбы лісцяў. Цыклістоўку я не надзеў нават тут. Раскапаў і выкаціў з прысаку бульбу. Але есці не змог.

Для мяне смерць назаўсёды звязвалася з пахам печанай бульбы і саладжавым дымам спаленага кляновага лісця.

У доме цёпла пахла свежазмолатай каваю і напаленым камінам. На камінная паліцы пазвоньваў маятнікам чорны паліраваны гадзіннік. Побач, у задымленым глечыку, зіхцелі глянцава-залацістыя аўсяныя каласкі. Праз жалюзі зачыненых аканіцаў у пакой працякала прыгнечанае ранішняе святло. Над канапай, дзе ў гасцёўнях звычайна вешаюць карціны, на драўлянай падстаўцы спачываў зеленка-

вата-іскрысты шчупак. На часопісным століку каля фатэля ўзвышаліся стосы папак з фотаздымкамі і дакументамі.

Рублеўскі прайшоў у кабінет, дзе ў куту, побач з ампірным бюро, нязрушна стаяў адчынены пусты сейф. З бюро Рублеўскі выняў металёвую скрынку, адамкнуў яе, дастаў загорнуты ў праалеенае палатно рэвальвер і пачак набояў. Насоўкаю працёр зброю, адкінуў барабан і запоўніў яго набоямі. Рэвальвер ён паклаў у кішэню свайго доўгага шэрага плашча.

Пікап Катавіцкага спыніўся каля цыліндрычнай вежы гатэля. Цэментовыя прыступкі сходаў спускаліся ў азёрныя хвалі. Уздоўж прычалу пагойдваліся навязаныя кацеры і яхты. У кантэйнерным буданчыку (на адно акно) Баляслаў знайшоў вартаўніка:

— Мяне запрасілі ў госці, але забыліся дамовіцца наконт кацера.

— Твае праблемы, — адказаў касавокі няголены вартаўнік у скураной марынарцы.

— Каб мае праблемы сталі тваімі, гэтага хопіць, — Катавіцкі паклаў грошы на застаўлены парожнімі кансароўкамі столік.

— Гэта ў адзін бок, — вартаўнік пераставіў парожнюю кансароўку на банкноту. — Пайшлі.

Пераадольваючы пахмелле, ён узняўся з-за стала.

Кацер патанаў у ранішнім тумане.

— Ты сказаў — у госці, а да каго? — вартаўнік зашморгнуў маланку пад самы каўнер. — Я там усіх ведаю.

— Калі ведаеш, то здагадайся сам.

— Да жанчыны...

— Здагадаўся.

— Да жанчын звычайна я ўвечары важу. І пляшку знайсці просяць.

— Бачу, ты ўчора знайшоў.

Задаволены тым, што размова пайшла, вар-

таўнік пачаў пераказваць хабвёльскія прыгоды ўчарашняй гулянкі. Але Катавіцкі не слухаў, а глядзеў, як ад барта адбягае хуткая хваля.

## Шванка вартауніка, якую не слухау Баляслау Катавіцкі

Даўно я так не гуляў, каб атруціцца. Рознае бачыў, рознае піў, але каб такое... Вось перад вайной, праўда, таксама было, калі арандатар Смольскі сваю дачку замуж аддаваў за віленскага мастака Сеўруковіча. Панаехала вусатых-барадатых у лакіраваных чаравіках, ледзь змаглі па хатах спаць раскласці. Мне тады гадоў шэсць-сем было, яшчэ ў школу не хадзіў, а старэйшыя хлопцы — Юзік Кацюшэнка з Пашкаю Антановічам, злодзеі — пляшку самагону ўкралі і мне цэлую шклянку налілі. «Пі, — кажуць, — пі, ад самагону касыя вочы выпраўляюцца». Я і выжлукціў, ледзь не задохся, але да астатняй кроплі атруту ў сябе загнаў. Каб галодны быў, то дакладна б памёр. А я ж да гэтага наеўся, як не ў сябе натаптаў: скабы парасячыя смажаныя, кіндзюк, вантрабяначка, бабка з грыбамі... Жывот цвёрды, што гарбуз. Дык вось, выпіў я таго самагону і чую — нешта са мною не так. Калі на дзвюх нагах стаю, то нармальна, а як адну падыму — павалюся. Я павалюся, а Юзік з Пашкам рагочуць. А потым у мяне памяць адабрала. Прачынаюся ў сваёй хаце, на ложку ляжу, а мая баба Маня анучай ваніты з падлогі збірае. «Хто ж гэта нарабіў?» — пытаюся. «Свіння, — кажа баба, — прыйшла і нарабіла». Вось і ўчора атруціўся. Мне пан Казімір наліваў. Як старэйшыя нальюць, дык тручуся, закон такі.

Рублеўскі сядзеў каля распаленага каміна і адну за адной аддаваў яму паперы. Фотаздымкі карабаціліся ў агні і скручваліся ў няроўныя трубкі, рыхтык капіравальная папера. Раз-пораз Рублеў-

скі варушыў вуголле, і тады за камінными кратамі ўздымалася чорная завіруха. Нарэшце засталіся толькі пустыя папкі. Вуголле зацягнулася сівым попелам, і толькі цэгла каміна яшчэ патыхала сухім цяплом.

У перадпакоі Рублеўскі спыніўся перад люстэркам: незашпілены плашч, свежаадпрасаваны гарнітур, каўнер кашулі сцягнуты далікатным гальштукам. Касцяным грабеньчыкам Рублеўскі паправіў валасы. Знешне абыякавы твар паступова набіраў упэўненасці, і чым далей гаспадар старасвецкага дома глядзеў у люстэрка, тым большай рабілася ўпэўненасць.

Рублеўскі апусціў ручку рубільніка, замкнуў дом і схаваў ключ за аканіцу. Праз асветлены невысокім сонцам сасоннік Рублеўскі ішоў да возера. Па вадзе ўсё яшчэ слаўся туман, у якім роўна грукацеў рухавік далёкага кацера. Рублеўскі пайшоў уздоўж берага, у ягоныя сляды праз пясок набягала вада. Ён спыніўся каля вялікіх валуноў, што ўзвышаліся над роўняддзю вады і пяску. Гук рухавіка хутка мацнеў, і ў тумане прамаляваліся абрысы кацера з зашклёным брызентавым тэнтам.

Рука з рэвальверам павольна ўзнялася, і стрэл зліўся з гукам рухавіка.

Борт кацера ўдарыўся ў драўляныя палі масткоў. Вартаўнік закруціў швартовы канат, а Катавіцкі ўжо бег да валуноў, каля якіх ляжаў ягоны настаўнік.

З абпаленай порахам, прабітай скроні на пясок сцякала кроў.

Баляслаў павярнуўся да працверазелага вартаўніка:

— Я тут не патрэбны.

— Вяртаемся ў гатэль, там тэлефон.

— Вартаваць і бегаць у пастарунак — твае праблемы. Плывем назад. Думаю, не варта падымаць рэвальвер, каб цябе пераканаць. Ты зразу-

меў: мяне тут не было, а ты вырашыў пакатацца пасля пахмелля і пачуў стрэл, — Катавіцкі апусціў рукі ў кішэні.

На касавокім твары вартаўніка з'явіўся ліслівы выраз, які маюць людзі, у абавязкі каторых уваходзіць штодзённае прыніжэнне:

— Але за дарогу давядзецца заплаціць.

Кацер скіраваўся на цыліндр гатэля.

— А колькі ты хочаш?

— Трэба паставіць новы рухавік.

Катавіцкі дастаў пісталет і скіраваў яго на вартаўніка:

— Спыняемся, далей пойдзеш пешкі. Я падумаў, што пасля п'янкі табе не зашкодзіць паплаваць.

Вартаўнік паспрабаваў схапіць Баляслава за руку, але атрымаў удар пісталетам у сківіцу. Другой спробы не было: ён скінуў газ і пусціў штурвал:

— Я не выплыву, мне сёння два крокі ступіць цяжка...

— Такіх, як ты, трэба вучыць. Злазь! — шчоўкнуў засцерагальнік.

Вартаўнік адступіў і стаў на карму. Катавіцкі падняў сектар газу да ўпора і рэзка крутануў штурвал: вартаўнік не ўтрымаўся, хапануў рукамі паветра і ўпаў за борт.

## Раздзел шосты.
## Сувязны

У двары за Домам афіцэраў, дзе ўтравелыя закінутыя корты засыпаны леташняю ўчарнелаю лістотай, чакаў Катавіцкі. Ён праходжваўся паўз гаражы, груваcткія металёвыя брамы якіх, здавалася, ніколі нікім не адчыняліся.

Маладая жанчына ў лёгкай сукенцы прытрымлівала на арэлях хлопчыка. Рыпенне іржавага металу поўніла змрочны двор. У ліфтавых шахтах на розных узроўнях віселі шафы кабін.

Катавіцкі ўбачыў праз арнаментальную чыгунную агароджу, як крутым, спадзістым спускам прашархацелі белая з бліскавіцаю мігалкі машына суправаджэння і люстрана-чорны ўрадавы лімузін. З-за камяніц даляцеў нервовы гук сірэны.

Жанчына павярнулася на гук. Хлопчык не ўтрымаўся на арэлях і паваліўся на ўтрамбаваную зямлю. Жанчына падхапіла яго на рукі і панесла да пад'езда.

У суседнім пад'ездзе тарганулася і паехала ўніз ліфтавая кабіна. Калі супрацьвага дасягнула дзявятага паверха і спынілася пад карнізам зашклёнага рызаліта, Катавіцкі паглядзеў на ганак. Выйшаў мужчына ў франтаватым светла-шэрым гарнітуры, са скураным кейсам. Баляслаў не адразу пазнаў сувязнога. Замест прывітання той прапанаваў прайсці ў парк:

— Тут няварта стаяць, пагаворым па дарозе.

Вузкаю форткаю, заціснутай паміж масіўнымі пілонамі, яны выйшлі на сходы зацененай алеі, што пралягала ўздоўж спуску. На паліраваным веерным бруку рухаліся плыткія цені ліповых шатаў.

— Хадземце ў парк, не хачу займацца справамі ў сваім двары, — сувязны паглядзеў на дом з груваcткімі вазамі на фасадзе.

Баляслаў не дазволіў сабе ўсміхнуцца.

На свежафарбаваную паркавую лаўку лёг кейс. Сувязны дастаў капэрту і аддаў Катавіцкаму.

— Ганарар за апошнюю справу, — зачыніў кейс і сабраўся пайсці.

Баляслаў спыніў яго:

— А што з наступным заказам?

— Я мусіў перадаць толькі гэта.

Катавіцкі напісаў распіску, і сувязны лёгкаю хадою скіраваўся да ракі. Счакаўшы, покуль постаць сувязнога схаваецца за паркаваю агароджаю, Баляслаў пайшоў следам. Калі ён выходзіў з брамы, сувязны быў па другі бок вуліцы, стаяў

каля газетнага кіёска і глядзеў на Катавіцкага. Баляславу давялося развярнуцца і пайсці. Сувязны апусціў у сметніцу непрачытаную газету і падаўся да метро.

На станцыі «Пляц Перамогі» ён пачуваў сябе несамавіта, асабліва раздражняла назва. Для яго ніяк не спалучаліся ў адно словы «перамога» і «метро». Покуль сувязны стаяў на платформе, яму ўвесь час карцела азірнуцца, нібыта баяўся, што за плячыма з'явіцца забойца. І ён, сувязны, паляціць на рэйкі, пад колы электрычкі. Чамусьці вельмі дакладна ўяўлялася, як потым забойца зробіць колькі крокаў назад, выберацца з апанаванага жахам і цікаўнасцю натоўпу, каб няспешна ступіць на эскалатар і забыцца на перадсмяротны крык ахвяры. Таму сувязны ўзяў за звычку садзіцца толькі ў першыя дзверы першага вагона.

## Навела-маналог сувязнога

Не ўсе здатныя забіць. Шмат хто хоча забіваць, марыць пра гэта, але не кожнаму дадзена забіраць чужое жыццё. І я толькі адзін з іх. Разумею — слабасць, але пераадолець яе нестае сілы. Спрабаваў. Было заданне: знайсці і забіць. Такая ж самая капэрта, як разношу зараз. Знайшоў. Было цяжка, але знайшоў. Жанчына працавала на заводзе медпрэпаратаў. Штотыдзень яна выносіла з цэха пакунак з ампуламі. Не ведаю, з кім яна не разлічылася. Яна павінна была выпасці з ланцуга, яна зрабілася непатрэбнай і таму небяспечнай. Пазнаёміўся з ёю на вуліцы. Тое, што адбывалася паміж намі на працягу тыдня, яна чамусьці называла каханнем.

Я распрацаваў некалькі варыянтаў забойства. Яны былі, мне здавалася, дасканалыя.

Яна мусіла загінуць у аўтакатастрофе. Жанчына вяртаецца з другой змены, і на цёмнай вулцы перад яе домам з'яўляецца грузавая машына...

Яна мусіла ўтануць у ціхім лясным возеры. П’яная жанчына заходзіць у ваду...

Але я выбраў трэці сцэнарый, пэўна, самы складаны для выканання.

Сустрэў яе пасля працы. Мы стаялі на самай тлумнай станцыі «Пляц Якуба Коласа», дзе заўсёды поўна кірмашовае публікі: вясковыя кабеты з клункамі, дзядзькі з кошыкамі і торбамі, цыганы, азіяты...

Мы стаялі на самым пачатку платформы. Я мусіў зрабіць адзін рух, каб выканаць заданне, каб у маім жыцці адбыліся кардынальныя змены і я стаў прафесіяналам. Я глядзеў у тунель і чакаў, калі па рэйках пабяжыць святло.

Нарэшце з-за павароту фары лакаматыва асвятлілі рабрыстую сцяну. Мая рука лягла на плячо жанчыне, якая праз імгненне мусіла загінуць.

Цягнік, як поршань, выціснуў перад сабою сухую хвалю паветра. Натоўп нервова зрушыўся, як і заўсёды, калі падыходзіць перапоўнены цягнік.

І раптам я адчуў абыякавасць да ўсяго, апроч самога сябе. Зразумеў: калі зараз заб’ю, то падпішу сабе смяротны прысуд. Раней ці пазней заб’юць і мяне.

Мы селі ў вагон, я правёў жанчыну да дому і больш ніколі яе не бачыў.

Яна выпала з ланцуга. Заданне выканаў іншы. Дзіўна, але мне даравалі. Пэўна, і сярод кіраўніцтва ёсць людзі, няздатныя забіваць.

Сувязны выйшаў з метро. Паўз галоўпаштамт трапіў да свайго дома. Гранёныя эркеры спрабавалі разбіць манатонную плоскасць фасада. У сувязнога ўвайшло ў звычку, перш чым зайсці ў арку, паглядзець на сваё акно. Яго нічога не насцярожыла. Вайскова-зялёны колер пад’ездных сцен прыгнятаў. Спіраль лякальных парэнчаў агароджвала вузкую студню пралёту. Дробна зазвінела вяз-

ка ключоў. Сувязны ўжо адною нагою ступіў у кватэру, як яму на патыліцу абрынуўся ўдар.

Непрытомнае цела сувязнога Катавіцкі зацягнуў у кватэру і кінуў на кіліме пасярод гасцёўні. Адчыніў гардэроб: на драцяной скабе хіснуліся гальштукі і рамяні. Калі сувязны быў назейна прывязаны да батарэі, Баляслаў пачаў агляд кватэры. Ён знайшоў на калідоры сцянную шафу, дзе на ніжняй паліцы стаяла бляшаная скрыня з інструментам. Катавіцкі ўзважыў на руцэ нікеліраваны цвікадзёр.

Шуфляды пісьмовага стала былі замкнёныя, але двух удараў хапіла, каб адскочыла стальніца. У верхняй шуфлядзе, побач з пляшкаю каньяку і блокамі цыгарэт, знайшлася і бляшанка з-пад тытуню, у якой захоўваўся пісталет. Начынне астатніх шуфлядаў паляцела на кілім.

Катавіцкі заняўся стэлажом. Кнігі адна за адною перратрасаліся і падалі ў папяровую гурбу, што расла пасярод пакоя. Калі паліцы апусцелі, Баляслаў перайшоў да гардэроба. Кішэні святочных і будзённых гарнітураў вывернуліся непрыстойна-пустымі мяшэчкамі.

Нацюрморт, што вісеў на сцяне паміж каванымі падсвечнікамі, быў вырваны з рамы і апынуўся паміж стосаў бялізны і магнітафонных касет. Кватэра набывала выгляд сметніка.

Сувязны апрытомнеў і зацкавана пазіраў на Катавіцкага, які здзіраў абіўку з акустычных калонак.

Капэрты з заданнямі і грашыма знайшліся ў вокладцы з-пад кружэлкі. Нарэшце Катавіцкі ўбачыў тое, дзеля чаго і тварыўся пагром: свой пашпартны фотаздымак. З цвікадзёрам у руцэ ён падышоў да сувязнога:

— Хто даў табе гэта?

— Дарма ты так. Няўжо не разумееш, што гэта канец?

Цвікадзёр паляцеў у гурбу кніг.

— Разумею, але спачатку скажаш, хто даў табе фотаздымак.

— Канкрэтна твой я атрымаў ад камендантa кватэры прэзідэнта.

— Як на яго выйсці? Не ходзіш жа ты па заданні на кватэру да прэзідэнта?

— Мне нязручна.

Катавіцкі развязаў сувязнога. Той падняў з падлогі бутэльку каньяку:

— Мяркую, самы час выпіць.

— Згода, толькі скажы, дзе знайсці камендантa.

— Ты ведаеш нашу кватэру насупраць стадыёна, дзе раней быў пункт праслухоўвання ўрадавай сувязі? — сувязны зняў са шкляной паліцы дзве чаркі.

— Калі ён туды прыйдзе?

— Сёння а восьмай, — сувязны разліў каньяк па чарках.

Катавіцкі дастаў з кішэні вязку ключоў сувязнога:

— Гэты? — і ўзяў за дзюбку доўгі, падобны да штопара, ключ.

Сувязны кіўнуў і выпіў. Баляслаў зняў з кальца ключ, а ўсю вязку кінуў гаспадару:

— Каньяк дап'еш адзін, — Катавіцкі падняўся і, пераступаючы цераз раскіданую адзежу, выйшаў у перадпакой.

Грымкнулі ўваходныя дзверы.

Сувязны падняў скінуты тэлефон і ўставіў штэкер у раз'ём. Доўгі зуммер загучаў сярод разбурэння. Ён паспеў набраць толькі дзве лічбы, як выбухнуў пісталетны стрэл. Нежывое цела сувязнога абсунулася на паліраваную дошку стала.

Катавіцкі ўзяў з рукі нябожчыка тэлефонную трубку і паклаў яе на рычагі апарата.

## Раздзел сёмы. Прэзідэнт

На канспіратыўнай кватэры грунтоўна стаяў ненавісны Катавіцкаму пах каніфолі і гарэлае іза-

ляцыі. Нават густы водар свежазгатаванае кавы толькі разбаўляў, але не нішчыў яго. Праз апушчаныя жалюзі прабівалася шчыльна-жоўтае перадвечаровае святло. Ломкімі паскамі яно крэсліла падлогу, сцены і стэлажы.

Баляслаў ляжаў на парэпанай скураной канапе і праглядаў леташні, знойдзены ў перадпакоі часопіс. Побач з недапітаю філіжанкай кавы на падлозе ляжаў пісталет.

Катавіцкі пачуў, як у замок устаўляецца ключ. Ён сціснуў рукаятку пісталета: шчоўкнуў засцерагальнік, палец лёг на курок. Баляслаў схаваўся паміж стэлажамі з апаратураю. Праз шчыліну паміж паліцаю і ўзмацняльнікам ён бачыў: у пакой зайшоў невысокі поўны мужчына ў пыльна-шэрым гарнітуры. Ягоную лысіну прыкрывалі доўгія пасмы блякла-русявых валасоў. На сытым твары паблісквалі васільковыя вочкі. Мужчына скінуў пінжак, пад пахамі крэмавай кашулі выразна цямнелі пляміны поту. Скураныя рамяні падтрымлівалі важкія похвы з пісталетам.

Катавіцкі бязгучна пакінуў сховішча, наблізіўся да каменданта і выхапіў у таго пісталет. З неўласцівым пры такой паўнаце спрытам камендант развярнуўся і ўдарыў Баляслава нагою ў жывот.

Катавіцкі стрэліў. Куля ўспарола скураны валік на канапе і выбіла кавалак атынкоўкі. Камендант адскочыў.

— Сашчапі рукі на патыліцы і павярніся тварам да сцяны, — загадаў Баляслаў.

Камендант падпарадкаваўся.

— А цяпер ты адкажаш на ўсе пытанні. Калі які адказ мне не спадабаецца, пашкадуеш, што нарадзіўся на гэты свет! — Катавіцкі прысеў на край стала. — Хто загадаў мяне забіць?

— Я аддаў загад.

— Ты падрыхтаваў капэрту з заданнем, але мне патрэбны той, хто загадваў табе.

— Я падпарадкоўваюся толькі прэзідэнту.

— А цяпер вернемся да Рэгіны Агінскай. Якая сувязь паміж акцёркаю і прэзідэнтам?

Нават са спіны было відаць, што камендант заўсміхаўся:

— Ты прафесіянал у мужчынскіх справах, але што тычыцца жанчын — дылетант. Агінская была ягонай каханкаю. Але год таму здарылася непапраўнае: Рэгіна пачала шантажаваць прэзідэнта. Мы занадта позна даведаліся, што яна наркаманка, і ўсе спробы выратаваць яе аказаліся марнымі. Мы вымушаны былі знайсці выйсце. План Рублеўскага нас задаволіў.

— Прэзідэнт загадаў забіць Агінскую?

— Ён быў не супраць.

— Дзе зараз прэзідэнт?

— У Доме ўрада.

— А ўвечары дзе ён будзе?

— Не ведаю.

— Ты ж камендант.

— Але не сакратар. Я адказваю за побыт і тэхніку, каб усё круцілася. Шафёр, які чакае мяне ўнізе, відаць, непакоіцца.

Баляслаў рассунуў дзюралевыя планкі жалюзі, каб паглядзець на двор. Камендант схапіў са стэлажа металёвую скрыню і кінуў. Катавіцкі паспеў ухіліцца. Пагнутыя планкі жалюзі пасыпаліся на падваконне. Разам з грукатам скрыні прагучаў стрэл. Каменданта адкінула да паліц, ён паспрабаваў ухапіцца за іх, але рукі не слухаліся. Паваліўся на брудна-зялёны лінолеум. Па крэмавай кашулі расцякалася крывавая пляма. Рэдкія пасмы валасоў з'ехалі з лысіны і рассыпаліся на падлозе. Катавіцкі схіліўся над камендантам і павадзіў далонню перад ягоным тварам — зрэнкі не рэагавалі на змену святла.

Ні ў двары, ні за брамаю ніякай машыны, пра якую гаварыў камендант, вядома, не было.

Сваю машыну Катавіцкі пакінуў на стаянцы перад стадыёнам. Трамваем ён праехаў два пры-

пынкі да бровара «Крышталь». На цагляным фасадзе свяціліся неонавыя буслы абапал піўнога збанка. У тупіку за броварам стаялі грузавікі з бульбаю. У асветленай альтанцы шафёры гулялі ў карты. Катавіцкі звярнуўся да гульцоў:

— Мне трэба мех бульбы на памінкі. Можа, хто прадасць?

Першым падняўся малады хударлявы шафёр, на пабітым воспаю твары вылучаўся дзюбаты нос:

— Хадзем.

Шафёр падвёў Баляслава да старога запыленага грузавіка.

— Лезь у кодаб і набірай, — шафёр прысеў на бампер.

— Не на сабе ж я мех пацягну... Тут недалёка.

Шафёр неахвотна залез у кабіну. Катавіцкі ўладкаваўся побач на рыпучым, засланым зрэбнаю посцілкаю сядзенні.

— Куды ехаць? — спытаў даўганосы, калі за парканам бровара бліснулі трамвайныя рэйкі.

— Направа, уздоўж трамвайнай лініі.

— Каго хаваеш? — машына выехала на мост, пад якім у чаратовых берагах плыла вузкая ў гэтым месцы Свіслач.

— Настаўніка, — Баляслаў паказаў наступны паварот.

Машына завярнула на брукаваны пад'ём і цяжка падалася ўгору. Уздоўж тратуараў чарнелі зморшчаныя кульці абпілаваных таполяў. За невысокай бальнічнай агароджаю ў двары, асветленым падслепаватымі ліхтарнямі, прывідна бялеў бетонны фантан з мядзведзямі. Праваруч на ўтравелым пагорку падступала да самага адхону шаравата-крэйдавая каланада ратонды. Над пустым скрыжаваннем міргаў жоўты дыск светлафора.

Грузавік зрабіў апошні паварот і ўехаў у нізкую дваровую арку.

— Вось тут, — Катавіцкі паказаў на патрушчаны

ганак, — пайшлі ў сутарэнні, возьмем скрыні.

Баляслаў першы сышоў у вільготную задуху сутарэнняў. На дашчаных дзвярах чарнелі вялікія неахайныя нумары. Цяжкая палоса завалы перакрэслівала дзверы, перад якімі спыніўся Катавіцкі. Ён адамкнуў важкі навясны замок. Шафёр здзівавана глядзеў на ссыпаную ў загарадку бульбу і таму не адразу заўважыў настаўленую на яго рулю пісталета.

— Заходзь і садзіся. Пабудзеш тут да раніцы. Калі пачнеш крычаць, усё адно ніхто не прыйдзе. Ключы ад машыны і дакументы.

Катавіцкі паставіў завалу на месца. Ужо ў кабіне ён разгарнуў вадзіцельскае пасведчанне. Побач з зашмальцаваным фотаздымкам прачытаў прозвішча — Пуставік.

Машына з бульбаю мінула віядук кальцавое дарогі і выехала на тракт, што вёў да ўрадавага лецішча. На лясным скрыжаванні Баляслаў збочыў, развярнуў машыну і заглушыў рухавік. Праз шырокую прасеку з кабіны добра праглядаўся кавалак тракта.

## Трэцяя навела-мроя Баляслава Катавіцкага

Гаварылі ў мястэчку рознае, покуль князь не паклікаў Антона і не прапанаваў яму мажардомава месца. А было гэта так.

Прыйшоў у кузню начальнік княжацкае варты і сказаў:

— Пайшлі, Антон, князь табе дараваў, хоча паставіць на мажардомава месца.

Здзівіўся і каваль, і ягоная жонка, але хто не ведае княжацкіх выбрыкаў? На тое ён і князь, каб здзіўляць сваім розумам.

Стаў Антон перад князем і пачаў прасіць за парася прабачэння, на што князь адказаў:

— Я не свінапас, каб свіней лічыць. Дык ты згодны стаць на мажардомава месца?

— Не, я люблю ў кузні молатам памахаць, —

у Антонавай паставе з’явілася напружанне зацкаванага звера.

— А мне казалі, што ты людзей душыць любіш.

Антон было памкнуўся да князевага фатэля, але вартавы спрытна накінуў на яго ззаду пятлю і скруціў рукі малатабойцы канаплянай вяроўкаю.

— Усё ты ўлічыў, — загаварыў князь, — аднаго не ведаў: мажардом сказаў кухару, што да Яні йдзе. Блага, што кухар не адразу пра гэта ўспомніў. Але Яня нам дапамагла. Прывядзіце яе.

У залу прывялі Яню з плеценым кошыкам у руках. Яшчэ з парога яна пачала плакаць:

— Гэта ўсё ён. Я нічога не ведала, покуль на другі дзень у кошыку мажардомаву люльку не знайшла.

Антон хацеў быў сказаць, што ўсё яна ведала, і без яе дапамогі ніколі не выманіў бы ён мажардома з-за цагляных замкавых муроў у начны парк, але раптам забаяўся д’яблавае сілы, што сядзела ў мажным целе былой пакаёўкі.

І мястэчка і замак больш за месяц чакалі смяротнага пакарання, што мелася адбыцца на галоўным пляцы. Нават у кірмашовыя дні прыгнечанасць і неспакой не давалі разгарнуцца вясёласці. Таму ў карчме рамеснікі выпівалі ціха, як за хаўтурным сталом, а жыды нават самым п’яным хабалам давалі рэшту. А калі пасярод пляца пачалі збіваць з дошак эшафот і ставіць высачэзную шыбеніцу, дык кожны палічыў сваім абавязкам кінуць працу і паглядзець на работу княжацкіх цесляў. У свежыя, смаляныя дошкі заходзілі доўгія цвікі, а рэха ўдараў білася ў чатырохкутніку паміж касцёлам і царквою, сінагогаю і мячэцццю.

Старыя кабеты загадзя плакалі, бо ўсё ж шкадавалі Антона і праклінала Яню.

Віленскі кат у белых шаўковых пальчатках і крывава-чырвоным капюшоне прагульваўся ў замкавым двары. А княжацкія пакаёўкі спрачаліся шэптам: ці ёсць у яго вусы і барада. Карэта з дзяр-

жаўным гербам чакала перад замкавай брамаю. Кат выняў з кішэні срэбную цыбуліну гадзінніка, адшчоўкнуў накрыўку — і ў руцэ загучалі першыя такты мінорнага паланезу. Ён даслухаў мелодыю і няспешна пакрочыў да карэты.

На пляцы пад шыбеніцаю сабралася не толькі мястэчка, але і сяляне з навакольных вёсак і хутароў. Па-рознаму пераказвалася ў натоўпе гісторыя мажардомавай смерці. Асабліва лядачыя спрабавалі пераканаць даверлівых слухачоў, што гэта сам князь падвучыў Антона забіць. Былі і такія, асабліва з праваслаўных, што ўсё валілі на жыдоў і татар. Іх не спыняла нават тое, што сам мажардом быў караімам. Усе спрэчкі аціхлі, як толькі на пляц выехала карэта з катам. Ён узняўся па прыступках на эшафот, праверыў, ці па правілах зроблена пятля.

Па пукатым бруку зазвінелі абабітыя жалезам колы. Антон у белай кашулі са скаванымі ланцугом рукамі сядзеў на ахапку саломы і ваўкавата пазіраў на натоўп, што расступіўся, каб прапусціць калёсы з асуджаным.

Варта засталася на пляцы, а Антон сам узняўся на эшафот, дзе ўжо побач з катам стаяў стараста з прысудам у руках. Кат загадаў Антону стаць на лаўку пад пятлёю.

Стараста жаночым вісклівым голасам дачытаў прысуд і спешна сышоў з эшафота, нібыта яго, а не Антона, збіраліся вешаць.

Натоўп, нібы зачараваны, глядзеў, як рукі ў белых шаўковых пальчатках расправілі пятлю і паднеслі яе да твару асуджанага. Раптам Антон ускінуў рукі і закруціў кароткі ланцуг на шыі, што хавалася пад чырвоным капюшонам. Натоўп хіснуўся і загудзеў. Князь, які сядзеў на ўзвышэнні, прыўзняўся над фатэлем. Варта, заганяючы стрэмкі ў далоні, палезла на эшафот. Кат марна спрабаваў развесці Антонавы рукі. Калі вартаўнікова дзіда ўбілася ў Антонаву спіну, пад левую лапат-

ку, побач з хрыбетнікам, кат быў нежывы. Малатабойца паспеў пераламіць яму шыю.

Па загаду князя Антона пахавалі пад агароджаю каталіцкіх могілак. «Каб ані на могілках, ані за імі яго не было!» — вызначыў князь. А яшчэ ён загадаў накідаць у дол вапны, каб тая з'ела нават косці забойцы.

Яня, якая пасля таго дня сказілася, нягледзячы на ўсе забароны, прыносіла на магілу кветкі.

Імёны ката, мажардома і нават князя ў мястэчку забылі, а тое, што малатабойца, які зламаў шыю кату пад шыбеніцай, звалі Антонам, а здрадніцу-палюбоўніцу — Яняю, памятаюць усе.

Толькі ранішняе сонца ўзнялося над далёкімі пагоркамі і доўгія цені прыдарожных соснаў пакрэслілі асфальт, Катавіцкі прачнуўся. Кароткі неспакойны сон не прынёс палёгкі. Каб адагнаць стому, Баляслаў уключыў прыёмнік, адчыніў дзверцы і саскочыў на ігліцу.

Глянцавітыя камлі рэдкага сасонніку паўставалі з хісткіх зарасцяў блакітнае папараці. На нізкай галіне рэзка ўскрыкнула, сарвалася і паляцела вялікая шара-сіняя сойка.

Катавіцкі вярнуўся ў кабіну. Нарэшце з-за пагорка з'явіўся прэзідэнтскі картэж: паперадзе ішоў белы легкавік, за ім лакіравана-чорны, з браніраванымі шыбамі, лімузін, за якім пульсавала сінімі бліскавіцамі патрульная машына.

Баляслаў запусціў рухавік. Калі папярэднія колы ўжо ўз'ехалі на гравійнае ўзбочча, перад грузавіком праскочыў МАЗ, гружаны гарачым асфальтам. Машына Катавіцкага набрала хуткасць і пайшла за ім. Заўважыўшы сінія сполахі бліскавіцы, МАЗ скінуў хукасць і прыняў управа, папярэджваючы Баляслава рубінавымі стоп-сігналамі. У той момант, калі МАЗ спыніўся, паўз Катавіцкага праляцела белая машына суправаджэння. Тады ён рэзка выкруціў руль улева і выехаў на сярэдзіну

шашы. Шафёр прэзідэнта нават не паспеў зрэагаваць, лімузін на ўсёй хуткасці ўрэзаўся ў правы борт грузавіка. З праламанага кодаба на скарабачаны лімузін абрынуліся тоны бульбы.

Баляслаў выбіў нагою скрыўленыя дзверцы. Ён абышоў разбіты грузавік і зазірнуў у абесшыбленае акно лімузіна. На пярэднім сядзенні, побач з трупам шафёра, па шыю засыпаны бульбаю і шклом сядзеў нежывы прэзідэнт.

Па залітай бензінам бульбе пабегла блакітнае полымя. Катавіцкі адышоўся і сеў на адхон. Ён глядзеў, як ахоўнікі, апранутыя ў аднолькавыя цэментова-шарыя гарнітуры, выцягвалі нябожчыкаў, як ахопленыя полымем машыны спрабавалі расцягнуць гружаны асфальтам МАЗ, як, нарэшце, выбухнулі бензабакі і вогненны слуп узняўся над трактам.

## Эпілог.
## Турэмныя могілкі

У адзіночнай камеры Пішчалаўскага замка, на засланых байкавай коўдрай нарах ляжаў Баляслаў Катавіцкі. Ён нават не прыўзняўся, калі ў камеру зайшоў начальнік турмы.

— Здагадваешся, нашто я сюды завітаў? — начальнік зачыніў дзверы.

Катавіцкі не адказаў, адно запытальна паглядзеў. Начальнік выняў з кішэні пляшку славянскай гарэлкі.

— Шчыра кажучы, не ведаю, што з табой рабіць, — з другой кішэні начальнік выняў дзве чаркі. — Прэзідэнта няма, і ўся ягоная каманда апынулася па-за гульнёй. Хто будзе наступным — невядома. Твой лёс няма каму вырашаць.

Яны пілі моўчкі. Гутарку, прапанаваную начальнікам, Баляслаў Катавіцкі не падтрымліваў.

А калі ў пляшцы засталася адно трэць, начальнік пакінуў марныя спробы ўдакладніць, на каго

працаваў Катавіцкі, і перавёў гутарку ў нечаканую плоскасць:

— Тут да нас ходзіць адзін журналіст, кажа, асабіста знаёмы з табой, дамагаецца сустрэчы. Я не падпісаў дазволу, але, калі хочаш?..

— А паводле афіцыйнай версіі я ўсё яшчэ шафёр бульбавоза, які пахмяліўся і заснуў за рулём?

— Газеты друкуюць адно: спісы палітычнай эліты пад некралогамі.

— Журналіст мяне не ўратуе. Дый, наогул, мне не хочацца гаварыць.

Начальнік турмы расклаў па кішэнях парожнюю пляшку і чаркі:

— Спачатку хацеў выпіць з табою ў кабінеце, але мне там абрыдла. Першы раз п'ю з вязнем. Напэўна, надышоў час скласці рапарт аб адстаўцы. Лепш самому пайсці.

— Лепш самому, — пагадзіўся Баляслаў.

Па гэтых словах начальнік турмы паклаў на край зэдля загорнутае ў прапарафіненую паперу лязо.

Труп Баляслава Катавіцкага, загорнуты ў чорны поліэтылен, вынеслі з камеры і панеслі гулкімі лабірынтамі замкавых калідораў.

На турэмных могілках у загадзя падрыхтаванай неглыбокай яміне стаяла вада.

Два далакопы ў чорных турэмных робах няспешна засыпалі буйным жвірам дол. У канец яны паставілі непранумараваны гранёны слуп.

З шарага менскага неба на зубчастыя прысадзістыя вежы Пішчалаўскага замка сыпаўся дождж.

*1991*

# САПЕЖЫНСКІ ПРЫВІД

*Трылер*

Асобы:

1. Зміцер Хут — трыццацігадовы журналіст, нежанаты, жыве з мамаю, якую любіць, паважае, слухаецца ва ўсім, апроч прафесійных спраў. А працы ён адданы да самазабыцця. Зміцер згодны дзеля поспеху на рабоце ісці на ахвяры: хадзіць па архівах, ездзіць у камандзіроўкі, падманваць і рызыкаваць. Хут марыць высачыць хоць бы адну пачвару, прывіда, здань. Таму ён з дзяцінства заўсёды трымае напагатове фотаапарат.

2. Ліда Лазаркоўская — настаўніца-філолаг, выкладае мову і літаратуру ў Сапежынскай школе. У Ліды чорныя, трошачкі прыгаслыя вочы, залаціста-брунатныя валасы, на якіх ззяе тысяча іскрынак і ніводная з іх не адаб'ецца ў воку, каб хоць на імгненне парушыць глыбокі сум. У Ліды прывабная пастава местачковай шляхцянкі, рухі плаўныя, але ўпэўненыя і ўладарныя: што зробіш — настаўніца, хай сабе і лірыкі. Для Ліды Лазаркоўскай боскія цуды могуць з'яўляцца выключна ў хрысціянскім саборы, хай сабе ў занядбаным і паўразбураным.

3. Алег Будзько — настаўнік геаграфіі. Пра яго знешнасць можна сказаць адным словам — «від-

ны». А вось погляды на жыццё меў даволі адметныя: імперыю лічыў дасканалай формай дзяржаўнасці. Таму спрабаваў аб'яднаць хрысціянскую мараль з камунізмам. Але ў Сапежыне апроч пісання артыкулаў у мясцовую газетку так нічога вартага і не зрабіў.

4. Базыль Гладкевіч — дырэктар Сапежынскай школы. Худы і сутулаваты мужчына з сівой акуратнай бародкаю. Акуляры «ровар» — запозненая даніна юнацкаму захапленню біт-музыкай і Джонам Ленанам. Доўгія, зачэсаныя назад валасы занадта сівыя, каб нагадваць пра ільва, хутчэй — ліс-пярэварацень: хітры, але стомлены, прыціснуты абставінамі. Доўгі чырвоны шалік, які Гладкевіч павязвае вакол шыі, страшэнна не пасуе яму ў паўсядзённым жыцці. Пэўна, таму доўгія пальцы дырэктара ўвесь час завязваюць і развязваюць вузельчыкі на мэндліках. Такому да твару падышоў бы манокль. Базыль Гладкевіч не столькі верыць, як любіць расказваць пра сапежынскіх зданяў.

5. Адміністратарка гатэля — рухавая, вастраносая кабета, з круглым тварыкам і ружовымі шчокамі. У сваім запенсійным узросце захавала цікаўнасць да шматаблічнасці жыцця. Такіх жанчын-бабулек цікавіць усё на свеце: ад плямкі на прасціне да вайны на Каўказе. Яна згодная слухаць вашы паданні цэлымі суткамі, калі 23 гадзіны вы будзеце выслухоўваць яе апавяданні. У радыусе адзінаццаці кіламетраў для такіх людзей не існуе таямніц, прынамсі, яны ў гэта вераць. Дарэчы, у маладосці яна служыла пакаёўкай у маёнтку Баркулаба Гарта.

6. Сымон Лазаркоўскі — настаўнік гісторыі. Дастаткова аднаго погляду на шышкаваты чэрап, каб пераканацца ў Сымонавых педагагічных

здольнасцях. Ён — настаўнік ад цемені да самых дзюбачак наваксаваных да бляску чаравікаў. З такіх Лазаркоўскіх атрымліваюцца выдатныя калекцыянеры, наглядчыкі, антраполагі — ну, і педагогі. У людзей гэтай пароды заўсёды падрыхтаваны адказ на любое пытанне. Толькі зірнеш у праўдзіва-вялікія вочы — жаданне пытацца выпарваецца. Застаецца адно даведацца, а колькі ж цяпер часу? Сымон Лазаркоўскі няспешна дастане гадзіннік на срэбным ланцужку і абвесціць час з дакладнасцю да секунды. Ён жорстка падзяляе людзей на тых, у каго ёсць душа і, адпаведна, бессмяротнасць, і бяздушных, каму пасля смерці наканаваны нябыт.

7. Генадзь Сурма — маленькі чалавек, пастаўлены ўласнымі амбіцыямі на высокія абцасы. Яго лоб упрыгожвае чорны пушысты чубок — усё, што засталося ад некалі густога чуба. Генадзь носіць выключна белыя накрухмаленыя кашулі з жабо — адзіная раскоша ў гарнітуры. Нагавіцы ў Гены школьныя, набытыя ў краме «Дзіцячы свет». Усім абліччам Сурма нагадвае хлопчыка-выдатніка, якога ніхто не любіць, нават настаўнікі, змушаныя ставіць яму «выдатна», бо проста больш няма каму. Ягоныя погляды на жыццё мяжуюць з цынізмам, а правінцыю ён малюе адно чорнаю фарбай.

8. Яніна Сабалеўская — бібліятэкарка. Яна сядзіць у пустой бібліятэцы, нібыта райская птушка ў скрынцы з-пад абутку. Вось тут прайшла, мінула, згасла яе маладосць — сярод пылу, кніжных пераплётаў, чэзлых кветак ды зморшчаных кактусаў. Але Сабалеўская не скарылася — акуратны макіяж, прычоска, манікюр. І дзеля чаго? Дзеля якога каралевіча паблісваюць срэбныя завушніцы? Дзеля якіх вытанчаных натур лунае прахалодны водар французскае парфумы? Невядома.

Таямніца. Як невядома, па чыім заказе маляваўся той ці іншы партрэт, што вісіць на музейнай сцяне.

9. Юрась Талочка — следчы. Ён чымсьці нагадвае старшыню калгаса. Можа, кароткім шырокім гальштукам, які ляжыць на ягоных грудзях, нібыта высалаплены язык? А можа, падабенства ў налітым, напампаваным прыроднай жыццяздольнасцю твары? Рукавы ягонага пінжака выглядаюць закараткаватымі. Паўнець, тлусцець, наліваціца Талочка пачаў нядаўна. Ён яшчэ малады чалавек, а ўжо прыняў местачковае жыццё цалкам, «з чаркаю і скваркаю». Губы ільсняцца, і пытанні выслізгваюць з іх, як ментузы з рук. Такому Юрасю лягчэй знайсці сто кодабаў крадзенай бульбы, чым адну няправільную літару на старонцы тэксту. Для яго ўсе злодзеі — людзі, але і ўсе людзі — злодзеі.

10. Іван Зайцаў — настаўнік працы, спеваў і расейскай літаратуры. Твар у Івана зямлісты, і адзіная адметнасць — глыбокія складкі, што залеглі ад крылцаў носа да куточкаў губ. У вадзяністых вачах прырода прасвідравала такія глыбокія зрэнкі, што, здаецца, іх жахлівая глыбіня значна большая за вачаніцы ў чэрапе. Пры ўсім гэтым у Івана ёсць і свая прыгажосць, праўда, мярцвяная, як у тэлевізійным дыктары, але сярод жанчын ёсць прыхільніцы такіх абліччаў.

11. Баркулаб фон Гарт — доктар, оптык-механік. Уладар сапежынскіх земляў. Асоба настолькі таямнічая і злавесная, што партрэт яе ўяўляецца ў запыленым расколатым люстэрку. Звесткі пра рэальнае жыццё доктара Гарта перарываюцца ў верасні 1939 года. Але паколькі ніхто не бачыў ягонае смерці, дык сапежынцам мроіцца за кожным таямнічым здарэннем постаць Баркулаба

фон Гарта.

## 1

Алег Будзько ўказальным пальцам адцягнуў ніжняе века і зняў кантактную лінзу. Шкляная, выгнутая, як луска, пласцінка выслізнула ў мензурку з фізіялагічным растворам. Алег паміргаў і прыбраў слязу ражком насоўкі. Мензурку ён паставіў на кніжную паліцу.

Будзько ледзь не кранаўся галавою нізкай скошанай столі мансарды. Невялікі пакой выглядаў адначасова як святліца, кабінет і сталовая: вузкі дашчаны тапчан, засланы клятчатай радзюжкай; школьны настаўніцкі стол, канспекты і геаграфічныя атласы; вялікая каляровая карта паўшар'яў, прышпіленая да столі; побач з падручнікамі на кніжных паліцах абы як пастаўлены танны фаянсавы посуд; урачыста зашклёная, як карціна, калекцыя мінералаў у цяжкай дубовай раме.

Унізе ледзь чутна рыпнулі дзверы.

Будзько выйшаў на сходы і гукнуў: «Яніна, вы?» Але ў доме, як і да гэтага, панавала ціша. Праз залу бязгучна прайшоў чорны кот.

Алег дастаў з шуфляды стала важкі артылерыйскі бінокль. У ліловых лінзах аб'ектываў паплылі скажоныя адбіткі пакоя. За расчыненым паўкруглым акном паўставаў вечаровы Сапежын: васковая вежа касцёла ў лішаях аблупленага тынку, цёмнасіні дах царквы, стромкая званіца, што ледзь вытрымлівала цяжар залачонага купала; на запыленым пляцы поруч з аўтобуснай станцыяй ззяла разбітым шклом шыльда гатэльнай рэстарацыі «Дзвіна»; безгустоўна яркія ружовыя, салатавыя, брудна-блакітныя і брунатныя аднапавярховыя дамкі бязладна парушалі аднастайнасць ужо цёмнай чэрвеньскай зеляніны; ад грэбеня яловага лесу, што тапырыўся над стромай пясчанага

кар’ера, да мястэчка падбіралася навальнічная хмара парослых соснамі могілак. У ёй чырванела дахоўкай гатычная капліца. Праз дарогу ад могілак узвышалася на грудку бібліятэка — свежавыбелены вапнаю аднапавярховы дамок з блакітнымі ваконнымі рамамі. За нізкім штыкетнікам у гародчыку пакалыхваліся на высокіх сцяблінах далікатныя вяргіні. У кветнік зайшла жанчына.

Алег Будзько пакруціў акуляры. Трохі расплывістая выява акрэслілася — Яніна Сабалеўская зразала бліскучымі нажніцамі кветкі. Жанчына схавала твар у букеце. Будзько глядзеў, як яна зайшла ў бібліятэку, паставіла вяргіні ў вазу і старанна выцерла нажніцы ручніком. Міма гародчыка стары дзядок у вялікім капелюшы і ў рогавых акулярах, пастукваючы кульбаю па бруку, павёў козы. Яму насустрач прабегла зграйка босых цыганят, услед якім ляцеў брэх сапежынскіх сабак.

За мястэчкам, паміж блакітных, парослых ядлоўцам грудоў, ляжала крывое люстэрка Русалчынага возера. Будзько зноў падкруціў акуляры і ўбачыў, як пры самай вадзе крочыць сутулаваты мужчына з касою на плячы. Паўночны краявід толькі пачынаў набіраць вечаровыя золата і чырвань. Нешта знаёмае падалося Алегу ва ўпэўненым кроку мужчыны-касца. Ён паспрабаваў настроіць бінокль, але локаць саслізнуў са стала, і Будзько асляпіла сканцэнтраванае лінзамі сонца.

Цікаўны да чужога жыцця настаўнік геаграфіі не пачуў, як за яго спінаю адчыніліся дзверы, і ў прагале паўстала постаць у доўгім чорным плашчы. Высокі настаўлены каўнер датыкаўся да шырокага цёмнага берэта. Яркі шалік пакідаў на твары толькі месца для цёмна-сініх люстраных акуляраў. Рука ў пальчатцы занесла над географам зведзеныя вострадзюбыя нажніцы.

Настаўнік адчуў — за ім нехта стаіць, але страх не дазволіў азірнуцца. Апісаўшы дугу, рука ў паль-

чатцы глыбока загнала нажніцы ў чалавечае вуха. Забойца адступіўся. Алегава цела выпрасталася і разам з крэслам абрынулася на падлогу. Забойца пераступіў праз нябожчыка, зачыніў акно і зашморгнуў фіранку. Ён падхапіў забітага пад пахі і няспешна пацягнуў сходамі. Абцасы несамавіта пастуквалі па прыступках. Забойца цягнуў цела праз залу і ледзь не паваліў цабэрак з высокім фікусам. Вялікі, як рыбіна, мёртвы ліст плаўна зляцеў на кілім. З-пад камоды бліснулі вочы перапалоханага ката. Забойца плячом адчыніў дзверы ў святліцу. Праз завешанае цюлем акно ў пакой падаў касы слуп пыльнага святла. Прыцішанае вечаровым сутоннем сонца крышылася ў вузкім люстры трумо, дзе адбіваўся высокі металёвы ложак з пірамідай гладкіх падушак. Забойца паклаў цела настаўніка на ходніку, адкінуў коўдру, разабраў піраміду падушак і пачаў распранаць нябожчыка. Клятчатая кашуля і джынсы акуратна леглі на спінку невысокага крэсла. Труп быў усцягнуты на ложак. Забойца паклаў на змярцвелы твар руку і рэзка выцягнуў нажніцы з вуха — густая кроў палілася на бялізну. Забойца развёў нажніцы і ўсадзіў іх нябожчыку ў вочы.

## 2

Зміцер Хут уключыў кававарку. Густы пах кавы запоўніў невялікую рэдакцыйную фоталабараторыю. Іскрыста патрэскваў і міргаў агеньчыкам індыкатара стацыянарны глянцавальнік. З-пад палатнянай стужкі на пластыкавы шчыток выпаў квадратны фотаздымак. У цёмным кадры лунала расплывістая постаць. Ліда Лазаркоўская ўзняла на далоні фотакартку.

— Хочаш мяне пераканаць, што гэта прывід Чорнай Дамы?

— Рэканструкцыя! Я папрасіў знаёмую акцёрку

папазіраваць, каб зрабіць чытачам майго часопіса падарунак. Але Чорная Дама так і выглядала. Сам бачыў у Нясвіжскім парку. Яна і сапраўды белая. Не верыш? — Зміцер расставіў на краі стала сподкі і два кубачкі з лыжкамі.

— Бачу, ты не пакінуў заняткі ў самадзейным тэатры?

— Сур'ёзна кажу, сустракаў я Чорную Даму.

— Мне ўсё роўна: чорную, белую ці сінюю. Я хацела б пагаварыць без жартаў. Ты адзіны, хто паверыць мне, прынамсі, так было раней.

Зміцер прапанаваў Лідзе складное металёвае крэсла, а сам пачаў наліваць каву. Госця разглядала завешаныя фотаздымкамі і карцінамі сцены лабараторыі. Пад столлю вышнураваліся лялькі з батлеечнага тэатра: Чорт, Цар Ірад, Дзева Марыя, Белы Анёл, Жыд, Венгерац, Антон, Антоніха і маленькі Хрыстос у саламянай калысцы. Ярусам ніжэй віселі дзве маскі: адна — чорта са шклянымі вачыма, другая — русалкі з даўгімі зялёнымі космамі. З плоскай насценнай вазы паўставаў высокі букет паўлінавых пёраў. На адной з карцін Ліда пазнала Сапежынскі касцёл:

— Ведаеш, апошнім часам я ўзненавідзела правінцыйнае дзікунства.

— Ты пра што? — Зміцер таксама паглядзеў на адзін са сваіх улюбёных краявідаў.

— Калі я пераконвала сябе, што мушу выехаць з Менска, дык Сапежын здаваўся ці не спакайнейшым месцам на свеце: возера, руіны палаца, паром праз Дзвіну, рамантычныя паданні, ну і, вядома, рыцар.

— У рыцарскага мяча адламілася вастрыё?

— Я прасіла не кпіць.

— Прашу прабачэння, — Зміцер дастаў з насценнай вазы паўлінавае пяро, — яно будзе пасаваць да латніцкага ўбрання твайго мужа.

— У Сапежыне гінуць людзі. Пакуль гэта не тычылася знаёмых, я не заўважала, як рэагуе мяс-

тэчка. З кожнай таямнічай смерцю ў ім ажываюць паганскія паданні. Няўжо яны дагэтуль моляцца Перуну?! Дзесяцікласнік згінуў у Русалчыным возеры — дык нават бацькі змірыліся, калі так і не знайшлі цела. Яны, як і ўсе, пераказвалі трызненні пра залатавалосых русалак, якія зацяжарваюць ад насення тапельцаў і нараджаюць лазнікаў ды вадзянікоў. А калі на сапежынскага ветэрынара, які нарыхтоўваў дровы, павалілася елка і прабіла суком грудзі, то ўсе адразу згадалі, як ветэрынар дваццаць гадоў таму абрабаваў на могілках капліцу фон Гартаў. Я здольная пагадзіцца з Боскай карай, але паверыць у сапежынскую пачвару, што здатная кінуць на чалавека вялізнае дрэва, што бязмежна ўладарыць у мястэчку, не магу і не хачу.

— А пасля смерці ветэрынара ў цябе засталіся знаёмыя? Ці я апошні? — Зміцер зняў са сцяны цацку Цара Ірада і пасадзіў сабе на калені.

— А на пачатку чэрвеня знік наш настаўнік геаграфіі, Алег Будзько. Спачатку спадзявалася, што знікненнем зацікавяцца мясцовыя ўлады, але іх збольшага задаволіла версія: малады чалавек, якому абрыдла правінцыя, уцёк у горад, у якую-небудзь Гомлю ці Берэсце. А сапежынскія жанчыны кажуць, нібыта настаўніка знішчыла здань — прывід барона фон Гарта.

— А чым не дагадзіў настаўнік геаграфіі мёртваму барону?

— З 1939 года ў мястэчку не здзіўляюцца, калі пачвара забівае расейцаў і камуністаў, бо яны абрабавалі і спалілі палац, адабралі зямлю, здзекаваліся з жанчын і дзяцей. І цяпер мястэчка верыць, што прывід Баркулаба карае ўсіх, хто нясе на ягоную зямлю гвалт. А Будзько, як ніхто ў Сапежыне, марыў ператварыць мястэчка ў кампанэлаўскі Горад Сонца. Даруй, што прымушаю выслухоўваць гэтае дзікунства, але яно ёсць, існуе. Нават следчага не хвалюе, што знік чалавек.

— Прабач, Ліда, але мне цікавей слухаць пра прывіды, чым пра банальныя ўцёкі артадокса. Але што, апроч жаноцкай інтуіцыі, паказвае на трагедыю? — Хут зняў галаву лялечнаму Іраду і паклаў на сподак.

Ліда адчыніла рыдыкюль, і побач з каранаванай лупавокай галавою леглі кантактныя лінзы:

— Я знайшла іх у пакоі Будзько. Мала хто ведаў, што ён насіў кантактныя лінзы. Пагадзіся, уцякаючы можна пакінуць шмат, але не ўласныя вочы — лінзы ці акуляры.

— Сапраўды, адкуль прывід ведае, хто носіць у мястэчку кантактныя лінзы?

— Зміцер, калі намерышся паляваць на прывіда, дык нікому не кажы ані пра тое, што мы разам вучыліся, ані таго, што я прыязджала да цябе. І нават пры сустрэчы зрабі выгляд, што мы незнаёмыя.

— З маім аматарскім акцёрствам нашае незнаёмства можа абярнуцца прыхаваным каханнем.

Ліда сагнула паўлінавае пяро і завязала яго на вузел.

## 3

## Старонкі з нататніка журналіста Зміцера Хута

Пры ўсім маім скептычным стаўленні да правінцыйных настаўнікаў, гісторыя, расказаная Лідай Лазаркоўскай, заінтрыгавала мяне. Ну, здавалася, з'ехаў з мястэчка настаўнік — каму да гэтага справа? А пакінутыя кантактныя лінзы яшчэ не сведчаць пра тое, што яго знеслі чэрці. Вось я палюю за прывідам Чорнай Дамы не першы год, праседзеў пад дажджом у Нясвіжскім парку не адну ноч. А гэты чалавек нават не верыў у замагільных зданяў. Але гэта таксама не сведчыць, што сапежынскай пачвары не існуе. Пра яе гавораць. Значыць, яна мусіць з'яўляцца. Ва ўсялякім разе,

на старонках майго часопіса. Нават калі яна толькі міф, я паспрабую яе зматэрыялізаваць.

З таго, што я даведаўся, працуючы ў архівах і бібліятэках, нічога не супярэчыць расказу Ліды. Ясна, у архіўных папках я не знайшоў аніякіх згадак пра паўстанне з мёртвых Баркулаба фон Гарта і пра крывавыя забойствы нетамтэйшых людзей. Але асобныя факты з жыцця гаспадара сапежынскіх земляў я занатаваў сабе ў храналагічным парадку.

Фон Гарты з'явіліся ў Сапежыне пасля 1865 года. Ранейшаму гаспадару, Язэпу Судзілоўскаму, давялося кінуць маёнтак і ўцячы за мяжу Расейскай імперыі, бо ён змагаўся за незалежнасць бацькаўшчыны пад штандарамі Кастуся Каліноўскага. Прозвішча Гарт і тытул барона Баркулабаў бацька ўзяў ад жонкі — сапраўднай рыжскай баранэсы. Сам жа шляхцічам ніколі не быў. Затое дваццаць гадоў спраўна служыў катам у Вільні. Гэта ён, апрануўшы белыя пальчаткі, зацягваў петлі на шыях паўстанцаў. За што і быў адораны генерал-губернатарам Мураўёвым правам пасяліцца і гаспадарыць у анэксаваным маёнтку. Каб схавацца ад помсты, ён і змяніў прозвішча.

Баранэса доўга не магла нарадзіць жывое дзіця. І ўрэшце сканала ў 1880 годзе, пакінуўшы на руках у павітухі сямімесячнага, ледзь жывога хлопчыка. Бацька рэўнасна і нецярпіма ставіўся да карміцелек, мяняў іх ледзь не кожны месяц. Таму нельга сказаць, што Баркулаб меў хаця б малочную маці. Бацька рабіў усё, каб хлопчык вырас мужным і ваяўнічым. Былы кат марыў, што сын зробіць вайсковую кар'еру і даслужыцца да генерал-губернатара. Але яшчэ ў дзяцінстве з Баркулабам здарылася непапраўнае. Хлопчык вырашыў напалохаць настаўніцу музыкі. Замест таго, каб перапісваць ноты, ён набраў на сталёвае пяро асадкі вялікую кроплю атраманту і пачаў страсаць яе ў вока. Адно вока ён здолеў афарбаваць у цёмна-фіялетавы

колер, а калі занёс руку над другім, цяжкая касцяная асадка выслізнула з пальцаў, і сталёвае пяро прапарола вочны яблык. Настаўніца і сапраўды да смерці перапалохалася, калі да яе выбег Баркулаб з акрываўленымі фіялетавымі вачыма.

Рыжскія дактары зрабілі Баркулабу адмысловы шкляны пратэз, які ён усё жыццё хаваў за тоўстым шклом акуляраў. Менавіта гэтае здарэнне і вызначыла далейшы лёс доктара Гарта. У Берлінскім універсітэце ён вывучаў медыцыну, оптыку і механіку, бо марыў сканструяваць дасканалае штучнае вока, якое б не толькі рухалася, але і бачыла.

Напачатку стагоддзя была ўзбуджана крымінальная справа: Баркулаба абвінавацілі ў забойстве бацькі. Пачатак справе паклаў данос мясцовага паштмайстра, які даводзіў, нібыта пры ім малодшы фон Гарт крычаў свайму бацьку, што закатаваныя ім паўстанцы адпомсцяць за свае пакуты. А праз тыдзень старога фон Гарта знайшлі разарванага ваўкамі. Пракурор сцвярджаў на судзе, нібыта Баркулаб наўмысна скінуў бацьку з саней, калі за імі ўвязалася ваўчыная зграя. І покуль ваўкі дралі былога ката, сын паспеў уцячы. На што Баркулаб даводзіў зусім адваротнае, нібыта бацька сам саскочыў, каб затрымаць ваўкоў і ўратаваць жыццё адзінаму сыну. Баркулаба апраўдалі, але навакольная шляхта больш не наведвалася ў маёнтак Гартаў.

Малады гаспадар не доўга перажываў з-за абструкцыі. Выпісаўшы з Германіі абсталяванне, ён зрабіў выдатную оптыка-механічную лабараторыю, а ў парку паставіў невялікую гуту, дзе сам выплаўляў крыштальна чыстае і разнаколернае шкло. Зацемненыя пакоі палаца поўніліся лінзамі, прызмамі, спектраскопамі. З чарговай партыяй абсталявання Баркулаб прывёз з Аўстра-Венгерскай імперыі і жонку, адасоблена чужынскую, нібыта адлітую з малочнага шкла. Яна нарадзіла яму сына. Але гэта не парушыла замкнёнага,

адзінотнага ладу жыцця гаспадара маёнтка. А жонка аддала сябе выхаванню сына. Цяжка паверыць, але падчас першай сусветнай вайны Баркулаб Гарт усё гэтак жа канструяваў перыскопы і адліваў шкляныя вочы. Вайна не зачапіла ягонай сям'і, і таму яго мала цікавілі змены ўладаў і акупацыйных рэжымаў.

Апошняя больш-менш афіцыйная звестка пра доктара Гарта — занатоўка ў летнім нумары «Wilenskiego kurjeru» за 1939 год. У ёй пісалася, што вядомы афтальмолаг і оптык-механік дэманстраваў у медычнай акадэміі сабаку з рухомым вочным пратэзам і вакуумную трубку — дасканалае прыстасаванне для выдалення вачэй у доследных жывёл. На абодва вынаходніцтвы доктару Гарту былі выдадзены патэнты.

Далей я магу пакласціся толькі на сваё ўяўленне...

Восень 1939 года. У Сапежын зайшлі рэгулярныя часткі Чырвонай арміі.

Баркулаб сядзеў перад расчыненым акном ў ёмістым скураным фатэлі і паліў тонкую егіпецкую цыгарэту. Зялёнае шкляное вока доктара, здавалася, пільна сачыла за жонкай і пакаёўкай, якія спакоўвалі ў плеценыя кошыкі парцэляну, перакладаючы яе бялізнай. Жонка зацята маўчала, не магла дараваць мужу, што ён упарта адмаўляўся апошнія перадваенныя месяцы эміграваць. Дванаццацігадовы сын з-за бацькавага пляча глядзеў на Сапежын праз падзорную трубу. Ён першы заўважыў, як на алеі з'явіліся коннікі: пяцёра, відаць па ўсім, афіцэраў са спітымі і нявыспанымі тварамі. Доўгія кавалерыйскія шаблі целяпаліся каля недарэчна кароткіх ног. На фуражках чырвонымі вочкамі паблісквалі пукатыя зоркі.

Мурзатыя афіцэры павытрасалі з кашоў парцэляну, якая на вачах у гаспадыні ператварылася ў чарапкі, і загадалі здаць золата, каштоўнасці і зброю, а да вечара аслабаніць маёнтак. Баркулаб, разумеючы бессэнсоўнасць спрэчкі, скарыўся

адразу. А хлопчык не хацеў даравацъ рабаўнікам, што завалодалі ягонай падзорнай трубой.

— Хадземце, пан афіцэр, я пакажу вам бацькаву зброю, — хлопчык крадком павёў чырвонага камандзіра ў лабараторыю.

Афіцэр заварожана разглядаў зашклёныя вітрыны з вочнымі пратэзамі.

— Як сапраўдныя, — у захапленні прызнаўся вайсковец.

— Яны і ёсць сапраўдныя, нават бачаць, зірніце, — малодшы Гарт прапанаваў афіцэру схіліцца над прыборам, падобным да мікраскопа з празрыстай колбай, у якой цьмяна паблісквала алейна-жоўтая вадкасць. Над колбай узнімалася, як руля мушкета, чорная трубка з гумавым раструбам на канцы.

— Нічога не відно, — афіцэр прыклаў вока да раструба.

— Зараз пабачыце, — хлопчык шчоўкнуў рычажком.

Прыбор з усхліпам сербануў паветра, і ў празрысты шар заслізнула праз трубку, як разбітае яйка, вока вайскоўца.

Чырвонаармеец заенчыў брыдкім фальцэтам. На крык збегліся ўсе, хто быў у доме...

Знявечаныя шаблямі целы Гартаў зацягнулі ў стайню. Баранэса марна спрабавала бараніцца нажніцамі: кравецкая прылада так і засталася ў змярцвелае руцэ.

Здрабнелая ад жаху пакаёўка паказала рабаўнікам, дзе ў лабараторыі стаіць бутля са спіртам, бо каньяку з буфета хапіла адно каб прыцішыць боль скалечанага.

П'яныя афіцэры палеглі спаць на гаспадарскіх пярынах, не скінуўшы нават ботаў.

Апоўначы Баркулаб, якога палічылі забітым, апрытомнеў. З жончынай укасцянелай рукі ён дастаў доўгія кравецкія нажніцы. Яшчэ добра не ўсведамляючы, што робіць, пайшоў у дом. Люстэрка ў

перадпакоі адбіла рассечаны шабляю твар. Набрынялы ад крыві халат абвіс да падлогі. Баркулаб паспрабаваў кавалкамі скуры заляпіць рану, што разышлася ад сківіцы да ілба. Ён скінуў халат, з шафы ўзяў чорны плашч, шырокім берэтам закрыў рану на ілбе, а яркі шалік закруціў вакол пераламанай сківіцы. З кішэні доктар дастаў цёмныя акуляры і прыкрыў імі тое, што засталося ад твару.

На калідоры пачуліся крокі. Баркулаб стаіўся за шатняю. З-за футраў і палітонаў ён назіраў, як асалавелы з п'янага сну чырвонаармеец спраўляў малую патрэбу ў кадку з вялікім альясам. П'янага хіснула на калючкі, і ён пачаў злосна мацярыцца. Доктар гукнуў, і той няўцямна глянуў на шатню. Раптам рукаў воўчага футра ўзняўся і наблізіўся да яго твару. З чорнага раструба вытыркнуліся нажніцы і ўдарылі ў п'яны твар.

Аднаго за адным педантычна і акуратна Баркулаб зарэзаў нажніцамі сонных афіцэраў. Потым перанёс жонку і сына са стайні ў капліцу і сышоў у цемру змярцвелага ад акупацыйнага жаху мястэчка.

## 4

— У аэрапорт, — сказаў Зміцер таксісту і дадаў: — У стары.

— За мяжу? — узрадаваўся таксіст, — тады будзеш плаціць доларамі.

— Не за, а на мяжу... з Латвіяй, — Зміцер уладкаваўся побач з таксістам і паклаў на калені саквояж.

— За долары я цябе туды за тры гадзіны закіну.

Таксіст азірнуўся на доўгую чараду машын, што вышнураваліся да стаянкі, і выехаў на праспект. У важкіх чырвоных, парослых рудой шчэццю руках абаранак руля здаваўся драцяным. Чорная цыратавая куртка павісквала пры кожным руху. Паміж тварам Зміцера і шышкаватай галавою таксіста — любіцеля долараў матляўся прышпілены

да лабавога шкла, сплецены з паўпразрыстага кембрыка лупавокі вушасты чорцік.

— Не палохайся, дружа, — папярэдзіў з прыхаванай злосцю ў голасе Зміцер, — але мушу зрабіць ракіроўку...

Таксіст скасавурыўся, але працягваў глядзець на дарогу. Зміцер выняў з-пад джынсавай марынаркі важкі буйнакаліберны рэвальвер з кароткай руляю.

— «Сміт-весан»? — з павагаю пацікавіўся таксіст.

— Ды не, гэта запальнічка, але давядзецца здаваць у багаж, — Зміцер паклаў зброю на дно саквояжа.

— Адчыні бардачок. Адзін мяне такой цацкай палохаў, дык я яму трупнуў па галаве і з машыны выкінуў. Вось і прыдбаў запальнічку. — У цемры бардачка срэбна паблісквaў доўгай руляю шасцізарадны кольт. — Можаш паглядзець, бо патроны ў маёй кішэні, — малапрыемна віскнула куртка таксіста.

Апранутая ў сіні гарнітурчык, яшчэ не страціўшая стандартнае аэрафлоцкае прывабнасці, служачая вывела стракатую купку пасажыраў на шырокі забетанiраваны пляц. Лёгкі ветрык мяшаў водар восеньскіх траў з саладжавым пахам газы. Бліскучыя і дасканалыя, як стронга, фюзеляжы самалётаў узвышаліся над бетонам на тонкіх птушыных лапках шасі. Чырвоны электракар пацягнуў бязвольнае цела ўрадавага верталёта: абвіслыя лопасці баязліва ўздрыгвалі пры кожным штуршку. Паліраваным дзюралем адліваў геральдычны латнік на пукатым борце.

Кабета вывела дванаццаць пасажыраў на ўтравянелае лётнае поле. Зусім маленькім і нямоглым пасля рэактыўных самалётаў здаваўся цёмна-жоўты біплан, з якога звісаў кароткі, на пяць прыступак, адкідны трап.

— Усе на Сапежын? — перапытала служачая.

— Хто куды, а я на свой хутар, — азваўся за ўсіх мужчына з вялікім палатняным мехам на плячы. У мяху таўкліся мінімум два парасяці. Нават тузін правінцыялаў здолеў утварыць валтузню каля трапа.

— Сядайце на вольныя месцы, — замест развітання сказала аэрапортаўская служачая.

Зміцер Хут апошнім апынуўся ў цемнаватым, як местачковая хата, салоне. Ён прыгледзеў сабе месца побач з худым, сутулаватым, інтэлігентным мужчынам у акулярах «ровар».

— Вы не супраць? — спытаў Зміцер, ладкуючы саквояж пад адкіднае сядзенне.

— Вядома, не. Спадзяюся, хаця б у вашым саквояжы няма парсючка.

— Вой, а ў мяне рэмень на жываце не сыходзіцца, — заперажывала мажная кабета ў клятчатай хустцы.

— Век пражыла, а рэмень зашпільваць не навучылася, — падначыў хутаранін і падпіхнуў пад сядзенне мех з парсючкамі.

Салон дробна затрэсла, і за ілюмінатарамі пабегла стужка ўзлётнае паласы. Салон нахіліла, самалёт рэзка пайшоў угару, і ў гэты момант з-пад лётчыцкага крэсла выкацілася піўная бутэлька.

— Вы, відаць, не па бульбу ляціце ў выкляты богам Сапежын? — праз акуляры на Хута глядзелі хітраватыя дапытлівыя вочы.

— Я журналіст, збіраюся напісаць танюткую кніжачку пра мястэчкі. Спадзяюся, што старыя кабеты нарасказваюць мне пра розных прывідаў і пачвар, што вядуцца на берагах Дзвіны.

— Чаму вы ўпэўнены, што кабеты ведаюць больш за мужчын?

— Ведаюць, магчыма, і менш, але расказваюць больш, — Хут расшпіліў мулкі брызентавы рэмень. — Вось у Ракаве гэтым летам знікла студэнтка-практыкантка, дык мне расказвалі ажно тры версіі яе знікнення.

— Цікава, цікава. Здаецца, надышоў момант

пазнаёміцца. Базыль Гладкевіч — дырэктар Сапежынскай школы.

— Зміцер Хут — збіральнік неверагоднага, — журналіст пацiснуў сухую, нібыта зацярушаную крэйдай руку дырэктара.

— Дык што там у Ракаве?

— Старыя каталічкі казалі, што на рускіх могілках жыве прывід манаха, якога адразу пасля вайны спалілі падлеткі-інтэрнатаўцы. Манах жыў у каплічцы пры могілках, плёў кошыкі і вяроўкі. Але ў п’яных падлеткаў, мусіць, спрацавала атэістычнае выхаванне... На кастрычніцкія святы, напіўшыся самагону, яны забілі вокны і дзверы дошкамі ды падпалілі каплічку. Сухая лаза і каноплі схапіліся ў момант. І манах-схімнік згарэў жыўцом. З таго часу ракаўцам мроіцца на рускіх могілках прывід праваслаўнага пакутніка, які ахоўвае крыжы і помнікі ад лядашчых атэістаў. А студэнтка якраз і адпрацоўвала практыку ў інтэрнаце, і яе прыезд у Ракаў супаў з цалкам непрыемнай падзеяй: нейкі вандал павыбіваў цаглінаю керамічныя фотамедальёны на помніках. Вось старыя каталічкі і ўвязалі ўсё ў адно і свята пераконвалі мяне, што прывід праваслаўнага манаха зацягнуў дзяўчыну на той свет.

— А як тлумачылі праваслаўныя? — пацікавіўся Гладкевіч.

— Куды прасцей... Нібыта дарожныя будаўнікі, якія рабілі гродзенскую дарогу, згвалцілі студэнтку, а потым яшчэ жывую замуравалі ў бетонную пліту. Асноўным доказам такога зверства было веравызнанне дарожных рабочых — уся брыгада была баптыстамі. Не ведаю чаму, але ў Ракаве вельмі насцярожана ставяцца да пратэстантаў. На думку мястэчкоўцаў, калі чалавек не п’е і не лаецца матам, то мусіць нейкім іншым чынам кампенсаваць цялесныя патрэбы.

— А што ж здарылася на самай справе?

— Праз месяц пасля знікнення высветлілася і

праўда, у якую не вельмі ахвотна паверылі местачкоўцы. Дзяўчына загарала на беразе крынічнай Іслачы, і калі, разгарачаная сонцам, скочыла ў сцюдзёную ваду, у яе спынілася сэрца. А плынь зацягнула цела пад карчы. Адзінае, што засталося нявысветленым, гэта хто знёс яе вопратку.

— А я здагадваюся, хто знёс адзенне, — Гладкевіч паправіў акуляры.

— Дык і я ведаю — злодзеі.

— Калі жывеш каля рэчкі, а мой дом якраз непадалёк ад Дзвіны, дык часам убачыш, як пастухі цягнуць чужое.

Самалёт заклаў віраж, і мех з парсючкамі пасунуўся на сярэдзіну салона.

— Трымай, трымай сваіх гадаванцаў, — залямантавала мажная кабета ў клятчатай хустцы. — Покуль не разбегліся.

З-пад меха цёмнай вяровачкаю пабег струмень і сабраўся ў лужыну каля ног дырэктара Сапежынскай школы.

— Дарэчы, у нас таксама вам панарасказваюць і пра Сапежынскі прывід, і пра маладога настаўніка геаграфіі, якога наяды нібыта зацягнулі ў Русалчына возера. — Гладкевіч ніяк не рэагаваў на лужыну, якая шырэла, падбіраючыся да чаравіка. Як кожны школьны дырэктар, ён даўно навучыўся не губляць годнасці ў несамавітых сітуацыях. — Вось і з маёй школы знік настаўнік. Звычайная рэч: хто хоча працаваць, калі адзіная перспектыва — заняць маё месца і навучыцца не заўважаць жоўтыя лужыны. Лепш паехаць у які-небудзь Віцебск, напісаць нікому не патрэбнае даследаванне пра глебазнаўства Беларусі і Літвы пачатку XVII стагоддзя, надзець шэры пінжак і чакаць прафесарскага звання. Я больш чым упэўнены — мой настаўнік так і зрабіў, пакінуўшы мне на памяць сваю працоўную кніжку. Дарэчы, у школьным сейфе такіх кніжак цэлы стос. А выкладаць няма каму. Дзіўна — такі натуральны і нецікавы ўчынак спа-

раджае цэлую хвалю плётак і неверагодных паданняў. Я ледзь не памёр са смеху, калі наша школьная прыбіральшчыца сказала, што настаўніка геаграфіі запароў нажніцамі прывід Баркулаба фон Гарта.

За ілюмінатарамі пацямнела, і згадка пра былога гаспадара сапежынскіх земляў падалася не такой ужо прывіднай. Разрэджаны блакіт восеньскага неба ў пер’евых, як расчасаная грабеньчыкам кудзеля, аблоках змяніўся цяжарам навальнічных хмараў. Самалёт вухнуў у паветраную яміну, і Зміцер ледзь паспеў ухапіцца за край сядзення, каб не зляцець на падлогу. Збялелы ад нечаканага падзення, змоўк дырэктар школы. Заклапочаны другі пілот азірнуўся на салон: мажная кабета аберуч трымалася за рэмень і прамаўляла пацеры, а па твары гаспадара парсючкоў лёгка было здагадацца, што яму няможацца закурыць.

Самалёт закладаў віраж, і ў скіраваным да зямлі ілюмінатары ўзніклі скрыначкі местачковых дамоў.

— А вось і Сапежын, — Гладкевіч аблізнуў асмяглыя вусны. Шкло закрэслілі паскі разбітых дажджавых кропляў.

— У мяне на працы вісіць цудоўны краявід з вашым касцёлам, але сам я ніколі не быў у Сапежыне.

Мястэчка дзе-нідзе патанала, гублялася ў срэбнай дажджавой віхуры; было відаць, як навальніца камечыць паверхню Русалчынага возера.

— На беразе, бачыце, — Гладкевіч павярнуўся да Зміцера, — у парку руіны, гэта палац, адкуль пайшоў у свет наш Сапежынскі прывід — Баркулаб фон Гарт, вам пра яго абавязкова раскажуць, толькі вы не давайце веры, а калі надакучыць слухаць байкі, зайдзіце да мяне і я раскажу праўду. Згода? Дарэчы, вунь мая школа, пад бляшаным дахам, калі пойдзеце па алеі пірамідальных таполяў, то якраз

трапіце да майго дома. Гэта адсюль ён здаецца маленькім.

Бліснула маланка, абліўшы твары пасажыраў іртутным святлом. Ламаная лінія бліскавіцы прайшла не ў зямлю, яна біла паміж хмарамі над самым самалётам. Сухі гук перуна скалануў фюзеляж, захісталіся крылы, выгіналіся і напіналіся расцяжкі біплана. Самалёт пайшоў на пасадку. Праз грукат рухавіка ледзь прабівалася незразумелая, як замова, гутарка пілота з дыспетчарам — гучалі лічбы, напрамкі, вуглы, узроўні, сектары. Але як дапамагае замова, так дапамаглі і яны, біплан пабег утравянелым полем мястачковага аэрадрома.

## 5

Хут пастукаўся ў зашклёную кабінку гатэльнай адміністратаркі. У бакоўцы рыпнуў тапчан, і ў прапахлым хлёркаю вестыбюлі з'явілася вастраносая старая кабета з круглым тварыкам і ружовымі шчокамі. У сталіцы жанчыны з такім абліччам падымаюцца не вышэй за пасаду галоўнай прыбіральшчыцы начной змены. Але сапежынскі гатэль «Дзвіна» настолькі занядбаны, настолькі набрынялы вільгаццю і цвіллю, што тут вастраносая старая запенсійнага ўзросту магла займаць як дырэктарскае крэсла, так і тапчан начнога вартаўніка.

— Во, навальніца, дык мяне на сон пацягнула, а вы, як бачу, змоклі. Вам бы не зашкодзіў кілішак каньяку.

— А што, тут і бар ёсць? — Хут пастрасаў кроплі з фетравай кепкі.

— Які бар? Але такую-сякую бутэлечку для сталічных гасцей трымаю.

— Пра бутэлечку пазней. Мне б нумар з рукамыйнікам і сухі ручнік.

— Бачу, чалавек вы сур'ёзны, з Менску аэрапла-

нам прыляцелі, то і нумар маю вам прапанаваць адпаведны, з халадзільнікам і тэлевізарам — люкс. Я здагадваюся, вы наконт шаравой маланкі прыехалі разбірацца. І да следчага вы падобны, яны ўсе ў люксе жылі, у кепачках па Сапежыне хадзілі. І пісталеты — бачыла, як у папку хавалі, каб з кішэняў не вытыркаліся.

Са старасвецкага буфета, недарэчна пакрытага белай алейнай фарбай, з-пад якой дзе-нідзе праглядалася і блакітная, адміністратарка дастала стос, пэўна, найлепшай бялізны.

— Хадземце за мной. Я ложак засцялю.

У вуглавым, на два акны пакойчыку Зміцера чакала даволі прыстойная мэбліроўка: ложак з высокімі кляновымі спінкамі, аздобленымі прафесійнай рукою разьбяра, скураны фатэль, набіты конскім воласам; за трохстворчатай шырмай хавалася блакітная чарупіна рукамыйніка. Адзінае, што выпадала са стылёвага інтэр'ера: халадзільнік «Львів» аэрадынамічных формаў 60-х гадоў і тэлевізар на арэхавым пісьмовым стале.

— Дык што ж нарабіла шаравая маланка? — Зміцер кінуў на фатэль мокрую марынарку.

— Плечыкі ў шафе, — заўважыла пакаёўка, — а шафа, між іншым, з маёнтку Баркулаба фон Гарта. А маланка? Паглядзіце ў акно...

За нізенькім зялёным штыкетнікам ляжаў рыначны пляц, на сярэдзіне якога пад крытымі шыферам навесамі пусцелі прылаўкі. Пляц атачалі аднапавярховыя крамкі, іх карэ двойчы разрывалі глыбока-чорныя папялішчы.

— Бачыце, што нарабіла? — працягвала адміністратарка.

— Адна маланка спаліла два дамы? — зацікавіўся Хут.

### Навела пра шаравую маланку, якую расказала

## АДМІНІСТРАТАРКА, ЗАСЦІЛАЮЧЫ ЛОЖАК

Год таму прыехаў з Віцебска ў Сапежын малады чалавек з няскончанай вышэйшай эканамічнай адукацыяй — Вінцэсь Аркуш. Не ведаю, як і навошта паважаны ўсімі начальнік сапежынскага гандлю Самуіл Лаўфман прызначыў гэтага хлопца дырэктарам крамы прамысловых тавараў, але прызначыў. Аркуш быў і сапраўды ўвішны, адразу зрабіў на краму новую шыльду з сапсаваных тэлевізійных кінескопаў. Пасля па ўсім мястэчку пайшла такая мода, нават мне на гатэлі прапаноўвалі павесіць, але я адмовілася. Потым зрабіў рамонт, абклаў краму пліткаю, маладых дзяўчат паставіў за прылаўкі і пачаў гандаль. Гэта цяпер Сапежын даведаўся, што ўсе тавары ён узяў у дзяржавы ў крэдыт. Гандаль ішоў шпарка, гучна і шырока. Усе ў мястэчку запаважалі Вінцэся Аркуша: сціплы, акуратны, у светлым гарнітурчыку, заўсёды пры гальштуку, ніколі нікому слова насуперак не скажа. І тут раптам, як гром з яснага неба, — пажар. У нядзелю ўвечары загарэлася крама. Агонь пайшоў з падсобкі, і таму гандлёвая зала згарэла толькі напалову. На ўсе крамы Лаўфман трымаў аднаго вартаўніка — п’яніцу Віктора, які і расказаў усім, што бачыў, як увечары над комінам прамтаварнай крамы вісеў яркі, як ёлачная цацка, шарык. Павісеў і заляцеў у комін, а потым з’явілася за вокнамі падсобкі зыркае полымя. Пра тое ж самае казала адна з гандлярак, якая жыве акурат насупраць крамы. Пажар спісалі на шаравую маланку, а рэштку тавараў, што не пагарэлі, перанеслі ў краму ўцэненых рэчаў.

Два дні Лаўфман вадзіў у наш рэстаран віцебскую камісію. І толькі яна паехала, у той жа ж вечар на рынку — новы пажар. Згарэла крама ўцэненых рэчаў — гэтым разам цалкам. Ізноў Віктор і тая ж гандлярка бачылі каля вентыляцыйных кратаў шаравую маланку. Тады ўжо апроч віцебскай камі-

сіі былі і следчыя з Менску, але акрамя добрага пачастунку ў рэстаране нічога не ўведалі. І прыслалі ў Сапежын маладзенькага хлопчыка з пракуратуры, які адразу ж збаяўся і папрасіў пасяліць яго не ў асобным нумары, а ў трохмесным, разам з архітэктарамі-рэстаўратарамі, якія збіраліся аднаўляць наш касцёл. Яны мне і расказалі, што як кладзецца спаць следчы, то партфель з дакументамі за падушку засоўвае. Ён мне прызнаўся, што не хапае яму адукацыі і розуму, каб прайдзісвета Аркуша выкрыць. А ўсіх нашых начальнікаў разам з міліцыяй, якім даспадобы прыйшлася шаравая маланка, ён баяўся. Бо намякнулі яму, што маланкі не толькі крамы паляць, але і людзей забіваюць!

Зміцер Хут сядзеў у крэсле і, схаваўшы рукі ў доўгі чорны нарукаўнік, запраўляў фотастужку ў касету.

— Не надта я вас напалохала? — адміністратарка паклала на засланы ложак два ручнікі.

— А я не з баязлівых. І выкрываць нікога не збіраюся. А ў вашым Сапежыне ведаю толькі аднаго чалавека — настаўніка геаграфіі Алега Будзько. Відны хлопец, я з ім ва універсітэце вучыўся. Ці не падкажаце, дзе ён жыве?

— На кватэры ў бібліятэкаркі Яніны Сабалеўскай, — насцярожылася адміністарка. — Але можаце туды не хадзіць. Няма яго ў мястэчку. І ніхто не здагадваецца, куды падзеўся ваш відны хлопец.

— Я прыехаў у ваш слынны горад напісаць кніжачку ў серыю «Гарады Беларусі». Заказ у мяне такі ад Міністэрства культуры. Раней кніжачкі пісаліся проста: колькі малака надаілі, колькі партызанскіх атрадаў назбіралі, які свінакомплекс будуецца... А цяпер думаць больш даводзіцца: людзей гісторыя цікавіць, паданні, таямнічыя здарэнні... Ці няма ў Сапежыне краязнаўцы, які б збі-

раў гістарычны музейчык? Звычайна паўсюль такія дзівакі ёсць.

— Падкажу такога чалавека, — у голасе адміністратаркі прагучала расчараванне, — Сымон Лазаркоўскі, скарбашукальнік. Гаворыць усім, што са шляхты паходзіць. А я ж ягонага бацьку, які ў Баркулаба фон Гарта ляснічым служыў, добра ведала. Я ў Гартаў год пакаёўкай служыла, покуль бальшавікі не прыйшлі.

## 6

Пад вялікім, як посцілка, нацюрмортам Хруцкага, дзе лімоны былі велічынёю з гарбуз, вышнураваліся квадратныя сталы, засланыя нясвежымі палатнянымі абрусамі. Дзіўнага складу ансамбль — трубач, кантрабасіст і ўдарнік — імправізаваў на сцэне шлягер, які цьмяна нагадваў мелодыю Рода Сцюарта. Адсутнасць вакалу спрабаваў кампенсаваць трубач, але ў яго, відавочна, лепш атрымаўся б марш Шапэна. Кантрабас рыпеў у пракураным з учарашняга рэстаране і выдаваў малапрыстойныя гукі. Ратаваў сітуацыю медны гук ударных, ён адзін стасаваўся да позняга вечаровага сонца.

За двума ссунутымі сталамі кампанія мужчын у скураных марынарках піла піва. Цёмна-зялёная зграя бутэлек распаўзалася па абрусе. Пад самым расчыненым акном тры чырванатварыя прапаршчыкі заядалі гарэлку халадніком. У самым кутку залы на кароткай лаве дзве кухаркі чысцілі выварку бульбы, скідаючы лушпіны на разасланую цырату. У гэтым заўсёдным ладзе і гармоніі правінцыйнага рэстарана нечакана ярка глядзеўся маленькі чалавек у накрухмаленай кашулі з гартаваным жабо. Ён уладкаваўся за асобным сталом з даволі дзіўнай сервіроўкай: вакол супавой місы, насыпанай з каптуром чырвонай ікрой, — тры бутэлькі шампанскага. Ён выпіў вялікі ўспенены фужэр, ікнуў і з’еў лыжку ікры.

Хут агледзеўся, шукаючы прыбранага століка, але такіх не было.

— Сядайце, дзе панаравіцца, — нарэшце сказала, абціраючы хвартухом рукі, маладзейшая кухарка.

— Яму панаравіцца тут, — азваўся чалавек з жабо, — Гэля, прынясі чалавеку фужэр і лыжку. Сядайце да майго нядзельнага святочнага стала.

— Можа, не трэба? — засумняваўся Хут, але кухарка адсунула крэсла, і яму давялося сесці. — Наколькі я памятаю, сёння серада?

— Для ўсіх серада, а для мяне — нядзеля, выхадны святы дзень, і я гуляю, — ён разліў шампанскае. — Вып’ем за знаёмства. Генадзь Сурма — настаўнік замежнае мовы, былы. Цяперашні швейцар у гэтым рэстаране, але сёння я не ўсклаў на сябе мундзір.

Хут назваўся і запіў сваё імя цёплым вычхнутым шампанскім.

— Журналіст павінен ездзіць на выспу Кіпр. Што яму рабіць у гэтым загаджаным курамі і індыкамі мястэчку? Я ваш часопіс і чытаць не буду, нават калі напішаце пра Сапежын, бо мне больш падабаюцца каляровыя фотаздымкі з агаленымі негрыцянкамі.

— А па мне, дык жанчыны паўсюль аднолькавыя, — Хут зразумеў, што спакойна павячэраць не выпадае, — мяне больш цікавяць прывіды і пачвары.

— Тады паглядзіце на столік перад акном: хіба гэтыя чырванамордыя вайскоўцы не пачвары? Хіба можа чалавек штодня заядаць гарэлку халадніком? А задубелыя, што іх скуранкі, шафёры-півалюбы, я ўпэўнены, не адрозняць зараз піва ад Гэліных сікуноў. Як яны мне ўсе абрыдлі! Хочацца на Кіпр. Я б з’ехаў, паверце, але сентыментальны, не магу кінуць маці. — Генадзь Сурма адкаркаваў бутэльку. Пластыкавы корак стрэліў па нацюрморце Хруцкага.

— І я б паехаў на Кіпр, каб там у мяне былі знаёмыя. Але большасць з іх жыве вось у такіх Сапежынах. Можа, вы ведаеце Алега Будзько? Мы разам вучыліся ва універсітэце.

— Не ведаю, на каго вучыўся ваш Алег ва універсітэце, але тут ён паводзіў сябе не лепшым чынам. У рэстаран не заходзіў. Вёў жыццё як праўдзівы камуніст. Я не здзіўлюся, калі даведаюся, што ён агітаваў тутэйшых рэнегатаў аб'яднаць не толькі маёмасць, але і жанчын з дзецьмі.

— Універсітэт — іншае, ніякіх схільнасцяў да сацыяльных пераўтварэнняў там ён не выяўляў. Звычайны хлопчык, аматар часопіса «Інтэрнацыянальная геаграфія». Напэўна, яго сапсаваў ваш Сапежын.

— А вы мне падабаецеся, — нечакана п'яным голасам прызнаўся былы настаўнік замежнай мовы і працягваў ужо шэптам: — І ведаеце чаму? Бо ніякі вы не журналіст. Вы прафесійны збіральнік інфармацыі. Як я люблю збіральнікаў інфармацыі! — З гэтымі словамі Сурма ўскочыў на стол. Высокія абцасы пачалі выбіваць шалёны рытм нейкай афрыканскай мелодыі. Аркестр ажыў і падтрымаў танцора. Прапаршчыкі азваліся сытым рогатам. Захіхікалі кухаркі. Усунуўшы рукі ў кішэні караткаватых школьных нагавіцаў, Генадзь вытанцоўваў мудрагелістыя фігуры. Абрус закручваўся, бы вір. Міса з ікрой, бутэлькі, фужэры паляцелі на падлогу.

Пераляканы журналіст канчаткова адмовіўся ад вячэраў у рэстаране «Дзвіна».

Заплюшчыўшы вочы і трасучы рэдкім чубком, Генадзь Сурма скакаў па стале, высока падкідваючы ногі, і выкрыкваў:

— Я быў на Кіпры, я бачыў, як там танцуюць!..

## 7

Зміцер Хут яшчэ адчуваў гаркавы смак раніш-

няе кавы, выпітай у нумары, калі адчыніў добра змазаныя, нерыплівыя веснічкі сядзібы настаўніка гісторыі Сымона Лазаркоўскага. За жываплотам з шыпшыны стаяў на высокім выбеленым падмурку грунтоўны, складзены з брусоў, дом пад зялёным, парослым мохам, гонтавым дахам. Брукаваная сцежка праводзіла да ганка, над якім драўляныя растрэсканыя калоны трымалі высокі франтон. З абсталяванага пад прыступкамі будана, пазвоньваючы ланцугом, выйшаў ссівелы ваўкаваты сабака з жоўтымі драпежнымі вачыма. Хут не вытрымаў першы — адвёў позірк. Сабака не брахаў, адно шчэрыў іклатую пашчу з ружовымі дзяснамі і дыбіў поўсць на шырокім карку.

На звон ланцуга ў адчыненым акне з'явілася Ліда Лазаркоўская.

— Вы да каго? — спытала яна чужым і абыякавым голасам, нібыта і не бачыліся яны тры дні таму.

— А я вось шукаю гісторыка, — знарок гучна вымавіў Хут. — Ці тут жыве спадар Лазаркоўскі?

— Ён за домам, у майстэрні. Чакайце хвілінку, прытрымаю сабаку.

У канцы саду пад спадзістай чаратовай страхою стаяў хлеў на дзве брамы. Перад хлявом на яшчэ зялёнай пляцоўцы хрумсцела ападкамі навязанае казляня. З-за прачыненае брамы чуўся вісклівы гук такарнага станка, пахла пілавіннем і габлюшкамі.

— Ці можна да вас? — сказаў Хут, заходзячы ў сутонлівы змрок сталярнае майстэрні.

Высокі мужчына з шышкаватым чэрапам і натапыранымі вушамі адняў разец ад кароткай драўлянай нарыхтоўкі, што круцілася ў станку. Выпрастаўшыся, ён нетаропка дастаў з-пад скуранога хвартуха вялікі, памерам ажно з бутэлечнае донца, гадзіннік.

— Ранні госць, — гаспадар сядзібы ўзняў на Хута па-сапраўднаму вялікія вочы, адным позіркам якіх адразу прымусіў Зміцера адчуць сябе

вінаватым.

— Мне ў журналісцкіх менскіх колах параілі звярнуцца да Сымона Лазаркоўскага як да вялікага знаўцы гісторыі сапежынскіх земляў...

— То нашто было ехаць? Ёсць жа тэлефон?

— Па тэлефоне краявіды і чаратовыя дахі не сфатаграфуеш.

— Калі ўжо так здарылася, я запрашаю вас разам паснедаць, — гаспадар павесіў хвартух на цвік. Дзвюма раззлаванымі змейкамі закруціліся скураныя матузкі.

У прасторнай гасцёўні за круглым сталом яны сядзелі ўтрох: Зміцер, Сымон і Ліда. Гаспадыня ўсыпала ў кубачкі каву і наліла ў іх кіпеню з самавара.

— Каб зразумець сапраўднага сапежынца, трэба не толькі шукаць тутэйшых пачвар, — разважаў Сымон, — сапраўдны сапежынец складаецца з побытавых дробязяў. Ці звярнулі вы ўвагу на дах майго дома? Як накрылі мы яго з бацькам гонтай дваццаць гадоў таму, так і стаіць, і яшчэ дваццаць гадоў стаяць будзе. Бо ёсць маленькі сакрэт. Гэтакая дробненькая таямніца. Мы ж кожную дошчачку, калі прыбівалі, мазалі гусіным салам, і цяпер ані цвіль, ані які жук тую дошчачку не возьме. А каб сонца не вытапіла тлушч, прысадзілі мы з бацькам на страху сабраны з валуноў мох. І я лічу, што толькі пад такім зялёным дахам можна сабраць сапраўдны музей сапежынскай культуры.

— Шчыра кажучы, па мне больш жывапісна выглядае чаратовы дах вашае майстэрні.

— Я б мог расказаць, калі і як трэба зразаць чарот, каб ён не спарахнеў у вас праз два тыдні, але не дзеля гэтага вы, спадар Хут, выбраліся ў дарогу.

— Калі быць шчырым, ехаў я не толькі да вас, бо мне казалі, што і ваш калега па школе, настаўнік геаграфіі Алег Будзько, таксама збіраў матэрыялы пра гэты край.

— Прабачце за выраз — поўнае глупства. Вас

жорстка падманулі. Калі і збіраў гэты чалавек хоць нешта, то толькі пра камуністычныя гурткі, што ладзіла тут наезджая набрыдзь. Цікава, і хто ж падказаў звярнуцца да яго?

— У Доме друку шмат рэдакцый. Мне могуць не падабацца выданні, але з людзьмі часам палуднуеш разам, курыш на калідоры. Калі не памыляюся, пра Будзько я пачуў ад рэдактара Глухава з часопіса «Палітычны суразмоўца».

— У гэтым доме не прынята згадваць пра людзей з занадта чырвонымі перакананнямі. А каб скончыць размову пра настаўніка геаграфіі, я мушу выказаць сваю думку і наконт яго знікнення. Хутчэй за ўсё, ён, начытаўшыся утапістаў і тэарэтыкаў анархізму, збудаваў у лесе будан ды аднаўляе там для сябе першабытны камунізм з мядзведзямі і сойкамі. А мая любімая жывёла, спадар Хут, — каза. Вы ж бачылі ў садзе казляня. Гэта ўжо трэцяе. Думаеце, мяне і маю жонку цікавяць малако да мяса? Памыляецеся! Аднойчы, калі вырашыў заняцца аднаўленнем музычных інструментаў, я зрабіў маленькае адкрыццё. Збіраў па вёсках скрыпачкі, ліры, бубны. І раптам натрапіў на скураны мех з муштуком — старажытнабеларускую дуду, пад гукі якой рыцары хадзілі на бой з чужынцамі. Дуда — не проста музычны інструмент, у ёй схавана вялікая таемная сіла, яна здатная весці за сабой, навязваць сваю волю. Вы памятаеце казачны сюжэт пра музыку, які звёў з горада ненажэрных пацукоў і патапіў іх у возеры? Дык вось, я ўпэўнены, што той музыка граў не на флейце, а на дудзе. Усе інструменты я падзяліў для сябе на дзве катэгорыі: адныя робяцца майстрамі на фабрыках, і горшымі ад гэтага яны не робяцца. Ды зрэшты, смешна было б патрабаваць, каб арган рабіў сам арганіст, тое ж самае можна сказаць і пра раяль, пра сінтэзатар, і... Уяўляеце, якія б рукі былі ў саксафаніста, каб свой найскладанейшы інструмент ён зрабіў сам?

— Але ж вы, спадар Лазаркоўскі, тачылі, калі не памыляюся, у майстэрні менавіта муштук нейкага духавога інструмента.

— Так, і сапраўды, я тачыў муштук для дуды. Менавіта пра другую групу інструментаў, пра тое, што музыка павінен зрабіць сам, я і меўся вам расказаць. — Сымон Лазаркоўскі адсунуў на сярэдзіну стала філіжанку, гэты рух Ліда прыняла за просьбу прыбраць стол. — Каб зрабіць сапраўдную дуду, мала цяслярскага і кравецкага ўмельства. Дуда пачынаецца з такой далёкай ад музыкі навукі, як жывёлагадоўля. На кірмашы трэба купіць казляня, якое само цябе пакліча, і хай яно будзе не вельмі здаровае з выгляду, і хай за яго папросяць большыя грошы — трэба пагаджацца і браць. Гэтае казляня дудар мусіць выгадаваць, выкарміць, выпеставаць сам, палюбіць яго, як самога сябе, адчуць сябе з ім адной непадзельнай істотай.

— Няўжо гэта магчыма? — спытаў Хут, а сам падумаў: «А ён і падобны да казла, выкшталцонага казла — прататыпа ўсіх д'яблаў. Цікава, а ці настаўляла яму калі Ліда рогі?»

— І калі надыдзе час, у месячную ноч, на сходныя дні, ты мусіш пераступіць сваю любоў і зарэзаць яго, злупіць скуру. І тады прыходзіць разуменне, што гэты лапік поўсці мае большы сэнс, чым жывая істота, бо ён увабраў у сябе ўвесь свет, увесь космас, усё неба, усё, што атачала яго ў гэтым жыцці. І трэба ўзяць гэты космас, загарнуць яго і зашыць поўсцю ў сярэдзіну. І вось калі напаўняеш гэты мех сваім дыханнем праз посмак, то з ражкоў выходзіць не просты гук, а голас сусвету. Каб мае развагі не выглядалі беспадстаўнымі, я хачу вам прадэманстраваць плён працы рук маіх. Хадземце ў кабінет.

Мужчыны перайшлі ў невялікі пакой, сцены якога закрывалі шкляныя стэлажы, шчыльна ўстаўленыя музычнымі інструментамі: скрыпкі глядзеліся вытанчанымі і шляхетнымі побач з

сялянскаю прастатою жаўтаскурых бубнаў і груба-сткасцю лір; зусім па-бядняцку паблісквалі бляшанымі канцікамі трохрадныя гармонікі, свежым лакам адлівала інкруставанае века цымбалаў; па ранжыры вышнураваліся пастуховыя жалейкі і дудачкі; медным німбам ззяла талерка над шырокім тварам турэцкага барабана. Гаспадар узяў з пісьмовага стала пляскатае, нежывое цела дуды і сцягнуў — як падумалася спачатку Хуту, з друкарскай машынкі — вышываны крыжыкамі чахол. Сярод музейнага спакою нечакана жывым блакітам засвяціўся манітор камп'ютэра.

— Я зрабіў рэканструкцыю старажытнага вайсковага танца, сапраўднага, які танчылі нашы прашчуры перад боем, — Сымон укінуў у проразь дыскету, прабегся пальцамі па клавіятуры, і на экране ўзніклі графічныя постаці ваяроў, якія бязладным колам пераміналіся з нагі на нагу. Электронны метраном пачаў адбіваць тэмп.

Сымон Лазаркоўскі зацiснуў мех пад левым локцем і надзьмуў шчокі. Запозненае моцнае і рэзкае гучанне дуды дзынькна азвалася ў шкле стэлажоў. Мажорная мелодыя запаланіла пакой і нібыта ўлілася ў камп'ютар. Постаці паступова захісталіся ў такт, паклалі адзін аднаму рукі на плечы і пайшлі колам. Кола то збягалася да сярэдзіны, то расцягвалася, і калі на экране запанавала поўнае суладдзе, раптам нежывым голасам азваўся камп'ютар: «Гэй, гэй...» — загадна выгукнуў ён услед гудзенню дуды.

Сымон, заплюшчыўшы вочы, цiснуў гострым локцем мяккі, як жывая істота, мех. Вастрадзюбы чаравік прытупваў па светлых габляваных дошках падлогі. Нешта пачварнае было ў сутулаватай высокай паставе настаўніка, калі ён, сашчапіўшы доўгія пальцы на ражку, ускінуў твар да столі і закаціў вочы так, што ў вачніцах засталіся адно блакітныя бельмы.

Хут злавіў сябе, што міжволі адбівае нагой такт. І каб зняць насланнё, адвёў позірк ад экрана: на адной з паліц да самага шкла падабралася калекцыя рознакаляровых вачэй-пратэзаў.

## 8

### Старонкі з нататніка журналіста Зміцера Хута

Шчыра прызнацца, іншым Сымона Лазаркоўскага я і не ўяўляў. Калі ёсць у мястэчку чалавек, падобны да пачвары, — гэта ён, бо амбіцый у Лазаркоўскага — якраз на гаспадара сапежынскіх земляў. Ён загортвае ў скуру казляняці сусвет, ён дзьме ў абслінены муштук і хоча, каб усе танцавалі пад вайсковыя мелодыі ды выгуквалі «гэй». А Ліда ў казачнай пернікавай хатцы, крытай мохам, — такая ж авечка, з якой лагодны гаспадар мерыцца пашыць кажушок. Ён і цалуе сваю жонку, як той драўляны муштук. Не дзіва, што ў такіх варунках яна робіць выгляд, быццам мы незнаёмыя, і крадком кладзе ў кішэню маёй марынаркі цыдулку: «Зміцер, прыходзь заўтра ў закінуты касцёл, з раніцы, як дзеці пойдуць у школу. Будзь асцярожны».

Магчыма, з аднаго боку, маладая жанчына засумавала, жывучы з такім музыкам, як спадар Сымон, і, каб развеяць сум летуценным фліртам, выцягнула мяне з Менску. Колькі таемных рамантычных сустрэч, згадкі пра былое... А потым я з'еду, ёй застануцца мілыя ўспаміны. А з другога боку, такая набожная каталічка, як Ліда, ніколі не прызначыць любоўнае спатканне ў касцёле. Спадзяюся, ёй сапраўды адкрылася нешта важнае. Хаця і ад першага варыянта адмаўляцца зарана.

Па-свойму Сымон Лазаркоўскі нават сімпатычны. У ім ёсць сапраўдная годнасць, такое рэдка сустрэнеш у правінцыяла. Але сам ён да канца ніколі не адкрыецца: дазволіць агледзець мех

дуды, нават дасць пакратаць яго, я буду чуць гукі, але вось зазірнуць у сярэдзіну нельга. Вельмі важна сустрэцца з Лідаю. Калі яе муж — пачвара, то яна павінна пра гэта здагадвацца. Удваіх мы хутчэй дазнаемся праўду. Трэба дзейнічаць, покуль я канчаткова не страціў у сапежынскай глушэчы аналітычны розум, не пачаў верыць у шаравыя маланкі і здані.

Лаўлю сябе на думцы, што трапіў пад уплыў Сымона Лазаркоўскага. Яшчэ некалькі сустрэч — і я пачну шкадаваць яго, а не Ліду. А ўвогуле варта любіць самога сябе — лягчэй жыць. Што мне, урэшце, да знікнення нейкага там настаўніка? Чаму я мушу высільвацца ў пошуках міфічнага злачынцы? Забойства няма, покуль няма трупа. Лепш займуся сваёй працаю: Сымон Лазаркоўскі расказаў дзіўнаватае паданне, якое і запісваю.

### Паданне пра кухарку Гартау

Было гэта яшчэ за старым баронам фон Гартам. Яго жонка — рыжская баранэса — прывезла з сабою кухарку з мужам, які служыў лёкаем. Кухарку звалі Матыльдаю, яна даволі скора навучылася гаварыць па-беларуску, але ў сваёй сям'і і з гаспадыняю размаўляла толькі па-нямецку. У яе з мужам былі дзеці, двое хлопчыкаў: Карл і Фрыц. Са старэйшым, Фрыцам, у бацькоў праблемаў не было: ён спраўна вучыўся, на вуліцы з дзецьмі гаварыў па-тутэйшаму, дома па-нямецку. А вось малодшы — чатырохгадовы Карл — так яшчэ і не прамовіў ніводнага слова. Маці пайшла параіцца да ксяндза, і той сказаў, нібыта адзінае, што дапаможа малому Карлу, — гэта на Вялікдзень адстаяць імшу перад абразом Маці Божай Вострабрамскай у Вільні. Матыльда ўзяла гаспадарчую брычку, а паколькі да свята заставаўся толькі адзін дзень, позна ўвечары, па цёмнаму, выправілася ў дарогу. Коньмі правіла сама, а чатырохгадовы Карл,

абкладзены падушкамі, сядзеў у брычцы. Калі яны выехалі з мястэчка на грэблю, што ішла па балоцістым беразе Русалчынага возера, то з вады вылез малы чалавек, ускараскаўся па адхоне і заступіў дарогу коням. Матыльда потым казала, што бачыла, як з малога чалавека сцякалі вада і твань. Жанчына крычала і біла коней, тыя стаялі. Карлік абышоў брычку і зазірнуў у сярэдзіну.

— Wo fahrst du, Karl? — спытаў ён.

Карл, які за сваё жыццё не вымавіў аніводнага слова, пацягнуўся рукамі да карліка і выразна адказаў:

— Nach Wilna!

— Sehr gut! — малы чалавек паляпаў Карла па плячы і спрытна, як жаба, скочыў з брычкі проста ў ваду.

— Ах вось ты які! — жахнулася Матыльда. — З рознымі пачварамі вадзянікамі гаворыш, а з маці не! Падменыш!

Яна схапіла Карла і кінула з грэблі ў красавіцкую ваду Русалчынага возера. А калі ўпэўнілася, што ён патануў, то вярнулася ў маёнтак і спакойна расказала гаспадыні пра здарэнне. «Я даўно падазравала, — казала кухарка, — што чэрці падмянілі майго беднага Карла. Ён нарадзіўся вельмі слабы, і мы з мужам баяліся везці яго па марозе хрысціць. А калі выбраліся, дык брычка перакулілася якраз на тым самым месцы на грэблі, я і сын апынуліся ў вадзе, не ўтрымала яго ў руках. Там, каля грэблі, няма лёду нават узімку — крыніцы. Я выцягнула з вады дзіця, думала, свайго Карла, але вадзянік паспеў падмяніць майго сына, падсунуў свайго...»

Баранэса выслухала кухарку і, каб тая супакоілася, дала ёй адпачынак на тры дні. Цела Карла так і знікла ў Русалчыным возеры. Увесь Сапежын шкадаваў Матыльду, а паліцмайстар склаў акт, нібыта кухарчын сын вываліўся з брычкі і патануў сам. Нават ксёндз палічыў за лепшае не чапляцца з уладальнікамі маёнтку, і толькі штогод, перад Вялікаднём, маліўся за спакой душы Карла.

## 9

Зміцер Хут загарнуў нататнік і падняўся з-за пісьмовага стала. Перачытваць напісанае не было сілы — хіліла на сон. Ад выпітае кавы было млосна. Глыбокая цішыня начнога мястэчка ўражвала — нібыта цемра, як вада, апусцілася на Сапежын, і ў ёй захлынулася ўсё жывое. Зміцер пусціў ваду ў рукамыйнік. Тонкі струмень паліўся ў падстаўленыя далоні. Мыльны крэм успеніўся і загусцеў на пэндзлі для галення. Хут укрыў белым шумам шчокі і шыю. Захрабусцела лязо. Зміцер нацягнуў рукой скуру і паглядзеўся ў люстэрка. За спіной, у чорным ваконным прагале, узнікла постаць: узняты каўнер плашча прыкрываў захутаны шалікам твар. Рука ў скураной пальчатцы легла на шкло. Зміцер здрыгануўся, і з-пад ляза па намыленай шчацэ паплыла кроў.

Прывід расплыўся ў цемры. Зміцер расхінуў акно і саскочыў з карніза на газон. На рыначным пляцы, за папялішчам, у ліхтарным святле мільгануў плашч незнаёмца. Хаваючыся за дрэвамі, Зміцер пайшоў следам. Постаць то знікала, то з'яўлялася зноў. Нарэшце прывід спыніўся каля брамкі і зайшоў у двор. У асветленым акне Зміцер згледзеў жаночы сілуэт. Святло згасла. Хут ступіў у цемру, насычаную водарам позняе шыпшыны. Не паспеў ён зрабіць і кроку, як на патыліцу абрынуўся моцны ўдар. Зміцер паляцеў тварам на сцежку.

Хут апрытомнеў і адчуў, што яго перакулілі на спіну. Упрост над сабой ён убачыў акрываўленыя рукі. Ён ляжаў каля ганку, і лямпачка без плафону свяціла ў твар.

Зміцер прыўзняўся на локці. Перад ім укленчыла маладая жанчына ў атласным пеньюары. Яна з жахам глядзела на свае запэцканыя крывёю рукі і, здаецца, апроч іх нічога не бачыла.

— Гэта вы спрабавалі забіць мяне? — Зміцер

прыкрыўся рукой ад навязлівага святла.

Жанчына адхіснулася.

— Што вы рабілі ў маім двары?

— Цяпер цяжка ўспомніць, — Хут паспрабаваў падняцца, але яго замуціла, і давялося зноў сесці.

— Я прыехаў з Менску, — недарэчы дадаў ён.

І гэта чамусьці супакоіла жанчыну.

— Трэба змыць кроў. — Яна прапанавала Зміцеру перабрацца ў дом.

У гасцёўні жанчына дапамагла Хуту зняць кашулю.

— У вас няма ў што пераапрануцца? — Яна трымала акрываўленую апратку і з прыхаванай цікаўнасцю глядзела на загартаванае цела мужчыны.

— У гатэлі ёсць. — Хут памацаў гузак на патыліцы.

— Магу пазычыць кашулю свайго кватаранта.

— Калі ён не супраць.

— Ён з'ехаў і наўрад ці вернецца, — жанчына выцягнула шуфляду камоды.

— Мяне завуць Зміцер. Калі ўсё яшчэ баіцеся, то вось маё пасведчанне...

— Яніна Сабалеўская, бібліятэкарка. — Яна павагалася, але ўсё ж узяла пасведчанне. — Вы нарэшце ўспомнілі, як апынуліся ў маім двары?

— За мной падглядаў незнаёмец у люстраных акулярах. На ім была дзіўная вопратка. Я вырашыў прасачыць за ім. Ён зайшоў да вас у двор, я — следам. Вось усё, што памятаю.

— У Сапежыне ніхто не носіць люстраных акуляраў, да таго ж уначы. Гэта прывід ударыў вас па галаве.

— Калі не вы, то, вядома ж, ён. Дзякуй, што не пабаяліся выйсці з дому.

— Прывыкла не спадзявацца на іншых. Усё, што са мной магло здарыцца, ужо здарылася. — Яніна адчула, што Зміцер вагаецца, застацца яму ці сысці. — Калі можаце, то лепш застаньцеся,

так будзе спакайней. Пакой кватаранта вольны.

— Мне паспелі расказаць пра вашага кватаранта, настаўніка геаграфіі.

— Відаць, і пра мяне тое-сёе сказалі? — Яніна дастала з буфета графін з вішнёвай наліўкай.

— Сымон Лазаркоўскі больш любіць гаварыць пра сябе.

— Ясна, ад яго нічога добрага не пачулі. Будзько ж быў закаханы ў ягоную жонку Ліду, і нянавісць да географа краем зачапіла і мяне.

— Я не хацеў кранаць гэтую тэму, а лепш будзе сказаць — не наважыўся. — Хут адпіў глыток цягучай, як сіроп, наліўкі. Цяпло разышлося па целе, і трохі суняўся тупы боль у патыліцы.

— Прызнайцеся, вы прыехалі разабрацца ў знікненні Будзько? — Яніна камечыла ў пальцах край сурвэткі.

— Яго гісторыя зацікавіла мяне пасля прыезду. У самалёце я пазнаёміўся з дырэктарам вашай школы — Гладкевічам. Ад яго і пачуў пра настаўніка геаграфіі.

— Жыццё самотнай бібліятэкаркі, маё жыццё, для занадта цікаўных людзей не можа застацца па-за ўвагай! І часам пра мяне гавораць лішняе. Пагадзіцеся, страшна жыць адной непадалёк ад могілак, таму і пускаю кватарантаў. Сымон Лазаркоўскі пры ўсіх ягоных хібах — чалавек разумны. Ён не стаў рабіць скандал, каб усе ўведалі, што Ліда здраджвае з маладым настаўнікам геаграфіі. Лазаркоўскі апярэдзіў чуткі і пусціў плёткі, нібыта Будзько мой, а не Лідзін каханак. Пераконваць людзей у адваротным не мела сэнсу.

— Можа, вы, Яніна, памыляецеся наконт Ліды? — запярэчыў Хут.

— Выбачайце, — спыніла яго бібліятэкарка, — але Будзько не хаваў сваё жыццё. Я бачыла, калі ён сыходзіў і прыходзіў, часам чула тэлефонныя размовы. І апошняе... Нашто Ліда прыходзіла агледзець Алегаў пакой? Нават я доўга не ведала,

што ён насіў кантактныя лінзы, а Лазаркоўская адразу згледзела іх у шклянцы на паліцы. Яна ведала, што шукала! Сама я не нашу акуляраў, але разумею: лінзы здымаюць толькі як кладуцца ў ложак.

— Ліда магла пазнаёміцца з Будзько яшчэ ў Менску.

— Я не пляткару, толькі абараняю сваю рэпутацыю і ведаю, што кажу. Сымон Лазаркоўскі ненавідзеў Будзько. Ён кажа пра нянавісць да камуністычнай ідэі, пра змаганне з чужынцамі, але ўсё прасцей — звычайная зайздрасць рагача, які ўведаў пра жончыну нявернасць. Я не здзіўлюся, калі высветліцца, што спадар Лазаркоўскі забіў Алега. Такія аматары ваярства не даруюць крыўдаў.

— Ці не занадта жорстка?

Яна вытрымала позірк і нават усміхнулася краёчкамі падведзеных вуснаў:

— Калі б вы пачулі ягоныя развагі перад школьнікамі, як з казла зрабіць дуду, то не здзіўляліся б. Паслухаўшы, я зразумела, што азначае слова «казалуп».

— Я таксама бачыў казляня, падрыхтоўку для новае дуды. Яно, між іншым, цудоўна ладзіць са сваім гаспадаром. Вы лічыце, Сымон Лазаркоўскі злупіў скуру і з небаракі каханка?

Пытанне прагучала па-блюзнерску. Яніна Сабалеўская прамаўчала, а Хут успомніў, што сядзіць у кашулі Будзько. У запалай цішы няроўна гула лямпа дзённага святла.

— У забойства заўсёды цяжка паверыць, — бібліятэкарка скрыжавала рукі на грудзях, нібыта змерзла, — разумею, куды спакайней думаць, што чалавек з’ехаў, уцёк, хай сабе нават знік ці яго знёс прывід.

— Вы раіліся са следчым?

— Каб выкрыць зладзейства, следчы мусіць быць разумнейшы за злачынцу, а вы, гляджу, яшчэ

не сустракаліся з нашым Юрасём Талочкам... Я дзіўлюся аднаму: у Ліды столькі знаёмых у сталіцы, а яна не скарыстала сваіх сувязяў. Нікога разумнага так і не прыслалі расследаваць знікненне Алега. Хаця чаму дзівіцца — муж у яе адзін, а Будзько быў не першы і, відаць, не апошні каханак. А вас, часам, не Ліда запрасіла прыехаць у Сапежын? Можаце не адказваць... Вам варта адпачыць.

— Выбачайце, але застацца не змагу, — Зміцер падняўся. — Са свайго нумара я выйшаў праз акно і нават не згасіў святла.

— Як сабе хочаце. Калі рэчы даражэй за ўласнае жыццё, то ідзіце. — Яніна села на канапу, і ёй на калені ўскочыла кошка.

— Прашу вас, Яніна, калі што здарыцца, пераззваніце мне ў гатэль, вось нумар, — Зміцер дастаў візітоўку і запісаў нязвыкла кароткі тэлефонны нумар.

— А ў Сапежын вас усё ж такі запрасіла Ліда, — сказала Яніна, разглядаючы візітоўку.

## 10

Зміцер якую хвіліну пастаяў на сярэдзіне вуліцы, покуль вочы не прызвычаіліся да цемры. Толькі цяпер ён па-сапраўднаму адчуў холад. Вільготны вецер налятаў з боку Русалчынага возера. Па адзін бок вуліцы ішлі дамы, уздоўж другога цягнулася невысокая, складзеная з валуноў агароджа каталіцкіх могілак. За дрэвамі на капліцы загараўся і згасаў агеньчык сігналізацыі. Не паспеў Хут прайсці і сотні метраў, як па-над агароджай бліснулі люстраныя шкельцы. Яшчэ імгненне, і бляск знік. Зміцер перавёў дыханне і падышоў да агароджы. На каменнай пліце ляжалі поруч дзве парожнія піўныя пляшкі. Зноўку міргнула сігналізацыя і адбілася ў донцах зялёным святлом.

Хут завярнуў у завулак, што вёў да цэнтру мяс-

тэчка.

У доме Лазаркоўскіх яшчэ гарэла лямпа. Зміцер з-за паркану паглядзеў на акно гасцёўні. У нізкім крэсле перад тэлевізарам сядзеў Сымон, побач з ім на шырокім, абцягнутым аксамітам падлакотніку — Ліда. Раптам яна азірнулася. Зміцеру падалося, што менавіта яму прызначаны напалоханы позірк. Сымон таксама азірнуўся і незадаволена зняў руку з Лідзінага пляча.

Перад самым гатэлем Зміцер успомніў, што ключ ён так і пакінуў у замку. Залезці ў высокае акно аказалася не так проста, як выскачыць з яго. Нарэшце Хут здолеў зачапіцца за падваконне і апынуўся ў пакоі. Відавочна, у нумары да яго нехта быў. Фотаапарат з адчыненай накрыўкай ляжаў на канапе. Каля партманеткі на стале рассыпаліся банкноты. Пустая валіза ляжала ў чарупіне, на яе капала вада. Зміцер зачыніў акно і падняў з фатэля марынарку. Рука знерухомела ў пустой кішэні — Лідзіна пісьмо з запрашэннем сустрэцца ў закінутым касцёле знікла.

Кладучыся спаць, журналіст паклаў пад падушку рэвальвер.

Наручны гадзіннік зайграў паланэз Агінскага, і Хут расплюшчыў вочы. Ранішняе сонца яшчэ не паспела прагрэць гатэльны нумар, а толькі падфарбавала няроўную столь. Зміцер падняўся: боль праця́ў патыліцу, цяжка было нават варухнуць галавою.

Калі Хут выходзіў з гатэля, адміністратарка правяла яго пільным позіркам, але так ні пра што і не спыталася.

Касцёл стаяў на ўскраіне Сапежына. На ўтравянелым цвінтары ляжалі расколаты каменны крыж і сарваная брама. Званіцу да паловы ўкрывалі збуцвелыя рыштаванні. У самім касцёле каля сцен грувасціліся знесеныя сюды невядома нашто старыя школьныя парты. Бакавыя нефы поўніліся цагляным друзам, паўзмыты сценапіс здаваўся

выцвілымі габеленамі. Зміцер пачуў шолах і азірнуўся. У вышыні, на хорах, у прагале зламанай балюстрады стаяла Ліда. Ён сказаў:

— Зараз падымуся да цябе. Дзе сходы?

— Я ненавіджу цябе! — ціха, адчужаным голасам, нібыта чытала завучаную ролю, вымавіла Ліда. — Прэч, сыходзь, я цябе ненавіджу!

Раптам на хорах падзьмуў вецер, узняўся цагляны пыл, глухім гулам азваліся трубы разбітага аргана.

— Я не разумею... — Зміцер змоўк, бо за спінаю Ліды паўстала постаць у цёмным плашчы. Узнялася рука. Бліснулі вострадзюбыя нажніцы. — Ліда! — роспачна крыкнуў Хут. Чорная постаць ушчыльную наблізілася да жанчыны. Зміцер нарэшце агледзеў нешырокія сходы, што вялі на хоры. Але было запозна: ці тое рука ў пальчатцы штурханула Ліду, ці яна сама, спалохаўшыся, не ўтрымала раўнавагі. Зміцеру здалося, варта толькі падбегчы і падставіць рукі, каб спыніць жахлівы палёт. Цела жанчыны глуха ўдарылася аб каменную падлогу.

## 11

Юрась Талочка, следчы сапежынскага пастарунка, пацягнуў на сябе шуфляду пісьмовага стала. На дне, засланым пажоўклай газетай «Савецкая Беларусь», ляжала чэрствая дупка батона.

— Вось жа, і мышы яго не грызуць, — сам сабе паскардзіўся следчы і дастаў з партфеля папяровую пірамідку з малаком. Белымі здаровымі зубамі Юрась адкусіў вяршыню пакета і выплюнуў у далёка адстаўленую сметніцу. Ён выціснуў у рот паўпакета малака і захрабусцеў няўежным батонам. У дзверы ненахабна пастукалі.

— Заходзьце, — Талочка яшчэ грамчэй пачаў хрумсцець сухаром.

У кабінет, пафарбаваны да самай столі ў зялёна-алейны колер, зайшоў Зміцер Хут. Праз нямы-

тае акно была відаць аселая ў траву шпакоўня прыбіральні, да якой вяла добра ўтаптаная — ажно бліскучая — сцежка.

Юрась Талочка выдавіў з пакетнага рыльца камячок смятаны і паставіў знявечаную пірамідку на засыпны сейф.

— Вадзяністае малако пайшло, халера. Мусіць, даяркі ваду ліюць, а вось паспрабуй злаві за руку, — следчы прапанаваў сесці.

Хут уладкаваўся на мулкі, прышрубаваны да рудой падлогі зэдаль. Пасярод сядзення, у якога было выразана акуратнае сардэчка — рыхтык такое, як і на дзвярах зааконнай прыбіральні.

— А цяпер раскажыце, як вы забілі сваю палюбоўніцу Ліду Лазаркоўскую, — следчы сашчапіў пад гальштукам на круглым жываце свае тоўстыя пальцы.

Настрой Хута сапсаваўся:

— Я падобны да забойцы?

— Канечне, падобны. Нашто сумленнаму і ціхамірнаму журналісту зброя? Я ж вось не нашу ў сумцы пад кашулямі пісталет. Мой дык у сейфе ляжыць.

— А ў сумцы вы дазволу на той пісталет не бачылі?

— Пытанні ў гэтым кабінеце, з відам на жывую прыроду, задаю толькі я. Значыцца, адмаўляецеся ад саўдзелу ў забойстве спадарыні Лазаркоўскай?

— А вы будзеце настойваць?

— Вы што — жыд, каб пытаннем на пытанне адказваць? Хопіць з мяне Лаўфмана з яго шаравымі маланкамі. Покуль вы не з’явіліся, у Сапежыне нікога не забівалі.

— А дзе падзеўся ваш настаўнік геаграфіі, спадар Будзько?

— Вы і яго забілі. Як бачым, вы, спадар Хут, не журналіст, а людарэз! Будзеце пісаць?

— Буду, толькі пазней, і не вам, а ў свой часопіс.

— Разумею, вы не па сваёй ахвоце сюды прыехалі. Але ненавязліва параю — не шукайце прыгоды на светлым месцы. Ніякіх пачвар у Сапежыне не вядзецца, і калі не вы забілі Ліду Лазаркоўскую, то яна праз вас скончыла жыццё самагубствам. А каб я не настойваў, вяртайцеся ў Менск.

— Чакайце, чакайце, спадар следчы... А якія маеце доказы?

— Вас, таварыш Хут, бачылі каля касцёла і бачылі, як вы ўначы падглядалі за Лазаркоўскімі ў акно.

— Калі мястэчка такое дасведчанае, дык скажыце, хто трупнуў мне па галаве перад домам Сабалеўскай?

— Пішыце заяву, мы правядзём дазнанне, і атрымаеце афіцыйны адказ, што вы ў п'яным выглядзе пасярод ночы ламіліся ў дом да бібліятэкаркі, і нехта, хто пажадаў застацца невядомым, абараніў яе гонар. Яшчэ пытанні ёсць?

— Ёсць! Гляджу, вас цікавіць, нашто я прыехаў? Скажу: Ліда Лазаркоўская была перакананая і пераканала мяне, што Алег Будзько не проста з'ехаў з Сапежына, а быў забіты. Яна знайшла Алегавы кантактныя лінзы і акуляры, а чалавек з такім кепскім зрокам, як у яго, без оптыкі не дойдзе і да аўтобуснага прыпынку. Яна папрасіла мяне разабрацца ў гэтай заблытанай і цёмнай справе...

— Дык вы тут неафіцыйна, — узрадаваўся Талочка. На сытым твары разам з кропелькамі поту праступіла палёгка, — вас акруціла правінцыйная вар'ятка. Яна і да мяне заходзіла са шкельцамі ў шклянцы. Дык мушу запэўніць, цяпер вы дакладна вольныя. Затрымліваць вас не збіраюся. Але затрымаю. Мне падаецца, што вы з пароды аквалангістаў, якія шукалі ў Русалчыным возеры ці то скарбы Напалеона, ці то карону Вітаўта Вялікага. Ведаеце, не знайшлі, а шкоды ў Сапежыне нарабілі. Па-першае, дровы ў дырэк-

тара рэстарана пакралі. Дык гэта што... А па-другое, я падазраю, яны гусака ў бязногага Юзіка ўкралі. Трэба ж было нешта на дровах смажыць?! Каб Юзік іх злавіў, вось тады ў Сапежыне здарылася б трагедыя. Раю ўзяць інтэрв'ю ў Юзіка, а не лазіць па начох каля сядзібы самотнай, але сумленнай жанчыны. Сапежынскім забойцам я рады дам, а, крый Божа, вам галаву праломяць, то дакладна канцоў не знайду.

— Дзякуй, спадар следчы, за клопаты, — Хут пакінуў Юрася Талочку глядзець на пусты зэдаль з выразаным сардэчкам.

## 12

Халодная імжа вісела над Сапежынам. Праз яе плыў гук пахавальнага марша. Труну неслі чацвёра мужчынаў, сярод якіх Хут пазнаў Базыля Гладкевіча. У плыткай труне, абабітай бэзавым аксамітам, пранеслі праз Зміцера Ліду.

У Хута за спінаю старая цётка прамовіла да маладзіцы:

— Ты глянь, у белым хаваюць, нібыта нявесту. І нават не пасаромеліся ксяндза запрасіць.

— Што ж вы, цётка, кепскае пра нябожчыцу гаворыце, — азвалася маладзіца, — хто ведае, сама яна на той свет сабралася, ці дапамаглі.

Каля дома Лазаркоўскіх сабралася ледзь не палова мястэчка. На пахаванне настаўніцы вывелі і школьнікаў. Прысутнасць дзяцей з кветкамі касавала трагічнасць — ператварала жалобу ў вучнёўскае свята ведаў першага верасня.

Труну паднеслі да машыны, засланай кілімамі і аздобленай елачкамі. Базыль Гладкевіч, калі ўздымаў труну, пакутліва моршчыў твар, бо не мог прытрымаць акуляры, якія ўрэшце саслізнулі і рассыпаліся па бруку.

Машына кранулася і пацягнула за сабою доўгі шнур жалобнага шэсця. Хут праводзіў позіркам

нябожчыцу, калі пачуў прывітанне Гладкевіча:

— Зноў давядзецца ў Дзвінск па акуляры ехаць. Здаецца, і нос доўгі маю, а акуляры не трымаюцца.

— Вы ланцужок прычапіце да дужак.

— Саромеюся вучняў: у правінцыі школьны дырэктар не можа распачынаць моду, я змушаны быць кансерватарам.

— Ніколі не думаў, што ў Сапежыне на пахаванне збіраецца столькі народу, — Хут глыбока запусціў рукі ў кішэні марынаркі, — нават у дождж прыйшлі.

— Вы тут застаяцёся, ці пойдзем? — Гладкевіч занепакоіўся, бо шэсце аддалялася. — Не хочацца ісці, але мушу.

— Я таксама не аматар жалобных чарак. Толькі Сымон Лазаркоўскі настойліва запрашаў...

Дырэктар і журналіст ішлі наводдаль ад усіх.

— Мая версія падасца фантастычнаю, — казаў Гладкевіч, — але я маю свой погляд на здарэнне з Лідаю. Гэта не звычайнае самагубства, вось паслухайце...

## Паданне пра ахвярнасць, якое расказвалася па дарозе на могілкі

У IX стагоддзі князь Браніслаў сабраў дружыну і рушыў на поўнач. У сваім паходзе ён паліў і рабаваў латгальскія і латышскія селішчы. І на папялішчы аднаго з іх, на грудку паміж Дзвіной і цяперашнім Русалчыным возерам, заклаў свой горад. А на азёрнае выспе паставіў пантэон славянскіх багоў. Узвышаліся там драўляныя вызалачаныя стоды Перуна і Вялеса, а вакол іх — драбнейшыя постаці Дажджбога, Ярылы, Лады, Белабога ды Беларуна. А на краі капішча рос прызнаны святым дуб. У магутным дрэве па князевым загадзе было зроблена ахвярнае дупло, краі якога аздобілі дзіковымі ікламі. Крыважэрны князь кідаў у тое дупло сэрцы латгальскіх вою-

шаў, на якіх паляваў у навакольных лясах. Ён страляў гэтых бедных дзікуноў, як тых ласёў ці рысяў. Гэтаксама, як Сцяпан Батура праз сем стагоддзяў будзе паляваць у берасцейскіх лясах на яцвягаў.

І сам князь Браніслаў, і ўся ягоная дружына жылі вераю продкаў, былі зацятымі паганцамі і ўпарта не прымалі хрысціянства. Толькі самая маладая, адзінаццатая жонка князя — палонная грачанка Сафія — таемна малілася Хрысту, хоць нібыта і прымала мужаву веру.

Аднойчы з Канстанцінопаля да князя прыехала чарговая хрысціянская місія — трое выкшталцоных манахаў спрабавалі пераканаць ваяўнічага Браніслава адмовіцца ад паганства і дзікунства, што валодалі ягонаю душой, і прыняць сусветную веру. Князь дазволіў пасяліцца манахам у горадзе, чым здзівіў сваіх падданых, бо ўсе ведалі, як пагарджае ён новай вераю. Ніхто нават не здагадваўся, што намерыўся князь выпрабаваць адданасць свайго народа. Як драпежны рысь пільнуе ў зарасцях чароту сарну, так чакаў князь Браніслаў здраднікаў, якія пахіснуцца ў бацькоўскае веры. Бо прыспеў час, як лічыў князь, несці ў святы дуб гарачае сэрца адступніка.

І вось напярэдадні Купалля вылегчаны ключнік расказаў князю, што ягоная адзінаццатая жонка Сафія пачала насіць між грудзей чатырохканцовы крыжык, які далі ёй візантыйскія манахі. Сабраўшы сход, князь загадаў Сафіі прылюдна адмовіцца ад Хрыста і кінуць крыжык у вогнішча. Сафія так і зрабіла. Тады ўзрадаваны князь загадаў паадсякаць галовы візантыйскім гасцям, павыдзіраць з грудзей сэрцы і кінуць у пашчу ахвярнага дуба. Але на купальскую ноч княгіня Сафія не пайшла разам з усімі класці вогнішча, а падалася на капішча, дзе паабмазвала смалою залачоных стодаў і падпаліла. У золаце раз'юшанага полымя зніклі славянскія багі.

Княжацкія служкі паляцелі ў пагоню за здрадніцаю Сафіяй. Але тая ўцякла на лепшым князевым кані. Толькі праз дзень пад Полацкам пагоня нагнала княгіню. У зрэбным мяху прывезлі яе назад і кінулі князю пад ногі. Загадаў Бранiслаў зварыць жонку ў казіным малацэ і скарміць сабакам булён з чалавечым мясам. Так і не паспеў князь адбудаваць капішча, бо чорная воспа выкасіла амаль увесь горад.

А ў семнаццатым стагоддзі канцлер Лявон Сапега, які купіў горад Браніслава і пераназваў у Сапежын, збудаваў касцёл успення Дзевы Марыі ў памяць пра пакутніцкую смерць хрысціянкі Сафіі.

— Вось і думаю, — сказаў Гладкевіч Хуту, — што нябожчыца Ліда ахвяравала ўласным жыццём дзеля ўваскрашэння веры Хрыстовай на Сапежынскіх землях. Вы не верыце? Апошнім часам мяне палохала яе каталіцкая апантанасць.

## 13

Ніхто з запрошаных на жалобную вячэру не спяшаўся праходзіць да стала. Госці — па трое, па чацвёра — купкамі стаялі каля плота побач з высокімі мальвамі і цяжкагаловымі бурачковымі вяргінямі, перагаворваліся шэптам. Сымон падышоў да Зміцера і па-настаўніцку ясным голасам запрасіў за жалобны стол. Хуту давялося зайсці ў хату следам за гаспадаром. Яму і дасталося кутняе месца, з якога захочаш, а не зможаш выбрацца да канца ўрачыстасці. Поруч, па суседству, на добра абгабляваную дошку сеў мужчына з паднявольным зямлістым тварам. У ягоных вадзяністых, светлых вачах прырода прасвідравала такія глыбокія зрэнкі, што, здавалася, іх жахлівая глыбіня значна большая за памеры невялікага чэрапа.

— Настаўнік працы і расейскай літаратуры,

Іван Зайцаў, — назваўся сусед і падсунуў бліжэй да Хута талерку з тлустымі блакітнымі селядцамі, прысыпанымі маціцовымі абрэнчыкамі цыбулі.

— Хто есць селядцовыя хвасты, на таго не брэшуць сабакі, — заўважыла бібліятэкарка Яніна Сабалеўская, якая акурат уладкоўвалася насупраць Зміцера.

Калі госці расселіся і паналівалі ў чаркі гарэлку, Сымон Лазаркоўскі падняўся:

— Шаноўнае спадарства, я ўдзячны, што вы прыйшлі выправіць у астатні шлях нашу любую Ліду, — ягоны твар сказіўся, ён закрыў слёзы рукою і сеў, — даруйце...

Ратаваць парадак за жалобным сталом узяўся дырэктар школы Базыль Гладкевіч:

— Прапаную ўсім выпіць за светлую памяць выдатнай жанчыны, паважанай настаўніцы і добрага чалавека.

Усе выпілі не чокаючыся. За першаю чаркай знікла напружанасць і скутасць. Зглададалыя і змоклыя пад халаднаватым вераснёўскім дажджом людзі вярталіся да будзённасці. Яны паўшэптам прапаноўвалі адзін аднаму стравы, нагатаваныя сапежынскімі настаўніцамі: празрысты смачны накроены халадзец з ружовымі валокнамі свініны, доўгія, як цэпеліны, запечаныя ў сухарах хрумсткія катлеты, сметанковую мачанку з тонкімі парасячымі скабкамі, высокія стосы жытніх бліноў, салёныя памідоры і гуркі, прысыпаныя свежым кропам, брусочкі белага сала, хлеб...

— А вы, спадар пісьменнік, — звярнуўся да Хута добра п'янаваты сусед, — пакаштуйце маслякоў пад гарэлку. Грыбкі, пэўна ж, збірала і ў слоікі закатвала яшчэ сама нябожчыца.

Відэлец са слізкім, як жывым, грыбком завіс на паўдарозе да рота.

— А я не надта ўжо і прымхлівы, — Хут з нарочыстым смакам з'еў масляка.

— Як жа ж, як жа ж, беларусы любяць паесці на магілах, — Зайцаў захрумсцеў агурком, — у гэтым Сапежыне і я здзічэў. Раней, пабачыўшы труну, тры дні есці не мог, а цяпер нават і скаромнае, нават мачанне са скабкамі пакаштую. Заўважце, спадар пісьменнік, як на вашых вачах прадстаўнік магутнага і вялікага расейскага народа ператвараецца ў тутэйшага абарыгена і, ломячы язык, вычвараецца на мясцовым дыялекце.

— У прадстаўніка вялікае нацыі заўсёды ёсць два выйсці: ваяваць або спаць, — Хут наліў чаркі.

— Ёсць і трэці шлях — маліцца, — Зайцаў выпіў, а Хут адставіў поўную чарку.

Пасля такіх размоў ані піць, ані есці не хацелася. «Хай гаворыць што хоча, абы не заспяваў», — падумаў Зміцер.

— У мястэчку мяне разумелі толькі два чалавекі: Алег ды Ліда. Больш тут людзей не засталося. Адна Ліда і верыла, што Алег не ўцёк, а стаў ахвяраю Сапежынскага прывіда. Зрэшты, не веру ў яе самагубства. Гэта прывід і, спадзяюся, вы здагадваецеся, хто ён...

— Няўжо барон Баркулаб фон Гарт?

Вадзяністыя вочы Зайцава наліліся чырвонай злосцю, а замест зрэнак засталіся адно макавыя зярняткі чарнаты:

— Задушліва робіцца ў хаце, і наспеў час да ветру схадзіць, — даволі гучна прамовіў настаўнік расейскай літаратуры.

За Іванам Зайцавым пачалі выходзіць на двор і астатнія госці.

Раптам з-пад жалобнага стала пачуўся крык. Гэта крычаў вадзіцель школьнага аўтобуса — Янка Рубец. Дробненькі, сухі дзядок Янка за час жалобнае вячэры паспеў так захмялець, што заснуў, і, вядома ж, не заўважыў, як уласная галава апынулася пад сталом. А калі аднаго з гасцей хістанула, і ён штурхануў зэдаль, на якім спаў шафёр, Рубец прахапіўся і паспрабаваў узняць галаву.

Патыліца глуха бухнула ў стальніцу. Тупы, быццам з труны, голас парушыў урачыстую строгасць: «Адпусціце, гіцалі, на волю!» Нібыта на спірытычным сеансе стол захадзіў ходарам: зазвінелі пляшкі, захваляваліся рэшткі халадцу, па абрусе пакаціўся мярцвяна-зялёны памідор. Рубец выкараскваўся з-пад стала, а госці, душачыся істэрычным смехам, пакідалі хату нябожчыцы. «Вось жа пералякаўся!» — чырвоны ад натугі Янка Рубец наліў сабе гарэлкі ў каламутныя рэшткі хлебнага квасу.

За пакінутым сталом, ачарэпіўшы галаву рукамі, плакаў Сымон Лазаркоўскі.

## 14

Халодны вераснёўскі вечар прымусіў Хута згадаць, што пад марынаркай няма швэдра. З дома Лазаркоўскіх чуўся бразгат талерак і галасы настаўніц, якія засталіся памыць посуд. Зміцер замест таго, каб накіравацца ў гатэль, крадком рушыў праз сад да Сымонавай майстэрні. Дождж скончыўся, і тонкі серпік састарэлага ветаха бляклa серабрыўся праз добра ўжо парадзелую яблыневую лістоту. На тле зорнага неба глыбокай чарнатою ўзвышаўся чаратовы дах. Недзе ў глыбіні саду падскугольваў Лідзін сабака. Зміцер выцягнуў з прабою драўляны калок, навязаны на вяровачку. З цемрадзі майстэрні патыхнула цяжкім духам свежае крыві і саладжавым водарам вантробаў. Намацаўшы на сцяне выключальнік, Хут прымусіў успыхнуць пад столлю ўстаўленую ў металёвы плафон вялізную лямпачку. Пасярод пакоя вісела падважанае за ногі безгаловае аблупленае казляня — пад ім у эмаліраваным вядры сабралася яшчэ яркая кроў.

— Вось, вырашыў дзіцячую дуду зрабіць, — у спіну журналісту ўдарыў ясны голас Сымона Лазаркоўскага.

— Я ведаў, вы пойдзеце за мною, бо не верыце ў Лідзіна самагубства. І таму, каб пагаварыць без сведкаў, я выбраў майстэрню.

— А хто кажа, што я не веру? — Сымон вырваў з калодкі сякеру і сеў насупраць журналіста.

— Зрэшты, справа не ў тым, верыце вы ці не, а ў іншым. Я на свае вочы бачыў, як забівалі вашу жонку. Мужчына ў чорным плашчы і ў цёмных акулярах скінуў яе з касцельных хораў. Так што размова мусіла адбыцца.

— Ведаю, вы прыехалі не па заданні рэдакцыі.

— Мяне запрасіла Ліда. Яе непакоіла знікненне Алега Будзько.

Сымон з глыбокай кішэні нядзельнага пінжака дастаў калекцыйны штоф «Зуброўкі»:

— Давайце нарэшце па-людску памянём Ліду. Вы ж даўно яе ведаеце... На жончыным універсітэцкім фотаздымку ёсць і ваш партрэт у медальёне, а пад ім запамінальнае прозвішча.

— Сённяшнюю жалобу моцна сапсаваў ваш калега — Зайцаў. Ніколі не думаў, што ў нашай правінцыі вядзецца такі ваяўнічы расейскі шавініст. Мне цяжка зарыентавацца ў сапежынскім жыцці з яго самаўпэўненымі Талочкамі, Сурмамі і, нарэшце, з Баркулабамі фон Гартамі. А таму ніводнага з іх не ўяўляю забойцам вашае жонкі.

— Я таксама апошнія дні думаў над гэтым, сябра мой. І самы жах, кожны з іх здатны ўтварыць злачынства, больш за тое, беспрычыннае зло. Дарэчы, а якая нагода прывяла вас пад касцельныя скляпенні?

— Яшчэ ў Менску мы дамовіліся з Лідаю сустракацца ў касцёле і абгаворваць, як рухаюцца наша следства і нашы пошукі зніклага Алега Будзько. Мне вельмі непрыемна, але мушу быць шчырым: Ліда не выключала са спісу падазроных і вас, спадар Лазаркоўскі.

— Тое самае магу сказаць і пра вас, але не дзеля

гэтага сядзім разам. Вы шукалі дапамогі, і я, наколькі змагу, паспрыяю, бо не давяраю цынічным следчым. Я сам знайду забойцу і пакараю яго.

— Каго-небудзь канкрэтнага вы падазраеце?

— Тлумачэнні сапежынскіх забойстваў такія ж простыя, як і тутэйшае жыццё. Алега Будзько пэўна ж забіў Зайцава. Да з'яўлення Будзько Яніна кахалася з Іванам Зайцавым, але потым аддала перавагу маладзейшаму, свайму кватаранту. Да таго ж, Зайцаў сябраваў з Будзько, а ў сяброў заўсёды знойдзецца нагода, каб смяротна пасварыцца. Мяркую, Ліда нейкім чынам даведалася, хто ёсць сапраўдны злачынца. Праз гэта і загінула.

— І як вы збіраецеся давесці праўдзівасць сваёй версіі?

— Бачыце безгаловае казляня? Менавіта сёння я змушаны быў пачаць рабіць чароўную дудку, пры дапамозе якой змагу выклікаць на саракавы дзень пасля смерці Ліду з магілы, і яна скажа, што здарылася ў касцёле. А як падняць чалавека з магілы, мяне навучыў музыка з Друі.

## Паданне пра музыку Ясечку, які падняў жонку з магілы

Жыў у Друі скрыпач Ясечка — боўдзіла і п'янтос, у маладыя гады з'ехаў ён на заробкі ў Аргенціну, паабяцаўшы маладой жонцы вярнуцца праз год. Але ані праз год, ані праз два, ані праз тры не з'явіўся Ясечка ў Друі. А жонка ўсё чакала. І вось праз дзесяць гадоў пасля вайны нечакана для ўсіх аб'явіўся Ясечка ў Друі, у саламяным самбрэра і ў індзейскім пончо, з заўсёднай скрыпачкай пад пахаю. Усім на дзіва жонка прыняла Ясечку і ў чырвоны кут павесіла самбрэра і пончо. А скрыпку давялося ёй праз тры месяцы схаваць на гарышчы ў труну, бо ніводныя хаўтуры, ніводнае вяселле, нават ніводныя хрэсьбіны не

абыходзіліся без Ясечкавай скрыпачкі. Схавала жонка скрыпку ў труну, а Ясечку сказала, што ўкінула ў печ. Толькі не паверыў Ясечка, увесь попел перапароў, шукаючы якога следу. Ніякіх слядоў не знайшоў, а саму скрыпку адшукаў праз тыдзень, калі палез на гарышча адразаць паляндвіцу. «Каб ты сама здохла! Каб цябе жывую ў тую труну паклалі, як ты маю скрыпачку пахаваць хацела! Каб твая магіла валасамі парасла!» — крычаў раз'юшаны Ясечка. А пасля сваркі схапіў ён скрыпку і пончa ды сышоў з дому. Калі праз тры дні працверазелы і галодны вярнуўся, то знайшоў сваю кабету нежывою. Задавілася яна на гарышчы, на той самай бэльцы, побач з паляндвіцай. На пахаванні жонкі Ясечка сам граў жалосныя паланэзы ды маршы. А пасля хаўтураў музыка надзіва сцішэў: ані на пахаванні, ані на хрэсьбіны, ані на вяселлі, нават калі запрашалі, не ішоў. Кожную ноч прыходзіў на жончыну магілу і граў на скрыпцы нязвыклую ў нашых краях сумную мелодыю. У Друі пачалі казаць, што тае мелодыі навучылі Ясечку аргенцінскія індзейцы і што той мелодыяй можна падняць з магілы нябожчыка. На саракавіны людзі бачылі, як Ясечка зноў пайшоў на могілкі і чулі, як граў ён сваю музыку. І тады выйшла з магілы верная жонка і сказала: «Мала ты мучыў мяне на гэтым свеце сваёй скрыпачкай, падла, дык і на тым спакою не даеш!» — сказала і назад у магілу вярнулася. А збянтэжаны Ясечка пайшоў на бераг Дзвіны і пусціў скрыпку па вадзе, сказаўшы: «Плыві, ты, выклятая дзеравяшка, да латышскіх даўбакоў. Не дала ты мне шчасця ані тут, ані ў Амерыцы».

А праз колькі дзён знайшлі Ясечку ў хаце нежывога, з аб'едзенымі мышамі пальцамі.

— І дазнаўся я тую мелодыю, што Ясечка прывёз з Андскіх плато. І цяпер раблю дуду, на якой зайграю па-над Лідзінай магілай. І паўстане яна

з-пад зямлі і назаве імя забойцы.

«Што-што, а паданне трэба запісаць», — падумаў Хут.

## 15

У гатэльным нумары Хут пачуваўся няўтульна. Ён паспрабаваў быў пісаць у нататнік, але пасля выпітага, убачанага і пачутага адчуў сябе млосна. Зміцер уключыў тэлевізар, толькі замест заўсёднага ідыятызму мясцовага тэлебачання на экране ўжо сыпаўся сухі электронны снег. І нібыта з гэтага снегу, з ягонага наэлектрызаванага шапацення прагучаў тэлефонны званок.

— Калі ласка, журналіст Зміцер Хут.

— Guten Abend, — па-нямецку азвалася слухаўка нарочыста складаным мужчынскім голасам.

— Які вечар? Ноч на двары... — не ведаючы, што адказаць, прамовіў Зміцер.

— Вядома, не вечар і, вядома, не добры. Нягледзячы на тое, што нас з вамі не знаёмілі, я даволі шмат пра вас ведаю, як і вы пра мяне. Каб не рабіць таямніцы, я назавуся — Баркулаб фон Гарт.

— Вельмі прыемна, спадар Гарт. А не маглі б вы прызначыць мне аўдыенцыю? — Зміцер пашкадаваў, што не прыхапіў рэдакцыйны дыктафон.

— Нашыя шляхі некалькі разоў скрыжоўваліся. Аднаго разу, каля сядзібы Яніны Сабалеўскай, мне давялося вас спыніць. Вы мне сімпатычныя, але калі зноў трапіцеся на маім шляху, то не крыўдуйце, я спыню вас назаўсёды. Спадзяюся, вы зразумелі сур'ёзнасць маіх намераў: я не хацеў бы, каб сярод ахвяр з'явіліся больш-менш прыстойныя людзі...

Слухаўку з гудкамі Зміцер акуратна паклаў на высокую спінку скуранога фатэля. А праз колькі імгненняў ён настойліва стукаўся ў зашклёную кабінку гатэльнае адміністратаркі.

За шкляною перагародкаю з'явіўся круглы тва-

рык рухавай бабулькі. Ясныя светлыя вочы не дапускалі нават падазрэння, што яна толькі што прахапілася са сну:

— Так, вы надумаліся ўзяць бутэлечку каньяку, разумею, разумею, змерзлі на пахаванні. І застолле не такое было, каб да сябе вярнуцца. Зараз, зараз прынясу.

— Вядома, я страшэнна ўдзячны, але пабудзіў я вас крыху з іншае нагоды. Толькі што да мяне тэлефанавалі ў нумар, і давялося выслухаць малапрыемныя пагрозы. Я чалавек не баязлівы, але, мяркую, адкрылася б шмат схаванага, што замінае мне працаваць у Сапежыне, каб я даведаўся, адкуль мне тэлефанавалі. Ці не можна гэта зрабіць, пазваніўшы ад вас на тэлефонную станцыю?

— Разумею, але такога і ўдзень тут ніхто не зробіць. Хіба што Талочка загадае. Толькі, відаць, вы з ім пазнаёміліся. Наколькі ведаю, ён ніколі не гуляў у шахматы, і шматхадовыя камбінацыі яму не даспадобы. Талочка, хутчэй за ўсё, пачне вінаваціць вас, дапытвацца, хто і нашто вам пагражае. Пасля смерці Лазаркоўскай ён і са мной гаварыў: ці былі вы ў нумары? Калі вярталіся? З кім сустракаліся?.. А я нічога не прыдумляла, сказала: сталічны чалавек, ходзіць, дзе захоча, казкі збірае, а яго ні за што ні пра што збілі. Вядома, можаце яму і дадому пазваніць, даведнічак ёсць, але не раю. Лепш вазьміце бутэлечку, яно і спакайней, і здаравей, мушу вас запэўніць. Толькі дазвольце спытацца, — адміністратарка дастала з-пад стала і пачала праціраць ручнікам бутэльку малдаўскага каньяку, — а чаму вы, такі далікатны і ўраўнаважаны чалавек, раптам апынуліся каля дому Сабалеўскай? Вы ж маглі і ў мяне запытацца, хто яна такая. І я б вам сказала.

Зміцер разумеў: каб размова працягвалася плённа, трэба заплаціць за каньяк. Старая адміністратарка, як музычная скрыня з плыткамі, прыняла банкноту з зубром і, набіраючы хуткасць,

пачала вымалёўваць партрэт сапежынскае бібліятэкаркі:

— Вы што думаеце, гэтую кабету можна назваць «прыстойнай жанчынай»? Ды ва ўсім Сапежыне не знойдзецца хлопца, якому яна не падміргнула. Але, пры ўсім пры тым, трымаць яна сябе ўмее, туману ў вочы напусціць. І шчыра скажу, да трактарыстаў і да электрыкаў справа не даходзіла. Ёй падавай выкшталцоных. Сабалеўская ўсё яшчэ не страціла надзеі, што нейкі каралевіч прыедзе пад яе хату на белым кані і запросіць у палац. Адчуваю, і на вас яна ўжо намецілася. Я ж бачыла, што як ішла Янінка за труною, то лепшую хустку на плечы накінула. Вось і бібліятэкарка. А вы б толькі бачылі, якія кніжкі брыдкія па яе замовах нам на пошту прыходзяць! Паштаркі папярэджвалі, а яна сказала, што ім лепей не пра сваіх нямоглых мужыкоў думаць, а пра дзяцей і ўнукаў. Завядзецца ж такая пошасць, і няма паратунку. А ўсё з-за таго, што не з'явіўся сапраўдны гаспадар на тутэйшых землях. Паспрабавала б яна так сябе паводзіць у часы Баркулаба фон Гарта, хутка б управу знайшлі, а што з бібліятэкі пагналі б, то — дакладна.

Хут пачынаў губляць цікаўнасць да размовы, але тут адміністратарка прыцішыла голас і на поўным сур'ёзе сказала:

— Калі вы шукаеце забойцу настаўніка геаграфіі Алега Будзько, дык ведайце: яго забіла Яніна Сабалеўская. А інакш адкуль у яе грошы?

— Хіба вы зазіралі ў яе партманэтку?

— Крыўдна чуць такое. Здаецца ж, паразумеліся, — адміністратарка паглядзела на пляшку, але імгненна зразумела, што госць не збіраецца яе частаваць: — Такая цаца толькі і мае радасць, калі чапляе завушніцы з дыяментамі. Як Будзько знік, дык праз тыдзень яна ў Дзвінску кляйнотаў-каштоўнасцяў накупляла — пэўна ж, на грошы, што ад настаўніка засталіся.

— А хіба купіш у Дзвінску сапраўдныя дыяменты?

— Можа, яна і не ў краме купляла, а ў жыдоў якіх. Толькі ў Баркулабаў служачы я дыямент ад шкла адрозніваць навучылася. Бо пан Гарт гуту трымаў, а не бровар. Ходзіць цяпер Янінка па мястэчку і не баіцца, што ёй які чорт тыя дыяменты разам з вушамі аддзярэ. А пра што я кажу, хіба такая чаго забаіцца на гэтым свеце, яна нават да касцёла ні разу не з’ездзіла...

— Ну, дзякуй вам і за каньяк, і за размову, будзе над чым на адзіноце памаракаваць.

Са шкадобаю ў позірку адміністратарка праводзіла вачыма доўгахаваную бутэлечку.

## 16

У бібліятэчным пакоі стаяў пыльны дух леташніх газет, пах сыраватай вазоннай зямлі і прахалодна-празрысты водар парфумы. На цёмна-зялёным ходніку ляжалі зубчастыя цені альясаў. Заўсёдная местачковая герань квітнела ў керамічных гаршчэчках. Падвязаная вяроўкай да столі, узвышалася над сталом хісткая пальма.

Яніна Сабалеўская разрэзала папяровую вяроўку на бандэролі з кніжкамі. Бліскуча-шкляныя вокладкі адбілі зыркае ранішняе святло. Яніна толькі паспела скласці шапаткую паштовую паперу і схаваць яе ў стол, як у бібліятэку зайшоў Зміцер Хут.

— Можа і мае кніжачкі знойдуцца на вашых паліцах? — Зміцер выцягнуў каталожную шуфляду з вялікай літарай «Х».

— Ёсць вашая брашура з аповесцю, ды яна ў мяне дома. Якраз учора чытала. Прызнаюся, я не чакала, што такое друкуюць у нашых выдавецтвах.

— Спаць потым не баяліся?

— А я нічога не баюся, і вашых жахаў таксама.

Зміцер паклаў на стол празрысты пакет з

кашуляй:

— Вось зайшоў падзякаваць за клопаты, — следам на стол стала бутэлька з каньяком.

— Прыбярыце, — Яніна складала кнігі ў акуратныя стосы, — але недалёка. Тут у мяне нават шклянак няма. З раніцы ўсё адно ніхто не прыйдзе, то пойдзем да мяне. Адным разам забярэце і вашу кашулю.

У доме Яніна не спяшаючыся сервіравала стол, ганарліва выстаўляла перад Зміцерам лепшы святочны посуд.

— Сабе больш налівайце, — падахвоціла Сабалеўская Хута, — я з адной чаркай магу праседзець цэлы дзень. Вы ж, відаць, гэты каньяк не для мяне з Менску везлі? Пасля таго, як вашую аповесць прачытала, доўга думала — і ведаеце, да чаго дадумалася?.. Вы тут не першы дзень, а каханкі не завялі. Да якой жа кабеты вы прыехалі?

— Да каго б ні прыехаў, але з каньяком да вас прыйшоў.

— Давайце памянём Ліду, — Яніна адпіла і адставіла чарку.

— Адным разам і Алега Будзько.

Цень сполаху прабег па Яніньіным твары. Хут вырашыў не спыняцца:

— У Сапежыне кажуць, што не так даўно ў вас з'явіліся дыяментавыя завушніцы?

— Хочаце паглядзець?

— Я не супраць паглядзець на прыгожую жанчыну ў каштоўных завушніцах, — у голасе бракавала мяккае спагады, уласцівае ўхажору.

Яніна паднялася з-за стала і накіравалася да трумо, дзе дастала са смарагдавай скарбонкі важкія гронкі завушніц:

— Калі вы ўсур'ёз думаеце, што правінцыйная бібліятэкарка можа набыць сапраўдныя дыяменты, дык вам варта змяніць прафесію журналіста на фантаста. На жаль, нават у святочныя дні я вымушана насіць гэтую чэшскую біжутэрыю, якая ўраж-

вае толькі вясковых кабетак.

— Нават калі ў вас няма дыяментаў, то вы ўсё адно ведаеце пра смерць Будзько значна больш за астатніх.

— Зразумела, я не магла расказваць сапежынцам тое, што ведала і бачыла. У тую ноч, калі вас збілі на маім падворку, я зразумела: вы — сумленны чалавек і жадаеце аднаго — разабрацца ў злачынстве. Яшчэ тады я вырашыла расказаць вам усё, што ведаю, пра смерць кватаранта.

— Я таксама спадзяваўся на вашу шчырасць. І, бачыце, не памыліўся.

— Тое, што я ўбачыла, было жахліва. Я вярнулася з бібліятэкі: ён ляжаў у маім ложку, густая кроў чорнымі плямамі ўкрывала ледзь не ўсю бялізну. Амаль паўгадзіны я стаяла і не магла зварухнуцца. Я не ведала, што рабіць. Здранцвелая, глядзела на ўвагнаныя ў вочы нажніцы. Знайшоўшы сілы, я прынесла цэлафан, падрыхтаваны для цяпліцы. У яго і закруціла Алегава цела, а падушкі з пярынай я загарнула асобна. Цэлую ноч прасядзела каля двух пачварных пакункаў. А на раніцу ўспомніла, што ўжо з месяц мне абяцаліся даць каня, каб прывезці дровы для бібліятэкі. Усю дарогу да лесу здавалася, што саўгасаўскі конь чуе нябожчыка, які ляжыць на калёсах, ледзь-ледзь прыцярушаны саломаю. Па насыпе, што застаўся ад закінутай вузкакалейкі, я завезла яго за Русалчына возера, у старыя польскія казармы. Там за стайнямі засталіся цэментаваныя ямы пад бульбу. У адзін з такіх пограбаў я і зацягнула труп. Закідала яго спарахнелым бульбоўнікам і нейкім ламаччам. А пярыну з бялізнаю спаліла. Адзіным пакараннем мне было выслухоўваць на лесапілцы скаргі, што прыехала я не з раніцы, як дамаўляліся, а пад абед. Першы тыдзень я спецыяльна хадзіла па Сапежыне, прыслухоўвалася да размоў, баялася, каб хто не знайшоў нябожчыка. Але ж вы ведаеце, яго ніхто і не шукаў апроч Ліды.

Але і яна, як кожная закаханая кабета, магла ўтварыць нешта эмацыйнае, неспадзяванае, напрыклад выклікаць вас з Менску, таму я нават ёй не прызналася. Хоць цяпер шкадую.

— Уся ваша гісторыя настолькі неверагодная, што не магу паверыць. Але, мяркую, нам варта схадзіць разам у тыя польскія кашары.

— Добра, пакажу я вам труп. Але давайце адразу вырашым, што рабіцьмуць далей?

— Не ўпэўнены, што гэта вырашыцца адразу. Туды далёка ісці?

— Кіламетры чатыры...

### Навела пра ваукалака, расказаная Янінай Сабалеускай па дарозе да закінутых казармау

У нашай сям'і ёсць паданне... Мая прабабка Стэфанія, у дзявоцтве Круглянская, здрадзіла майму прадзеду, Мацею Сабалеўскаму, са старэйшым баронам фон Гартам. А пачалося гэта з-за прадзедавай хваробы на нямогласць. Бо аднойчы на паляванні паранены заяц так ударыў яго заднімі лапамі, што разарваў жывот. У Сапежыне ведалі пра Мацееву загану і таму не моцна каб асуджалі Стэфанію. Страшэнным ударам для маёй прабабкі была вестка, што барона разарвалі ваўкі. Яна да апошніх сваіх дзён так у гэта і не паверыла.

Малады ж Гарт пабудаваў на могілках капліцу — паменшаную копію Кёльнскага сабора. У склеп ён паставіў пустую труну, бо ў лесе пасля трагедыі нічога, апроч падранага футра, не знайшлі. Вось да гэтай пустой труны і пачала хадзіць па начох мая прабаба Стэфанія. Свядома яна туды хадзіла ці ў самнамбулічным сне, ніхто дакладна не ведаў, бо калі прадзед спрабаваў распытаць яе пра начныя могілкі, тая казала, што не разумее, пра што гаворка.

Даглядчык сапежынскіх могілак пачаў расказваць пра дзіўныя рэчы: нібыта, калі Стэфанія заходзіла ў капліцу, следам за ёй забягаў воўчы цень, які на свежае зямлі пакідаў сапраўдныя ваўчыныя сляды. Ускрыкі, уздыхі і скавытанне чуліся са склепа да першых пеўняў. А на раніцу даглядчык знаходзіў у капліцы Гартаў клубочкі ваўчынае поўсці. Апошняе, што расказаў вартаўнік — гэта што ён бачыў, як Стэфанія легла ў труну разам з ваўчыным ценем і як труна ўзнялася пад столь і кружляла пад скляпеннямі ў той час, як вечка ўздрыгвала і грукацела на падлозе. Даглядчыка паклікаў да сябе ў маёнтак малодшы аднавокі Гарт і папярэдзіў: калі яшчэ раз яму дакладуць пра гнюсныя плёткі, якія разносіць па мястэчку нейкі там далакоп, то Сапежын пазбавіцца пляткара. Праз колькі дзён ні ў чым не вінаватага даглядчыка знайшлі далёка за могілкамі на латгальскіх курганах з забітымі ў вачніцы ядлоўцавымі калкамі.

Вось тады ў Сапежыне нарэшце паверылі, што стары Гарт не загінуў у лесе, а перакінуўся ваўком і звёў зграю, каб драпежнікі не разарвалі ягонага адзінага і любага сына. А потым пачаў прыходзіць на могілкі да сваёй каханкі.

Тады мой прадзед, Мацей Сабалеўскі, вырашыў падпільнаваць і забіць ваўкалака. Ён угаварыў жонку, Стэфанію, адрачыся ад д’яблавых служак і ўратаваць сваю бессмяротную душу. Прабабка тры дні малілася ў касцёле і на чацвёрты паабяцала Мацею дапамагчы злавіць ваўкалака. Мацей угаварыў ксяндза асвянціць яму шаблю і разам з жонкаю апоўначы рушыў да капліцы баронаў Гартаў.

У той момант, калі Мацей ударыў шабляю па воўчым цені, сапраўдны, нябачны чалавечаму воку, ваўкалак кінуўся на Стэфанію і войстрымі ікламі перарэзаў горла сваёй каханкі.

— Вось такая сумная гісторыя здарылася з маёй

сям'ёю.

Яніна і Зміцер выйшлі па чыгуначным насыпе да разваленага чырвонага пакгаўза. За ім віднеліся двухпавярховыя, з выбітымі шыбамі, аблушчаныя казармы. Журналіст з бібліятэкаркай прайшлі да спарахнелага зруба лазні, што стаяла пры самай крыніцы, і выбраліся ўздоўж ручая да бульбяных ямінаў.

— Вось у гэтай, сярэдняй, — сказала Яніна, паказаўшы на ўчарнелыя, парослыя мохам прыступкі, што спускаліся ў чорны прагал склепа.

Зміцер дастаў з сумкі невялікі, падобны да асадкі ліхтарык. Тонкі, як дрот, прамень накіраваўся ў атрамантавы прагал. Светлая пляміна памерам з далонь абмацвала запыленыя бетонныя сцены, падлогу з параскіданым ламаччам. Ніякага трупа нідзе не было. Выходзячы са склепа і жмурачы вочы ад яркага святла, Зміцер сцепануў плячыма:

— Што? — перапытала зніякавелая Яніна.

— Я ўжо быў паверыў табе, але ніякага Будзько ў яміне няма.

— Ён пад ламаччам, у самым кутку, я ўсцягнула на яго ўсё, што было ў склепе.

— Можа, ты пераблытала яміны? — сам не верачы ў такую акалічнасць, вяла прамовіў Хут.

— Ды не, я хавала яго ў крайняй ад рэчкі.

— Не верыш — пайшлі разам...

Лапік святла зноў пачаў абмацваць сярэдзіну склепа.

— Я паклала яго вось тут, — Яніна паказала ў кут.

— Ты кажаш, загортвала яго ў поліэтылен?

У ліхтарыкавым святле каламутна бліснуў кавалак плёнкі для парнікоў. Яніна не адказвала, яна была на мяжы істэрыкі...

— Гэта ўсё цень барона фон Гарта, — шаптала Яніна, яе шэпт раптоўна ператварыўся ў крык: — Хутчэй уцякаем, не тое пачвара забярэ і нас!..

Яніна кінулася па сходах. Зміцер нагнаў яе

толькі каля крыніцы. Схапіў за плечы і спрабаваў супакоіць:

— Я табе веру! Чуеш мяне? Я веру...

Жанчыну калаціла ад плачу:

— Ты не верыш — ты лічыш, што я звар'яцела.

— Я веру, веру, — Зміцер прытуліў Яніну да сябе.

— Я цяпер не ведаю, што мне рабіць, каму мне верыць, я не веру нават табе, нават сабе.

Іх пацалунак быў наўздзіў лёгкі...

## Старонкі з нататніка журналіста Зміцера Хута

Сумнявацца ў шчырасці Яніны Сабалеўскай я больш не магу і не хачу. Але пытанняў робіцца болей і болей. Пэўна, цяпер я апынуўся на мяжы вар'яцтва і вось-вось паверу ў рэальнасць сапежынскага пачварнага прывіда. Ва ўсялякім разе, рэальнасць голасу, пачутага мною ў тэлефоннай слухаўцы, адмаўляць не магу. Зрэшты, не так многа людзей у мястэчку могуць прэтэндаваць на званне пачвары. І таму варта ўсіх іх яшчэ раз пералічыць. Базыль Гладкевіч — вядома, мог бы быць прывідам — самалюбівы Напалеон, які кіруе сярэдняй школай, сутулаваты інквізітар, што мае ўладу над сотняй школьнікаў і дзесяткам настаўнікаў... Можа, яго апанавала жаданне пашырыць межы свайго школьнага княства і паўстаць над усім мястэчкам гэткім правінцыйным Мефістофелем? А, можа, гэта і не ён... Можа — Сымон Лазаркоўскі? Які да самазабыцця любіў сваю Ліду, але не змог дараваць здрады, і ягоны прасветлены камп'ютэрам розум выбудаваў матэматычны план помсты. А можа, прывід — фальклорна-пабытовая інсцэніроўка сытага Юрася Талочкі, які засумаваў ад маруднаплыннае будзённасці і, шукаючы вострых пачуццяў, верачы ў сваю беспакаранасць, зматэрыялізаваў ваяўнічага барона фон Гарта? Чорт яго ведае! Той

самы чорт, які, пэўна, ствараў Зайцава — вяліка-роса і, адпаведна, п'яніцу. Бо гэты Зайцаў у алка-гольным трансе, ачмурэўшы ад заняпаду ягонай сусветнай імперыі, можа нарабіць рознага глуп-ства. Яшчэ ёсць Сурма з гіпертрафаваным сама-любствам і пыхай. Чалавек, які есць чорную ікру лыжкай, пэўна ж, уяўляе сябе баронам. Дый наша нядоўгая размова не дазваляе выкрасліць яго асобу са спіса падазроных. Генадзь Сурма, дарэ-чы, перастрэў мяне, калі я, правёўшы Яніну, вяр-таўся ў гатэль. Ён неяк па-вучнёўску папрасіў прабачэння за танцы на рэстарацыйным стале. І я — а што зробіш? — дараваў. Ён, аказалася, даволі цікавы суразмоўца. Удзячны за дараванне, ён правёў мяне ў гатэль. Ягоная вусная аўтабіяг-рафія выглядае прыблізна наступным чынам... Сапежынец! Калі можна назваць сапежынцам чалавека, які жыве за два кіламетры ад мястэчка на другі бок Дзвіны. Жаданне вырвацца з нізкага берага на высокі было настолькі моцнае, што Генадзь, атрымаўшы залаты медаль у школе, падаўся ў сталічны інстытут замежных моў. Разам з ангельскай моваю свет адкрыўся для яго настолькі шырока, што звыклая мараль знікла і захапленні сэра Аскара Уайльда не выклікалі супраціўлення. Ягоны сусед па інтэрнаце трошкі інакш ставіўся да мужчынскага кахання і таму паведаміў пра нестандартныя паводзіны Генадзя Сурмы ў рэктарат.

Шчаслівы лёс і сувязі Генадзевага каханка дапа-маглі Сурме пазбегнуць турэмнае камеры і сціпла, з тройкамі, атрымаць вышэйшую адукацыю. Раз-меркаванне, як і павінна было здарыцца, вярнула Генадзя на нізкі бераг Дзвіны, з якога ён выбіраўся раз на дзень, каб праводзіць заняткі па ангельскай і нямецкай мовах з сапежынскімі дзецьмі. Школь-нікі любілі яго, бо Генадзь не трымаў іх у рамках школьнае праграмы, а чытаў уайльдаўскі «Парт-рэт Дарыяна Грэя» і экзатычныя навелы Рэдзьяр-

да Кіплінга.

Не да ўсяго расказанага Сурмой я паставіўся з аднолькавым даверам. Пэўныя сумненні выклікала гісторыя пра тое, як яго выгналі са школы...

## Гісторыя пра капліцу фон Гартаў

Адной з навязлівых ідэй настаўніка Генадзя Сурмы было стварэнне аматарскага англамоўнага тэатра. І, як кожны аматар, ён марыў паставіць шэкспіраўскага «Гамлета». Рэалізоўваць задуманае Сурма пачаў з таго, што, сабраўшы гурт школьнікаў, павёў іх на латгальскія курганы, на бераг Русалчынага возера, каб правесці чытанне, раздаць ролі і наладзіць першую рэпетыцыю.

Мерапрыемства трымалася ў вялікае таямніцы, бо Генадзь не хацеў, каб пра факультатыў уведала школьнае начальства і замест Шэкспіра параіла разыграць дурнаватыя жарты Макаёнка. Сурме не хацелася смяяцца — ані першым, ані апошнім. І таму па нядзелях дзеці ішлі з розных канцоў не ў местачковы клуб, а на латгальскія курганы, дзе іх чакаў дзівакаваты настаўнік.

Паціху сабраўся рэквізіт, выцягнуты з куфэркаў і назбіраны па гарышчах. Нікога з акцёраў не засмучала, што дацкія магнаты і каралі ходзяць у крамных строях пачатку XX стагоддзя. Затрымка ўзнікла з-за адсутнасці чэрапа «небаракі Ёрыка», бо настаўніца біялогіі, сама старая і худая, як кабінетны шкілет, упарта не дазваляла выносіць са школы муляж.

Сурма пайшоў нават на тое, каб уласнаручна раскапаць два латгальскія курганы, але апроч вугальнае праслойкі, якая сведчыла пра трупаспальванне, нічога вартага не адшукалася.

Каб суцешыць любімага настаўніка, двое васьмікласнікаў вырашылі пазычыць чэрап у фамільным склепе фон Гартаў. Напярэдадні рэпетыцыі, у суботу з вечара, яны падаліся на могілкі, дзе цві-

кадзёрам і малатком збілі замок з капліцы. Спусціўшыся ў сутарэнні, яны пачалі дзяўбсці цынкавую труну... Раптам край скляпенняў заваліўся, і ўваход засыпала цагляным друзам. Падлеткі апынуліся ў цёмнай задушлівай пастцы.

Раніцой разам з дзецьмі-акцёрамі на Русалчына возера прыйшлі і бацькі зніклых падлеткаў. На шчасце, трэці хлопчык, які меўся з сябрамі ісці на могілкі, не здолеў уцячы з дому — бацька прымусіў нацягваць плёнку на парнік. Ён і расказаў, дзе шукаць трупакапальнікаў.

Каля капліцы сабраўся натоўп. Ніхто не ведаў, як пачаць раскопкі, каб не нарабіць большай бяды.

Базыль Гладкевіч, замест таго каб, як сапраўдны дырэктар, узначаліць выратаванне, паляцеў у школу і ўласнаручна аддрукаваў загад аб звальненні Сурмы.

Іван Зайцаў паспрабаваў быў біцца з Генадзем, але атрымаў па носе і, ціха вылаяўшыся, сышоў з хаты.

Толькі Лазаркоўскі павёў сябе надзіва спакойна. Ён загадаў спыніць разграбанне друзу, бо капліца і так ледзь ліпела — у кожнае імгненне магла пахаваць пад сабою не толькі мумію рыжскай баранэсы, але і жывых дзяцей. Да іх Сымон дагукаўся праз вузкую вентыляцыйную шахту. Менавіта ён — Лазаркоўскі — і прапанаваў дзіўны шлях выратавання: з хаты аднаго з засыпаных падлеткаў прынеслі ката і запусцілі яго ў вентыляцыйную адтуліну, якую Сымон тут жа заткаў дзёранам. Пад зямлёю кот знайшоў свайго гаспадара і, кіруючыся незаўважнымі для чалавека проймамі і скразнякамі, вывеў падлеткаў падземным лазам у сапежынскі касцёл.

Здарэнне абышлося без ахвяраў, калі не лічыць Генадзя Сурму, які не паставіў любімага «Гамлета», а пайшоў працаваць рэстаранным швейцарам, каб раз на тыдзень есці ікру з місы і запіваць яе

шампанскім.

З таго часу Сурма люта ўзненавідзеў Зайцава і Гладкевіча, а да Лазаркоўскага пачаў ставіцца з павагаю.

## 18

У сапежынскай школе кабінет дырэктара ад кабінета фізікі быў адгароджаны зашклёнай па версе перагародкаю. Вядома, дырэктар мог знайсці сабе і лепшае месца, але ён з дзяцінства любіў просценькія прылады для лабараторных доследаў і дэманстрацый, якія хутчэй былі цыркавым рыштункам, чым навуковым абсталяваннем. На стэлажах стаялі чорныя эбанітавыя скрынкі гіганцкіх амперметраў і вальтметраў, індукцыйныя катушкі, кандэнсатары, электрастатычны генератар з вялікімі, як крылы ветрака, празрыстымі плексігласавымі дыскамі. А ў зашклёнай вітрыне красаваліся працёртыя да крыштальнага бляску наборы шкляных прызмаў і лінзаў.

Гаспадар кабінета, Базыль Гладкевіч, сядзеў за пісьмовым сталом у драўляным фатэлі і чытаў школьныя сачыненні. Гладкевіч лічыў сваім геніяльным вынаходніцтвам той факт, што кожную чвэрць ён задае напісаць вучням фантастычнае сачыненне. Умовы пісання штораз паўтараліся — дырэктар прапаноўваў вучням уявіць свет, у якім не дзейнічае пэўны фізічны закон. Да прыкладу: ньютонаўскі яблык не падае долу, ці вада ў архімедавае ванне не ўздымаецца...

Гэтым разам Гладкевіч скасаваў закон трэння і цяпер ужо ў дзесятым сшытку чытаў пра стварэнне вечнага рухавіка.

— Ну, як рухаецца прагрэс? — зайшоў у кабінет-бакоўку Зміцер Хут.

— Не вашымі малітвамі, — Базыль тупым чырвоным алоўкам паставіў у сшытку «двойку». — Вось, здаецца, усё растлумачыш людзям, усё рас-

кажаш, і замест таго, каб прыдумаць нешта сваё — перапісваюць падручнік. Я ім кажу: закону трэння няма, а яны пішуць — што ёсць. І калі з іх толькі людзі будуць? Відаць, ніколі! Суцэльная лянота і дэградацыя. Мы такімі не былі.

— Не ведаю, як вы, а я страшэнна не любіў пісьмовых заданняў і чыста выпадкова стаў журналістам. Проста ў маёй маці быў знаёмы, які дапамог паступіць на журналісцкі факультэт. Адзінае, што я любіў з журналісцкага рыштунку — фотаапарат. Дагэтуль нашу яго на шыі, не раўнуючы як афрыканец свой амулет. Але адарваў вас ад працы я трошкі з іншае нагоды. Мяне зацікавіла не зусім містычная навела пра капліцу сям'і Гартаў. Ці даводзілася вам чуць пра ваўкалака?

Гладкевіч насцярожыўся, баючыся, што ўсплыве зусім іншая гісторыя — пра выгнанне аматара ангельскіх п'ес спадара Сурмы. І таму спяшаючыся адказаў:

— Патрабую ў вучняў не прымаць пэўны закон фізікі, дзеля таго каб яны яго лепш зразумелі. Чарльза Дарвіна паважаю болей за папу рымскага. Мяркую, і вы будзеце бараніцца ад прывіда хутчэй рэвальверам, чым малітваю.

— Увесь Сапежын ведае пра мой рэвальвер? — Хут накруціў ручку электрастатычнага генератара, і паміж паліраванымі шарамі луснула маленечкая маланка.

— Страляеце, забаўляецеся — дарослы чалавек. Вас жа, пэўна, папярэджваў спадар Талочка, што не варта нахабна ўлазіць ў нашае сапежынскае жыццё. Хай яно не сталічнае, не такое яркае, як у Менску, але і ў нас такія-сякія таямніцы і няпісаныя законы ёсць. Мы свой гонар маем.

Мяне ў дзяцінстве здзівіла: мой дзед, калі рабіў плот, які адгароджваў наш сад ад рэчкі, кожны лазовы дубец адразаў пад мерку, рабіў аднной вышыні. А я запытаўся, нашто гэта рабіць, калі ўсё адно ніхто не ўбачыць. Ён адказаў: «Гэта бачу я. І не

хачу, каб мне самому перад сабою было сорамна». Вось так і вы: пытаецеся пра розныя гісторыі і не бачыце, як абражаеце наш гонар. Вам здаецца, што ніхто не ведае пра рэвальвер, ніхто не заўважыў вашых узаемаадносін з Лідаю, а цяпер з Янінаю. Таму дам параду. Схадзіце і пакладзіце кветкі на магілу Лазаркоўскай, а потым ціхенька сядайце ў аўтобус і вяртайцеся дадому. А мы тут самі разбяромся з русалкамі і прывідамі, якія ўвесь час парушаюць законы біялогіі і фізікі.

— Адзіная слушная думка з усяго сказанага, — Хут зноў запусціў пластыкавыя дыскі генератара, і ломкая маланка адбілася ў шматлікіх прызмах і лінзах, — гэта прапанова наведаць могілкі.

— Мама ўсё ж такі дарма ўладкоўвала вас на журфак, — кінуў наўздагон Зміцеру дырэктар, які, відавочна, прывык пакідаць за сабою ў гэтым звышматэрыялістычным кабінеце апошняе слова.

## 19

Праз чырвоную неагатычную браму, а далей па брукаванай цэглай сцежцы Зміцер узняўся да капліцы фон Гартаў, дзверы якой былі закладзеныя цэглаю і замазаныя тынкам. На выбітых вокнах чарнелі тоўстыя каваныя краты. Каля капліцы курэлі дзве гурбы кляновага лісця. Блакітны дым завісаў над засыпанымі лістотаю крыжамі.

Хут з букетам белых вяргінь пайшоў уздоўж магіл, шукаючы Лідзіну. За высокімі стамбурамі густога малінніку і зжухлай крапівы ён згледзеў пляміну свежага белаватага жвіру.

Замест магілы перад Хутам была няроўная, у чалавечы рост яміна, на дне якое валяліся рэшткі раструшчанае труны. А поруч, прытулены да суседняе агароджы, стаяў смаліста-жоўты крыж з шыльдай «Лідзія Лазаркоўская». Зміцер шпурнуў

кветкі ў дол.

— Я ж цябе, паскуда, папярэджваў, — прагучаў самаўпэўнены замагільны голас, і рука з кароткімі пальцамі схапіла Зміцера за плячо і падштурхнула да яміны.

Зямля пад чаравікамі Хута пасунулася долу. Ён рвануўся і пераскочыў на другі бок магілы.

— Я ж папярэджваў, каб цябе тут не было, — на гурбе свежага жвіру, шырока расставіўшы ногі ў афіцэрскіх ботах, стаяў Юрась Талочка. На ім быў надзеты вылінялы бушлат і фетравы капялюш з падкручанымі палямі. Юрась, не адводзячы позірку ад Хута, нагнуўся і выцягнуў з партфеля абрэзак гумовага гідраўлічнага шланга з металічным штуцэрам на канцы:

— Бач ты, не памыліўся. Так і ведаў — яшчэ прыйдзеш сюды. Куды труп падзеў?!

Нечакана спрытна следчы скочыў цераз дол і рэзнуў журналіста па шыі. Зміцер паваліўся, але паспеў выхапіць рэвальвер і стрэліць у Юрасёў твар.

Журналіста папярэдзілі, што газавая зброя не бярэ сабак — жывёла шалее і робіцца небяспечнай нават для гаспадара. Аднойчы на ўласным вопыце Хут пераканаўся ў моцы атрутнага газу, панюхаўшы рулю рэвальвера пасля стрэлу, — свет згарнуўся, не раўнуючы як у мех дудара, паўгадзіны не расплюшчваліся вочы. Нельга сказаць, што газ не ўзяў раскормленага следчага — маленькія свіныя вочы вырачыліся і наліліся крывёю, з носа пацякло, а ў кутках рота выступіла густая сліна. Талочка захрыпеў і, узняўшы абрэзак шланга, хіснуўся на Зміцера. Калі шланг рэзнуў па рэбрах, Хут зрабіў адкрыццё: кожны рэвальвер можа быць кастэтам. Ён ударыў следчага рукаяткай у лоб, над пераноссем — капялюш з падкручанымі палямі паляцеў пад крыж Лазаркоўскай, а сытае цела Талочкі аб’ехала ў яміну.

Хут счакаў, покуль следчы апрытомнее і сядзе на дне яміны.

— Я мог бы закапаць цябе, і ўпэўнены, што нікому і ў голаў не прыйдзе шукаць пад крыжам Ліды Лазаркоўскай. А на тваё месца сядзе такі ж самы — сыты, нахабны і дурнаваты. Ён бы шукаў цябе, як ты шукаеш Будзько.

Талочка спакойна паглядзеў у вочы Хуту:

— Зазірні ў мой партфель, ці цэлая пляшка, а то я газеткай заткнуў — магла і выліцца.

На дне партфеля ляжала каламутна-белая бутэлька з папяровым коркам.

— Мо, і ты будзеш, пасля такіх размоў грэх не каўтнуць жывое вады?

На такіх, як Талочка, бойкі асаблівых слядоў не пакідаюць — адно чырванеў след ад рукаяці рэвальвера над пераноссем.

— Другім разам я абавязкова пакарыстаюся тваёй гасціннасцю і добразычлівасцю.

## 20

Па галоўнае сапежынскае вуліцы праехаў блакітны трактар з прычэпам, пад самае неба нагружаны снапамі лёну. На выбоінах прычэп закалыхаўся, і колькі важкіх снапоў паляцела на растрэсканы асфальт. Да іх кінуліся дзеці, спрактыкавана паўскідалі здабычу на спіны і пацягнулі па хатах. Хут свіснуў злодзеям наўздагон, але нават самы меншы хлопчык хады не прыспешыў.

Зміцер прамінуў двухпавярховыя будынкі старога кляштара, у якім цяпер месцілася вучэльня будаўнікоў. Перад галоўным уваходам стаяў куртаты паясны помнічак муляру з кельмай. Ён быў густа заліты могілкавай малатковай фарбаю. Кляштарныя карпусы, у вокнах якіх мільгалі стрыжаныя патыліцы навучэнцаў і сінія халаты так званых майстроў-выкладчыкаў, падыходзілі пад самую касцельную агароджу.

Зміцер уважліва пачаў аглядаць прыкасцельны двор. На масіўных, прышрубаваных да цагляных

мураў, чыгунных дошках журналіст прачытаў імёны ксяндзоў, чые казанні гучалі тут у мінулых стагоддзях. Пад доўгімі лацінскімі надпісамі зеўрылі глыбокімі вачніцамі маленькія ашчэраныя чарапы і скрыжоўваліся дробныя, памерам з курыныя, косткі. Ужо на пазелянелым ад цвілі тынку ў чырвоных кругах былі панамалёваны пяцікантцовыя зоркі, а побач тая ж рука вывела нітрафарбай наступнае: «Хрысціянін — бойся! Сатана нарадзіўся! Люцыпар! Д'ябал! Вельзевул! Тут!»

«Панапісвалі сатаністы — наезжая набрыдзь», — падумаў Хут, але адразу злавіўся на тым, што і сам не тутэйшы.

Абыходзячы касцёл, каля апсіды Зміцер ледзь не наступіў на пляскаты высахлы труп пярэстага, як акунь, ката. Пад вадасцёкамі ў закутках чарнелі вітушкі ссохлага чалавечага гною. У арачных вокнах непрыемна лапаталі белыя языкі парніковай плёнкі. Хут падышоў да забітага крыж-накрыж негабляванымі дошкамі галоўнага ўвахода. Вялікія цвікі забівалі, відаць па ўсім, сякераю і не вельмі трапнай рукою — вакол плешак дрэва было прымятае і пашчапанае. Хут паспрабаваў тузануць дошку, але трымалася яна мёртва — не зварухнуць. Ён вярнуўся да вакна і, падцягнуўшыся, узлез на карніз. І ледзь не паляцеў назад, бо краты былі адно прыхінуты да рамы і крышку прыкручаны да яе алюмініевым дротам, які давялося адкруціць, пэцкаючы рукі ў серабрыста-чорны метал.

У касцёле было надзіва светла. У цэнтральным нефе гурбіліся састаўленыя адна на адну вучнёўскія парты.

Засмечаным праходам, пераступаючы цераз збуцвелыя анучы і пачкі старых падручнікаў, Хут прайшоў да раскурочанага алтара, зробленага ў мінулым стагоддзі з дыкты і рэечак. Некалі чырвоны і залацісты, цяпер ён глядзеўся брудна-шэрым, нібыта парос мышынаю поўсцю.

Такі ж самы пыл ляжаў на парэнчах амбона,

куды Зміцер узняўся пакручастымі вінтавымі сходамі. На дашчанай аблупленай падлозе ён убачыў свежыя сляды мужчынскіх чаравікаў. Было відавочна, што тут не толькі хадзілі, але і даволі доўга стаялі.

На парэнчах цямнеў круглы след, нібыта ад донца кубка.

Стоячы на амбоне, Хут адчуў урачыстасць. Старыя чорныя парты прадумоўлівалі наяўнасць слухачоў, і Зміцеру захацелася ясным, упэўненым голасам працытаваць біблію. Хут гучна, на ўвесь касцёл, прамовіў: «Вы засудзілі, забілі справядлівага: ён не супраціўляўся вам». Недзе высока ўгары, там, дзе цямнелі круглыя, аблямаваныя алябастравай ляпнінай адтуліны, з якіх некалі на ланцугах спускалі жырандолі, пачуўся спалоханы лопат крылаў і пасыпалася галубінае вуркатанне. Хут спусціўся ў цэнтральны неф і падышоў да таго месца, дзе чарнела незамытая кроў і змяілася тоўстая белая лінія — крэйдавы абрыс цела нябожчыцы.

Узняўшыся на хоры, Зміцер адчуў ніякаватасць. Ён зразумеў, што стаіць на тым самым месцы, дзе была пачвара: якраз перад ім зеўрыў пралом у балюстрадзе хораў, праз які Ліда прайшла ў свой апошні шлях. Хут, каб пазбавіцца навязлівага ўспаміну, пачаў уважліва шукаць сляды, але друз і рэшткі арганных трубаў складалі такі рэльеф, што немагчыма было знайсці нават дробнага напамінку пра здарэнне.

Паўз раскурочаны пульт са шчарбатай клавіятурай Хут прайшоў да вялікага арачнага вакна, з якога ступіў на пахіленыя рыштаванні. Збуцвелыя шэрыя дошкі насцілу непрыемна рыпнулі. Менавіта па гэтых дошках і гэтым шляхам у той трагічны дзень знік сапежынскі прывід. У Зміцера з’явілася прадчуванне, што вось-вось ён дазнаецца, хто хаваецца за чорнымі акулярамі пачварнага барона, хто творыць у Сапежыне гвалт і

забойства.

Хут вярнуўся на хоры і пачаў уздымацца на вежу. Ён ішоў па мяккіх ад галубінага памёту прыступках. Сходы рабіліся ўсё вузейшыя і нарэшце змяніліся драўлянымі драбінамі, што вялі на апошні ярус званіцы.

Паклаўшы руку на драўляны блок, на якім некалі разгойдваўся звон, Зміцер пачаў разглядаць сапежынскі краявід. Пляцоўку нішто не агароджвала, адно некалькі закручаных іржавых прэнтаў нагадвалі пра колішнія парэнчы. І нават лёгкі ветрык, здавалася, зможа садзьмуць чалавека.

Зміцер глядзеў долу, на хісткія пірамідальныя таполі, і яму падавалася, што хістаюцца не яны, а вежа; такое ж адчуванне з'яўляецца, калі з суседняга перона адпраўляецца цягнік і ты глядзіш на яго праз пыльнае вагоннае шкло.

Ведаючы з дзяцінства, што калі стаіш над стромаю, дык нельга глядзець пад ногі, бо іначай цябе можа зацягнуць у бездань, Хут перавёў позірк на пярэстыя аблокі. Яны слаліся над блакітным даляглядам і цьмяна адбіваліся ў спакойнай паверхні Русалчынага возера, пасярод зелянела выспа, на якой паміж дрэваў і хмызоў Зміцер убачыў вялікую круглую пляміну белага жвіру, а на ім чорны след вогнішча.

Хут раптам згадаў, як у дзяцінстве сам любіў хадзіць на рыбу, а там ноччу, паставіўшы донкі, пячы ў вуголлі маладую бульбу.

## 21

Яніна Сабалеўская нават не здзівілася, калі пад вечар да яе завітаў Хут. Яна папрасіла пачакаць у святліцы, а сама пайшла на кухню запарваць гарбату. У чаканні пачастунку Зміцер разглядаў калекцыю міні-кніжачак, што няроўным радком займалі палічку на этажэрцы; перад імі на вышыванай крыжыкам сурвэтцы стаяў тэлефон.

— Дзівіцеся, — Яніна паставіла на стол вялікі мельхіёравы паднос, на якім узвышаўся памаляваны ў сінія пеўні пузаценькі чайнік. Побач сціпла стаяла міса з хатнім кменным печывам.

— У Сапежыне, як бачу, шмат хто мае схільнасць да калекцыяніравання.

— І сапраўды, гэта — цацкі. Вы не паверыце, я ані разу нават не бралася чытаць ніводную з гэтых кніжачак. Як лялькі — не людзі, так і гэтыя кнігі-ліліпуты немагчыма ўспрымаць усур'ёз. З іх можна скласці цацачную бібліятэку. Іх можна раскласці на стале, як карты. Паказаць гасцям. Усё, што заўгодна, але толькі не чытаць.

— А я часам люблю ўзяць у дарогу кніжачку кішэннага фармату. Бывае, ноччу ў гатэлі, каб адагнаць самоту, чытаю класічныя вершы — вядома, калі не тэлефануюць прывіды Баркулаба фон Гарта і не прыходзяць следчыя кшталту Юрася Талочкі.

— Зміцер, сядайце, гарбата стыне. Частуйцеся печывам — я вынайшла свой рэцэпт: кітайская гарбата і печыва з сапежынскім кменам.

— Між іншым, вы ўжо даруйце, але ці не падкажаце мне... Хто з вашых чытачоў носіць з сабою бутэлечку з лекамі, трошкі большую за стаграмовую чарку? Ведаеце, бываюць такія хваробы, калі трэба штогадзіну глынуць лекаў, а інакш можа ўзнікнуць непрыемны рэцыдыў.

— Быў у нас айцец Міхаіл, з рэдзенькай, як у мангола, барадою і зусім ужо азіяцкімі вочкамі. Дык у яго была астма. Ён нават калі са Святога пісання чытаў у царкве, то не выпускаў з рукі балончык з аэразолем, і таму ў храме пахла не мірам і ладанам, а эўкаліптам і пертусінам. Але, ведаеце, ён зрабіў кар'еру, напісаўшы некалькі даволі разумных прац. Яго запрасілі прачытаць некалькі лекцый па гісторыі расейскага праваслаўя ажно ў Грэцыю, у Афонскія манастыры. А больш нічога падобнага я не ўспомню.

Даруйце за цікаўнасць, але нашто вам пра гэта ведаць? Вы, мусіць, нешта ўбачылі каля Лідзінай магілы?.. У Сапежыне зноў гавораць, што гэта баронаў прывід раскапаў дол.

— Ды на магіле, калі і былі сляды, то іх затаптаў сваімі ботамі Талочка. Мяне зацікавіў след зусім у іншым месцы — у касцёле. На запыленых парэнчах амбона я бачыў адціснуты роўны кружок. Але што мог паставіць на амбоне забойца — я не ведаю.

— А вы ўпэўнены, дарагі мой спадар Хут, што на амбоне стаяў менавіта забойца? — Яніна падліла сабе гарбаты з круглавокага, размаляванага ў пеўні чайніка.

— Вядома не... Як можна быць упэўненым, калі навокал знікаюць і з'яўляюцца прымхі, калі нябожчыкі паўстаюць з магіл і сыходзяць у невядомых кірунках, пакідаючы ў растрыбушаных долах адно рэшткі трупа? Я, спадарыня Яніна, не ўпэўнены нават у тым, што вы ў адно цудоўнае імгненне не знікнеце з гэтай вось утульнае святліцы, абярнуўшыся ваўчыцаю-людажэркаю...

— Што вы кажаце, спадар Хут?! Мне робіцца страшна, так страшна, як дзяўчынцы ў чырвоным каптурыку, калі яна зразумела, што ў ложку замест роднай бабулі ляжыць драпежны воўк, — з гэтымі словамі Яніна ўстала і, абышоўшы стол, спынілася каля Зміцера, яе дагледжаная рука апусцілася на Хутаву галаву і пачала пяшчотна перабіраць валасы.

— Мне сапраўды страшна, — шаптала жанчына ў самае вуха каханага. — І толькі вы... Я веру ў гэта!.. Вы, мой любы рыцар, пераможаце д'ябла, знішчыце прывід Баркулаба фон Гарта... А мой страх расплывецца ў правінцыйным густым паветры, як расплываецца, рассейваецца і знікае туман пад промнямі сонца... А зараз мне ўсё яшчэ страшна, мне халодна і страшна... У мае сны вяртаецца акрываўлены Алег, у якога з вачніц тырчаць уваг-

наныя нажніцы. Ён блакітна-сінімі вуснамі просіць дапамогі, як просіць дапамогі і прывід Лізы Лазаркоўскай. Яны прыходзяць да мяне кожнае апоўначы і гавораць, нібыта іхнія бессмяротныя душы трапілі ў пастку, з якой ім трэба вызваліцца... — Зміцер раптам заўважыў, што голас жанчыны змяніўся — з ласкавага шэпту зрабіўся нервовым і раздражнёным.

Хут прыхінуў да сябе расчуленую і перапалоханую начнымі кашмарамі Яніну. І тая, нечакана для самой сябе, расплакалася. І, пэўна, у рыданнях і ўзнікла яе неадольнае жаданне пяшчоты і ласкі. Яніна са Зміцерам зліліся ў паглынальным пацалунку, а потым і ў жорсткай, напоўненай рэзкімі, вуглаватымі рухамі страсці. Яна аддавалася яму ўся, з надзеяй утапіць у ласках жудасна сцюдзёны страх. А ён браў яе груба, каб зацвердзіць уласныя мужнасць і рашучасць. Толькі ў выніку блізкасць не прынесла жаданых палёгкі і радасці, але не было і расчаравання. Пасля кахання застаўся адно лёгенькі смутак. І каб яго прагнаць, Яніна спыталася ў Зміцера пра ягонае прозвішча...

— Не так даўно мне ў рукі трапілася кніга навел «Дамавікамерон», — пачаў Зміцер. — Адна з іх была прысвечана Хуту...

## Навела XXXV з кнігі «Дамавікамерон», альбо Сапраўднае паданне пра Хута

Хут?

Увечары яго можна ўбачыць на небе, калі ён — вогненны чалавек-птах — ляціць. Калі за ім чырвоны след застаецца, дык золата нясе гаспадару, а калі паска на небе сіняя — хлеб у ягоных руках.

Раней Хут па вёсках жыў, на гарышчах хаваўся. А цяпер і ў горад можа завітаць, не раўнуючы як той ястраб. Вельмі любіць Хут мастакоўскія мансарды.

Адзін жывапісец расказаў такую вось гісторыю...

Прыходжу ў майстэрню, а на маім няскончаным палатне надпіс... Нібыта якое неразумнае дзіця пазабаўлялася. Я апошні месяц працаваў над краявідам, хацелася напісаць імжу ў Верхнім горадзе, і ў мяне амаль атрымалася. Нават прахалодаю ад палатна павявала. А тут узялі дый прымалявалі над шарымі касцельнымі вежамі жоўта-брыдкае сонца з лупатымі вочкамі дый шырозным ротам. Яшчэ і надпіс зрабілі: «Занадта хмурна!!! Чмур!» Закранула мяне здарэнне, глыбока па сэрцы рэзнула, асабліва гэтае «Чмур». Я ўжо збіраўся пайсці паскардзіцца ў які пастарунак, але падумаў: можа знаёмыя мастакі няўдала пажартавалі. Бог з імі — вырашыў, і замазаў брыдкавокае сонца разам з надпісамі.

На другі дзень у мяне з лядоўні зніклі ўсе яйкі разам з брыкетам вяршковага масла. Прадуктаў было шкада меней за карціну, таму і паскардзіўся я не паліцыянтам, а суседу па мансардзе, старому разумнаму шрыфтавіку.

Ад шрыфтавіка і пачуў я першы раз імя Хут, і пачуў імя разам з парадаю спячы яечню-абарачню і паклікаць пачвару наступным запрашэннем: «Хут, Хут, хадзі сюды, пачастунак ёсць — яечня, твая любімая абарачня!» Каб не крыўдзіць паважанага мастака, я паабяцаў так і зрабіць. А сам падумаў — звар'яцеў шрыфтавік на старасці год. Ён вар'ят, але і я не лепшы... Вярнуўся ў майстэрню, спёк сабе яечню і маракую — вось вазьму зараз і клікну Хута. А што будзе? Дый нічога не будзе. Хто пачуе? Ды ніхто! Паставіў я паніву з верашчакаю на стол і гукаю: «Хут, Хут, хадзі, ласачка, сюды...» Не паспеў дагаварыць, як расхінуліся дзверы на гарышча... Я ж там, на гарышчы, свае не лепшыя палотны хаваю, ну, і розны рыштунак, каб у майстэрні вальней дыхалася. Вось і дахаваўся, дадыхаўся, дагукаўся... Выходзіць з гарышча пачвара — чалавек не чалавек, птах не птах... Адразу і не ска-

жаш, хто такі. Галава чалавечая, толькі замест носа тырчыць дзюба арліная. Рукі маленькія, як у карлікаў. А за плячыма крылы вісяць. Уся пастава спрэс пёрамі парослая. А замест ног — лапы пеўневыя, толькі вялікія, дый кіпці не светлыя, а чорныя. Грабануў Хут лапаю па дашчанай падлозе, ажно трэскі пырснулі, і кажа: «Клікаў мяне?» — «Клікаў, — гавару, — клікаў». — «Яечнюабарачаньку абяцаў?» — «Абяцаў, — кажу, — абяцаў». А сам думаю: вось заб'ю зараз Хута за тое, што краявід мой спаскудзіў гнюсным надпісам, заб'ю і чучала зраблю. Во будзе чучала, усім чучалам чучала! Толькі чучаляр з мяне ніякі... Не паспеў пра тое падумаць, а Хут ужо яечню падмёў чыста і на гарышча клэпае. «Куда гэта вы, спадар Хут?» — пытаюся. «Па справах трэба бегчы. А за пачастунак дзякуй». Зайшоў на гарышча і прычыніў за сабою дзверы. А я да стала падбег і ў пустую паніву зазірнуў. Сапраўды пустая, ні каліва не пакінуў. Звар'яцеў, сам пра сябе думаю, далібог, дах паехаў. І раптам заўважаю: манета залатая на стале ляжыць. Хапануў я манету і сышоў з майстэрні.

Праз тыдзень насмеліўся і паказаў яе ювеліру: той запэўніў, што самы сапраўдны царскі залаты чырвонец.

А цяпер у мяне з тае манеткі залатая ікла стаіць. Можаш зірнуць. Во!

А больш я Хута не бачыў, бо не клікаў, дзякуй Богу.

Вядома, мастакі — народ уражлівы, дый падмаляваць свет ярчэйшымі фарбамі любяць. У іх ад намаляванай імжы сапраўднай прахалодаю можа павяваць. Так што можна і сумнявацца ў праўдзівасці папярэдняга апавядання. Але пра таго ж Хута мне яшчэ і адзін селянін казаў, а сялянам я веру больш, бо ў іх з фантазіяй зусім кепска.

Было так... Адзін мужчына пачуў, як ягоная родная жонка гукае Хута: «Хут, Хут!.. Хадзі сюды! Дам табе яечаньку-абарачаньку з дзесяці яец!» А калі

жонка сышла з гумна, паніву з верашчакаю на сячкарні пакінуўшы, дык мужчына той пачастунак і струмкаў за мілую душу. А Хут, пабачыўшы пустую паніву, раззлаваўся, бо падумаў — знарок з яго людзі здзекуюцца. А каб адпомсціць, падпаліў уночы і дом, і гумно таго мужчыны. Усёй вёскаю пажар гасілі, але рады не далі, і гумно, і дом дымам пайшлі. Стаяў бедны пагарэлец пасярод двара і ўсё паверыць не мог, што з-за нейкай верашчакі Хут ягоны скарб дымам пусціў. Стаяў, глядзеў на галавешкі, як раптам вока зачапілася за старое драўлянае кола, што каля ганка каменнага нехта кінуў. «Вось жа ўсё агнём выкаціла, а гэтае кола хоць бы з аднаго боку полымя лізнула, дык не!» — падумаў пагарэлец, зазлаваў і выкінуў кола на суседскі гарод. Ён жа і ведаць не ведаў, што ягоны закляты вораг Хут у патрэсканае кола перакінуўся.

Дык вось пасля таго здарэння Хут прыжыўся у пагарэльцавага суседа. І за які год за простую штодзённую верашчаку Хут з таго суседа зрабіў самага багатага чалавека ў вёсцы, бо насіў яму і жыта, і золата.

Трэба Хута шанаваць, і калі паабяцаў яечню, дык будзь ласкавы, частуй.

Так вось было.

Вось і Хут!

Сам я таго Хута не бачыў, але і не клікаў ніколі, бо хто яго ведае — а раптам не спадабаюся, і ён кватэру маю разам з мэбляю агнём пусціць.

## 22

Іван Зайцаў жыў у чырвоным двухпавярховым дамку, якіх процьму набудавалі каля чыгуначных станцый пасля другой сусветнай вайны.

Адрас Зайцава Хут даведаўся ў дасведчанай адміністратаркі гатэля, але перад тым, як пайсці ў чарговыя госці, пераклаў свой «сміт-весан» з валізы ў кішэнь марынаркі.

У цёплым, прапахлым вільготным дрэвам і бульбаю калідоры Зміцеру давялося пачакаць, пакуль гаспадар выберацца з прыбіральні і адчыніць пабітыя шашалем дзверы. Ва унітазе яшчэ грымела вада, калі Хут, наставіўшы кароткую рулю ў абвіслы жывот Зайцава, прапанаваў яму прайсці ў ягоны пакойчык. Гаспадар правільна зразумеў ківок Хута і падаўся ў вузенькі пакойчык, абклееныя салатавымі шпалерамі.

— Сядай, — загадаў Хут.

— Я не забіваў Ліду Лазаркоўскую, — з гэтым няхітрым прызнаннем Іван сеў на край незасланага ложка.

— І Будзько ты не забіваў? — Хут нетаропка прайшоў да стала, засыпанага вучнёўскімі сшыткамі, і стаў спінаю да вакна.

— Вядома, не! Нашто мне забіваць Будзько?! Я што, па-вашаму, вар'ят? І яшчэ Ліда... Я, дарэчы, каб вы ведалі, кахаў яе. Сапраўды! У выклятым Богам Сапежыне не было ніводнай жывой душы, акрамя яе. Каб я ведаў, хто забіў Ліду, дык сам бы, сваімі рукамі, без суда і следства задавіў бы пачвару, — Іван узняў на Хута пачырванелыя вочы.

— Гэта вы сур'ёзна, спадар Зайцаў? — Цёмны сілуэт пачаў павольна насоўвацца на збянтэжанага настаўніка.

— Калі хто з нас і жартуе, дык гэта вы, спадар Хут, з цацачным «сміт-весанам». І ніякі вы не супермен, так... звычайны журналіст, можа, нават крышку таленту маеце, — Зайцаў устаў з ложка і пайшоў да светлай бярозавай шафы. — Так што схавайце рулю: калі ёй і можна каго напалохаць, дык толькі бібліятэкарку, але і яна хутчэй зробіць выгляд, што спужалася, а будзе ўсё адно думаць пра ложак. Даруйце, калі пакрыўдзіў, ці калі нязграбна закрануў далікатныя сталічныя пачуцці. У правінцыі, ведаеце, у жывёлу ператвараешся, робішся бліжэй да яе вялікасці Прыроды. Але пра што гэта я?! Госць у доме, а я філасофствую без

чаркі. Не па-руску атрымліваецца... Вы дазволіце, спадар Хут, прапанаваць вам кілішак?..

— Усё? Выказаўся, Ваня? — Зміцер узняў зброю, і руля аксамітна-чорнай зрэнкай глядзела ў Зайцавы грудзі.

Іван пасур'ёзнеў роўна настолькі, каб не паказаць, што чарговая хваля жаху паглынула душу. Зайцаў маўчаў, бо блазнаваць па другому колу не меў сілы.

— Ты не забіваў ні Будзько, ні Лазаркоўскую. Я гэта ведаю. Але ты здагадваешся, хто гэта мог зрабіць. Толькі ты, як і я, не маеш сур'ёзных доказаў. Правільна я разважаю?

Хут счакаў, пакуль Зайцаў асуджана прамовіць:

— Можа, й так...

— І я ведаю імя забойцы, толькі не магу зразумець матывацыі. Ну нашто Сымону Лазаркоўскаму забіваць любую жанчыну і нейкага нікчэмнага настаўніка?..

Зайцаў вельмі спакойна ўспрыняў абвінавачанні ў бок Сымона. Па ўсім было відаць, што ён згодны са словамі Хута, але наступнае пытанне прагучала ў вузкім захламленым пакойчыку знарочыста дый іранічна.

— Ваша несур'ёзнасць, спадар Зайцаў, не прыглушыць маю пільнасць, і рэвальвер я буду трымаць яшчэ больш упэўненай рукою. Вось так. А мізэрнасць маёй улікі толькі падкрэслівае пачварнасць учынкаў Сымона Лазаркоўскага... У касцёле, дзе забілі Ліду, я знайшоў на амбоне круглы след — нібыта нехта паставіў чарку на пыльны парапет, а потым забраў яе. Ведаеце, такі акуратны круглы след. Цэлую ноч я ламаў галаву над загадкаю, што можна пакласці на парапет, стоячы на амбоне. Я дайшоў да таго, што пачаў уяўляць сябе кожным са знаёмых мне сапежынцаў... Я ператварыўся на хвіліну нават у Івана Зайцава, у якога ў кішэні была бутэлька таннага віна: вядома, што ва ўяўленні каўтаць давялося з рыльца,

а не з чаркі. Мяркую, астатнія пераўтварэнні вас не зацікавяць, акрамя апошняга, калі я зрабіўся Сымонам. Я стаяў на амбоне і чакаў... Ранішняе лёгкае святло залівала абрабаваны, раскіданы касцёльны інтэр’ер. Старыя парты... Вось тут мяне і працяла здагадка. Парты! Яны, простыя, старыя, выкінутыя, прымусілі Сымона Лазаркоўскага механічным жэстам дастаць з кішэні гадзіннік — той вялікі, памерам ледзь не з бутэлечнае донца, і пакласці перад вачыма. Рэфлекс настаўніка, выпрацаваны за дзесяць гадоў працы. Упэўнены, калі спытаць у Лазаркоўскага, ці даставаў ён гадзіннік на амбоне ў касцёле святой Дзевы Марыі, дык ён можа і не згадаць гэтае драбязы. Як і вы можаце не верыць у праўдзівасць маёй версіі. Сапраўды, можаце, але не маеце на тое права, бо апошні мой аргумент — «сміт-весан».

Хут накіраваў рулю ў столь. Стрэл прагучаў пераканаўча.

— Вы — вар’ят, вам трэба лекавацца, — іронія знікла з інтанацыі Зайцава.

— Можа быць, але перад тым, як вашую прапанову засведчаць турэмныя доказы, некалькі сапежынцаў абзавядуцца дашчанымі касцюмамі. І адным з гэтых шчаслівых будзеце вы, спадар Зайцаў. І я не хацеў бы разгортваць тэму могілак.

— Што ад мяне патрабуецца?

— Няшмат. Зараз мы пойдзем да Сымона Лазаркоўскага, і вы абвінаваціце яго ў забойстве жонкі.

— А чаму вы абралі на гэтую ролю мяне?

— Бо вы кахалі Ліду... — пасля гэтых слоў Хут схаваў у кішэню важкі рэвальвер.

У двары Лазаркоўскіх на Хута і Зайцава вызверыўся іклаты драпежнік, у жылах якога пераважала воўчая, а не сабачая кроў. Вантробны рык напоўніў чыста падмецены, абсаджаны высокім жываплотам двор.

— Не сарвецца! — Зміцер супакоіў хутчэй сябе, чымсьці Івана. — З такога ланцуга і сам д'ябал не ўцёк бы.

— Не ведаю наконт д'ябла, але калі гэты цэрбер парве ланцуг, дык і нашы сцёгны з клубамі будуць бедныя... — Зайцаў на ўсялякі выпадак вярнуўся назад за надзейныя металічныя весніцы.

А тым часам Хут дастаў з кішэні рэвальвер і, наставіўшы ў звярыны голаў, стрэліў.

У ломкім, як сухое тонкае дрэўца, стрэле захрасла Іванава пытанне:

— Нашто?

— Я ніколі не належаў да партыі зялёных, а гэтая жывёліна, — Хут ткнуў наском чаравіка нежывога звера, — гадавалася не для забаўкі з дзецьмі.

— Усё адно, так нельга! Жывёла не мае дачынення да грахоў гаспадара...

— Можа і так, спрачацца няма часу. Але сабака стаяў на шляху да забойцы... Запомніце, спадар Зайцаў, Сымон Лазаркоўскі — забойца. І не просты, а пачварны.

З прабітага куляю сабачага лба цёмная, як вераснёвы захад сонца, кроў цякла на выбрукаваную ладнымі камянямі сцяжыну.

З майстэрні, што стаяла ў канцы саду, выйшаў да нязваных наведвальнікаў сам гаспадар, Сымон Лазаркоўскі. Доўгі скураны хвартух з вялікай накладною кішэнню на грудзях рабіў яго падобным да сапраўднага разумнага садоўніка, чыё жыццё нетаропка плыве праз квецень садоў. І нават сякач, якім крышаць свіням вараныя бульбу і буракі, глядзеўся натуральна.

— Хто з вас застрэліў майго сабаку? — Сымон спыніўся за колькі крокаў да выпручанае жывёлы.

— Я, — Хут скрывіў незадаволены твар, — я застрэліў сабаку і з яшчэ большым задавальненнем заб'ю цябе... Ты мусіць здагадаўся, за што мне так захацелася выпусціць твае мазгі на волю... Не

здагадваешся? Вось як? — Хут навёў рэвальвер на Лазаркоўскага: — Тваім мазгам стала цесна пад жоўтым лысым чэрапам, і яны папрасілі зрабіць акуратную круглую адтуліну ў тваёй патыліцы... Але хопіць! Прысуд абвесціць твой калега Зайцаў. Калі ласка, Іван, заходзь у двор. Цэрбер больш не ўяўляе пагрозы клубам, заходзь і скажы, чаму мы ўзненавідзелі спадара Сымона...

У адрозненне ад Зміцера, Іван Зайцаў не меў той упэўненасці і веры ў правільнасці іх учынкаў. Стрэл у сабаку, хай і раз'юшанага, цалкам спаралізаваў ягоную волю. Калі што і хацелася Івану на той момант, дык кульнуць стограмоўку самагонкі, а не казаць Лазаркоўскаму — ты вар'ят і забойца. Відавочным вар'ятам, на думку Зайцава, быў Хут, але зброя не дазваляе выказаць нават цвярозыя думкі ўслых. Таму Зайцаў прычыніў за сабою весніцы і стаў паміж Зміцерам і Сымонам:

— Ты, Сымон, можаш яшчэ паспрабаваць апраўдацца, — пачаў Зайцаў, — але мы, я і Хут, маем неабвержныя доказы, што менавіта ты забіў Будзько і Ліду.

Іван спадзяваўся на тое, што Лазаркоўскі пачне абвяргаць абвінавачанні, і яму больш не давядзецца ўдаваць з сябе пракурора, але Сымон спакойна стаяў, абапіраючыся на доўгае дзяржальна секача. Таму Зайцаву давялося працягваць...

— Бібліятэкарка Яніна згодная расказаць перад усімі пра тое, як бачыла цябе ў сваім доме, калі ты загнаў нажніцы ў вуха Алега Будзько, а потым паклаў труп у яе ложак... І гэта не адзіны сведка тваіх злачынстваў. Адміністратарка з гатэля праходзіла праз могілкі якраз у той момант, калі на золку ты эксгумаваў цела ўласнай жонкі, — Іван пачаў ужо адчуваць асалоду ў гэтым хлуслівым спектаклі, у фарсе, разыграным дзеля аднаго чалавека — Сымона Лазаркоўскага: — Мы пакуль не ведаем, нашто табе спатрэбіўся жончын труп, але, упэўнены, хутка дазнаемся і пра гэта. Карацей, твая гісто-

рыя, спадар Лазаркоўскі, — гэта звычайная показка пра раўнівага мужа-раганосца, — з Івана пасыпаўся сухі смех, — раганосца, які, пераапрануўшыся ў прывіда Баркулаба фон Гарта, забіў спачатку каханка сваёй юрлівай Ліды, а потым і яе скінуў з касцельных хораў. Але, забі мяне пярун, я не магу ўцяміць... Нашто пачвары, пры-віды, фон Гарты? Нашто табе, Лазаркоўскі, спатрэбіўся маскарад з чорнымі акулярамі і чорным берэтам? Ці ты баяўся, што твае ахвяры ўбачаць рогі, якія самі ж і наставілі на твой жоўты шышкаваты чэрап?.. — жорсткі смех зноў пасыпаўся з Івана. І ён ускінуў падбароддзе так, нібыта не хацеў, каб кавалачкі смеху выпадалі з шырока раскрытага рота.

І ў гэты момант войстрае лязо секача, вымаляваўшы ў паветры неверагодную фігуру, убілася ў Іванава горла. Высокае, дзесяцісантыметровае лязо ў форме лацінскае літары «S» дайшло аж да пазванкоў хрыбетніка. Іванавы рукі ўзляцелі ў паветра, нібыта хацелі схапіць Сымона, які вялізнымі скачкамі ўжо бег у бок майстэрні. Хут ускінуў рулю рэвальвера, і дагледжаны сад пачуў тры стрэлы.

Але ніводная куля не трапіла ў цэль. Забойца знік у садовых зарасцях. Хут кінуўся быў у пагоню, але, зрабіўшы два-тры крокі, спыніўся. Ён вяла вярнуўся да Зайцава. Той ляжаў на жухлаватай траве, з распаласаванага горла ўсё яшчэ цякла цёмная кроў. Твар у Івана быў белы, нібыта зацярушаны шэранню, нават валасы, што варушыліся пад лёгкім ветрыкам, былі сіваватыя. Усё казала на тое, што ніякай дапамогі Іван Зайцаў ужо ніколі не запатрабуе. Зміцер пераступіў акрываўлены сякач і пайшоў да ганка.

У доме Лазаркоўскага было дзіўнае паветра — прахалоднае і чыстае, нібыта крынічная вада. І Зміцер падумаў, што Сымон, пэўна, ведаў сакрэт стварэння такога паветра, як ён ведаў таямніцу захоў-

вання гонты — змазаць тлушчам і прысадзіць мох. З прасторнае святліцы Хут перайшоў у пакой, абстаўлены зашклёнымі стэлажамі. Збор музычных інструментаў сустрэў нязванага журналіста варожа. Асабліва непрыемна было сутыкнуцца позіркам з вачыма-пратэзамі. Толькі на сантыменты і жахі ў Зміцера не было часу. Колькі імгненняў журналіст правёў у сумненнях — з чаго пачынаць вобыск. А потым упэўнена пацягнуў на сябе верхнюю шуфляду пісьмовага стала, на якім узвышалася мёртвая галава камп'ютэрнага манітора.

У шуфлядзе і знайшліся тлумачэнні сапежынскім трагедыям. Яны былі ў тоўстым скураным сшытку — дзённіку Сымона Лазаркоўскага...

## 23

### Некаторыя урыукі з дзённікавых запісау настауніка гісторыі Сымона Лазаркоускага

...Нацыя ў небяспецы, яна можа загінуць, калі тэрмінова не пачаць прымаць належныя захады.

Першай і асноўнай небяспекай было і застаецца прыняцце нашай нацыяй самых розных рэлігій... Хрысціянства ў розных ягоных канфесійных абліччах, будызм і мусульманства раздзіраюць прыгожае цела нашае дзяржавы на дробныя стракатыя лахманы. На жаль, канстытуцыя з яе прымітыўным наборам абмежаванняў не дае грунту для духоўнага яднання. І як гэта ні сумна, а трэба засведчыць, што мы толькі распачалі стварэнне вялікага народа.

На чым можна згуртаваць наш свабодалюбівы паўнарод? На рэлігійным пачуцці, на старажытным разуменні космасу, якое нам пакінулі жыхары гэтых земляў.

І хай я буду спачатку самотны, і хай мяне зразумеюць адзінкі ці наогул ніхто не зразумее. Але я распачынаю адраджэнне вялікай рэлігіі прашчу-

раў.

11.7.1977

...Чым болей я паглыбляюся ў напластаванні гісторыі, тым больш сучасным і актуальным здаецца светапогляд старажытнага чалавека.

Я ўжо не сумняваюся ў неабходнасці аднаўлення хоць бы аднаго капішча з поўным пантэонам славянскіх багоў — ад Перуна з Вялесам да дробнага Дамавіка і крылатага Хута...

7.11.1979

...Нарэшце я маю ўсё неабходнае, каб распачаць узвядзенне пантэона.

О, мой спадар Пярун! О, мой спадар Вялес! Клічу вас у сведкі. Клічу на дапамогу! Чакаю благаслаўлення вашага. Чакаю знака ад вас! Бо ў ноч купальскую раскладу вогнішча на выспе і буду танчыць вакол яго. І дуда мая, зробленая з чорнага казла, загудзе ў цемрадзі, каб абудзіць вас. Каб паўсталі вы з нябыту і асвяцілі вогненнай знічкай першы дубовы слуп, з якога і пачнецца пабудова святога капішча.

20.6.1980

І быў знак мне... Упала чырвоная знічка з чорнага неба. І паска светлая, што мільганула ў люстэрку Русалчынага возера, паказала мне на тое месца, ад якога пачнецца дарога да капішча.

Дзякуй табе, мой слаўны Пярун. За ласку божую і за святы знак.

З купальскае ночы я стаў абраннікам багоў.

10.8.1980

...Няўжо наўкола адны невідушчыя? Няўжо не засталося ў маім народзе чулай душы, якая хоць бы на каліва зразумела маю пакуту? Няўжо вы, гаспадары мае, запатрабуеце першай ахвярнай крыві не з казляняці, а з чалавека?..

3.3.1990

І быў знак мне... Упала чорная знічка з неба сярод белага дня. І гатовы я да святое вайны, бо я меч божы, бо я слуга божы, бо ты адзіны ўладарыш мною, спадар Пярун.

3.3.1993

За першую ахвяру ў гонар Вялеса я абраў чалавека нікчэмнага і мізэрнага ў сутнасці сваёй, бо зямному — зямное. Уладару лясоў, палёў і балотаў я прынясу на алтар гліну, што толькі часова ў вобліку чалавечым...

Я забіў яго, ударыў нажніцамі, сталёвымі, вастрадзюбымі, у правае вуха, і кінуў цела нежывое ў ложак каханкі ягонай, і сачыў. Як і ведаў ад цябе, мой бог Вялес, не паклікала каханка сведак, а пацягнула цела ў бок возера, да святога капішча, хоць і не ведала пра яго.

Спраўдзіліся знакі нябесныя.

Узрасла вера мая.

Высачыў я шлях жанчыны. І забраў нябожчыка, каб перавезці на выспу, што пасярод Русалчынага возера.

На капішчы, перад стодам Вялеса, я выняў з цела сэрца і паклаў на ахвярны стол.

І сэрца маё злілося з сэрцам ахвярным, і сябе я аддаў ва ўладу вялікага Вялеса.

5.6.1993

Зноў быў знак... Вогненны слуп прайшоў над Сапежынам. Бачылі той слуп толькі жывёлы неразумныя ды і я, адданы сапраўдным багам на тутэйшых землях.

І тлумачу так знак божы... Сам Пярун запатрабаваў ахвяры. Спатрэбілася яму кроў чалавечая, каб адрадзіцца, уваскрэснуць, паўстаць і вярнуць сваё ўладарства над людам неразумным.

А ў ахвяру я павінен прынесці найдаражэйшае, найлюбае, найлепшае — каханую сваю, жонку сваю.

І хвіліны не было, каб засумняваўся я.

14.8.1993

Чуў, як б'ецца сэрца казляняці. Перад нажом маім. Чую цяпер, як трапечацца сэрца каханай у млосным прадчуванні пераходу ў свет да багоў, да Перуна, у завоблачныя прасторы.

15.8.1993

Уцякла, з'ехала... Пэўна, дапамогі шукаць. Але я — воін сіл зямных і нябесных, непераможны ў змаганні сваім. Можна забіць мяне, але перамагчы нельга.

Вернецца ластаўка ў гняздо сваё...

5.9.1993

Сполах дагнаў мяне на выспе, калі я схіліўся над каханай сваёй, каб дастаць сэрца яе і пакласці ў ахвярны агмень.

Я зусім не ўведаў страху, калі скінуў яе ў касцёле, не баяўся і раскопваць магілу і вымаць з труны ледзяное цела. І толькі на выспе, пасярод капішча заўважыў, якая белая мая любая жонка. Яна была такая светлая, што не заставалася аніякай надзеі на ўваскрашэнне гэтага цела.

Мая каханая была падобная да паламанае лялькі.

І жахнуўся я... І дастаў нож, і раскроіў грудзі, і вырваў сэрца, і кінуў яго ў агмень.

Узрадаваўся мой гаспадар, мой адзінываладар, мой Пярун!

29.9.1993

Зміцер шпурнуў у шуфляду дзённік Лазаркоўскага. Яму хацелася як мага хутчэй пазбыцца ўсяго жахлівага наслання, што выплеснулася з белых аркушаў, спісаных чорнымі літаркамі. Але

жахлівы прывід забойцы неадступна стаяў за спінаю ў Хута.

Дрыжачымі рукамі Зміцер Хут зноў узяў дзённік.

## 24

Другім разам у кабінет дырэктара школы Зміцер Хут увайшоў больш рашуча. І пакуль пераляканы Базыль Гладкевіч пакручваў у доўгіх пальцах свае акуляры «ровар», Зміцер паспеў сказаць наступнае:

— Цяпер мяне мала цікавяць нашыя былыя ўзаемаадносіны, бо здарылася яшчэ адна трагедыя — Лазаркоўскі секачом забіў Івана Зайцава. Калі я і Зайцаў абвінавацілі Сымона Лазаркоўскага ў забойстве ўласнай жонкі і настаўніка геаграфіі Алега Будзько, ён схапіў сякач і нанёс Івану смяротны ўдар. Я спрабаваў спыніць забойцу, але марна.

А цяпер, спадар Гладкевіч, я папрашу вас зрабіць дзве рэчы... Па-першае, дастаць мне маторную лодку, а па-другое, знайсці следчага Талочку і паказаць яму труп Зайцава, што ляжыць на падворку ў Лазаркоўскіх. Побач з Зайцавым ляжыць і застрэлены сабака... Можаце сказаць Талочку, што сабаку застрэліў я, бо яно так і было.

Вы зразумелі мяне, спадар дырэктар?

— Вядома, вядома... Але нашто вам лодка? — Гладкевіч яўна сумняваўся ў праўдзівасці Хутавых слоў, але быў перакананы, што сапраўды здарылася нешта страшнае і непапраўнае. Голас у Гладкевіча звінеў, як намерзлая струна.

— Калі Талочка спытае пра мяне, дык скажыце, што я паплыў на Русалчын востраў выкопваць скарбы канцлера Лявона Сапегі.

— Прабачце, спадар Хут, але я адмаўляюся разумець вашу іронію ў гэтым выпадку!

— А я не разумею вашай замаруджанасці...

— Добра, я дам вам сваю лодку, толькі адкажыце спакойна на адно маё пытанне...

— Хутчэй, — раздражненне з'явілася на твары Хута.

— Чаму ён іх пазабіваў?

— Рэўнасць! Ён быў упэўнены, што і Зайцаў, і Будзько — каханкі ягонай Ліды.

— Цяпер усё ясна. Мая лодка адна з лепшых у Сапежыне, — пра лодку Гладкевіч заўважыў, сыходзячы са школьнага ганка.

— А ў каго самая лепшая? — Хут ведаў адказ, але хацеў праўдзіць здагадку.

— У Сымона Лазаркоўскага.

Лодка ў Гладкевіча была зусім новая і дагледжаная, нездарма гаспадар так ёю ганарыўся.

Хут упэўнена ўладкаваўся на карме і запусціў магутны, але вельмі шумлівы рухавік. Белы нос лодкі нацэліўся на блакітны груд азёрнае выспы. Праз чвэрць гадзіны металічнае днішча ўзбілася на ўзбярэжны пясок. Хут няспешна накіраваўся ўглыб вострава. Ён чакаў, што ўбачыць нешта пачварнае — так яно і здарылася.

У самай сярэдзіне вострава была выкапана шырокая яміна, на сподзе якой ляжалі загорнутыя ў белае і ледзь прысыпаныя пяском два чалавечыя целы. Паміж трупамі стаяў, укленчыўшы, Сымон. І нябожчыкі, і забойца былі аблітыя бензінам. Побач з нябожчыкамі ляжалі і металічныя каністры. Цяжкі пах смерці лунаў над пясчаным долам, па краях якога ўзвышаліся драўляныя слупы з высечанымі на іх тварамі славянскіх багоў.

Сымон узняў над галавой свае вялізныя рукі.

Ён нібыта сабраўся прасіць паратунку...

І ў гэты момант полымя ахапіла яго.

Хут адхіснуўся ад яміны і падаўся назад.

Енк лютай жывёліны зліўся з шумам полымя і пераплавіўся ў выбух.

## 25

Трывожным чырвоным вокам палымнеў фаталіхтар у лабараторыі Зміцера Хута. У прывідным святле зніклі ўсе колеры, і краявід з сапежынскім касцёлам з жывапіснага ператварыўся ў графічны. Але Хут любіў такія пераўтварэнні. Любіў, калі сярод дня па ягоным жаданні наставала ноч. Адну за адной ён апускаў карткі фотапаперы ў кювету з рэактывам. Пад бліскучым, нібыта добра выробленая скура, глянцам з'яўляліся чалавечыя твары, дрэвы, дамы — спыненае сапежынскае жыццё. Адны карткі Зміцер драўляным пінцэтам падносіў да пругкага струменя халоднае вады і перакідаў у кювету з фіксатарам, другія, на ягоны прыдзірлівы погляд, няўдалыя, адкладаў на ліст пластыку. Выявы на іх чарнелі, глянец згасаў, як луска вылаўленай рыбіны, здымкі ішлі плямамі і карабаціліся, скручваліся няроўнымі трубачкамі.

Хут запаліў цыгарэту і згасіў ліхтар. Маленькая жарынка асвятляла адно ягоныя пальцы. Вада з крана звонка біла ў дно кюветы. Запішчаў таймер. Хут вобмацкам падышоў да акна, расхінуў абклееныя чорнай аксамітнай паперай аканіцы, і пакой заліло рэдкае восеньскае святло. Пахмурна-імжысты кастрычніцкі дзень. Запырсканыя легкавікі, тралейбусы. Прахожыя хавалі твары за пачварнымі парасонамі. Пратэктары аўтамабіляў шапацелі ў плыткіх калюжынах. Вэлюм дажджу накрыў сталіцу...

Зміцер Хут расклаў фотаздымкі на палатнянай стужцы глянцавальніка: яны павольна запаўзалі пад люстраны гарачы барабан, у пакоі пахла парай і хімікатамі. З лёгкім патрэскваннем на празрысты пластык шчытка выпадалі гатовыя карткі.

Зміцер выйшаў з лабараторыі. Пафарбаваныя на шэрае сцены, мноства дзвярэй. У далёкім кан-

цы калідора з’явілася жаночая постаць. Зміцер павярнуў выключальнік. Заміргалі, загулі пад высокаю столлю лямпы дзённага святла.

— Зміцер, — выгукнула на ўвесь калідор Яніна Сабалеўская, пазнаўшы Хута.

Яна пабегла, крокі гулка луналі ў пустым калідоры. Задыханая, яна спынілася перад Зміцерам і паставіла на падваконне сумку, ад якой патыхала вэнджаным салам, і палатняную торбу з яблыкамі, перакладзенымі саломай.

Хут глядзеў на жанчыну, на яе густа наплоеныя валасы, на сакаўную памаду вуснаў, на квяцістую хустку, што выбівалася з-пад каўняра паліто, на дарагія, пазалеташняе моды боты.

— Хадзем, Яніна. — Хут падхапіў валізы і занёс у лабараторыю.

— Яблыкі — табе, з майго саду. — Яніна прычыніла дзверы, ляснуў аўтаматычны замок. — Вой, я замкнула! — Сабалеўская не ведала, за які з трох замкоў узяцца.

— Яніна, я аддрукаваў сапежынскія здымкі, паглядзі. Ці ведаеш ты гэтага чалавека? — Зміцер паставіў торбу з яблыкамі на стол і падаў Сабалеўскай фотакартку з касцёлам: на цвінтары, удалечыні, стаяў мужчына ў доўгім плашчы, на твары паблісквалі цёмныя акуляры.

— Не ведаю. — Яніна пацiснула плячыма.

— Чаму не патэлефанавала, што завітаеш?

— Ты ж прыехаў да нас у Сапежын без званка.

Тарганулася клямка, затым у філёнгу далікатна пастукаліся. Яніна падхапілася, але Хут спыніў яе.

— Мы не будзем адчыняць, — яму раптам зрабілася сорамна за Сабалеўскую, ён не хацеў, каб хто пабачыў яго побач з правінцыйнай прыгажуняй.

— Няёмка, — Яніна, стараючыся чаго не зачапіць, падышла да насценнае вазы і ўзяла ў руку завязанае на вузел паўлінавае пёрка.

...Мужчына ў чорным плашчы і ў цёмных акуля-

рах яшчэ раз пагрукаў у дзверы з шыльдачкай «Фоталабараторыя. Зміцер Хут», наслухаўся, пачуўшы Янінін шэпт, прыкрыў з'едлівую ўсмешку доўгім белым шалікам. У ягоных руках, зацягнутых у вузкія скураныя пальчаткі, бліснуў металічны грэбень з доўгім нагостраным дзяржальнам. Не здымаючы капелюша, мужчына паправіў сівыватыя валасы на скроні і павярнуўся да вакна...

— Нашто ты завязаў такую прыгажосць на вузел? — здзівілася бібліятэкарка.

— Каб не забыцца патэлефанаваць табе. Выбачай, але мушу адбегчыся на паўгадзіны. Пачакай мяне ў кавярні на рагу Гетманскай і Скарыны. Замовіш чаго на свой густ, — Хут сунуў разгубленай Яніне некалькі буйных банкнотаў.

Зніякавелая жанчына пайшла, не заўважыўшы каля вакна маўклівага наведвальніка ў чорным плашчы. Хут расклаў на стале фотаздымкі. Раптам на іх лёг рэзка акрэслены цень, Зміцер ускінуў позірк і бязгучна вымавіў:

— Вы?..

Госць зрабіў крок насустрач гаспадару лабараторыі. Хут перахапіў ускінутую руку.

Пачуліся сухі смех і грукат. На калідор з лабараторыі выкаціўся чырвоны яблык, на ягоным баку трапяталася пад праймай ячневая саломіна з сапежынскага поля.

# КАНАПЛЯНЫ РАЙ,
# або ліхія прыгоды Генрыка Войніча, злодзея і прайдзісвета

*Дэтэктыўная аповесць*

*Усе героі гэтай аповесці прыдуманыя і ніякага дачынення да рэальных асоб не маюць, усе магчымыя супадзенні выпадковыя і ненаўмысныя, але...*

## 1. Піцунда

Арсен і Генрык на зялёных бамбуковых прутках смажылі сала: агню амаль не было, і над пякельным, нібы пацягнутым чорнай сеткаю, вуголлем курчыліся і шкварчэлі жаўтаватыя скрылі. Генрык збіў буйныя кроплі гарачага тлушчу на паўмесяц лаваша. Арсен уваткнуў пруток у папялова-шары жвір і выцер далоні аб брызентавыя шорты:

— Па 50 грамаў і ў мора?

— На гэтых дровах толькі вустрыц пражыць.

Арсен ліную па шклянках каньяк і адставіў бутэльку ў цемру.

У дваццаці кроках ад іх гурбілася і выгіналася ўспененая стужка прыбою. Па-за ёю прысядалі баранчыкі хваль. Начны брыз падхопліваў попел. Арсен выпіў, высока закінуўшы галаў, і глянуў на

начное неба праз донца шклянкі, як астраном у акуляр тэлескопа.

Генрык адпіў глыток і выліў рэшткі каньяку на вуголле. Стэрыльны сполах блакітнага полымя ўзняўся над папялішчам. Босы, у шортах і стракатай гавайскай кашулі Генрык глядзеўся каланіяльным вайскоўцам на адпачынку — худы і апалены, як драўляны муштук. Драпежны, разняволены і здзічэлы, ён плаваў нібыта марскі коцік: вада за ім успеньвалася кіпенем і свіцілася жарынкамі ўспуджаных марскіх светлякоў. Там, дзе хвалі набывалі гумовую пругкасць і холад, Генрык паварочваў і плыў паралельна берагу. Узбярэжжа раставаралася ў субтрапічнае цемры, і ён арыентаваўся на чырвоныя сполахі маяка.

Арсен жа ніколі не плаваў уздоўж берага, а заўжды кіраваўся ў адкрытае мора, покуль хвалі не зліваліся з аснежанымі вяршынямі Каўказа. Вось і зараз ён, шырока раскідваючы рукі, кіраваў на зорку Венеру, што рэкламным неонам ззяла над даляглядам. Чорная, як астылая кава, вада была неадчувальнаю і нават не цверазіла.

Стоячы па лыткі ў вадзе, голы Арсен выкручваў плаўкі, калі пачуў з цемры жаночы голас:

— Якая гадзіна, не падкажаце?

— А хіба ў мяне гадзіннік на чэлясе? — шчыра здзівіўся і паціснуў плячыма Арсен.

— Выбачайце...

Генрык кінуў на вуголле адшліфаваныя прыбоем і высушаныя да белі карчы. Полымя прагна ўскараскалася па крохкім дрэве і адкінула цемру. Груваскі і чырвоны, як старасвецкі буфет, Арсен скептычна глядзеў на звэнджаны, нібы лакіраваны скрыль сала:

— Ты ведаеш што ў нас згатавалася? — рытарычна спытаў ён. — Сала негра.

Генрык пагадзіўся і выкінуў шкварку ў агонь.

— Чым на моры смажыцца, лепш бы паехаў да сябе ў Гарошкаў. — Арсен накінуў кашулю на

вільготныя плечы. — У мяне там возера — не пераплыць, але я два разы пераплыў, за пляшку гарэлкі паспрачаўся з Сяржуком. Ён за мною на лодцы плыў з пляшкаю, каб ўратаваць, калі не даплыву.

Са змроку з'явіліся постаці і пачулася:

— Даволі дзіўна каля мора гучыць беларуская мова, — да вогнішча падышла дзяўчына ў шаўковым кімано, доўгія светлыя валасы былі забраныя пад плецены з залацістае саломкі абруч. На яе смуглым твары бліснула ўсмешка. Следам да агню выйшлі двое ў спартовых гарнітурах. Адзін ва ўзросце — пад шэсцьдзесят — кароткастрыжаныя, чорныя, з металёваю сівізною валасы нагадвалі чарнабурку, у вузкім разрэзе бясколерных вачэй адчуваліся перасцярога і недавер. Такія ва ўсіх бачаць патэнцыяльнага ворага.

«Трымаецца ўпэўнена, як чучала зубра — тыповы гэбіст з «Самшытавае выспы», — зазначыў Генрык і паварушыў дровы, — а дзеўка яму ані дачка, ані сакратарка: гэтыя заўсёды мусяць адпачываць з жонкамі, пакутнікі ўласнае сістэмы».

Другі, хто выйшаў з цемры, яшчэ больш невыразны, з пшанічнымі вусікамі і высокімі залысінамі, удвая маладзейшы за першага, быў на падпітку, але імкнуўся ўдаваць цвярозага.

«Яны без лампасаў не людзі, хай сабе нават і на спартовых нагавіцах».

— Беларуская мова — адзіная, што гучыць для мяне натуральна, — Генрык сказаў знарок несур'ёзна.

— Вы, відаць, пісьменнікі, з літфондаўскага пансіяната, — канстатаваў старэйшы.

— Арсен — паэт, а я — вольны мастак, — Генрык звяртаўся да дзяўчыны, — і ў нас не пансіянат, а Дом творчасці.

— А вы — дзеці Чарнобыля, якім летась абяцалі аддаць гмах «Самшытавае выспы»? — нязлосна адзначыў Арсен.

— Арсен Прус? Аўтар знакамітага «Пана Гувняжа»? — здзіўлена спытала дзяўчына ў Генрыка.

Паэт страпянуўся і акрыяў:

— За знаёмства някепска й выпіць каньяку.

— Дзякуй за прапанову, — за ўсіх адказаў старэйшы, — але сёння мы п'ем мадэру, — і дастаў са скураное валізкі пузатую, з тонкім рыльцам бутэльку.

— Сядайце, дзе хто стаіць, — Генрык па-гаспадарску выкаціў з-пад вогнішча бамбуковым пруткам абвугленую бульбіну. — Спадзяюся, землякі не адмовяцца.

Густая мадэра запалымнела ў шклянках.

— Калі выпілі за знаёмства, варта назвацца. Генрык Войніч, — кіўнуў ён дзяўчыне.

Яна азвалася адразу:

— Данута Адамовіч — журналістка, Аляксей — мой муж.

Маладзейшы заківаў у адказ.

— Каспар Францавіч, — назваўся старэйшы.

У шклянках адбівалася вогнішча.

«Данута, Данута, — паўтараў пра сябе Генрык. — Няўжо мы не сустракаліся ў Менску? Як прызначыць ёй спатканне? І нашто ёй сыты чыноўнік — залежны, абмежаваны і нікчэмны?»

У шклянках адбівалася вогнішча. Пяць доўгіх ценяў клаліся ў кола на хвалісты жвір дзікага пляжа, што падступаўся пад балота, заціснутае паміж упарадкаванымі да штучнасці паркамі Дома творчасці і люстранымі вежамі ўрадавага пансіяната «Самшытавая выспа». Высока над імі ў нябачных гарах мігцелі між зораў пунцовыя агеньчыкі тэлерэтранслятара, якіх ніхто не заўважаў, покуль яшчэ было віно. Калі ж яно скончылася, размова спынілася сама сабою. Каб пазбегнуць няёмкага маўчання, Аляксей узгадаў традыцыйную ў такіх выпадках банальнасць:

— Дзве рэчы заварожваюць позірк — мора і полымя.

— Я ведаю трэцюю — дасканалы жаночы твар, — Генрык глядзеў на Дануту.

— Наогул, ёсць толькі дзве рэчы — жанчына і мора, — Каспар Францавіч падтрымаў Генрыка.

— Жанчына — не рэч, — абурылася Данута. — Я паспрабую змяніць тэму і згадаць, як у дзяцінстве любіла расказваць страшныя гісторыі. Вы чулі гісторыю пра чалавека з воўчымі зубамі?

## ЧАЛАВЕК З ВОЎЧЫМІ ЗУБАМІ

Здарылася гэта на Браслаўшчыне, у вёсцы Слабодка.

У канцы вайны, калі немцы адступалі, то на званіцы Слабодскага касцёла застаўся адзін афіцэр з буйнакаліберным кулямётам, каб затрымаць савецкія войскі. Калі ўяўляеш геаграфію тых мясцінаў, не здзівішся, што адзін чалавек цэлы тыдзень мог стрымліваць наступ пяхотнага авангарда. Адзіная дарога на паўночны захад пралягала паміж вялікіх азёраў і цалкам прастрэльвалася з касцельнай званіцы, што высілася на груду якраз паміж імі. Нарэшце падцягнулі цяжкую гармату і разбілі з яе званіцу, а параненага нямецкага афіцэра яшчэ жывога закапалі на цвінтары. У вёсцы ведалі пра немца, што звалі яго Вольф.

Новыя ўлады дазволілі аднавіць касцёл, але потым зрабілі ў ім клуб, а на цвінтары збілі з дошак танцпляцоўку. І пачала моладзь танчыць і весяліцца ў саборы. Аднойчы пасля танцаў спахапіліся: знікла дачка мясцовага старшыні — Карына Сакалова. Адна яе сяброўка Геня прыгадала, што бачыла на танцах нетутэйшага хлопца ў белай кашулі і чорных галіфэ, які запрасіў Карыну на танец, пасля чаго болей яе не бачыла. Распытвалі ўсіх, але ніхто гэтага хлопца раней не бачыў і не ведаў, адкуль ён з'явіўся ў Слабодцы. Шукалі Карыну паўсюль: і з вадалазамі ў азёрах, і з верталётамі па лясах, і нават варажбіта-экстрасэнса са сталіцы

прывозілі: пахадзіў варажбіт з бурштынам на нітцы і сказаў: «Каб жывая была, то знайшоў бы. А яна ўжо нябожчыца». Але нарэшце былы паліцай Іван Сяўрук прыгадаў, што Карына знікла якраз на дзесятыя ўгодкі, як закапалі жыўцом немца Вольфа, а яе бацька, Амельян Сакалоў, каб выслужыцца перад саветамі, браў у гэтым удзел. У вёсцы ў гэтую сувязь не надта каб паверылі, а Карынін бацька — кульгавы Сакалоў поначы адзін узарваў дошкі на танцпляцоўцы і раскапаў Вольфаву магілу. Што далей адбылося, не дазнаўся ніхто, але на раніцу знайшлі на дне магілы нежывую Карыну і Вольфа. Ляжалі яны абняўшыся, не кранутыя тлом, як учора памерлыя. А звесіўшы ў дол ногі сядзеў збялелы, знябожаны Сакалоў.

Карыну і Вольфа перахавалі. Але гэтым не скончылася. У Слабодцы пачалі знікаць дзеўкі і дзеці. Людзі баяліся выйсці па цёмнаму на вуліцу. Моладзь прыходзіла і разыходзілася з танцаў толькі па двое ці па трое.

Раз прывёз на матацыкле на танцы Геню Сяўрук яе кавалер Фрэдзя Халяўка. На танцах Фрэдзя, перахапіўшы шклянку самагону, паводзіў сябе недалікатна і падчас вальса мала таго што, гучна прыцмокнуўшы, пацалаваў Геню, дык яшчэ і ўшчыкнуў за дупу. Яны пасварыліся, і Геня выбегла за агароджу цвінтара. На дарозе, густа абсаджанай непралазнымі алешынамі і духмяным бэзам, дзяўчыну нагнала чорная машына:

— Сядай падвязу, — прапанаваў Гені Сакалоў. — Ты ж ведаеш, у гэты час небяспечна адной з'яўляцца на вуліцы.

Геня, згадаўшы ўсе жахі, што апошнім часам дзеяліся ў вёсцы, і забыўшыся на ўсе свае крыўды, села ў машыну.

— Што, пасварылася са сваім кавалерам? — пацікавіўся Сакалоў і крануў з месца свой трафейны «опель». Яшчэ не стары старшыня ў сваім заўсёдным са дня смерці дачкі чорным гарнітуры і

фетравым капелюшы гарманічна ўпісваўся ў бліскучы скураны інтэр'ер трафейнай машыны. Рухі ў лайкавых пальчатках упэўнена ляжалі на невялікім, з белай косці рулі.

— Фрэдзя як вып'е, то зусім разбасячваецца, — паскардзілася Геня.

— Што ж не надзейны кавалер у цябе?

— Ды не, ён закаханы ў мяне і зараз кінецца шукаць.

— То хочаш, правучым і папалохаем яго? — прапанаваў Сакалоў.

— Гэта як?

— Паедзем да мяне, выбераш сабе якую сукенку, з тых што засталіся пасля Карыны. Ты ўсё ж сяброўкаю яе была. А мне, самотнаму мужчыну, яны не прыдадуцца.

Геня пагадзілася, і Сакалоў збочыў з брукаванкі. Жыў ён у былым панскім фальварку, што стаяў за вёскаю на грудку. Дзяўчына, перагледзеўшы ўсе Карыніны ўборы, выбрала доўгую шаўковую сукенку, а калі выйшла ў залу, каб спытацца: ці можа яе ўзяць, убачыла, што Сакалоў ужо накрыў стол featured рознымі дзівоснымі прысмакамі: усходнімі ласункамі і густымі наліўкамі ў хрустальных графінах.

— Сядай, — Сакалоў адсунуў крэсла, — а я пагляджу на цябе, успомню Карыну. Будзеш мне сёння за дачку.

Геня сарамліва прысела на край крэсла — яе насцярожыла і збянтэжыла нечаканая і ніколі не бачаная ў гэтым доме раскоша стала. Начышчанае да бляску срэбра прыбораў: каля яе маляўнічай талеркі з тонкай парцэляны разыходзіліся ў два бакі размаітыя відэльцы і нажыкі. Такую колькасць бліскучых інструментаў яна бачыла толькі ў хірургічным кабінеце мясцовага лекара Саламона Гілепа, калі прыводзіла да яго меншага брата са скулою на шыі.

— Дзядзька Амельян, я піць не буду, — запярэ-

чыла Геня, але той усё адно наліў ёй поўны келіх наліўкі, а сабе ў срэбны кубак наліў невядомае густое пітво са збанка.

— Частуйся, а я ўжо павячэраў, — заахвоціў Сакалоў, бо Геня дагэтуль так і не наважылася дакрануцца да ласункаў.

— Халодна ў вас, дзядзька Амяльян, як у склепе, — не знайшла лепшага параўнання дзяўчына.

— Чакай, я табе зараз футра прынясу, — Сакалоў выйшаў у суседні пакой.

Застаўшыся адна, Геня пацягнулася за глянцавітым міндальным печывам і выпадкова перакуліла на падлогу кубак гаспадара. Чырвонае пітво імгнення загусцела на кіліме. Пачуўшы крокі Сакалова, яна спалохалася, хуценька пераставіла крэсла на пляму і не паспела нічога прыдумаць, як пераліць сваю наліўку ў пусты гаспадарскі кубак.

— Гляджу, ты ўжо выпіла, — Сакалоў накінуў на Геніны плечы гарачае воўчае футра, — то і я следам за табою. — Ён закінуў голаў — на яго жылістай шыі скалануўся вялікі, як кулак, кадык — і кульнуў кубак з наліўкаю ў шырокае горла. Раптоўна кінуў кубак і высалапіў учарнелы язык, нібыта хапануў гарачае смалы. Схапіўшыся за шыю, ён выбег на кухню.

Геня пабегла следам і ўбачыла, як Сакалоў ванітуе, сагнуўшыся над ракавінаю. З ягонага шырока расчыненага рота вывальваліся кавалкі сырога мяса, і ён ледзь паспяваў сціраць з падбароддзя крывавую сліну. Сакалоў скурчыўся, навалiўся жыватом на край ракавіны і зрыгнуў дзіцячую руку. Геня страціла прытомнасць.

Апрытомнела дзяўчына на той жа кухні, толькі ляжала яна звязаная на стале і да яе аголенага жывата прынюхваўся дзікаваты чаратовы кот з кутасікамі на загостраных вушах. З залы чуліся бойка і валтузня. Нарэшце, калі ўсё сціхла, на кухню зайшоў Сакалоў з ацынкаваным вядром

у руках:

— Казаў, што мы правучым твайго кавалера, — ён выняў за валасы з вядра адрэзаную Фрэдзіну галаву. — Уратаваць цябе хацеў, — Сакалоў хіжа ўсміхнуўся, і Геня заўважыла ў ягоным роце драпежныя воўчыя іклы.

— Ма-ма, та-та! Памажыце! Уратуйце хоць хто-небудзь! — залямантавала Геня.

Не звяртаючы ўвагі на енкі ахвяры, ваўкалак затанчыў па кухні вакол стала. У пакоі схаладала, як у лядоўні, і адчувальна патхнула саладкаватым тлом. Ад смуроду і жаху Гене зрабілася млосна.

Раптоўна расхінулася акно, і з падваконня саскочыў малады мужчына ў чорных галіфэ на зялёных падцяжках і шырокай белай кашулі. Ён падаў руку і дапамог спусціцца ў пакой нябожчыцы Карыне, што была ў той жа белай сукенцы, у якой яе клалі ў труну.

— Вольф, я знішчу цябе! — Сакалоў кінуўся да маладзёна.

Вольф схапіў ваўкалака і зацiснуў ягоную шыю. У ягоных дужых руках захрумсцелі Сакаловы пазванкі, і пачвара са скручанай набок галавою асунулася на падлогу.

— Скажы, каб пахавалі бацьку на цвінтары, але крыж хай паставяць у нагах, — Карына развязала Геню: — І галаву ўпыра хай праб'юць доўгім цвіком.

Вольф паклаў на стол іржавы каваны цвік, і, узяўшы на рукі Карыну, знік у акне. Геня пачула, як завялася машына.

На досвітку каля дома Сакалова сабралася ўся вёска. Мужчыны пазбівалі замкі і ў пограбе знайшлі ўсіх зніклых дзяўчат і дзяцей. Іх абяскроўленыя целы віселі пад скляпеннямі на жалезных круках. А трохі пазней каля могілак знайшлі адчыненую машыну Сакалова, якую потым ніхто так і не змог адрамантаваць.

Упыра-ваўкалакf пахавалі, як радзіла Геня, на цвінтары, з цвіком у галаве, і крыж з асіны-адна-

годкі паставілі ў нагах.

* * *

Генрык заўсёды, калі чытаў або слухаў, то на месцы герояў ставіў сваіх знаёмых. Вобразы рабіліся аб'ёмнымі і жывымі. Вось і цяпер ён уяўляў сябе Вольфам: з кулямётам на званіцы, і побач з ім на бляшанцы з патронамі — расчынены партсігар. Дануту, якая шчыра расказвала вясковае паданне, ён уяўляў то па-сялянску даверлівай Геняю, то ўзнёсла-спакутаванай праз свайго бацьку Карынай. Ён нават прымружыў вочы і ўбачыў, як едзе з ёю на трафейным «опелі» паміж асветленых месяцам вялікіх азёраў.

* * *

Кожную раніцу Генрык бегаў у вёску па малако і вяртаўся ўжо пляжам. Невысокае яшчэ сонца залаціла люстраную вежу пансіяната, ружаватыя карпусы абапал яе ашчэрваліся бязлюднымі скрынямі лоджый. Ён мінуў зарасці алеандру і апынуўся на дзікім пляжы. Верх стромкага адхону ўкрывалі шчыльныя бамбукі. На месцы ўчарашняга вогнішча самотна курыўся скарлючаны корч. Попел раздзьмуў ранішні вецер. Генрык укрыў ад сонца слоік з малаком кашуляй і шортамі. Па-свойску спакойнае мора было пацягнута лёгкаю сеткаю рабаціння. Плаваў ён нядоўга, бо яшчэ з вады заўважыў знаёмую постаць. Але нават няспешна ісці заўсёды хутчэй, чым плыць. Калі стомлены Генрык выплыў да берага, Данута ўжо сядзела каля ўчарашняга вогнішча. Доўгія валасы былі заплецены ў касу і ўкладзены вянцом. Замест вычварнага кімано яе дзявочую постаць шчыльна аблягалі джынсовыя шорты і крацястая кашуля.

— У Менску б я магла сказаць, што забылася пальчаткі і прыйшла па іх, — Данута глядзела на

яго знізу, — але тут усё прасцей...

— І дзякуй богу. Піць будзеш?

— З ранку?

Генрык згарнуў кашулю і прапанаваў ёй малако. Данута манерна схілілася да белага слоіка і адпіла, як пакаштавала. Над ружовымі вуснамі засталася вузкая сметанковая паска. Данута са смакам злізнула яе кончыкам гострага языка. Генрык піў доўга і не адрываючыся, як п'юць дзеці.

— Учора так і не прыдумаў, як прызначыць табе спатканне.

— Як бачыш, прызначыў.

— А ў твайго мужа часам няма падзорнае трубы? — Генрык сеў поруч.

— А ў тваёй жонкі?

— Ніколі не паспяваў ажаніцца.

— Затое я паспяваю паўсюль. У мяне яшчэ і сын застаўся ў Менску.

— Пойдзем на каву? — Генрык пачаў збірацца.

— На каву з малаком? — удакладніла Данута.

— То пайшлі.

— Не зараз.

— Увечары?

— Удзень.

— Пасля палудню на пірсе.

* * *

На пірсе кожны меў свой занятак: старыя з вудамі лавілі срабрыстых стаўрыдак, якіх Войнічу было нязвыкла бачыць жывымі, а толькі заледзянелымі, у рыбных крамах; малыя скакалі і скідвалі адзін аднога ў зеленкаватую глыбокую ваду. Адзін Генрык вылучаўся паважнаю ўрачыстасцю і нецярплівасцю. Данута відавочна не спяшалася на сустрэчу. Нарэшце яна з'явілася, калі змораны спёкаю Генрык ужо збіраўся распрануцца і скочыць у ваду.

— У нас часу да вячэры, — павіталася Данута.

Брукаваную абкатаным марскім каменнем сцежкаю яны выйшлі на праменад. За жываплотам застаўся спякотлівы паўдзённы пляж. У засені аплеценых шыпшынаю бамбукоў патанаў мазаічны ходнік. Час ад часу даводзілася схіляць галовы, каб мінуць гострае, як шаблі, бамбуковае лісце. Ярусам вышэй млосна квітнела акацыя. Зацішныя пергалы трымалі на сваіх кратах цяжар трапічнай зяляніны. Вузкі праход быў забраны панцырнай сеткаю, за якой разлягалася керамічнае пакрыццё тэніснага корта. Па сетцы віліся, а дзе-нідзе і ўраслі ў дрот тоўстыя канаты лазы, абсыпаныя буйным загостраным лісцем.

— Ледзь-ледзь дайшоў стамлёны падарожнік да начлегу, і раптам... Гліцыній квецень! — Генрык крануў вузлаватую лазу. — Гэта гліцынія, але ў траўні яна не квітнее.

— Гэта Басё, — падтрымала настрой Данута.

— Бачыш чэзлую вярбу з дробным, як парэзаным нажніцамі, лісцем? То яна чамусьці тут называецца алеандрам, а той хмызок пад ім — хенаменіс.

Данута заінтрыгавана глядзела на Генрыка.

— Трохі далей — пальмы: як бочка — буцыя, а тонкая калматая — кардзіліна.

— А гэта? — Данута паторгала доўгую гострую расліну, што расла купінаю, не раўнуючы гіганцкі дзікабраз.

— Пампаская трава, — не вагаючыся адказаў Генрык. — Або новазеландскі лён, — удакладніў ён. — Летась тут паўсюль былі шыльдачкі, а гэтыя стаялі побач.

— А дзе летась была шыльдачка з хоку Басё? — пацікавілася Данута.

— Хоку я прачытаў у жаночым календары, відаць, як і ты.

Са сцяблíны пампаскай травы ўзняўся начны матыль з крыламі, як жаночыя далоні, і паляцеў да крытага басейна.

У бары было пуста, цёмна і самотна, як у вечаровым лесе. Генрык замовіў стабільныя ў такіх выпадках шампанскае і шакалад. Прысадзістыя скураныя крэслы з гнутай нікеліраванай арматурай здымалі напружанне і расслаблялі, маленькі круглы столік на дваіх і цяжкая хрустальная попельніца стваралі штучны інтым і замаруджвалі час.

— Раскажы пра сябе, — папрасіла Данута.

— Я больш люблю слухаць, — Генрык расчыніў плоскі срэбны партсігар з выгравіраваным на вечку коннікам у латах і запаліў папіросу з доўгім папяровым муштуком.

— Я нарадзілася ў Менску, і не разумею, чаму мы мусілі сустрэцца менавіта тут?

— Відаць, нашы жыцці ў розных пласкасцях, і аб'ядноўвае нас толькі адпачынак.

— Я журналістка, вяду ў штотыднёвай газеце крымінальную хроніку, — Данута паклала на стол пачак ментолавых цыгарэт.

— А як жа ж, чытаю твае матэрыялы: «Студэнтка Дз. у ванным пакоі адрэзала геніталіі свайму каханку студэнту-афрыканцу Дж., бо той адмовіўся ажаніцца і забраць яе ў Афрыку». Такія показкі табе, відаць, цягае муж са службы. Ты пішаш, а потым хаваеш ад сына газеты?

— Сыну сем гадоў, і матэрыялы я знаходжу сама, — абурылася Данута. — Я працую ў «Нашай ніве», а не ў брудным «Прыватным дэтэктыве», дзе «пад весну ў вадасховішчах рэспублікі тапельцы выскокваюць з-пад вады, нібы мячыкі».

— А ты такога не пішаш?

— Спадзяюся, што не. У гэтым няма нічога цікавага. Мяне прываблівае толькі тое, што тычыцца культуры: выкраданне леанардаўскае «Джаконды», знікненне кароны Вітаўта Вялікага, крыж Еўфрасінні Полацкай.

— І як поспехі? Справы ж безнадзейныя і безвыніковыя.

— Журналіст — ані следчы, ані суддзя, ані кат. Сэнс тут не ў пакаранні злачынцы: зладзействы творaць не людзі, а рэчы, якія мацнейшыя за іх. Гэта выпрабаванне на трываласць, і мяне ў тым ліку.

— Гэта занадта адасоблена ад рэальнасці: сапраўдную каштоўнасць маюць толькі грошы, бо яны універсальныя і здатныя пераўтварацца ў рэчы і забіраць жыццё, — Генрык збіў попел, і агеньчык папяросы паўтарыўся на гранях хрустальнага арнаменту. — Мастацтва унікальна, але золата універсальна.

— Няма пра што спрачацца. Літаральна месяц таму з Радзівілаўскага палацу ў Нясвіжы знікла радавая калекцыя зброі, якая лічылася лепшай калекцыяй старажытнае зброі ў Еўропе. Вядома, што яе раскралі ў час вайны савецкія афіцэры — у палацы месціўся штаб 1-га Беларускага фронту на чале з маршалам Жукавым. Пасля іх палац застаўся абрабаваны і знявечаны ўшчэнт. Магчыма, і зараз нашчадкі савецкага маршала гуляюць з радзівілаўскімі шаблямі і алебардамі. Нядаўна высветлілася, што меншую, але найбольш каштоўную частку калекцыі паспеў перахаваць княжацкі бібліятэкар Сідарэвіч; ён і дагэтуль працуе ў палацавай бібліятэцы. Месяц таму ён нарэшце прызнаўся, што сорак сем гадоў хаваў зброю Радзівілаў ад камуністаў. Прызнацца яго прымусіла тое, што зброю ўкралі з тайніка, але крымінальную справу так і не ўзбудзілі, бо ў яго не было доказаў існавання калекцыі — фотаздымкі, зробленыя ў пасляваенны час, зніклі таксама.

— Ты ў гэтым пераканана? Быццам бы справу не ўзбудзілі з-за адсутнасці доказаў існавання калекцыі?

— Я разумею, што пабаяліся, каб за вялікімі каштоўнасцямі не выплылі вялікія людзі, да таго ж была цудоўная фармальная зачэпка. — Данута адсунула на сярэдзіну століка пусты келіх.

— І ты вырашыла прыватным чынам разблы-

таць гэтую справу і знайсці смарагдавы стылет Бенвенута Чэліні з радзівілаўскае калекцыі?

— Так, але адкуль ты?..

— Я не раю табе займацца гэтым. — Генрык падняўся і ўкінуў у кішэню партсігар. — Пасля шампанскага някепска будзе выпіць кілішак яечнага лікёру: хадзем да мяне, ёсць пляшка шатландскага разліву.

З лоджыі Генрыкавага нумара праглядаліся ў дзённай смузе парослыя калматаю зелянінаю горы, нізкія вяршыні якіх патаналі ў свежых аблоках. Паміж шашою і гарамі зелянела глянцавітае футра мандарынавых плантацый. У рэдкіх плямінах балотцаў адбіваўся шкляны блакіт нябёсаў. За спартоваю пляцоўкай бялелі крэйдавыя камяні пляжу. На моры панаваў меланхалічны стыль.

Генрык расклаў шэзлонгі і паставіў з лядоўні на стол распачатую кварту лікёру. Густы і водарны трунак апёк вусны. Данута правалілася ў шэзлонг і ўперла мыскі басаножак у балконныя краты. Сонца пазалаціла бліскучую скуру лытак.

Генрык адною рукою фамільярна расшпіліў дробныя гузікі на Дануцінай кашулі. Каўнер разышоўся і вызваліў смуглыя плечы. Паміж цнатліваспакуслівых грудзей алейна блішчэў бурштынавы крыжык на залатым ланцужку. Данута прагнулася і ўзяла з падваконня вайсковы бінокль:

— Ты падглядаеш за чужымі вокнамі? — яна навяла аб’ектывы бінокля на вежу пансіяната: — Шкада, не чуваць гукаў.

— Паглядзі куды бліжэй, і пашкадуеш, што не адчуваеш дотыкаў, — Генрык скінуў кашулю.

— Глянь, ці не шакал гэта на балоце, у жоўтых кветках? — Данута перадала бінокль.

— Па начах каля возера крычаць паўліны, — Генрык нядбала зірнуў у акуляр і раптам змяніўся з твару.

— У цябе такі выгляд, нібы ты глядзіш у твар нябожчыку, — Данута ўстрывожана ўзяла яго за руку.

— Ты змяніла ўсе мае планы на адпачынак, — ён паспешліва пачаў апранацца. — Ты бачыла, як цвітуць каноплі?

Данута паціснула плячыма.

— То паглядзі, — Генрык вярнуў бінокль. — Цэлае мора канопляў. Гэта сапраўдная каўказская анаша, а тут яе — за год не спаліць!

— Ты паліш анашу? Можа, ты наркаман? — Данута, вагаючыся, зашпільвала кашулю.

— Калі не падабаецца слова «анаша», то называй яе марыхуанаю. — Генрык укінуў нож у палатняную торбу і пацягнуў Дануту з нумара.

На краі балота Данута спынілася:

— Далей не пайду.

— Дарма. Далей кайф, без умоўнасцяў і этыкетаў, — Генрык расцёр далонямі жоўтую квецень і прыклаў рукі да твару, — Гэта Рай, сапраўдны зямны Рай.

— Але рай на аднаго...

Першую папяросу ён набіў пылком канапель, калі асляпляльны сонечны шар крануў вяршаліны рэліктавых соснаў. Данута зачаравана сачыла за свяшчэннадзействам ператварэння папяросы ў забаронены наркатычны плод. Ён двойчы зацягнуўся, затрымаў дыханне і перадаў папяросу. Яе ўзяло з першай зацяжкі. Душа адасобілася ад цела, мятны водарны дым паплыў над вадою. З кожным уздыхам яны адыходзілі ў свет мрояў. Цені дрэваў даўжэлі і незаўважна накрывалі пляж. Спакваля з гор на ўзбярэжжа спускалася цемра. Але ім удваіх не было самотна — ярка свяціўся магічным крышталем агеньчык папяросы. Яны распусціліся ў прасторы, адчулі сябе адначасна і распаленым жвірам пляжу, і музычным рытмам прыбою, і задушліва вільготным паветрам, яны ўзняліся над светам, і нават зоры, як мігатлівыя

светлякі, здавалася, былі ў іх пад нагамі. У кайфе, зведаным імі, не было нічога фізічнага, знікла жаданне кіраваць сваім целам, яны ляжалі абняўшыся на мулкім каменні, і не было патрэбы ў большай асалодзе, ім здавалася, што яны і так дасягнулі шчаслівага сэнсу жыцця.

Першым іх заўважыў генерал унутраных войскаў Каспар Францавіч Матрашыла — пасля таго, як яны разам з Аляксеем у пошуках Дануты абышлі ўсе тамтэйшыя бары і вярталіся берагам да пансіяната.

Аляксей ашчадна ўзяў жонку на рукі і панёс да «Самшытавае выспы». Генрыка гэта толькі забаўляла. Ён забіў кайфам яшчэ адзін касяк, і толькі на досвітку за ім прыйшоў Арсен.

## 2. Менск

Канструктывісцкія аб'ёмы Дома ўрада люстрыліся цёплым таніраваным шклом. Раманскія вежы касцёла святых Сымона і Алены падбіраліся да цэментовых навальнічных хмар. Ранішні холад спараджаў прадчуванне залевы: здавалася, неба вось-вось апусціцца на галоўны пляц рэспублікі. Генрык набыў у кіёску пачак газет і ўзняўся шырокімі гранітнымі сходамі да чарады бакавых дзвярэй, аб'яднаных вузкаю шыльдаю «Рада міністраў». У шкляной паверхні дзвярэй адбілася Генрыкава постаць у твідавым двухбортным гарнітуры і ў рудых чаравіках з кракадзілавай скуры, каўнер шаўковай смарагдавай кашулі сціскаў чырвоны гальштук з турэцкім арнаментам.

Створкі хуткаснага ліфта рассунуліся, адкрыўшы латунную, нашмараваную, як салдацкая спражка, шыльду «Міністэрства культуры».

Сакратарка міністра Тася (у міністраў сакратаркі заўсёды або пякельныя брунеткі, або звар'яцелыя старыя вядзьмаркі, але гэта была пышнаю бландзінкаю) ветліва прапанавала фатэль і націснула

клавішу селектара:

— Кім Сымонавіч, да вас Генрык Войніч?

— Няхай зойдзе праз пяць хвілін, — з дынаміка прагучаў роўны прафесарскі барытон — з такім тэмбрам толькі чытаць лекцыі па гісторыі мастацтва.

Генрык паклаў перад сакратаркаю празрысты футаральчык з абхазскім самшытавым грабеньчыкам са срэбным аздабленнем. Тася задаволена аглядала падарунак.

— Памятка з Каўказа, — Генрык рабіў падарункі знаёмым жанчынам не з пэўнымі мэтамі, а так, як госці прыкормліваюць гаспадарскіх сабак.

— Памятка дзён, што ў нябыт уцяклі, — працытавала Тася і ўкінула грабеньчык у рыдыкюль. — Няўжо так можна загарэць у траўні?

— Гэта не паспеў сысці леташні загар.

— А я апальваюся блага, цела занадта пяшчотнае, баіцца сонца, — яна пульхнаю рукою з памаранчыкавымі пазногцямі паправіла высокую фрызуру.

— Загарайце пры месячным святле. Шкада, што мы не адпачывалі разам.

— А дзе вы былі?

— У канапляным раі.

Сакратарка здзіўлена зірнула ўслед Генрыку, калі ён заходзіў у кабінет да міністра.

Кім Сымонавіч Валовіч падняўся ва ўсю веліч свайго двухметровага росту і выйшаў з-за ампірнага стала, які раней аздабляў не менш як бібліятэку князёў Патоцкіх.

— Я ж прасіў, каб цябе без пільнае патрэбы ў міністэрстве не бачылі, — міністр даў руку, на ягоным па-конску выцягнутым твары адбілася незадаволенасць. Ён адкінуў з ілба пасму сівых, як выбеленых вапнаю, валасоў. Мажны і грунтоўны, ён аднолькава добра глядзеўся як і ў тэатральным інтэр’еры свайго кабінета, так і на адкрыццях

манументальных мемарыялаў.

— Вы ж самі выклікалі мяне з адпачынку тэлеграмаю.

Міністр адчыніў схаваныя за дубоваю панэллю дзверы і запрасіў Генрыка ў пакой для адпачынку. Пакой нагадваў запаснік мастацкага музея: шкляны стэлаж са стосамі каралеўскае парцэляны, сцяну над гасцявою канапаю ўкрываў цьмяны баракальны габелен пастаральных матываў, у драўлянай падстаўцы каласіўся размаітымі эфесамі пук рапір і шабляў.

— Пяройдзем да справы, — міністр адчыніў бар у сакрэтніку і паставіў на мармуровы столік калекцыйную бутэльку грузінскага каньяку: — У мяне ёсць пэўны заказчык на пару-тройку старадрукаў, якія ў экспазіцыі Веткаўскага музея. Можаш разлічваць на дваццаць працэнтаў.

— Вы ж ведаеце, што я працую за цвёрды ганарар, з цвёрдым авансам, — Генрык пакаштаваў каньяк.

— Вось спіс патрэбных мне кніжак, — міністр падаў аркуш, — часу ў цябе не больш за тыдзень. Цяпер наконт ганарара, — міністр насцярожана змоўк і ўсклаў акуляры.

— Пяць тысяч даляраў наперад, астатнія потым, — Генрык яшчэ раз напоўніў чарку і выпіў.

Міністр адмоўна пахітаў галавой:

— Днямі праз Вярхоўны Савет прайшло адсяленне Веткі за межы забруджанай радыяцыяй зоны. У музеі звычайная сігналізацыя. Я магу зараз заплаціць не больш як тры: Ветка не Луўр, і ты ідзеш не на Джаконду, — міністр узвысіў голас.

— Мне трэба агледзецца на месцы, — Генрык падняўся: — Я паразваню.

## 3. Ветка

Святло фар выхапіла з цемры дарожны ўказальнік з назваю мястэчка — «Ветка», пера-

крэслены люмінісцэнтнаю стужкаю. Генрык настроіў прыёмнік на начную музычную хвалю і глянуў у пукатае люстэрка задняга агляду. Джып Генрыка пакідаў за сабою ярка асветленую галагеннымі ліхтарамі местачковую вуліцу і набіраў хуткасць па роўным асфальце шашы. Мініяцюрныя калонкі прыёмніка пульсавалі старым шлягерам: «Ой, я лягу-прылягу...» Праз колькі тактаў радыёперашкоды знішчылі музыку, дынамік затрашчаў, як смалісты корч у каміне. Генрык глянуў у акно: шашу перасякала высакавольтная лінія электраперадач.

Далёка ў лагчыне бліснула рачулка, на падыходзе да яе шаша была перасыпана гурбамі жвіру, у адной з якіх крыва тырчэў указальнік аб'езду. Над паўразабраным мостам навісала тонкая страла аўтамабільнага крана. Пад штабелем гравію безжыццёва блішчэла адпаліраванае лязо нерухомага бульдозера. Генрык аб'ехаў стос жалезабетонных панэляў і прыпыніў джып у цемры пад цыліндрамі цэментасховішчаў.

Сіняя МАЗаўская кабіна была замкнёная на навясны замок. Генрык падчапіў яго арматураю і сарваў без асаблівых намаганняў. З незапаленымі фарамі Генрык вывеў МАЗ на асфальт. Неўзабаве ён збочыў на палявую дарогу і ўз'ехаў на пагорак, за якім разлягаліся агні Веткі. Ён узняў стралу крана, стаў на падножку кабіны і рэзка тарганул рычаг хуткасцяў. Машына з высока ўскінутаю стралою ірванулася з месца. Генрык саскочыў у колкае жыта. МАЗ, валюхаючыся на раллі, набіраў разгон. Раптоўна неба асвяцілася маланкавымі сполахамі, феерверк электрычных разрадаў выбухнуў у паветры. Кран абарваў лінію электраперадачы, алюмініевыя драты разляцеліся ў бакі і звіліся ў спіралі. Пад сарваным дротам закурэла і запалымнела зямля. Генрык падняўся, абтрос калені і азірнуў-ся — Ветка патанала ў цемры.

Генрык спыніўся на пляцы перад музеем і вый-

шаў да тэлефона-аўтамата. У вокнах мястэчка дзенідзе ўжо пазапальваліся газніцы і свечкі. Тэлефонная слухаўка маўчала, як душ з адключанаю вадою. Разам з тэлефоннай станцыяй у Ветцы адрубіла і музейную сігналізацыю.

Войніч нетаропка абышоў музейны будынак і спыніўся перад службовым уваходам. Рука ў пальчатцы сціснула адмычку, падобную да прымітыўнага хірургічнага інструмента.

Шчыльны прамень кішэннага ліхтарыка слізгануў па паркетных сходах, адбіўся ў вітрынным шкле. Шыхты зжоўклых фаліянтаў у грувасткіх скураных пераплётах і важкіх каштоўных акладах займалі цэлую сцяну. Рабаўнік павёў ліхтарыкам: з цемры заззялі золатам німбаў праваслаўныя абразы. Ён выняў вітрыннае шкло і, звяраючыся са спісам, пачаў пакаваць кнігі ў свой ёмісты саквояж, калі адчуў, як мулкі зрэз рулі драбавіка 16-га калібру прыткнуўся да ягонае патыліцы.

— Не варушыся, паскуда, бо калі стрэлю, застанешся без галавы, — рэзка выбухнуў за спіною голас вартаўніка.

— Адкуль ты ўзяўся? — шчыра здзівіўся Генрык і асцярожна паставіў на падлогу саквояж.

— Гэндэ гох, — чамусьці па-нямецку загадаў вартаўнік.

— Гітлер капут, — у тон яму адказаў Генрык і ўзняў рукі.

— Старога партызана-чакіста не абдурыш, я на сваім вяку ў СМЕРШы і немцаў, і паліцаяў, і нацыяналістаў пастраляў — не злічыць, рука не схібіць. А ты спрытны бандзюга — і святло адрубіў, і тэлефон, але аднога не ўлічыў, што стары партызан на варце. Пайшоў наперад. Крок улева, крок управа лічу за ўцёкі, — вартаўнік падштурхнуў руляю Генрыка.

Яны выйшлі на сходы, ледзь асветленыя праз гатычныя вокны ільдзянаю поўняю.

— Каб на лепшыя часы, то на месцы б і прыст-

рэліў...

Генрык перапыніў сентыментальныя ўспаміны старога: рэзка прыгнуўся і перахапіў рулю драбавіка. Акаваны жалезам прыклад зброі глуха саданіў у сківіцу былога партызана, і ягоная штучная пашчэнка з жалезнымі ікламі паскакала сходамі. Вартаўнік сеў на дупу і, вырачыўшы вочы, сачыў за Генрыкам, які з выглядам егера на панскім паляванні ўскінуў стрэльбу на плячо.

Стары ціснуўся да сцяны, слізгаючы па паркеце скуранымі абцасамі мяккіх юфцевых ботаў. Цёмнае завялікае галіфэ целяпалася на ўсохлых сцёгнах, на плячыстым фрэнчы блішчэлі, як цукерачныя фанцікі, ордэнскія планкі, з-пад казацкага картуза выбіваліся рэдкія сівыя валасы. Ён плямкаў бяззубым ротам, пад якім калмацілася стараверчаская барада.

— Ты, відаць, яшчэ і ў бога верыш? — спытаў Генрык.

— Веру, сынок, а як жа ж не верыць? — стары паспешліва заківаў.

— Старавер? — удакладніў Генрык.

— Так, па старому абраду.

— А на абразы пляваць будзеш, — падступіўся да яго Генрык.

— Буду. Чаму ж не плюнуць?

— То які з цябе старавер. — Генрык адкінуў лязо нажа і нахіліўся над старым. — Мацней трымайся за бараду, — ён узмахнуў нажом, і пук валасоў задрыжэў у сціснутай руцэ вартаўніка.

## 4. Менск

Міністр па-прафесарску замілавана гартаў старадрукі. Генрык няспешна смакаваў сухі херас са срэбнага кубка, аздобленага гербам. Вокны Генрыкавай кватэры выходзілі на Кальварыйскія могілкі, што ўзнімаліся над катлаванам метрабуда аснежанымі тапалёвым пухам шатамі дрэў. Над

званіцаю касцёла спуджана кружляла зграя варон. Раптоўная пройма занесла ў пакой пёркі пуху. Генрык зачыніў вакно і зашморгнуў фіранкі. Міністр паклаў на стол пачак зялёных банкнотаў, перацягнуты аптэкарскай гумкаю:

— Ёсць наступны заказ.

Войніч ад'ехаў ад стала ў фатэлі, маленькія колцы мякка пракаціліся па высокай футры кіліма, што ўсцілаў усю падлогу. Над вузкай канапаю вісеў гарадскі краявід у дубовай раме: пахмурнае неба над дахамі старога Менска, бязлюдныя вуліцы, самотны трамвай.

Міністр прабегся вачыма па кніжных паліцах і задаволена спыніў позірк на томіку з уласным прозвішчам на карэньчыку.

— Пакінце аўтограф, Кім Сымонавіч, — Генрых зразумеў думкі міністра.

— Другім разам, — ён павярнуўся да Генрыка. — Наступны заказ — кватэра мастака Вашчылы: ты возьмеш графічныя лісты Малевіча, — міністр паказаў Генрыку фотаздымкі з супрэматычных малюнкаў.

### Навела пра тое, як злодзей стаў міністрам

Сярод злодзеяў няшмат міністраў, затое сярод міністраў шмат злодзеяў. Хіба зможа прыстойны чалавек абмінуць усе перашкоды дзяржаўнай машыны, пацучыную валтузню бюракратычных кулуараў і займець міністэрскі кабінет з цэлым штатам разматых сакратарак? На такі подзвіг здатны толькі вытанчаны ліслівец і прайдзісвет, інтрыган, рафінаваны бюракрат, хітры служака... Каму не хапае гэтых азначэнняў, раскрыйце слоўнік сінонімаў і паглядзіце раздзелы на словы: злодзей, свалата, паскуднік, шкоднік, рэнегат, здраднік, пярэварацень, гвалтаўнік, спакуснік, вылюдак, мярзотнік, ліхадзей, вырадак, недавярак, падла, шэльма, гіцаль, абармот, плюгавец, пра-

хвост, гадасць, нелюдзь, латрыга, злыдзень, жываглот, псялыжнік, зараза, халера, пачвара, змей, звер, сабака, гніда, сукін сын, тарбахват, крамнік... ж ы д . І нікога не здзівіш спалучэннем гэтых слоў з пасадаю міністра.

Біяграфію міністра, як і ўсіх іншых прадстаўнікоў вышэйшае ўлады, прынята падаваць у жанры жыція святых: угоднікаў, пакутнікаў і цудатворцаў разам узятых. Адно пэўна, што спраўна служылі яны не богу, а чорту лысаму.

Кім Сымонавіч Валовіч нарадзіўся ў 1930 годзе ў Кажан-Гарадку, у беднай, гаротнай, шматдзетнай, малазямельнай сям'і. Бацька міністра Сымон Валовіч гнуў спіну і на цара-расію-айчыну, і на той яшчэ кайзераўскі фатэрлянд, і на тых пілсудчыкаў — польскіх легіянераў, якім, як выхваляўся міністраў бацька, далі пад сраку, і на тыя саветы, якія ў 39-м годзе шаблямі пасеклі польскіх асаднікаў, і нават на гэтых немцаў-фашыстоўцаў, бо ў вайну абіралі Сымона Валовіча бургамістрам. А як пачалі гады праз два немцаў прыціскаць, спаліў Сымон управу, сышоў у партызаны і яшчэ паспеў перахапіць пару чырвоных ордэнаў.

Маці Алена Валовіч, у дзявоцтве Рэпка, нарадзіла сямёра дзяцей і ўсіх выгадавала, ніхто не памёр, і лічылі яе ў мястэчку вядзьмаркаю.

Кім Сымонавіч Валовіч нарадзіўся першым, і далі яму імя Адольф, у гонар дзеда, які ў сваю маладосць служыў у гусарскім палку і нават меў медаль «За усмирение бунта 1863 года»; кожную раніцу рабіў дзед Адольф гімнастыку з шабляю і быў чалавекам рахманым і лагодным, пражыў пад сто гадоў.

Перад тым як спаліць управу і сысці ў партызаны, Сымон Валовіч справіў новыя дакументы, у якіх паганскае сынава імя змяніў на Кім, і ператварыўся Адольф у Камуністычны Інтэрнацыянал Моладзі.

А пачатковую адукацыю Адольф-Кім атрымаў у хедары — рэлігійнай яўрэйскай школе, нягледзячы на тое, што ніколі яўрэем не быў. Бо маці Алена працавала прыбіральшчыцаю ў хедары і лічыла, што няма розніцы, на якой мове вучыцца, абы адукацыю атрымаць.

Вучыўся Кім Сымонавіч добра, і прыдалася яму навука ў хедары, як ні дзіўна, калі прыйшлі немцы: ён лёгка перавучыўся з ідыша на дойч — дзякуй богу, мовы аднаго германскага кораню — і пачаў падзарабляць на перакладах у бацькавай управе. Першым грамадска значным учынкам, з якога пачалося ўзыходжанне Кіма як бюракрата-чыноўніка, было складанне па загаду жандармерыі дакладнага спісу выкладчыкаў хедара. З заданнем ён справіўся на выдатна, выкладчыкаў назаўсёды звезлі ў гета.

Пасля вайны, з афіцыйнаю папераю, што ён былы партызанскі сувязны, Кім прыехаў у Менск і паступіў у мастацкую вучэльню, пасля якой падаўся на мастацтвазнаўчы факультэт Акадэміі мастацтваў, дзе і прыжыўся: паступіў у аспірантуру, застаўся выкладчыкам, абараніў дысертацыю «Партызанскі фальклор у выяўленчым мастацтве» і хутка ўзняўся да рэктара (звычайна творчыя ўстановы ўзначальваюць не мастакі, а мастацтвазнаўцы). Вось на пасадзе рэктара і акрэсліліся крымінальныя здольнасці Кіма Сымонавіча. Завяла яго ў ліхі бок страсць калекцыянера — збіраў ён кнігі, абразы і розную драбязу: ордэны, медалі, грошы. Усе ягоныя заробкі разам з прэміямі і ганарарамі ішлі на збіральніцтва.

Аднойчы агледзеўся Кім Сымонавіч, што ў немалой прафесарскай кватэры не развярнуцца ад груваcткай антыкварнай мэблі, стэлажоў з кнігамі і калекцыямі, і задумаў ён перабрацца ў магнацкі асабняк, не раўнуючы, як у намесніка старшыні Рады міністраў. Пачаў ён прыглядацца да ўрадавых асабнякоў і ўпадабаў двухпавярхо-

вую сядзібу ў цэнтры Менска, дзе жыла сям'я нябожчыка акадэміка Мікольскага — былога прэзідэнта Акадэміі навук.

У Мікольскіх не было сваіх дзяцей, і перад вайною ўзялі яны сабе з дзіцячага дому дзяўчынку — яўрэйку Сарачку. А як пачалі немцы бамбіць Менск, паскідаў акадэмік рэчы ў машыну і падаўся з жонкаю ў Маскву, а Сарачку кінулі на лецішчы з пакаёўкаю Янінаю. Не дачакалася пакаёўка сваіх гаспадароў і павяла дзяўчынку да сябе ў вёску. А каб не дазналіся фашыстоўцы, што Сарачка яўрэйка, перахрысціла яе Яніна ў касцёле. Пасля вайны Мікольскія знайшлі і забралі дачушку ў Менск.

Неўзабаве акадэмік сканаў, а Сара пайшла замуж за гандляра. А як памерла акадэмікава жонка, то ў той жа дзень выкінула Сарачка на сметнік яе канапу. І гэта прыгадаў Валовіч у сваім артыкуле, калі пачаў патрабаваць зрабіць у асабняку Мікольскіх музей акадэміка. Сабралася Сарачка і падалася з сям'ёю на зямлю сваіх продкаў, у Ізраіль. Застаўся асабняк без гаспадароў. Тут і забыўся Валовіч на музей Мікольскага і ў чарговым артыкуле сумленна прыклаў нябожчыка-акадэміка. Неўзабаве Кім Сымонавіч усяліўся ў той асабняк, які вымяняў у гарадскіх уладаў на чатыры кватэры, што выдзеліла дзяржава для выкладчыкаў Акадэміі мастацтваў. А каб запакаваць неабсяжныя пакоі асабняка адпаведным начыннем, прафесарскай зарплаты яўна не хапала, і пачаў Кім Сымонавіч круціць далей дробныя афёры: пускаў налева кватэры, машыны і іншыя даброты, што давала дзяржава Акадэміі.

На адным з урадавых банкетаў пазнаёміўся Валовіч з германскім прамыслоўцам-калекцыянерам і пачаў выхваляцца сваімі здабыткамі. Германскі прамысловец зацікавіўся калекцыяй Валовіча і прапанаваў прадаць колькі рэчаў. Кім Сымонавіч спакусіўся на салідныя замежныя банкноты з выяваю Лютэра. Незаўважна ён апынуўся ў

той паўсферы жыцця, якой раней старанна пазбягаў. З цягам часу ператварыўся Кім Сымонавіч з калекцыянера ў абароцістага і выкшталцонага гандляра антыкварыятам.

Чым вышэй узнімаўся Валовіч у дзяржаўных структурах, тым большай рабілася патрэба ў памагатым — прафесійным злодзеі. Тут і падвярнуўся прайдзісвет Генрык Войніч.

* * *

Кватэра мастака Вашчылы стаяла на сігналізацыі. Генрыку давялося корпацца гадзіну ў сутарэннях, каб падключыцца да нумара мастака. Бясконца ішлі выклікі, але з кватэры ніхто не адказваў. Генрык у зялёнай спяцоўцы і з манцёрскай тэлефоннай трубкаю сядзеў на цыратавым чамаданчыку побач з адчыненым камутатарным шчытом. Бліскучыя клемнікі-кракадзілы драпежна сціскалі галоўкі кантактаў.

Генрык згадаў, як яму скардзіўся адзін кампанейскі літаратар у Піцундзе, у якога перад самым ад'ездам абрабавалі кватэру, што таксама лічылася на сігналізацыі. Ягоная жонка жахліва баялася злодзеяў, і літаратар паставіў двайныя абабітыя бляхаю дзверы і завёў добермана-пінчэра. Удзень ім пазванілі: літаратар адчыніў — і нават не паспеў як след згледзець наведвальніка, як атрымаў гарматны ўдар кулаком у твар і праляжаў хвілін дзесяць у глыбокім накаўце. Са знямелае жонкі злодзей зняў усе ўпрыгожванні і замкнуў яе ў прыбіральні. Сыходзячы з кватэры, злодзей звёў і сабаку.

Нарэшце ў навушніку застракатаў набор дыска — Генрык запісаў нумар і пачуў пароль, якім гаспадар кватэры паведаміў дзяжурнаму ў пастарунку, што дахаты вярнуўся менавіта ён. Цяпер сігналізацыя Войніча не турбавала.

Наступнай раніцай Генрык расціснуў гідраўліч-

ным дамкратам дзвярную раму ў кватэры Вашчылы, выпхнуў дзверы і ад імя гаспадара зняў кватэру з сігналізацыі; па ягоных падліках, Вашчыла мусіў вярнуцца не раней, чым пад вечар. Генрык зняў дамкрат, і дзверы вярнуліся на сваё месца, нібыта да іх ніхто і не датыкаўся. Кватэра падалася яму занадта мяшчанскаю. Сцены гасцёўні былі задрапіраваны квяцістым сітцам, падлогу ўсцілаў пярэсты персідскі дыван, цёмную мэблю аздаблялі бронзавыя лісты акантаў, з дубовае панелі піяніна анёльскімі крыльцамі тырчэлі пазалочаныя бра з вітымі парафінавымі свечкамі.

Генрык запаліў свечкі, адкінуў вечка інструмента і рукою ў хірургічнай пальчатцы ўзяў колькі акордаў. На адным з іх піяніна азвалася глуха, як з-пад вады. Ён прысеў і зняў ніжнюю дэку. Да літой рамы са струнамі прытулілася кардонная папка з ядвабнымі матузкамі і выціснутым скрыпічным ключом. Пад тым ключом Генрык і знайшоў пераkладзеныя папяроснаю паперай малюнкі Казіміра Малевіча.

Яшчэ ў студэнцкія гады запрашаў да сябе Генрыка сын аднаго знакамітага мастака-манументаліста. То там у піяніна маўчалі ўсе клавішы. Сын казаў, што гэта не музычны інструмент, а бацькаў кашалёк, адкідаў верхняе вечка і з пыхаю дэманстраваў роўныя, як у сейфе, стосы банкнотаў.

Папку з малюнкамі Войніч павесіў на ласіныя рогі ў передпакоі, вярнуўся ў гасцёўню, уставіў кампакт-дыск у лазерны прайгравальнік, і кватэру запоўніла па-змоўніцку сцішанае «Балеро» Равэля.

«Пад музыку весялей нішчыць» — падумаў Генрык. Ён адчуў патрэбу ў разбурэнні бюргерскага спакою. Утульны мяшчанскі дабрабыт быў для яго невыносным і агідным. Цюбікам з бурачковаю фарбаю ён дамаляваў на аўтапартрэце Вашчылы вусы і асліныя вушы і накрэсліў: «Вучыся маляваць. К. Малевіч». Стаўшы на плюшавую абіўку фатэля,

паабрываў хрустальныя падвескі жырандолі і разам з багемскім шклом, што згроб з буфета ў ільняны абрус, запхнуў на кухні ў смеццепровад. Секачом для мяса пазбіваў бронзавыя накладкі з мэблі. Шырокае лязо скальпеля ўспарола абіўку крэслаў і канапы: з разрэзаў павіслі жоўтыя кілбасы паралону. Як бутэлька шампанскага, стрэліў прабіты фотаапаратам кінескоп тэлевізара. Альбомы па мастацтву згроб на персідскі кілім, і, заправіўшы іх густым сінтэтычным клеем з трохлітровага слоіка, Генрык амаль супакоіўся. На развітанне Войніч закінуў з перадпакоя ў гасцёўню, як тэрарыст бомбу, распоратую падушку. Пухавая завіруха аснежыла пагромлены пакой.

Нотную папку з малюнкамі Генрык загарнуў у шчытную белую паперу і перацягнуў шпагатам. Ліфт быў заняты, і Генрык спусціўся пралётам ніжэй. Праз сетку ліфтавой шахты ён убачыў, што кабіна спынілася насупраць кватэры Вашчылы. Між парэнчамі мільганула жанчына. Яна націснула гузік званка і дастала з торбачкі звязку ключоў. Генрык адступіўся да сцяны, каб згледзець твар, і пазнаў сакратарку міністра Тасю. Яна ўпэўнена павярнула ключ у замку і зайшла. Пачуўся здаўлены крык.

Генрык збег яшчэ на пралёт і выклікаў ліфт. Праз паверх створкі кабіны рассунуліся: перад ім у парозе Вашчылавай кватэры знерухомела пераляканая Тася — на высокай фрызуры трапяталася колькі белых пёрак.

— Вось дзе не думаў спаткаць цябе. — Генрык зняў з яе карункавага каўняра пёрка і здзмухнуў яго ў пралёт. — Спадзяюся, Вашчыла ўжо вольны... Ён пакрыўдзіў цябе? У цябе выгляд згвалчанай настаўнікам школьніцы, — Войніч зазірнуў у кватэру. — Там што — чэрці балявалі?

Тася не вытрымала і заплакала. Генрык абняў яе за плечы і завёў у ванны пакой. Калі яна змыла размазаны макіяж і асцюдзіла расчырванелы ад плачу

твар, ён асцярожна пацікавіўся: навошта яна ўчыніла гэты пагром і што цяпер збіраецца рабіць? Яна зноў заплакала, і Война́чу давялося запэўніць, што не верыць у яе вінаватасць, і, калі Тася хоча, то зараз жа пазвоніць у міліцыю і пацвердзіць, што яны прыйшлі сюды разам. Ад сустрэчы з уладамі Тася адмовілася і, забыўшыся на палюбоўніка-мастака, ахвотна пагадзілася паехаць да Генрыка. Яны селі ў джып. Па дарозе Войніч набыў бутэльку сухога марціні. Позна ўвечары ён адвёз Тасю дадому.

Генрык ужо паспеў прыбраць са стала і перасцілаў ложак, калі зазвінеў тэлефон.

* * *

Пад чорным плашчом у міністра быў спартовы гарнітур. Ключы ад машыны ён трымаў на мізэнным пальцы, не распранаючыся, сеў за Генрыкаў стол так, нібыта знаходзіўся ў сваім кабінеце, адчужана перагартаў малюнкі, адсунуў іх набок і павярнуўся да гаспадара:

— Вось ганарар і адразу аванс за наступнае заданне.

— «Цо занадта, то не здрова» — я не паспяваю змарнаваць грошы, а саліць іх не навучаны.

— Мяркую, нам не варта губляць сувязь з добрым заказчыкам. Я атрымліваю заказы на пэўныя рэчы і ў пэўны тэрмін мушу адправіць іх па прызначэнні, ты выконваеш, а ён плоціць...

— Але і той, хто перапраўляе рэчы за мяжу, таксама мае свой, немалы працэнт?

— Так, але гэта не павінна цябе хваляваць, — міністр зняў са стэлажа том Беларускай энцыклапедыі.

— Я хачу ведаць, хто ён, — настойваў Генрык.

— Адзін высокі чыноўнік з Міністэрства ўнутраных спраў. Не хвалюйся, усё сапраўды ідзе ў замежжа. Прыватныя калекцыі. Тут табе нічога

не пагражае, — міністр знайшоў у энцыклапедыі патрэбны артыкул. — Вось новы заказ — Нясвіжскі касцёл езуітаў. Ты возьмеш партрэт фундатара касцёла Мікалая Радзівіла, ён вісіць у трансэпце — нішы паміж дзвюх пілястраў з чорнага італьянскага мармуру. Вось тут, — міністр накрэсліў пазногцем на плане касцёла крыж. — Ты мусіш зрабіць гэта тэрмінова. Партрэт патрэбны паслязаўтра.

— Без падрыхтоўкі працаваць небяспечна, я не аматар, — Генрык пахітаў галавою.

— Заўтра выязджай у Нясвіж, каб патрапіць на ранішнюю імшу.

## 5. Нясвіж

Машыну Войніч прыпаркаваў пад помнікам Сымону Буднаму, калі званы абвясцілі пачатак набажэнства. Ён апусціў у касцельную скарбонку скрутак даляраў — большасць злодзеяў, якія не выйшлі ў міністры, сентыментальныя і глыбока рэлігійныя людзі. (Няўважлівыя і абыякавыя да рэлігіі толькі ўнутрана вольныя людзі — мастакі і філосафы, выкшталцоныя інтэлектуалы і паэты, якія здатныя супрацьпаставіць сябе не толькі грамадству, але і безасабоваму, безаблічнаму богу. Асоба мастака заўсёды ўзвышаецца над маралізаваным грамадствам і цемрашальскімі рэлігійнымі догмамі.) А Генрык Войніч пабойваўся бога і шчыра верыў ва неўміручасць уласнай душы, хоць і называў сябе вольным мастаком.

Падчас імшы ён стараўся ўспомніць калісьці завучаныя лацінскія словы «Авэ Марыі» ў падспудным, несвядомым спадзяванні, што за імі бог не здолее прачытаць яго патаемных думак, а Генрык ужо паспеў прыгледзець, што каваны замок XVII стагоддзя ў касцельнай браме ніякімі адмычкамі не возьмеш, але просты, як усё геніяльнае, ён адчыняецца пальцам.

У нішы паміж чорнымі пілястрамі Генрыку па-змоўніцку ўсміхаўся партрэт фундатара Радзівіла: карункавы каўнер, як німб, што споўз на шыю, фаўстаўскі твар у абрамоўцы роўна выстрыжаных чорных валасоў, на аксамітным камзоле спачываў тоўсты, як турэмныя краты, ланцуг з ордэнам Залатога руна.

Ксёндз Міцкевіч у новым, негнуткім, відаць, нядаўна прывезеным з Ватыкана, арнаце высокім тэнарам адпраўляў імшу. Ягоная мажная постаць з неабсяжным жыватом і шырачэзнаю дупаю была жывою ілюстрацыяй да навел Джавані Бакачыа або да беларускай казкі «Як ксяндзы ездзілі на воды лячыцца». У звычайныя дзверы ксёндз Міцкевіч прабіраўся ў два прыёмы: спачатку праходзіў жывот, і за ім, бокам, дупа.

Генрык прайшоўся па горадзе, паабедаў у рэстарацыі і да самай цемры праседзеў на беразе возера ў замкавым парку. Калі гадзіннік на замкавай вежы адбіў палову на адзінаццатую, ён грэбляю праз возера выйшаў да баракальных муроў касцёла. За мураванаю агароджаю праступалі з цемры каменныя крыжы на ксяндзоўскіх магілах. На імгненне яму падалося, што ў высокіх цьмяных вітражах прабіўся прамень ліхтарыка, але гэта ўзнялася над закінутым кляштарам бенедыкцінак жоўтая поўня.

Войніч засунуў у замочную адтуліну два пальцы і адцягнуў рыгель. Апынуўшыся ў касцёле, ён зачыніў дзверы на засаўку, і, скіраваўшы прамень ліхтара на маёлікавую падлогу, прайшоў у левае крыло трансепта, да месца, азначанага міністравым пазногцем на плане ў энцыклапедыі. Ільдзяным бляскам заіскрыліся мармуровыя пілястры, але партрэта не было, адно праступаў цьмяны прамакутнік — адзінае, што засталося пасля яго на сцяне. Войніч згасіў ліхтарык і азірнуўся — на сярэдзіну касцёла праз вокны купала падала расфарбаванае вітражамі святло поўні, і прастора

сабора падалася яму не домам божым, а студняю ў замагільны свет. Анёлы і святыя на фрэсках бачыліся пачварамі, скульптуры біскупаў паплылі ў прахалодным паветры, патрасаючы кіямі, як дзідамі, баракальныя валюты пульсавалі ў прывідным святле скручанымі пружынамі гіганцкіх гадзіннікаў, алтарны крыж захістаўся, як стрэлка метранома, пад рытмічнае патрэскванне перасохлае механікі аргана, твар распятага Хрыста абліло чырвоным святлом. Генрык крадком адступіў пад калону і дакрануўся плячыма да драўлянае разьбы спавядальні. Праз гафтаваныя краты акенца на Генрыка глядзелі шырока адчыненыя вочы ксяндза, ягонае сытае цела застыла на лаўцы спавядальні. Войніч крануў ксяндза за плячо: галава хіснулася ўбок, і з цемры выплыла касцяное дзяржальна шыла, што тырчэла з ксяндзоўскага вуха.

За касцельнай брамай пачуліся галасы, з-пад яе прабіўся агонь ліхтара, у замку скрыгатнуў ключ. Генрык выбег на сярэдзіну касцёла і ўбачыў, як ад грукату пахіснуліся дзверы, але расхінуцца ім не дала каваная засаўка.

— Ламіце, — пачулася з вуліцы, у філёнгі грымнуў удар.

Генрык успомніў у дэталях план касцёла з энцыклапедыі, на якім значыўся толькі адзін выхад, і за якім зараз былі людзі. За алтарнаю балюстрадай ён заўважыў невысокі праём у абсідзе і сходы ў сутарэнні. Генрык ускінуў нябожчыка на плечы і паспрабаваў данесці да сходаў, але заблытаўся ў дывановай дарожцы, скінуў непад'ёмнае цела і пацягнуў за сабою. У браму нарэшце ўдарылі нечым больш важкім — рыгель засаўкі выгнуўся, але спружыніў: яшчэ колькі ўдараў — і дзверы не вытрымаюць. Ад наступнага ўдару з аргана сарваўся спалоханы голуб і, лапочучы крыламі, пачаў біцца ў вітражнае шкло. Войніч у суцэльнай цемры сцягнуў мер-

цвяка па сходах у сутарэнні і запаліў ліхтарык. Ён апынуўся ў радавым княжацкім склепе — на высокіх пастаментах шыхты мармуровых саркафагаў з лацінскімі надпісамі. Генрык паспрабаваў прыўзняць скульптурную пліту з княжацкай каронаю ў галавах магілы, але не здужаў — мармуровае вечка саркафага важыла не менш чым паўтоны.

— Каб вы, пан пробашч, дапамаглі, мы б яе скінулі, — звярнуўся Генрык да нябожчыка, што прываліўся да пастамента, выпрастаўшы на гранітных плітах ногі ў вастрадзюбых лакіраваных чаравіках з металічнымі падкоўкамі на абцасах. У дашчанай скрыні з засохлым растворам Генрык згледзеў рыдлёўку і паспрабаваў убіць яе пад пліту. Камень быў шчыльна падагнаны, і лязо адно слізгацела ўздоўж каменнага шва саркафага. Генрык пераходзіў ад аднаго надгробка да другога — паўсюль тое ж самае — дамавіны былі герметычна замкнёныя. Наверсе пад чарговым ударам не вытрымалі і адскочылі з брусоў скобы засаўкі, у касцёл уварваліся ўзброеныя мужчыны ў цывільным.

Лязо рыдлёўкі раптам як правалілася пад вечка, і Генрык са здзіўленнем убачыў, як пліта без асаблівых намаганняў адышла ўбок. Ён чакаў убачыць выскал Радзівілаўскай муміі, да якой збіраўся падсяліць труп ксяндза, але замест дамавіны яму адкрыўся вузкі праход у яшчэ адзін ярус сутарэнняў, пра які не згадвалася ў энцыклапедыі. Ледзь уціснуўшы ў патаемны ход упруцянелага нябожчыка, Генрык адпусціў яго, і той з’ехаў у глыбокі дол. Следам за ім заскочыў у студню сам Генрык.

Пліта знерухомела на сваім месцы, калі ліхтары пагоні асвятлілі княжацкі склеп. У падножжа саркафага застаўся ляжаць на бліскучай гранітнай падлозе ксяндзоўскі малітоўнік.

Трымаючыся за сцены, Генрык усё глыбей спускаўся па цагляных сходах. Пераступіўшы цераз

нябожчыка, ён апынуўся ў цесным цыліндрычным склепе. Перад ім чарнела, як жарало вясковай печы, вентыляцыйная адтуліна ў сцяне, побач з ёю поўніўся змрокам вільготны тунель. Генрык асвяціў няроўныя, у вапняных нацёках сцены. Ліхтарны прамень зламіўся на павароце тунеля. У вентыляцыйнай адтуліне пачуўся шоргат: Войніч пасвяціў туды і прысеў, каб лепш бачыць. У перспектыве шахты запаліліся лютасцю вочы невядомай пачвары, сутаргавая хваля прабегла пад яе кароткаю цёмнаю шчэццю, драпежна выскаліліся шырокія жоўтыя зубы. Звер, памерам з добрага сабаку, засычэў і адступіў у змрок.

Генрык спешна вярнуўся, падцягнуў нябожчыка і пачаў запіхваць яго нагамі ў вентыляцыйную шахту, покуль з адтуліны не засталася тырчэць адно ксяндзоўская галава з бліскучаю танзураю.

Дзе па сухому, а дзе па калена ў вадзе, Генрык выйшаў да завалы са жвіру і цаглянага друзу. Ён упарта капаў, покуль рыдлёўка не правалілася ў жвір па рукаятку — у прагале запалілася зорнае неба. Генрык выпаўз на стромы рачны адхон: за рэчкаю высіліся муры кляштара бенедыкцінак.

## 6. Менск

Генрык заехаў да сябе ў двор. Гадзіннік на прыборным шчытку высвечваў палову на першую ночы. У доме на добрым падпітку гуляла вяселле: сусед з другога паверха жаніў сына, на парэнчах балкона пара акустычных калонак грымела рытмамі леташніх шлягераў, каля пад’езда танчыла моладзь.

Генрык узняўся на свой трэці паверх, павіншаваўшы па дарозе купку мужчын, якія палілі на пляцоўцы; за адчыненымі дзвярыма суседскай кватэры разлягаўся вялізны стол з вясковымі прысмакамі і немудрагелістым пітвом.

Войніч толькі паспеў запаліць святло ў перад-

пакоі, як яго схапілі хлопцы ў форме з кайданкамі напагатове. Генрык паспеў ударыць аднаго і заваліць на сябе дубовую шатню: з антрэсоляў пасыпаўся пральны парашок і гаспадарчы інструмент. З-пад завалы Генрык выбраўся першым — да яго па сходах ужо беглі двое. Ён пераскочыў цераз парэнчы і апынуўся сярод вясельных гасцей:

— Мужыкі! Памажыце — мянты прычапіліся! — Генрык схапіў з падваконня недапітую бутэльку і шпурнуў у бліжэйшага амонаўца, што з узнятай дубінкаю бег на яго. Чырвонае віно выбухнула ў сцяну, цёмная пляма крывавым штандарам расцяклася па атынкоўцы. Стомленыя доўгім вясельным бяздзеяннем і размораныя гарачым самагонам мужчыны імгненна запаліліся дурным байцоўскім агнём. Бойка пачалася ў пад'ездзе і паступова спаўзла ў двор. Група захопу з шасці чалавек разам з двума патрульнымі амонаўцамі змагалася мужна і цвяроза, але ў іх не было той шчырай самаахвярнасці і спрадвечнай нянавісці, якую мае падгуляўшы чалавек да міліцыянта. Біліся нядоўга, але жорстка, Генрык колькі разоў трапна пацэліў у твары захопнікаў і меў упэўненасць, што нехта з іх застаўся без пары пярэдніх зубоў. Апынуўшыся на вуліцы, Генрык рэціраваўся за паркан метрабуда, абабег катлаван і знік за могілкаваю агароджаю, паміж кальварыйскіх крыжоў.

* * *

Міністр спаў, шырока раскінуўшы рукі на авальным ложку, нібыта стамлёны касец на сенавале. Генрык запаліў таршэр і падаў выхапленаму са сну міністру прыгатаваны нанач кубак з вадою.

— У вас здаровы сон уколатага наркамана, — Генрык закурыў і, не згледзеўшы попельніцы, выкінуў запалку ў расчыненае акно.

— Давай, тлумач, — нават у піжаме і з ускудлачанаю чупрынаю сівых валасоў Кім Сымонавіч

глядзеўся паважна і аўтарытарна.

— Пачну з таго, што на ранішнім набажэнстве ў Нясвіжскім касцёле партрэт Радзівіла вісеў на месцы, а калі я ўначы прыйшоў па яго, партрэта ўжо не было. Я не паспеў выйсці, як у касцёл пачалі ламіцца, толькі цудам уцёк. Дома мяне чакала новая засада, з амонаўцамі. У трэці раз я не здолею ўцячы, бо лавіць, відаць, будуць ужо з войскам.

— Нічога не разумею, пачакай, — міністр выйшаў у кабінет і зняў трубку з апарата ўрадавай сувязі.

Генрык крадком падабраўся да кабінета і пачуў барытон міністра:

— Каспар Францавіч, выбачай, што ноччу турбую: ведаю, дамаўляліся на заўтра, але тут непрыемная нечаканасць... Наш баец два разы трапіў у засаду... Вядома, уцёк... І там, і на кватэры... Добра, я чакаю твайго званка.

Калі Кім Сымонавіч выйшаў з кабінета, Генрык засяроджана вывучаў сямейны фотаздымак у багетавай рамцы: малады Кім Сымонавіч з жонкаю і дзіцём у тым анёльскім узросце, калі немагчыма вызначыць, хлопчык гэта ці дзяўчынка.

— Пачакаем, мне перазвоняць, — Валовіч уключыў кававарку.

— Каспар Францавіч? Гэта такі салідны, як чучала зубра, без двух пальцаў на левай руцэ, відаць у дзяцінстве раскручваў снарады? — Генрык адставіў фотаздымак.

— Хіба ты з ім знаёмы? — занепакоіўся Валовіч.

— Адпачывалі разам.

Ціха затрымцеў тэлефон. Праз пару хвілін міністр вярнуўся і ўзяў філіжанку з каваю:

— Наконт Нясвіжа: ксёндз не прыйшоў на вячэру дадому, і эканомка падняла гвалт, касцёл быў замкнёны з сярэдзіны і ніхто не азываўся, зламілі дзверы, ксяндза дагэтуль не знайшлі. З касцёла знік партрэт Радзівіла.

Генрык перарваў пратакольны маналог міністра:

— Значыць, ксёндз украў партрэт і ўцёк.

Кім Сымонавіч не зрэагаваў на заўвагу Войніча і працягваў:

— Невядомы паведаміў, што ўкрадзены партрэт знаходзіцца ў цябе.

— Лухта.

— Партрэт Радзівіла знайшлі на тваёй кватэры. Заўтра супроць цябе ўзбудзяць крымінальную справу. І дарма ты спрабуеш мяне падмануць: мне здаецца, што партрэт усё ж узяў ты, — зазлаваў міністр, — зблытаўся з іншымі заказчыкамі, і цябе здалі.

— Апроч вас я ні з кім даўно не вяду справы. Адно зразумела: мяне сапраўды падставілі. І зрабіў гэта той, хто ведаў дакладна, калі я буду ў касцёле, каб узяць пэўны партрэт. Вы мусіце, Кім Сымонавіч, адказаць, хто ведаў або мог даведацца пра ваш заказ, — у голасе Войніча прагучала пагроза.

— Партрэт замовіў адзін італьянскі калекцыянер, але на Беларусі апроч мяне ён нікога не ведае, і тут нават ніколі не быў. Гэта надзейны і даўні заказчык. Пра заказ ведаем я, ты і Каспар Францавіч Матрашыла — генерал з міністэрства ўнутраных спраў, дзякуючы яму бесперашкодна вывозім рэчы за мяжу, напрыклад тую ж радзівілаўскую калекцыю зброі. Вось і ўсё.

— Дык што, мне выбіраць з вас і генерала Матрашылы? Бо да італьянскага калекцыянера я не дабяруся. — Генрык, не пытаючыся дазволу, адчыніў бар і наліў сабе джыну.

— Які сэнс мне і Матрашылу цябе падстаўляць? — Валовіч таксама наліў сабе трэць шклянкі. — Што ты збіраешся рабіць далей?

— Хавацца і разблытваць гэтую справу. І не ведаю лепшай схованкі ў гэтай сітуацыі, чым ваша лецішча. У кожным выпадку там засады не будзе. — Генрык падняўся і стаў перад міністрам: — Ключы, калі ласка. Праз тыдзень знайду што лепшае.

Валовіч вяла падаў вязку ключоў.

— І ад машыны таксама, а вам покуль давядзец-

ца карыстацца адно службоваю.

Міністр паглядзеў услед габарытным агням уласнага «рэно», якія зніклі за літою агароджаю асабняка, і зноў зняў тэлефонную трубку.

## 7. Браслаўшчына

Міністрава лецішча хавалася ў зацішным кутку на беразе аднаго з вялікіх браслаўскіх азёр, пад курганом латгальскага гарадзішча.

Укрытае да самага далягляду ранішнім туманам возера нагадвала Генрыку мора. Дом стаяў на высокім падмурку, складзеным з вялікіх валуноў, гладкая чырвоная цэгла сцен першага паверха блішчэла, як свежаадрэстаўраваны замкавы мур, над ім узнімаўся перакрыжаваннямі каркаса атынкаваны і пабелены вапнаю прускі мур другога паверха пад белаю дахавіцаю, над якою высіўся масіўны комін.

У пограбе Генрык знайшоў заўсёдны набор: мех бульбы, кансервы, крупы, скрыню гарэлкі і запыленыя бутлі з самаробным віном. Дом даўно не ацяплялі, і ад сцен патыхала холадам. Войніч нанасіў дроў, распаліў камін і печку. У міністравым кабінеце ён знайшоў папку з дакладам па праблемах барацьбы з парнаграфіяй, а ў шуфлядзе пісьмовага стала — стосы парнаграфічных часопісаў і адпаведную літаратуру.

У зале Генрык падсунуў канапу да самага каміна і, прыхапіўшы бутэльку гарэлкі і кус паляндвіцы, загорнуты ў фальгу, заваліўся на падушкі. Выцерусіў з папяросы на далонь тытунь, і, змяшаўшы яго з яшчэ той, каўказскаю, анашою, прыгатаваў наркатычны набой. Мятны водарны пах канапель зліўся са смалістым дымам сасновых дроў і пацягнуўся па яшчэ безжыццёвым будынку.

На ганку пачуліся нягучныя крокі: Генрык ускочыў з канапы і, сціснуўшы ў руцэ нож, асцярожна падняўся на другі паверх, стаіўся за шафаю.

Мяркуючы па гуках, у дом зайшоў адзін чалавек. Войніч зірнуў у паўкруглае акенца на двор — там аніякіх змен не заўважыў; гэта яго яшчэ больш насцярожыла, і наркатычны дурман як адцяла. Чалавек унізе таксама затаіўся, але выдаў сябе неасцярожным рухам — скрыгатнуў метал. Генрык паспрабаваў быў зазірнуць у залу, але сходы заварочвалі, і да павароту ён не дайшоў, як пачуў варожае рыпенне драўляных прыступак. Ён не стаў вяртацца, а прысеў і прыціснуўся да сцяны, згупіраваны для кідка. Раптам з-за рога над яго-наю галавою ўспарола паветра дзюралевая, са сталёваю дзюбаю дзіда. Войніч імгненна схапіў яе і таргануў на сябе. Следам вылецела з лыжнаю палкаю ў руцэ пераляканая да роспачы дзяўчына і павалілася яму пад ногі. Генрык схаваў нож і паставіў дзяўчыну пад сцяну. Яе скажоны сполахам твар прасвятлеў:

— Дык гэта ты паліў анашу?

— Магу пачаставаць і цябе, — Генрык нарэшце пазнаў Дануту Адамовіч.

Пачатковая радасць змянілася насцярогаю:

— А што ты тут робіш?

— Шукаў і знайшоў цябе.

— З нажом у руках?

Генрык моўчкі спусціўся ў залу.

— Спадзяюся, ты не рабаўнік?

— Вядома, рабаўнік, залез на міністрава лецішча, але загледзеўся парнаграфічнымі часопісамі гаспадара.

— Я думала, ты прынёс іх з сабою...

— У кабінеце іх яшчэ столькі ж.

— Не спадзявалася, што мой бацька ўжо ў тым узросце, калі пачынаюць цікавіцца парнаграфіяй, — Данута нарэшце паставіла лыжную палку на месца.

— Кім Сымонавіч твой бацька?

— Але. Я ягоная дачка, прыехала да сябе на лецішча, а ты, гляджу, і не збіраешся тлумачыць,

што тут робіш.

— А я тут жыву, — Генрык перадаў Дануце тэлефонную слухаўку, — хочаш, звані бацьку, ён табе ўсё растлумачыць. Нумар надыктаваць?

— Хай лепш не ведае, што я прыязджала, — адхіліла прапанову Данута, — Ён не ўхваляе, калі я з'яўляюся тут у яго адсутнасць, да таго ж без сына.

— Відаць, у маладосці ладзіла тут пагулянкі з оргіямі і шабашамі, — Генрык па-гаспадарску ўзяў у буфеце чарку. — А зараз варта выпіць за канчатковае знаёмства. Ты ўзяла што-небудзь паесці?

— Пайшлі на кухню, — яна прыўзняла чарку: — Я так спадзявалася пабыць у самоце. Абяры сваім зладзейскім нажом бульбу, а я прыгатую індыка, — яна паставіла валізку на кухонны стол.

— Індыка лепш гатаваць на верцеле ў каміне і запіваць хатнім віном.

— Ніяк не магу пазбавіцца прадчування, што ты злодзей.

Генрык паставіў чыгунок з бульбаю за камінныя краты і павярнуў на верцеле распятага індыка, ужо пазалочанага хрумсткаю скарынкаю. Данута сядзела, абкладзеная падушкамі, на канапе, укрыўшы падкурчаныя ногі вярблюджым пледам, і трымала аберуч керамічны кубак з пякучым глінтвейнам.

— Табе не здаецца, што падчас апошняй сустрэчы мы забыліся на нешта важнае? — Генрык выкінуў са свайго кубка парэчкавы ліст.

— Няўжо забыліся? Пасля другой папяросы я наогул нічога не памятаю. Ты не маніш?

— Нават калі і маню, — Генрык паклаў сабе на калені яе ногі, зацягнутыя ў пасястыя матроскія гольфы.

— Ты так раптоўна знік з Піцунды. А твой сябар Арсен не хацеў нічога казаць, — яна лянотна пацягнулася.

— А твой муж не навязаў цябе да батарэі? — ён абняў Данута.

— Аляксей на раніцу з’ехаў у Гагры. Назаўтра прыгналі бульдозер, і тваю палянку з каноплямі спляжылі.

— Да наступнага сезону адрасце, — запэўніў ён: — А з цябе хутка сыходзіць загар.

— Затое ты, як пірат, — Данута паклала сваю руку на Генрыкаву, і яны разам узнялі іх над ложкам.

Потым ён распарцэляваў падгарэлага з аднога боку сакаўнога індыка, а яна ў хатніх джынсах і незашпіленай кашуле аздабляла зелянінаю рассыпчатую бульбу, што сыходзіла парай на круглым фаянсавым блюдзе.

— Як ідуць пошукі радзівілаўскай зброі? — Генрык адліў з бутлі віна ў збан.

— Дакладна пераканалася ў яе існаванні, а цяпер збіраюся пераканаць і астатніх.

— Якім чынам?

— Дзеля гэтага я тут, — Данута ўзяла ягоны нож і накроіла хлеба.

— Забаўляешся са мною? — насцярожана спытаў Генрык.

— Я прыехала на пару дзён, каб напісаць артыкул, але чаму цябе гэта непакоіць?

— Бацька ведае пра твае пошукі?

— Мы з-за гэтага пасварыліся. Ён сказаў тую ж фразу, што і ты: не раю гэтым займацца.

— А ты?..

— Мне не падабаецца, што вакол бацькі дзеюцца дзіўныя рэчы і з’яўляюцца зладзеяватыя тыпы накшталт цябе.

— Развагі не журналісткі, а жонкі міліцыянта.

— Ты ўжо другі раз за вечар згадваеш майго мужа, а піраты мусяць быць не раўнівымі, а помслівымі.

— Будзем лічыць, што за спляжаны канапляны рай я адпомсціў разам з табою.

Генрык прачнуўся першым. Было а сёмай раніцы. Зарослаю сцежкаю ён збег да возера і з дашчатай

кладкі кінуўся ў ваду, а расціраючыся шорсткім ручніком, нарэшце ўсвядоміў — цяпер у яго нічога не засталося, нават няма ў што пераапрануцца: апроч джынсаў, швэдра, вязкі адмычак і пачка даляраў — грошы і дакументы ён ніколі не пакідаў дома.

Данута згатавала каву і накрыла сняданак.

— Абед можаш не гатаваць, усе мае рэчы засталіся ў Менску, я зараз еду. — Генрык дапіў каву і перакуліў філіжанку на сподак.

— Ты яшчэ вернешся?

— Увечары. Можа, табе што прывезці?

— Ты ўсё адно перабіў мне творчы настрой. Я еду з табою.

Вывеўшы машыну на шашу, Генрык вярнуўся да ўчарашняе размовы:

— Ты казала, што пераканалася ў існаванні калекцыі зброі?

— Яшчэ адзін чалавек, апроч радзівілаўскага бібліятэкара, можа засведчыць і нават мае доказы. — Данута расшпіліла торбачку і дастала свой журналісцкі нататнік.

Генрык дадаў хуткасці, і дзяўчыну ўціснула ў сядзенне. За вокнамі машыны разгортваліся панарамы пагоркаў, парослых рэдкім ядлоўцам і ўсыпаных ледавіковымі валунамі.

— Калі не сакрэт, хто ён, гэты чалавек?

— Не хачу апярэджваць падзеі, мяне з ім абяцаў звесці твой сябра паэт Арсен Прус.

— Дзіўна, што я пра гэта нічога не ведаю, — Генрык дапытліва глянуў на Дануту.

— Ты і не цікавіўся.

— Апошнія дні я самаахвярна працаваў на культуру.

## 8. Менск

На Цэнтральным пляцы ў Менску Данута нечакана папрасіла высадзіць яе, і яны дамовіліся сустрэцца на гэтым самым месцы, каб разам паабе-

даць.

Генрык яшчэ квартал праехаў праспектам і збочыў на бульвар, што выходзіў да Дзяржаўнага музея, прыпаркаваўся насупраць цэментовай каланады пад вокнамі прыватнай крамы «Беларускі сувенір». Шыльду ў прасценку між вокнамі чамусьці аздаблялі тры матрошкі памерам з раставую мішэнь. Вітрыну крамы густа абселі пакарабачаныя праваслаўныя абразы, мядзяныя самавары і іншы «кіч» мінулых стагоддзяў.

Генрык мінуў гандлёвую залу і апынуўся ў службовым пакойчыку. Закратаваныя вокны цокальнага паверха ўпіналіся ў цагляны паркан. Гаспадар крамы Збігнеў Скіндзер з разведзенымі нажніцамі ў руцэ кіўнуў Генрыку і мітусліва папрасіў:

— Зачыняй дзверы.

Войніч сеў у абдзёрты фатэль і агледзеўся: у расчыненай шафе на плечыках срабрылася папоўская рыза, з-пад столі і да падлогі звісаў княжацкі слуцкі пояс, у кардоннай скрыні пад вакном, як металалом, грувасціліся featureзнапамерныя самавары, стэлаж займалі стосы абразоў. Рэштку памяшкання запаўнялі акуратныя дыктавыя скрыні з пачкамі біблій у пластыкавым фабрычным апакаванні.

Скіндзер адразаў нажніцамі тытульныя лісты біблій і складаў абрэзаныя кніжкі пад стол.

— Што ты робіш? — зацікаўлена спытаў Генрык.

— Выразаю тытул, каб на яго месца ўклеіць новы, — Скіндзер дастаў з шуфляды колькі разагнаных на ксераксе тытульных старонак.

— Звар’яцеў? Ён такі ж самы, — Генрык параўнаў аркушы.

— Глядзі ўважліва. На новых няма надпісу: «Не для продажу. Толькі ў падарунак дзецям».

— І колькі табе скрыняў падарылі?

— Дзесяць тысяч асобнікаў атрымалі ад шведаў «Дзеці Чарнобыля», а раздарыць у іх рука не паднялася. Колькі маглі самі расцягнулі, а рэшту пра-

далі мне. А мяне ты ведаеш: знайшлося геніяльнае выйсце — пераклеіць тытул. Цяпер не пабягуць скардзіцца, што гэта падарункі. — Скіндзер задаволена выхваляўся Генрыку. Руды, з высокімі залысінамі, год пад трыццаць, антыквар-крамнік Збігнеў Скіндзер любіў апранацца да непрыстойнасці багата, чаго не можа дазволіць сабе аніводны сумленны чалавек.

— І даўно ты гэтым займаешся? — спытаў Война.

— Як толькі распачалася, так бы мовіць, гуманітарная дапамога Захада. Але раней яны, халера, не друкавалі гэтай ідыёцкай заўвагі: «Толькі ў падарунак». А я рэалізоўваў Святое пісанне і Евангельскаму таварыству, і розным чырвоным крыжам з паўмесяцамі, і фондам, і асацыяцыям, і камітэтам — усе хочуць падзарабіць.

— А бога не баішся?

— Баюся, — прызнаўся Збігнеў. — Бачыш, рыза папоўская вісіць — тры кілаграмы срэбра, можаш узважыць. Каму толькі ні прапаноўваў: нават у гаспадарчы аддзел епархіі, але яны не ўзялі, бо, кажуць, не поўны гарнітур, не камплект.

— Дык пераплаў — на метал заўсёды знойдзецца пакупнік.

— Я ж кажу — баюся бога, ніяк не магу наважыцца.

— Памятаю, ты некалі працаваў у рэстаўрацыйных майстэрнях. — Генрык узяў з паліцы пачак амерыканскіх цыгарэт і запаліў. — Табе не даводзілася займацца жывапісам у Нясвіжскім касцёле?

— А што там цябе цікавіць?

— Партрэт фундатара Радзівіла.

— Ведаю. Цябе надурылі. У касцёле вісіць копія васемнаццатага стагоддзя, а арыгінал невядома дзе.

— Гэта дакладна?

— Навошта тады пытацца? — пакрыўдзіўся

антыквар.

— Я да цябе па справе. Памяняй даляры.

У такой жа напаўпрыватнай-напаўлегальнай-напаўпадвальнай крамцы, што прыгандлёўвала кантрабандай, Генрык набыў усё неабходнае, каб не выглядаць беглым бяздомным крымінальнікам. Змяняць сваю знешнасць новай фрызурай і цёмнымі акулярамі ён лічыў залішнім, бо ў нашай дзяржаве злодзеяў ловяць хіба што выпадкова.

Данута прыйшла на ўмоўленае месца раней тэрміну.

— Кім Сымонавіч не перадаваў мне прывітанняў? — спытаў Генрык, калі яна села ў машыну.

— Я шукала Арсена.

— І, вядома, не знайшла?

— Ён у ад’ездзе?

— Будзеш ведаць наперад — ва ўсім трэба раіцца са мною.

З машыны яны выйшлі на гаспадарчым двары Дома акцёра.

— Мы збіраліся паабедаць? — спытаў Генрык.

— Я спадзявалася, што ты вязеш мяне да Арсена.

Яны апынуліся ў матавай ад тытунёвага дыму кавярні. Данута хацела сесці за вольны столік, але Генрык павёў яе ўглыб залы. Пад круглым вітражным акенцам, з-за якога кавярню ў Доме акцёра звалі «Каламутнае вока», за невялікім, як спецыяльна для яго пастаўленым, столікам сядзеў ужо безуважны да ўсяго Арсен Прус. Адна пустая і адна недапітая пляшкі гарэлкі, як вежы мініяцюрнага сабора, узнімаліся над талеркаю з параю парэзаных шпроцін, сціпла ўкрытых лістком пятрушкі. Перад Арсенам на абрусе ляжалі тры пляскатыя цыгарэты без фільтра і попельніца, усланая недапалкамі.

— Частуйцеся, хлопцы, — добра прытручаны алкаголем Арсен прапанаваў сесці.

Стол заслалі свежым абрусам, прынеслі халоднай цяляціны, канапкі з ікрою і місу спечаных па

Генрыкавай замове бульбяных дранікаў.

— Цябе шукалі, — Арсен, не пытаючыся, наліў усім па поўнай чарцы гарэлкі і выпіў.

— На мяне палююць, — Генрык пераклаў нажом чырвоную ікру з канапкі на дранік і, каб не нерваваць Арсена, зрабіў выгляд, што пакаштаваў гарэлкі. Затое Дануце пад гіпнатычным позіркам паэта давялося выпіць чарку да рэшты.

У другім канцы залы за банкетным сталом весялію падгулялую кампанію мастакоў і літаратараў расчырванелы бард у скураной камізэльцы на голае цела і з залатым ланцугом на шыі. Праз тлумнае гудзенне кавярні раз-пораз вырываліся падхопленыя хорам радкі пра: «кроплі крыві на снезе», «пагоню», «калючы дрот і зорачкі ясныя».

— А ты, дзеўка, усё сенсацый шукаеш? — Арсен зноў наліў Дануце чарку з коптурам.

— Я шукаю зброю, і ты абяцаў дапамагчы — пазнаёміць з чалавекам, які пацвердзіць яе існаванне.

— Думаеце, я кінуць піць не магу? Магу, але не хачу, — Арсен з дакорам падсунуў Генрыку яго поўную чарку.

— Дык што, і з гэтым чалавекам звесці можаш, але не хочаш? — Данута вярнула замілаванага дранікамі Арсена да пастаўленага пытання.

— Не хочацца ехаць далёка, а без мяне ён вам нічога не скажа, бо не любіць такіх цікаўных, ды і мне зараз не скажа, бо я п’яны.

— Хто ён? — спытаў Генрык.

— А хіба я не казаў? Ксёндз Міцкевіч з Нясвіжскага касцёла.

На імгненне на твары Генрыка адбілася непаразуменне, але Арсен працягваў:

— Скажаце яму, што прыехалі ад Арсена. Табе што, Генрык, святары не падабаюцца? Ён добры дзядзька, толькі з Ватыкана вярнуўся, дамогся, каб Рымскі Папа блаславіў адкрыццё беларускіх касцёлаў.

— То гэта ён у Ватыкане такі карак ад'еў? — Генрык прыгадаў непад'ёмнае цела нябожчыка.
— Не, тут, у Нясвіжы. Ён яшчэ пры немцах пачаў служыць у езуіцкім касцёле. А ты адкуль яго ведаеш? — спахапіўся Арсен.
— А ён адкуль пра зброю ведае? — перапытаў Генрык.
— Ён сябра бібліятэкара з замка — Сідарэвіча, таго самага, што зброю ад бальшавікоў хаваў, — растлумачыў Арсен.
Данута зірнула на гадзіннік:
— Мы яшчэ па светламу паспеем у Нясвіж.
— Можа, іншым разам? — цяжка ўздыхнуў Генрык.
— Тады я паеду аўтобусам, — Данута паднялася.
Генрык нагнаў яе на сходах:
— Добра, паехалі, я ўсё адно ў адпачынку. Але потым не крыўдаваць. Цябе папярэджвалі — гэтым не займацца.

## 9. Нясвіж

Генрык, які быў заракаўся не вяртацца ў Нясвіж, зноў трапіў у гэты горад. Але, калі «рэно» знерухомела каля плябаніі, ісці ў госці да ўжо знаёмага нябожчыка, разам з якім перажыў непрыемныя гадзіны ў касцельных сутарэннях, Войніч адмовіўся.
— Схадзі сама, — сказаў ён Дануце, — мяне гэта мала абыходзіць.
Генрык праз акно машыны глядзеў на размову Дануты з жанчынай у доўгай цёмнай сукенцы з белымі карункавымі каўняром і манкетамі.
— Ты ведаў, што ксёндз Міцкевіч знік! — раз'юшана ляснула дзвёркамі машыны Данута.
— Няпэўна. Калі знікла калекцыя, то мусіў знікнуць і ксёндз, які ведаў пра яе. А што сказала эканомка?
— Заўчора ксёндз зачыніўся ў касцёле і знік,

дагэтуль ніхто не ведае, дзе ён падзеўся.

— Анёлы на неба такі цяжар не ўцягнуць, значыць знёс чорт, — Генрык завёў рухавік.

— Наведаем бібліятэкара Сідарэвіча, покуль і яго твае чэрці не знеслі, — Данута глянула ў люстэрка. — Здагадваюся, што ты ведаеш, дзе ён жыве.

Генрык рэзка вывеў машыну на сярэдзіну вуліцы і, абмінуўшы возера, спыніўся перад занядбаным флігелем каля падножжа замкавага бастыёна. У венецыянскіх вокнах палілася святло, у прагал паміж парцьерамі гаспадар прыглядаўся да іх машыны.

Данута пастукала ў дзверы, і іх правёў у дом гаспадар — яшчэ моцнага складу стары, цалкам лысы, з перабітым баксёрскім носам, у цёплай падшыванай куртцы. Ён пасадзіў гасцей на засланую даматканаю радзюжкаю канапу, над якой вісела карціна, завешаная кавалкам палатна.

— Жывапіс псуецца ад сонечнага святла, — адказаў Сідарэвіч на недаўменныя позіркі Дануты. — А што зноў прывяло да мяне спадарыню Адамовіч, у суправаджэнні спадара?..

— Генрык Войніч, — ён кіўнуў старому.

— Парадаваць нічым не магу, — казала, як выбачалася Данута. — Шчыра кажучы, мы ехалі, каб перагаварыць з ксяндзом Міцкевічам наконт калекцыі, што знікла з вашых сутарэнняў, але, — яна развяла рукамі, — мы спазніліся.

— Не перакананы, што тут ёсць сувязь, — хрыпатым барытонам адказаў Сідарэвіч. — Да таго ж я не жадаю мець ніякіх стасункаў з цяперашнімі ўладамі. Адзін раз я ўжо звярнуўся да іх па дапамогу, але ніхто не пажадаў займацца маёй справай. Мне нават не паверылі, што існавала калекцыя зброі князёў Радзівілаў, тут, у гэтым доме, — стары пастукаў бамбукавай кавенькаю ў падлогу: змрочны і адчужаны з выгляду, як высветлілася, ён любіў пагаварыць: — Большасць зброі з калекцыі князя пакралі чырвоныя генералы: яны нават не ўсве-

дамлялі, што рабуюць буйнейшую ў свеце калекцыю зброі, проста расцягвалі на сувеніры і забаўкі аздобленыя пярлінамі і камянямі рапіры і мушкеты, п'яныя стралялі з дуэльных пісталетаў па хрустальных падвесках жырандоляў. Больш дзікунскага войска за чырвонае я не бачыў. Гэта ж немагчыма ўявіць, каб нямецкія ці польскія афіцэры дзеля забавы палілі каміны музычнымі інструментамі. Вы не ўяўляеце, колькі сапраўдных Амаці і Страдзівары пайшло дымам праз коміны Нясвіжскага замка падчас побыту тут штаба чырвонага маршала!

Генрык слухаў бібліятэкара, угнуўшы галаў, стараючыся не сустрэцца позіркам з Данутай.

— І так паўсюль нішчылася беларуская культура, — Данута падтрымала старога. — Жахліва, што і зараз працягваецца генацыд беларускага народа: за адно пакаленне з дзесяцімільённага народа нас, свядомых, засталося не больш за пяцьсот тысяч.

— Дзякуй богу, зараз не знішчаюць творы мастацтва, яны толькі мяняюць гаспадароў, — заўважыў Генрык. — Пра гэта можна бясконца гаварыць. І ўсё ж такі, якое дачыненне да калекцыі меў ксёндз Міцкевіч?

— Ён у свой час дапамагаў мне яе захоўваць, а потым меў свой інтарэс, каб не згадваць пра гэта, — адказаў Сідарэвіч. — Бальшавікі ніколі асабліва не шанавалі каталікаў.

— Чаму ж на следстве пан ксёндз не пацвердзіў існаванне калекцыі? — спытала Данута.

— А следства ж не было, справу нават не ўзбуджалі.

— Чаму спадар Сідарэвіч згадвае ксяндза так, нібыта перакананы, што той ужо нябожчык? — спытаў Генрык.

— У мяне наконт гэтага ёсць дзве версіі. Але чаму гэта вас так цікавіць?

— Я вяду журналісцкае расследаванне, —

упэўнена сказала Данута.

— А маладзёна нанялі як прыватнага дэтэктыва? — бібліятэкар гучна і раптоўна зарагатаў і, спахапіўшыся, падняўся: — Давайце я вас пачастую наліўкаю і ячменнаю каваю.

— Данута вам дапаможа, — і ўжо шэптам Генрык папрасіў яе прынесці з машыны бляшанку з печывам.

Покуль стары на кухні грымеў посудам, Генрык прыўзняў палатно над карцінаю: на яго глянуў з партрэта добра вядомы яму фундатар нясвіжскага касцёла Мікалай Радзівіл. Такі ж самы партрэт, які ён так і не здолеў украсці з касцёла. Генрык паспешліва апусціў палатно.

Бібліятэкар з Данутаю накрылі круглы стол, што стаяў пасярод пакоя. Уздоўж сцен цягнуліся зашклёныя стэлажы з падшыўкамі часопісаў і газет, у прагале паміж вокнаў вісеў яшчэ адзін партрэт: моцны, з тварам рымскага легіянера, мужчына ў кірасе з узнятаю шабляю на белым кані, за ім ахоплены д’ябальскім полымем горад.

За сталом Генрык пачуваўся няўтульна, за спінаю гучна шчоўкаў двухпавярховы гадзіннік-куранты.

— Пачну з той версіі, у якую сам менш веру, але якая падасца вам больш рэальнаю, — Сідарэвіч зноў зарагатаў, як оперны персанаж, і правёў рукою па лысай галаве. — Ксёндз ведаў калекцыю, як свой малітоўнік — хоць і святар, але зброяй захапляўся нібы дзіця. Было, заходзіў да мяне, і пасля тэалагічных дыспутаў за чаркаю наліўкі спускаліся ў сутарэнні, дзе перакладалі зброю, быццам адпраўлялі рытуальнае дзейства. Ён кожную рэч мог пазнаць навобмацак. Якраз на Вялікдзень пайшоў я ў касцёл. А калі вярнуўся пасля набажэнства, гляджу — падлога ўзарвана і ў сутарэннях адно пустая скрыня з-пад зброі. Каб мне таго злодзея ды зараз у рукі, — Сідарэвіч сціснуў на стале па-старэчы жылістыя важкія

кулакі, — я б яго пацуку скарміў...

— Якому пацуку? — занепакоіўся Генрык і адчуў сябе яшчэ больш няўтульна.

— Пазней раскажу. Гэта ж самі бальшавікі і ўкралі. За мной даўно сочаць. Выйду ў краму, вярнуся, бачу: не газеты на часопісах, як пакідаў, а часопісы на газетах ляжаць. А раз уначы прачнуўся — на кухні кран газавы адчынены, атруціць думалі.

Генрык згодна захітаў галавою, а сам наступіў Дануце пад сталом на нагу — маўляў, стары ў маразме, а той працягваў:

— Спачатку заяву ў мяне прынялі, а потым афіцыйна паведамілі, што аніякае зброі ў мяне быць не магло. А ксёндз адразу язык прыкусіў, нібыта яго тут пры немцах і не было; ды я не крыўдую: дзе ж ты прызнаешся, што капеланам у батальёне Рагулі служыў?

— Натуральна, лепш немцам, чым саўдэпаўцам служыць, — цынічна пагадзіўся Генрык.

— Усім блага: і тым, і гэтым. Беларус павінен служыць Беларусі, — залішне дэкларатыўна не ўтрымалася Данута.

— Падабаецеся вы мне, — Сідарэвіч усміхнуўся залішне ясна, каб быць шчырым. — Калі атрымаў я адмову з пракуратуры, то ксёндз ужо быў у Ватыкане. А калі вярнуўся, то расказаў такое, што я адразу вырашыў — лепш далей не лезці. Быў ён у Рыме на прыёме ў аднаго мецэната, якога ведаў з даўйны. І згледзеў у яго ксёндз Міцкевіч паляўнічы радзівілаўскі стылет работы Бенвенута Чэліні. Які яшчэ месяц таму сам разглядаў у маім доме. Пачаў ён распытваць мецэната, адкуль у яго гэты стылет. Той прызнаўся па-сяброўску, што набыў яго ў Менску, у аднаго высокага чыноўніка, так бы мовіць, члена ўрада. І нават атрымаў ад яго афіцыйную паперу, што гэты смарагдавы стылет мастацкай каштоўнасці не ўяўляе і можа быць вывезены за мяжу. — Сідарэвіч пагразіў пальцам: — Гэта Чэлі-

ні не мае каштоўнасці!? Расказаў мне гэта Міцкевіч, а я зразумеў, што ў такой сітуацыі трэба сядзець ціха і не высоўвацца, бо задзейнічаны вышэйшыя ўлады, якім нічога не варта знішчыць нас. А ён мяне не паслухаў і паехаў у Менск дамагацца, каб калекцыю вярнулі з Рыму на Беларусь, паехаў шукаць зацікаўленага чалавека і вярнуўся ні з чым. Можна дапусціць, што ксёндз у Доме ўрада спудзіў злодзея, і той дзеля перасцярогі вырашыў знішчыць яго. Вось таму, скажаце вы, і знік ксёндз Міцкевіч. Але я бачу сэнс забіваць і мяне, і яго да таго, як знікла калекцыя і даведаліся пра яе існаванне, а не зараз, калі нават журналістка і прыватны дэтэктыў вядуць аматарскае расследаванне.

— Але ж не чэрці яго знеслі? — заўважыла Данута.

— Вось гэта больш падобна да праўды, — Сідарэвіч прыцішыў голас. — Яго з’еў пацук.

— А зубы ў пацука былі прапітаны цыяністым каліем, — не вытрымала Данута і наступіла Генрыку на нагу — маўляў, стары зноў у маразме.

— Дарма кпіце, але што з вас узяць, я б сам не верыў, каб на свае вочы не бачыў. Жыве пацук пад замкам і выходзіць з-пад зямлі толькі на поўню, каб зарэзаць авечку ці цялушку, што першым трапіцца; памерам ён з добрага сабаку, толькі што лапы карацейшыя, але лютасці і ненажэрнасці ў ім — на воўчую зграю. Даўно не здаралася, але расказвалі, што кідаўся і на людзей. Колькі палявалі на яго, але звер няўлоўны, хітры і ненажэрны. Апошні раз яго бачылі на могілках, калі груд з капцамі падмыла паводка. Ён з трунаў выцягваў і жор мерцвякоў.

Данута здзіўлена глянула на Генрыка, які з непадробнай сур’ёзнасцю слухаў старога, і таму, каб вярнуць размову да рэчаіснасці, не звар’яцець самой, спытала:

— Скуль узялася такая пачвара? Што, ворагі народа — генетыкі вывелі?

— Можа, і так. Але існуе колькі паданняў наконт

узнікнення пацука, — бліснуў металічнымі зубамі Сідарэвіч, — вось што расказваў мне адзін з апошніх нясвіжскіх Радзівілаў: «Канцлер Вялікага княства Леў Сапега ў 1583 годзе ездзіў з пасольствам у Масковію і атрымаў ад Івана Жахлівага сярод іншых падарункаў і такі: жалезную клетку з гіганцкім пацуком. Вяртаючыся ў Вільню, Сапега завітаў у Нясвіжскі замак і пазбавіўся ад гэтай поскудзі, ахвяраваўшя яе княжацкаму звярынцу.

Уначы вартаўнік пачаў здзекавацца з пацука, пароць яго шабляю. Раз'юшыўся звер, але затаіўся. І калі вартаўнік заснуў, зламаў краты і зарэзаў яго, як авечку. З таго часу і вядзецца ў нясвіжскіх падзямеллях д'ябальская пачвара». Апошнім часам скардзіўся мне ксёндз Міцкевіч, што чуў, як той пацук шкрабецца пад касцёлам, і нават бачыў сляды ў алтары. Відаць, зачыніўся ён у касцёле, каб звярнуцца да бога на адзіноце — тут яго чорт і падпільнаваў, зацягнуў у нару і зжор.

Генрык успомніў доўгае дзяржальна шыла, што тырчэла з ксяндзоўскага вуха, і падумаў: каб той пацук часам не праглынуў яго, і не выпруціўся дзе пад касцёлам, і не засмуродзіў божы храм. Бо знойдуць пацука, зразумеюць, куды падзеўся ксёндз, а гэта было Войнічу без патрэбы.

Данута ўжо даўно штурхала Генрыка ў бок і паказвала, што трэба сыходзіць. Падняўшыся, ён падзякаваў за гутарку і на развітанне спытаў, ці не ведае спадар Сідарэвіч імя таго чыноўніка, да якога ў Менску звярнуўся ксёндз Міцкевіч за тыдзень да знікнення.

— Не, не ведаю, — відавочна падмануў Сідарэвіч.

### Навела пра тое, як Генрык стаў злодзеем

Публіка заўсёды чакае біяграфій галоўных герояў: так сцвярджаў адзін рэдактар літаратурнага часопіса і прымушаў аўтараў дапісваць творы.

Але, хутчэй, біяграфія кожнага чалавека можа звесціся да пэўнага выразнага і па-мастацку значнага ўчынку. Напрыклад, студэнт Шч., паспрачаўшыся са студэнткай Ю. на пляшку шампанскага, згасіў ватоўкаю «вечны агонь» каля абеліска Перамогі; студэнт атрымаў 15 сутак грамадска-папраўчых работ, мянушку Праметэй і заўсёднае азначэнне — «гэта той, што згасіў "вечны агонь"». Учынкі могуць быць і менш маштабныя, але унікальныя: навучэнец О. знакаміты тым, што, застаўшыся сам-насам у кабінеце біялогіі, не стрымаўся, дастаў фікус з вазона, насерыў (інакш не скажаш) туды і паставіў фікус на месца, пасля чаго назаўсёды прыдбаў азначэнне — «гэта той, хто...» А. знакаміты тым, што рабіў з цвіка нож і спусціў з рэек вежавы кран, Б. — згвалціў казу, В. — смажыў і еў на балоце жабак. І гэтыя ўчынкі настолькі характарызуюць герояў, як і агульнапрызнаныя: М. — закрыў грудзьмі амбразуру дота, а Г. — скіраваў свой падпалены самалёт, разам з экіпажам, на калону вайсковай тэхнікі, а хлопчык К. — узарваў сябе і яшчэ шэсць чалавек адною гранатаю. Х. — распялі на крыжы.

Ёсць людзі, знакамітыя не адным, а цэлым шэрагам разнастайных подзвігаў і ўчынкаў.

Генрык Войніч нарадзіўся ў 1960 годзе ў мястэчку Заблудава, у нешчаслівай сям'і. Генрыкаў бацька — Пятро Войніч сканаў у турме, калі сыну ішоў шосты год. Адзінае, што запомнілася Генрыку пра бацьку, — як хадзілі яны разам да камбайнаў красці з бункераў жыта. Бацька цягнуў на плячах мех, а малы Генрык нёс за ім дзіцячае вядзерца з зернем, а ў другой руцэ сціскаў цацачны савок.

Маці — Юзэфа працавала на шклозаводзе. У Заблудаве апроч шклозавода нічога не было, і займаў завод плошчу ўдвая большую за само мястэчка. Яшчэ ў Генрыка была старэйшая сястра Рэгіна, на якую бацькава зладзейства паўплывала ў

адваротным кірунку — стала яна пракурорам у Маладзечне і, здагадваючыся пра подзвігі брата, аніякіх стасункаў з ім мецць не жадала.

Нягледзячы на тое, што Генрык прагульваў заняткі ў школе, курыў і паказваў з адхону пасажырскім цягнікам голую дупу, быў ён здольным і таленавітым і вучыўся добра. Ужо ў чацвёртым класе ён сам даўмеўся з вечара кінуць пачак дражджэй у настаўніцкую прыбіральню: каналізацыю ўспучыла так, што два дні не было заняткаў.

Генрыкаў характар сфармаваўся, і ён сам склаўся як асоба ў цырку Абеля, які існаваў пры шклозаводзе і нават меў званне народнага калектыву. На манежы знаходзілі выйсце дурная энергія і амбіцыі хлопца. Цыркавая кар'ера Генрыка пачалася з манацыкла — ровара з адным колам. Аднойчы цырк прыехаў на выступленні ў Менскі оперны тэатр, але Генрыкаў сябра — цыркавы атлет Хведар напіўся ў буфеце і не змог падняць гіры, а потым за кулісамі, пад непрыстойную лаянку кіраўніка Абеля, паціскаў плячыма і супакойваў сам сябе: «Ну і што, што не падняў? Ну, выганіш ты мяне з цырку, але са скрыначнага ты мяне ўсё адно не выганіш». Працаваў Хведар на Заблудаўскім шклозаводзе ў цэху, дзе рабілі скрыні. Следам за атлетам на сцэну выехаў Генрык на манацыкле і на першым павароце паваліўся, схапіў манацыкл і кінуўся ўцякаць за кулісы, але там яго злавіў Абель і зноў загадаў выехаць на сцэну. Пасля манацыкла Генрык перакваліфікаваўся ў жанглёра і, перад самым войскам, дасягнуў вышэйшай кваліфікацыі — артыст арыгінальнага жанру. Пасля Хыраўскага дэсантнага батальёна, дзе ён спраўна вучыўся біцца, страляць і ваяваць, вярнуўся ў Заблудава і ў багата аздобленым па ўсіх законах вайскова-прыкладнога мастацтва дэмбельскім парадным мундзіры з'явіўся ў клубе на танцах.

Пазней Генрык так і не змог успомніць, з-за чаго пачаў бойку з патрульнымі міліцыянтамі ў

скверыку каля клуба. Памятаў толькі, што зазлаваў, калі міліцыянт паспрабаваў па рацыі выклікаць машыну. Генрык разламіў рацыю і ўкінуў у фантан. На раніцу ён прачнуўся дома, сціскаючы ў разбітым кулаку міліцэйскі пагон. Начальнік міліцыі папярэдзіў Генрыкаву маці, што сына пасадзяць, калі той праз 24 гадзіны не з'едзе з мястэчка.

Месцам выгнання Генрык абраў сталіцу. У Менску ён уладкаваўся электрыкам на трактарны завод, але доўга не вытрымаў лазіць, мяняючы лямпы, па заводскіх перакрыццях, хоць і падобныя яны былі ды купала цырка. Выпадкова падвярнулася праца тэхніка ў Мастацкай акадэміі. За дробныя паслугі рэктар Акадэміі Кім Сымонавіч уладкаваў Генрыка на завочнае аддзяленне Інстытута культуры.

Рабаваць цэрквы і касцёлы Войніча прывучылі спецыялісты з этнаграфічных экспедыцый: з першага ж падарожжа ён прынёс Кіму Сымонавічу пару драўляных анёлаў XVII стагоддзя, якіх зняў з-пад купала уніяцкай царквы дзякуючы цыркавому таленту акрабата і вывучцы дэсантніка. Па ўласнай ініцыятыве Войніч вывеў у рэктарскі кабінет камутатарны пульт, з якога можна было праслухоўваць усе акадэмічныя тэлефоны.

Але ў нацыянальна-патрыятычных колах Генрык Войніч быў знакаміты не рабаваннем музеяў і святых месцаў і не адзіным вершам, які надрукаваў у альманаху, а тым, што разам з Арсенам Прусам на цэнтральнай магістралі сталіцы спыніў калону танкаў. Напярэдадні вайсковага парада Генрык з Арсенам выпівалі да сярэдзіны ночы ў «Каламутным воку», а пасля дванаццаці на праспекце пачалася рэпетыцыя парада. Генрык з Арсенам выйшлі на двор і ўбачылі, як да Дома ўрада рухаецца танкавая калона. «Не дадзім акупантам ладзіць мілітарысцкі шабаш», — загадаў Арсен, і яны леглі на шляху вайсковай калоны. Вайскоўцы, каб пазбегнуць грамадскага скандалу, упрошвалі іх паднял-

ца; потым падаспелі міліцыянты і адцягнулі пацыфістаў у цёмны сквер, і ў кароткай бойцы Арсену зламалі палец. Акцыя набыла шырокае грамадскае гучанне, і іх подзвіг не раз быў паўтораны іншымі патрыётамі. Цяпер, калі згадвалі Войніча, звычайна дадавалі: гэта той, які спыніў калону танкаў.

Сам Генрык лічыў найбольш удалай з усіх сваіх спраў выкраданне калекцыі зброі з сутарэнняў бібліятэкара Сідарэвіча.

* * *

Генрык крануў машыну з месца. Данута азірнулася і заўважыла бібліятэкара, які бязгучна варушыў вуснамі, стараючыся запомніць нумар іхняе машыны.

— Немагчыма паверыць ва ўсю гэтую гісторыю з пацуком, — Данута прыпаліла ад электразапальнічкі.

— Ёсць рэчы, у якія табе будзе яшчэ цяжэй паверыць, — Генрык вырашыў усё расказаць Дануце, бо зразумеў, што яна зможа дапамагчы яму, а маўчанне нічога не дасць — праз пару дзён яна здагадаецца сама, што Генрыка шукаюць, а яе бацька дазволіў злодзею схавацца на сваім лецішчы.

Войніч зрабіў кола па горадзе, і, калі спыніўся недалёка ад рачнога адхону, насупраць кляштара Бенедыктынак, так і не прыдумаў нічога лепшага, як спытаць:

— Якія ў цябе адносіны з бацькам?

— Чаму мы спыніліся?

— Невядома, ці зможам мы пасля гэтай размовы паехаць далей разам. Ты не адказала. — Генрык уключыў кандыцыянер і запаліў.

— Калі не адказала адразу — адносіны не з лепшых.

— Чаму?

— Ён даўно з намі не жыве.
— Твае бацькі развяліся?
— Не развяліся, але разышліся, калі мне было дзесяць гадоў. Ты распытваеш так, нібыта сабраўся са мною ажаніцца. — Данута выйшла з машыны. — Не зношу кандыцыяванага паветра.
— А дзе зараз твой сын?
— Стасік у маці.
— Ты б не магла на пару дзён забраць яго і знікнуць, нікому не кажучы куды?
— Толькі ў тым выпадку, калі ты нарэшце растлумачыш, што адбываецца.
Генрык падвёў Дануту да рачной стромы:
— Калекцыю зброі ўкраў я.
Данута засмяялася:
— І гэта ты меў на ўвазе, калі казаў, што мне цяжка будзе паверыць?
— Я ўкраў калекцыю зброі па заданні твайго бацькі, а ён перапрадаў яе за мяжу з дапамогаю нашага агульнага знаёмага генерала Матрашылы. Ксёндз Міцкевіч убачыў у Рыме стылет і звярнуўся па дапамогу да твайго бацькі. Ксёндз забіты, і няцяжка прыйсці да высновы, што забіў яго твой бацька.
— Ты вінаваціш яго ў рабаўніцтве і нават у забойстве?! — абурылася Данута.
— Хочаш пераканацца, што ксёндз звяртаўся менавіта да твайго бацькі? — Генрык пацягнуў яе да машыны, узяў тэлефонную трубку і набраў нумар:
— Тася? Выбачай, што турбую позна. Ты не прыгадаеш, ці не прыходзіў тыдзень таму на прыём да Кіма Сымонавіча які-небудзь святар?.. Ты не знойдзеш у нататніку ягонае прозвішча? Глянь, калі-ласка. — Генрык перадаў трубку Дануце і спытаў яе: — Голас бацькавай сакратаркі пазнаеш? — Тая кіўнула, моўчкі выслухала Тасін адказ і паклала трубку.
— Ну што? — пацікавіўся Генрык.

— Казачна тоўсты ксёндз з прозвішчам Міцкевіч.

— Можа, скажаш, ты не пра што не здагадвалася, не бачыла бацькавага асабняка, не ведаеш пра існаванне гэтай машыны, і трохпавярховае лецішча вырасла, як бульба на градах?

— Але ксяндза ён не забіваў, да таго ж ніхто не бачыў яго мёртвым. У нас ёсць што выпіць? — у яе калаціліся рукі.

— Я бачыў. Хадзем.

З багажніка Генрык дастаў сапёрную рыдлёўку, каністру з бензінам і скрутак брызенту. Данута з хрустальнаю чаркаю і бутэлькаю джыну з руках абыякава пайшла за Войнічам. Ён раскапаў уваход у падзямелле. Асвятляючы дарогу злодзейскім ліхтарыкам, яны ішлі падземным ходам.

— Я не да канца разумею тваю ролю ў гэтай справе. Магчыма, калі ты здатны ўкрасці, то здатны і забіць, — Данута наліла джыну і выпіла.

— Каб забіваў, то не вёў бы паказваць.

— Ты і мяне заб'еш, — прызналася асмялелая ад спіртнога Данута.

— Калі будзеш і надалей такой ідыёткай.

— Вядзеш жывую, бо лянуешся цягнуць труп.

Генрык азірнуўся і пасвяціў ліхтаром ёй у твар — Данута была ўшчэнт п'яная. Нізкія цагляныя скляпенні прымушалі ісці ўгнуўшы галаў, дзенідзе па сценах сачылася, як смала, грунтовая вада. Генрык адкінуў накрыўку з каністры і падрыхтаваў скрынку запалак. Ксяндзоўская галава, выхапленая з цемры ліхтаром, ашчэрвалася ва ўпруцянелай усмешцы. Не зважаючы на ўражаную жахлівым відовішчам Дануту, Генрык выцягнуў мерцвяка з вентыляцыйнай шахты. З цемры пачулася драпежнае сычэнне, раз'юшаны звер зашархацеў цагляным друзам. Данута ўхапілася за Генрыкава плячо, але ён адштурхнуў яе і лінуў у шахту бензіну з каністры, кінуў запалку і адскочыў. Падхопленае проймаю полымя закруцілася вінтом, расцяклося

па сценках вузкай шахты, у пякельных сполахах агню асвяцілася перспектыва пацучынага хода. Генрык убачыў хіжую пысу з шырокімі лёзамі жаўтаватых разцоў. Данута сустрэлася позіркам з шклянымі вачыма істоты і ўскрыкнула. Уздыбіўшы поўсць, пацук павярнуўся і пабег у чорныя глыбіні шахты, ударыўшы па сцяне доўгім, як пакрытым лускою, агідным хвастом.

Пасля перажытага Данута ўжо даволі спакойна назірала за тым, як Генрык загарнуў у брызент моцна аб'едзены пацуком труп, зацягнуў яго ў адну з пустых ніш і заклаў цэглаю.

Скончыўшы пахаванне, ён папрасіў Дануту:

— Палі мне на рукі джыну.

— Адкуль ты ведаў пра ксяндза?

— Калі я па справах уначы апынуўся ў касцёле, то знайшоў яго нежывога ў спавядальні.

— Можа, яго і зарэзаў пацук? — Данута, далёка адставіўшы руку, тонкім струменчыкам ліла джын у падстаўленыя далоні Генрыка.

— Яму ўваткнулі шыла ў вуха. І самае падазронае, што ў касцёл мяне накіраваў твой бацька. Не паспеў я агледзецца, як у дзверы пачалі ламіцца. Давялося схаваць нябожчыка і сысці падземным ходам. Мне здаецца, што Кім Сымонавіч збіраўся перакінуць адказнасць за забойства на мяне.

— Я не веру. Гэта жахлівы збег абставін, у які ты хочаш ублытаць мяне і майго бацьку, — цяпер па ёй было добра відаць, што яна дачка міністра.

— Апроч гэтага, забойца ўкраў з касцёла партрэт і падкінуў на маю кватэру, а на мяне навёў міліцыянтаў.

— Я мушу падумаць.

Ужо ў машыне Данута спытала:

— Не баішся, што заб'юць і цябе?

— Хто, Кім Сымонавіч?

— Я перакананая: да забойства ён не мае аніякага дачынення.

— У такім выпадку табе небяспечна блытацца ў

гэтую справу і заставацца навідавоку. Ты і твой Стасік — слабае месца. Наступнае няшчасце можа адбыцца з вамі, — Генрык ужо напэўна ведаў, што так яно і здарыцца. Усімі сродкамі яму трэба было схаваць на пару дзён Дануту з сынам. — Вы мусіце знікнуць. Мне трэба два дні на тое, каб разабрацца. Я адзіны, хто зацікаўлены знайсці сапраўднага злачынцу, усе астатнія палююць на мяне.

— Ці ведае бацька пра забойства ксяндза? — спытала Данута.

— Ён не ведае, дзе падзеўся труп, — не стаў удакладняць Генрык.

— Ты сапраўды пераканаты, што мой бацька забойца?

— Ён адзіны, каму быў сэнс гэта рабіць. Ксёндз выйшаў на след зброі, — разважаў Генрык, — і расказаў яму пра гэта. Калі ты знікнеш, я паспрабую раскруціць яшчэ адну версію, — пераконваў ён Дануту. — Тэлефануй маці і скажы, каб яна сабрала Стасіка. Я зайду за ім у кватэру, а ты застанешся ў машыне.

— Чаму гэта ты зойдзеш, а не я?

— Баюся, маці па тваім твары адразу здагадаецца, што ты толькі-толькі з пахавання ксяндза, на якім перапілася джынам.

— А раптам да сына зайшоў Аляксей?

— Пра мужа даведаешся па тэлефоне.

* * *

Без усялякіх складанасцяў Генрык забраў сямігадовага Стасіка ад бабулі і пасадзіў яго на задняе сядзенне дзедавай машыны.

Данута маўчала, але нарэшце, калі яны выехалі на кальцавую дарогу, спытала:

— Куды ты вязеш нас?

— Адпачнеце тры дні ў дзіцячым лагеры «Грунвальд».

— Не думала, што першы раз у дзіцячы лагер

траплю ў такім узросце. Цікава, у якасці каго?

— Уладкую пад выглядам сваёй жонкі. Ты не супраць?

— Мама, — вымавіў Стасік, і стала заўважна, што ў яго няма двух пярэдніх зубоў, — а гэты дзядзька, ён новы дзедаў шафёр?

— Не, ён наш з табою шафёр. Зараз адвязе нас у піянерскі лагер.

— Не піянерскі, а скаўцкі летнік «Грунвальд».

## 10. Менск

Ужо апрабаваным шляхам — праз вакно — Генрык і трэцяй ночы зноў апынуўся ў спачывальні міністра. Кіма Сымонавіча мучыла пякучка. Са шклянкай содавай ён вярнуўся ў спачывальню:

— Мне абрыдлі твае зладзейскія манеры. Ты што, не ўмееш зайсці як прыстойны чалавек?

— Я не хачу згубіць кваліфікацыю. — Генрык стаў нагамі на падушку міністравага ложка і зняў са сцяны важкую ўланскую шаблю, колькі разоў з халодным свістам расцяў ёю паветра.

Міністр адступіў да дзвярэй.

— Ваш сябра мастак Вашчыла — аматар Малевіча, не скардзіўся вам, што нехта расцерусіў на пер'е ягонае мяшчанскае гняздо? — Генрык зухавата сякануў шабляю і разваліў напалам плеценае крэсла. — Я бачу сэнс перайсці ў кабінет, там ёсць да чаго прыкласціся, — Генрык прыставіў вастрыё шаблі Кіму Сымонавічу да горла.

Збялелы міністр пасунуўся калідорам.

— Першай загіне, — Генрык агледзеўся ў кабінеце, — гэтая каралеўская парцэляна і хрусталь, за імі абразы, кнігі, мэбля, потым падпалю гэты асабняк і засмажу вас, як пацука.

— Што ты хочаш? — ён асцярожна абышоў Генрыка і сеў за стол.

— Спачатку вы мусіце выслухаць колькі непрыемных рэчаў. — Генрык уваткнуў шаблю ў паркет і

сеў насупраць. — Тры дні таму вы накіравалі мяне ў Нясвіжскі касцёл за партрэтам Радзівіла, які не мае аніякае мастацкай каштоўнасці, бо гэта не арыгінал, а копія, і вы не маглі гэтага не ведаць. Па-другое, так праспешвалі, што на выкананне ў мяне заставалася адна ноч, і вы дакладна ведалі, калі я буду ў касцёле. Замест партрэта мяне чакаў труп ксяндза Міцкевіча.

— Раней ты пра гэта не казаў, — міністр звёў бровы.

— Хіба вы пра гэта не ведалі? Калі б я быў менш увішны, мяне б злавілі адразу, у Нясвіжы. Пра маё, яшчэ толькі запланаванае злачынства, былі папярэджаны і ў Нясвіжы, і ў Менску. Мяне лавілі і ў касцёле, і на маёй кватэры. Гэта вы забілі ксяндза, бо той, па наіўнасці, звярнуўся да вас па дапамогу і расказаў, што бачыў у Рыме стылет з радзівілаўскай калекцыі. Вы забілі ксяндза і хацелі перакласці адказнасць на мяне.

— Так, я ведаў, што ў касцёле вісіць копія, але менавіта яна і была патрэбна заказчыку, ён не патрабаваў ад мяне арыгінала, — міністр набіў люльку араматызаваным тытунём і прыпаліў ад настольнай запальнічкі. — Так, ксёндз сапраўды звяртаўся да мяне, але рэальнай небяспекі ён не ўяўляў, бо ўсё грунтавалася толькі на словах, ніякіх доказаў ён не меў і мець не мог.

— Я не кажу, што вы яго забілі сваімі рукамі. На такія справы ў вас ёсць Каспар Францавіч Матрашыла.

— Магчыма. Але навошта яму забойства? Які сэнс? Яму, як і мне, нічога не пагражала. Я не разумею, чаго ты ад мяне хочаш? Мяне цалкам задавальняе тое, што ксёндз знік, — міністр высунуў шуфляду пісьмовага стала і паклаў руку на касцяную рукаятку рэвальвера, — мяне нават не цікавіць, куды ты схаваў труп. А што забіў яго ты, я не сумняваюся, — міністр зняў рэвальвер з засцерагальніка.

Генрык сядзеў у глыбокім фатэлі ў тарцы стала і скептычна слухаў гаспадара, склаўшы рукі на эфесе шаблі:

— Але я не забіваў ксяндза.

— Мяне задаволіць, — міністр наставіў на Генрыка рулю зброі, — калі знікнеш і ты.

— Я ведаў, што да гэтага дойдзе, таму я прыдумаў для вас іншы занятак, — Генрык падняўся: — Да раніцы пашукайце свайго ўнука і дачку, і калі ўзнікнуць цяжкасці, я змагу вам дапамагчы, бо ведаў — гэта адзінае, што на вас падзейнічае.

— Чаго ты дамагаешся? — міністр апусціў рэвальвер.

— Каб спынілі крымінальную справу. Але адкладзем мае справы да раніцы. Пачаць пошукі ўнука раю з вашай былой жонкі: патэлефануйце і спытайце, каму яна аддала яго сёння ўвечары.

Генрык выйшаў, як і раіў яму міністр, праз дзверы.

* * *

— Ты звар'яцеў, сярэдзіна ночы? — Тася ў сцёганым квяцістым пеньюары, які выгодна падкрэсліваў яе вабнасць, упусціла Генрыка ў кватэру — А ты падумаў, што сказаў бы Кім Сымонавіч, калі б раптам быў у мяне?

— Я толькі што ад яго.

— І ён дазволіў табе прыходзіць сюды ноччу?

— Ёсць пільная справа. Ты мусіш неадкладна выклікаць сюды генерала Матрашылу.

— Каспара Францавіча? — расчаравалася Тася. — З якой нагоды?

— У мяне ёсць даручэнне ад міністра, але запросіш генерала ад свайго імя. Не пазней як праз паўгадзіны ён мусіць быць тут, — загадаў Генрык. У яго быў настолькі сур'ёзны твар, што Тася нават не спыталася, ці не жартуе ён.

Генрык пераняў генерала каля Тасінага пад'езда:

— Каспар Францавіч, не забыліся, мы з вамі сустракаліся ў Піцундзе? Гэта я прымусіў Тасю патэлефанаваць вам.

Генерал у чаканні далейшых тлумачэнняў моўчкі глядзеў на Генрыка.

— Я — Генрык Войніч, які па даручэнні Кіма Сымонавіча вырашаў некаторыя далікатныя праблемы.

— Не разумею, што вы хочаце? — генерал схаваў рукі ў кішэні доўгага цывільнага плашча.

— Я хачу папярэдзіць, што вам пагражае небяспека з боку вашага кампаньёна Кіма Сымонавіча. З Нясвіжскага касцёла знік ксёндз, і Данута, дачка Валовіча, дазналася, што ксяндза забіў яе бацька. Я быў сведкаю, калі яна сёння выказала сваю здагадку Кіму Сымонавічу. У яго не засталося выйсця: або знішчыць Дануту, бо яна пагражала выкрыць яго, або перакласці адказнасць за забойства на каго іншага. Зрабіць злачынцу з мяне не атрымалася ні ў яго, ні ў вас. Максімум, што мне магчыма інкрымінаваць, — крадзеж партрэта. Найбольш выгоднай кандыдатурай з'яўляецеся вы, Каспар Францавіч. У вас захоўваецца асноўная ўліка злачынства, і яна ж матыў — калекцыя зброі, з якой вы паспелі прадаць адно смарагдавы стылет.

— Я не разумею, пра што вы гаворыце, — генерал пакруціў галавою.

— Паколькі труп не знойдзены, глядзіце, каб ён не ўзнік у небяспечным для вас месцы і ў неспрыяльных для вас абставінах. Валовіч, баючыся дачкі, вырашыў апярэдзіць падзеі і запісаўся на прыём да прэзідэнта.

— Нават калі дапусціць, што ўсе вашыя фантазіі — праўда, а паверыць у іх немагчыма, я не магу зразумець, што вас прымусіла звярнуцца да мяне? — Генерал адамкнуў сваю машыну, але сядаць не стаў.

— Супраць мяне па недарэчнасці ўзбуджана

крымінальная справа, мяне вінавацяць у крадзяжы партрэта з таго самага Нясвіжскага касцёла. Пасля нашае размовы мне разлічваць на дапамогу міністра не выпадае. Прапаную чыста разумовы абмен, бо гэта ўсё, вядома, фантазіі. Я гарантую, што ксёндз так і застанецца без вестак зніклым, а ўзамен вы дасцё мне слушную параду. — Генрык зразумеў, што зацікавіў генерала.

— Гандлюеш нябожчыкам? — павесялеў Каспар Францавіч.

— Чыста абстрактныя развагі.

— Тваёй справай займаецца пракуратура рэспублікі. Тут я не ведаю, што і парадзіць.

— А калі ў адным з касцёльных закуткоў, я нават скажу дзе — за шафаю ў прэсбітэрыўме, пасляззаўтра знойдзецца партрэт Радзівіла, да таго ж арыгінал, а той, знойдзены на маёй кватэры, усяго толькі пазнейшая копія, якую ксёндз, так бы мовіць, перадаў мне на рэстаўрацыю? Ксёндз гэтага не зможа абвергнуць, а ў мяне ёсць аўтарытэтныя сведкі.

— Пракуратура павінна будзе вярнуць копію табе, а ты, адрэстаўраваўшы яе, — у касцёл. Але дзе ты возьмеш арыгінал?

— Гэта мае праблемы, да таго ж у абстрактных развагах можна рабіць якія заўгодна дапушчэнні, — падтрымаў гульню ў няведанне Генрык.

На скрыжаванні Войніч спыніў таксоўку, назваў адрас генерала і, паклаўшы на панель сторублёўку, папярэдзіў шафёра:

— Пагуляем у шпіёнаў.

Ужо паўгадзіны Генрык у форменнай таксісцкай фуражцы чакаў за рулём машыны ў тарцы генеральскага дома. Таксоўшчык, выканаўшы план на тры дні наперад, спаў на заднім сядзенні. На ветравым шкле дрыжэлі дробныя кроплі дажджу, у якіх адбіваліся і зіхцелі рэдкія асветленыя вокны шматпавярховага дома. На капот асыпаліся збітыя ветрам, цяжкія ад вільгаці пялёсткі шыпшыны.

Вузкі праезд у двор нарэшце асвятлілі фары легкавога аўто. Каспар Францавіч быў не адзін. Чалавека, які выйшаў следам за ім з машыны, пабачыўшы аднаго, Генрык і не пазнаў бы, але ў спалучэнні з генералам адразу згадаў Дануцінага мужа — Аляксея Адамовіча, да таго ж на ім быў той самы, з Піцунды, спартовы гарнітур з шырокімі фельдмаршальскімі лампасамі.

Мінула яшчэ дзесяць хвілін, і Каспар Францавіч з Аляксеям урачыста, як труну дэпутата, забітага тэрарыстамі, вынеслі і пагрузілі ў машыну дашчаную вайсковую скрыню і спешна ад'ехалі.

Генрык выехаў у другую арку і паімчаў паралельнай вуліцай. Праз два кварталы ў прагале паміж дамоў ён зноў убачыў генеральскае аўто. Мінаючы наступнае скрыжаванне, Генрык ужо дакладна ведаў, куды яны едуць, і, апярэдзіўшы іх, спыніўся ў тым двары, адкуль гэтым вечарам забіраў Стасіка.

Матрашыла з Адамовічам выгрузілі скрыню і пацягнулі яе, але не ў пад'езд, а ў суседнія дзверы, што вялі ў сутарэнні. Войніч счакаў, покуль яны з'едуць, і аддаў фуражку таксоўшчыку.

Адамкнуўшы цвічком нескладаны навясны замок на дзвярах, збітых з негабляваных дошак, на якіх крэйдаю быў выведзены нумар кватэры Дануцінае маці, Генрык апынуўся ў цесным неатынкаваным памяшканні з пахам цвілое бульбы і збуцьвелых газет. Паміж стэлажоў з пустымі слоікамі і бутэлькамі стаяла стырчма толькі што прынесеная сюды вайсковая скрыня. Ён адкінуў вечка і адгарнуў парусіну.

Хаця Генрык і ведаў дакладна, што ў сярэдзіне, але ўсё адно непакоіўся, бо загарнуць у парусіну можна ўсё што заўгодна: труп Дануты або Кіма Сымонавіча, жывога пацука або самаробную бомбу, але скрыня была начынена калекцыйнаю зброяй. Вярнуцца Генрык збіраўся настолькі хутка, што нават не зашчоўкваў замок.

* * *

— Пазнаеце, Кім Сымонавіч? — Генрык адхінуў парусіну.

Міністр асуджана глянуў на зброю:

— Матрашыла з Аляксеям вырашылі мяне патапіць і ўблытаць у гэта Дануту?

— Для вас засталося адно выйсце — сустрэцца з Каспарам Францавічам і пераканаць, што вы апярэдзілі яго — ва ўсім прызналіся прэзідэнту. Вы скажаце яму, што існуе відэазапіс таго, як ён з Адамовічам перахоўваў калекцыю.

Генрык з Кімам Сымонавічам выйшлі ў двор і селі ў «рэно».

— Я хачу ведаць, што з маёй дачкою і ўнукам? — другая бяссонная ноч зламала міністра: упершыню Генрык бачыў яго няголеным.

— Яны ў мяне, але дзе — я ўдакладню пасля вашае гутаркі з генералам.

— Які табе ў гэтым сэнс? Навошта?

— Гэта маральная кампенсацыя за мае вымушаныя прыгоды і сапсаваную рэпутацыю. А ў якасці матэрыяльнай кампенсацыі — зброя пяройдзе ў маю ўласнасць. І яшчэ раз папярэджу вас: калі са мною нешта здарыцца ў бліжэйшы час, то Дануту і Стася вы больш не ўбачыце.

Далей яны ехалі моўчкі чыста вымытымі начным дажджом вуліцамі да самага дома Матрашылы.

— Машыну вярну разам з Данутай і Стасікам, — Генрык падняў шкло і пакінуў міністра ў падсветленай неонавымі лямпамі арцы генеральскага дома.

## 11. Нясвіж

Уз’ехаўшы пярэднім колам на ганак бібліятэкарскага флігеля ў Нясвіжскім парку, Генрык пасігналіў, быццам наважыўся бамперам машыны выламіць дзверы. Бібліятэкар, у начным каўпаку з

шаўковым кутасікам і ў ільняной сарочцы да лытак асляплены фарамі, разгублена спытаў:

— Хто гэта?

— Ксёндз Міцкевіч! — Генрык увапхнуў Сідарэвіча ў гасцёўню.

Перш чым гаспадар паспеў абурыцца, Война сарваў палатно з партрэта і падступіўся да старога.

— Вы расказвалі мне дзве цікавыя версіі пра знікненне ксяндза, а цяпер я раскажу трэцюю, — Генрык сеў на край стала.

— Калі вас бянтэжыць партрэт, — акрыяў Сідарэвіч, — то ён не цяпер узяты з касцёлу, там вось ужо два стагоддзі вісела дакладная копія, а гэты арыгінал за Радзівіламі знаходзіўся ў замку. Я ўратаваў яго ў час вайны.

— А гэта можа падцвердзіць ксёндз Міцкевіч, якога з'еў пацук. Але мяне больш не цікавяць вашы байкі, я прыйшоў, каб расказаць трэцюю версію. Ксяндза забілі вы. Не на тое, каб нешта ўкрасці, бо патрыёты маюць манеру караць здраднікаў.

— Навошта мне забіваць сябра? — адразу здрабнеў бібліятэкар.

— Ксёндз пахваліўся Арсену ў Менску, што ведае, у каго знаходзіцца калекцыя, і паабяцаў пасля вашае смерці перадаць яе дзяржаве. І ў выніку калекцыю ўкралі. І вы не маглі гэтага дараваць яму. Я разумею: сэнс жыцця, нянавісць да ўладаў — вы ўсё жыццё ахоўвалі радзівілаўскія скарбы і раптам так безнадзейна страцілі іх. Я падазраю — вы і ёсць той пацук. Вы не даравалі здрадніку і адпомсцілі, закалолі яго сваім канцылярскім шылам.

— Так, я хацеў забіць. Такое дараваць нельга. Праз ягоны доўгі язык знікла тое, чаму я прысвяціў жыццё. Але я так і не здолеў пакараць. — Сідарэвіч сцягнуў і скамечыў каўпак, — мяне апярэдзіў пацук. Ён ведае сваю справу — людажэр.

— У вас часам няма шыла? Доўгага, з касцяным дзяржальнам?

— Навошта?

— Каб уваткнуць у вуха, — Генрык быў перакананы, што не памыляецца.

Сідарэвіч кіўнуў і бліснуў лысінаю:

— Было падобнае, але яго перад смерцю пазычыў ксёндз.

— І гэтым шылам скончыў жыццё самагубствам, не дачакаўшыся вас, і смяртэльна паранены запоўз у пацучыную нару?

— Можа, і так, — паспакайнеў бібліятэкар. — Я разумею, уначы знайсці ў спавядальні нежывога ксяндза — такое запамінаецца. Але, па-першае, у вас няма доказаў, і па-другое — аніякі вы не дэтэктыў, а злодзей, які ўкраў партрэт.

— Толькі ў адным вы памыліліся, — Генрык падняўся, — партрэта я не краў, але калі вы мяне так назвалі, я падтрымаю гэтую версію.

Генрык стаў на крэсла і зняў са сцяны радзівілаўскі партрэт:

— Спадзяюся, другога шыла вы не прыхавалі?

* * *

Генрык кінуў партрэт на задняе сядзенне машыны і ад'ехаў. Пад замкавым бастыёнам прасторны цагляны флігель здаваўся склееным з кардону цацачным дамком, бібліятэкар на ганку ў ільняной сподняй сарочцы — белым лабараторным пацуком.

Мінуўшы баракальную Слуцкую браму гарадскіх умацаванняў, Генрык скіраваў да езуіцкага касцёла.

З партрэтам пад пахаю Войніч зноў апынуўся ў саборы. Над ім у вышыні ззялі прасветленыя ранішнім сонцам вітражы гранёнага барабана. Трывожна пачырванелі мармуровыя алтары ў трансептах. Стаіліся, нібыта ў чаканні Сыходжання, скульптуры ў глыбокіх нішах. Сценапіс у зманлівым паўзмроку праяўляўся і пачынаў набіраць

колер. Генрык падцягнуў да сцяны лаўку, павесіў партрэт на яго спрадвечнае месца і адышоўся, каб паглядзець, ці роўна.

З-за калоны бязгучна з'явілася постаць; Генрык яшчэ паспеў зрабіць крок назад, як на яго галаву абрынуўся цяжкі ўдар. У апошнія імгненні яму падалося, што маёлікавая падлога раптоўна паднялася і ўдарыла яго па твары — тут ён канчаткова страціў прытомнасць.

Свядомасць вярнулася да Генрыка так жа ж раптоўна, як і знікла. Ён ляжаў пад амбонам са звязанымі за спіною рукамі, і нехта з паціру ліў яму на твар халодную ваду. Святая вада дапамагла, і Генрык акрыяў настолькі, што пазнаў Аляксея Адамовіча. Той адставіў пацір і, схапіўшы Генрыка за плечы, пасадзіў пад сцяну. Войніч паспрабаваў выслабаніць рукі, але вяроўка толькі мацней зацягнулася.

— Гэтым разам не ўцячэш, — Аляксей піхнуў яго нагой.

— А, гэта ты, знішчальнік канапляў, цябе ж генерал Матрашыла паслаў сюды на іншае? — перасохлы язык ледзь рухаўся.

— Куды дзеў труп ксяндза?

— Пацукі з'елі ці павукі знеслі. Пашукай сам. Са звязанымі рукамі нічым не магу дапамагчы.

Аляксей яшчэ раз пырам ударыў Генрыка па галаве:

— Дзе труп?

— Усё адно на мяне забойства не павесіш. Бібліятэкар мне прызнаўся, што ён адпомсціў Міцкевічу за крадзеж зброі.

— Гэты лысы вар'ят прызнаўся? Але ён не заўважыў, што ксёндз ужо быў нежывы.

— Навошта ты прызнаешся ў забойстве? — Генрык паспрабаваў падняцца.

— Так, я задавіў гэтую тлустую свінню. Я ведаў, што ў тую ноч ты будзеш у касцёле, і зрабіў усё так, каб толькі цябе абвінавацілі ў забойстве. Я вырашыў знішчыць цябе, але не спадзяваўся, што ты

такі спрытны. Цяпер давядзецца ўсё раскручваць па другім коле.

— А ты з генералам не падумалі, што я пацягну ўсю вашую кампанію следам за сабою?

— А мяне не абыходзіць генерал, — Аляксей паставіў Генрыка на ногі. — Ты пакажаш, дзе ксёндз?!

— Дык ты, раўнівы раганосец, вырашыў мне за жонку адпомсціць? — нарэшце здагадаўся Генрык.

Аляксей збіў вязня з ног і націснуў каленам на горла:

— За Дануту я цябе задаўлю.

— Пакажу, — прахрыпеў Генрык, той адпусціў.

Войніч падвёў Адамовіча да сходаў у сутарэнні:

— Сюды. Але, прызнаюся, не думаў, што давядзецца загінуць праз жанчыну.

— Пойдзеш першым, — ён штурхануў Генрыка ў плечы.

— Свяці пад ногі.

Сярод мармуровых надгробкаў панавала спрадвечная цемра. Іхнія твары ў слабым ліхтарыкавым святле здаваліся такімі ж безжыццёвымі, як і каменныя скульптуры на магілах. Перад адным з надгробкаў Генрык спыніўся:

— Адвярні пліту.

— Зноў жартуеш? — Адамовіч скептычна агледзеў манументальны надгробак з княжацкай каронай.

— Не трымці, — Генрык упёрся абцасам і адсунуў пліту трохі ўбок.

Вязень і кат апынуліся ў другім ярусе сутарэнняў, там, дзе няроўна выкладзеныя цэглаю сцены ніколі не бачылі сонечнага святла.

— Труп я зацягнуў сюды, — Генрык падвёў Адамовіча да вентыляцыйнае шахты, круглая адтуліна якой яшчэ адчувальна патыхала спаленым бензінам.

Аляксей прысеў і пасвяціў ліхтарыкам у зломкія лабірынты падзямельных нетраў. Ягоныя напру-

жаныя рухі выдавалі неспакой і перасцярогу. Разам з проймаю падзімала небяспекаю, але ягоныя жахі яшчэ не зматэрыялізаваліся, а Генрык ужо згледзеў глыбокія сляды кіпцяў пачвары на размяклай ад вільгаці цэгле.

— Там пуста, — Аляксей ударыў Генрыка святлом у твар.

— Далей, за паваротам, знойдзеш у нішы. — Войніч адвярнуўся ад святла і згледзеў, што пад сходамі з-пад цаглянага друзу, якім ён сам надоечы засыпаў нябожчыка, вытыркаецца пашкамутаны зубамі мысок лакіраванага ксяндзоўскага чаравіка, і зразумеў, што калі Аляксей не паверыць яму зараз жа, то праз хвіліну сам дазнаецца праўды і знойдзе спешна схаванага мерцвяка.

— Сам палезеш, — загадаў Адамовіч.

— Развяжы рукі, зубамі яго не выцягнеш, — асцярожна прапанаваў Генрык: з вольнымі рукамі ў яго з’явіліся б шанцы на паратунак.

— Зробім інакш, — Аляксей агледзеў сцены і падцягнуў Генрыка да іржавага крука, — застанешся тут, покуль я не выцягну нябожчыка, — ён прывязаў скручаныя за спінаю рукі вязня капронавым шнурам да крука: — Згінеш тут з кляпам у роце, мяне задаволіць і гэта.

— Калі ксёндз не акрыяў і не сышоў сваім ходам, то ён у шахце. Але не разумею, навошта табе гэты мярцвяк?

— З-за Данúты — я хачу, каб яна пераканалася, што ты забойца.

Аляксей укленчыў перад жаралом шахты і выпрастаў наперад руку з ліхтарыкам. Памеры шахты дазвалялі толькі паўзці.

Апошнімі зніклі ў тунелі Аляксеевы шнураваныя боты: з-пад халявы вытыркалася наборнае дзяржальна саматужнага зэкаўскага нажа.

У насцярожаным чаканні Генрык прыслухоўваўся да кожнага руху, што даносіўся з шахты. Яшчэ раз зацяпліўся слабы водбліск ліхтарыка, і

Генрык апынуўся ў суцэльнай антрацытавай цемры. І ўжо адчужана адзначыў, што недалёка ад яго ляжыць пакінутая Данутаю бутэлька з-пад джыну.

Раптам зрабілася ціха, а пасля сутарэнні скалануліся ад паталагічнага мужчынскага крыку. Рэха шматразова памножыла перадсмяротныя хрыпы і стогны Адамовіча, які марна спрабаваў адарваць ад параненага горла ашалелага ад цёплай чалавечай крыві пацука-людажэра. Прастора сутарэнняў, забраная ў камень, поўнілася гукамі смерці, як сабор арганнаю месаю. Здавалася, што канае сама цемра.

Перажыты шок памножыў Генрыкавы сілы, ён напружыўся з ўсяе моцы, ірвануўся — з'едзены іржою крук выскачыў з муроўкі. Навобмацак Генрык знайшоў бутэльку і асколкам шкла перацяў шнур, што сцягваў рукі.

Калі, вольны, ён падняўся на ногі і парэзанымі пальцамі пстрыкнуў запальнічкаю: у шахце чулася толькі сытае вурчанне і невыносныя для слуху пацучыныя шоргат і валтузня.

* * *

З Нясвіжа Генрык прыехаў у скаўцкі летнік «Грунвальд» і якраз патрапіў на ўрачысты пад'ём нацыянальнага сцяга. Ён спыніў машыну перад пашнураванымі ў «харугвы» дзяцьмі. Сціснутымі ў кулакі рукамі будучая нацыянальная гвардыя салютавала пасястаму штандару, што пад воклічы «жыве Беларусь» узнімаўся над лесам.

Падманутыя салідным выглядам машыны дзеці чакалі ўрачыстай прамовы. Але з «рэно» вылез два дні не голены, перапэцканы глеем, з неахайна забінтаванаю рукою і цяжкім, як касцельныя званы, позіркам Генрык. Не звяртаючы ані на кога ўвагі, ён моўчкі пасадзіў у машыну Дануту і Стасіка.

Адразу за лагерам Генрык спыніў машыну, выйшаў сам і паклікаў Дануту. Яна не на жарт перапалохалася, калі ён, не адрываючыся, выпіў з рыльца бутэльку лікёра і злосна садануў шкло аб асфальт.

— Слухай, покуль я цвярозы. Далей машыну павядзеш сама. Заедзеш да сваёй маці і пакінеш Стасіка, а заадно паглядзіш, што схавана ў тваім падвале ў вайсковай дашчанай скрыні. Адтуль паедзеш да бацькі і толькі там мяне пабудзіш. Дарэчы, твой бацька нікога не забіваў. — Генрык заваліўся на задняе сядзенне. Яму хацелася дадаць, што сапраўднага забойцу зжор пацук, але ён пабаяўся, што гэта прагучыць залішне цынічна, і таму сказаў:

— Баюся, алкаголь мяне не возьме. Забойца пакараў сябе сам.

## 12. Менск

Прачнуўся Генрык ад таго, што нехта хвастаў яго па твары і паліваў халоднай вадою. Ён сеў. За расчыненымі дзверцамі машыны бялела тэраса міністравага асабняка.

— Прыехалі, — Данута плесканула яму ў твар рэшткі вады з конаўкі. — Навошта ты падмануў бацьку — сказаў, што ўкраў нас?

— Гэта я цябе падмануў, калі казаў, што хачу, каб вы проста адседзеліся ў «Грунвальдзе».

У кабінеце Кім Сымонавіч папрасіў Дануту пакінуць іх з Генрыкам сам-насам. На стале і на крэслах грувасціліся стосы папер, дзверцы стэлажоў былі незачынены: здавалася, рэчы часова занялі не свае месцы, складалася ўражанне, што гаспадар некуды з’ехаў і нехта чужы навёў тут свае парадкі.

— Матрашыла застрэліўся, — гледзячы ў акно, сказаў міністр.

— З чаго гэта раптам? Такія людзі не прывуча-

ны паміраць самастойна. Яны неўміручыя, бо іх існаванне назваць жыццём немагчыма.

— Ён застрэліўся, — не зрэагаваў на заўвагу міністр.

— Часам не з вашага рэвальвера? — Генрык перагнуўся цераз стол і зазірнуў у пустую шуфляду. — Зрэшты, мяне цікавіць вынік.

На тэрасе, у выгодным, плеценым з лазы фатэлі, чакала Данута. Перад ёю на круглым століку паравала кававарка і паблісквалі гарачым сырам засмажаныя канапкі. Пераплеценыя хмелем драўляныя шпалеры рассейвалі і сцішвалі гарачае ліпеньскае сонца.

— Як я разумею, ты аддаеш калекцыю зброі мне? — Данута ўсё ж наліла яму каву.

— Рабі з ёй, што хочаш.

— Шкада, не хапае смарагдавага стылета Бенвенута Чэліні, але я прыкладу ўсе намаганні, каб вярнуць яго на Беларусь. Нельга дазволіць, каб нацыянальнае багацце знікала за мяжою.

— Супакойся, ты гаворыш, як твой бацька ў парламенце, але гэтая танная ўзнёсласць не замінала яму красці разам з Матрашылам і тваім мужам. А што тычыцца стылета — будзем лічыць, што Чэліні вярнуўся на радзіму — італьянскае мусіць належаць Італіі.

— Думаеш, я не падазравала, што Аляксей са сваім начальнікам ублыталі майго бацьку ў брудныя справы? Таму я і ўзялася за гэтае расследаванне, каб уратаваць яго. Гэта я ва ўсім вінавата.

— Не кажы глупства. Ты нічога не магла змяніць, — Генрык адставіў пустую філіжанку і правёў далонню па няголенай шчацэ.

— Я вырашыла канчаткова разысціся з мужам і хацела, каб ты...

— Зрабіў прапазыцыю, — ён ледзь не праглынуў цыгарэту. — Гэта немагчыма. Ты ўжо ніколі не зможаш развесціся.

Войніч пакінуў Дануту ў разгубленасці і, перас-

кочыўшы праз балюстраду, знік у завулку.

## 13. Піцунда

Генрык запаліў начыненую анашою папяросу і выпрастаўся на цёплым узбярэжным жвіры. У вечаровым паўзмроку закіпалі беллю марскія хвалі, у прыбоі глуха шаргацела абкатаная галька. Агеньчык папяросы губляўся паміж зор і мігатлівых светлякоў, якіх прыносіў вецер з канаплянай пусткі, што была прыхавана купінамі пампаскай травы і бамбукавымі зарасцямі.

Генрыку мроілася, што з мора выходзіць аголеная дзяўчына, і ён пазнае Данута. Яна бярэ яго за руку і вядзе да Езуіцкага касцёла, што высіцца пасярод дагледжаных канапляных палеткаў, па якіх шчыруюць камбайны. Яны заходзяць у касцельную браму, а Генрыку ўсё шкода недапаленай папяросы, і ён хавае яе ў кулаку.

У алтары, асветленым сполахамі бенгальскіх агнёў, іх сустракае раз'яснены ксёндз Міцкевіч у навюткім бэзава-срабрыстым арнаце. Пад анёльскія спевы з хораў ён пачынае вянчанне, пад урачыстыя словы высокай латыні ён адыходзіць да табернакля, аздобленага рэльефам пелікана з акрываўленымі грудзьмі, і калі паварочваецца ізноў, то замест ксяндза — пацук у святарскім адзенні, з-пад арната б'е па падлозе доўгі, як пакрыты ружовую лускою, пацучыны хвост.

Пад магутныя, як акіянічныя хвалі, акорды аргана Генрык глыбока зацягваецца папяросным дымам і затрымлівае дыханне.

*Піцунда*
*Чэрвень, 1991*

# ДУХ, ШНУРОК, КАНДЗЕД, ДЗЕД...

## «Дух»

«Дзень добры, Мама, Бронік і Ліда.

У мяне ўсё добра. Сёння прыняў прысягу. Увечары прышыў на х/б пару чырвоных пагонаў. Лепш бы чорныя, ці яшчэ лепш — блакітныя, але чырвоныя таксама сыдуць. Кажуць, з чырвонымі пагонамі блага звальняюцца — «зэкі» розныя чапляюцца па дарозе. Танкісты з суседняй брыгады называюць нас мухаморамі, а мы іх — мазутаю.

Надвор'е ў нас тут добрае, толькі клімат благі. Мазалі на нагах не гояцца, а гніюць. І шнары не гояцца на руках і галаве. «Дзяды» гавораць, што благая вада, у ёй не хапае мінералаў, солі і вітамінаў — крышацца зубы. Зампаліт на занятках расказваў, што ў войску зубы жалезныя ўстаўляюць без чэргаў і задарма і акуляры, у каго слабы зрок, адны на паўгода па заявах выдаюць.

Ноччу «дзяды» нам растлумачылі «палітыку» — так у войску называюцца адносіны паміж «маладымі» і «старымі». Добра, што не паспелі яшчэ падпісаць боты і форму — усё хлоркаю. У нас на падкладках павінны быць вылеплены хлоркаю нумар вайсковага білета, прозвішча і дата, каб маёр бачыў, што ў нас ніхто нічога не забірае. Ватоўкі падпісваюцца на каўнярах, на кішэнях і на падкладках. Маю ватоўку ўзяў сабе «кандзед» Вася Мінгазаў, а калі я праслужу год, то ў мяне таксама будзе ўсё новае.

Радавы Мікалай.

Да загаду — 702 дні».

Пасля адбою сяржант Малінін скінуў боты і расшпіліў рэмень. З-пад фрэнча вывалілася пляскатая гумовая грэлка. Радавы Насякайла лоўка яе падхапіў і адкаркаваў.

— Самагон? — спытаў Насякайла і панюхаў рыльца грэлкі.

— Спірт! — адказаў Малінін. Да кампаніі далучыўся радавы Кухілава.

— Тэхнічны? — пацікавіўся ён. Малінін не адказаў, а штурхнуў ложак.

— Гуза! Прынясі тры кубкі.

Радавы Гузарэвіч, які ўжо распрануўся і паспеў легчы, саскочыў з ложка на другім ярусе і пабег па кубкі. А Кухілава тым часам узяў грэлку і паспрабаваў зрабіць глыток з рыльца. Празрыстая вадкасць плюхнула яму ў твар і пабегла па барадзе. Кухілава закруціў галавою і праз сціснутыя вусны адзначыў:

— Тэхнічны.

Гузарэвіч прынёс тры кубкі. «Дзембеля» разлілі і выпілі спірт.

Сяржант Малінін распрануўся, лёг і дзвюма нагамі ўдарыў па панцырнай сетцы другога яруса.

— Гуза! Злётай у сталоўку і прынясі чаго-небудзь смачненькага!

Радавы Гузарэвіч бязгучна саскочыў уніз і пачаў нацягваць нагавіцы.

— Гузарэвіч! На месца! — пачуў ён загад радавога Кухілавы, які адразу дадаў: — Гуза пападзецца, сёння адказны па часці маёр Скотнікаў, а ты, Маліна, заўтра паедзеш на губу!

Гузарэвіч акуратна паклаў нагавіцы на зэдлік, залез на другі ярус і лёг. Праз хвіліну ён зноў пачуў голас сяржанта Малініна:

— Гуза! Ідзі і прынясі дзембелю чаго-небудзь смачненькага.

Гузарэвіч асцярожна саскочыў з ложка.

— Ляжаць! — загадаў Кухілава. Гузарэвіч упаў на падлогу.

— Заб’ю, — спакойна адзначыў Малінін, і Гузарэвіч устаў.

— Дух! Адбой! — закрычаў Кухілава. «Дух» Гузарэвіч імгнення залез на другі ярус і схаваўся пад коўдраю.

— Калі я ўстану, ты заўтра не прачнешся, — быццам сам сабе прашаптаў Малінін. Гузарэвіч скінуў коўдру і сеў на ложку.

— Я сказаў: не варушыцца!

Гузарэвіч лёг, але паверх коўдры.

Сяржант Малінін устаў, схапіў Гузарэвіча за вуха і крыкнуў:

— Устаць! Рукі за галаву, тварам да сцяны!

«Дух» выканаў загад.

— Маліна! Пачакай, хадзі сюды! — паклікаў радавы Насякайла. — І ты, Гуза, хадзі сюды! — Яны падышлі да ложка Насякайлы. Малінін сеў. Гузарэвіч стаяў, прыціскаючы кулакі да кальсонаў.

— Гуза, ты некалі раней на трамбоне граў?

— На саксафоне, — адказаў Гузарэвіч.

— Добра, вазьмі кубак, набяры вады і пабудзі Васю Мінгазава. Ты скажы яму: «Дазвольце, я вам на саксафоне пайграю», і зрабі вось так. — Насякайла прыклаў палец да вуснаў, высунуў язык і заблямкаў. Малінін засмяяўся.

— А калі Вася прачнецца, ты вылі яму на твар ваду і ўцякай. Добра? — спытаў Насякайла.

— Ён мяне заб’е! — адказаў Гузарэвіч.

— Не бойся, мы не дадзім! — умяшаўся Кухілава, які чуў размову.

— Ён адзін, і толькі кандзед. А мы хто?

— Дзембеля! — адказаў Гузарэвіч.

— Давай! Не бойся! Наперад! — загадваў Кухілава. Гузарэвіч узяў кубак, збегаў у прыбіральню да крана і падышоў да ложка старшага сяржанта Мінгазава.

— Таварыш старшы сяржант, — сказаў ён і

патузаў Мінгазава за плячо, — дазвольце, я вам на саксафоне пайграю? — шэптам вымавіў Гузарэвіч, і не паспеў Вася расплюшчыць вачэй, як «дух» плюхнуў з кубка яму ў твар вады.

Старшы сяржант Мінгазаў падхапіўся, сеў на ложак і трывожна аглядзеўся. У цемры зарагаталі «дзембеля». Гузарэвіч пабег з казармы і схаваўся ў сушылцы.

— Духі? — закрычаў Мінгазаў.

— Мы! — данеслася ў адказ з другіх ярусаў.

— Пад'ём!

«Духі» бязгучна пазлазілі з ложкаў і пачалі апранацца.

— Не апранацца! Пастроіцца! — загадваў Мінгазаў.

— Каго няма? — спытаў старшы сяржант.

— Гузарэвіча, — адказалі сонныя радавыя.

— Так, чатыры пабеглі, знайшлі і прынеслі сюды Гузарэвіча, а астатнія ўзялі зэдлікі і выцягнулі рукі! — супакоена сказаў Мінгазаў. Пабегла чалавек шэсць, і Мінгазаў крыкнуў:

— Я сказаў — чатыры! — Двое вярнулася. «Духі» ўзялі зэдлікі і паднялі перад сабою на выцягнутых руках. Праз пару хвілін у казарму прынеслі Гузарэвіча і паставілі перад ложкам старшага сяржанта.

— Усім па пяцьсот разоў адціснуцца, акрамя Гузарэвіча. Ты, Гуза, будзеш стаяць вось тут і лічыць! — Мінгазаў лёг, дастаў з тумбачкі прыёмнік і, пакруціўшы ручку, злавіў музычную хвалю. Гузарэвіч лічыў:

— Раз, два — раз.

— Раз, два — два.

— Раз, два — тры.

— Раз, два — чатыры.

— Раз, два — пяць...

«Духі» адціскаліся. Калі Гузарэвіч вымавіў: «Раз, два — сто трыццаць тры!» — радавы Жмуднік не змог адціснуцца і застаўся ляжаць на падлозе, пры-

ціскаючыся шчакою да адшараваных дошак.

— Гуза! Жмуднік хоча, каб ты яму з’ездзіў ботам, — заўважыў радавы Насякайла. Гузарэвіч падышоў да нерухомага Жмудніка і нямоцна ўдарыў босай нагой яму ў галаву.

— Гуза, што так нямогла? Жмуднік, пакажы Гузе, як трэба біць! — загадаў сяржант Малінін. Радавы Жмуднік устаў і з задавальненнем ударыў Гузарэвіча нагой у жывот. Гузарэвіч упаў і пакаціўся пад ложак да Мінгазава.

— Духі, бойку, бойку давай! — узрадавана закрычаў Кухілава. Усе падняліся з падлогі і пачалі квола тузацца. Мінгазаў пакруціў ручку прыёмніка, з дынаміка выбухнуў рок-н-рол.

— Духі! Танцы! — сказаў Мінгазаў і дадаў гуку. «Духі» затанчылі.

«Добры дзень, Мама, Бронік і Ліда!

У мяне ўсё добра.

Пазаўчора прымаў прысягу. Цяпер я сапраўдны салдат. Толькі яшчэ паўгода буду лічыцца «духам» (так у нас называюць тых, хто служыць першыя паўгода). «Духам» служыць цяжка. Восенню мяне перавядуць у «шнуркі», а праз год я наогул рабіць нічога не буду. У нас тут дзедаўшчына, але мяне не б’юць, бо я стараюся выконваць усе загады, асабліва «дзядоў». Так што ўсё добра. Вось толькі хочацца есці і спаць. У мяне тут дзве асноўныя праграмы. Малая — знайці што паесці, вялікая — адаспацца. Спаць я ўжо навучыўся стоячы. На варце прыхілюся дзе да сцяны або да плота — і засынаю роўна на гадзіну, быццам усярэдзіне гадзіннік заведзены. Прыходзіць смена варты, і я імгненна прачынаюся. Цяжка вучыцца, асабліва на палітзанятках, бо як сяду, то — засынаю. На занятках, як на варце, — спаць забаронена. Жмуднік неяк навучыўся спаць з расплюшчанымі вачыма, а ў мяне не атрымоўваецца. Як дакранаюся да крэсла, так павекі і заплюшчваюцца, што алавяныя. У нядзелю вадзілі нас у кіно.

Фільма не памятаю, адразу як выключылі святло — заснуў. Нават назву не паспеў прачытаць.

На тыдні вазілі нашу роту на трыбунал. Судзілі «шнурка» за тое, што ўцёк і пяць дзён хаваўся ў лесе. На трыбунале было добра — спаў гадзіны чатыры. Яшчэ камандзір абяцаў арганізаваць экскурсію ў горад.

Кормяць нас няблага, але мне не хапае і ад чорнага хлеба з камбітлушчам пячэ ў горле. Я цяпер магу з'есці ў дзесяць разоў больш, чым дома. Пасля трыбунала мы ўцяклі ў горад на пару хвілін. Я купіў два батоны і паўкіло вантрабянкі і з'еў. Масла і цукар у нашым узводзе «дзяды» не забіраюць, у нас такая завядзёнка, мне пашанцавала, але ў другім узводзе масла і цукру «духам» не дастаецца. Тут добра служыць кухару і хлебарэзу.

Мама, глядзі, каб Бронік не браў майго саксафона, бо зломіць. І скажы яму — хай займаецца спортам, лягчэй будзе служыць. Мы тут кожную раніцу і вечарам бегаем па 10 км. Спачатку было цяжка, а цяпер прызвычаіўся і ўжо не паміраю, як раней. Пісаць болей няма часу: старшыня Мінгазаў, калі ўбачыць, што я, замест таго каб чысціць аўтамат, пішу ліст, то будуць непрыемнасці.

Усіх цалую і абдымаю.
Гвардыі радавы Мікалай.
Да загаду — 700 дзён».

## «Шнурок»

Старшы сяржант Мінгазаў спыніўся каля свінарніка і прыслухаўся. З паўадчыненых дзвярэй ён пачуў голас радавога Гузарэвіча, які часова выконваў абавязкі свінара.

— Голас! Голас! Я сказаў — голас! — пачуў Мінгазаў і зазірнуў у хлеў.

Свінар, схіліўшыся над трубчастай агароджаю, трымаў у руках бохан хлеба. За агароджаю, падобныя да здохлых сабак, стаялі чатыры парсюкі і

агрэсіўна пазіралі на хлеб.
— Ты што робіш, шнурок? — спытаў Мінгазаў.
— Дрэсірую! Таварыш старшы сяржант! — радасным голасам адказаў радавы. — Вось паглядзіце, — ён схаваў хлеб за пазуху і адышоў ад агароджы. Парсюкі супакоіліся. Гузарэвіч ізноў падышоў да агароджы і загадаў:
— Голас! — Парсюкі паглядзелі чырвонымі вачыма на Гузарэвіча і шалёна зарохкалі. Свінар разламаў бохан і кінуў парсюкам.
— Ты чаму не прыбіраеш гною? — спытаў Мінгазаў. — Не ўступіць, паздыхае жывёла.
— Баюся — яны кусаюцца, дзікія таму што. — Гузарэвіч падняў нагу і паказаў разарваную халяву бота. — Вунь як цапануў: я хацеў яму ў лыч даць, а ён з халявы кавалак скуры выдраў і з’еў. Я да іх больш не заходжу, толькі праз агароджу! — растлумачыў свінар. Старшы сяржант заўважыў збітую з дошак вузкую канапу, засланую рудым шынялём.
— Спіш тут? — ён сеў на канапу.
— Не, вартую ноччу, каб парсюкоў не пакралі! — адказаў Гузарэвіч.
— Хто ж іх возьме, яны ж дзікія?
— Заб’юць і возьмуць! — пераканаў Гузарэвіч.
— А гэта што? — Мінгазаў падчапіў носам бота скрутак тонкага сталёвага дроту.
— Гэта петлі на пацукоў, — адказаў Гузарэвіч.
— Ну і як, злавіў?
— А як жа ж, кожную раніцу роўныя петлі!
— І дзе тыя пацукі? — з недаверам спытаў Мінгазаў.
— Парсюкі з’елі! — адказаў Гузарэвіч. — Ніколі не бачыў такіх, усё з радасцю ядуць!
Мінгазаў паглядзеў на парсюкоў, што таўкліся каля агароджы. Ён сам першы раз у жыцці бачыў такіх парсюкоў, у якіх тырчалі рабрыны і лычы нагадвалі сабачыя морды.
— Вось так паглядзіш — здзічэлі зусім, не скажаш, што свойская жывёла, але дрэсіруюцца доб-

ра, — пачаў разважаць Гузарэвіч і раптам крыкнуў: — Месца! — парсюкі спалохана адбеглі ад агароджы і леглі на драўляныя нары.

— Усё разумеюць, — задаволена адзначыў Гузарэвіч.

— Ну добра, давай займайся, — сказаў Мінгазаў і выйшаў з хлява.

«Дзень добры, Мама, Бронік і Ліда.

У мяне ўсё добра.

Я цяпер «шнурок», праз паўгода буду «кандзедам». Вось тады і скончыцца мая служба. Пасля года служыць у нас добра, бо дзедаўшчына. У нас тут адзін «шнурок», радавы Жмуднік, зламаў нагу — на некалькі месяцаў паклалі ў шпіталь. Пашанцавала — вернецца адразу «кандзедам». А я цяпер на яго месцы працую, на гаспадарчай працы. Ён яшчэ летам украў валёнкі, і цяпер яны мае. У шпіталі яму і так няблага. А зімою без валёнкаў я прапаў бы. Ноччу спаць холадна, накрываюся шынялём, але да мяне ўжо не чапляюцца. Да нас прывезлі «духаў» — ніводнага земляка. Праўда, быў у нашым узводзе адзін «дзед» — мой зямляк, але такая свалата, добра, што ўжо звольніўся. Як вярнуся — абавязкова яго знайду. Ён на свой дзень нараджэння мяне і Жмудніка прымусіў украсці парсюка, і ноччу «дзяды» і «дзембеля» наеліся смажанай свежаніны. А нам нават кавалачка не засталося. Раніцай маёр, як даведаўся, што парсюк знік — ледзь не пазабіваў нас. Крычаў, што той вяпрук. Мы казалі: кабан ноччу падох і яго пацукі з'елі. Але маёр не паверыў і паабяцаў не пусціць дадому. Вось з-за земляка ў адпачынак мяне не пусцяць.

Учора на палігоне «дзяды» двух зайцоў падстрэлілі і злавілі андатру. Аднаго зайца забраў маёр, а другога з'елі «дзяды», а андатру ніхто есці не хацеў, аддалі нам — «шнуркам». Мы ноччу таксама сабе суп зварылі з бульбаю і цыбуліну адну дасталі. Шкада — на ўсіх не хапіла. Маленькая была андат-

ра, што кот. Хлопцы з Сібіры кажуць, што ў іх там сабак ядуць. У камандзіра хутка павінна аўчарка ашчаніцца, і нашыя хлопцы збіраюцца пакрасці шчанят. Кажуць, што шчаняты — самыя смачныя. Абяцалі даць пакаштаваць, але я адмовіўся. Нутрыю або выдру якую яшчэ можна было б пакаштаваць. А сабаку — не магу.

«Дзембеля», як звальняліся, забралі мой шынель, але гэта не бяда. Праз паўтара года і ў мяне будзе новы шынель. А цяпер можна і ў старым пахадзіць, абы дадому ў новым вярнуцца. Ды вясною і не патрэбны той шынель. Мама, глядзі, каб Бронік у школу хадзіў і не курыў па завуголлях дзе. Я цяпер атрымліваю не сем, а восем рублёў. Палову аддаю «дзядам»: у нас такая дамоўленасць, што «маладыя» аддаюць палову палучкі, але праз год я сваё атрымаю. На цыгарэты мне цяпер хапае. Купіў Лідзе завушніцы, але ноччу нехта ўкраў. Знайду — заб'ю. Да загаду — 550 дзён.

Гвардыі радавы Мікалай».

## «Кандзед»

Сяржант Юшчак дастаў спіс вячэрняй праверкі.

— Духі і шнуркі! На праверку станавіся! Астатнім — адбой! — крыкнуў Юшчак.

— А што, маёр зваліў? — спытаў радавы Жмуднік і сеў на ложак.

— Даўно.

— А прапар?

— І прапар зваліў. Хочаш правесці праверку? — спытаў сяржант Юшчак.

— Не, сам праводзь, ты ж старшына, — адказаў Жмуднік, перакінуў падушкі на другі бок ложка і перавярнуўся на жывот, галавою да пляцоўкі, на якой мітусіліся «духі» і «шнуркі».

У гэты момант адчынілася акно. У казарму залез радавы Гузарэвіч з рэчмяшком, загорнутым у буш-

лат. Жмуднік узяў рэчмяшок і выклаў на ложак бутэлек дваццаць піва.

— Насавец! — крыкнуў Гузарэвіч.

— Я, — адказаў адзін з «духаў».

— Ты сала прынёс?

— Прынёс.

— Нясі! — загадаў Гузарэвіч.

Радавы Насавец падбег да свайго ложка і выцягнуў з-пад матраца кавалак вялага сала і дзве цыбуліны. Гузарэвіч узяў у дзяжурнага па роце штык-нож, накраіў сала і рассек адну цыбуліну напалам.

Тым часам сяржант Юшчак праводзіў праверку.

— Зважай! — ён даў каманду і выйшаў на сярэдзіну казармы. У першай шарэнзе стаялі «духі», у другой — «шнуркі».

— Валакавых? — сяржант прачытаў першае прозвішча ў спісе.

— Я! — басам адказаў Валакавых. Юшчак задаволена паглядзеў на былога штангіста і паставіў крыжык у спісе.

— Галімулін! — ён прачытаў другое прозвішча.

— Я! — тонкім фальцэтам выкрыкнуў радавы Галімулін.

— Не чую! — сказаў Юшчак і сеў на зэдлік.

— Галімулін?

— Я! — на тон вышэй выкрыкнуў радавы Галімулін.

— Ты што? Кастрат? — з абыякавай інтанацыяй спытаў сяржант. У першай шарэнзе нехта хіхікнуў.

— Хто смяяўся? — спытаў Юшчак. «Духі» не адказвалі.

— Я даў каманду «зважай»! Хто смяяўся? Я гляджу, у вас вясёлае жыццё пайшло? Хто дазволіў рагатаць? Духам нельга рагатаць! — пачынаў злавацца сяржант.

— Гэта ты, Хузяахметаў, заржаў?

— Не, не я! — адказаў Хузяахметаў.

— Узвод! Газы! — даў каманду сяржант.

А радавыя Гузарэвіч і Жмуднік дапілі пятую бутэльку піва і з’елі амаль усё сала.

Пакуль «духі» і «шнуркі» даставалі процівагазы, Гузарэвіч паклікаў радавога Галімуліна.

— Піва хочаш? — спытаў Гузарэвіч у «духа».

— Не, — «дух» пакруціў галавою.

— На, пі! — Гузарэвіч даў Галімуліну бутэльку піва. Галімулін выпіў палову бутэлькі.

— А цяпер закусі! — Гузарэвіч працягнуў Галімуліну цыбуліну.

— Я не хачу! — адказаў «дух», але цыбуліну ўзяў.

— Я сказаў — закусвай!

Галімулін з сакавітым хрумстам адкусіў цыбуліну і з’еў.

— Еш усю! — загадаў радавы Жмуднік. Яго падтрымаў Гузарэвіч, які адразу паўтарыў:

— Еш усю!

Галімулін, злушчыўшы пальцам шаўкавістае шалупінне, з’еў цыбуліну. Гузарэвіч паклікаў яго пальцам і нешта прашаптаў на вуха. «Дух» надзеў процівагаз і пабег у строй. Яго чакаў сяржант Юшчак.

— Зважай! — загадаў Юшчак. Ён ізноў прачытаў першае прозвішча. — Валакавых!

— Я! — адказаў радавы Валакавых, але яго голас з-за процівагаза непазнавальна змяніўся.

— Галімулін? — вымавіў наступнае прозвішча сяржант. Радавы Галімулін выйшаў са строю, зняў процівагаз і дыхнуў у твар сяржанту.

Сяржант ударыў Галімуліна ботам па назе, ніжэй калена. Галімулін ад болю сеў на падлогу.

— Духі і шнуркі! — закрычаў Гузарэвіч.

— Мы! — адказалі процівагазы.

— Узялі і выкінулі сяржанта за акно! — загадаў Гузарэвіч. Галімулін устаў і адчыніў акно, а «духі» падхапілі Юшчака і выкінулі з казармы.

— Усім адбой! — загадаў Гузарэвіч і адкаркаваў сёмую бутэльку. Праз хвіліну з’явіўся Юшчак. Ён падышоў да Гузарэвіча.

— Ты нашто гэта робіш? — пакрыўджана спытаў сяржант.

— Калі ты будзеш трындзець тут, я загадаю, і твой ложак, разам з табою, панясуць у прыбіральню, — адказаў Гузарэвіч.

«Шнурок» кінуў спіс у тумбачку, лёг і хутка заснуў.

«Добры дзень, Мама, Бронік і Ліда!

У мяне ўсё добра.

Вось так незаўважна і праслужыў першы год. Мяне перавялі ў «кандзеды» — атрымаў рэменем дванаццаць разоў і стаў роўным сярод роўных. Я цяпер маю шмат правоў: магу спаць калі захачу, нават удзень, магу кіцель і нагавіцы перашыць па сваім памеры, каб нармальным выглядаць. Учора набіў на боты абцасы з падкоўкамі. Каўнерыкі на кіцель мне зараз «духі» прышываюць.

Жмуднік — майстар, перарабіў дыстылятар з акамулятараў на агрэгат. Уся рота, як праводзілі «дзембеляў», перапілася. Хлопцы з Сібіры падказалі, што няблага гоніцца з хлеба і таматнай пасты. Праўда, Жмуднік цяпер на губе.

Прыслалі да нас новага сяржанта — «шнурка» з вучэбкі. Мы яго правучылі, каб нос не задзіраў. Няхай спачатку год праслужыць, а потым будзе кіраваць, як усе. Цяпер за гэтую справу пачалі садзіць у дысбат. Раней дык было добра. Садзілі толькі тых, хто ўцякаў. З маёй роты аднаму «шнурку» сківіцу зламалі. Ён хацеў быў у шпіталі паляжаць, але там наш санінструктар яго пачаў сваімі сродкамі лячыць: дзве рабрыны і ключыцу зламаў. «Шнурок» са шпіталя ўцёк у лес. Пяць дзён хаваўся, але есці нічога не мог. Як злавілі, то спачатку хацелі камісаваць, а потым вырашылі, што прасцей у дысбат за дэзерцірства. На два гады даўжэй служыць будзе. У нас санінструктар такі, што маладым лепш да яго не трапляць. Ён зімою Жмуднікаву нагу за тры дні залячыў. Костка зраслася, як на

тым кабанчыку, якому ноччу другі кабанчык вуха адкусіў. А той так перапалохаўся, што ўшчаміўся ў агароджу лычом і выламаў сабе пашчэнку. Маёр казаў, што абавязкова павінен падохнуць, і хацеў быў таго кабанчыка сабе забраць. Але як хлеб жэрці, дык пашчэнка за дзень загаілася.

Мама, глядзі, каб Ліда на дыскатэкі не хадзіла, бо там салдаты аціраюцца. І наогул, каб з якімі вайскоўцамі не сустракалася — прападзе.

Вось і ўсе навіны.

Жмуднік сам ужо не піша лістоў: загадвае, каб «духі», хто пасля інстытута служыць, яго дзеўкам пісалі. А мне працей самому напісаць, а не прымушаць каго-небудзь.

Да загаду — 333 дні.

Гвардыі радавы Мікалай».

### «Дзед»

Радавы Гузарэвіч упаў на ложак. Панцырная сетка прагнулася і некалькі разоў яго падкінула. З-пад ложка вылез радавы Насавец і выцягнуў за крысо стары шынель.

— Ты што, шнурок, спіш пад маім ложкам? — спытаў Гузарэвіч і ўдарыў Насаўца ў грудзі. Кулак пацэліў у гузік на фрэнчы.

— Не, я не спаў, я па шынель лазіў! — адказаў Насавец.

— А чый шынель? — спытаў Гузарэвіч і зноў ударыў кулаком па гузіку. Насавец не адказаў.

— Гэта шынель старшыны Мінгазава? Так? — Гузарэвіч ізноў ударыў Насаўца ў грудзі. Алюмініевы гузік расплюшчыўся, сталёвае вушка зайшло пад скуру, і Насавец упаў.

— А Вася Мінгазаў у чыім шынялі дадому паехаў? — спытаў Гузарэвіч і сам адказаў: — У тваім! І ты цяпер на Васевым шынялі пад маім ложкам, калі ўсе працуюць, спіш? А? Шнурок? — ліслівым тонам спытаў Гузарэвіч і дадаў: — Бяры ложак

Юшчака, выцягні на сярэдзіну казармы і ляжы пад ім, пакуль я не дазволю вылезці. Калі ўцячэш — заб'ю! — сказаў Гузарэвіч і выйшаў з казармы.

На гаспадарчым двары Гузарэвіч падышоў да радавога Рыцікава.

— Эй, спарцмен, пайшлі са мною! — загадаў Гузарэвіч. Па дарозе ў казарму ён сказаў: — Ты якім спортам займаўся?

— Скачкі на батуце, — адказаў Рыцікаў.

— Майстар спорту?

— Так. Некалі быў.

— Добра! Зараз будзеш скакаць на панцырнай сетцы. Зможаш?

— Не ўпэўнены, — адказаў Рыцікаў.

— А калі дзед папросіць? А, дух?

— Не ўпэўнены, што атрымаецца! — адказаў «дух».

Гузарэвіч і Рыцікаў зайшлі ў казарму. Пасярэдзіне стаяў аднаярусны ложак Юшчака.

— Матрац лепш прыбраць! — сказаў Рыцікаў.

— Не, з ім лепш. Ты вазьмі разгон і зрабі сальта. Зможаш?

— Паспрабую, — Рыцікаў прабегся па казарме, скочыў дзвюма нагамі на ложак і падляцеў да столі. У паветры ён перакуліўся і зноў трапіў дзвюма нагамі на ложак. Коўдра і матрац з'ехалі на падлогу. Рыцікаў упаў.

Пад ложкам заскуголіў радавы Насавец.

— Ты там жывы? — спытаў у яго Гузарэвіч. Насавец заплакаў уголас.

— Вылазь! — загадаў Гузарэвіч.

— Рыцікаў, пакажы яшчэ раз, як ты гэта рабіў. А ты, шнурок, глядзі! Пасля Рыцікава ты сам будзеш тут скакаць!

Рыцікаў ізноў прабегся па казарме, скочыў на ложак дзвюма нагамі, перакуліўся ў паветры і плаўна саскочыў на падлогу.

— Клас! — адзначыў Гузарэвіч. — А цяпер ты, Насавец, скачы! — загадаў ён.

— Я заб’юся! — адказаў Насавец.

— Тады лезь пад ложак, быццам ты там спіш на Васевым шынялі, а Рыцікаў будзе скакаць! Добра? — спытаў Гузарэвіч.

— Не! — адказаў Насавец.

— Або скачы сам, або лезь пад ложак спаць далей!

— Я лепш паспрабую скокнуць, — вырашыў Насавец і адышоў ад ложка, каб узяць разгон.

— Ён заб’ецца! — сказаў Рыцікаў.

— Ты глядзі: дух шнурка пашкадаваў! Не заб’ецца, духі і шнуркі надзіва жывучыя!

Насавец падбег да ложка, скочыў на сетку, якая прагнулася да падлогі і падкінула яго дагары. Ногі паляцелі вышэй галавы. Насавец ляснуўся патыліцаю на падлогу. Ён імгненна падхапіўся і сеў на ложак.

— Іншы цывільны, вядома, забіўся б на месцы, а шнурку і духу — нічога, — пачаў разважаць радавы Гузарэвіч. Насавец плюнуў на падлогу і ўбачыў кроў.

— Што, разбіў галаву? — здзівіўся Гузарэвіч.

— Здаецца, зламаў зуб, — адказаў Насавец.

— Ты ж на патыліцу ўпаў!

— А я ў паветры хацеў сальта крутануць, не разлічыў трошкі — і па зубах каленам! — адказаў Насавец. Ён спусціў нагавіцы і паказаў калена. — Бачыце, пачынае пухнуць!

— Юшчакоў ложак — на месца! — загадаў Гузарэвіч.

«Дзень добры, Мама, Бронік і Ліда!

У мяне ўсё добра.

Учора было самае вялікае свята пасля «дзембеля» — 100 дзён да загаду. Усе «дзяды» пастрыгліся «пад нуль». Жмуднік нават пагаліў галаву, каб валасы лепшыя раслі. Ён цяпер за гэта на губе. Маёр забараніў галаву галіць, а вусы, наадварот, не дае адпускаць. Як зловіць «дзеда» з вусамі, так пачы-

нае апавядаць, што ён у вучылішчы раз паспрабаваў вусы адпусціць, а яго палкоўнік убачыў і прымусіў пагаліцца ручніком. (Калі сухім ручніком шоргаць па твары, то барада голіцца, адно блага — скура злазіць.) Маёр кажа, што з тых часоў у яго барада не расце і нам ён не дазволіць вусатымі хадзіць.

У нашым батальёне быў прапаршчык Білык, вусаты, як прусак. Аднойчы да нас прыехаў штабны генерал; казалі, што ён некалі быў чэмпіёнам па боксу і любіў, каб галовы ў салдат і афіцэраў былі гладкімі і паголеннымі, як грушы. Убачыў генерал Білыка, загадаў вусы знішчыць, а прапаршчык падумаў, што генерал заўтра з'едзе і можна не галіцца. Вырашыў схавацца на дзень на сваім складзе і перачакаць. А генерал, відаць, запомніў таго Білыка, запалі яму ў душу прапаршчыцкія вусы. На другі дзень раніцай генерал пастроіў батальён і пытаецца: а дзе той прапаршчык? Яму камбат адказвае, што прапаршчык займаецца на складзе. Генерал загадвае знайсці і прывесці сюды прапаршчыка Білыка. Пабег камбат шукаць Білыка, а калі знайшоў, то дастаў з кішэні сцізорык, навастрыў аб цагліну і сам пагаліў прапаршчыка. Праз дзесяць мінут прыбеглі яны да генерала і атрымалі перад строем падзяку за добрую службу. Генерал нават напісаў загад, і Білыку далі старшага прапаршчыка, а праз тыдзень перавялі з артылерыйскіх складоў на харчовыя. Такое павышэнне для прапаршчыка лепш за любы ордэн.

Мама, аддай Броніку ўсе мае кашулі: як прыеду, вы мяне не пазнаеце. Другі год пайшоў на карысць здароўю... Нават Жмуднік ад'еў карак, што ў кашулю ад параднага мундзіра не ўлазіць. І мне таксама давядзецца ў маладых новую форму пазычаць.

Да загаду — 99 дзён...
Гвардыі радавы Мікалай».

## «Дзембель»

Радавы Гузарэвіч дастаў з кішэні загорнуты ў насоўку відэлец і паказаў радавому Жмудніку.

— Трэба прывыкаць есці відэльцам! — сказаў Гузарэвіч.

— Дзе ўзяў? — спытаў радавы Жмуднік.

— Украў! — адказаў Гузарэвіч, зачапіў відэльцам камячок аўсянкі і хацеў быў пакласці ў рот, як заўважыў, што ў кашы нешта падазрона заварушылася. Ён скінуў камячок аўсянкі на стол і расплюшчыў пальцам. У кашы варушыўся руды прусак.

— Галімулін! — закрычаў радавы Гузарэвіч, і да яго століка падбег дзяжурны па сталовай малодшы сяржант Галімулін.

— Галімулін, колькі дзембелю да самалёта?

— Трыццаць тры! — адразу адказаў Галімулін.

— Так, трыццаць тры, а вы, паскуды, дзембеля атруціць захацелі? — роўным голасам спытаў Гузарэвіч.

— Не, гэта не я, гэта Каздырка!

— Пакліч хуценька сюды кухара! — загадаў Гузарэвіч.

Галімулін пабег, і праз хвіліну з'явіўся кухар — радавы Каздырка.

— Што гэта? — спытаў Гузарэвіч і, зачапіўшы відэльцам прусака, паказаў яго кухару.

— Казурка, — адказаў кухар.

— Еш! — загадаў «дзембель». Кухар нахіліўся і з'еў прусака.

— Ну як?

Кухар не адказаў.

— Галімулін! — закрычаў Гузарэвіч. Да стала падбег малодшы сяржант Галімулін.

— Галімулін, хуценька налаві прусакоў вось сюды! — «Дзембель» дастаў з кішэні кардонную скрыначку, высыпаў запалкі на стол і аддаў Галімуліну. Малодшы сяржант пабег да шафы з хлебам,

рэзка адчыніў дзверцы і заляпаў далонню па аблепленых прусакамі боханах хлеба. Праз некалькі хвілін ён прынёс Гузарэвічу скрынку, поўную прусакоў.

— Я цябе, браце мой, адвучу такімі справамі займацца, — сказаў Гузарэвіч і ўважліва паглядзеў на кухара, які нерухома стаяў каля століка. — Дух, будзеш ведаць, як дзембелю кашу варыць! — сказаў Гузарэвіч. Ён асцярожна выпусціў пару прусакоў на стол і адразу падчапіў іх відэльцам.

— На, — ён працягнуў відэлец з прусакамі кухару.

— Можа, іх трошкі падсмажыць? — пацікавіўся кухар.

— А па шарах не хочаш? — уставіў слоўца радавы Жмуднік. Кухар узяў відэлец і паклаў прусакоў у рот.

— Ён не глытае, а за шчакой іх схаваў, — заўважыў радавы Жмуднік. — Піва хочаш? — спытаў ён у кухара.

Кухар заматляў галавой: ён ведаў, што адзін удар па нырках замяняе келіх піва.

— Глытай, — сказаў Гузарэвіч і выкінуў са скрынкі яшчэ двух прусакоў: адзін быў расплюшчаны, другі, наадварот, — дзіка перабіраў ножкамі, круціў ва ўсе бакі вусамі.

— На, — радавы Гузарэвіч перадаў відэлец кухару. — Глытай, — загадаў «дзембель».

Кухар Каздырка паклаў яшчэ двух прусакоў у рот. Ён сапраўды не мог іх праглынуць, а толькі перакінуў языком за шчаку. Адзін прусачок пачаў непрыемна казытаць дзясну.

Пасля вячэры, калі па раскладу гаспадарчы ўзвод глядзеў праграму «Час», радавы Гузарэвіч паклікаў малодшага сяржанта Галімуліна і спытаў:

— Дзе Каздырка?

Галімулін пацiснуў плячыма.

— Ідзі і хуценька знайдзі, каб не задавіўся дзе?

Галімулін пайшоў у сталовую. Ён спыніўся каля

акна і зазірнуў на кухню. Каля пліты над патэльняю смажанай бульбы круціўся хлебарэз Ара.

— Каму? — спытаў Галімулін праз адчыненае акно.

— Гузарэвічу, — адказаў хлебарэз Ара.

— Дзе Каздырка?

— Там, — хлебарэз Ара кіўнуў у бок лядоўні.

Галімулін залез праз акно на кухню і падышоў да лядоўні.

Кухар Каздырка шкрабаў лыжкаю па вялікім бруску масла. Калі ён заўважыў малодшага сяржанта Галімуліна, то паспрабаваў схаваць лыжку за халяву бота.

— Масла крадзеш? — ласкавым голасам запытаў у яго Галімулін.

— Не, выбіраю прусакоў! — адказаў кухар.

## Дадому

Радавы Гузарэвіч звальняўся позняй вясною. На родным Палессі даўно адквітнелі сады, наперадзе цалкам вольнае лета, якое павінна аддзячыць Гузу за два мінулыя гады. На пляцы перад цягнікам Гуза ўспомніў, што некалі дома яго называлі Міколкаю. Ён кінуў у купэ на мяккую канапу свой чамадан і запусціў фуражку на пачапэльнік. Цягнік «Кіеў–Рыга» здрыгануўся: Міколка пачаў прыглядацца да маладзіцы-хахлушкі, што ў белай вайсковай кашулі пад гальштукам прапаноўвала гарбату. «Што за жахлівая форма ў праваднікоў», — падумаў Гузарэвіч.

У пракураным тамбуры Гузарэвіч дастаў пачак цывільных дарагіх цыгарэт і закурыў. На яго дэмбельскі фрэнч пачалі звяртаць увагу двое мужыкоў, што курылі побач з ім.

Адзін з мужыкоў зацягнуўся папяросаю, і Гузарэвіч заўважыў на тоўстым пальцы залаты пярсцёнак. Пад залатым цёмнаю плямаю ляжаў татуіраваны. Другі мужык курыў танныя цыгарэ-

ты без фільтра.

— Дзембель? — спытаў мужык з пярсцёнкамі.

— Так, — адказаў Гузарэвіч і павярнуўся да акна.

— Паслухай, мухамор, ты не з мелітопальскай аховы?

— Не, — адказаў Гузарэвіч.

— Ён нагадвае аднаго казла, майго мелітопальскага канваіра, такая ж вушастая гніда была, — сказаў адзін мужык другому.

Біцца Гузу не хацелася. Ён баяўся парваць вузкі, зашыты ў баках фрэнч ці, яшчэ горш, прыехаць дадому ў разарваных нагавіцах, такіх жа вузкіх і адпрасаваных. Гуза кінуў недапалак і хацеў выйсці з тамбура, але мужык з пярсцёнкамі прытрымаў нагою дзверы.

— Пачакай — так ты кажаш, што не з мелітопальскай аховы? — спытаў ён.

— Не, я за мяжою служыў, — спакойна адказаў Гузарэвіч.

— А што, там, за мяжою, таксама ёсць мухаморы-чырвонапагоннікі? — мужык прытрымліваў дзверы нагою.

— Звалі! — сказаў Гузарэвіч і расшпіліў фрэнч.

— Паглядзі, а козлік трапіўся бадлівы! — сказаў мужык і кінуў кулак у Гузарэвічаў твар.

Гуза ўхіліўся, і мужыкова рука адно драпанула вуха. За два мінулых гады біцца Гузу навучылі, ён адпрацавана разлічыў адлегласць і амаль адразу за ўхілам ударыў ілбом мужыку па носе. Хрумснула пераноссе. На падлогу з разбітага носа паляцелі нечакана вялікія згусткі крыві. Мужык на імгненне страціў прытомнасць, але яго падтрымаў другі. А праз хвіліну ў руках аднаго з іх з'явілася брытва... і ў той жа момант вырашыла вынік бойкі. Мужыкі адчынілі акно ў прыбіральні, і труп Гузарэвіча паляцеў пад ахон.

## Каб я здох...

— Вольна! Усім распрануцца! Форма адзежы нумар два — голы торс! — маёр Скотнікаў аддаваў загады рэзкім, пастаўленым голасам.

Рота паскідала фрэнчы і рамяні на зэдлікі. Маёр трымаў у руцэ драўляны кравецкі метр і то паляпваў сабе па халявах ботаў, то спрабаваў падчапіць павуцінне на столі за плафонамі. Нарэшце маёр абапёрся на метр дзвюма рукамі і зашыпеў:

— Станавісь!

Рота выцягнулася ўздоўж казармы. «Дзяды» занялі другую шнуроўку. «Духі» — першую.

— Дадакузіеў, крок наперад!

Радавы з першай шнуроўкі неахвотна выйшаў наперад. На чорнай, як падсмаленай галаве, праз увесь лоб, ад брыва да кароткіх валасоў, цягнуўся шнар. Рассечанае брыво крывавілася, і бурыя кроплі цяклі на павека. Дадакузіеў прыклаў да брыва белую анучку.

— Кру-гом! — загадаў маёр, і «дух» павярнуўся да строю.

— Хто гэта зрабіў?

— Я з лесвіцы ўпаў, — адказаў Дадакузіеў.

— Пашчэнкі прыкусі, басмач, ты каму гэта гаворыш, я пятнаццаць гадоў у войску, а ты не служыў ні... З лесвіцы ўпаў, паскуднік... а чаму шыю не скруціў, а гэта што? — маёр выцягнуў метр і пхнуў ім Дадакузіева ў патыліцу. — А на плячах чаму сінякі, га?

Маёр падышоў да строю і ўдарыў метрам радавога Насаўца па галаве.

— Што ў цябе на грудзях?

Радавы Насавец нахіліў галаў і пачаў уважліва разглядаць карычневую ў кобальтавых разводах пляму на сярэдзіне грудзей.

— Дык што гэта? — маёр пачаў нервавацца і пачырванеў.

— Я ў прыбіральні паслізнуўся і ўпаў на рукамыйнік, — адрапартаваў Насавец.

— А ў цябе што з тварам, Галімулін?

— Я ўпаў.

— А чаму на грудзях сіняк?

— Я так упаў на гаспадарчым двары.

— Так, Дадакузіеў, Насавец і Галімулін, — хлеў пачысціць, памыць, пабяліць. Зразумелі? Ты, басмач, схадзі ў санчасць, няхай зашыюць брыво — і адразу ў хлеў.

Маёр на хвіліну змоўк і заляпаў метрам па халяве.

— Першая шнуроўка, крок наперад — руш! Кругом! Другі год службы з лесвіц не падае і ў прыбіральнях не паслізгваецца. Зразумела чаму. Іншая спецыфіка. Рукі наперад, далонямі да зямлі. Піліповіч, што ў цябе з кулаком?

— Падрапаў, — адказаў Піліповіч.

— А ў цябе, Кухілава?

— Займаюся каратэ, таварыш маёр, адціскаюся на кулаках.

— У маладых на галовах ты адціскаешся, абрэк недапечаны, вернешся дадому і ў горы зваліш, га?

Кухілава не адказваў.

— Так, апошні раз папярэджваю: яшчэ раз знайду на маладых пабоі — нехта паедзе ў дысбат. Я знайду каго пасадзіць, га, Кухілава, пад трыбунал пойдзеш, зразумеў? І яшчэ, колькі можна казаць? — маёр хлопнуў метрам па жываце Дадакузіева: — Рамянямі па галовах не біць, і наогул, каб рамянямі маладых не білі, бо спрожкай можна чэрап праламаць. Га, Дадакузіеў, хто табе брыво рассек? Маўчыш. Ну добра, і ты праз два гады ў горы збіраешся, ты адкуль?

— З Паміра, — адказаў малады.

— Вось бачыш, твае ўсе сваякі за мяжой у душманскіх бандах, і ты да іх сабраўся? Га?

— Не, не сабраўся, — чорныя вочы таджыка бліснулі, як намазаныя алеем.

Маёр загадаў роце апрануцца і зноў пашукаў метрам павуцінне на плафонах.

— Станавісь! Смірна! Вольна! Я доўга гаварыць тут з вамі не буду. Да вас даводзілі загад аб нестатутных адносінах. Я папярэджваю: яшчэ раз знайду на маладых кроў або хто што каму зломіць — адразу ў дысбат. І каб гузікі на грудзях не таўклі, знайду сінія грудзі — пад трыбунал аддам. Чуеце, Піліповіч, Мухін, Саўцоў і астатняя хеўра?!

— Што, а чаму адразу Піліповіч? — абурыўся «дзед».

— А таму, што твар у цябе як у ворага народа, я такіх, як ты, наскрозь бачу. Ён тут мне будзе... пашчэнкі сашчапі! — Маёр заводзіўся з паўабарота, абяцанняў і мацюгоў у яго хапала хвілін на дзесяць. Звычайна пад канец праверкі маёр падводзіў вынікі:

— Бардак, а не войска. Адных абрэкаў і басмачэй як дадуць, так і круціся як хочаш. Тут і свае горшыя за чурбаноў, га, Піліповіч, ты ж бульбаш? Наш чалавек! А такая паскудзіна. Ты мне адкажы — хто Радзіму бараніць будзе? А гэтыя душманы толькі чакаюць, каб усіх нас перарэзаць, як бараноў. Так? Прызнавайся, Ліблік.

Эстонец Ліблік не адказваў.

— Чухонец! Ты ведаеш, Ліблік, ты горшы за чурбана, бо хітрун. Вось маўчыш, а сам думаеш: прыйдзе час і вашы «лясныя браты» нас перадушаць на ліхтарах. Га, прадалі Радзіму, аддзяліцца захацелі, — маёр паказаў Лібліку сціснуты кулак. — Я вас усіх навучу Радзіму любіць. Войска — гэта дысцыпліна, падпарадкаванне загаду. Я навучу цябе выконваць загады. Зразумеў?

Эстонец не адказваў. Маёр загадаў праводзіць вячэрнюю прагулку. Рота выйшла на пляц і па-вайсковаму завыла любімую песню камбата:

*Россия! Родина моя,*
*Родные березки, тополя!*

*Как дорога ты для солдата,*
*Родная русская земля.*

«Духаў» вучылі спяваць па адпрацаванай методыцы: «Не даходзіць праз галаву — дойдзе праз рукі-ногі». Маладых заганялі на доўгія, звараныя з дзюймовых трубак брусы. Яны завісалі ў паветры на руках, і афіцэр або «дзед» загадваў спяваць завучаныя ноччу тэксты. Ноччу звычайна вучылі з зэдлікамі ў выцягнутых руках. Падчас спеваў апускацца на зямлю забаранялася. Пасля пятага-шостага паўтору адной і той жа песні маладыя пачыналі «паміраць» і валіліся на зямлю, як ватоўкі. У найбольш мужных з-пад пазногцяў ішла кроў. «Моладзь» зрывала галасавыя звязкі, але спяваць навучыліся ўсе.

* * *

— Кожны баран носіць свае яйцы, — у роспачы вымавіў сяржант Мухін і жэстам паклікаў Лібліка.

Малады збіраўся класціся спаць і быў у зімовай споднай бялізне. Сяржант ударыў яго ботам паміж ног. Ліблік ускрыкнуў і пакаціўся па падлозе, трымаючыся аберуч за ніз жывата. Мухін задаволена заківаў галавой. Ён у вольны час адпрацоўваў на маладых удары каратэ. Кухілава растлумачыў яму, што паміж ног трэба біць не туды, куды звычайна, а лепш трошкі далей, бліжэй да копчыка, каб зачапіць нейкі нервовы вузел. Мухін адчуваў, што Ліблікавага вузла ён не зачапіў, але сваім ударам застаўся задаволены.

— Муха, досыць дурэць, давай збірайся! — сяржанта Мухіна пацягнуў за руку Кухілава.

— Ты знайшоў шпрыц? — здзівіўся Мухін.

— Зямляк, санінструктар, даў на пару дзён, — пацвердзіў Кухілава і паказаў на далоні шкляны, акантаваны нікелем балончык. У другой руцэ Кухілава круціў іголку ў пластмасавым футараль-

чыку.

— Клас! — разявіў рот Мухін.

«Дзяды» пайшлі ў сталовую. Па дарозе да іх далучылася пара гледачоў. На электрапліце яны доўга варылі ў кіпені з пасудамыем бляшанку з-пад кашы. Потым спрабавалі пастэрызаваць шпрыц, але пабаяліся, што не вытрымае і палопаецца шкло. Шпрыц і іголку прамылі кіпенем, а ў бляшанцы растапілі мутны, як рыбіна вока, вазелін. Шэрамаціцовы вазелін імгненна зрабіўся празрыстым, але за шкляной, градуіраванай абалонкай шпрыца ізноў памутнеў. Цёплы і мутны вазелін заганялі пад скуру паміж суставаў на кулаку. Спачатку напампавалі шпрыцам правы кулак Мухіну, потым Кухілаве. Мухін лаяўся рускім матам і шкадаваў, што не заслалі «духаў» па гарэлку. Кухілава вытрымаў аперацыю мужна і з гонарам. Піліповічу не хапіла вазеліну. На кулаках у Мухіна і Кухілавы спачатку з’явіліся тлустыя валікі і закрылі косткі. Праз колькі хвілін кулакі распухлі і неверагодна пачырванелі, адно валікі вазеліну заставаліся штучнага бурштынавага колеру. Далоні ледзь згіналіся. Але «дзяды» супакойвалі астатніх, што ўжо праз тыдзень рукі загояцца, а праз месяц можна будзе выпрабаваць якасць вазелінчыка.

Праз пару дзён Кухілава паказваў усім чырвоны кулак і заводзіў адну і тую ж песню:

— Вазелін загоіцца, будзе цвёрды, як камень. Лепш за любы кастэт. Трахну каго — заб’ю! Лепш пад мой кулак не трапляць.

А ў Мухіна рука тыдзень моцна гніла. Так гніла, што спачатку цалкам аднялася ўся рука, а потым распухла палова галавы. Але Мухін піў кожны вечар, руку нікому не паказваў і рэзаць вазелін не даваў.

Як кажуць, у войску няма параненых і хворых, ёсць жывыя і мёртвыя. Мухін нечакана для ўсіх выжыў, рука загаілася, адно вазелін пад скурай набыў шэра-зялёныя адценні і ляжаў не суцэль-

ным валікам, а быў рассечаны шнарам-воспінай, што выгінаўся, якраз на суставе сярэдняга пальца.

— Не атрымалася каўбаска. Можа, яшчэ прынесці шпрыц і даробім руку? — цікавіўся Кухілава ў Мухіна. Мухін злаваў, дарабляць кулак не згаджаўся.

* * *

— Рота, станавісь! Форма адзежы нумар два — голы торс! — маёр Скотнікаў трымаў у руцэ тоўсты сшытак.

Аголеныя торсы пашнуравалі ўздоўж казармы. Маёр скруціў сшытак у трубачку і загадаў маладым апрануцца. На «дызель» нікому не хацелася, і «духаў» таўклі так, каб не заставалася сінякоў. Білі пад дых, выпісвалі «піва» і апускалі ныркі або проста — ботам па назе ніжэй калена. Амаль у кожнага «духа» была разбіта надкосніца і лыткі ледзь залазілі ў халявы. Лібліку і Насаўцу па нагах не білі, бо ўсе ведалі, што абодва «духі» гніюць і кожны вечар разам з каўнерыкам мыюць у прыбіральні крывавыя, з гноем, анучы. Насаўца на святы адпускалі ў санчасць, але санінструктар не паклаў, а параіў ехаць у шпіталь.

— Трафічная язва, — сказаў санінструктар і дадаў: — Трэба ў шпіталь, там цябе адвучаць хварэць: нарэжуць скуры на анучы і залепяць гэтай скурай нагу — можа, загоіцца, але наўрад ці. Колькі гніло «духаў» у шпіталі! Ты не перажывай, год праслужыш — і ўсё пройдзе. Блага, калі перад дзембелем загнееш — інвалідам звольнішся.

Насавец ведаў, што ў шпіталі не дадуць адпачыць, а ад вайсковых перасадак скуры лёгка зарабіць такіх хвароб, што і дома не акрыяеш. І, параіўшыся з Ліблікам, Насавец у шпіталь не паехаў.

Маёр прабегся вопытным вокам па другой шнуроўцы і нарэшце ўглядзеў тое, што шукаў.

— Я так і думаў, пачалося, — маёр разгарнуў

сшытак і перапісаў усіх, на кім знайшоў свежыя татуіроўкі.

— Давядзецца пісаць лісты бацькам. Га, Рыбавол, ты танк нашто выкалаў? Ты што, Рыбавол, танкіст? Дэбіл ты, Рыбавол, а не танкіст. Я так бацькам і напішу: «Ваш сын, радавы Рыбавол Мікалай, замест таго каб выконваць свой воінскі абавязак, робіць сабе татуіроўкі. Размаляваўся так, што, калі звольніцца, вы яго не пазнаеце. Паведамляю вам пра татуіроўкі вашага сына, каб потым не было прэтэнзій да войска і да камандзіраў вашага сына». І ўсё! Адчуваеш, Рыбавол, што будзе з тваімі бацькамі? А я напішу, даю слова камуніста, усім напішу, не пашкадую рубель на паштоўкі, і сёння ўвечары ўсім, каго злавіў, адпраўлю дадому лісты.

Болей за астатніх перажываў хлебарэз Ара. І трапятаўся ён не з-за таго, што бацька даведаецца пра татуіроўкі, а таму, што ён выкалаў самалёт, парашутыста і літары «ВДВ», а маёр паабяцаў напісаць: «Ваш сын служыць хлебарэзам, аўтамата ў руках не трымаў і не бачыў, адно хлеб крадзе і жарэ задарма ды на ўсе грудзі выкалаў: «я — дэсантнік, я — дэсантнік».

Пашанцавала аднаму Кухілаве, бо маёр ніжэй рэменя не глядзеў і таму не знайшоў ягоных зорак на каленях. У Мухіна на адным плячы быў профіль Спартака, на другім тыгр, падобны на ката Барсіка, якому прышчамілі хвост. Муха радаваўся, што маёр не здымаў з «дзядоў» нагавіцы і не бачыў праваслаўнага крыжа, які аздабляў ягоную худую лытку.

За тое, што тыгр не цягнуў нават на барса, а здаваўся катом, білі маладога мастака Дадакузіева. Спачатку Мухін даў адарвацца і размаляваў таджыка так, што сам перапалохаўся. Потым супакоіўся, прынёс са сталовай міску аслізлага варанага сала і аддаў маладому.

— Еш сала! Я з-за чуркі на дызель не паеду! Ты ў

мяне навучышся маляваць. Ты мне руку сапсаваў! Я цябе самога сапсую.

Саматужных «каратыстаў» накшталт Мухіна баяліся больш за прафесійных баксёраў. Асабліва з-за нунчакаў: пары саракасантыметровых драўляных або, як у Мухіна, тэксталітавых палак, завязаных, накшталт цэпа, ланцугом. Каратысты раскручвалі палкі так, што свістала ў вушах, — выраблялі хітрыя петлі ў паветры, перакідвалі праз плечы, а потым лавілі палку за пахай або пад каленам. «Дух» Ліблік доўга не мог навучыцца вымаўляць цвёрдае «л», покуль не ўзяўся Мухін.

— Скажы: «болт», чуеш, «болт»! — загадваў «дзед» Ліблiку.

— Больт, — выдаваў Ліблік і імгненна атрымліваў палкай па галаве.

— Я сказаў — «болт», а не «больт». Я навучу, чухня, цябе па-руску гаварыць!

І з дапамогай нунчакаў за адзін вечар навучыў.

У свой час, калі Мухін і Кухілава былі «маладымі», ім тлумачыў службу чэмпіён РСФСР па боксу «стары» сяржант Мінгазаў. Вечарамі, пад добры настрой, ён шнураваў «духаў» і, як на трэніроўцы, па чарзе апрацоўваў кожнага з аднолькавай асалодай і на адным тэхнічным узроўні. Лёгка скакаў на пругкіх нагах, лёгка кідаў зацягнутыя анучамі кулакі, і «маладыя» без асаблівых пакут лёталі па казарме і валіліся на падлогу, як падстрэленыя.

Мухін памятаў, як ногі адрываліся ад падлогі, на імгненне цямнела ў вачах або, наадварот, мігцелі бліскавіцы і ён да раніцы выключаўся, як выключальнік.

Толькі на загад, за месяц да «дзембеля», Вася Мінгазаў перабраў самагону з півам і ашалеў. Пашнураваў «духаў» і раструшчыў сківіцу Саўцову, зламаў колькі рабрын Кірсу і назаўжды завярнуў набок нос Мухіну. Праз месяц маёр Скотнікаў адвозіў Васю Мінгазава ў мястэчка Хыраў на «дызель». Канваірамі паехалі Піліповіч і Мухін.

У цягніку маёр засылаў «духаў» з аўтаматамі па піва, потым ставіў іх на варту і піў разам з Мінгазавым. На прыпынках, калі сціхалі колы, маладыя прыслухоўваліся да размовы маёра з асуджаным. Падагрэты півам маёр скардзіўся, што не ведае, як далей служыць, калі такіх выдатных хлопцаў трэба садзіць у дысбат.

— Не, Вася, сківіцу ты дарма Саўцову скруціў, — разважаў маёр. — Не варта было перад самым дзембелем так распускацца, трэба стрымліваць сябе. Я разумею, іншым трэба ў лыч ботам, бо не разумеюць па-руску. Асабліва чурбаны — узбекі, казахі... Чухня эстонская прыдурвацца любіць. Але трэба разлічваць, калі б'еш, каб не забіць. А ты перастараўся, так нельга, Вася.

— Я і на дызелі не прападу, — перабіваў Мінгазаў і цягнуў з рыльца піва.

— Я ведаю, што не прападзеш, — пагаджаўся маёр. — Шкада, вядома, што ты мяне так падставіў. Але што ж зробіш, ты ў мяне лепшым сяржантам быў. Не ведаю, як цяпер гэтых абрэкаў у руках трымаць.

— Бардак пачнецца, — ківаў галавою Мінгазаў.

Мухін бесперапынна намацваў скрыўленае пераноссе і шэптам заракаўся Піліповічу:

— Нічога, праз год мы сваё возьмем, але духаў калечыць не будзем: каб я здох, а маладым косткі ламаць не буду.

## КРОС

Цень пад ліхтарамі то невераґодна расцягваўся, перасякаў наўскос аснежаны асфальт, то сціскаўся, падкрадваўся да ног і рабіўся кантрастным. У перспектыве вуліцы з прыступкаў будынкаў складаліся сходы да поўні, што гойдалася між вострых карнізаў. Зімовы вечар паўнеў чысцінёю нач-

нога паветра. Чалавек ішоў шпарка і лёгка, шырокімі крокамі, і з пэўным задавальненнем таптаў мяккі снег высокімі бацінкамі. Снег злёгку рыпеў і разлятаўся камячкамі. Але чалавек не азіраўся і не глядзеў пад ногі. Яго позірк быў нерухомы. Нечакана чалавек убачыў чорную пляму на снезе, ступіў яшчэ некалькі нясмелых крокаў і спыніўся. Рэч, на якую глядзеў чалавек, была прысыпана снегам, але ў ёй угадвалася жалезнае кола памерамі са звычайную бляшанку, якое некалі круцілася пад дзіцячым самазвалам.

Чалавеку на выгляд было гадоў дваццаць пяць. На ім былі доўгі шырокі плашч, адпрасаваныя шэрыя штаны і чорныя бацінкі. Вецер варушыў зачасаныя дагары валасы. Чалавек дастаў з кішэні цыгарэту, пакруціў яе ў пальцах і кінуў на снег. Ён нават не глянуў, куды трапіла цыгарэта, а адразу пайшоў. Крокі яго рабіліся даўжэйшымі, і чалавек пабег, спачатку павольна, потым хутчэй і хутчэй.

«Трэба хутчэй бегчы, — думаў у гэты час чалавек, але ўжо не мог знайсці сілы і бег у адным тэмпе, як заведзеная металёвая цацка. — Толькі не ўспамінай, нашто варушыць пражытае? Каму гэта трэба? Усё памерла!» — разважыў чалавек сам сабе. Падэшвы яго бацінак амаль бязгучна прасавалі стэрыльны снег, але ў галаве адбіваўся грукат трыццаці ботаў.

Палігонная каманда бегла на зарадку па танкавай дарозе. Віктар як старшына быў першы, за ім цягнулася трыццаць стомленых салдат. Незашпіленыя кіцелі змоклі на плячах і пад пахамі, падкаваныя боты цяжка білі прамерзлую зямлю. Збіліся агульнае дыханне і рытм — слабейшыя пачалі адставаць.

— Не расцягвацца! — крыкнуў Віктар. — Ногу ўзяць!

На два крокі за ім бег яго зямляк Гоша. Яны нарадзіліся і выраслі ў адным горадзе, нават мелі

агульных знаёмых, і Віктару часам было прыемна адчуваць, што за ім заўсёды ёсць нехта свой; тут, у войску, зямляк бывае бліжэйшы за сябра.

Віктар слухаў, як паступова страйнеў, наладжваўся тупат, і ўжо мог улавіць рытм, але больш крычаць не хацелася, ён пачынаў стамляцца, а да першай вышкі заставалася кіламетры з два. Ля вышкі звычайна адпачывалі, а потым зноў трэба было бегчы, толькі ў супрацьлеглы бок.

Чалавек прыбег да свайго дома, не спыніўся ў пад'ездзе. Ён пераскокваў цераз дзве прыступкі і хутка падняўся на свой паверх, адчыніў дзверы кватэры і нарэшце супакоіўся. Ён распрануўся, павесіў плашч на плечыкі, скінуў бацінкі і зайшоў на кухню. На непрыбраным стале валялася кансервавая бляшанка: ён схапіў яе і кінуў у адчыненую фортку. Бляшанка з лёгкім фырканнем знікла за акном.

— Ну колькі можна здзекавацца з сябе?! — гучна сказаў чалавек, але ў кватэры нікога не было. Ён сеў на хісткі зэдлік, запаліў цыгарэту і пачаў разглядваць воблачка дыму. Потым дацягнуўся рукою да пліты, адкрыў газ, выкінуў недапалак і закрыў фортку.

Да вышкі заставалася кіламетра паўтара, калі Віктар убачыў на дарозе рэч, якая нагадвала бляшанку з-пад кансерваў.

«Дзіўна, як яе не расплюшчыла? Пасярод танкавай каляіны ляжыць, а ўчора ноччу былі вучэнні. Хто сёння мог кінуць яе, гэтую бліскучую кансароўку?..»

Ён нават не мог успомніць, ці пачуў што-небудзь, калі Гоша наступіў на міну. Віктара моцна штурханула ў плечы, і ён страціў прытомнасць.

Вучэбна-тактычнае поле было зацягнута неглыбокім снегам і парэзана паралелямі танкавых дарог. Сям-там чорныя плямы вывернутай снара-

дамі зямлі парушалі геаметрызаваную прастору. Нізкае сонца слаба падсвечвала неба.

На другі дзень у шпіталі Віктар тлумачыў незнаёмаму афіцэру, што не мог заўважыць прысыпаную зямлёю міну. Афіцэр згадзіўся з ім і спытаў, ці ведае ён бацькоў свайго земляка.

Чалавек стаяў каля акна і прыслухоўваўся да шыпення фаеркі. Пакой напаўняўся газам. Чалавек глядзеў праз замутнёнае шкло на начны горад, што зіхацеў у пражэктарным асвятленні. Коміны на дахах нагадвалі бастыёны, чырвоныя ліхтары на комінах заводаў складалі магічныя знакі. Яркая поўня была неверагодна блізкай, і здавалася, што да яе можна дацягнуцца рукою. Чалавек бачыў свой адбітак у люстэркавай плоскасці поўні.

«Чаму мне так прыемна глядзець на сябе? Можа, гэта не мае рысы твару, а каго-небудзь іншага, толькі вонкава падобнага на мяне? У войску мяне часам блыталі з Гошам. Казалі, што мы падобныя. Дык, можа, і ў поўні павінна з'явіцца не маё адлюстраванне, а нешта іншае? Павінна, бо я вінен адно жыццё. Але чаму мне ўвесь час здаецца, што я бачу толькі сябе?»

Так разважаў чалавек, і яшчэ яму хацелася ўспомніць Гошаў твар, але ён не мог, і з кожным разам на поўні маляваліся аблічы болей размытыя і невыразныя ці зусім непазнавальныя. У адбітку ён зноўку бачыў сябе. Яму хацелася адчыніць фортку.

Чалавек выключыў газ, выпіў вады з-пад крана і адчыніў акно.

## «ПАРАДКА»

Саступі п'янаму дарогу — бог веку прыбавіць. Вядома, не ў прамым сэнсе, бо не скажаш, што

генералы п’янымі ходзяць, а «дзембелі» цвярозымі дахаты едуць. Якраз наадварот: генералы калі і бяруць па сто грам, то ў спецыяльна прызначаных на тое месцах, генералы парадак любяць; а п’яны «дзембель» — наогул не дзіва. Таму народнае прароцтва ў маім выпадку трэба разумець фігуральна: не пішы пра войска, не крыўдзі генералаў і застанешся цывільным чалавекам. Ад святога абавязку загінуць за радзіму па загаду таго генерала мяне яшчэ ніхто не вызваляў. І няхай потым тлумачаць, што генерал не п’яны, не кантужаны, а патрыёт. Жыццё тым патрыётам-інтэрнацыяналістам, што ў Афганістане кожнага пятага «афганца» паклалі, не вернеш. І сваім хлопцам, якія чарнобыльскі саркафаг муравалі, патэнцыі не дадасі. «Не пішы пра войска — і не забрыюць на зборы выпадкова ў Брагінскі раён, і не на ўсіх вучэннях у сваёй акрузе паваюеш», — папярэджвалі мяне сябры. І раптам заказ: напішы пра «дзембельскую парадку» як твор мастацтва.

Я парадкі не рабіў; чаравікі, праўду кажучы, аддаваў майстрам, каб ранты счасалі. Чаравікі ў нас мішэнная майстэрня, па-просту мішэнка, рабіла. Апроч звычайных цыркулярак, электрафуганкаў і піларамы былі ў той «майстроўні» фрэзерны і такарны станкі і гумы навалам, але пра гуму пазней. Працавалі на станках два майстры: Муха і Тарапыга, абодва «дзяды», і рабілі ўсім боты і чаравікі, ператваралі казёншчыну кандовую ў мадэльны абутак: клеілі платформы, набівалі абцасы, счэсвалі ранты, прышрубоўвалі набойкі — каб на пляцы агонь выбівала. І ўсё нармалёва было, покуль не далі да іх у майстэрню вучня, маладога байца Кузю. Выпілі Муха з Тарапыгам — гарэлка ў іх не пераводзілася, — і ў першы вечар спазнаў Кузя навуку-дзедаўшчыну. Не пайшла Кузю навука на карысць: вырашыў малады баец, што лепш камісавацца па калецтву, адпакутаваць раз і назаўсёды і

не трываць болей «дзедаўскія» здзекі. Заняўся Кузя членашкодніцтвам — падставіў указальны палец правай рукі пад фрэзу, чуў некалі, што без указальнага пальца ты не воін, але ў апошні момант не вытрымаў і выхапіў руку з-пад дыска, адно паспеў станок сухажыллі парэзаць, перастала далонь згінацца. Даведаўся камандзір пра Кузеву дурноту і загадаў фрэзерны станок здаць на склад, а байца пасля шпіталя абяцаў на гаўптвахце згнаіць. Ды новая бяда: Тарапыга ўваліўся ў яму пад пілараман, а за ім следам — бервяно старчаком. Паклалі параненага «дзеда» ў шпіталь, да таго ж у Кузеву палату, і прапанавалі камісавацца па стане здароўя. Але хто ж камісуецца, калі да «дэмбеля» два месяцы? Што там у шпіталі Тарапыга з маладым шкоднікам вырабляў, расказваць не буду. Скажу: мішэнка больш абуткам не займалася, кожны самастойна напільнікам і ножыкам стругаў абцасы. А на гумовыя набойкі ішлі пантофлі. Выдадуць у лазні пантофлі, а збіраць няма чаго.

Ёсць у войску сваё спецыфічнае разуменне прыгажосці, існуе свая эстэтыка, сваё мастацтва. Зоркі, кукарды, спронжкі, эмблемкі, рознакаліберныя нашыўкі — гэта не толькі званні і сімвалы кантузій, гэта цэлы свет вайсковага «хараства», і асэнсаваць яго цывільнаму чалавеку амаль немагчыма. Як ты растлумачыш жонцы, што дзве зоркі прыгажэй за тры галуны, а маёрскія пагоны прыгажэй за прапаршчыцкія, калі яна натуральнага прапаршчыка ўявіць не можа. І справа тут не ў званні, а ў спецыфічным бачанні свету. Надзень боты, партупею і праветры голаў шыхтавай падрыхтоўкай — я пагляджу, як зменіцца твой твар: пасталее, і позірк зробіцца пільным, і адкрыецца табе той чароўны свет кукардавай прыгажосці, які тоіцца ў звычайным вайсковым фрэнчыку.

Парадкі я не рабіў не таму, што восенню ў шынялі звальняўся: ехаў я ў канцы сакавіка, ужо цёпла было, і свой шынель я ў аэрапорце выкінуў. Гэта

восенькі прызыў часам толькі шынель наладжвае. Шынелі ў нас начэсвалі металічным грабеньчыкам, што швэдар махеравы: воўна калмацілася і мякчэла. Гэта цэлае мастацтва, якое з-за дзедаўшчыны называюць «дзембельскім». Мастацтва тое не належыць ані войску, ані цывільнаму асяроддзю. Прыгажосць дзембельскага мундзіра — аднадзённая: дадому даехаць і малым братам, пляменнікам падарыць. Вось і ўвесь кайф, адно што чыста мужчынскі.

— Духі?

— Мы! — хорам адказваюць «духі».

— Колькі дзеду да дзембеля?

Кожны «дух» ведае адказ. Паспрабуй памыліцца на дзень, пойдзе ноччу іншая арыфметыка, каб служба мёдам не здавалася, давядзецца пасля праверкі адціскацца разоў сто. Ну гэта, вядома, як дзе. У нас дык папросту ботам па нырках. Вася Мінгазаў спец па нырках біць — мачыліся па начах крывёю. А ў дысбат Вася трапіў за раструшчаную сківіцу. Як кажуць: каму наканавана задавіцца — не атруціцца. Засталася Васева парадка ў нашай капцёрцы.

* * *

Я ў войску кар'еру хутка зрабіў, выслужыўся. Чатыры месяцы ў вучэбцы, сяржанцкія лычкі і на старшынскую пасаду. І адбарабаніў я паўтара года старшыною роты. Самому дзіўна, адкуль што ўзялося. Як звычайнага старшыну, не любілі мяне байцы — люта. І не толькі таму, што парадкі не рабіў, але асаблівую нянавісць выклікала маё сацыяльнае паходжанне. Па-першае, я — гараджанін. Байцы, хто з вёсак, лічацца надзейнымі, працавітымі і тупаватымі, а гараджане — кожны другі або наркаман, або злодзей, або студэнт. Да таго ж вяскоўцы больш на праверaны алкаголь націскаюць, тут усё проста. Ад гараджаніна ў любы момант чакай бяды, эксперымента з бытавой і медыцынскай хіміяй. У нашай часці аднойчы Есін з Меліто-

паля знайшоў пасярод палігона на танкавай пляцоўцы макавую паляну. Паказаў яе байцу Гвоздзеву з Растова па мянушцы Цвік, і ў той жа вечар яны шыранулiся (укалоліся) адварам макавага зелля. Ноччу абодва як селі на «белых коней», то ледзь супакоіліся ў шпіталі. Есіна потым перавялі ў будбат, а Цвік у шпіталі з вольнанаёмнай медсястрычкай ажаніўся і даслужваў санітарам на добрых харчах і крухмальнай бялізне. Афіцэры пагаворвалі, што медсястрычка тая слабая на адно месца, маўляў, бачылі яе ў камандзірскай лазні з нампалітам і начальнікам штаба, і Цвік, калі такі разумны, як звольніцца, то кіне абавязкова жонку. Але Цвік жонкі не кінуў. Жонку кінуў адзін мой знаёмы баец Федзя. Служыў Федзя тэрміновыя два гады ў палкавым аркестры, граў на трамбоне і, як усе аркестранты-байцы, па начах уцякаў з часці да тамтэйшых дзяўчат. Вядома, некалі такая лафа павінна была скончыцца, Федзю злавілі, і камбат абвясціў гаўптвахту, але тут высветлілася, што аркестрант па начах забаўляўся з дачкой камандзіра палка, безумоўна, з самымі сур'ёзнымі намерамі. Федзя прысягнуў, што ў іх каханне, а не звычайныя гулі, і ажаніўся з дачкою палкоўніка. Пачалася ў трамбаніста іншая служба: перавялі яго з аркестра ў штаб, з салдацкай сталоўкі ў афіцэрскую, з казармы на паўцывільнае існаванне — жыві дзе пажадаеш. Байцы казалі: «Падфарціла хлопцу з жонкай, хоць ты звыш тэрміну заставайся, на прапаршчыка». Але Федзю жонка не ў жылу: з яго слоў, яна быццам німфаманка. Ледзь дацягнуў да «дзембеля».

Што тычыцца мяне, то, па-другое, я — былы студэнт, і не які-небудзь тэхнар, а самае недаравальнае — беларускі філолаг. Куды ты з такой спецыяльнасцю пойдзеш? Гуманітарый! Мажор! Нацмэн! Сноб! Гультай! Мажор таму, што бацька ў мяне пісьменнік. Пра такія рэчы я з дзяцінства прывучаны маўчаць, але дзе ты такое схаваеш,

што на твары напісана. А класавая барацьба ў крыві савецкага байца. Сын пісьменніка — гэта як сын ворага народа. Куды мне з маім паходжаннем і універсітэцкай адукацыяй парадку рабіць? Ды яшчэ старшына...

— Сынок, як служба? — у нас такая завядзёнка была.

— Як у куратніку: дзе зловяць, там і трахнуць.

У суседняй часці па-іншаму маладыя павінны былі адказваць:

— Дзембель давай!!!

А ў вечары паўсюдна адно і тое ж:

— Духі, дзень прайшоў?

«Духі» хорам у адказ:

— I х... з ім!

Гэта, у каго ні спытай, жалезная традыцыя войска. А ноччу пачынаецца ў казарме падрыхтоўка да «дзембеля». Робіцца парадка. У нас сяржант Хасанбаеў звальняўся — не раўнуючы генерал з войска бацькі Махно. Выпадкова ўбачыў ягоную парадку камандзір палка, стары служака і псіхапат палкоўнік Бершэда, ледзь не звар'яцеў на месцы.

— Сякеру, сякеру сюды! — як крыкне, а ў самога вочы крывёю наліваюцца. Усе, хто побач стаяў, спудзіліся, кінуліся ўцякаць далей ад шалёнага. Але нейкая свалата знайшла сякеру.

— Кладзі нагу на калодку, — загадаў палкоўнік Хасанбаеву і адсек абцасы «дзембельскіх» чаравікаў. А былі абцасы, трэба прызнацца, сантыметраў па дзесяць — твор мастацтва, а не абутак. Трэба было бачыць, як Хасанбаеў у тых чаравіках, што на хадулях, вытанцоўваў.

Парадкі байцам выдае старшына роты. Што тычыцца харчоў, формы і іншай радасці, то мне пашанцавала — старшына забяспечаны як ніхто іншы. Былі ў маім распараджэнні склады, кладоўкі і ключы на ланцугу ад фінскай сантэхнікі. I былі мае кладоўкі ад столі да падлогі завалены рознымі вайсковымі трантамі, а за тыя транты

кожны «дзембель» радзіму прадасць тройчы і яшчэ ручку пацалуе. Бо на «дзембель» трэба па традыцыі ехаць ва ўсім з іголачкі, каб муха не сядзела. А дзе ты тое новае возьмеш, калі ў старшыны не ўкрадзеш?

Я калі служыў, пайшла мода ўсё згінаць: спронжкі, кукарды, эмблемкі, карацей, усё металічнае. Раней, расказвалі, было наадварот: год праслужыў — і спронжка прамая, як дарога дадому. Быў у нас Аркаша з Усць-Каменагорска, дык ён двума пальцамі любую латунную спронжку ў трубачку закручваў, што фольгу цукерачную. Пальцы былі ў Аркашы — што абцугі. Служыў ён зваршчыкам у парку і за бутэльку піва браўся рукою за аголены дрот пад напругай. А электрыкі потым прапаноўвалі маладым байцам патрымацца за Аркашу.

Вядома, у кожнага роду войск свае забабоны, але паўсюль ёсць звычай нестатутную кукарду на лбе разгінаць: убачыў на маладым сагнутую зорку — і кулаком па шапцы; гэта як гузік незашпілены адарваць, як кішэні з пяском зашываць, калі баец не ведае, дзе рукі трымаць, — стабільная вайсковая забаўка. Сам хадзіў з зашытымі кішэнямі. А праз паўгода ўжо парадкі выдаваў. Дасі на ноч кіцель сяржанту СА і раніцай не пазнаеш — фантастыка, што робіцца за адну ноч: перакройваецца, перашываецца, перабіваецца. У нас быў адзін спецыяліст — за адну ноч з двух нагавіц кіцель шыў.

Колькі паданняў назбіралася ў войску пра парадны мундзір! Напрыклад, ёсць прыкмета: нельга ноччу перад звальненнем давяраць парадку маладым, асабліва прасаваць. У суседнім палку «дзембель» даверыў нагавіцы маладому, а раніцай прасам гэтаму ж байцу зламаў пару рабрын і павыбіваў зубы. Казалі, што баец у парадцы дзірку з кулак прапаліў — вядома ж, вайсковым прасам толькі біцца добра. А ў маёй часці адзін дурань праз парадку ледзь не задавіўся. Хацеў штабны пісар Зотаў з Піцера прагнуцца, выслужыцца

перад камандзірам, і напярэдадні святаў вырашыў адпрасаваць парадны камандзірскі мундзір, палкоўнік яго ў штабе трымаў. Уключыў Зотаў прас, расклаў нагавіцы на стале — і раптам знайшоў у кішэні стос парнаграфічных картаў. Покуль прагартаў баец карты, нагавіцы пайшлі дымам. Спалохаўся Зотаў, затрапятаўся і надумаў схаваць камандзірскую парадку. Раніцай, як належыць на святы, палкоўнік вырашыў апрануць парадны мундзір, але не знайшоў і абвясціў святочны крос-марафон у поўным «парадзе»: зброя, «хімія», процівагазы. А пасля абеду сабраў сяржантаў-«дзядоў» і папярэдзіў: калі да вечара не знойдзецца ягоны гарнітур, ноччу ён абвесціць вучэбную трывогу і наладзіць марш у запасны раён. Спалены гарнітур «дзяды» не знайшлі, але Зотава вылічылі і заракліся: вучэбную трывогу ператварыць штабному пацуку ў баявую. Зачыніўся перапалоханы пісар у штабной качагарцы і хацеў задавіцца, ледзь ўратавалі.

У маёй роце, відаць, у мяне аднаго парадка па памеру падыходзіла: старшыне належыць па пасадзе вопраткай займацца, у астатніх — што старшына дасць, тое і насі. Прызнаюся, у войску не толькі страляць вучаць, але і карысным рэчам таксама. Кожны другі баец умее шыць: крыва-коса, а нагавіцы перакроіць, бо форму па памеру атрымлівае толькі крамлёўская ахова, каб маўзалей не ў самапальных ботах вартаваць. Парадку і іншую вопрадку яшчэ не цяжка перашыць, а вось з бялізнай кожны тыдзень змагацца не проста. Споднія кальсоны атрымліваеш у лазні, а яны на пяць памераў большыя. Дык гэта яшчэ не бяда, а калі тая бялізна на пару памераў меншая і побач няма з кім памяняцца? Праз тую халеру пакутаваў мой зямляк Гоша, бо важыў ён кілаграмаў пад 150 і ростам быў за два метры. Па закону выпісвалі на яго падвоены харч, а наконт кальсонаў смяяліся, прапаноўвалі або дзве пары дзіравых, або самыя

вялікія, якія знойдзе. Гоша ведаў, што нават самыя вялікія на ягоным жываце не сыдуцца, і першую зіму без сподняй бялізны мёрз, як воўчы хвост. На другім годзе Гоша дастаў афіцэрскую трыкатажную бялізну, і маладыя байцы ў лазні раз на тыдзень яе мылі. Парадку спраўлялі на Гошу, што на маршала, па індывідуальным заказе.

Я не хачу пераконваць, быццам у войску форму перашываюць з-за таго, што яна, як у дурдоме, на ўсіх параноікаў і алкаголікаў аднаго 52 памеру першага росту — і такое бывае, факт. Я на шэсцьдзесят байцоў на зборах маладога папаўнення атрымаў х/б быццам на алімпійскую сборную па цяжкай атлетыцы: 30 пар — 54-га памеру, 30 — 56-га. З суседняй брыгады прыбягалі на «цырк» паглядзець, калі маладых у форму апранулі. Сустракаюцца ў войску і унікальныя стварэнні, на якіх наогул нічога па памеру не знойдзеш, такіх памераў не існуе. Быў у маёй роце воін Маліна з Казахстана, па бацьках пісаўся рускім: росту сам маленечкага быў, а ступні на нагах — што водныя лыжы, дзе ты такія боты знойдзеш? Такія ступакі ў самвыдатаўскіх часопісах пад чарнобыльскага мутанта сыдуць. Але гэтакае дзіва покуль не кожны дзень сустрэнеш. Зболышага воіны стандартныя трапляюцца, як па статуце. І парадкі перашываюць дзеля ўласнага задавальнення.

## САМАГУБСТВА

*Нет, не ко мне — к соседу*
*Зонт прошелестел...*

Ранран*

* Пераклад Веры Маркавай.

Максіма не стане ў лютым 1987 года, але «Вячэрні Менск» не дасць на апошняй старонцы спачувальнага паведамлення, бо Максім на той час будзе толькі часова прапісаны ў Менску.

Я спадзяюся, што аб трагедыі я даведаюся яшчэ да пахавання. Магчыма, мне патэлефануе Максімаў сябар.

— Ты пойдзеш на пахаванне? — спытае ён.

— Не, я не магу. Ты памятаеш, мой стары дом стаяў каля могілак, дык я з таго часу не магу глядзець на пахаванні.

— А яны ўсе прыцягнуцца: рэстаўратары, выкладчыкі, кіраўнік дыплома — і той, відаць, прыпаўзе і прамову будзе казаць, што Максім — мастак, але не ўзгадае, як з інстытута выключаў і з дыпломам колькі мучыў. Яны ўсе будуць гаварыць — Максім мастак, а на выстаўкомах яго працы не бралі, здзекаваліся, няздарам называлі, казалі, каб кінуў маляваць... А заўтра ўсе прыйдуць і будуць гаварыць, як шкада ім хлопца.

— А ты пойдзеш? — спытаю я.

— Пайду, толькі я моўчкі пастаю, нічога нікому гаварыць не буду. Дый што ім усім скажаш? Яны не паверыць, што гэта яны Максіма давялі. Яны думаюць, што ў іх чыстае сумленне.

Мы развітаемся і доўга не будзем бачыць адзін аднаго. Але ўсё можа быць і не так.

Магчыма, пасля пахавання мне патэлефануе знаёмы рэстаўратар.

— Ты ведаеш, што Максім павесіўся? — спытае ён.

— Не.

— Учора пахаванне было, я ездзіў; шкада хлопца, але што зробіш? Хварэў ён цяжка. Ты, відаць, ведаеш, што вены рэзаў? І перад апошнім праглядам у інтэрнаце так нерваваўся — месца сабе не знаходзіў.

— Я не бачыў яго болей як месяц, — пераб'ю рэстаўратара.

— Ты ж з ім сябраваў, ці мне здавалася? А й праўда, каму ён такі быў патрэбны? Хаця не кажы — цікавыя працы ў яго былі. Але дзіўна, вонкава такі стрыманы быў, выхаваны...

— Нашто ты мне гэта кажаш?

— Я думаў, табе гэта цікава, — здзіўлена адкажа ён.

Хутчэй за ўсё, рэстаўратар увогуле не пазвоніць, і на пахаванні мы не ўбачымся, бо на пахаванне я так ці інакш не пайду.

Можа так здарыцца, што я сустрэну на вуліцы Максімаву дзяўчыну, яна пазнае мяне і заплача, я паспрабую супакоіць яе, але я гэтага зрабіць не ўмею і супакойваць не буду, яна сама хутка перастане плакаць, мы зойдзем у кавярню, і яна раскажа, як загінуў Максім. Раскажа і заплача.

— Яго забілі, — ізноў скажа яна са слязьмі. — Я ў той дзень была ў яго ў майстэрні, мы пасварыліся, як звычайна, мы ўвесь час толькі й сварыліся, не ў гэтым справа, я хачу сказаць, там побач нейкія мужыкі працавалі і захацелі выпіць у майстэрні, а Максім іх прагнаў і, здаецца, абразіў, — апошнім часам ён такі змучаны быў: абарона дыплома, ты ж ведаеш... Ён і мяне прагнаў, а калі я ішла, дык тыя мужыкі зноў там круціліся. Яшчэ падумала, што мо нельга яго пакідаць у такім настроі і з такімі «суседзямі». Я да следчага хадзіла, але ён мне не паверыў, сказаў, што ў іх не было падстаў для забойства, абяцаў толькі знайсці тых рабочых, а мне не паверыў. Не мог ён сам. Максім сам не мог, — яна зноў заплача, і мне прыйдзецца яе суцяшаць (а так бы не хацелася гэтага рабіць), захочацца проста ўстаць і пайсці.

Але, магчыма, мы не сустрэнемся, або яна не захоча мяне пазнаць і не заўважыць на вуліцы ці проста не пазнае.

Я буду ехаць у настылым тралейбусе лютаўскім вечарам, і са мною побач сядзе знаёмы выкладчык.

— А! Гэта ты? — нечакана ўзрадуецца выкладчык.

— Даўно не бачыліся, — адкажу я.

— Ты, відаць, яшчэ не ведаеш, што ў нас здарылася, я маю на ўвазе — у інстытуце? — спытае ён.

— Не.

— Ты ведаеш Максіма? Ну дык вось, яго больш няма, уяўляеш сабе — павесіўся. Ты ж яго добра ведаў. Столькі непрыемнасцей у інстытуце — усіх трасуць. Мне дык нічога, а для інстытута і яго дыпломнаму кіраўніку — столькі непрыемнасцей. Я ж Максіма таксама добра ведаў: ён мне дапамагаў у новую майстэрню пераязджаць, я сам папрасіў, ты ж ведаеш — аднаму цяжка, ён мне і дапамог. Што ў гэтым такога: усе просяць. Ён, відаць, не толькі мне дапамог — тады многім майстэрні давалі. А я хацеў табе вось пра што расказаць. Можа, ты ведаеш, ён жаніцца збіраўся?

— Не, я яго даўно не бачыў, — адкажу я.

— Так, ён нікому не казаў, але гавораць, што збіраўся з гэтай, як яе, прозвішча — забыўся, а яна, як даведалася, што яго на перыферыю размяркоўваюць... Так вяселле і адклалі. Вось як бывае. Кажуць, ён перажываў праз гэта.

Тралейбус спыніцца на чарговым прыпынку, і мы разам сыдзем.

— Табе ў які бок? — спытаю я выкладчыка, ён махне рукою, і мы разыдземся.

Толькі якая верагоднасць у мільённым горадзе сесці ў адзін і той самы тралейбус з канкрэтным чалавекам якраз у лютым, калі мы працуем і жывём у розных раёнах горада?

Так ці інакш, я спадзяюся, што даведаюся ад некага з тых, хто нас ведаў, аб смерці Максіма. На пахаванне я не пайду. Магчыма, мне захочацца зайсці да яго ў майстэрню ў цэнтры горада.

Мне пашанцуе, і ў майстэрні ў той вечар будзе працаваць нехта з яго аднакурснікаў. Ён адчыніць мне дзверы і прапануе зайсці. Я скажу, што прыйшоў паглядзець апошнія работы Максіма.

— Тут нічога няма, — адкажа яго аднакурснік. — Ён не ў гэтай майстэрні працаваў, тут нас шмат, а ў яго на краі горада майстэрня, ён там адзін быў, ніхто не хацеў туды — далёка ездзіць.

— Можа, ты раскажаш, што там адбылося? — спытаю я.

— Яго кіраўнік дыплома знайшоў. Максім яму пазваніў і папрасіў прыехаць, паглядзець работы. Покуль той даехаў... Цяжка там яму было. Кіраўнік дыплома казаў, што не на той аўтобус сеў і таму так доўга ехаў.

— Ты думаеш, ён наўмысна, як прадчуваў?..

— Не, яны памыліліся.

— Чаму «яны»?

— Ён не ў той аўтобус сеў, а Максім час не разлічыў. Яны ўсе здзекаваліся з яго, вось ён і вырашыў адпомсціць: пачуў, што нехта ідзе, і думаў пажартаваць, ён стомлены быў. Пакуль прыехаў — Максіма не выратавалі.

Максіма не стане ў лютым 1987 года, і ў некаторых яго знаёмых застанецца некалькі яго карцін і малюнкаў.

## ГУЗІКІ

Зоркі над горадам нагадвалі рассыпаныя гузікі. У дворыку, заціснутым паміж абшарпанымі будынкамі і бетонным парканам, пад аголенымі дрэвамі на лаўцы сядзелі дзве старыя кабеты. Недалёка ад іх забаўлялася ў капцы сухога лісця дзяўчынка. Старыя сядзелі нерухома. Адна з іх была апранута ў зімовае паліто і пуховую хустку, другая — у шэрачорнае штучнае футра і вязаны берэт; яна час ад часу паглядала на дзяўчынку.

— Нявестка матэр’ял мне на спадніцу падарыла, а я пашыць ужо сама не магу. Пяцьдзесят год

шыла, а цяпер зусім аслепла — нітку не зацягну, — сказала кабета ў футры.

— Ага, — кінула другая кабета.

— Ты ж падумай: паўвека шыла, а цяпер нітку не бачу, зусім састарэла — сорам каму сказаць. Унучку ў садзік выпраўляю, а сама ледзь жывая — па кватэры цяжка хадзіць, так бы і не ўставала раніцай. І есці ўжо не магу: тхне мне нечым ад ежы, толькі і вару дзеля ўнучкі

— Ці хадзіла ты да начальства прасіць кватэру? — спытала старая ў зімовым паліто.

— Давалі мне кватэру, а я не ўзяла — камуналку трохпакаёвую. Два пакоі мне давалі, а ў трэцім жанчына — доктарка наша старая жыве. Памятаеш?

— Чаму ж не. А колькі ёй гадоў? Здаецца, нашмат старэйшая за нас, — разважала ў адказ старая ў зімовым паліто.

— Нашмат... Я таксама ледзь пазнала яе... Сколькі год не бачыла... Памірае яна, схуднела зусім і не ходзіць. Такая спрытная некалі была, а зараз толькі ляжыць, і я хутка злягу — ногі пухнуць, раніцай не падняцца, каб не ўнучка. А за доктаркай глядзець трэба, бо яна ляжыць, не ўстае. Мне казалі, што тую кватэру многія хацелі атрымаць, бо як памрэ доктарка, яе пакой нікому аддаваць не будуць. А я адмовілася. Сама ледзь жывая, а ў такую кватэру не пайду, каб даглядаць хворага чалавека і чакаць, покуль той пакой вызваліцца. Дый прыглядзець за ёй не магу. Вось зусім есці перастала — усё тхне мне нечым ад ежы. Дасць бог здароўя — пажыву яшчэ, але вось нітку ўжо не зацягну, матэрыял нявестцы аддала, хай тая ўнучцы пашые ці сабе пакіне. І кватэру не ўзяла, каб не чакаць чужой смерці.

Да старой, што ў футры, падбегла дзяўчынка і ўзяла яе за руку.

— Не расказвай, бабуля, не расказвай, бо я баяцца буду ноччу. Буду ноччу баяцца і плакаць, —

хуценька загаварыла дзяўчынка.

— Ідзі, унучка, не бойся, не буду расказваць, не бойся. Ідзі гуляй, а я яшчэ пасяджу трошкі...

Дзяўчынка супакоілася, адышла на некалькі крокаў ад старых і пачала разглядаць нізкае неба: яно, ёй здавалася, пачынаецца адразу за галінамі дрэў.

— Дачка ўчора шафу выкінула, мой яшчэ рабіў. У маім пакоі ўсё ягонымі рукамі зроблена, і на кухні зэдлікі — мо год трыццаць стаяць, — пачала расказваць старая ў паліто.

— І мне ж твой зэдлікі рабіў — нявестка на дачу звезла, — перабіла яе старая ў футры.

— Ага, дачка сказала: нашто табе шафа — у пакоі і так цесна, не прадыхнуць. Выкінула шафу — а ўсю маю адзежу ў чамадан склала і пад ложак мне засунула, сказала, што ў мяне няшмат адзежы і шафа толькі пыл збірае. А ложак таксама мой рабіў, і шафу ён рабіў, а дачка разам з шафай ягоную адзежу выкінула. Я даўно ягоную бялізну прыхавала — сама не ведаю, нашто — дачка ўсю маю і бацькаву адзежу перабрала, маю — у чамадан, а бацькаву выкінула. Я адно паспела гузікі зрэзаць, — старая, што была ў зімовым паліто, дастала з кішэні жменьку гузікаў і паказала суседцы. Яе рука затрэслася, і гузікі рассыпаліся на асфальт. Старая сагнулася і пачала па аднаму іх падымаць. Яна старанна абцірала іх аб паліто і складала ў кішэнь.

Старая ў футры ўстала з лаўкі, паклікала дзяўчынку, і яны зайшлі ў пад'езд. Счакаўшы, у другі пад'езд зайшла старая ў зімовым паліто.

На цёмнай латцы асфальту, недалёка ад лаўкі, засталося ляжаць некалькі белых гузікаў.

## МІЖ ІНШЫМ

— Нас сёння возьмуць.

— Не... горад пусты.

— Давай згуляем?

— Давай, толькі я не разумею, за што ставіць балы.

— Не мае значэння, за што, было б каму...

— Салдат з марожаным няблага глядзіцца на гэтым фоне.

— Салдату — дзесяць балаў. За уніформу — вышэйшы бал.

— Глядзі, на праспекце рабочы клас — відаць, з метро.

— За ватоўкі і каскі — восем балаў.

Святло неонавай рэкламы афарбавала блакітныя джынсы ў брудныя адценні. Два хлопцы сталі каля ўвахода ў кавярню і ціха гаварылі. Адзін — высокі, худы, у кароткай скураной куртцы, другі — меншы ростам, таўставаты, у сінім камбезе, з акулярамі на носе; абодвум было год па дваццаць.

— Шура, бачыш, на тым баку вуліцы паэтэса з універсама выйшла: спадніца шаўковая да пят і бант — на тры галавы хапіла б. Яна посуд у краме мые і за стойкай на абгортачнай паперы ўвесь час нешта запісвае. Ведаеш яе? — спытаў высокі.

— Бачыў некалькі разоў, а што?

— А ўсміхаецца як — прыемна глянуць. Відаць, самы шчаслівы чалавек на нашай вуліцы. За яе шчасце — дзесяць балаў.

— Пайшлі пройдземся.

— Шура, паехалі ў матэль.

— У матэлі глуха, сёння фур не будзе.

— Паехалі к «Турысту».

— «Турыст» — не мой раён, мяне там раз бралі — добра, што Мікіта торбы вынес.

— Нешта сёння не шанцуе.

— Андрэй, інтэлігента бачыш, у акулярах адно шкельца трэснута — дамо тры балы?

— Не, гэта слаба, дадзім бал. А за ім, глядзі, якая фірма коціць, — Андрэй кіўнуў на прахожых.

— Якая ж гэта фірма, проста ўпакаваныя паны, пайшлі пагаворым. — Хлопцы адышлі ад кавярні і ўліліся ў натоўп. Перад імі ішлі малады паляк і ярка апранутая дзяўчына.

— А паненачка першы клас, колькі дасі?

— За ногі?

— Лыткі доўгія і худыя — два балы.

— А за прыгажосць?

— За культурны макіяж — накінем бал.

— А за анучы?

— Звычайныя фірмовыя анучы, што ў іх дзіўнага?

— А я яшчэ дабаўлю бал, — сказаў Шура і спыніў палякаў пытаннем: — Вітаем паньства, у якім гатэлі спыніліся?

— «Турыст», — здзіўлена адказаў паляк.

— Маеце што-небудзь на продаж? — звярнуўся да яго Андрэй.

— Так, маем «зэгаркі электронічнэ» — седэм мелёдый, — узрадаваўся той і паказаў на руцэ гадзіннік.

— Іле хцэш?

— Пенцьдзесёнт, — паляк ускінуў перад тварам Андрэя далонь, паказваючы пяць пальцаў.

— Дам трыццаць пяць. Добры гандаль?

— Маю яшчэ дзесяць такіх «зэгаркув» у гатэлі.

— Возьмем. — Андрэй дастаў з кішэні трыццаць пяць рублёў і працягнуў паляку, той зняў гадзіннік, аддаў яго хлопцам і схаваў грошы.

— Гатэль «Турыст»? — удакладніў Шура.

— Так.

— Будзем каля ўвахода праз тры гадзіны.

— Добжэ, — палякі зніклі ў натоўпе. Хлопцы падышлі да кавярні і зноў сталі каля ўвахода.

— За адзінаццаць гадзіннікаў падымем трыста пяцьдзесят калоў на двух, — уголас падлічваў Шура. — У «анціку» такія гадзіннікі выстаўляюць па восемдзесят. Андрэй, давай Мікіту раскруцім?

— Што за Мікіта?

— Ды чорт яго ведае. Нядаўна тут пачаў круціцца. Мне аднойчы дапамог, я гаварыў. Мае грошы і ні халеры не ўмее, нават пана дзёрнуць не можа.

— І што ты прапануеш?

— Прымаем панскія гадзіннікі за яго грошы.

— Так, і яго выстаўляем.

— Можам і не выстаўляць, і так няблага заробім.

— Паглядзім.

— Глядзі, Андрэй, стары ідзе, адразу відаць — фірмач, капіталіст.

— Не для нас, гэты пусты.

— Гальштук — клас.

— Так, гальштук і пляжныя тапкі на босых нагах. За пляжны гарнітур з гальштукам — чатыры балы.

Хлопцы зайшлі ў кавярню і пачалі абмяркоўваць дэталі «раскруткі». Мікіта знайшоўся сам.

Стрыжаны ў дарагім салоне, у фінскім гарнітуры і пры гальштуку, ён здалёк нагадваў клерка, але зблізку рэзкі і моцны пах адэкалону «Шыпр» хутка пераконваў у адваротным.

— Ты што, флакушку раздушыў? — сустрэў яго пытаннем Шура.

— Цырульнік пастараўся.

— За поўную адсутнасць пачуцця абаняння — пяць балаў.

— Што за балы?

— Пазней растлумачым. Маеш бабкі — падымешся з намі, — загаварыў Андрэй.

— Колькі трэба?

— Тры з паловай «кацькі» — і дзесяць гадзіннікаў нашы, падымем столькі ж на трох.

— Пойдзе! — узрадаваўся Мікіта.

— Праз дзве гадзіны чакаем каля «Турыста».

Шура не любіў Заводскі раён і ў «Турыст» амаль ніколі не ездзіў. За гатэлем знаходзіўся гіганцкі універмаг, і бясконцы натоўп гараджан і прыезджых шаргацеў ля сходаў гатэля. На сходах стаялі

Андрэй і Шура.

— Мікіта прыйдзе? — спытаў Андрэй.

— Павінен.

— Глядзі, на прыпынку «металюгі» з гітараю.

— За стрыжаныя скроні, заплеценую коску і грэбень усім па восем балаў.

— Я за адну гітару — адразу дзесяць.

— У правага абразок шыкоўны — яшчэ бал.

Да хлопцаў па сходах падняўся Мікіта.

— Грошы прынёс? — звярнуўся да яго Андрэй.

— Прынёс.

— Тады вы з Шурам адыдзіце ўбок, каб не спалохаўся пан твайго гальштука і прычоскі — рыхтык паліцыянт.

Мікіта і Шура спусціліся ўніз і перасеклі вуліцу, каб бачыць Андрэя на сходах.

— А што гэта вы за балы ставіце? — спытаў Мікіта.

— Гэта гульня такая — дзесяцібальная сістэма адзнакі за індывідуальнасць.

— Ага, разумею.

— Тады згуляем. Бачыш дзяўчыну: колькі дасі і за што?

— Нічога, твар смазлівы, спадніца модная — восем балаў.

— Смазлівых колькі хочаш, і спадніцы такія на кожнай другой. Затое, бачыш, ногі крывcensatыя, за гэта тры балы можна нацягнуць, і за адсутнасць густу бал — спадніца вузкая.

Да Андрэя падышоў паляк, і яны зайшлі ў гатэль. За імі падняліся і зніклі за дзвярыма Шура і Мікіта.

— Андрэй завядзе пана ў бар і будзе нас чакаць. Давай грошы, — загадаў Шура. — Возьмем каву на ўсіх, а я прыму гадзіннікі, — зноў загадаў Шура, і Мікіта згадзіўся.

Яны зайшлі ў бар гатэля і ўбачылі ля стойкі Андрэя і паляка, з імі сядзела знаёмая маладая палячка, якую хлопцы раней бачылі на праспекце.

— Пан ізноў з паненачкаю, — сказаў Шура і сеў

за столік. Паненачка ўстала, развіталася з Андрэем, узяла з-пад стала сваю вялікую чырвоную торбу і выйшла з бара.

— Гадзіннікі праверыў, усе іграюць? — спытаў Шура.

— Нармалёва. Грошы прынёс?

Шура паглядзеў на Мікіту, што стаяў у чарзе па каву, і працягнуў паляку скрутак пяцідзесяцірублёвак. Паляк пералічыў грошы, дастаў з-за стала металічную скрынку і аддаў яе Андрэю.

— Гадзіннікі ў скрынцы, я правяраў, — растлумачыў Андрэй і схаваў яе ў сваю сумку.

Шура сядзеў моўчкі, схаваўшы рукі пад стол. У бары круцілі «метал». Мікіта прынёс каву, паставіў філіжанкі на стол і дастаў з кішэні чырвоную кніжачку.

— Міліцыя, — сказаў ён і паказаў хлопцам пасведчанне.

— У форме ты выглядаеш адразу на дзесяць балаў, — пажартаваў Шура.

— Калі ласка, на «вы». Вы затрыманы за скупку кантрабанды, а вы, — ён звярнуўся да паляка, — за кантрабанду.

— Я ніякай кантрабанды не маю, — адразу адказаў паляк і пачаў усміхацца.

Андрэй дастаў з сумкі скрынку і раскрыў яе. Замест гадзіннікаў у ёй ляжалі ўкручаныя ў цалафан сталёвыя лыжачкі з прасвідраванымі дзірачкамі.

— Выдатная «лялька» — нас перагулялі, — засмяяўся Шура.

— Гадзіннікі былі, але гэта сапраўдная «лялька» файна зроблена. Паненачка знесла нашы гадзіннікі.

Мікіта пачынаў злавацъ і папрасіў пана вярнуць хлопцам грошы — даволі рэзкім тонам. Паляк дастаў скрутак пяцідзесяцірублёвак і аддаў яго Мікіту.

— Што гэта за грошы?

— Мам толькі такія, — здзіўлена адказаў паляк.

Андрэй штурхнуў Шуру ў плечы і сказаў:

— Выдатна, я нават не чакаў.

Мікіта ў непаразуменні разглядаў пяцідзесяцірублёвыя паперкі, на якіх стаяў 1947 год выпуску.

— Грошы дарэформенныя, а дзе тыя, што я вам даваў? — спытаў ён у Шуры.

— Якія даў, такія і маем.

— Папрашу прайсці за мною.

Хлопцы ўсталі, а Мікіта зазірнуў пад стол і дастаў прылепленыя жавальнаю гумкаю да дошкі стала свае грошы.

Андрэя і Шуру адпусцілі праз некалькі гадзін «з-за адсутнасці саставу злачынства». Яны ішлі па асветленым ліхтарамі і святлафорамі праспекце.

— Паспеем на апошні тралейбус?

— Магчыма, яшчэ трэцяя змена павінна ехаць.

— У вязаных махеравых кепках — па дзесяць балаў кожнаму.

— Мы ставілі дзесяць балаў за каскі.

— Кепкі — не горш.

— Андрэй, бачыш, у арцы мужык панёс вялізную раму, загорнутую ў паперу?

— Мастак, палатно на падрамніку пад паперай.

— Цікава, што там намалявана?

— А якая нам розніца — дадзім пяць балаў за палатно?

— Дадзім.

## Археалагічны краявід

Мы працавалі на грудзе, кідалі рыдлёўкамі мяккую зямлю і сухаваты жвір, адпачывалі на траве, пілі малако з трохлітровага слоіка і елі тушонку з металёвых кансаровак. Мы так стамляліся, што калі аднойчы замест тушонкі адкрылі і з’елі кансароўку вантробаў, то заўважылі гэта толькі праз пару дзён. Нехта з нас пацікавіўся:

— Дзе субпрадукты?
— Што?
— Якія?..
— У нас недзе была кансароўка з вантробамі для супа.
— А...

Там, на грудзе, самымі смачнымі рэчамі былі сала, цыбуля і хлеб. Пасля працы мы ішлі праз лес і паўз поле. Быў жнівень, і мы іншым разам падсмажывалі на вогнішчы каласкі жыта.

— Ты любіш вершы? — хто да каго звяртаўся, я не памятаю, магчыма, гэта сказаў я.
— Не, я люблю паэзію.
— Непрафесійна.
— А ты што любіш: літаратуру ці кнігі?
— Кнігі.
— Ты букініст?!
— Я стаміўся.
— А можа, ты бібліяфіл ці бібліяман?
— Я люблю жыццё, а ты нешта сёння агрэсіўны — сонца напякло?
— Філолагі! — нехта спыніў нашыя спрэчкі.

Калі працуеш з рыдлёўкай, увесь час смажыць, але выпіць глыток малака льга толькі ў час, калі ўсе сядуць на траву пакурыць. Як мы гэта рабілі, я не змог успомніць — быццам нябачны дырыжор узмахваў палачкаю, і мы адзін за адным апускалі лязо рыдлёвак у зямлю і спыняліся.
— Усё?
— Пакурым?
— Так.
Мы палілі папяросы з-за папяровых муштукоў, бо адносна далікатныя цыгарэты было непрыемна браць запэцканымі зямлёю пальцамі.

— Вы ведаеце: першы верш напісаў вецер, —

сёння мне здаецца, што гэта сказаў я.

— Ведаем.

— Як? Я толькі быў прыдумаў, што рэха — паэзія ветру.

— Мы чулі, як ты крычаў увечары над возерам: «сякера, сякера». Мы здагадаліся, што ты слухаеш рэха.

— Над вадою добрае рэха.

— Так, мы ўсё чулі, — пацвердзіў нехта з нас.

— Цяпер табе можна спакойна памерці. Ты ж нарадзіў новую паэзію — для ветру.

— Літаратурная энцыклапедыя абавязкова захавае тваё імя.

— Ты стаміўся?

— Так, пайшлі дахаты.

Цяжка кідаць зямлю супраць ветру, асабліва на грудзе. Кожнаму з нас хацелася стаць так, каб зямля з рыдлёвак ляцела з ветрам, але, як ні круціся, увечары поўныя валасы пяску.

— У нядзелю Дзень археолага, — прыгадаў нехта з нас.

— Спірт, смажаная бульба, тушонка...

— Можа, з'ездзіць па віно?

— Не, прафесійныя святы трэба адзначаць прафесійна.

— У спірце ёсць нешта прафесійнае.

— Дык мы ж аматары.

— Тым лепш! Аматары маральна вышэй за прафесіяналаў. Мы ж не гурт самадзейнай творчасці.

— Тым горш! Мы проста спажыўцы ад навукі. Мы ніжэй за дылетантаў.

— Выходзіць, што аматар лепшы за прафесіянала і горшы за дылетанта. Гэта сафізм.

— Гэта проста маразм.

— Тым не менш, мы маем права выпіць на свята археолага — прафесійна.

— Між намі, археалогія сама па сабе амараль-

ная навука.

— Мараль існуе ў паводзінах, а не ў дэмагогіі на маральныя тэмы.

— Кідайце зямлю! Маралісты...

Пачалося жніво. Хмары гракоў закружыліся над іржышчам. Паветра набрыняла саладкавата-задушлівай вільгаццю скошаных траў. Іншым разам на раскоп заходзілі камбайнеры. Маладыя хлопцы між сабою звычайна гаварылі пра скарбы.

— Золата шукаеце?

— Не, тут золата няма, у Дрысвятах трэба шукаць, пад вадою, дзе французы золата ўтапілі.

Старэйшыя, счакаўшы, раілі:

— На тым беразе швецкія курганы граф за палякамі капаў, шаблю срэбную знайшоў.

— Вось раней зброя была: у майго суседа штык з фінскай вайны...

Вясковыя людзі нам не верылі, калі мы адказвалі, што золата мы не шукаем.

— Хто-небудзь ведае, што мы тут шукаем? — гэтую размову мог пачаць кожны з нас.

— Мы адпачываем.

— Я тут стамляюся як ніколі.

— Тут нават начальнік экспедыцыі не ведае, што яму трэба — гэта не яго тэма, ён у трайных крыжах-энклапіёнах спецыяліст.

— Так, у археолагаў існуе падзел на тых, хто ведае, што шукае, і на тых, хто шукае абстрактную праўду гісторыі, — магчыма, гэтая думка і не была выказана, але мне здаецца, што яна магла з'явіцца між намі.

— А можа, яшчэ на тых, каму падабаецца сам працэс?

— Не, гэта аматарскі падыход. Гэта нам падабаецца сам працэс. А навукоўцы заняты пошукамі.

— Калі гаварыць пра гэтае гарадзішча, то яшчэ ў Менску мы ведалі, што на гэтай зямлі жылі людзі

прыблізна з восьмага па дванаццатае стагоддзе.

— Але мы знайшлі шахматныя фігуры.

— А ты думаеш, некаму трэба даводзіць, што яны гулялі ў шахматы?

— А, па-твойму, дзеля чаго мы працавалі?

— Мне здаецца, асноўнае — хто тут жыў, славяне ці балты, і гэтага мы ў раскопе не знойдзем, гэта кожны археолаг вязе са сталічнага кабінета.

— Гэта мы без цябе ведалі. Вось летась маскалі на Мсціслаўшчыне шукалі падмуркі праваслаўных сабораў, быццам там спрадвечна праваслаўная, гэта значыць руская, зямля.

— Тут ты памыляешся: яны проста старажытныя падмуркі сабора шукалі, а мець яму алтарнае акно ці іканастас — гэта яны яшчэ ў сталіцы вызначылі.

— Хопіць палітыкі, мы тут адпачываем.

— Адпачывай.

У тое лета нам давялося некалькі разоў хадзіць на археалагічную разведку і прарэзку курганоў. Мы закладвалі шурфы на тэарэтычна пралічаных гарадзішчах — нам не шанцавала, капалі вузкія траншэі на ледзь прыкметных курганах — і нічога не знаходзілі. У тых мясцінах старажытныя людзі звычайна палілі нябожчыкаў і хавалі толькі попел. Нашыя паўночныя суседзі называюць такія курганы «латгальскімі». Відаць, ім так падабаецца, а нашы археолагі, каб не ствараць канфліктаў і не спрачацца, пішуць таксама — «латгальскія курганы». Па гліняным слоіку і попеле хто ж вызначыць, чые гэта курганы? Але, відавочна, некага трэба пераканаць, што на Дзвіншчыне і на Браслаўшчыне спрадвеку жылі менавіта латгальскія плямёны.

— Вам не здаецца, што людзям навешваюць нейкія жывёльныя якасці?

— Не.

— Вось, маўляў, той добры, гэты злы, а чаму чалавек павінен быць добрым або злым?
— Гэта рыторыка.
— У мяне быў сабака, вось была добрая, ласкавая, надзейная істота, і гэтыя сабачыя якасці чалавеку навешваюць.
— Ты хочаш, каб с табою спрачаліся?
— Усё, заўтра адпачываем.
— Што і трэба, бо лепшае свята — у якім ёсць неабходнасць або вымушанасць.
— А хто цябе прымушае святкаваць?
— Арганізм і гэты сабакавод абрыд. — Мы не крыўдавалі адзін на аднаго, бо фізічная праца прытупляла эмоцыі.

У тое лета мы рэстаўрыравалі гістарычны ландшафт — засыпалі старыя і свежыя раскопы. Кідалі зямлю ў прафесійна спраектаваныя катлаваны, закладалі свежыя яміны і крыху ганарыліся сваёй пачэснай дзейнасцю.

## Дзіцячы пакой

— Кроў?! Ты парэзаў руку? — Вольга Папельская спалохана глядзела на мужа. Дацэнт Папельскі стаяў у калідоры, апрануты ў вузкае шэрае паліто і чорны фетравы капялюш. У перадпакоі яго чакалі Бруна Чык і Язэп Чарота з жонкаю Галінай. Папельскі са здзіўленнем на твары паглядзеў на сваю акрываўленую далонь.
— Няўжо сапраўды? — ён леваю рукою паспрабаваў выцягнуць насоўку з правай кішэні паліто. — Я нават не заўважыў.
Жонка прапанавала яму белую хустачку, і ён асцярожна прыклаў тонкую тканіну да растапыраных пальцаў.
— Што здарылася? — Галіна зазірнула ў

калідор.

— Раман парэзаў руку, — адказала Вольга і пабегла на кухню па аптэчку. Папельскі зайшоў у ванную і падставіў руку пад струмень халоднай вады. Рудая вадкасць завіравала ў ракавіне.

— Што з рукою? — Вольга трымала ў руках скрыначку з лекамі.

— Нічога, — Папельскі паказаў жонцы руку, — я не параніўся, а недзе запэцкаўся крывёю.

— Дзе ж гэта ты мог запэцкацца? — Вольга з недаверам глядзела на мужа. Ён пацiснуў плячыма, паправіў капялюш і рушыў у калідор. Папельскі спыніўся каля чамадана і механічна адзначыў час: да цягніка «Мінск–Мюнхен» заставалася болей за гадзіну. Бруна Чык з Язэпам і Галінай Чаротамі праводзілі калегу Рамана Папельскага, дацэнта пedінстытута, у доўгую замежную камандзіроўку. Адзін з германскіх універсітэтаў запрасіў Рамана прачытаць курс лекцый і папрацаваць год на кафедры. Вольга заставалася з дзецьмі і не збіралася на вакзал.

Колькі хвілін Раман разгублена разглядаў вострыя мыскі сваіх модных чаравікаў. Шырокія палі капелюша закрывалі палову твару, і жонка не бачыла ягоных вачэй. Нарэшце Раман узняў галаву і павярнуўся да Бруна Чыка.

— Я заходзіў у дзіцячы пакой, — у роспачы вымавіў Папельскі і зноў схіліў галаву.

Бруна Чык нічога не адказаў. Вольга моўчкі глядзела на мужа.

— Што з рукою? — Язэп Чарота выйшаў на калідор. Яму ніхто не паспеў адказаць. Раман рэзка павярнуўся, піхнуў дзверы і рушыў у гасцёўню. Ён ледзь не зачапіў круглы, не прыбраны пасля банкету стол, абмінуў мяккі скураны фатэль і знік за дзвярыма дзіцячага пакоя. Вольга кінулася следам за мужам. За ёю праз гасцёўню прайшлі Бруна Чык і Язэп Чарота. Галіна вырашыла пачакаць на калідоры.

Раман ускінуў руку да выключальніка і запаліў

святло. На вузенькай канапе, засланай каляроваю бялізнай, падскочыла адзінаццацігадовая Віка.

Побач, у драўлянай калысцы, нерухома ляжала шасцімесячная Дануся. Тонкая дзіцячая шыя была рассечана глыбокім няроўным шнарам, па краях якога звісалі гранатавыя згусткі крыві. Пачарнелыя матузкі каптурыка сцягвалі закінутае дагары падбароддзе. Відавочна, Дануся была нежывой. Стракатая вярблюджая коўдра, наскрозь набрынялая крывёю, закрывала тулава дзяўчынкі. Віка зазірнула ў калыску да сястры і ўголас заплакала. Раман Папельскі знерухомеў каля дзвярэй. Маці кінулася да дзяцей, але яе схапіў за руку Бруна Чык і вывеў з пакоя.

— Нічога не чапайце, і выйдзіце ўсе ў гасцёўню, — з металам у голасе загадаў Бруна.

У спачывальні Бруна Чык сілаю паклаў Вольгу ў ложак. Яна некалькі разоў спрабавала вырвацца і ўцячы. Ён моцна трымаў яе за рукі. На яе збялелым твары адбіваліся жах і шаленства, яна нават не крычала. Бруна знайшоў у аптэчцы канвалютку заспакаяльнага, выціснуў на далонь чатыры таблеткі і прымусіў Вольгу прыняць лекі.

Галіна прывяла ў спачывальню Віку, якая бесперапынна хлюпала чырвоным носам і хуталася ў клятчасты плед.

— Як там Раман? — спытаў Бруна Чык.

— Трымаецца мужна, — Галіна паспела скінуць футравы жакет і была ў доўгай вечаровай сукенцы.

— Што ён робіць?

— Відаць, пайшоў у кабінет тэлефанаваць, — Галіна паводзіла сябе, быццам нічога не здарылася, адно крыху выдаваў голас, што зрываўся і пачынаў дрыжаць, як расстроеная скрыпічная струна. Віка прыціснулася да маці.

— Пасядзі з імі, — Бруна Чык устаў і выйшаў у гасцёўню, дзе сутыкнуўся з перапалоханым Язэпам.

Тым часам Раман Папельскі схіліўся над тэле-

фонам. Ягоная цяжкая рука прыціснула да стала электронны апарат. На імгненне Раман задумаўся: позірк слізгануў па стэлажах і спыніўся на стосе старых газет пад часопісным столікам. Раман накруціў на далонь чырвоны тэлефонны дрот і вырваў з апарата. Задушлівая млявасць, што навальвалася на Рамана, адышла на другі план. Галава, цяжкая, як пудовая гіра, ператваралася ў гумовы паветраны шарык. Раман спрытна прагартаў старыя газеты і сунуў у бакавую кішэнь патрэбны яму нумар. З-пад пляскатай канапы ён выцягнуў на сярэдзіну пакоя прамакутную, падобную да цынкавай вайсковай дамавіны, металічную скрыню. Накрыўка скрыні была запарушана тоўстым слоем пылу. Кароткі ключ з мяккай латуні ледзь не зламаўся ў замку, якім даўно ніхто не карыстаўся. Раман пакінуў пагнуты ключ у накрыўцы і дастаў са скрыні загорнуты ў скураную похву фінскі карабін. На кароткай рулі блішчалі кроплі алею, драўляны прыклад упрыгожвалі срэбныя бляшкі. Затвор плаўна выкінуў магазін. Раман зачапіў у скрыні жменю патронаў і ўставіў у абойму спачатку адзін, затым, пасля кароткіх разваг, яшчэ чатыры патроны. Астатнія кінуў у кішэню. Карабін перайшоў да Рамана Папельскага ў спадчыну ад цесця, Вользінага бацькі, вядомага вучонага і акадэміка. Раней у скрыні разам з карабінам ляжалі пісталет ТТ і шыкоўная нямецкая стрэльба з вертыкальнымі рулямі. Пісталет пасля смерці акадэміка здалі, стрэльбу падарылі дырэктару інстытута, у якім працавала Вольга, а карабін пакінулі сабе.

Да гэтага вечара Раманава жыццё складалася надзіва выдатна. На кафедры сярод выкладчыкаў ён не вызначаўся ні асаблівымі здольнасцямі да навукі, ні розумам, ні арыгінальнасцю. Ягоная постаць, сапсаваная штангаю ў цяжкаатлетычных залах, нагадвала экзатычнага мядзведзя. Але, ажаніўшыся з дачкой акадэміка, ён хутка аба-

раніўся і дзякуючы старым сувязям цешчы прымяраўся да крэсла загадчыка кафедры. У свае трыццаць сем год ён меў усё, аб чым некалі марыў: шыкоўную машыну, вялікую, як ангар, кватэру з антыкварнаю мэбляю і сталовым срэбрам, прэстыжную ступень дацэнта і прыгажуню-жонку з вышэйшага свету.

Раман схаваў карабін за паліто і, прытрымліваючы рукою рулю, выйшаў у гасцёўню. За круглым сталом у шапцы і цёплай куртцы сядзеў худы і востры, як цвік, Язэп Чарота. На канапе валяліся паліто Бруна Чыка і футравы жакет Галіны.

— Дзе пан Бруна? — Раман цяжкім поглядам змерыў Язэпа. Яны вучыліся на адным курсе, разам паступілі ў аспірантуру, разам працавалі, але ніколі асабліва не сябравалі. Дробны, з тонкай гусінай шыяй і вострым носам, у рагавых акулярах, Язэп Чарота чымсьці раздражняў манументальнага Папельскага. Раман не выносіў ягонай штучнай усмешкі, што заўсёды блыталася ў рудой барадзе. Усё ў Язэпа здавалася Раману штучным і дробным. Але гэта было раней. Цяпер Раман глядзеў на перапалоханага Язэпа, як на маленькага драпежнага звярка, накшталт пацука, які трапіў у пастку.

— Ён у Данусі, — Язэп паказаў рукою на дзверы дзіцячага пакоя і зразумеў па Раманавым твары, што не варта было ўзгадваць імя ягонай дачкі.

— Ты патэлефанаваў, выклікаў следчых? — спытаў Язэп.

— Не, — Раман скіраваўся да калідора.

— Чаму?

— Тэлефон не працуе, — Раман выйшаў у перадпакой і замкнуў уваходныя дзверы. Вяртаючыся ў гасцёўню, ён расчыніў сабраны ў дарогу чамадан і дастаў калекцыйную пляшку «Белавежскай». Ён ведаў, што ўжо нікуды не паедзе. Калі прыйшло запрашэнне папрацаваць год у Германіі, ён спачатку ўзрадаваўся, а потым пачаў пабойвацца, што там выкрыюць ягоную няздатнасць да вялікай навукі:

да таго ж год у ягоным узросце — занадта вялікая адлегласць часу, здатная істотна паўплываць на ўсё астатняе жыццё, а яму не хацелася разбураць той утульны і зручны дабрабыт, які ўдалося стварыць вакол сябе. Але Вольга і яе сваякі настойвалі, і ён даў згоду ехаць у Германію. Папельскія замовілі рэстаран і наладзілі неафіцыйны банкет. Сёння з раніцы Раман Папельскі нікога не хацеў бачыць: пасля банкету пабольвала галава і апошні вечар ён вырашыў правесці з сям'ёю. Адзіным чалавекам, якога Раман запрасіў на вячэру, быў доктар Бруна Чык, былы Раманаў настаўнік. У студэнцкія гады Раман быў зачараваны рознабаковымі талентамі старога пана Чыка, якога паважаў не толькі як выкшталцонага навукоўца, але і чалавека, ва ўсіх адносінах вартага захаплення. Бруна Чык неахвотна прыняў запрашэнне Папельскага і толькі з павагі да Вользінага бацькі, з якім некалі сябраваў, не адмовіўся наведаць ягоны дом. У апошні момант, калі ўжо нічога нельга было змяніць, Вольга паведаміла Раману, што запрасіла Язэпа і Галіну Чаротаў. Раман злаваў, але хутка супакоіўся і вырашыў не псаваць сабе настрою ў апошні вечар.

Раман піхнуў плячом дзверы гасцёўні. У левай руцэ ён трымаў рыльца «Белавежскай», правая сціскала цаўё карабіна. Чарота ўскочыў з-за стала і хацеў быў нешта вымавіць, але яго перапыніў рэзкі голас Рамана:

— Дзе пан Бруна? — Раман паставіў бутэльку на стол і скіраваў рулю карабіна ў бок Чароты. — Ты не скачы тут, не трапячыся, — загадаў ён знямеламу Язэпу. З дзіцячага пакоя выйшаў Бруна Чык.

— Што здарылася? — ён памкнуўся да Папельскага, але той павярнуў да яго рулю карабіна.

— Нічога, я зараз усё растлумачу, — Раман кіўнуў карабінам у бок фатэлі, — сядайце , калі ласка, і не хвалюйцеся, вам нічога не пагражае, але не раю да мяне падыходзіць, я і без зброі ўсіх вас разам узятых пакладу.

Бруна Чык сеў за стол і звярнуўся да Рамана:

— Я знайшоў пад люлькай нож з чорным загартаваным лязом і касцяной ручкаю. Я не дакрануўся да яго, пакінуў следчым.

— Гэта бухарскі клінок, я некалі з Узбекістана прывёз, — Раман адкаркаваў бутэльку і выпіў запар дзве поўныя чаркі гарэлкі. — Следчым у гэтай справе буду я! — Раман звярнуўся да Язэпа, які стаяў поруч з Бруна Чыкам. — Забілі маю дачку ў маім доме. Чаму я павінен перадаваць сваю справу нейкаму невядомаму мне следчаму? На што мне спадзявацца? Што нейкі выпадковы следчы правядзе следства лепей за мяне, а потым невядомы выпадковы суддзя вынесе справядлівы прысуд? І следчым і суддзям на нас напляваць. Хто мы ім? Ніхто. Ім напляваць на Данусю, якой у калысцы перарэзалі шыю, на бацькоў, што да скону не даруюць сабе, — Раман прапанаваў чарку «Белавежскай» Бруна Чыку, але той у адказ захітаў галавою, і Раман выпіў сам.

— Хто-небудзь з вас ведае асабіста хаця б аднаго следчага ці аднаго суддзю? Гэта ж ідыёты, і я не збіраюся з імі звязвацца. Я не буду перадаваць сваю справу ненадзейным людзям. Я сам правяду следства, і вынесу прысуд, і здзейсню свой прысуд тут, на месцы. Данусю забіў нехта з вас. Кватэра была замкнёнай, ніхто не мог незаўважным прайсці з вуліцы ў дзіцячы пакой і незаўважна выйсці. Гэта факт. Трэба сыходзіць з таго, што забойца знаходзіцца сярод нас. А колькі вас? — трое. Што тут шукаць? Я ведаю, хто забіў Данусю. Няхай потым судзяць мяне. Мне горш не будзе. Мне зараз прасцей самому задавіцца, чым потым каяцца ўсё жыццё, што выпусціў забойцу дачкі. Каб у апошні момант я не зайшоў на развітанне да дзяцей, то ў забойцы быў бы шанц уцячы. Я схіліўся над Данусяй, калі яна ўжо была нежывой, у цемры я не заўважыў крыві, але калі папраўляў коўдру, то на руцэ засталася кроў. Добра, што Вольга на калідо-

ры аглядзела, і я здагадаўся.

— Нас шасцёра, — Рамана перабіў Бруна Чык.

— Што, пан Бруна лічыць, што я забіў сваю дачку ці, можа, гэта зрабіла маці? — Раман паказаў карабінам на дзверы спачывальні.

Жонку ён ніколі асабліва не любіў, але ставіўся да яе як да праведніка, што адчыніў дзверы Эдэмскага саду. Раман дараваў Вользе яе бясконцыя раманы і любоўныя інтрыжкі. Яна дазваляла сабе, не хаваючыся ад Рамана, наведваць тэатры і вечарыны ў кампаніі лавеласаў. Раман здагадваўся, што Вольга пагарджае ім, як істотай ніжэйшага гатунку, і невядома з якіх меркаванняў пражыла з ім дванаццаць год. Высокая прыгажуня, з кропляй азіяцкай крыві і ангельскім тэмпераментам, здраджвала Раману ледзь не ў яго на вачах, але ён і не думаў пра развод. Вольга ведала, што ягонае ўяўленне аб сямейным шчасці абмяжоўваецца камфартабельным бытам і дзецьмі. Гаспадаркай і дзецьмі ў сям'і Папельскіх займаўся Раман. Дзеля сваіх дзяўчат ён дараваў іхняй маці ўсе яе авантурныя прыгоды. Вольга і не шукала сабе лепшага мужа. Флегматычны характар, разважлівасць і практычнасць Рамана цалкам яе задавальнялі.

Са спачывальні выглянула Галіна. Яна не звярнула ўвагі на карабін, што ляжаў на стале, і шэптам паведаміла:

— Віка заснула, і Вольга, здаецца, супакоілася.

— Прывядзі сюды Віку! — загадаў Раман.

— Ты што, ашалеў, я ж казала — яна спіць!

Галіна збіралася яшчэ нешта сказаць, але ўбачыла карабін і ўтаропілася ў Папельскага.

— Прывядзі Віку, яна павінна была бачыць забойцу. Мы яе распытаем.

Галіна знікла ў спачывальні і праз пару хвілін, за якія Раман паспеў выпіць яшчэ чарку, прывяла ў гасцёўню дзяўчынку. Прыпухлыя павекі прымружыліся ад яркага святла, але чорныя вочы паблісквалі, як вугольчыкі. Віка хуталася ў клятчасты плед,

з-пад доўгай сарочкі тырчалі вялікія, відаць, Раманавы, пантофлі.

— Як там маці? — спытаў Раман.

Дзяўчынка моўчкі паціснула плячыма і паправіла плед.

— Ты ўжо вялікая і павінна трымацца як дарослы чалавек. Таму я хачу цябе спытаць: хто заходзіў да вас у пакой і падыходзіў да калыскі?

— Я спала.

— Ты не прачнулася, калі ён забіваў Данусю?

— Прачнулася.

— Хто гэта быў?

— Я не разгледзіла, бо было цёмна.

— Але ж ты некага бачыла, хаця б абрысы?

— Так, але я не звярнула ўвагі і зноў заснула.

— Гэта быў мужчына ці жанчына?

— Мужчына, я спачатку падумала, што гэта быў ты.

— Дзякуй, Віка, ідзі кладзіся да мамы і спі.

Дзяўчынка павярнулася і, пацягнуўшы па падлозе рог пледа, пайшла ў спачывальню. Калі за ёй зачыніліся дзверы, Галіна не вытрымала і кінулася да Рамана.

— Супакойся, — Язэп схапіў жонку і адцягнуў ад стала, — ён звар’яцеў!

Яна паспрабавала вызваліцца ад мужа.

— На, выпі і супакойся, — Раман наліў «Белавежскай» і працягнуў жанчыне чарку. Галіна схапіла чарку і маленькімі глыткамі выпіла бурштынавы напой.

— Маю дачку забіў нехта з вас, і я здагадваюся, хто гэта зрабіў, — Раман дастаў з кішэні газету і перадаў Бруна Чыку. — Некалі, з месяц таму, я прачытаў артыкул, і ён мяне страшэнна ўразіў. «Стрэл у судовай зале!» Два падонкі згвалцілі і забілі дзяўчынку. Аднаму далі дзесяць год, другому — восем, таму што яны непаўналетнія. А бацька дзяўчынкі, пасля таго як пачуў такі прысуд, выхапіў пісталет і ў судовай зале застрэліў абодвух. Я тады

вырашыў, што на ягоным месцы зрабіў бы тое ж самае. Каб з маімі дзецьмі такое здарылася, я забіў бы свалату на месцы. Потым я здагадаўся, што нельга такое браць да галавы, а цяпер вось бачу — наклікаў бяду.

Раман падняў карабін і праверыў затвор, потым нетаропка падняўся з-за стала і скіраваў рулю карабіна на Язэпа Чароту.

— Гэта ты, Язэп, забіў маю Данусю, і я ведаю, з-за чаго ты гэта зрабіў: з зайздрасці! Ты ўсё жыццё мне зайздросціў. Яшчэ са студэнцкіх часоў. Што мяне дзеўкі кахалі, а на цябе, здыхату, ніхто ўвагі не звяртаў. Ты мне тады забараніў у наш пакой дзевак прыводзіць: я ж бачыў, што ты гэта з зайздрасці злаваў. А калі я дачку акадэміка за жонку ўзяў, ты месяц са мною гаварыць не хацеў. І на вяселле да нас не прыйшоў. І абараніў дысертацыю я раней за цябе. І ўсё ў мяне ёсць. А цяпер дык павінен быў у Германію ехаць, і ты ізноў пазайздросціў!

— Данусю забілі бухарскім клінком, я адразу заўважыў яго пад калыскай. Удзень клінок ляжаў на кухні, у буфеце, а падчас вячэры я прыкмеціў, як ты, Язэп, некалькі разоў выходзіў на кухню, і потым, калі я ў кабінеце паказваў пану Чыку сямейны альбом, ты ізноў на кухні аціраўся і ў ванную заходзіў, відаць, рукі мыў.

— Калі ты, Раман, апошні раз бачыў гэты клінок у буфеце? — маналог перабіў Бруна Чык. Раман павярнуўся да яго і на імгненне задумаўся.

— Ды нават падчас вячэры: я браў у буфеце штопар і ў шуфлядцы валяўся клінок.

Раман хацеў быў наліць сабе чарку і перахапіў цаўё карабіна леваю рукою, але ў гэты момант Язэпава рука зачапіла на стале тонкае рыльца бронзавай вазы. Раман не паспеў ухіліцца. Ваза збіла ягоны капялюш і адскочыла на стол, раструшчыўшы пару талерак. Раман выпусціў карабін, паваліўся і выпрастаўся на паркеце. З-пад валасоў, што прыліплі да лба, праступіла чырвоная пляма.

— Трэба звязаць яго, пакуль ён не апрытомнеў, — Язэп выцягнуў пас і перацягнуў Раманавы рукі. Бруна Чык разрадзіў карабін.

— Ён вар'ят, — зацягваючы вузел на пасе, ускрыкнуў Язэп.

— Гэта ж ён сам Данусю забіў, — Язэп павярнуўся да пана Чыка. — На кафедры, калі даведаліся, што Вольга зацяжарала, адразу ж плётку пусцілі. А потым, як нарадзілася дзяўчынка, дык смяяцца пачалі і кпілі з яго. Раман чарнавокі, і Вольга, як цыганка, а Дануся была беленькая, як анёл. Вядома, у твар яму ніхто нічога не казаў, але ўсе ж ведалі, што Вольга каханкаў мяняе як пальчаткі — кожны сезон новы кавалер. Ды што тут казаць, і я да Вольгі заляцаўся, і сёння на кухні з ёю не толькі каву варыў.

Галіна наводмаш ляснула мужа далонню, выбегла з гасцёўні і зачынілася ў ваннай. Язэп нервова падняў з падлогі акуляры.

— Раман даведаўся, што Дануся не ягоная дачка. Ён вырашыў мяне ў гэтым забойстве абвінаваціць, а ў самога рукі ў крыві былі. Ды хто паверыць, што ён коўдру папраўляў і не заўважыў крыві? І хто, апроч яго, да дзяцей хадзіў?

Раман заварушыўся на падлозе, паспрабаваў выслабаніць рукі.

— Ты, Язэп, жыць болей не будзеш, — ён напяў сціснутыя кулакі, і пад скурай надуліся пераціснутыя пасам жылы. Бруна Чык дапамог Раману сесці ў фатэль.

— Цяпер паслухайце мяне, — Бруна Чык цвёрдай хадою выйшаў на сярэдзіну пакоя. У чорным гарнітуры і заўсёднай стужкай матылька пад накрухмаленым каўнерыкам белай кашулі ён нагадваў лютэранскага святара. Сівыя валасы срэбным німбам аблямоўвалі віскі і лоб. Ён звярнуўся да Рамана Папельскага: — Ты хацеў быць суддзёю і катам? Ты прагнуў пакараць забойцу? Цябе чакае горкае расчараванне: ты не адпомс-

ціш за смерць Данусі.

Цяжка паверыць у тое, што вам давядзецца пачуць, але іншага выйсця няма. Я пачну здалёк. Яшчэ старажытны філосаф, аўтар вавілонскіх паданняў і егіпецкіх манускрыптаў, адкрыў, што першае забойства на зямлі — з-за любові да Бога, — па старой прафесарскай звычцы Бруна Чык любіў услых разважаць і падоўгу гаварыць: — Лёгка давесці, што любоў з'яўляецца асноўным матывам усіх чалавечых грахоў. Любоўю да Радзімы кіруюцца палітычныя злачынствы, на любові да бацькоўскай зямлі ўзрастае і фашызм. Любоў да чалавека культывуе тыранію. Любоў да жыцця стварае прыгнёт. Не грошы і не матэрыяльныя інтарэсы зачароўваюць габсэкаў, а любоў да золата, дзе вырашальным з'яўляецца пачуццё, а другасным — аб'ект пачуцця. Асноўным стымулам чалавечых паводзін трэба лічыць не жаданне жэрці і памнажацца, а любоў да свайго Я. Ты, Раман, любіў сваіх дзяцей болей за сваё жыццё, а твае дзеці любілі цябе. Вось дзе хаваецца матыў трагедыі. Я прыйшоў да высновы, што злачынствы выкрываюцца не пошукамі шляхоў нянавісці, а праз пошукі любові. Забойца — заўсёды ўлюблёны чалавек. У ахвяры і ката звычайна супадаюць пачуццёвыя аб'екты. Гэта не аксіёма, але даволі распаўсюджаная формула злачынства. Узгадайце пра Каіна і Авеля.

Раман, схіліўшы долу акрываўлены твар, зацята маўчаў. Язэп хмыкнуў пад нос і кіўнуў у адказ.

— Я прыгадаю, — Бруна Чык, склаўшы рукі на грудзях, прайшоўся па пакоі. — Заўважыў Бог падарунак Авеля, а брата ягонага Каіна не заўважыў. І агарнуў смутак Каіна. І спытаў Бог у Каіна: «Чаму ты засмуціўся?» І не адказаў Каін. А калі быў з братам сваім Авелем у полі, то паўстаў на Авеля і забіў брата свайго. І спытаў Бог у Каіна: «Дзе брат твой, Авель?» Адказаў Каін: «Не ведаю, хіба я пастух брату свайму». І сказаў Бог: «Што ты зрабіў?» І пазна-

чыў Каіна знакам, — Бруна Чык спыніўся каля фатэлі і схіліўся над Папельскім.

— Раман, ты і Вольга шмат увагі аддавалі маленькайДанусі і перасталі заўважаць старэйшую Віку. Але яна яшчэ дзіця. Гэта яна з любові да бацькоў прыраўнавала сястру і, покуль мы вячэралі, забіла немаўля. Дастаткова паглядзець на няроўны шнар, што застаўся на шыі нябожчыцы, — такі след пакіне толькі слабая дзіцячая рука.

Бруна Чык развязаў скамянелага Рамана.

— Раман, ідзі ў спачывальню і паглядзі, што хавала твая дачка пад пледам?

Папельскі, хістаючыся, як на гумовых нагах, пасунуўся з гасцёўні. Пад жончыным ложкам ён намацаў выключальнік бра і запаліў святло. Віка ў сне абдымала і ціснулася да маці. Вольга ляжала з расплюшчанымі вачыма. Раман схіліўся над дачкою і адвярнуў рог пледа. На Вічынай сарочцы, як дзіркі, запякліся плямы крыві.

— Ты ведаеш? — Раман павярнуўся тварам да жонкі і сутыкнуўся позіркам з яе невідушчымі вачыма.

— Так, — адказала Вольга.

# ПЛАСТЫЛІНАВЫ КОННІК

Фрэдзя любіў гуляць у салдацікі. У жніўні яму споўнілася дзесяць гадоў, і ён трохі саромеўся сваіх дзіцячых забавак, але ў сям'і ён быў самы малодшы, і бацькі не папракалі яго. Фрэдзя складаў салдацікі ў стары бацькаў партфель. Ён быў мяккі і прыемны навобмацак: бацька казаў, што партфель з натуральнай скуры, але ад скуры пахла тытунём.

Летам, калі Фрэдзю вазілі да дзеда, бацька браў у дарогу гэты партфель, а Фрэдзева войска перасыпалі ў поліэтыленавы мяшок і пакідалі ў шафе. У вёсцы Фрэдзя рабіў сам сабе салдацікаў з калючых галінак грушы, што засохла за дзедавай хатаю. Дзед спілаваў пад корань сухое дрэва і за адзін вечар змайстраваў любімаму ўнуку доўгі і моцны грушавы лук. Замест цецівы дзед нацягнуў тонкі сталёвы дрот, з роўнага і стромкага ядлоўцу нарэзаў стрэл, а з бляхі вырабіў наканечнікі. Фрэдзя ледзь нацягваў цеціву, але стрэлы з бляшанымі вастрыямі працінали паветра тоненькім свістам і білі дакладна і далёка.

Калі на другі дзень Фрэдзя пацэліў у суседскага пеўня і суседка прынесла дзеду забітую птушку, Фрэдзя хаваўся на гарышчы, што пахла правэнджанымі кумпякамі. Дзед пасек лук і разам са стрэламі кінуў у печ. А Фрэдзя тым часам знайшоў на гарышчы трохгранны штых, што сядзеў за кроквую, дзед даставаў яго раз на год пад Каляды біць парсюка. Хлопчык сцізорыкам нарэзаў паляндвіцу, нанізаў лусткі на штых і пачаў раскладаць вогнішча з газет, каб падсмажыць шашлык. Фрэдзю знайшлі ў той момант, калі агонь яшчэ можна

было заліць адным вядром вады. З-за суседскага пеўня на Фрэдзю не сварыліся.

Хлопец зрабіў свае войска з сухіх грушавых калючак і гуляў на пясчаным адхоне старога гасцінца. У жоўтым, гарачым ад сонца пяску любілі пагрэцца вастрахвостыя яшчаркі-жаўтапузікі. Аднаго разу Фрэдзя злавіў яшчарку і скарміў яе ў мурашніку. Ён любіў назіраць за мурашкамі, што збудавалі з кастрыцы і церухі цацачную гару і пракалалі бязважкімі ножкамі ва ўсе бакі тоненькія сцежкі. Фрэдзя прыносіў у мурашнік хлеб, яблыкі, дзедаву скварку, і ўсё знікала за ноч. Нават палова бабінай аладкі — бо Фрэдзя мог з'есці толькі палову — знікла да раніцы. Фрэдзя кінуў яшчарку ў мурашнік і на другі дзень знайшоў прыхаваны пад кастрыцаю блакітны, што кафля ў басейне, шкілецік. Хлопчыка здзівіла ненажэрнасць мурашак. Фрэдзя забраў шкілецік яшчаркі сабе. Калі вяртаўся з бацькам у горад, пакінуў шкілецік у дзедавай хаце, на гарышчы.

Зімою ў горадзе Фрэдзя гуляў у сапраўдныя салдацікі. Ён аднаўляў на дыване грунтоўныя бойкі з падручніка па гісторыі, але «нашы» ў Фрэдзі заўсёды перамагалі. «Нашымі» ў Фрэдзі былі гнуткія гумовыя індзейцы, а «ворагамі» — важкія алавяныя пяхотнікі. Пляскатых коннікаў-рыцараў Фрэдзя пакідаў сабе ў рэзерв, а лёгкія пластмасавыя уланы і гусары былі на баку «ворагаў». У Фрэдзевых бойках заўсёды пачыналі нападаць «ворагі», яны акружалі «нашых», але тут з'яўлялася рэзервная кавалерыя і коні тапталі пяхотнікаў, падалі і раздушвалі сваіх коннікаў, індзейцы кідалі сякеры ў кулямётчыкаў, гусары секлі шаблямі каўбоеў, рыцары пускалі стрэлы ва уланаў. На колькі вечароў падлога ў Фрэдзевым пакоі была засыпана забітымі воямі, бо параненых у гульні не было.

Фрэдзя аднаўляў на дыване бітвы, і «нашы» скідалі ворагаў у рэчку Нямігу, або секлі крыжакоў пад Грунвальдам, або тапілі манголаў у пінскіх балотах, ці білі

хана Шайбака пад Лідаю. У Фрэдзевых бітвах «нашы» заўсёды выходзілі пераможцамі. Хлопчык любіў чытаць кнігі па гісторыі, толькі ў школьных падручніках мала знаходзіў пра «нашых» — магчыма, таму ён пакінуў вайну, пачаў будаваць замкі.

Кожнае лета Фрэдзя з бацькам ездзілі ў мястэчка Мір, каб зайсці ў замак — гэта недалёка ад дзедавай вёскі. Замкі на паштоўках і ў тэлевізары не ўражвалі хлопчыка, і толькі Мірскі замак існаваў на самай справе, і гэта быў самы прыгожы замак, па якім Фрэдзю давялося пахадзіць.

У Фрэдзевым пакоі стаяў братаў мальберт, які часова ператвараўся ў каркас замка. Фрэдзя прыносіў з бацькавага кабінета стосы кніг і абкладаў імі мальберт. «Гісторыя крыўскай кнігі», «Статут вялікага княства...», слоўнік Насовіча, летапісы і іншыя грунтоўныя фаліянты ішлі на падмурак, а муры выкладаліся з драбнейшых цаглінак збораў твораў: спачатку зямлістымі томікамі Якуба Коласа, а розная аздоба — бастыёны, брамы — з меншых бялюткіх томікаў Янкі Купалы. Да замкаў Фрэдзя прыбудоўваў рознакаляровую вежу з паэтычных зборнікаў: на вежу ішла розная мяшанка, абы падыходзіла па колеры і памеры. Зімою Фрэдзя любіў сядзець, падкурчыўшы ногі, у сваім замку за мальбертам, а летам бацька вазіў хлопчыка ў сапраўдны Мірскі замак.

Фрэдзеў брат быў мастаком, і хлопчыку хацелася стаць дарослым і падобным да брата. Аднойчы Фрэдзя ўзяў у братавым эцюдніку цюбік з алейнаю фарбаю і схаваў пад дыванам на падлозе — ён хацеў намаляваць свой замак, але цюбік неўзабаве раздушыўся, і брату давялося прынесці Фрэдзю кавалак пластыліна, каб хлопчык больш не браў алейных фарбаў, а бацькі былі вымушаны паскручваць і прыбраць з падлогі ўсе дываны.

З пластыліна Фрэдзя зляпіў чалавека і пасяліў у сваім замку. Маці расказвала хлопчыку, што яе бацька быў кавалём. Фрэдзя любіў слухаць, як маці

расказвае яму пра кузню, і пачаў насіць да партальнага крана і пляшчыць на рэйках цвікі і іншую дробязь. З цвікоў Фрэдзя вырабляў зброю для свайго конніка, але пластыліна хапіла толькі на капыт і трошкі нагі, і Фрэдзя прапарцыянальна падзяліў увесь пластылін так, каб коннік адпавядаў каню, і зляпіў спачатку каня, а потым чалавека. Хлопчыку падабаліся белыя коні, толькі конь і чалавек атрымаліся, як пластылін — шэра-бура-зялёнага колеру. Хамутоў, падпружак і іншую конскую збрую Фрэдзя не рабіў, адно выкаваў конніку меч з расплешчанага цвіка, а з касцянога гузіка з чатырма дзірачкамі зрабіў шчыт: гузік Фрэдзя зрэзаў са зношанага дзедавага фрэнча.

Усе салдацікі былі ніжэй за пластылінавага каня, і коннік бараніў Фрэдзеў замак, але, калі ўключылі батарэі і ў пакоі стала горача, пластылін пачаў паступова ператварацца ў кашу. Фрэдзя пакідаў на ноч свайго конніка ў лядоўні, а днём падоўгу трымаў пад халоднаю вадою, і брат параіў яму зрабіць каркас. Раней Фрэдзю даводзілася кожны дзень перарабляць конніка, бо конскія ногі доўга не трывалі: пляшчыліся і крывіліся, то адвальвалася рука з мячом, то конская галава паступова з’язджала да зямлі і выцягвала конскую шыю ў хобат.

На каркасе коннік трымаўся надзейна і роўна, і конскія ногі не разлазіліся і не гнуліся, а сталі тонкімі і роўнымі, як у сапраўднага кавалерыйскага каня. Фрэдзя нават адзін капыт у каня адарваў ад зямлі і сагнуў конскую нагу — конь няблага трымаўся і на трох. Меч, прыкручаны да каркаса, рука трымала над галавою цвёрда і жорстка. Чатыры дзірачкі на шчыце конніка складалі магічны сімвал.

У лютым памёр дзед. Бацька не ўзяў Фрэдзю на пахаванне, толькі салдацікаў перасыпаў у празрыстую торбу. Калі бацька вярнуўся і аддаў Фрэдзю партфель, то хлопчык знайшоў у ім дзедаў штых.

Бацькі адразу адабралі штых у хлопчыка, але Фрэдзю на імгненне падалося, што пакой напаўняецца пахам гарышча: спарахнелымі газетамі і

вэнджанымі кумпякамі.

У партфелі было два аддзяленні, і раней Фрэдзя складаў асобна «сваё» войска і «варожае». Толькі калі з'явіўся яго пластылінавы коннік, Фрэдзя выразаў акуратную перагародку нажніцамі, і салдацікі палеглі ў партфель адною грамадою. У Фрэдзевых гульнях больш не было падзелу на «нашых» і «ворагаў» — усе салдацікі ператварыліся ў чужынцаў і спрабавалі то акружыць і спаліць, то захапіць і знішчыць Фрэдзеў замак. Хлопчыку здавалася, што «нашы» больш не маюць свайго войска, і адзіны пластылінавы коннік змагаўся з усімі ворагамі. Але чужынцы перамагалі, і замак разбураўся, а коннік больш ніколі не выходзіў пераможцам.

## ЖУК-АЛЕНЬ

У лагеры Янак любіў калупаць трухлявыя пні і выкопваць з-пад кары жукоў-дрывасекаў. Ён лавіў яшчарак у сухаватым верасе, бегаў за чмялямі па кучаравым чаборы. А вечарам дзеці не хацелі класціся спаць поруч з Янакам, бо з яго шортаў вылазілі і распаўзаліся па пакоі злоўленыя ім за дзень жукі і мурашкі. Яму хацелася злавіць самага вялікага жука. Ён уяўляў жукоў-плывунцоў большымі за кітоў, а жукоў-насарогаў такімі, як бульдозеры.

Неяк ноччу Янаку прыснілася, быццам да яго прыляцела невядомая птушка і чалавечым голасам сказала, што каля плота ў лопуху жыве жук-алень.

Доўгі Янакаў цень накрыў лісты лопуху і ўзняўся на плоце. Раптам адзін з лістоў зварухнуўся ад ветру, захістаўся, выцягнуўся і адвіс да зямлі. На ім з краю з'явіўся зялёна-карычневы конік. Здавалася, конік пазірае на хлопчыкавы рукі. Доўгія вусы то клаліся на ліст, то цягнуліся да неба. Цень на плоце прыгнуўся і скочыў на зямлю. Янакавы пальцы сці-

снулі вострыя лапкі. Сківіцы коніка заварушыліся і паспрабавалі дацягнуцца да пазногцяў. Безабароннае цела здавалася мяккім, дубчыкі вусоў закруціліся над бліскучымі вачыма, і галава імкнулася данесці чорныя сківіцы да сціснутых пальцаў, але не магла зламаць абалонкі шыі. Янак дастаў з кішэні каробачку, выкінуў пад плот жужаля і асцярожна пасадзіў на яго месца коніка.

— Дзе ты быў? — спытаў Янака Алесеў голас.

— Паглядзі, каго я злавіў!

Янак раскрыў каробачку і выцягнуў за крылы коніка.

— Ну і што, вялікі конік!

— Гэта не конік, а сапраўдная саранча. Глядзі, галава круглая, карычневая і крылы доўгія — можа далёка лётаць.

— Саранчы ў нас няма.

— Ёсць, толькі мала. Каб больш, яна магла б усё зжэрці.

— Што зжэрці?

— Усё, гэты лагер і людзей. Я ведаю, яна на чыгунцы цягнік зжэрла.

— Як?! І жалезныя колы?

— Усё, і колы. Такія сківіцы — можа дрот перакусіць. Падсунь палец.

— Не, палец не дам, а дрот пашукаю.

Алесь выцягнуў з кішэні тонкія медзяныя дроцікі, з якіх дзеці сплятаі стракатыя пярсцёнкі і ручкі-каўбаскі, і асцярожна падсунуў дроцік да конікавай галавы. Сківіцы адчулі цвёрдую абалонку і сціснуліся. Алесь ірвануў да сябе руку з дроцікам і ледзь не адарваў коніку галаву, але той паспеў расчыніць кусачыкі сківіц.

— Што ты трапечашся, не бойся, я добра трымаю!

Янак схаваў коніка ў каробачку і памацаў надкусаны кавалак дроціка.

— Як нажніцамі секанула.

Янак ляжаў на жываце і прыслухоўваўся да мяккага бумкання начных матылёў у шкло. Алесь сеў на зэдлік побач з Янакам, скінуў сандалі і памацаў Янакава адзенне на суседнім зэдліку. З кішэні вытыркаліся рабрыны каробачкі. Алесь асцярожна выцягнуў яе з Янакавых шортаў і выпусціў коніка суседу пад коўдру.

У пакоі выключылі святло. Спаць Янаку не хацелася. Ён думаў пра тое, чаму не бывае матылёў, большых за птушак.

— Алесь, ты не спіш? — Янак павярнуўся на бок.

— Не.

— Ты ведаеш, што было б, калі б матылі выраслі большыя за арлоў?

— Яны ноччу павыбівалі б шыбы.

— Дурны ты, — пакрыўдзіўся Янак.

— Давай заўтра ноччу каго-небудзь напалохаем, — ціха сказаў Алесь і паглядзеў у цемру пакоя.

— Як?

— Пакладзём пад прасціны шпагат змяёю, а калі той ляжа, ты ўсім раскажаш пра тэрмітаў ці якую іншую брыду, а я пацягну шпагат. Вось будзе смеху!

— Тэрміты не брыда і ў нашым лесе не вядуцца, што іх баяцца?

— А ты каго-небудзь баішся?

— Не, я нават скарпіёна магу злавіць. Я чытаў, што вакол яго трэба наліць вады і ён сам сябе заб'е.

— Чаму? — здзівіўся Алесь.

— Таму, што не зможа ўцячы, бо ён вады баіцца.

— Дык напалохаем заўтра каго-небудзь?

— Абавязкова.

Янак павярнуўся на другі бок. Гаварыць з Алесем больш не хацелася. Яму захацелася спаць.

Раптам нешта вострае дакранулася да Янакавай лыткі. Ён адчуў, як колкія ножкі невядомай істоты перабіралі скуру і паступова набліжалася да калена.

— Ма-а-а!!! — разнеслася па пакоі начным рэхам. Хлопцы ўзняліся над ложкамі і ўбачылі Янака на зэдліку. Пакамечаная коўдра на падлозе рогам цягнула-

ся ў цень. На прасціне варушыўся прыдушаны конік.

— Трус! Трус! Беларус! На вайну сабраўся... — быццам здалёк да Янака даляцеў Алесеў голас.

Янак доўга не мог заснуць. Яму хацелася адпомсціць. Ён думаў, што заўтра зловіць авадня і выпусціць у пакой, а усім скажа, што гэта шэршань. Яму хацелася злавіць сапраўднага шэршня, але авадні, што віліся над ліпучымі стужкамі шашы, падобныя да шэршняў, і хлопцы іх не адрозніваюць. Янак супакойваў сябе тым, што ведаў, як адрозніць сапраўднага шэршня ад авадня.

## БУЛЬБЯНАЯ ВАЙНА

*Апавяданне*

Бацькі ў Ігара Вальчака не было, Ігара выхоўвала маці. Віцька Бахановіч, які жыў на адной пляцоўцы з Ігарам, расказваў у двары, як Вальчакова маці б'е сына рэменем і той крычыць на ўвесь паверх дзікім голасам. Маці біла Ігара кожны вечар: за двойкі ў школе, за парваныя нагавіцы, за знявечаныя за дзень новыя кеды, за спаленую выбуховым пакетам падлогу, за выбіты самапалам зуб, за скалечанага суседскага ката і за ўсе іншыя прыгоды небаракі-сына. А Ігар не мог жыць без прыгодаў — казалі, на ім скура гарэла.

У чацвёртым класе Ігар быў маім сябрам, як і Віцька Бахановіч, — мы жылі ў адным доме на груду поруч з Кальварыйскімі могілкамі. На нашых паверхах ніколі не было шкла, дзвярныя праёмы шкліліся дыктаю — гэтак мы гулялі ў футбол на сходах. Якое там шкло: адныя шклаблокі вытрымлівалі нашы гульні, і тое покуль мы не змайстравалі рагаткі і не зарадзілі іх шарыкамі з падшыпнікаў. Дзіркі ў шкле заставаліся як ад сапраўдных куляў:

акуратныя, з павуціннем дробных расколінак па краях. Бараніў Ігара дзядзька, матчын брат, які зрэдку заходзіў да іх. Пазней, калі старэйшага брата Віцькі Бахановіча Толіка пасадзілі ў турму на дзесяць гадоў, мы даведаліся, што Вальчакоў дзядзька служыць у міліцыі. Але ў нашым доме ў міліцэйскай форме ён ніколі не з'яўляўся, Ігар пра тое маўчаў, адно выхваляўся, што дзядзька не дае маці лупцаваць яго рэменем. Ды нас тое мала абыходзіла, мы ўсё адно разам ганялі шайбу па замерзлым катлаване новабудоўлі ці рабавалі сутарэнні.

У нашым шматпавярховіку кожная кватэра мела свой адгароджаны катушок у сутарэннях. Вось адным з самых цікавых і небяспечных заняткаў у хлопчыкаў з нашага двара было рабаванне сутарэнняў.

Гарышчы і сутарэнні — гэта ўлюбёныя месцы майго дзяцінства. Там адкрываліся паляўнічыя сезоны на памыйных катоў і тлустых кульгавых гарадскіх галубоў. Там ладзіліся «штабы» і «рубяжы абароны» ў барацьбе з ліфцёркай цёткай Зінай і прыбіральшчыцай Марусяй, там раскладаліся вогнішчы і выбухаў карбід, там гулялі ў карты і ў сляпога ката. Там, на гарышчах і ў сутарэннях, было заўсёды ўтульна і спакойна, калі на вуліцы ішоў дождж, а дома садзілі за стол рашаць школьныя задачкі і выконваць практыкаванні па мове.

Нічога каштоўнага ў сутарэннях, зразумела, не было, хіба што слоікі з варэннямі і кампотамі, навагоднія цацкі, лыжы, падшыўкі старых часопісаў і газет, дзіцячыя ровары і амаль ва ўсіх скрыні з нарыхтаванаю на зіму бульбаю. Старое ламачча і бульба — вось і ўсе скарбы, што чакалі нас у сутарэннях. Але спачатку трэба было зламаць замкі, а гэта не проста для дзесяцігадовых рабаўнікоў. Замкі ламаліся з дапамогаю жалезнага прэнта. Утрох ці ўчатырох мы цягнулі за прэнт, устаўлены ў дзвярную шчыліну, покуль той не згінаўся або не зрываліся дзверы і замок вылятаў разам з трэскамі,

вушкамі і цвікамі. Потым пачыналіся бульбяныя войны: я з Віцькам супраць Ігара і Пашы Абуцаева. Пачынаў вайну звычайна Вальчак: ён кідаў бульбіну ў столь, тая разбівалася і, як шротам, абсыпала нас пяском і брудам. У адказ Віцька шпурляў бульбу ў Вальчака, мы набіралі поўныя кішэні бульбяных снарадаў і разбягаліся па розных кутках. Хвілін праз дваццаць перастрэлкі некаму з нас абавязкова разбівалі ў кроў нос і ўсе сутарэнні былі засыпаныя бульбаю.

За бульбяную вайну зноў білі Вальчака, і яго маці прыбірала ў сутарэннях.

А ў наступным падвальчыку ў шафе на плечыках акуратна віселі старыя палітоны і гарнітуры. З гэтай знаходкі мы распачалі гульню ў прывідаў паводле фільма «Прывід замка Морысвіль». За гэтым заняткам нас заспела ліфцёрка цётка Зіна. З сутарэнняў мы кінуліся да прагалу ў сцяне, што выходзіў у склад гастранома.

Худы, як павучок, Вальчак праскочыў першым, за ім праціснуўся малы Абуцаеў, а тоўсты Віцька захрас у дзірцы. Яго ў двары дражнілі «каўбаснікам» за пухлыя шчокі і тлусты карак. Яго і злавіла ліфцёрка цётка Зіна. А я ўратаваўся ў незамкнёным хлеўчуку, стаіўся і перачакаў, покуль Віцьку Бахановіча выводзілі за вуха з сутарэнняў.

Цётцы Зіне было за што не любіць дзяцей. Летась мы, пускаючы «фантомы» з абуцаеўскага балкона, ледзь не спалілі кватэру ліфцёркі. «Фантомы» — гэта папяровыя самалёцікі, аблітыя ацэтонам, падпаленыя і запушчаныя ў паветра. Такі самалёцік робіць адзіны ўзмах белымі крыламі, ахопліваецца полымем і праз імгненне ператвараецца ў попел — ідовішча, як на сапраўднай вайне. Вось адзін з нашых «фантомаў» выпадкова і патрапіў у фортку да цёткі Зіны — запаліў там фіранкі. Але мы гэтага не заўважылі, бо наступны «фантом» загарэўся разам з Паўлікавай кашуляй. Абуцаеў, як жывая паходня, пабег у кватэру, і добра, што ў ванне мокла бялізна. А праз

хвіліну ў дзверы пазванілі. Вальчак схаваўся пад ложак. Я адчыніў — ліфцёрка, раз'юшаная, што тыгр, урываецца ў кватэру і бачыць Абуцаева ў абгарэлай кашулі, у нагавіцах і ў кедах у ванне з мокрымі прасцінамі і навалачкамі.

Аднойчы і я хаваўся пад ложкам, калі білі Віцьку Бахановіча. Ён украў у школе пачак плытак з запісамі дзяржаўных гімнаў. Мы пускалі плыткі з балкона, покуль адна з іх не пацэліла ў нейкага мужчыну, што ціха-мірна ішоў сабе па дарозе. Мужчына заўважыў нас на балконе, і, калі пазванілі ў дзверы, я залез пад канапу і шэптам папярэдзіў:

— Віцька, не адчыняй!..

Але Віцька адчыніў, і, покуль яго таўклі ў перадпакоі, я, распляшчыўшыся на пыльнай падлозе і стаіўшы дыханне, слухаў Віцькаў лямант:

— Дзядзька, пусціце, я болей не буду!

Каб той мужчына патрапіў у Віцькаву кватэру іншым разам, то ўсё магло скончыцца інакш, як скончылася з міліцыянтам, Вальчаковым сваяком. З вакенца ў сутарэннях мы стралялі з рагатак па нагах прахожых, і выпадкова Віцька пацэліў алавянаю скобкаю па назе міліцыянта. Той спусціўся і вывалак нас на свет божы, і яшчэ развёў па кватэрах і наскардзіўся бацькам. Мне ў той раз пашанцавала: мяне прывялі не дадому, а да суседкі Веры Арэстаўны і наскардзіліся ёй. Яна мяне пашкадавала — на гэтым усё і скончылася. А Віцькаву дупу бацька збіў рэменем так, што хлопец тыдзень кульгаў. У той жа вечар старэйшы брат Бахановіча, Толік, перастрэў у пад'ездзе Вальчакова дзядзьку і папярэдзіў, каб той не чапаў малых. Міліцыянт нешта адказаў, відаць, залішне злосна, бо Толік распачаў бойку і перамог. Толік перамог з аднаго ўдару: пазней, на судзе, казалі, што ў Толікавай руцэ быў кастэт, які потым некуды знік. І яшчэ Толік збіў ахвяру нагамі, так што міліцыянта ў трыццаць год выправілі на пенсію па інваліднасці, а Толіку далі дзесяць гадоў. Вось так мы даведаліся, хто Вальчакоў дзядзька. Але на нашы

адносіны гэта не паўплывала. Віцька нават паспрабаваў мяне і Вальчака схаваць у сваёй шафе, каб мы паглядзелі на ягоную старэйшую сястру, калі яна ўвечары будзе пераапранацца. Але ў прапахлай нафталінам шафе мы доўга не ўседзелі і не дачакаліся Віцькавай сястры. Гэта здарылася пасля таго, як Віцькава сястра Валька спрабавала спакусіць малодшага брата. Можа, і не спакушала, а толькі паказвала, як і што робяць на ложку. Віцька хваліўся нам, што ўжо ведае, як робяць дзяцей. Але пра гэта ў іншым апавяданні, дзе я раскажу пра каханне. Зараз успаміны пра бойкі і кастэты, бо і я ў кішэні школьнага сіняга гарнітурчыка насіў бронзавы пярсцёнак з шырокай шыпаванай пласцінаю. Можа, гэта і не быў сапраўдны кастэт, але калі такой цацкай пацэліць па твары, то сінякамі не абыдзешся. Кастэт той я недзе згубіў, а калі выбіў свайму аднакласніку Алегу Хатэнку два пярэднія зубы, то біў проста кулаком. Тады ў класе згадалі, што я калісьці насіў кастэт, і Алегава маці сцвярджала, што я скалечыў сына менавіта халоднай зброяй. Праз пару тыдняў нязграбны і тоўсты Алег ужо скакаў па партах у кабінеце матэматыкі і, паслізнуўшыся, грымнуўся на падлогу, ды так, што зламаў нагу. Пра выбітыя зубы паціху забыліся.

У дзяцінстве мне шмат што даравалі, нават за бульбяную вайну — два мяхі рассыпанай бульбы — мяне не пакаралі, нават калі садовую дымавую шашку мы ўкралі ў гаспадарчай краме і падпалілі ў сутарэннях. Увесь дым выцягнула ў склад гастранома праз той прагал, дзе некалі зашчаміўся Бахановіч: у нашым двары паўдня мітусілася пажарная каманда. Нават тое мне даравалі, а зноў каралі Вальчака, маці біла яго пасам, і Віцька расказваў, як той роў на ўвесь паверх. Мы зноў збіраліся ў нашым пад'ездзе і ведалі, што ўвечары некаму дастанецца ад бацькоў, а нехта ўратуецца ад пакарання. Ды гэта нас не спыняла, і мы зноў ішлі на будоўлю красці карбід, а на авіязавалах нас цікавілі магніевыя калодкі ад самалётаў. Магніевае пілавінне, змешанае з аптэчнай

марганцоўкай, — выдатны самаробны выбуховы пакет. Такі выбух у ліфтавай шахце нагадваў ліфцёрцы пачатак другой сусветнай вайны.

У нашай кампаніі не было дзяўчат, быццам іх цалкам не існавала. Яны з'явіліся пазней, калі скончыліся бульбяныя войны і надышоў час кахання. А ў чацвёртым класе мяне цікавілі толькі самапалы і выбухі ў смеццеправодах.

* * *

Куды ж ты вядзеш,
след, пакінуты на сьнезе
вялікім зверам?

* * *

Якія ж людзі
дробныя на бязмежным
зімовым полі...

* * *

Месяц-павучок
тчэ павуту з галінак.
Зімовы скверык.

* * *

Запісаў словы
на снезе, няхай гінуць
пад промнямі цяпла.

* * *

З радыятарам
павітаўся ў пад’ездзе.
Лютаўскі вечар.

* * *

Завеі, снегам
не засыпайце ўночы
нашы брамы.

* * *

Прыемна глядзець,
як на чорнай паніве
смажыцца бульба.

* * *

Зімовая ноч.
Пад песні прыёмніка
выпіў гарбаты.

* * *

Цыгарэтны дым:
у паветры паплылі
шэрыя кветкі.

* * *

Пэўна, учора
глядзеў на снег — ды раптам
каткі на вербах.

* * *

Бясконца б ехаў
у кодабе машыны
праз вясновы лес.

* * *

Перабіраю
каменьчыкі ружанца —
прыемны холад.

* * *

Кусты чаромхі.
Чырвань на белых кветках —
колер світанку.

* * *

Стромкі завулак.
Жвір рыпіць пад нагамі.
Імжа... Дзень... Цяжка...

* * *

Правёў рукою
па свежай атынкоўцы —
прыемны холад.

* * *

Жучок-прусачок,
нашто так спяшаешся
схавацца хутчэй?

* * *

Кусты парэчкі.
Колькі ягад тут! Побач
восы вядуцца.

* * *

Над канюшынай
цяжка гудзе чорны чмель:
шмат працы яму.

* * *

Пад грушай старой
лёг жаўнер, скінуў боты,
вочы заплюшчыў.

* * *

Хто мне падкажа
гэтай кветачкі назву?
Слухаю вецер.

* * *

Гнілая дошка.
Колькі дзірак у ёй
шашаль натачыў!

* * *

Ці ведае ён,
камень на дне рэчкі,
летнюю спёку?

* * *

Жнівеньскі вецер.
У анучы на плоце
вырасьлі крылы.

* * *

Чорны матылёк.
Што шукае ён? Можа,
чорную кветку?

* * *

Сцяжынка ў полі.
Конікі суха звіняць
на цёплым пяску.

* * *

Куды ж, таполі,
вы пайшлі чарадою,
уздоўж дарогі?

* * *

Верабей ляціць:
не схаваецца ў траве
белы матылёк.

* * *

Летнім вечарам
кожны ліхтар над шашой
кліча матылькоў.

* * *

Вецер. Возера.
Ціха чоўн пусты плыве.
Сонца садзіцца.

* * *

Запаліў святло:
напалоханая мыш
знікла ў шчыліне.

* * *

Жоўтае лісце
вецер на ганак прынёс.
Як пераступіць?

* * *

Дрэвы ў тумане?
Не, гэта гэта паляць лісце
восеньскім ранкам.

* * *

Лапкі елачак
мне ворагамі сталі.
Збіраю грыбы.

* * *

Восень. Сухую
галінку не пазнаеш
на дрэве жывым.

* * *

Не вылучаюся,
я — звычайны прахожы.
Іду пад дажджом.

* * *

А дзе ж схавацца
павучку-вандроўніку?
Восеньскі дожджык.

* * *

Тапалёвы ліст
у восеньскай бязважкасці
паплыў да зямлі.

* * *

Да маёй нагі
прытуліўся сабака.
Не спыняйся, дождж!

* * *

Шукаю ўначы
на хвалях эфіру
родную мову.

* * *

Ля кніжнай шафы
разбіраю паперы,
раптам — верш Басё.

* * *

Не маю ў жыцці
нічога, хіба ў сшытку
некалькі вершаў.

* * *

Як цяжка знайсці
словы — і гэта мая
родная мова.

* * *

Лапкамі елак
свой пакой упрыгожыў.
Святочны настрой.

* * *

Без сэнсу жыву,
учора і так штодня.
Холад раніцы.

* * *

Адчыніў дзверы:
варушыцца на сходах
мой цень заламаны.

* * *

Замерзла ноччу
вірлівая крынічка.
Белая нуда.

* * *

Доўгі, доўгі дзень.
Сёння мне ліст ад маці
павінен прыйсці.

* * *

Ад брата сёння
паштоўку прынеслі мне.
Чакаю вясну.

* * *

Узяў фуфайку,
успомніў нябожчыка,
дзеда Валодзю.

* * *

На першым снезе
смецце — кінула восень
лісце з бярэзін.

* * *

Грукнулі дзверы.
Дзіцячая калыска.
Халодны пад’езд.

* * *

Скокнуў верабей:
толькі снегу камякі
сыплюцца з галін.

* * *

Белая нуда.
Толькі недзе пад снегам
схавалася мыш.

* * *

Зімовы вечар.
З запісною кніжкаю
сяджу ў куточку.

* * *

Печку адчыніў:
пасівелі вугалькі,
попел варушу.

* * *

У качагарцы
прытуліўся да печкі —
прыемна, цёпла.

* * *

Сыпле дробны снег.
Побач даўно ўжо няма
блізкага сябра.

* * *

На снезе пісаў
хоку сёння — не дарма
існую ў жыцці.

* * *

Зімовы вечар.
Між небам і зямлёю
святло мястэчка.

* * *

Маці на кухні,
пах смажанага сала —
вайсковы ўспамін.

* * *

Трымаю ката:
ціха сэрца тахкае,
мяккае цяпло.

* * *

Прачнуўся ноччу.
Па калідоры хаджу.
Бясконцая ноч.

* * *

Казарма. Ліхтар.
Чакаю мінулага.
Цяжкі ўспамін.

* * *

Святочная ноч:
грукае ў шыбу маю
толькі вятрыска.

* * *

Устаўшы рана,
выпіў з хлебам гарбаты,
палю цыгарку.

* * *

Між роснай травы
дзьмухавей захістаўся.
Халодны ранак.

* * *

У сонечны дзень
нерухомае неба
ранняю вясною.

* * *

Жорсткая трава.
Яшчэ трымае холад
зямля вясною.

* * *

Ледзь дакрануўся
да дзьмухавея — адчуў —
вецер над полем.

* * *

Зярністы пясок,
ён не трымае доўга,
нават лужыны.

* * *

На бярэзінах
дробнае лісце дрыжыць.
Майскія святы.

* * *

Доўга дзівіўся:
рэшткі снегу на полі
склалі малюнак...

* * *

Кавалкі неба
хмарай разарваныя.
Блакітны вецер.

* * *

Неба спявае?
Ці за сонцам схаваўся
маленькі жаўрук?

* * *

Змокшы пад даждждом,
хаваюся пад брамай.
Сумны сакавік.

* * *

У качагарку
спусціўся, але печка
ўжо не гарыць.

* * *

Спаць так кладуся:
лёгкі вецер Радзімы
хай прысніцца мне.

* * *

Спаць не кладуся,
доўга гартаю кнігі.
Прыемная ноч.

* * *

Святло маланкі.
Месяц за хмарамі знік
так незаўважна.

* * *

Сёння ноччу ў сне
ізноў бачыў Радзіму.
Сумны прачнуўся.

* * *

Так хочацца спаць!
Раніцы прамень у твар —
прачынаюся.

* * *

Чарга ў лякарні,
няўтульнае крэсла...
Прыемны скразняк.

* * *

Галінка вярбы.
Дакрануўся — і зніклі
кропелькі расы.

* * *

Апранаюся.
З хлебам выпіў гарбаты.
Ранак прачнуўся.

* * *

Дзень нараджэння.
Апрануў вайсковы фрэнч.
Халодны жнівень.

* * *

Ядлоўцавы куст
на пясчаным узгорку.
Чэрвеньскі ранак.

* * *

Кавалак хлеба.
Муха над вухам звініць.
Кубак малака.

* * *

Выйшаў з кватэры:
толькі рэха вітае
мяне на сходах.

* * *

За будынкамі
стракатаю хмараю
знікалі галубы.

* * *

Сінія груды
на поўначы Чэхіі
ў сонечны дзень.

* * *

Руды сабака
брэша за весніцамі...
Няўжо я чужы?

* * *

Як моцна дрэва
за глебу трымаецца...
Зрываю кветку.

* * *

Ценем фіранкі
крэсліць паперу вецер,
складае свой верш.

* * *

Руіны мура:
ізноў ты стаў валуном,
камень на груду.

* * *

Фарбую сцяну.
Ці знойдзе шэры павук
сваю шчылінку?

* * *

Ядлоўцавы куст
выкінулі на пясок
хвалі верасу.

* * *

Засохла дрэва.
І жукі-дрывасекі
тут завяліся.

* * *

Сена варушу.
Нават у летніх травах
схавана восень.

* * *

Добрая душа,
падары цыгарэтку,
запалім разам.

* * *

Павуком пабег
чырвона-чорны камбайн
у жоўтым жыце.

* * *

Ляжу пад дрэвам,
а ў галаве ні думкі —
адпачываю.

* * *

Ядлоўцавы куст
ці чалавек на грудзе
махнуў рукою?

* * *

Залаты жучок
раптам мільгануў і знік —
вецер у траве.

* * *

Ты сумуеш
па ветру над возерам,
жучок-плывунец?

* * *

Кветку не кранай,
бо загудзе на цябе
раззлаваны чмель.

* * *

Здароў, землякі!
На слупе пры дарозе
рэжу слова «Менск».

* * *

Гарбаты жучок
на плячах сваіх схаваў
лёгкія крылы.

* * *

Прылёг на зямлю.
Адкінуўшы рыдлёўку,
адпачываю.

* * *

Заварушыўся
каля берага чарот:
выпаўзла жаба.

* * *

Дадому прынёс
на адзежы кастрыцу.
Хораша ў лесе.

* * *

Пакінуты дом
ці будуецца новы?
Шарая гадзіна.

* * *

Стомлены працай.
Прыемны холад вады.
Доўга мыюся.

* * *

Чыркнуў запалкай.
Вастракрылы матылёк
свеціцца ў цемры.

* * *

Грукнулі дзверы.
Пацягнула скразняком...
Прачнуўся ноччу.

* * *

Жнівеньскі месяц
праглынулі аблокі.
Халодная ноч.

* * *

Старога сябра
галава пасівела.
Месяца святло.

* * *

Ляжаў і слухаў:
вось крокі прахожага
далей і далей.

* * *

Чыркнуў запалкай.
Вецер, не тушы ўначы
крылы полымя.

* * *

Што мне трэба ўзяць?
Яблык у кішэнь паклаў.
Холад раніцы.

* * *

Пасля хваробы
выйшаў на двор прайсціся.
Халодны вецер.

* * *

Колькі кастрыцы!
На белым грыбе слімак
адпачывае.

* * *

Затрапятаўся
блакітны вітраж — вецер
крануў галіны.

* * *

Сябра-верабей,
ты прыляціш да мяне
сумнай раніцай.

* * *

Аловак схаваў.
Толькі вецер варушыць
лісты паперы.

* * *

Яблыня-дзічка,
ты ізноў нарадзіла
толькі ападкі.

* * *

Што за хмарамі?
Можа, і там, па небе,
сыпле дробны дождж?

* * *

Жоўтае лісце,
дробныя хвалі нясуць.
Холад лужыны.

* * *

Зробіць смачнымі
яблыкі з антонаўкі
халодны вецер.

* * *

Лясныя сцежкі
размыты доўгім дажджом —
верасень ідзе.

* * *

Хавайся хутчэй,
вадамер. Бачыш, лісце
жоўтае плыве.

* * *

Сухое лісце.
Вецер зжоўклай газеты
старонкі панёс.

* * *

Конік заспяваў
у пажаўцелай траве.
Сёння так сумна.

* * *

Кошык з грыбамі
панёс чалавек — сціхлі
конікі ў траве.

* * *

Ад каго схаваў
жоўтае лісце вецер
пад агароджай?

* * *

Праз мокрае шкло
паглядзі на прахожых,
што шпарка ідуць.

* * *

Ніхто не ўбачыў:
я спыніўся ў натоўпе,
стаю пад дажджом.

* * *

Грак над ворывам
паляцеў уздоўж груда,
крыкнуўшы ветру.

* * *

У белай місе,
нібы вока восені,
чырвоны яблык.

* * *

Камарык звініць?
Ці сухую галінку
гайдае вецер?

* * *

На хвалях ракі
алешыны ліст паплыў...
Дзе ён спыніцца?

* * *

Шэпча аб нечым
мне мурзатая грубка.
Восеньскі вечар.

* * *

Чарку гарэлкі
наліў і выпіў адзін.
Не маю сябра.

* * *

Хто з нас больш сумны?
Гэты дождж параўнаю
са сваім жыццём.

* * *

Запалілі ліхтар.
Кроплі дажджу прачнуцца
на маім вакне.

* * *

У цёмным кутку
начапельнік драўляны.
Мокры капялюш.

* * *

Комін фабрыкі.
У лужыне мазута.
Мокрыя боты.

* * *

Шклянка ля крыжа
на вясковых могілках
збірае лісце.

* * *

Хто гэтай ноччу
наведае ліхтары?
Холад верасня.

* * *

Доўга п’ю каву,
аб жыцці разважаю.
На вуліцы дождж.

* * *

Каля вогнішча,
змокшы наскрозь пад дажджом,
прысеў адпачыць.

* * *

У маім доме
лістападаўскі вецер
зачыніў дзверы.

* * *

Зорнае неба.
Доўгімі зрабіў цені
высокі ліхтар.

* * *

Месяц не ўзыйшоў.
Ліхтары ўздоўж дарогі —
маё сузор'е.

* * *

Сёння здалося —
не вярнуцца ніколі
мне да Радзімы.

* * *

П'е чарку адзін,
бо на Радзіме сваёй
не мае сябра.

* * *

На лямпу гляджу:
вось родныя мясціны,
так недалёка.

* * *

Шклянaчку кавы
купіў і спяшаюся
дадому, зварыць.

* * *

Час адпачынку —
і кожны нешта сваё
ўспамінае.

* * *

Брата б убачыць,
яго руку пацiснуць,
хоць на імгненне.

* * *

Цыгарэтка ў руцэ:
збіў попел, і агеньчык
быццам прачнуўся.

* * *

Шэра-чорны цень
у жыцці пакідаю —
свой фотаздымак.

* * *

Змоўкла радыё,
тэлевізара святло
гасне на вачах.

# У ЧОРНЫМ-ЧОРНЫМ ГОРАДЗЕ

*Жахі ў чатырох дзеях*

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

ЛЮСТРАНАЯ ШАФА

Дзеючыя асобы:
М а м а
Т а т а
Х л о п ч ы к
Д з я ў ч ы н к а
П а ц у к

*ПРАЯВА ПЕРШАЯ*

Пакой, пасярэдзіне стол, на стале посуд з ежай, у адным куце — велізарная люстраная шафа, у другім — пліта, на якой стаяць каструлі. Абапал стала стаяць два ложкі.
У пакоі адно акно і адны дзверы.
У пакой заходзяць М а м а і Т а т а.

М а м а. Ніяк не магу прызвычаіцца да новай кватэры. Нешта тут няўтульна.

Т а т а. Гэта для нас яна новая, а на самай справе яна старэйшая за цябе і за мяне. Тут сапраўды няўтульна, і ведаеш чаму?

М а м а (*ківае галавой*). Здагадваюся — з-за шафы, відаць.

Т а т а. З-за яе. Здаецца, і месца шмат, а стаіць

гэтая люстраная гаргара — не прайсці, не павярнуцца. Спрабаваў яе з месца крануць, дык нібыта прырасла і да падлогі, і да сцяны.

М а м а. А па мне, дык добрая шафа, і люстэрка вялікае: вось толькі як гляджуся ў яго, то не магу пазнаць сябе. Быццам нейкі страх на твары адбіваецца. І чаму папярэднія гаспадары гэту шафу нам пакінулі? Маглі ж з сабой забраць. Наогул, нейкія яны дзіўнаватыя людзі: змучаныя, запалоханыя. Года тут не пражылі і добрую кватэру пакінулі. Нават грошы за шафу браць адмовіліся.

Т а т а. Грошы не ўзялі, бо і ім яна задарма дасталася ад тых, хто перад імі тут жыў. А не забралі яе з сабой, бо глядзі якая яна агромістая: ні ў дзверы, ні ў акно не пралезе. Я сам вымяраў.

М а м а. А як жа яе сюды зацягнулі?

Т а т а. А хто яго ведае. Дом жа стары, кажуць, нібыта яна тут увесь час была.

М а м а (*адчыняе шафу*). Адно блага: паглядзіш — быццам бы вялікая, а адчыніш — і месца ў ёй мала.

Т а т а. Відаць, сценкі ў ёй тоўстыя, я ж казаў — з месца не крануць.

М а м а (*зачыняе шафу*). Можа, павячэраем?

Т а т а (*глядзіць на гадзіннік*). Ды не, не паспеем, зараз дзеці прыйдуць: ты ім накладай, а мы з табой павячэраем, як з тэатра вернемся.

*ПРАЯВА ДРУГАЯ*

У пакой заходзяць Х л о п ч ы к і Д з я ў ч ы н к а.

Х л о п ч ы к. Мама, а вячэра ёсць?

Д з я ў ч ы н к а. Мы ўжо рукі памылі.

Х л о п ч ы к. Я есці хачу (*цягне руку да хлеба*).

Т а т а. Пачакай, стоячы не ядуць, садзіся за стол і вячэрайце. А мы ў тэатр спяшаемся.

М а м а. Ешце, калі мала будзе, то на пліце каструлі стаяць, я і на заўтра нагатавала.

Т а т а. Ешце, але і нам пакінце, бо мы яшчэ не вячэралі (*ідзе да дзвярэй*).

М а м а. Мы ў тэатр, неўзабаве вернемся.

Х л о п ч ы к і Д з я ў ч ы н к а садзяцца за стол.
М а м а і Т а т а сыходзяць.

*ПРАЯВА ТРЭЦЯЯ*

Як толькі за М а м а й і Т а т а м зачыняюцца дзверы, з рыпеннем прачыняецца бакавая сценка люстраной шафы. З-за яе вызірае П а ц у к. Х л о п ч ы к і Д з я ў ч ы н к а здзіўлена нерухомеюць. П а ц у к хаваецца і прычыняе сценку.

Д з я ў ч ы н к а (*азіраецца ўбок шафы*). Гэта ты мяне пужаеш?

Х л о п ч ы к (*устае ад стала*). Не...

Д з я ў ч ы н к а. Зноў гэтая шафа... Ты чуў ноччу?

Х л о п ч ы к. Думаў, прымроілася праз сон.

Д з я ў ч ы н к а. Відаць, і цяпер падалося.

Х л о п ч ы к (*падыходзіць да шафы*). І чаго мы гэтай шафы баімся? Стаіць сабе і нікога не чапае.

Д з я ў ч ы н к а падыходзіць да Х л о п ч ы к а, глядзіцца ў люстэрка.

Д з я ў ч ы н к а. Файная рэч у хованкі гуляць: схаваешся ў ёй, а ўсе замест мяне саміх сябе ў люстэрку бачаць.

Х л о п ч ы к. Пайшлі есці (*паварочваюцца, абодва ідуць да стала*).

У люстраной шафе рэзка адчыняецца бакавая сценка.
П а ц у к выскоквае з шафы, бяжыць да стала і пачынае жэрці вячэру.

П а ц у к. Я табе дам — есці. Есці яны пойдуць. Самому мала.

Д з я ў ч ы н к а і Х л о п ч ы к моўчкі стаяць у разгубленасці. П а ц у к жарэ і раскідвае пусты посуд.

П а ц у к. Ледзь з голаду не зайшоўся ў шафе седзячы. Гэтыя хоць смачна гатуюць, не тое, што папярэднія (*даядае рэшткі ежы*). Смачна, але ж мала (*пацягваецца, ляпае сябе па жываце*). Схудзеў ушчэнт (*чухае сябе за вухам*). Трэба карак, карак наядаць (*глядзіць на Хлопчыка і Дзяўчынку*). Мо каго з вас з'есці?

Х л о п ч ы к і Д з я ў ч ы н к а (*разам*). Не... (*Спалохана робяць крок назад да сцяны.*)

П а ц у к. Ды не, жартую, гадуйцеся, гатуйцеся, набірайце вагу, я пузаценькіх люблю. Хто што казаў пра пліту? Што на пліце? (*Кіруецца да пліты.*)

Х л о п ч ы к (*заступае Пацуку дарогу*). Не дам, прэч пайшоў!

Д з я ў ч ы н к а (*спрабуе адцягнуць Хлопчыка ад Пацука*). Не чапайся з ім! Яшчэ ўкусіць.

П а ц у к. Ам, ам, ам. Нос адкушу (*спрабуе ўкусіць Хлопчыка за галаву*).

Х л о п ч ы к і Д з я ў ч ы н к а адскокваюць убок.

Х л о п ч ы к. Там вячэра для Таты і Мамы.

П а ц у к. І для мяне. Я ў гэтай хаце гаспадар, а вы — кватаранты (*жарэ, скідае каструлі*).

Х л о п ч ы к робіць крок наперад.

Д з я ў ч ы н к а (*да Хлопчыка шэптам*). Не вяжыся. Вернуцца бацькі, мы ўсё раскажам. Тата з ім разбярэцца.

П а ц у к (*дажырае рэшткі ежы*). Я табе дам, раскажа яна. Маленькая, але злыдзень такі, раскажа яна. Вось даем тут і галовы вам абодвум паадкусваю (*смяецца і кашляе, выплёўвае відэлец*).

Х л о п ч ы к і Д з я ў ч ы н к а робяць крок назад.
П а ц у к залазіць на ложак.

П а ц у к. Бацькам раскажаце, што гэта вы ўсё з’елі, а калі пра мяне хоць словам згадаеце, то я... (*Задумваецца.*) Я вашых бацькоў з’ем, загрызу. Толькі слова пра сябе пачую, выскачу і — ам, ам, ам. І каб у шафу больш не лазілі, адпачываць замінаеце. (*Спагадліва.*) А вам есці хоць што засталося?

Д з я ў ч ы н к а. Так.

Х л о п ч ы к. Не.

П а ц у к (*падхопліваецца з ложка*). Што? Што?

Дзяўчынка і Хлопчык прыціскаюцца да сцяны.

Д з я ў ч ы н к а. Там хлеб, хлеб. Нам хлеба хопіць.

Х л о п ч ы к (*штурхае яе*). Маўчы.

П а ц у к. Дзе?

Д з я ў ч ы н к а. У хлебніцы (*паказвае*).

П а ц у к (*жарэ хлеб*). Мо яшчэ цукерка знойдзецца, на салодкае пацягнула?

Д з я ў ч ы н к а. Нічога няма.

П а ц у к (*засоўвае лапу пад падушку*). А падманваць нядобра. Сам чуў, як вы ноччу абгорткамі храбусцелі (*жарэ цукеркі*).

П а ц у к (*садзіцца на ложак*). Нешта мала ў вас ежы ў хаце. Вось я памятаю, як даўней было: там кумпячкі, тут кілбаскі, там паляндвічка, а вяндлiначка якая была — у-у-у (*глынае сліну*). А вы бедныя, гаротныя, відаць, і не ведаеце, што гэта такое, і не ўяўляеце, які смак.

Х л о п ч ы к. Ведаем.

Д з я ў ч ы н к а. Не.

П а ц у к. А ласункі якія былі, а прысмакі-смакалычкі! Вось памятаю, тут шляхціч адзін кватараваў, гасцей вадзіў, дык стол упоперак пакоя накрывалі: гусак з яблыкамі, парася смажанае ў смятане, качкі вэджаныя, хрумскія такія (*круціць галавой*) —

хрум, хрум, хрум. Але з'ехаў, такі гасцінны быў. Вось яшчэ памятаю: бургамістарша тут у мяне жыла, дык якія варэнні варыла; кампоты ставіла і бляшанкамі не закрывала, усё паперай закручвала: печыва якое рабіла — міндальнае; а гарэхі, цукрам абсыпаныя, а цукаты? Пасля яе на салодкае цэлы год глядзець не мог, не тое, што ў рот узяць — зубы балелі. (*Да Хлопчыка.*) Ты Тату заўтра папрасі, каб ён торт прынёс, дзе крэму паболей і шакаладу.

Х л о п ч ы к. Не папрашу.

Д з я ў ч ы н к а. Ён папросіць, папросіць.

П а ц у к. Не бойцеся, ўсё не з'ем, я вам пакіну (*задумваецца*) кардонкі аблізаць. (*Устае, ідзе да шафы, спыняецца, да Дзяўчынкі.*) Паўтары, што я вам сказаў?

Д з я ў ч ы н к а. Каб бацькам нічога пра вас не казалі і каб торт купілі.

П а ц у к (*да Хлопчыка*). Зразумеў? Калі скажаш пра мяне, то бацькоў вашых з'ем адразу.

П а ц у к залазіць пад шафу і прычыняе за сабой сценку.

Х л о п ч ы к. Ну і пацук, першы раз такога бачу; і што бацькі есці будуць?

Д з я ў ч ы н к а. Трэба хоць посуд прыбраць (*прыбірае посуд*). Я цяпер заснуць не змагу: ляжаш, а за люстэркам ён сядзіць і ўсё чуе.

Х л о п ч ы к. Так, у хованкі цяпер не пагуляеш; і дарма ты посуд прыбірала.

Д з я ў ч ы н к а. Чаму? Ты нічога бацькам не кажы.

Х л о п ч ы к. Яны б самі здагадаліся, калі б ты не прыбрала.

## *ПРАЯВА ЧАЦВЁРТАЯ*

У пакой заходзяць Т а т а і М а м а.

Х л о п ч ы к (*кідаецца да іх*). Тата, Мама, у нас тут...

П а ц у к (*у шафе*). Ам, ам.

Мама здзіўлена азіраецца.

Дзяўчынка. Ам, ам, чаму ты, мама, убок глядзіш. Гэта я кажу, мы яшчэ есці хочам.

Тата. А мы вам піражныя прынеслі, а вы што — не вячэралі яшчэ?

Дзяўчынка. Мы ўжо вячэру з'елі (*да Хлопчыка*). Праўда?

Хлопчык. Калі талеркі чыстыя, то з'елі.

Мама (*да Таты*). Давай і мы павячэраем.

Тата (*ідзе да пліты*). Давай.

Дзяўчынка. Мы і ў каструлях усё з'елі.

Тата (*здзіўлена зазірае ў каструлі*). Сапраўды з'елі. Вы, часам, не захварэлі?

Хлопчык. Тата, дай піражныя, мы яшчэ есці хочам.

Тата. Не, вам жа кепска стане: і куды ў вас, малых, столькі ўлезла? Піражныя на заўтра пакінем.

Дзяўчынка. Выбачайце, што мы вашую вячэру з'елі.

Мама. Ды нічога, мы і хлебам абыдземся.

Хлопчык. Мы і хлеб з'елі... увесь.

Мама. Не, сапраўды, піражныя заўтра з'ясцё, хай паляжаць на стале.

Тата (*да Мамы*). Давядзецца нам заўтра з раніцы ў краму схадзіць, а зараз будзем класціся спаць.

Усе кладуцца ў свае ложкі.

Хлопчык. Тата, а што такое кумпяк, паляндвіца, вяндліна?

Тата. Гэта мяса на дыме гатаванае, як добрая кілбаса, але смачнейшае.

Дзяўчынка. Мама, а што такое цукаты?

Мама. Ды спіце вы, заўтра спытаеце.

Тата і Мама засынаюць.

Хлопчык (*да Дзяўчынкі шэптам*). Заснулі, давай возьмем і з'ядзім пірожныя.

Дзяўчынка. Давай, ты прынясі.

Хлопчык. Ты што, устаць баішся? Я сам прынясу (*ідзе да стала, бярэ пірожныя*).

У гэты час сценка шафы з рыпеннем адчыняецца, адтуль высоўваецца Пацук.

Пацук (*махае Хлопчыку лапай*). Нясі мне. (*Хлопчык вагаецца*). Хадзі, хадзі сюды, ам, ам.

Хлопчык ідзе, аддае пірожныя.

Пацук (*жарэ пірожнае*). Каб заўтра не забыўся пра торт (*зачыняе шафу*).

Хлопчык. Прынясу, прынясу (*робіць здзеклівыя жэсты і кіруецца да дзвярэй*).

Дзяўчынка. Ты куды, я баюся.

Хлопчык (*шэптам*). Я прыдумаў, як ад яго пазбавіцца (*Дзяўчынцы шэптам на вуха*). У ваннай бочка, дзе капусту ўзімку квасілі, у ёй цагліна ляжыць: рыхтуй фарбы, мы яе пад торт размалюем і яму аддадзім — скажам, што торт, ён і падавіцца.

Дзяўчынка. Файна прыдумаў!

Хлопчык выходзіць у дзверы і вяртаецца з цаглінай, нясе да Дзяўчынкі за ложак.

Хлопчык. Больш крэму малюй.

Дзяўчынка. А ты цукаты.

Хлопчык. А якія яны?

Дзяўчынка. У цемры — якія заўгодна. Малюй, каб смачна глядзелася.

Дзяўчынка. Вось, як сапраўдны торт.

Хлопчык. Давай я пакладу на стол, а ты грамчэй кажы, каб пачуў, падманім яго.

Х л о п ч ы к кладзе расфарбаваную цагліну на стол.

Д з я ў ч ы н к а. Глядзі, брацік, тата торт купіў, а нам не сказаў. На стале стаіць.

Шафа адчыняецца.

П а ц у к (*вылазіць*). Торт?! Што, без мяне хацелі з'есці? А ну, адыдзіцеся ўбок!

П а ц у к падыходзіць да стала і запіхвае цагліну ў пашчу, хрумкае.

Х л о п ч ы к (*шэптам да Дзяўчынкі*). Глядзі, глядзі, зараз выпруціцца.

П а ц у к (*не чуе, круціць галавой*). Нешта нясмачныя тарты пайшлі — сухі і без цукру. (*Да Хлопчыка.*) Бісквітны?

Х л о п ч ы к. Не ведаю, не каштаваў.

П а ц у к (*да Дзяўчынкі*). Лепш папрасі маму, каб яна сама пірог спякла, з капустай і грыбамі, і з рыбай, і з мясам, і каб усяго туды паболей, паболей (*уздыхае*). Успомню, як раней было, якія пірагі бургамістарша пякла, то і сон не ідзе (*залазіць у шафу і зачыняецца*).

Д з я ў ч ы н к а (*садзіцца на ложак і плача*). Есці хачу: сёння яшчэ вытрымаю, а калі заўтра ён усё зжарэ?.. (*Шэптам.*) Паслухай, можа ў бочцы капусты трохі засталося?

Х л о п ч ы к. Ды не, я глядзеў, калі цагліну браў — унутры там чыста і памыта. Але пачакай, не плач, я прыдумаў, пайшлі, дапаможаш прыцягнуць з ваннай.

Х л о п ч ы к і Д з я ў ч ы н к а на дыбачках ідуць у дзверы і праз некаторы час закочваюць у пакой бочку, стаўляюць яе вертыкальна на донца. Х л о п ч ы к трымае ў руках накрыўку і малаток.

Х л о п ч ы к (*шэптам*). Давай, пачынай, у цябе лепш падманваць атрымоўваецца.

Д з я ў ч ы н к а (*да шафы*). Гэй, вы не спіце? (*Прыслухоўваецца.*) Мы капусту знайшлі.

Шафа адчыняецца, П а ц у к высоўваецца.

П а ц у к. Што, што, паўтары, капуста, кажаш, у пірагах?

Д з я ў ч ы н к а. У бочцы, ледзь прыцягнулі, там на ўсіх хопіць.

П а ц у к. Што, цэлая бочка? Гэта добра.

Д з я ў ч ы н к а. Ды не, не цэлая, там палова, нават менш, не — больш.

П а ц у к. Не, на ўсіх не хопіць. Я страшэнна люблю капусту (*вылазіць з шафы*).

Д з я ў ч ы н к а. Сюды, сюды.

П а ц у к бяжыць і залазіць у бочку, Х л о п ч ы к ускоквае з-за бочкі і прыкалочвае накрыўку малатком.

Х л о п ч ы к. Тут табе не шафа, не выкараскаешся.

Т а т а і М а м а ўскокваюць з ложкаў.

П а ц у к (*з бочкі*). Капуста, капуста дзе, падманулі! (*Шкрабецца.*) У-у-у (*пачынае выць і скуголіць*).

М а м а. Зноў у хованкі гуляюць?

Т а т а. Ды не, абое тут (*да дзяцей*). Хто ў бочцы сядзіць?

Х л о п ч ы к. Пацук! Пацук у нас у бочцы.

Д з я ў ч ы н к а. Гэта ён усё з’еў, а не мы. Ён жахлівы, і цагліну нават з’еў.

Т а т а. А што вы раней маўчалі?

М а м а. Чаму вы нам не расказвалі?

Х л о п ч ы к. Ён абяцаў вас з татам з’есці, калі хоць слова скажам.

Д з я ў ч ы н к а. Мы за вас баяліся. Ён там, у шафе, сядзеў і ўсё чуў.

П а ц у к (*з бочкі*). Капуста. Як выберуся — усіх на капусту пашаткую!

Х л о п ч ы к. Тата, давай яго разам з бочкай у рэчку кінем.

Д з я ў ч ы н к а. Хай сабе ў мора плыве.

М а м а. Не, раптам хтось вылавіць і выпусціць?

Т а т а. У рэчку не варта кідаць, лепш на чыгунку закоцім: хай звязуць яго на поўнач, дзе ніхто не жыве. Туды, дзе адны скалы. Папросім, каб яго там выпусцілі.

М а м а. Сапраўды, там ён нікому шкоды не наробіць

Выкочваюць бочку з пакоя.

*Заслона.*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### ЛЯДОУНЯ

Дзеючыя асобы:
Т а т а М а м а
Х л о п ч ы к Д з я ў ч ы н к а
В е д з ь м а

*ПРАЯВА ПЕРШАЯ*

Пакой, акно з шырокім падваконнем, дзверы з вялікай кнопкай, пасярэдзіне пакоя — стол. За сталом сядзяць Х л о п ч ы к і Д з я ў ч ы н к а. Малююць.

Х л о п ч ы к. Дай мне жоўты.

Д з я ў ч ы н к а. Мне самой не хопіць.

Х л о п ч ы к. Тады дай мне блакітны.

Д з я ў ч ы н к а. А яно блакітным не бывае.

Х л о п ч ы к. Бывае, я бачыў.

Д з я ў ч ы н к а. Не бывае, ты прыдумаў.

Х л о п ч ы к. Якім прыдумаю, такім і будзе.

Д з я ў ч ы н к а. Тады выдумляй з таго, што маеш.

### *ПРАЯВА ДРУГАЯ*

Уваходзяць Т а т а і М а м а.

Х л о п ч ы к. Тата, Мама, у нас смарагдавая фарба ёсць?

Т а т а. Не, няма. Такой фарбы не бывае.

Д з я ў ч ы н к а. Бывае, бывае, у мамы каралі смарагдавыя.

Т а т а. Гэта каштоўныя каменьчыкі, смарагды, а колеру яны ўсё адно зялёнага.

Х л о п ч ы к. А чорная фарба ў цябе ёсць?

М а м а. А што вы малюеце?

Х л о п ч ы к і Д з я ў ч ы н к а (*разам*). Марожанае.

Д з я ў ч ы н к а. Я малюю жоўтае марожанае ў хрумсткай блакітнай аплатцы.

Х л о п ч ы к. А я хачу намаляваць чорнае марожанае з вішнямі.

Т а т а. Цікава, я ніколі не бачыў такога.

М а м а. Нешта не тое вы прыдумалі. Чорнага не бывае, і блакітных аплатак таксама я не бачыла.

Х л о п ч ы к і Д з я ў ч ы н к а (*разам*). Бывае.

Х л о п ч ы к. Каля нашага дома новы кіёск паставілі, кааператыўны. Там цётка адна прадае і жоўтае, і чырвонае.

Х л о п ч ы к. І чорнае з вішнямі.

Д з я ў ч ы н к а. Мы купіць хацелі, а яна сказала, хай бацькі спачатку прыйдуць.

Т а т а. Складайце фарбы, збірайце малюнкі.

М а м а. Будзем вячэраць.

Д з я ў ч ы н к а. А марожанае на вячэру будзе?

Т а т а. Я заўтра прынясу вам марожанага.

Д з я ў ч ы н к а. Мы цэлы дзень былі паслухмяныя.

М а м а (*да Таты*). Можа, ты сходзіш і купіш?

Т а т а. Добра, схаджу зараз у магазін,

Х л о п ч ы к. Магазіннага не хачу.

Д з я ў ч ы н к а. Магазіннае белае і нясмачнае.

Х л о п ч ы к. Я хачу чорнага з вішнямі.

Д з я ў ч ы н к а. Тата, тата, купі ў кіёску, у той цёткі, мы такога яшчэ не каштавалі.

М а м а (*садзіцца за стол*). Толькі хутчэй, каб бульба не астыла.

Т а т а (*ідзе да дзвярэй*). Я хутка, тут недалёка.

Т а т а выходзіць за дзверы. М а м а, Д з я ў ч ы н к а і Х л о п ч ы к некаторы час сядзяць моўчкі.

Х л о п ч ы к. Сядзім, сядзім, а Таты ўсё няма. Я так хачу марожанага.

Д з я ў ч ы н к а. Мама, ну калі ён прыйдзе?

М а м а. Пачакайце, ён, відаць, недзе затрымаўся.

Х л о п ч ы к. Мама, схадзі, пакліч яго, а то марожанае растане.

Д з я ў ч ы н к а. Мама, схадзі, схадзі.

М а м а (*устае*). І сапраўды, нешта доўга няма: пайду пагляджу, а вы есці пачынайце.

М а м а (*ідзе да дзвярэй*). Я зараз вярнуся, толькі гляну, а дзверы нікому не адмыкайце (*выходзіць за дзверы*).

Х л о п ч ы к. А што на вячэру?

Д з я ў ч ы н к а. Калдуны з малаком.

Х л о п ч ы к. Я не хачу, лепш марожанае.

Д з я ў ч ы н к а. Пачакаем.

Некаторы час сядзяць моўчкі.

Х л о п ч ы к. Ну дзе яны падзеліся?

Д з я ў ч ы н к а. Чаму яны так доўга не вяртаюцца? Тут жа за дом зайшоў — і кіёск.

Х л о п ч ы к. А можа, што здарылася?

Д з я ў ч ы н к а. Я пайду пагляджу (*ідзе да дзвярэй*).

Х л о п ч ы к. Мама сказала, каб не выходзілі.

Д з я ў ч ы н к а. Яна прасіла, каб чужым не адмыкалі. Ты заставайся, а я хуценька, я толькі зірну (*выходзіць за дзверы*).

Х л о п ч ы к некаторы час сядзіць моўчкі, потым устае і падыходзіць да акна.

Х л о п ч ы к. Вось і цямнець пачало. Тата пайшоў і не вярнуўся, мама пайшла і не вярнулася, вось і сястрычкі ўсё няма. Відаць, сапраўды нешта здарылася. Трэба ісці шукаць іх (*ідзе да дзвярэй*).

*Заслона.*

## *ПРАЯВА ДРУГАЯ*

Пакой разварочваецца супроцьлеглым бокам. Каля глухой сцяны стаіць кіёск з кідкім надпісам: «Марожанае». У кіёску В е д з ь м а.

В е д з ь м а. Добрае месца знайшла. Атабарылася. Здаецца, ніхто мяне не пазнае (*глядзіцца ў люстэрка*). Белы халат, пальчаткі. (*Прыглядаецца.*) Ой, ледзь сябе не выдала, зубы — іклы жалезныя — тырчаць, трэба іх схаваць (*нахіляецца за кіёскам і з'яўляецца зноў заматаная шалікам па самы нос*). О, цяпер фацэтна выглядаю!

Чуюцца крокі.

В е д з ь м а. О, нехта ідзе (*гучна*). Бярыце марожанае: жоўтае, чырвонае, чорнае, з гарэхамі, вішнямі і марцыпанамі.

З-за рога з'яўляецца Т а т а і падыходзіць да кіёска.

Т а т а. Добры дзень.

В е д з ь м а. Добры вечар.

Т а т а. Дайце мне, калі ласка, вось гэтага жоўтага і гэнага чорнага з вішнямі.

В е д з ь м а. Відаць, для дзетак бярэце; колькі іх у вас?

Т а т а. Хлопчык і Дзяўчынка.

В е д з ь м а. А, бачыла, бачыла. Добрыя дзеткі. Вы гэтае не бярыце, яно даўно на вітрыне стаіць. Хадземце, халаднейшае дам. Самі выбераце.

В е д з ь м а заводзіць Т а т у за рог сцяны.

В е д з ь м а (*з-за сцяны*). Праходзьце, праходзьце, самі возьмеце.

Т а т а (*з-за сцяны*). А што ў вас так цёмна?

В е д з ь м а (*з-за сцяны*). Пачакайце тут. Пайду святло запалю.

Чуюцца грукат і Татаў крык. З-за сцяны выходзіць
В е д з ь м а і зноў становіцца за кіёск.

В е д з ь м а (*задаволена пацірае рукі*). Вось адзін папаўся. Цяпер усю сямейку прыбяру, а за імі ўвесь дом, квартал, горад. Усіх. Усе ў мяне там будуць.

З-за рога з’яўляецца М а м а і разгублена азіраецца.

В е д з ь м а. Добры вечар. Ці не мужа свайго шукаеце?

М а м а. Яго. Пайшоў да вас па марожанае.

В е д з ь м а. А ён тут, тут, усё марожанае выбірае (*смяецца*). Ніяк выбраць не можа. Хадземце, я вас завяду, дапаможаце.

М а м а. Хадземце, пакажаце.

В е д з ь м а і М а м а знікаюць за рогам сцяны.

В е д з ь м а (*з-за сцяны*). Праходзьце, ён там.

М а м а (*з-за сцяны*). Нешта тут цёмна і холадна, нічога не бачу.

В е д з ь м а (*з-за сцяны*). Дык лядоўня ж. Пачакайце, я святло запалю.

Чуюцца грукат і Мамін крык.

В е д з ь м а (*выходзіць з-за рога*). Вось і другая гатовая. (*Смяецца.*) Цяпер і дзетак ухойдаю (*становіцца за кіёск*). Бярыце марожанае, на ўсе густы, усіх колераў, на кожны смак, для дарослых і для дзяцей!

З-за рога выходзіць Д з я ў ч ы н к а.

Д з я ў ч ы н к а. Вы не бачылі маіх Тату і Маму?

В е д з ь м а (*паказвае за рог*). А яны там, у мяне, цябе чакаюць — столькі марожанага набралі, што самі дахаты не данясуць. Ідзі дапамажы.

Д з я ў ч ы н к а і В е д з ь м а ідуць за рог сцяны.

В е д з ь м а (*на хаду*). А брацік твой дзе?

Д з я ў ч ы н к а. Дома застаўся.

В е д з ь м а. Відаць, ён марожанае любіць?

Д з я ў ч ы н к а. Але.

Абедзве знікаюць за рогам сцяны.

В е д з ь м а (*з-за сцяны*). Ты не глядзі, што цёмна, заходзь, яны там чакаюць. Я зараз святло запалю.

З-за сцяны чуюцца грукат і крык Д з я ў ч ы н к і.
В е д з ь м а выходзіць з-за рога і ідзе да кіёска.

В е д з ь м а (*смяецца*). Вось і трэцяя ёсць! І

галоўнае, што самі, самі ідуць. Толькі паспявай варушыцца. Калі так і далей пойдзе — у горадзе нікога не застанецца. Усё мне будзе належаць. У горадзе добра працаваць, гэта не тое, што ў лесе па адным у багну заваблiваць. Ну, дзе той хлопчык? Яго прыбяру — і на сёння досыць. Вось і шарая гадзіна надыходзіць. Адзінае блага — у горадзе ўдзень прадаваць трэба, а я сонца не выношу; давядзецца цёмныя акуляры купляць з зялёнымі шкельцамі, у лесе прызвычаілася па начах рабіць.

З-за рога сцяны з’яўляецца Хлопчык і ідзе да кіёска.

Ведзьма (*ласкава*). Добры вечар.

Хлопчык. Цётачка, а дзе мае Тата, Мама?..

Ведзьма (*перабівае*). Не хвалюйся, тут яны: і Тата, і Мама, і сястрычка, усё марожанае для цябе выбіраюць, ніяк не могуць самае лепшае знайсці (*выходзіць з кіёска*). Пойдзем, завяду да іх.

Хлопчык і Ведзьма ідуць на месцы.

## *ПРАЯВА ТРЭЦЯЯ*

Сцэна паварочваецца. На месца кіёска выязджае пакой без мэблі. Акно з шырокім падваконнем і дзверы. Знадворку на дзвярах вялікая чырвоная кнопка.

Ведзьма. Вось і прыйшлі (*адчыняе дзверы*).

Хлопчык хоча прапусціць яе наперад.

Ведзьма. Не, не, ты ідзі, я за табой.

Хлопчык заходзіць, Ведзьма зачыняе за ім дзверы, а сама застаецца на двары.

Хлопчык. Дзіўны пакой, холадна, як

у лядоўні, і мэблі няма. А дзе ж Мама і Тата? (*Паварочваецца да дзвярэй.*) Гэй, куды яна знікла? (*Торгае дзверы, але Ведзьма з другога боку трымае іх аберуч.*)

В е д з ь м а (*ціха ўбок*). Не, не выскачыш, а як клямку пусціш, я кнопку націсну...

Х л о п ч ы к. Можа, я не туды зайшоў, у акно трэба глянуць (*падбягае і залазіць на падваконне*).

В е д з ь м а. Ну, усё! (*націскае на кнопку*). Ляці да сваіх... (*чуецца грукат*).

Х л о п ч ы к (*стоячы на падваконні*). Ай, падлога правалілася! А там лядоўня вялізная, снег, ледзяшы пад падлогаю, і Мама, Тата, Сястрычка замарожаныя. Гэта і я, каб не ўлез на падваконне, туды праваліўся б, замерз.

В е д з ь м а. Гатовы, відаць. Трэба падлогу падымаць (*другі раз націскае на кнопку*).

Х л о п ч ы к (*глядзіць на ніз*). А вось і падлога ізноў на месца стала: відаць, сюды зараз зойдзе, схавацца трэба (*бяжыць праз пакой і прыціскаецца да сцяны каля дзвярэй*).

В е д з ь м а адчыняе дзверы і праходзіць у пакой,
не заўважаючы Х л о п ч ы к а.

В е д з ь м а (*па дарозе скідае шалік*). Вось і ўсё, будзе на заўтра марожанае, да раніцы добра ўдубеюць (*пацягваецца*).

Х л о п ч ы к у гэты момант крадком выходзіць за дзверы і націскае на кнопку.

Х л о п ч ы к (*націскаючы на кнопку*). Сама ўдубееш!

В е д з ь м а з крыкам правальваецца пад падлогу.

В е д з ь м а. Ай, ай, халодна, халодна, замярзаю!

Х л о п ч ы к (*глядзіць на ніз*). Ага, папалася, Ведзьма.

В е д з ь м а (*з-пад падлогі*). Я ўсё скажу, усіх выпушчу, усіх аддам, толькі пашкадуй!

Х л о п ч ы к. То што трэба рабіць?

В е д з ь м а. Выцягні кнопку, лядоўня размарозіцца, усе адтануць.

Х л о п ч ы к. А не маніш?

В е д з ь м а. Хутчэй выцягвай кнопку, бо замерзну.

Х л о п ч ы к выцягвае кнопку: з-пад падлогі чуецца шыпенне.

Х л о п ч ы к (*схіляецца над лядоўняй*). Тату! Мама! Сястрычка! (*Падае ім руку і дапамагае вылезці наверх*).

В е д з ь м а (*цягне рукі*). А мне, мне дапамажы, ты ж абяцаў!

Х л о п ч ы к. А ты тут і заставайся — будзеш ведаць, як людзей у марожанае ператвараць (*хоча націснуць кнопку*).

Т а т а (*спыняе хлопчыка*). Ты абяцаў яе выпусціць?

Х л о п ч ы к. Ну і што? Яна ўсіх нас падманвала. Хай застаецца тут.

Д з я ў ч ы н к а. Яе нельга выпускаць. Яна ў другім месцы сваю лядоўню паставіць.

М а м а. Ды не, мы ўсяму гораду раскажам, каб ніхто ў яе марожанага не купляў.

В е д з ь м а. Пусціце, я больш не буду, я ў лес сыду і ў горад ніколі не вярнуся, нікому крыўды чыніць не буду. Пусціце толькі.

Т а т а. Калі ты абяцаў выпусціць яе, то трэба выпусціць, хай ідзе ў свой лес (*дапамагае Ведзьме вылезці наверх*).

В е д з ь м а закрывае твар рукамі, плача і сыходзіць.

Хлопчык (*да Дзяўчынкі*). Давай яе заўтра намалюем, каб ніхто да яе больш не трапіў.

Мама. Ну што, пайшлі вячэраць, бо калдуны астылі.

Тата. Давайце, дзеці, пойдзем, гэтым разам абыдземся без марожанага, а заўтра ў магазіне купім.

Усе сыходзяць.

*Заслона.*

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

### БЕЛАЯ ПРАСЦІНА

Дзеючыя асобы:
Тата Мама
Хлопчык Дзяўчынка
Белая Прасціна

Пакой. У пакоі люстраная шафа, чатыры ложкі, вялікі тэлевізар, акно, дзверы, стол.

*ПРАЯВА ПЕРШАЯ*

За сталом сядзяць Хлопчык і Дзяўчынка, Мама і Тата.

Тата (*глядзіць на гадзіннік*). Так (*да Мамы*). Нам час збірацца (*устае з-за стала*).

Мама (*устае, ідзе глядзецца ў люстраную шафу*). Ну, як сёння я гляджуся, лепш чым мінулым разам?

Дзяўчынка. Мама, ты глядзішся цудоўна.

Тата. У тэатральным асвятленні будзеш глядзецца яшчэ лепш.

Хлопчык. Тата, сёння па тэлевізары мульцікі.

Дзяўчынка. Тата, можна, мы ўключым

тэлевізар?

М а м а. Вы паглядзелі «Калыханку», вашы мульцікі скончыліся.

Т а т а. Мультфільмы для дарослых, і вам іх глядзець не варта.

М а м а. Час позні, і дзецям трэба класціся спаць.

Х л о п ч ы к. А скора вы вернецеся?

Д з я ў ч ы н к а. Мы баімся адны заставацца.

Т а т а. Тады кладзіцеся і хутчэй засынайце, покуль мы тут.

М а м а. А пад раніцу мы вернемся: вы прачнецеся — а мы тут. Калі спіш — нічога не баішся.

Дзеці кладуцца ў ложкі.

М а м а. І памятайце: тэлевізар уключаць нельга.

Т а т а. Ні ў якім разе, і абавязкова спаць.

Х л о п ч ы к. А калі не заснем, то што будзе?

Т а т а. Лётае па начах па свеце Белая Прасціна і зазірае ў вокны. Дзяцей, якія не спяць, хапае і зносіць.

Д з я ў ч ы н к а. Куды?

М а м а. Не палохай дзяцей, пайшлі, а вы спіце і не бойцеся, ніякія белыя прасціны па горадзе не лётаюць. (*Мама сыходзіць у дзверы.*)

Т а т а (*спыняецца ў дзвярах і абарочваецца*). Лётае, лётае, дзе бачыць уключаны тэлевізар, цоп — і панесла (*сыходзіць*).

Д з я ў ч ы н к а і Х л о п ч ы к некаторы час ляжаць моўчкі.

Х л о п ч ы к. Ты спіш?

Д з я ў ч ы н к а. Сплю.

Х л о п ч ы к. Ну, спі.

Д з я ў ч ы н к а. А ты спіш?

Х л о п ч ы к. Не.

Д з я ў ч ы н к а. А я маме раскажу.

Х л о п ч ы к. Не расказвай, я зараз Белую Прас-

ціну паклічу, яна цябе схопіць. Цоп — і панясе.

Д з я ў ч ы н к а. Ты бліжэй да вакна, яна цябе першага схопіць.

Х л о п ч ы к. А яна сваіх не чапае.

Д з я ў ч ы н к а (*садзіцца на ложку*). А з чаго ты ёй свой?

Х л о п ч ы к. Таму, што я ведаю яе сапраўднае імя.

Д з я ў ч ы н к а. Скажы мне.

Х л о п ч ы к. Не скажу, бо нельга гаварыць.

Д з я ў ч ы н к а. Ну, скажы.

Х л о п ч ы к. Як толькі вымаўлю яе імя, то яна адразу і з'явіцца.

Д з я ў ч ы н к а (*падціскае пад сябе ногі*). А ты ціха скажы, каб толькі я адна пачула.

Х л о п ч ы к (*шэптам*). Цішэй, вунь яна ў акно зазірае, бачыш?

Д з я ў ч ы н к а (*плаксіва*). Не, яе там няма, няма.

Х л о п ч ы к. Тады чаму ты плачыш, калі няма? Ведаеш, як яна выглядае? (*Накідвае на сябе прасціну, з-пад прасціны.*) Я, Белая Прасціна, прыляцела да цябе.

Д з я ў ч ы н к а. Скідай прасціну, я ведаю, што гэта ты.

Х л о п ч ы к (*набліжаецца да дзяўчынкі*). Твайго брацікa тут даўно няма, я схапіла яго мінулай ноччу, калі ты спала. Ведаеш, як ён прасіўся?! А я зачаравала яго, больш не вернецца. А сама перакінулася ў яго, каб забраць цябе. Ты ж хацела ведаць маё імя? Маё імя — Жах.

Д з я ў ч ы н к а (*б'е падушкай па прасціне*). Не выдурвайся, мне зусім не страшна.

Х л о п ч ы к (*скідае прасціну*). Ну як, спалохалася?

Д з я ў ч ы н к а (*зноў б'е хлопчыка падушкай*). Маеш.

Х л о п ч ы к. За што?

Д з я ў ч ы н к а. Ты — Белая Прасціна.

Х л о п ч ы к. Смелая стала, нічога не баішся?

Д з я ў ч ы н к а (*кідае падушку на ложак*). Я і раней не баялася, я любую Белую Прасціну падушкай затаўку, няхай толькі прыляціць.

Х л о п ч ы к. Давай тэлевізар уключым, мульцікі паглядзім.

Д з я ў ч ы н к а. Не, не ўключай. Тата ж прасіў...

Х л о п ч ы к. Тата і спаць табе казаў: ідзі кладзіся, а я мульцікі пагляджу.

Д з я ў ч ы н к а. Добра, толькі на хвілінку ўключы (*садзіцца на ложак*).

Х л о п ч ы к уключае тэлевізар.

*ПРАЯВА ДРУГАЯ*

У тэлевізары з'яўляецца М а м а-дыктарка.

М а м а. ...Раз, калі ўсе дзеці спяць, мы прапануем вашай увазе мультфільмы для дарослых.

Х л о п ч ы к. Дыктарка — да мамы падобная (*сядае побач з дзяўчынкай*).

М а м а. Хвілінку ўвагі: дзеці, выключце тэлевізар, бо Белая Прасціна падлятае да нашага горада.

М а м а знікае.

Д з я ў ч ы н к а (*глядзіць на Хлопчыка*). Гэта ты падрабіў?

Х л о п ч ы к. Гэта яны спецыяльна нас страшаць, а я не баюся, а ты?

Д з я ў ч ы н к а (*няўпэўнена*). У мяне падушка ёсць.

У тэлевізары з'яўляецца Т а т а-акцёр.

Х л о п ч ы к. Акцёр — да таты падобны.

Д з я ў ч ы н к а. Так.

Т а т а. У чорным-чорным горадзе стаіць

чорны-чорны дом. У чорным-чорным доме ёсць чорны-чорны пакой. У чорным-чорным пакоі — чорны-чорны стол. На чорным-чорным сталe — чорная-чорная труна (*перапыняецца, мяняя інтанацыю*). Што, страшна? Яшчэ не? (*вяртаецца да папярэдняй інтанацыі*). У чорнай-чорнай труны падымаецца чорнае-чорнае вечка. З-пад чорнага-чорнага вечка ўстае чорны-чорны мярцвяк і цягне чорныя-чорныя рукі. І кажа чорным-чорным голасам (*крычыць*): «Аддай маё сэрца!!!» (*знікае з экрана*).

Д з я ў ч ы н к а (*хаваецца за Хлопчыка*). Фу, які жах.

Х л о п ч ы к. Не бойся, мы захочам — выключым, а захочам — глядзець будзем.

М а м а (*з'яўляецца ў тэлевізары*). Дзеці, выключце тэлевізар, Белая Прасціна ляціць па вуліцах нашага горада.

М а м а знікае, у тэлевізары з'яўляецца Т а т а.

Д з я ў ч ы н к а. Можа, сапраўды выключым?

Х л о п ч ы к. Збаялася, збаялася гэтай скрыні! А калі табе скажуць на галаву стаць, таксама паслухаешся?

Д з я ў ч ы н к а. Ну добра, яшчэ адзін мульцік паглядзім.

Т а т а. Па вуліцах нашага горада ходзіць вялікі сабака. Ён глядзіць, у якіх вокнах па начах паліцца святло. Вялікі сабака падкрадаецца да сцяны і ў яго вырастаюць доўгія-доўгія лапы, на якіх ён уздымаецца вышэй і вышэй, да самага акна, на якім бы паверсе яно ні было. Яго прываблівае святло і ўключаныя тэлевізары. Вялікі сабака ціха-ціха прасоўвае галаву ў фортачку і хапае дзяцей, што не спяць па начах. Тых дзяцей больш ніхто і ніколі не можа знайсці.

Т а т а знікае, у тэлевізары з'яўляецца М а м а.

М а м а. Дзеці, дзеці, выключце тэлевізар, бо Белая Прасціна падлятае да вашага дома. Дзеці, дзеці, выключце тэлевізар.

М а м а знікае, у тэлевізары з'яўляецца Т а т а.

Д з я ў ч ы н к а. Брацік, ідзі выключы тэлевізар.

Х л о п ч ы к. Ідзі сама выключай.

Д з я ў ч ы н к а. Брацік, ну калі ласка, я баюся.

Х л о п ч ы к. І я баюся (*азіраецца*). А фортачка ў нас зачынена?

Д з я ў ч ы н к а. Ідзі зачыні!

Х л о п ч ы к. Ідзі сама зачыняй, калі такая разумная.

Т а т а. У адной кватэры з'явілася на батарэі чырвоная-чырвоная пляма. Памацалі яе — а яна халодная-халодная. Вакол батарэя гарачая, а ад плямы холадам цягне. Выклікалі майстра-сантэхніка. Ён глядзеў-глядзеў — нічога зразумець не змог. Пагрукаў малатком, а яму назад — грук, грук. Майстар сабраў інструменты і сказаў, што заўтра прыйдзе. Спрабавалі тую пляму змыць, а яна толькі ярчэй робіцца, хацелі зафарбаваць — а яна не зафарбоўваецца. Леглі спаць і заснулі. А як заснулі, то выйшаў з батарэі чырвоны чалавек і высмактаў у гаспадароў кроў. Вылез, высмактаў і назад у батарэю зайшоў. А раніцай прыйшоў майстар. Званіў, званіў, а яму не адчыняюць. Выламаў дзверы, зайшоў, а гаспадары нежывыя ляжаць, і батарэя ўся чырвоная. Раскруціў майстар батарэю, а з яе кроў палілася.

Т а т а знікае, у тэлевізары з'яўляецца М а м а.

М а м а (*роспачна*). Дзеці, дзеці, выключце хутчэй тэлевізар. Белая Прасціна заглядае да вас у акно!

*ПРАЯВА ТРЭЦЯЯ*

У акне з'яўляецца Белая Прасціна.

Дзяўчынка (*азіраецца*). Белая Прасціна!
Мама. Дзеці, дзеці, чаму ж вы не выключылі тэлевізар?

Мама знікае з экрана.

Хлопчык. Сцеражыся!

Белая Прасціна залятае ў пакой і пралятае паўз Дзяўчынку. Дзяўчынка прагінаецца. Хлопчык хапае падушку і б'е ёю наўздагон край Прасціны.

Хлопчык. Вось табе! (*Замахваецца падушкай.*)

Белая Прасціна пачынае лётаць вакол дзяцей.

Белая Прасціна. Бачыш ты, не баіцца ён; каб дзяўчынка адна, я б яе цоп — і ўсё.

Хлопчык ганяе Белую Прасціну падушкай.

Хлопчык. Сястрычка, зачыняй фортачку, каб не ўляцела, мы ёй зараз зробім!
Дзяўчынка (*хапае другую падушку*). Будзеш ведаць, як людзей палохаць!

Хлопчык з Дзяўчынкаю па чарзе кідаюць у Белую Прасціну падушкамі.

Хлопчык. Вось табе!
Дзяўчынка. Вось табе!
Белая Прасціна (*садзіцца на стол*). Супакойцеся! Каму кажу, каб ціха мне і баяліся! Я да іх праз увесь горад ляцела, старалася, папало-

хаць хацела — а яны ваяваць са мной пачалі! Хуценька прыбраць падушкі — і ў ложкі, спаць.

Хлопчык і Дзяўчынка неахвотна прыбіраюць падушкі.

Хлопчык. А мы цябе не баімся.

Дзяўчынка. І я не баюся.

Белая Прасціна. Што, зусім не баіцеся? Ну, можа, хоць трошкі баіцеся? Я ж такая жахлівая. Я сама сябе баюся. Я магу каго заўгодна папалохаць, калі трэба.

Хлопчык. Мы ў тэлевізары такога нагледзеліся, нам такіх пачвар паказалі, такіх жахаў — нас нічым не спалохаеш, ні чорным, ні чырвоным, ні тым больш белым.

Дзяўчынка (*да Хлопчыка*). А як яна можа нас напалохаць?

Белая Прасціна (*узлятае*). Я магу задушыць вас, але ж вы не ведаеце, што такое смерць, і таму не баіцеся. Я зраблю самае страшнае для вас...

Белая Прасціна пралятае над Дзяўчынкай і Хлопчыкам, яны падаюць на ложкі і нерухомеюць. Белая Прасціна хаваецца за тэлевізарам і выключае яго.

## *ПРАЯВА ЧАЦВЁРТАЯ*

У пакой уваходзяць Тата і Мама.

Мама. Цішэй, дзеці ж спяць, чуеш, як ціха.

Тата. Так, нешта падазрона ціха.

Тата і Мама сядаюць на свае ложкі.

Т а т а. Я так стаміўся, а сон не ідзе, куды ж ён падзеўся?

М а м а. А я апошнім часам стала баяцца засынаць, як у дзяцінстве: здаецца, засну, і ніхто мяне не пабудзіць. Спачатку буду бачыць сны, а потым яны скончацца і пойдзе суцэльная цемра.

Т а т а. А добра я прыдумаў пра Белую Прасціну, адразу пазасыналі.

З-за тэлевізара з'яўляецца Б е л а я  П р а с ц і н а і пралятае паўз Т а т а й  і  М а м а й. Т а т а  і  М а м а падаюць на ложкі і нерухомеюць.

Б е л а я  П р а с ц і н а. Самае страшнае — гэта сон. Я ніколі не сплю, бо сон — гэта я. Варта заплюшчыць вочы, і пакой апаноўваюць жахі. І ніхто не ведае, што адбываецца ў пакоі падчас сну. Але засынаюць не на тое, каб спаць, а каб прачнуцца. (*Вылятае ў акно.*)

*Заслона.*

## ДЗЕЯ ЧАЦВЁРТАЯ

### ЧОРНАЯ РУКА

Дзеючыя асобы:
М а м а  Т а т а
Х л о п ч ы к  Д з я ў ч ы н к а
Ч о р н а я  Р у к а

*ПРАЯВА ПЕРШАЯ*

Пакой, у ім чатыры ложкі, шафа, стол, на сцяне карціна. За сталом М а м а,  Т а т а,  Х л о п ч ы к  і  Д з я ў ч ы н к а.

Х л о п ч ы к. Мама, а што там за сцяною?

Д з я ў ч ы н к а. Як вас з Татам не было, то там за

сцяною нешта грукалася, шкраблося.

М а м а. За сцяной? Там вуліца.

Х л о п ч ы к. Я ведаю, што вуліца. А ў сярэдзіне, у самой сцяне што?

М а м а. Цэгла там.

Т а т а. Што ты ім кажаш, яны ўжо дзірку прадзяўблі да цэглы. Атынкоўку папсавалі. Вось давялося карціну павесіць, каб дзірку закрыць.

М а м а. То на сценах малявалі, а цяпер дзіркі калупаць пачалі. Не, дабром гэта не скончыцца.

Т а т а (*азіраецца на карціну*). Во, і карціну ўжо сапсавалі. (*Да Маці.*) Бачыш, чырвоная пляма з'явілася.

М а м а (*да дзяцей*). Прызнавайцеся, хто з вас маляваў?

Х л о п ч ы к. Мы не рабілі...

Д з я ў ч ы н к а. У нас і фарбы такой няма.

М а м а. Можа, вы і сцяну не дзяўблі? Я ўсё адно дазнаюся. А цяпер кладзіцеся спаць.

Х л о п ч ы к і Д з я ў ч ы н к а кладуцца спаць.

Х л о п ч ы к (*шэптам да Дзяўчынкі*). Ты малявала на карціне?

Д з я ў ч ы н к а. Не. Я думала, што ты накрэмзаў.

Х л о п ч ы к. Хто ж тады?

М а м а. А ну ціха! Спаць.

Х л о п ч ы к з Д з я ў ч ы н к а й засынаюць. М а м а і Т а т а падыходзяць да карціны.

М а м а. А можа, гэта пляма і раней была?

Т а т а. Ды не, не было. Я ж глядзеў.

М а м а. Дзіўная пляма. І фарбы ў іх такой няма.

Т а т а (*падыходзіць да дзяцей*). Глядзі, ужо спяць.

М а м а. Давай і мы ўжо класціся.

М а м а і Т а т а кладуцца спаць. Засынаюць. Гасне святло. Чуюцца прыцішаныя гукі: рыпенне, шоргат.

Т а т а (*крычыць з цемры*). Ратуйце! Ратуйце!

*ПРАЯВА ДРУГАЯ*

Усё сціхае. Запальваецца святло, М а м а, Д з я ў ч ы н к а і Х л о п ч ы к стаяць каля ложкаў. Т а т ы няма.

Д з я ў ч ы н к а. Што, што гэта было?

Х л о п ч ы к. Тата крычыў.

Усе падыходзяць да пустога ложка.

М а м а. Коўдра скінутая.

Х л о п ч ы к. Глядзі, пантофлі стаяць. Куды ж ён знік?

Д з я ў ч ы н к а. Трэба шукаць, можа, ён схаваўся дзе?

М а м а і Д з я ў ч ы н к а пачынаюць заглядаць пад ложкі, у шафу, пад стол. Прыгаворваюць: «І тут няма, і тут няма».

Х л о п ч ы к (*спыняецца перад карцінай*). Мама, глядзі, чырвоная пляма большай стала.

М а м а. Адчапіся. Тут Тата знік, а ты лезеш з лухтой.

Шукаюць разам, без выніку.

Д з я ў ч ы н к а. Нідзе няма. (*Стомлена садзіцца на ложку.*)

М а м а. Кладзіцеся спаць. Тата заўтра вернецца.

Дзеці кладуцца на ложкі.

Д з я ў ч ы н к а. Я баюся.

М а м а. Тата пажартаваў. Схаваўся недзе — а заўтра прачнецеся, і ўсё добра будзе. Спіце, а я каля вас пасяджу.

Дзеці засынаюць. Маці сядзіць за сталом. Паступова гасне святло. Ізноў чуюцца рыпенне і шоргат.

Мама (*крычыць з цемры*). Ратуйце! Ратуйце!

*ПРАЯВА ТРЭЦЯЯ*

Усё сціхае. Запальваецца святло. Хлопчык і

[ [ [ Хлопчык. Не спі! Давай: калі ты заснеш — я цябе штурхну, а калі я — то ты мяне пабудзі.

Некаторы час сядзяць і штурхаюць адзін аднаго, але ў рэшце рэшт засынаюць.

*ПРАЯВА ЧАЦВЁРТАЯ*

На сцяне, як дзверы на завесах, з рыпеннем адчыняецца карціна, за ёй чорная дзірка. З дзіркі павольна высоўваецца Чорная Рука. Цягнецца да дзяцей. Хлопчык раптоўна прачынаецца. Ускрыквае, штурхае Дзяўчынку і скочваецца на падлогу. Чорная Рука хапае Дзяўчынку і зацягвае ў дзірку. Карціна павольна зачыняецца. Чуецца крык Дзяўчынкі.

Дзяўчынка. Брацік, ратуй мяне!

Хлопчык (*устае каля ложка*). Чорная Рука! Гэта яна ўкрала Тату і Маму. Цяпер вернецца па мяне. Куды схавацца? У шафу? (*Падбягае да шафы*). Схаваюся ў шафе.

Карціна павольна пачынае адчыняцца. Хлопчык хаваецца пад стол. З дзіркі вылазіць Чорная Рука і шукае Хлопчыка на ложках. Не знаходзіць і ў нерашучасці пачынае вагацца паміж сталом і шафай. Адчыняе шафу і залазіць туды. Хлопчык выскоквае з-пад стала, падбягае і замыкае шафу. Чорная Рука б’ецца ў дзверы.

Хлопчык. Ну ўсё, папалася.

Шафа хістаецца. Хлопчык спрабуе яе ўтрымаць і ўсё ніжэй з’язджае на падлогу.

Хлопчык. Не выпушчу! Не выпушчу!

Паступова гасне святло. Гукі сціхаюць.

*ПРАЯВА ПЯТАЯ*

Запальваецца святло. Той жа пакой. На ложках спяць Хлопчык і Дзяўчынка. Тата за сталом.

Мама (*будзіць дзяцей*). Уставайце, хопіць спаць.

Хлопчык (*падхопліваецца і азіраецца*). Мама, а Чорная Рука?

Дзяўчынка. Яна цябе і Тату ў дзірку зацягнула, у сцяну за карціну.

Тата. Калі да абеду спаць, то і не такое прысніцца.

Хлопчык (*устае*). Не, гэта не сон, я яе ў шафе замкнуў.

Дзяўчынка. Не, не сон, я тое ж самае бачыла. Яна і мяне схапіла. А потым цемра — і я нічога не памятаю.

Мама. Кажаш, у шафе замкнуў? (*Падыходзіць да шафы.*)

Хлопчык. Не адмыкай. Яна выскачыць, зноў усіх пахапае.

Мама (*смяецца*). Ідзі глядзі, дзе тая твая Чорная Рука (*адмыкае шафу*). Так я і ведала: зноў тут вэрхалу нарабілі, адзежу ўсю паскідалі.

Тата. Відаць, яны там у хованкі гулялі.

Хлопчык (*падбягае да шафы*). Не, не гулялі. Вось яна — Чорная Рука (*спалохана адбягае і цягне за сабою Маму*). З-пад швэдра высунулася.

Тата (*зазірае ў шафу*). Ды гэта ж мая старая пальчатка. Адну ўзімку згубіў, а другую шкода выкінуць. Думаў, можа знойдзецца калі.

Дзяўчынка (*падбягае, зазірае за карціну*). Ну, а дзірка? Там жа дзірка была вялізарная!

Мама. Якая дзірка? Тая, што вы пракалупалі?

Т а т а. Я яе сёння з раніцы замазаў і зафарбаваў. Вы яшчэ спалі.

Х л о п ч ы к. А пляма чырвоная засталася ж.

М а м а. Відаць, ты сам яе намаляваў. Навыдумляюць сабе розных жахаў, а потым самі баяцца.

*Заслона.*

*Менск, 1990*

# БОЛЬШЫ І МЕНШЫ

*Фарс у двух актах*

Дзеючыя асобы:

Б а р м э н — за 30 гадоў, апрануты ў белую кашулю, гальштук-матылёк, шырокія нагавіцы, падперазаны пасам, гаворыць з інтанацыяй, якая не адпавядае сэнсу сказанага.

Г і с т а р ы ч н ы я а с о б ы (выконваюцца адным і тым жа акцёрам) — не маюць пэўнага ўзросту, з кожным новым з'яўленнем дэманструюць большую і большую ўладнасць як праяву пачуцця ягамосці. Ад плебея да рымскага пракуратара.

Ф у н к ц ы я н е р — гледзячы на яго, пачынаеш сумнявацца ў бессмяротнасці душы. Ветлівы на ўзроўні дрэсіроўкі. Шары гарнітур, кашуля пад колер памаранчавых чаравікаў, добра адпрасаваны гальштук, старанна, але не дасканала завязаны вузлом, кандова-афіцыяная скураная шапка без выдурванняў (такую рэч самому сабе набыць не ўзнікае жадання). Старанна прычасаны.

Н К В Д д з і с т — гігіенічны, як паталагаанатам: фрэнч, галіфэ, партупея, падкаваныя боты. Адсутнасць твару кампенсуецца гукавой рэальнасцю вопраткі: рыпеннем партупеі, металічным цокатам абцасаў. Наватбез зброі небяспечны для навакольных.

З э к — на першы погляд: галодныя вочы і больш нічога. Пры дэтальным даследаванні выяўляецца: закарэлая

шыя робіць незаўважным пераход ад каўняра ватоўкі да галавы. Пытанне ж, ногі босыя ці ў карычневых шкарпетках, для гледачоў застаецца нявырашаным. Раз-пораз не то чухае плячом вуха, не то спрабуе скінуць вухам насякомае.

П а э т - р э в а л ю ц ы я н е р — твар, як добра адрэтушаваны фотаздымак; сентыментальны анархіст, апрануты шыкоўна, але эклектычна.

А д р а д ж э н е ц — выкшталцоны да ірэальнасці, нават клінічна сур'ёзныя рэчы гаворыць з іроніяй. Апрануты на свой узровень сціпла і без прэтэнзій: мантыя кардынала і доктарская шапачка. Кніга ў руках глядзіцца будзённа, але манументальна.

В я л і к і к н я з ь — карона, меч двусечны, мантыя. Выдае на дзве галавы вышэйшым, чым ёсць на самай справе. Сваё генеалагічнае дрэва выводзіць ад рымскіх імператараў. Усведамляе сваю ўладу ад мора да мора. Палоннымі не гандлюе. Судзіць справядліва, хутка і на месцы.

Ч у ж ы н е ц — імперскі белы плашч у чорныя крыжы. Трымаецца раскавана і ўпэўнена, як намеснік Бога на зямлі, але не вышэй. Тыповы акупант на выездзе. Прытрымліваецца выслоўя: «Дзе кітаец — там Кітай».

Н а р о д:
Б о л ь ш ы — мае выгляд большага брата, атлет-мастадонт, гадоў каля 30, любіць насіць спартыўныя нагавіцы, рэакцыя запозненая, але грунтоўная.
М е н ш ы — мае выгляд меншага брата. Ведае, што ў тэатр прыходзяць у гарнітурах, як і на добрае вяселле. Цалкам адпавядае прымаўцы: «Дурны Зміцер, а хітры».

Д з я ў ч ы н а — гадоў 16—25, невыпадковы чалавек як у тэатры, так і ў бары. Апранута з правакацыяй.

К а б е т а — з істэрычным голасам, гадоў пад 50.

П і я н і с т — былы студэнт кансерваторыі, алкаголік.

П р ы б і р а л ь ш ч ы ц а — звычайная прыбіральшчыца, з вядром, швабраю і мокраю анучаю.

Г о л а с р э ж ы с ё р а з к у х н і — голас сапраўднага рэжысёра з сапраўднай кухні; з’яўленне ва ўласнай асобе неабавязкова.

## ПРАЛОГ

Фае перад гасцёўняй у Доме інтэлегента. У гасцёўні працуе бар. На ўваходзе ў фае сядзіць К а б е т а і правярае білеты. Каля яе шмаруе падлогу мокрай анучай П р ы б і р а л ь ш ч ы ц а, між іншым злосна ляпае анучай па абутку публікі.

П р ы б і р а л ь ш ч ы ц а (*да Кабеты*). Ідуць, ідуць. Куды? А на што? Спакою няма.

К а б е т а згодна ківае галавой.

П р ы б і р а л ь ш ч ы ц а. Натопчуць, зямлі нанясуць — і адкуль яна толькі бярэцца, з неба, ці што? Ідуць у тэатр, а ногі выцерці лянуюцца. У адным месцы прыбярэш, а яны ў другім напаскудзяць. Там намыеш — тут не ўступіць, як у прыбіральні. Не, каб на адным месцы таўкліся, а то на чыстае шчэмяцца. (*Да публікі.*) А ў прыбіральню — не зайсці, прыходзяць і п’юць там (*з агідай плюе на падлогу*). Пайду перад стойкаю хоць трохі замяту.

П р ы б і р а л ь ш ч ы ц а ідзе ў гасцёўню да стойкі, дзе шмаруе падлогу і паўтарае свой маналог Б а р м э н у.

За пяць мінут да пачатку спектакля з вуліцы імпэтна заходзіць Б о л ь ш ы, не звяртаючы ўвагі на К а б е т у, кіруецца да дзвярэй гасцёўні.

К а б е т а. Стаяць! Назад! Куды?

Б о л ь ш ы (*спыняецца з паднятаю нагою*). Я ў бар.

К а б е т а. А я думала, у прыбіральню. Бар не працуе. Сёння спектакль.

Б о л ь ш ы (*ківае*). Падхадзяшча! (*Кіруе далей.*)

К а б е т а. Што «падхадзяшча»? А квіток? (*Дастае і паказвае яму квіток.*)

Б о л ь ш ы (*неахвотна вяртаецца і купляе квіток*). Ладна, маць, угаварыла.

З дзвярэй бара вызірае М е н ш ы.

М е н ш ы. Гэй! (*Махае рукамі Большаму.*)

Б о л ь ш ы (*заўважае Меншага, здзіўлена*). А ты што тут робіш?

М е н ш ы (*паціскае Большаму руку*). Зацягнулі культурны ўзровень павысіць.

Б о л ь ш ы. Хто?

М е н ш ы. Што?

Б о л ь ш ы. Зацягнуў?

М е н ш ы. А хто яго ведае, не памятаю. Пасля вяселля. (*Паказвае торбу праз плячо.*)

Б о л ь ш ы. Што?

М е н ш ы (*паказвае закаркаванае газетаю рыльца літровай бутэлькі*). Во.

Б о л ь ш ы. Падхадзяшча. Я як адчуваў, ногі самі прынеслі.

М е н ш ы (*ківае ў бок прыбіральні*). Пайшлі возьмем па сто грам.

К а б е т а. Заходзьце. Спектакль пачынаецца.

Гледачы заходзяць у гасцёўню, а Б о л ь ш ы і М е н ш ы знікаюць у прыбіральні.

## АКТ ПЕРШЫ

### *ДЗЕЯ ПЕРШАЯ*

Гасцёўня — бар у Доме інтэлігента. П р ы б і р а л ь ш ч ы ц а гучна шмаруе падлогу. На працягу пралога працуе бар. Б а р м э н прапануе гледачам каву, канапкі і г. д. і папярэджвае, што падчас спектакля продажу не будзе. З трэцім званком Б а р м э н сыходзіць. У гэты час і на працягу ўсяго спектакля да гледачоў за столікі падсаджваецца са сваім крэслам і шклянкай П і я н і с т і перашкаджае глядзець спектакль, пры гэтым увесь час просіць прабачэння.

П і я н і с т. Выбачайце, калі ласка, я тут да вас падсяду. (*Ставіць навідавоку шклянку, у якой плавае муха, і некаторы час моўчкі барабаніць пальцамі па стале.*) Выбачайце. (*Спахопліваецца і прыбірае руку.*) Гэта не цік, я піяніст... прафесійнае. (*Запускае палец у шклянку, спрабуе вылавіць муху.*) Во, народ, як наліў. Ты паглядзі, што там такое, ён не толькі мне так наліў. Мо, і вам трапіла? Я прашу прабачэння. (*Дастае і паказвае муху.*) Цвёрдая, халера. Выбачайце (*ціскае муху пальцамі*). Прыемнага вам усім апетыту (*бярэ шклянку ў рот, хоча зрабіць глыток, але перадумвае, кідае муху ў шклянку.*) Выбачайце. (*Пераходзіць да другога століка.*)

### *ПРАЯВА ПЕРШАЯ*

У гасцёўні раптоўна гасне святло. П р ы б і р а л ь ш ч ы ц а пазвоньвае вядром і спешна сыходзіць з залы. Праз хвіліну за стойкай бара на ўзроўні вачэй гледачоў запальваюцца сафіты. З-за фіранак з'яўляецца схаваны да гэтага Б а р м э н, ідзе да стойкі бара, бярэ флет (канічны фужэр), дэманстратыўна слініць палец і водзіць па верхняму абрэзу шкла. Флет гудзе.

Б а р м э н (*некаторы час гаворыць пад гудзенне*). Шчаслівы, хто чытае і хто слухае словы, бо набліжаецца час. Хвала і дзяржава на вечныя вякі. (*Ставіць флет, заходзіць за стойку.*) Я ёсць Альфа і Амега, пачатак і канец, які быў, ёсць і прыйдзе. Я брат вам і саўдзельнік у жалобе, і ў шчасці, і ў цярпенні. Я быў у духу ў дзень святочны, я пачуў ззаду гучны голас, нібы трубы. Я павярнуўся, каб пабачыць голас, і ўгледзеў сем залатых свячэй, і сярод іх — апранутага ў доўгія шаты і падпяразанага залатым пасам. Ён трымаў у правай руцэ сем зорак, а з вуснаў ягоных выходзіў востры двусечны меч. Я праваліўся, як мёртвы, а ён паклаў на мяне сваю руку: «Не палохайся, я першы і апошні, ды жывы; быў я мёртвы, а вось жыву вечна і ключы маю ад пекла і смерці. Ты пакутаваў і цярпеў, працаваў і знямогся, але маю проці цябе тое, што пакінуў ты першую любоў сваю. Дык прыпомні, адкуль выпаў, і рабі першую справу. Калі ж не, то хутка прыйду і зрушу светач твой з месца. Прынамсі, адно маеш добрае: ненавідзіш тое, што я ненавіджу. Не бойся нічога, што маеш цярпець; пераможцу дам камень белы з новым імем, якога ніхто не ведае. Але маю крыху проці цябе, бо даеш жанчыне жыць распусна, падманваць ды жэрці паганскія ахвяры. Я даў ёй час, каб пакаялася ў распусце, але не пакаялася. Вось кідаю яе на ложкі палюбоўнікаў, у вялікую тугу. І дзяцей яе заб'ю. Усе даведваюцца, што я разведчык сэрца і вантробаў. Кожны атрымае па справах сваіх...»

### *ПРАЯВА ДРУГАЯ*

Заходзяць Б о л ь ш ы і М е н ш ы, прыкрываючы твары ад святла сафітаў, на апошніх словах Б а р м э н а М е н ш ы ляпае дзвярыма.

Б о л ь ш ы. Сціхні.
М е н ш ы. А я што?..

Б о л ь ш ы чапляе нагою кабель. Гасне святло.

Б о л ь ш ы. Што за херня!
М е н ш ы (*запальваючы запалку*). Ну ты казёл!

Б о л ь ш ы выбівае запалку з рукі М е н ш а г а. Яны сова-юцца паміж столікаў з публікай. Запальваецца верхняе святло. Б о л ь ш ы і М е н ш ы сядаюць за кутні столік.

*ПРАЯВА ТРЭЦЯЯ*

Адчыняюцца дзверы каля стойкі і ўваходзіць Ф у н к ц ы я н е р. Падыходзіць да стойкі, кладзе папку і звяртаецца да Б а р м э н а, раз-пораз азіраецца на залу.

Ф у н к ц ы я н е р (*няўпэўнена*). Што там у вас? (*Паказвае пальцам на паліцу.*)
Б а р м э н (*разгублена*). Там? (*Азіраецца.*) Нічога.
Ф у н к ц ы я н е р (*тупа задумваецца*). А колькі часу?
Б а р м э н (*адразу адказвае*). Гадзіннік спыніўся. У нас спектакль. Вам пакінулі месца за першым столікам.
Ф у н к ц ы я н е р. А, гэта тут. (*Садзіцца.*) Не думаў. Пачынайце.

Гасне святло.

Г о л а с р э ж ы с ё р а з к у х н і. Першы акт вы не прапусцілі.
Ф у н к ц ы я н е р. А яго нельга было паказваць. Згодна з інструкцыяй камітэта па ахове дзяржаўных тайнаў.
Г о л а с р э ж ы с ё р а з к у х н і. Нават забароненае не перастае існаваць. Існуе незалежна ад свядомасці і па-за ёй.
Ф у н к ц ы я н е р. Вось і цудоўна, хай сабе існуе... толькі па-за свядомасцю.

Голас рэжысёра з кухні. Усім устаць. Хвілінай маўчання ўшануем памяць герояў першага акта, зарэзаных цэнзурай.

Запальваецца святло. З залы выходзіць Піяніст, садзіцца да фартэп'яна, пачынае граць «Марсельезу». Большы і Меншы ўстаюць, спяваюць. Большы — «Марсельезу» па-руску, Меншы — «Пагоню» (*шчыра*).

Меншы (*адначасова з Большым*).

*Толькі ў сэрцы трывожным пачую*
*За краіну радзімую жах, —*
*Успомню Вострую Браму святую*
*І ваякаў на грозных канях.*

*У белай пене праносяцца коні, —*
*Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...*
*Старадаўняй Літоўскай Пагоні*
*Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.*

Большы (*адначасова з Меншым*).

*И взойдёт за кровавой зарёю*
*Солнце правды и братства людей.*
*Купим мир мы последней борьбою,*
*Купим кровью мы счастье детей.*

*И настанет година свободы.*
*Сгинет ложь, сгинет зло навсегда,*
*И сольются в одно все народы*
*В вольном царстве святого труда...*

Функцыянер спрабуе ўцячы. Большы і Меншы хапаюць яго за рукі.

Большы. Стой, браток.
Меншы. Спявай з намі.

Тут П і я н і с т пераходзіць на джазавыя варыяцыі. Ф у н к ц ы я н е р вырываецца і ўцякае.

Ф у н к ц ы я н е р (*з-за дзвярэй*). Мы яшчэ вернемся!

М е н ш ы. Вернешся — лыч начысцім.

*ПРАЯВА ЧАЦВЁРТАЯ*

Уваходзіць К а б е т а.

К а б е т а. Цішэй. Што швэндаецеся? Не хочаце глядзець — сыходзьце (*паказвае на дзверы*). Ператварылі спектакль у вяселле.

М е н ш ы (*Большаму памяркоўна*). Для мяне вяселле не канчалася.

Б о л ь ш ы (*папіхаючы Меншага*). Сядай, покуль не выгналі. А ты, маць, супакойся.

Б о л ь ш ы і М е н ш ы сядаюць за свой столік. К а б е т а пільна да іх прыглядаецца і садзіцца непадалёк на прыстаўное крэсла.

Тым часам Б а р м э н налівае ў шклянку віно, падыходзіць да п і я н і с т а і без папярэджання ляскае вечкам інструмента. П і я н і с т ускрыквае і падхопліваецца. Б а р м э н моўчкі падае яму шклянку і робіць жэст рукой, каб сыходзіў у залу.

*ДЗЕЯ ДРУГАЯ*

*ПРАЯВА ПЕРШАЯ*

Верхняе святло гасіцца, запальваюцца сафіты за стойкай.

Б а р м э н. «...Ты маеш імя, быццам жывы, але ты мёртвы... Слухай і сцвярджай блізкае да смерці, а калі не будзеш — прыйду да цябе, нібы злодзей, і

не пазнаеш, у якую гадзіну прыйду да цябе. Ёсць некалькі імёнаў, што не заплямілі вопраткі, яны пойдуць са мною ў белым, бо годны гэтага. Я маю ключ і адамкну дзверы, і ніхто не зачыніць. Бо ключ адмыкае — і ніхто не замкне, ды замыкае, і ніхто не зачыніць. Ты кажаш, што багаты і ні ў чым не маеш патрэбы. А не ведаеш, што ты гаротны і мізэрны, сляпы і голы. Раю табе набыць золата, каб разбагацець, ды белую вопратку, каб апрануцца, і каб не бачылі твайго сораму. Вось стаю пры ўваходзе і стукаюся; калі хто пачуе мой голас і адчыніць, я выйду да яго і буду вячэраць з ім. А перад пасадам будзе мора шкляное, падобнае да крышталю, а ў сярэдзіне ды наўкола чатыры жывёлы, поўныя вачэй спераду і ззаду...»

Пры канцы маналога Большы і Меншы невыразна перашэптваюцца. Накшталт: «Туды, сюды, выкінь, пастаў, бяры, налівай».

Большы бярэ са стала вазачку з папяровымі сурвэткамі, працірае імі вазачку, камечыць і кідае ў залу. Меншы дастае бутлю, налівае. Па чарзе п'юць. Закурваюць.

Кабета (*на апошніх словах маналога*). Во, быдла, вачэй не маеш. Пад шыльдай сядзіце. (*Гаснуць сафіты, запальваецца верхняе святло.*)

Большы. Шыльда, га? (*Паварочваецца.*)

Меншы. Вось дакурым і больш не будзем.

Большы. Да наступнага разу.

Кабета. Гасі цыгаркі! Людзі ж побач.

Большы. А што? Нават попельніцы не маеце (*зацягваецца і спрабуе загасіць цыгарэту аб стол*).

Кабета (*кідаецца да іх*). Мэблю псаваць не дам!

Большы (*выпускае дым Кабеце ў твар*) Мацьь, ты нам абрыдла.

Кабета. Прэч адсюль!

М е н ш ы. А нам тут падабаецца.

К а б е т а (*звяртаецца да залы*). А вы што паселі і не варушыцеся? Мне адной гэта трэба? Вазьміце грамадою ды выкіньце іх.

Б о л ь ш ы. Давай, агітуй. Бойкі хочаш? Зараз зробім, гэта нам як два пальцы абцурболіць.

К а б е т а. Што, мужыкоў няма?

М е н ш ы. Крычы, крычы, тут інтэлігенты адны.

Б о л ь ш ы. Ну, хто з намі раз-на-раз? (*Гасіць цыгарэту аб стол.*)

К а б е т а (*штурхае стол*). Ратуйце!

М е н ш ы спрактыкавана ловіць бутэльку.

Б о л ь ш ы (*хапае вазу з кветкамі і выплёсквае Кабеце ў твар*). Звалі!

К а б е т а скуголіць і ўцякае з залы.

Б о л ь ш ы (*да Бармэна*). Давай, не звяртай на нас увагі.

М е н ш ы. Давай, пачынай сваю цягамоціну.

Б о л ь ш ы. Раней пачнём, раней скончым.

Б а р м э н. «...Бачыў я кнігу, запісаную ў сярэдзіне і звонку, запячатаную сям'ю пячацямі. Хто годны разгарнуць кнігу і зняць пячаці? І ніхто не здатны разгарнуць кнігу і глянуць у яе. Плакаў я, што не знайшлося нікога годнага разгарнуць і прачытаць кнігу, і нават глянуць у яе...»

## *ПРАЯВА ДРУГАЯ*

Адчыняюцца дзверы каля стойкі, на парозе з'яўляецца Н К В Д д з і с т. Б а р м э н яго не бачыць.

М е н ш ы (*заўважае НКВДдзіста, хавае бутэльку*). Ну, усё. Антракт.

Б о л ь ш ы. Гамбец. Звальваем.

Большы і Меншы збягаюць у фае.

Бармэн. «...Той прыйшоў і ўзяў кнігу. А як узяў, чатыры жывёлы і дваццаць чатыры старыкі ўпалі перад абліччам ягоным...»

НКВДдзіст (*гучна і спакваля падыходзіць да стойкі, папраўляючы рэмень партупеі*).

Бармэн (*губляючы голас, шэптам*). «...І спяваюць новую песню, мовячы: ты годны ўзяць кнігу ды зняць пячаць — бо цябе закалолі і ты крывёю адкупіў нас з кожнага народу і мовы...»

НКВДдзіст. Імя?

Бармэн. Бармэн.

НКВДдзіст (*дастае пасведчанне*). У нас ёсць сігнал. Вы тут хаваеце бомбу.

Бармэн. Вы спазніліся (*паказвае гадзіннік*).

НКВДдзіст (*глядзіць на свой гадзіннік*). Усё дакладна, 37. Мы ніколі не памыляемся і не позрімся. Гэта вы паблыталі васьмёрку з тройкай, яны вельмі падобныя адна да другой. Зброю, лістоўкі і пракламацыі на стол.

Бармэн (*дастае з-пад стойкі пачак улётак і кідае ў залу*). Бяры.

НКВДдзіст (*выцягвае пісталет*). Не рухацца. Сядзець. Усе арыштаваны.

Гасне святло.

Голас рэжысёра з кухні. Гэта белая пляма нашай п'есы. Выбачайце, чорная дзірка. Нейкая свалата прапаліла сцэнарый цыгаркаю.

Валтузня перад стойкаю. Запальваецца святло. Бармэн за стойкаю, ад яго ідзе босы НКВДдзіст, замест фрэнча на ім ватоўка, у рукавы якой усунута доўгая палка (дрэўца ад сцяга).

*ПРАЯВА ТРЭЦЯЯ*

У супрацьлеглыя дзверы заглядаюць Б о л ь ш ы і М е н ш ы.

Б о л ь ш ы. Глядзі, гэта ж той самы мухамор.

М е н ш ы. Адразу не пазнаць.

Б о л ь ш ы (*НКВДдзісту-Зэку*). Хадзі сюды, паскуда.

М е н ш ы. Лярва фашысцкая (*падскоквае да Зэка і б'е пад дых*).

Б о л ь ш ы. Пачакай. Лыч яму яшчэ натаўчэм.

З э к. Хлопцы, я ж свой, я ваш. Я такі ж, як і вы. Мы народ, мы адзіны. Я дзеля вас жыццё паклаў — і не адно. Я за вас, за Радзіму, за свабоду, за волю, за рэвалюцыю рукі ў кроў запэцкаў і ногі. Мне загадвалі — я верыў, выконваў абавязак. Сябе не шкадаваў, дзяцей, жанчын (*пачынае румзаць, спрабуе выцерці нос аб ватнік*). (*Да Бармэна.*) У цябе піва ёсць? Чалавеку блага.

Н К В Д д з і с т млее і падае на падлогу. М е н ш ы і Б о л ь ш ы падхопліваюць яго за палку і цягнуць за свой стол. Б а р м э н дастае бутэльку мінеральнай вады.

Б а р м э н. Піва няма, ёсць толькі мінеральная вада «Арарат».

Б о л ь ш ы. Знайдзі.

М е н ш ы (*ідзе да стойкі бара*). Зрабі цуд.Ператвары ваду ў піва.

Б а р м э н. Не магу.

М е н ш ы. Не можаш? Яго ж у Зэка ператварыў.

Б а р м э н. Добра, але ж толькі ў віно. Чырвонае. (*Падае бутэльку.*) Лібэртэ, Эгалітэ, Алігатэ і Кагор. Прычашчайся.

М е н ш ы (*забірае бутэльку*). Во фігляр.

Б а р м э н (*наўздагон Меншаму*). Ён табе што заўгодна ў кроў ператворыць.

М е н ш ы разлівае бутэльку на трох.

Н К В Д д з і с т спрабуе ўзяць шклянку зубамі. М е н ш ы і Б о л ь ш ы п'юць, не звяртаючы на яго ўвагі.

Н К В Д д з і с т. Палку выцягні!

М е н ш ы. У цябе рукі брудныя, шклянку запэцкаеш.

Б о л ь ш ы. Галавой працуй.

Н К В Д д з і с т (*устае, нахіляецца адным бокам і бярэ шклянку, але не можа сагнуць руку ў локці*). Хлопцы, хоць трошкі пацягніце палку.

Б о л ь ш ы. А ты нам такі больш падабаешся.

М е н ш ы. Так ты да чалавека падобны. Калі ты такі, табе верыць хочацца.

Б о л ь ш ы. Хто ўстаўляў тую палку, той хай і выцягвае. Мо, так і трэба. Не нам думаць.

З э к. Суайчыннікі! Браты і сёстры, памажыце!

Б о л ь ш ы. Зараз лыч натаўчэм, па-брацку.

М е н ш ы. Занудлівы ты хлопец.

Б о л ь ш ы і М е н ш ы ўстаюць і выносяць З э к а за дзверы. Вяртаюцца з поўнай зэкавай шклянкай.

М е н ш ы (*садзіцца за столік*). Чаго цягнеш, давай, разлівай!

Б о л ь ш ы (*са шклянкаю азіраецца*). Гэта не тваё. Вунь каза якая.

М е н ш ы. Файная баба. Хто пойдзе? Давай выкінем.

Б о л ь ш ы і М е н ш ы выкідаюць на пальцах, лічаць і выпадае М е н ш а м у.

М е н ш ы. Давай шклянку, я пайшоў.

Б о л ь ш ы (*штурхаючы Меншага ў грудзі*). Сядзі, я за цябе пайду. (*Ідзе да століка ў цэнтры залы, па дарозе вырывае крэсла з-пад Піяніста і падсаджваецца да Дзяўчыны.*) На. (*Працягвае

*шклянку.*)

Д з я ў ч ы н а (*адсоўваецца*). Вы ж зблыталі — я не са спектакля.

Б о л ь ш ы. Ну і добра (*падсоўвае крэсла, спрабуе яе абняць*). Я з вуліцы прыйшоў.

Д з я ў ч ы н а (*скідае яго руку, адсоўваецца*). Што за ідыёцкія сцэны? Пайшоў!

Б о л ь ш ы (*устае, забірае шклянку*). Ну, як сабе хочаш. (*Звяртаецца да глядачкі.*) Мо ты возьмеш? (*Прапануе шклянку.*) А я табе і не дам. Самім мала. (*Выпівае, ставіць выпадковым гледачам шклянку на стол.*) Праз пяць хвілін падыду, каб поўная была! (*Вяртаецца за свой столік, крычыць Бармэну.*) Працягвай, давай!

## *ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ*

### *ПРАЯВА ПЕРШАЯ*

Гасне верхняе святло, запальваюцца сафіты. Б о л ь ш ы і М е н ш ы закурваюць.

Б о л ь ш ы (*Меншаму*). Бачыш, якая, мяне за акцёра прыняла. А ў цябе на мордзе напісана, што плуг ты...

Б а р м э н. Вось белы конь, і конніку на ім дадзена ўзяць мір на зямлі, ды каб свае сваіх забівалі, і дадзены яму меч велізарны, і пекла следам за ім; бо дадзена яму ўлада забіваць на чацвёртай частцы зямлі мячом, і голадам, і смерцю. Убачыў я пад ахвярнікам душы забітых за слова і сведчання, што мелі; загаварылі: дакуль не судзіш і не помсціш за кроў нашу? Было сказана ім, каб супакоіліся, покуль прыйдуць браты іхнія, што будуць забітыя, як і яны. Быў вялікі землятрус і сонца пацямнела, як валасяніца; а месяц зрабіўся, як кроў; і зоркі паспадалі на зямлю, а неба згасла, скруцілася, як сувой; і кожная гара, і выспа скра-

нуліся з месцаў сваіх. Уладары зямлі і магнаты, асілкі, і кожны раб, і кожны вольны паўкрываліся ў пячорах і ў горных расколінах: «Зваліцеся на нас, укрыйце нас», — бо настаў вялікі дзень гневу, і хто здолее ўстаяць.

*ПРАЯВА ДРУГАЯ*

Адкрываюцца дзверы каля стойкі, на парозе з'яўляецца П а э т - р э в а л ю ц ы я н е р. Запальвае верхняе святло, гаснуць сафіты.

П а э т - р э в а л ю ц ы я н е р.

*Прэч бутэлькі, люлькі, карты,*
*Марна траціць час не варта.*
*Хай жывыя рушаць з кіем*
*У святы паход.*
*Хай жа ўсе, усе, хто можа,*
*Возьмуць свой кіёк дарожны,*
*У край айчыны час ісці нам,*
*Вывучаць свой люд.*
*Нас не край далёкі кліча*
*Вывучаць чужы нам звычай,*
*Нас чакае ў нашым краі*
*Родны наш народ.*
*Сонцу нашаму свяціцца,*
*Піць нам са сваіх крыніцаў, —*
*Вымятаем дружна з краю*
*Мы замежны бруд.*

Б а р м э н пляскае ў далоні.

П а э т (*азіраецца*). Што так змрочна ў вас, дзе штандары, дзе сымболіка? Колькі часу?

Б а р м э н. Дзяды.

П а э т. Цяпер зразумеў. Усе штандары на вуліцу панеслі. (*Да залы.*) Жыве Беларусь!

Г а л а с ы з з а л ы. Жыве!

Б о л ь ш ы. Будзьма!

М е н ш ы. Гэй! (*Грымяць шклянкамі.*)

П а э т. Вы што паселі — там людзі гінуць. Уставайце, жывыя, бо калі не сёння, то ніколі. Гэта апошні шанц, дадзены нам гісторыяй. Калі ж не, то заўтра мы перастанем існаваць. Усе падняліся, адны вы спіцё.

Б а р м э н. Хто мае вуха, слухай; хто мае вочы, глядзі.

П а э т. Ты хто такі, каб вучыць нас? Мы маем сваіх багоў.

Б а р м э н. І шмат яны вам дапамаглі?

П а э т. А ты дапамог? Што ты крачаш, груган! Кра-кра (*на апошніх словах пачынае кашляць*).

Б а р м э н (*падае бутэльку*). На, запі.

П а э т (*бярэ бутэльку*). Дзякуй. (*Шукае шклянку.*)

М е н ш ы (*устае, махае рукой*). Гэй, дзядзька, хадзі да нас, у нас шклянкі ёсць. (*Хапае шклянку з суседняга століка.*)

Б о л ь ш ы. Выпі з намі, мужык.

П а э т (*падыходзіць да іх століка, падае бутэльку*). Толькі хутчэй, каб не спазніцца.

М е н ш ы (*спрытна, рупліва разлівае*). Будзьма!

Б о л ь ш ы. Гэй!

Б о л ь ш ы і М е н ш ы п’юць. П а э т падымае шклянку, падносіць да вуснаў і ставіць назад.

П а э т.

*Ты, мой брат, каго зваць Беларусам,*
*Роднай мовы сваёй не цурайся;*
*Як не зрокся яе пад прымусам,*
*Так і вольны цяпер не зракайся.*
*Хто хацеў, той і смеў рабаваці,*
*Без прыпросу з’яжджаліся госці —*
*Абдзіраць, аб’яднаць, апіваці*
*І крышыць гаспадарскія косці.*
*Можа б, ты і памёр і загінуў,*
*Каб не вешчая мова Баяна.*
*Хто ж быў добры, яе хоць пакінуў?*

*Як жа так, што яшчэ не забрана?*
*Бо што бачылі госцікі-гэрцы —*
*І зямлю, і лясы, і кілімы, —*
*Усё забралі. А мову ў сэрцы,*
*У сваім сэрцы хавалі-нянчылі мы.*
*Дык шануй, Беларус, сваю мову —*
*Гэта скарб нам на вечныя годы;*
*За пашану радзімаму слову*
*Ушануюць нас брацця-народы!*

П а э т. Збірайцеся. Пайшлі змагацца.
М е н ш ы. З кім?
Б о л ь ш ы. Куды?
П а э т. Не з кім, і не куды, а за што.
*Мы — Беларускі рух,*
*З намі славянскі дух.*
*Покі сумленне ёсць,*
*Мы — Беларускі лёс.*
*Я праклінаю тых,*
*Хто ачырвоніў штых*
*Смерцю маіх дзядоў,*
*Я не дарую кроў.*
*Брат мой, брат Беларус,*
*Годзе трымаць прымус,*
*Стань пад штандар са мной,*
*Разам аббесцім бой*
*Супраць сваёй брыды,*
*За вызваленне з бяды,*
*Супраць варожых зграй,*
*За Беларускі край.*
*Покі сумленне ёсць*
*Мы — Беларускі лёс.*
*З намі славянскі дух.*
*Мы — Беларускі рух.*

Б о л ь ш ы і М е н ш ы ўстаюць і сыходзяць за П а э - т а м. За дзвярыма пачынаюць скандзіраваць.

Б о л ь ш ы і М е н ш ы. Вандэя! Ван-дэ-я! Ван-

дэ-я! Ван-дэ-я! (*Чуюцца крыкі і тупат ног. Большы і Меншы забягаюць у залу.*)

Б о л ь ш ы. Файнае слова — «Вандэя».

М е н ш ы. Наша, лёгка крычаць — Вандэя!

Б о л ь ш ы. А што такое «Вандэя»?

М е н ш ы. А хер яго ведае. Мо, ён скажа? (*ківае на Бармэна*).

Б о л ь ш ы. Гэй, мужык, ты тут разумнага з сябе строіш. Што за «Вандэя»?

Б а р м э н. Гэта выклічнік, як «шайбу-шайбу», толькі горш, быццам матам лаешся.

М е н ш ы. А то я гляджу, як на нас кінуліся.

Б а р м э н. Добра зрабілі, што назад вярнуліся. Ён бы вас завёў, скуль не вернешся. Тут сядзі, пі віно і кажы, што хочаш, і ўратуецеся.

Б о л ь ш ы і М е н ш ы сядаюць за столік.

Б о л ь ш ы. Во завёў, да турмы.

М е н ш ы. Яшчэ б трошкі і пасадзілі б. Ледзь уцяклі.

Б о л ь ш ы. Вось і слухай такіх. Шызік нейкі.

М е н ш ы. Вар'ят, за краты захацеў.

Б о л ь ш ы. Знайшоўся дэмакрат: з-за такіх, як ён, і нас перасадзяць.

М е н ш ы (*хапае шапку паэта*). Вось, і віно не ўзяў, не паважае.

Б о л ь ш ы. Намі грэбуе. Пакажы? (*Забірае ў Меншага шклянку.*) Потым дап'ем.

Г о л а с р э ж ы с ё р а з к у х н і. Антракт.

*Антракт*

Адразу ж у залу заходзіць П р ы б і р а л ь ш ч ы ц а, прыбірае кветкі і выцірае ваду з падлогі.

П р ы б і р а л ь ш ч ы ц а (*да залы*). Мыеш, мыеш. Канцу-краю не відаць. Дзе ж я паспею — адна, а вас вунь колькі. І каб сядзелі — а то ходзяць і

ходзяць. Так ніколі парадку не будзе. Вось каб кожны за сабой прыбіраў: сагнуўся і прыбіраў, сагнуўся і прыбіраў. Думалі б спачатку, перш чым смецце варушыць. Кажаце, спектакль прыйшлі глядзець? Не! смецце раскідаць. Што хочаш у смецце ператвораць — нават кветкі, ды яшчэ нагамі патопчуць. «Дом інтэлігента» называецца — прыходзяць і паскудзяць. І ў прыбіральні п'юць. Не, з такімі парадку ніколі не будзе. Каб гаспадара ў дом, то й чысціня б была. Хадзілі ж раней у ботах і не смецілі, наадварот — стэрыльнасць адна, як у бухалтэрыі. Баяліся, каб волас з галавы ўпаў. (*Сыходзіць у фае, дзе шмаруе падлогу: паўтарае маналог.*)

У час антракту Б о л ь ш ы і М е н ш ы чапляюцца да гледачоў.

Б о л ь ш ы. Мужык, дай запаліць. (*Бярэ цыгарэту і закладае за вуха.*)

М е н ш ы. Во глядзі, якая цялушка пайшла крываногая.

Б о л ь ш ы. Шпранцаватая (*закладае цыгарэту за вуха*). Такіх не куру. (*Чапляецца да наступнага.*)

Пасля трэцяга званка М е н ш ы і Б о л ь ш ы становяцца ў дзвярах. Чапляюцца да Д з я ў ч ы н ы.

Б о л ь ш ы. Пачакай, сядай з намі.

М е н ш ы. З намі весялей.

Д з я ў ч ы н а спрабуе прайсці, М е н ш ы заступае дарогу.

М е н ш ы. Што, ты з намі выпіць грэбуеш?

Д з я ў ч ы н а прарываецца і бяжыць да свайго століка.

Б о л ь ш ы. Мы цябе пасля спектакля падпільнуем. (*Сядаюць за столік.*)

## АКТ ДРУГІ

### *ДЗЕЯ ПЕРШАЯ*

### *ПРАЯВА ПЕРШАЯ*

Гасне святло. Уключаюцца сафіты.

Б а р м э н. Звалілася з неба велізарная зорка, як паходня палаючая, і ўпала на крыніцы з вадой; імя зоркі чытаецца Палын. Многа людзей загінула ад той вады, бо прагоркла; і дадзены быў ёй ключ ад калодзежа Бяздоння. Узняўся з калодзежа дым, быццам дым з велізарнае печы, і зацьмілася сонца і паветра. Выйшла на зямлю саранча і дадзена ёй улада, каб не забівала на смерць, але каб мучыла. У гэтыя дні людзі шукацьмуць смерці і не знойдуць яе. Будуць жадаць памерці, ды смерць уцячэ ад іх. З выгляду саранча падобная да коней, на галовах у яе залатыя вянкі, і чалавечыя твары, а валасы жаночыя, і зубы, як у львоў. Адно гора прайшло, і бачыў я коняў у прывідзе і коннікаў на іх, што мелі панцыры агністыя. Была забіта трацiна людзей, што не былі пазабіваны пошасцю гэтаю, не пакаяліся ў справах рук сваіх, і не пакаяліся ў забойствах, а ні ў распутнасці, а ні ў крадзяжах сваіх. Убачыў я іншага, дужага. Апрануты ён быў у хмару і над галавою меў вясёлку, а твар напалову як сонца, напалову як месяц. У руцэ ягонай была кніга разгорнутая. Паставіў ён правую нагу на мора, а левую на зямлю.

### *ПРАЯВА ДРУГАЯ*

Гаснуць сафіты, запальваецца верхняе святло. У залу з боку стойкі заходзіць А д р а д ж э н е ц з кнігаю ў руцэ.

Б о л ь ш ы. Во, глядзі, яшчэ адзін з папкай зайшоў.

М е н ш ы. Гэта ж той самы. Шапку на вушы нацягнуў і думаў, не пазнаем.

А д р а д ж э н е ц (*да залы*) Нарэшце вярнуўся я ў свой край. Быў я на далёкім Захадзе і глыбокім Усходзе. Быў каталікам і быў праваслаўным. Браў веды і аддаваў іх. Быў я вучнем і настаўнікам на Захадзе, бо любілі мяне каралі. Але не за тое, што валодаў словам і навукамі, а за тое, што быў пры гэтым чужынцам. На Усходзе давялося стаць воінам, бо хацелі прыняць мяне як свайго. А таму спалілі ў Маскве кнігі, што я выклаў на жывой мове. І ўбачыў я, што паўсюль нішчаць жывое — мёртвым, мову — маўчаннем. І думаў я: хто мае мову — той жывы, хто маўчыць — той мёртвы. І напісаў я, каб нямыя загаварылі, каб вы, хто маўчыцё і забыліся словаў, прачыталі ўголас і каб пачулі вас і сказалі ва ўсіх землях — яны ёсць, а калі ёсць — то былі і будуць. (*Прыўзнімае кнігу.*) Вось справа рук маіх, вось мой запавет. (*Паварочваецца да Бармэна.*) Што маеш?

Б а р м э н. Слова. А ты?

А д р а д ж э н е ц. Кнігу на мове.

Б а р м э н. Кнігу маеш у думках сваіх, а ў руках нашто?

А д р а д ж э н е ц. Каб жыць вечна.

Б а р м э н. Ты ўжо мёртвы.

А д р а д ж э н е ц. А колькі часу?

Б а р м э н. Час Усходу і час Заходу. Гадзіна адкрыцця і гадзіна закрыцця сонца і месяца.

А д р а д ж э н е ц. Ты маеш словы, і яны паміраюць ў роце тваім; я маю кнігу, і думкі ў ёй жывуць вечна. Кніга мёртвая, ды жывая, а ты гаворыш, нібы жывы, ды мёртвы, бо словы гінуць раней за цябе.

Б а р м э н. Ты толькі тлумачыш словы мае, кніжнік. Гэта ты забіваеш словы мае, яны за кратамі ў тваіх сказах, вершах, кнігах. Мае словы жывуць па-за мовамі, па-за кнігамі. Ты высушваеш

іх, як кветкі паміж старонак, і кажаш: вось кветкі палёў маіх, ідзіце і глядзіце, а паказваеш гербарый. (*Бярэ з палічкі два пачкі гарбаты ў дзве рукі і ўзважвае.*) Вось справа рук тваіх.

А д р а д ж э н е ц. Ты гаворыш спачатку адно, а потым другое, і ніхто не можа дагадзіць табе. І судзіш адных за першае, а другіх за другое. А я не суджу нікога. Мае кнігі маюць форму, і аб'ём, і вагу, і змест. Я даю шчасце і прыгажосць сёння, а ты абяцаеш — і дзе яно? Ты гандлюеш целам і кроўю, хлебам і віном, і думкі твае, як пыл, змяшаны з дымам, не маюць ні колеру, ні мяжы. Ты гаворыш пра ўсё і ні пра што.

Б о л ь ш ы. Гавораць, гавораць, галава пухне, у дзверы не ўлезеш.

М е н ш ы. Не, каб бабу голую паказаць, як абяцалі, а то выдурваюцца адзін перад адным.

Б о л ь ш ы (*да Бармэна*). Ты налі яму: што, не бачыш, ён выпіць хоча, а як вып'е, то і павесялее.

М е н ш ы. Калі самі не ўмееце, то мы вам наладзім вяселле.

Б о л ь ш ы (*Меншаму*). Сабачае.

Б а р м э н (*дастае бутэльку і ставіць на стойку*). Ты для каго пішаш? Для іх? Дык ідзі да іх. Чуеш, клічуць?

А д р а д ж э н е ц ідзе праз залу.

Б о л ь ш ы. Бутэльку забыўся.

М е н ш ы. Нясі да нас.

Б о л ь ш ы. Не чуе. (*Меншаму.*) Збегай ты, покуль святло не патушылі.

М е н ш ы бяжыць да стойкі, але Б а р м э н прыбірае бутэльку.

Б а р м э н (*Меншаму*). Сядзь на месца і супакойся. Гэта не для вас. З вас ужо хопіць.

Б о л ь ш ы (*Адраджэнцу*). Ну ты і казёл. Што, не мог прыхапіць? Бачылі мы такіх разумных з папкамі ды вершамі, ледзь уцяклі.

А д р а д ж э н е ц выходзіць на сярэдзіну залы, разгортвае кнігу і збіраецца чытаць. М е н ш ы падыходзіць ззаду і загортвае кнігу.

М е н ш ы. Хопіць з нас. Наслухаліся. Хараствoм дзіркі не заткнеш.

Б о л ь ш ы (*пляскаючы ў далоні*). Звальвай, давай хутчэй пераапранайся.

А д р а д ж э н е ц махае рукой Б а р м э н у і годна выходзіць з залы. М е н ш ы вяртаецца да свайго месца.

М е н ш ы. Ну што будзем рабіць? Я больш не вытрымаю. Здурэць можна.

Б о л ь ш ы. Ні выпіць, ні пад'есці, ды ў горадзе крамы пазачынялі. Во ўліплі.

М е н ш ы. Можа, як гэта нудоціна скончыцца, бар ізноў адчыняць?

Б о л ь ш ы. Перачакаем. Усё адно няма куды падацца. (*Дастае калоду картаў.*)

М е н ш ы. Тое, што трэба. Тут не электрычка, гуляць можна. Габлюй, у дурня згуляем.

Б о л ь ш ы і М е н ш ы пачынаюць гуляць у карты.

## *ДЗЕЯ ДРУГАЯ*

### *ПРАЯВА ПЕРШАЯ*

Гасне верхняе святло. Запальваюцца сафіты. Б о л ь ш ы і М е н ш ы закурваюць.

Б а р м э н. І голас прамовіў да мяне і сказаў: ідзі, вазьмі кнігу, разгорнутую ў руцэ таго, што

стаіць на моры і зямлі. Кажа мне: ідзі, вазьмі ды з’еш яе. І зробіць яна табе горка ў жываце, але ў вуснах тваіх будзе салодкая, як мёд. Узяў я кнігу з рукі, ды з’еў яе, а як з’еў — прагорк жывот мой. І чую: ты мусіш ізноў прарочыць аб народах і плямёнах, і мовах, і царах. Была дадзена мне палка, падобная да булавы. І сказана: ідзі і памерай Храм і ахвярнік, і тых, хто ў ім пакланяюцца. А панадворак кінь ды не мерай яго, бо дадзены паганцам. Дам двум сведкам маім уладу замкнуць неба, каб не падаў дождж, і дам уладу над водамі ператвараць іх у кроў і біць зямлю ўсялякаю пошасцю, колькі б хацелі. А калі скончаць сведчанне сваё, звер, што выйдзе з бездані, учыніць вайну, пераможа і пазабівае іх. І трупы іх будуць на вуліцы вялікага горада, і не дазволяць пахаваць іх. Жыхары будуць цешыцца і весяліцца, бо гэтыя двое мучылі іх, а цераз тры дні і паўдня жыццё вернецца да іх і паўсталі на ногі свае. Страх вялікі напаў на тых, хто бачыў гэта. Пачуўся голас з неба: узыдзіце сюды. Узышлі на неба ў хмары, і бачылі іх ворагі. Узлавалі паганцы, бо прышоў гнеў, і пара судзіць мёртвых, і час судзіць, і даць узнагароду; і вынішчыць тых, хто нішчыць зямлю. Расчыніўся Храм у небе, і з’явілася скрыня запаветаў. Пайшлі маланкі і галасы, грымоты і землятрус, ды град вялізарны. І знак вялізарны з’явіўся на небе.

### *ПРАЯВА ДРУГАЯ*

На апошнім сказе Б а р м э н а ў дзвярах каля стойкі з’яўляецца В я л і к і К н я з ь у кароне і з двусечным мячом. Гаснуць сафіты, запальваецца верхняе святло.

В я л і к і К н я з ь. Гэй, карчмар, налі віна.
Б а р м э н. Бар зачынены. (*Заходзіць за стойку.*)
В я л і к і К н я з ь. Ты чаму не на крыжы?
Б а р м э н. Час не той.

Вялікі Князь. Які гэта — не той?

Бармэн (*глядзіць на гадзіннік*). Залаты век ячшэ не сканаў.

Вялікі Князь. Ён на то і залаты, каб быць вечным. (*Кідае на стойку жменю манет.*) Налі!

Бармэн (*адсоўвае манеты*). Князю князева. Ты маеш уладу па той бок, а я па гэты. Ты ўладар на зямлі ад мора да мора, а я ад душы і да неба. Ты вялікі, ды мізэрны.

Вялікі Князь. Я такім, як ты, калы ў дупу забіваў, вантробы выпускаў ды ногі ў іх грэў. Я быў уладаром на гэтай зямлі і застаўся, а ты адкуль прыйшоў, туды і пойдзеш, разам з крыжам сваім.

Бармэн. Крыж свой я сам прынёс і пакінуў яго вам, каб вы неслі далей.

Вялікі Князь. Я загадаю, і ўсе забудуць цябе, і ўзыдзе новае сонца над маім краем.

Бармэн. Узыдзе сонца, ды гэта буду зноў я, бо я першы і апошні, як сонца, што ўзыходзіць ды заходзіць — адно сонца.

Вялікі Князь (*хапае Бармэна*). Дам у галаву і дух выб'ю, чарвяк. Мне няма роўных на зямлі і не будзе. Я спаліў Захад і Усход, патаптаў Поўдзень і Поўнач. Я вынішчыў усіх, хто меў слова супраць мяне.

Бармэн. Пусці. Я ж дапамагаў табе. Імем маім рабіў ты справы свае.

Вялікі Князь (*пускае Бармэна*). Ты быў мёртвы, а я ўзнёс цябе, бо браў усё, што жадаў. (*Здымае карону з галавы.*) Я ўзяў цябе разам з гэтым, вось кіну яе — і страціш уладу нада мной, а я сваёй улады не страчу.

Бармэн. Я не ў думках тваіх, а ў сэрцы.

Вялікі Князь. Ты маніш. У маім сэрцы няма страху, бо я воін, а ты — гандляр. І не твой крыж, а мой меч даў мне ўладу. (*Падымае меч і прыстаўляе вастрыё да Бармэнавага горла.*) Вось шахну між вушэй — і трэснеш напалам, як гарбуз.

Вялікі Князь нахіляецца і вольнай рукой выцягвае з-за стойкі тры бутэлькі віна.

Бармэн. Не я даю, ты сам бярэш.

Большы. Во крута мужык бярэ!

Меншы. Не данясе, паб’е.

Большы. Ідзі памажы.

Меншы. А што я? Як што, дык адразу я, да дзевак — дык сам.

Большы. І шклянкі прыхапі, свяжэйшыя. (*Ляпае па плячы Меншага.*) Пайшоў! (*Меншы валіцца на падлогу і на карачках паўзе праз усю залу да Князя.*)

Падчас спрэчкі Большага і Меншага Вялікі Князь азіраецца і сочыць за імі. Меншы падпаўзае да Вялікага Князя і хапаецца за бутэлькі.

Меншы. Дазвольце паднесці.

Вялікі Князь. Прэч! Быдла! (*Адштурхоўвае нагою Меншага і аўтаматычна замахваецца мячом.*)

Меншы (*адпаўзае спіною наперад*). Ты што? Вы што?

Князь праходзіць наперад, азіраецца, кідае адну бутэльку Меншаму і ідзе праз залу. Меншы апярэджвае яго і адсоўвае крэсла.

Большы. Калі ласка, калі ліска. (*Паказвае рукою на крэсла.*)

Вялікі Князь (*сядае і ставіць бутэлькі на стол*). Келіх!

Большы (*стоячы, Меншаму*). Келіх Вялікаму Князю!

Меншы бяжыць па шклянкі. Большы адкаркоўвае і налівае толькі Князю. Меншы спрабуе схаваць адну бутэльку. Князь хапае яго за вуха.

Вялікі Князь. Месца! (*Падымае шклянку.*) За Радзіму! (*П'е нагбом, кідае шклянку ў камін.*)

Голас рэжысёра з кухні. Княжа, зноў навала!

Вялікі Князь. Адкуль гэтым разам? З Заходу ці Усходу? (*Устае.*)

Голас рэжысёра з кухні. Як заўсёды — адусюль.

Вялікі Князь (*да залы*). Зброю маеце?

Большы. Маем (*дастае і паказвае Князю брытву-галяк*).

Вялікі Князь. Будзь за гаспадара. Тут усё належыць мне, лішняга не бяры, толькі па дробязях — дзеўку якую. А яго (*паказвае на Бармэна*) не чапайце, у нас з ім свае рахубы. (*Вялікі Князь ідзе да дзвярэй.*) Вярнуся, спытаю. (*Сыходзіць.*)

Бармэн замыкае на ключ дзверы.

## *ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ*

### *ПРАЯВА ПЕРШАЯ*

Гасне святло. Запальваюцца сафіты.

Меншы. Я больш не вытрымаю. На ваніты бярэ. Трындзіць і трындзіць.

Большы (*да Бармэна*). Даю табе пяць хвілін, каб скончыў. Я папярэдзіў.

Меншы. Я хвіліны не вытрымаю. Пусці — заб'ю.

Большы. Пачакай, калі праз пяць хвілін не скончыць, мы ім свой канцэрт наладзім. Мы ж тут гаспадары. (*Да Бармэна.*) Ты чуў, што той з мячом сказаў?

Меншы. А хто гэта быў?

Большы. А хер яго ведае. (*Да Бармэна.*) Ну пачынай, твой час пайшоў.

Б о л ь ш ы  і  М е н ш ы наліваюць і п’юць.

Д з я ў ч ы н а. Ды супакойцеся вы! (*Ціха, убок.*) Быдла.

М е н ш ы. Што, што яна сказала?

Б а р м э н. На небе жанчына, апранутая ў сонца, і месяц пад нагамі ў яе. Была яна цяжарнаю, крычала ад болю і мук. І вось з’явіўся Чырвоны цмок з сям’ю галовамі і дзесяццю рагамі. І стаў цмок перад жанчынаю, каб, як народзіць, зжэрці дзіця. І нарадзіла сына, што мае пасвіць усе народы паліцай жалезнай. Уцякла жанчына ў пустыню, дзе мела прыгатаванае месца. А на небе ўзнялася вайна з цмокам чырвоным. Ды не асілілі яго, і не знайшлося ўжо месца на небе. Быў скінуты на зямлю цмок велізарны, што зводзіць з простай дарогі ўвесь свет. Пачуў я голас: настаў ратунак, бо скінуты паклёпнік на братоў нашых, што дзень і ноч вінаваціў іх брахліва. Перамаглі яго словам сведчання свайго, ды не ўзлюбілі душ сваіх ажно да смерці.

Б о л ь ш ы. Мінута прайшла.

М е н ш ы. Чык.

Б а р м э н. Як угледзеў цмок, што скінуты на зямлю, стаў гнацца за жанчынаю, што сына нарадзіла. І дадзены былі жанчыне крылы, каб паляцела на месца сваё ад аблічча вужакі. Раз’юшыўся цмок на жанчыну і пайшоў ваяваць з рэштай нашчадкаў яе, што захоўваюць запаветы і маюць сведчанне.

Б о л ь ш ы. Дзве мінуты.

М е н ш ы. Чык-чык.

Д з я ў ч ы н а. Ды сціхні!

Б о л ь ш ы. Тры мінуты.

М е н ш ы. Чык-чык-чык!

Б а р м э н. Стаў я на марскім пяску і ўгледзеў звера і адну з галоў яго, быццам забітую, ды здзівілася ўся зямля ззаду за зверам і пакланілася яму, кажучы: хто падобны да гэтага звера, хто здольны

змагацца з ім, бо дадзена яму баламуціць жыхароў знакамі і надзяляць абраз духам, каб абраз і гаварыў, і рабіў, каб тыя, хто толькі не пакланяцца, былі б забітыя. Ды каб ніхто не мог не купляць, не прадаваць, апроч тых, хто мае кляймо, або лічбу. Вось дзе мудрасць. Хто мае розум, аблічы лічбу звера, бо гэта лічба чалавека і лічба ягоная — шэсцьсот шэсцьдзесят шэсць.

М е н ш ы. Усё! (*Крычыць і стукае кулакамі па стале.*) Усё, я больш не магу. Ён з нас здзекуецца. (*Устае і цягне за вопратку Большага.*) Уставай, пайшлі разбярэмся.

Б о л ь ш ы (*устае*). Пяць мінут прайшло. (*Уздымае брытву, хукае на яе, працірае аб рукаво і крэсліць паветра. Да Бармэна.*) Ну, трымайся, паскуда: бачыш, да чаго чалавека давёў? Я табе дам.

М е н ш ы. Шэсцьдзесят шэсць! (*Да Бармэна*). Дзёўбель!

Б о л ь ш ы і М е н ш ы ідуць убок стойкі, па дарозе Б о л ь ш ы бярэ пасму валасоў Д з я ў ч ы н ы і наводмаш абразае брытвай. Д з я ў ч ы н а вішчыць і лезе пад стол.

Б о л ь ш ы. Маўчы, сучка, да скрынкі.

Б а р м э н (*да залы*). Ну ўсё, пачалося. Казалі ж: выкіньце іх — забаяліся, а цяпер самі разбірайцеся, я пайшоў. (*Ідзе на кухню, зачыняе за сабою дзверы.*)

*ПРАЯВА ДРУГАЯ*

Гаснуць сафіты, запальваецца верхняе святло.

М е н ш ы. Уцёк, свалата.

Б о л ь ш ы. І хрэн з ім. (*Да публікі.*) Мы вам сваё вяселле наладзім.

М е н ш ы (*азіраецца, прыглядаючыся да пуб-*

*лікі*). Каго возьмем?

Большы (*тыкае пальцам у гледачоў*). Ты! Не, ты!

Меншы (*пхае Большага*). Вунь там!

Большы (*не зважаючы на Меншага*). Лепш ты, коцік, кіска, выдра.

Меншы (*заўважае, што Дзяўчына спрабуе вылезці з-пад стала*). А, падла, куды?

Большы (*да Дзяўчыны*). Хадзі, хадзі сюды (*падманьвае пальцамі, брытвай*). Не бойся.

Дзяўчына ўскоквае і ўцякае. Меншы апярэджвае яе і становіцца ў дзвярах.

Меншы. Чык-чык-чык. (*Большаму*). Лаві, бяры, хапай!

Большы разганяецца і прамахваецца, яго заносіць на сцяну. Дзяўчына бяжыць да супрацьлеглых дзвярэй і пачынае тузаць ручку. Дзверы замкнёныя.

Большы. Уцячэ!

Меншы. Хапай, хапай!

Большы і Меншы ганяюцца за Дзяўчынай і, нарэшце, ловяць яе.

Дзяўчына (*падчас ловаў некалькі разоў крычыць*). Ратуйце! Ратуйце!

Большы (*хапае Дзяўчыну за валасы*). Сціхні, сучка.

Меншы. Хай крычыць, на вуліцы не чуваць.

Дзяўчына (*спрабуе ўкусіць і падрапаць Большага*). Пусці, падла!

Большы круціць перад яе тварам брытву

Меншы. Зараз чык — і ўсё.

Большы. Я сказаў: сціхні, бо парэжашся.

Д з я ў ч ы н а. Людзі, ратуйце, яны ж мяне зарэжуць, гэта ж не акцёры, яны з вуліцы прыйшлі — яны спачатку мяне, а потым вас усіх парэжуць. (*Пачынае плакаць, гаворыць праз слёзы.*) Пазабіваюць.

Б о л ь ш ы (*прыціскаючы да яе твару брытву*). Яшчэ слова — і саўешся!

М е н ш ы (*да гледачоў*). Маніць, маніць. Мы свае, мы ад таго (*паказвае ў бок стойкі*), мы ролю маем, каб вы не сумавалі. Сядзіце, сядзіце, усё нармальна.

Б о л ь ш ы. Я тут за рэжысёра, а ён за сцэнарыста, а гэта артыстка. Арыгінальны жанр. (*Ён адпускае Дзяўчыну, але брытву ад твара далёка не адводзіць.*) Танцы-шманцы.

М е н ш ы. Гэй, дзе той музыкант? А ну-ка, збацай нам што-небудзь з аэробікі.

Б о л ь ш ы (*да Піяніста*). Ты што лыч адварочваеш? Хутчэй. (*Дзяўчыне, што злёгку тузаецца.*) Танчыць будзеш!

П і я н і с т выходзіць з залы і садзіцца за інструмент.

М е н ш ы (*да Піяніста*). Паланэз грай (*задумваецца*), Агінскага. Трам-тарам (*напявае першыя такты*).

П і я н і с т грае паланэз Агінскага.

Б о л ь ш ы (*да Дзяўчыны*). Транты свае сама скінеш ці парэзаць? (*Бярэ, адцягвае на грудзях Дзяўчыны бант, зразае брытваю і кідае ў залу.*)

Д з я ў ч ы н а пачынае калаціцца і заходзіцца плачам.

М е н ш ы (*падстаўляе крэсла да Дзяўчыны*). На крэсла лезь, каб усім было відаць. Стрыптыз, дык стрыптыз.

Б о л ь ш ы (*адцягвае каўнер блузкі і замахваецца брытвай*). Я сто разоў паўтараць не буду,

парэжу і голай у Афрыку пушчу.

М е н ш ы. Ды што цягнеш? Чык — і ўсё.

Д з я ў ч ы н а нерашуча расшпільвае гузікі і прытрымлівае рукою блузку.

Б о л ь ш ы. Смялей, смялей, не першы раз, відаць.

М е н ш ы. Што ламаешся, распраніся — і адпусцім. (*Да Піяніста.*) А ты весялей грай.

Д з я ў ч ы н а запаволена распранаецца. У замкнёныя дзверы каля стойкі пачынае нехта грукаць. Грукае Ч у ж ы н е ц. Б о л ь ш ы і М е н ш ы разгублена азіраюцца на грукат. Д з я ў ч ы н а бяжыць за стойку і стукае ў дзверы на кухню. П і я н і с т сыходзіць у залу.

## *ПРАЯВА ТРЭЦЯЯ*

Ч у ж ы н е ц (*з-за зачыненых дзвярэй*). Адчыняй, чалавек!

Б о л ь ш ы (*да залы*). Тс-с-с.

М е н ш ы смяецца і паказвае зачыненым дзвярам дулю. Б о л ь ш ы заўважае, што Д з я ў ч ы н а ўцякла за стойку.

Б о л ь ш ы. Каза ўцякае.

## *ПРАЯВА ЧАЦВЁРТАЯ*

Адчыняюцца дзверы на кухню, з'яўляецца Б а р м э н, да яго кідаецца Д з я ў ч ы н а.

Д з я ў ч ы н а. Памажы! Выпусці мяне адсюль. Бачыш, што гэта свалата нарабіла?! (*Спрабуе абмінуць Бармэна.*)

Б а р м э н. За гэтымі дзвярыма няма ратунку.

Д з я ў ч ы н а. Ты ж казаў... і пра дзверы?

Б а р м э н. Імі нікуды не трапіш, праз іх нічога не зменіш. Там пад’ёмнік (*паказвае рукою ўгору і ўніз*). Або туды, або туды — усё ў нікуды.

Падчас іх размовы Б о л ь ш ы і М е н ш ы зазіраюць за стойку, прысвістваюць і выцягваюць па канапцы з рыбаю і па зваранаму яйку. Ядуць, раскідваючы сярод сябе лушпінне ад яек.

Б о л ь ш ы (*да Меншага*). На мяне жор напаў. (*Выцірае рукі аб вопратку Меншага.*)

М е н ш ы (*з абурэннем*). Ты што, казёл, я ж з вяселля! (*Адскоквае ўбок і выцірае рукі аб штаны.*)

Б о л ь ш ы (*падыходзіць да дзвярэй стойкі*). Дзеўку! (*Спрабуе зайсці, але Бармэн заступае яму дарогу.*)

Б а р м э н. Не чапай, з яе хопіць.

Б о л ь ш ы (*хавае ў кішэнь брытву, да Бармэна з павагаю*). Нарэшце па-чалавечы загаварыў.

М е н ш ы. А то немагчыма было трываць.

Б а р м э н. Пусціце яе, хай ідзе.

Б о л ь ш ы. Ты ж сам яе трымаеш.

М е н ш ы. Наша кіно скончылася.

Д з я ў ч ы н а (*да Бармэна*). Дай ключ, пайду.

Б а р м э н аддае Д з я ў ч ы н е ключ, яна робіць крок наперад, але спыняецца і хапае за руку Б а р м э н а.

Б о л ь ш ы. Не бойся, чапаць не будзем. (*Паварочваецца да Меншага.*) Дай тры рублі.

М е н ш ы. Нашто?

Б о л ь ш ы. Каб не плакала.

М е н ш ы дастае жменю дробязі і аддае Б о л ь ш а м у, а Б о л ь ш ы аддае Д з я ў ч ы н е. Яна бяжыць да дзвярэй, адмыкае, паварочваецца і кідае грошы ў Б о л ь ш а г а. Дробязь ляціць у залу.

*ПРАЯВА ПЯТАЯ*

Д з я ў ч ы н а кідаецца ў дзверы і натыкаецца на Ч у ж ы н ц а, палохаецца ад нечаканасці яго з'яўлення і робіць крок назад.

Ч у ж ы н е ц. Я ведаў, што ты тут, гандляр. Дарма замыкаў дзверы. Кожны замок, у рэшце рэшт, адмыкаецца.

Д з я ў ч ы н а спрабуе абмінуць Ч у ж ы н ц а і выйсці. Ч у ж ы н е ц жэстам яе прыпыняе.

Д з я ў ч ы н а. Мне трэба адгэтуль. Я больш не магу...

Ч у ж ы н е ц. Я не трымаю, ты можаш ісці, але куды? Тут для цябе ўсё скончылася, а там (*паказвае за дзверы*) пачнецца зноў.

Д з я ў ч ы н а разварочваецца і бяжыць у супрацьлеглыя дзверы, па дарозе закрывае твар і пачынае плакаць.

У гэты час Б о л ь ш ы з М е н ш ы м збіраюць рассыпаныя па зале грошы, перагаворваюцца і чапляюцца да публікі.

Б о л ь ш ы. Ногі прыбяры.

М е н ш ы (*свеціць запалкамі*). Порткі спалю. А ты аддай манету, я бачыў, ты схапіў.

Ч у ж ы н е ц. Як ні прыйду — ніколі тут няма парадку. Вас нельга пакідаць адных, без дагляду. Вы пішаце законы не на тое, каб выконваць іх, а каб караць. Але і караць вы не ўмееце. Вы думаеце, мне трэба вас заваёўваць? Не... Гэта вам трэба, каб я прыходзіў. Вы клічаце мяне, каб судзіў. Бо я маю справядлівы закон і веру ў яго, а вы маеце закон, справядлівасць і веру, але ўсё паасобку. Вы не гаспадары на сваёй зямлі. Вы не можаце без мяне жыць, бо ў вас няма нічога свайго, каб

любіць і ненавідзець. Вам патрэбны чужынец, што прыйдзе і скажа: гэта брат ваш, а гэта вораг. Вас наогул не існуе: я прыдумаў вас, каб падзяліць Захад з Усходам і мець мяжу. Сёння вы назавеце мяне сябрам, заўтра ворагам, але ніколі суседам. Вы прыкуты да крыжа дарог, і ўсе ідуць праз вас, а вам здаецца, што да вас. (*Падчас маналога калінікалі Чужынец кідае дробныя манеты на падлогу. Большы і Меншы збіраюць іх.*) (*Потым Чужынец звяртаецца да Бармэна.*) Ты ўладарыў тут, гандляр?

Б а р м э н. Ці кажаш гэта ад сябе, ці сказалі пра мяне?

Ч у ж ы н е ц (*здзіўлена*). Мне адказваюць пытаннем на пытанне? Людзі паклікалі мяне, што ж ты нарабіў тут?

Б а р м э н. Улада мая не з гэтага боку (*паказвае на залу*). Каб меў уладу там, то тыя, хто слухалі мяне, змагаліся бы за справу маю, але ўлада мая адсюль. (*Паказвае на кухню.*)

Ч у ж ы н е ц. Дык ты ўсё адно ўладар?

Б а р м э н. Гэта ты кажаш, а не я. Я ж сведчыў аб праўдзе. Кожны, хто тут, слухаў праўду маю.

Ч у ж ы н е ц. Што такое праўда?

Б а р м э н. Я не хаваўся: усё, што казаў, казаў людзям уголас. Чаму пытаешся ў мяне? Папытайся ў тых, хто слухаў, што гаварыў я ім. Вось яны ведаюць (*паказвае на Большага з Меншым*), што я сказаў.

Б о л ь ш ы і М е н ш ы прыслухоўваюцца да апошніх рэплік. Ч у ж ы н е ц пытальна глядзіць на іх.

М е н ш ы (*да Большага*). Глядзі, свалата, сам нагаварыў лухты, а цяпер на нас ківае. (*Да Чужынца.*) Мы ўсё чулі: шэсцьсот шэсцьдзесят шэсць і вочы на дупе. Усю галаву запаскудзіў. Ледзь не ашалелі тут. Бо рукі дагэтуль калоцяцца. (*Упускае некалькі манет і кідаецца іх збіраць.*)

Ч у ж ы н е ц (*да Бармэна*). Гэта вучні твае?

Б о л ь ш ы (*падскоквае да стойкі, замахваецца кулаком на Бармэна і азіраецца на Чужынца*). Вучыў — рэзнуць у вуха такому настаўніку!

М е н ш ы. Дзеўку, што пабегла, сваёй навукай да чаго давёў — распранацца пры ўсіх пачала. Ушчэнт сказілася.

Б о л ь ш ы (*ківае галавою*). Угу, грашыма кідалася, сучка.

М е н ш ы (*да Чужынца, паказваючы на залу*). Кінь наўкола вокам — усім мову адняло.

Б о л ь ш ы. Такога нагарадзіў, тыдзень не адыдзеш.

Ч у ж ы н е ц. Нашто сядзелі і слухалі яго?

Б о л ь ш ы. А я і не слухаў (*паказвае на Меншага*), хіба што ён.

М е н ш ы (*разводзіць рукамі*). Сядзелі, пілі тут, адпачывалі, а вушы ж не заткнеш. Ды і ён спакою не даваў. (*Перакрыўлівае Бармэна.*) Хто мае вушы, той слухай.

Ч у ж ы н е ц. У чым вінаваціце яго?

М е н ш ы. У чым? Ды на яго варта глянуць: морда хітрая. Па той бок стойкі сумленных не бывае. Адно слова — гандляр.

Б о л ь ш ы. Стаў за стойку, а справы не робіць.

М е н ш ы. Толькі сваім налівае.

Ч у ж ы н е ц. Я не бачу ў ім віны. Вы былі вольныя сысці ў другое месца, дзе вы свае. (*Чужынец выводзіць з-за стойкі Бармэна.*) Вось чалавек гэты.

М е н ш ы. А куды нам ісці? Мы на сваёй зямлі. Калі ты не прыбярэш яго зараз, то ён у другім месцы выпаўзе.

Б о л ь ш ы. Куды не сунешся — паўсюль яны гаспадараць.

М е н ш ы. Прыбяры яго! Ён пастаўлены для нас, каб наліваў, а не гаспадара з сябе строіў.

Ч у ж ы н е ц. То пусціце яго, хай ідзе, а вы заставайцеся.

М е н ш ы. Ён разумнейшага з сябе строіць: нашто яго адпускаць? Ён з нас здзекаваўся, а ты кажаш: пусці.

Ч у ж ы н е ц. Калі дазвалялі чыніць здзек з сябе, то ён, сапраўды, уладар вам.

М е н ш ы. У нас улада адна.

Б о л ь ш ы (*хапае Бармэна за вуха*). Я табе дам, уладар знайшоўся.

М е н ш ы (*хапае Бармэна за другое вуха*). Мы табе зробім...

Ч у ж ы н е ц (*уладна*). Пусціце яго!

Б о л ь ш ы (*да Чужынца*). А ты хто такі, каб бараніць яго?

М е н ш ы. Ты за яго, супраць народа; хто не з намі, той супраць нас.

Б о л ь ш ы (*адпускае Бармэна і робіць крок да Чужынца*). А ты пагавары, пагавары — час справу рабіць, а не балбатнёй займацца.

Ч у ж ы н е ц (*сядае ў крэсла*). Рабі што хочаш. Ён уладар ваш.

Б о л ь ш ы (*да Бармэна*). Ты... уладар? (*Пераразае брытвай рэмень Бармэну, порткі з'язджаюць.*)

М е н ш ы (*пускае вуха Бармэна і бярэ з-за стойкі кухарскі каўпак, надзяе Бармэну на галаву*). Уладар, уладар (*да залы*), кланяйцеся яму. Ён уладар ваш.

Б о л ь ш ы (*да Бармэна*). Лык ты цар?

Б а р м э н (*з пачуццём уласнай годнасці, да залы*). Я цар ваш — і не я, а ты сказаў гэта. Я прышоў, каб ўратаваць вас, і ты не зменіш нічога, што ні рабі.

Б о л ь ш ы (*наводмаш брытваю рэжа Бармэну жывот*). Сам ратуйся!

З Б а р м э н а в а г а жывата на сцэну вывальваюцца вантробы. На прыстаўленым крэсле ў канцы залы вішчыць Кабета, яе пачынае ванітаваць.

Гасне святло.

Голас рэжысёра з кухні. Божа, мой Божа, навошта мяне пакінуў?!

## ЭПІЛОГ

Запальваецца верхняе святло. На сцэне нікога.

Прыбіральшчыца (*выходзіць на сцэну*). Во, зноў бруду нарабілі. (*Пачынае прыбіраць вантробы*). Чалавека зарэзалі, а мне за імі прыбірай. Што акцёры, што гледачы — адно кодла.

Піяніст (*падыходзіць да стойкі*). Гэй, ёсць там хто? (*Імкнецца зазірнуць на кухню.*) Нельга стойку без дагляду пакідаць. Нехта ж павінен наліваць. Мне, вам.

З кухні выходзіць і становіцца за стойку сапраўдны бармэн. У залу заходзяць усе акцёры і выстройваюцца ў чаргу за Піяністам.

Прыбіральшчыца (*ляпае акцёраў па нагах анучай*). Пасталі тут, а хто людзям скажа, што спектакль скончыўся? Як што дурное рабіць — то мне. Ат, чорт з вамі. (*Кідае швабру, становіцца ў чаргу.*) Хто апошні?

Бармэн. Я.

Прыбіральшчыца (*да залы*). А вы ўсе за мной будзеце.

*Менск, 1989*

# VITA BREVIS,
# або
# НАГАВІЦЫ СВЯТОГА ГЕОРГІЯ

*Фарс у двух дзеях*

Дзеючыя асобы:
Драматург
Рэжысёр
Акцёрка, янаж па222222222222222222ні
Лютарова
Скарына
Лютэр
Мелангтон
Пані Мелангтонава
Слуга
Фрыдрых і Людвіг, філосафы

П’еса прысвячаецца вітэнбергскім прыгодам Францыска Скарыны ў 1525 годзе.

## АКТ ПЕРШЫ

### *ДЗЕЯ ПЕРШАЯ*

#### *Праява першая*

Глыбокі, як сумёт, ложак. Стол з мікрафонам і крэсла. Нічога вартага ўвагі не адбываецца. Выходзіць Ак-

ц ё р к а.

*Праява другая*

Выходзіць Д р а м а т у р г.

А к ц ё р к а. Гэта ты напісаў?

Д р а м а т у р г. Я.

А к ц ё р к а. Пра гетманскую булаву?

Д р а м а т у р г. Я.

А к ц ё р к а. І табе не сорамна?

Д р а м а т у р г. Не.

А к ц ё р к а. Ты што, адну парнаграфію пішаш?

Д р а м а т у р г. А ты ведаеш розніцу паміж парнаграфіяй і эротыкай?

А к ц ё р к а. І гэта ты будзеш пісаць пра Скарыну?

Д р а м а т у р г. Так.

А к ц ё р к а. Уяўляю сабе. А там жаночыя ролі будуць?

Д р а м а т у р г. Трэба параіцца з Рэжысёрам.

А к ц ё р к а. Тады райся са мной, я ягоная жонка.

Д р а м а т у р г. А што ты можаш?

А к ц ё р к а. Усё, што пажадаеш.

Д р а м а т у р г. Жонку Марціна Лютэра, заснавальніка пратэстанства.

А к ц ё р к а. Зараз?

Д р а м а т у р г. Хочаш ролю — дэманструй.

А к ц ё р к а. Жонка Лютэра прывабна выглядае ў месячным святле. *(Скідае чаравікі.)* Я маю рацыю?

Д р а м а т у р г маўчыць. А к ц ё р к а распранаецца.

Д р а м а т у р г. Мяне цікавіць эротыка, а не парнаграфія.

А к ц ё р к а. Розніцу патлумачыш майму мужу. *(Праваліваецца ў ложак.)*

Д р а м а т у р г. Мужу тлумачыць будзеш ты. *(Ідзе да ложка, па дарозе скідае пінжак і гальштук.)*

*Праява трэцяя*

З'яўляецца Р э ж ы с ё р, сядае за столік.

Д р а м а т у р г *(не бачыць Рэжысёра).* Мужу тлумачыць будзеш ты, а я раскажу, як павінна выглядаць пані Лютэрова. *(Расшпільвае кашулю.)*

Р э ж ы с ё р кратае мікрафон, Д р а м а т у р г спыняецца.

Р э ж ы с ё р. Ты маеш кепскую звычку: думаць услых.

Д р а м а т у р г. Прафесійная хвароба.

Р э ж ы с ё р. Дарэчы, якая пані Лютэрова, — ты мне абяцаў зрабіць сур'ёзную рэч, без жанчын.

Д р а м а т у р г. Абяцаў, але не атрымалася.

Р э ж ы с ё р. Ведаю я: спачатку ў п'есе з'явіцца пані Лютэрова, а за ёю вось такі ложак, гетманская булава, дамавікі. Гэта твая стыхія, але мы дамаўляліся на сур'ёзную рэч.

Д р а м а т у р г. У гэтых справах нельга паўтарацца.

Р э ж ы с ё р. Давай без гэтых спраў наогул. Таму што памяць Скарыны мы павінны ўшанаваць на поўным сур'ёзе. 500 гадоў.

Д р а м а т у р г *(б'е нагой у ложак).* Сам вінаваты, не прыбраў з папярэдняга спектакля, правакуеш.

Р э ж ы с ё р. Ды гэта з дзіцячай казкі «Іван сучы сын залатыя гузікі», беларускі фальклор. *(Падыходзіць, зазірае ў ложак, знаходзіць жонку.)* А ты што тут робіш?

Д р а м а т у р г. Не яна робіць, а мы робім — працуем над сцэнай у спачывальні ў доктара Лютэра.

Р э ж ы с ё р. Я адчуваю, якая тут ішла праца. Ты чаму ў ложку? Чаму ў такім выглядзе?

А к ц ё р к а. Я пані Лютэрова.

Р э ж ы с ё р. А ён доктар Лютэр, распранаецца, каб пазабаўляцца з маёй жонкай? У маім тэатры? Ці ён Іван сучы сын залатыя гузікі?

Д р а м а т у р г. Не Лютэр, а Скарына.

Р э ж ы с ё р. Яшчэ лепей — Скарына ў спачывальні Лютэра забаўляецца з маёй жонкай.

А к ц ё р к а. Не з тваёй жонкай, а з пані Лютэровай.

Р э ж ы с ё р. А мне якая розніца, мне што далей рабіць? Ты за мной замужам ці за Лютэрам? І наогул, адкуль у п’есе ўзяўся Лютэр?

Д р а м а т у р г. Ты што, ты гэта ўсё ўсур’ёз?

Р э ж ы с ё р. А вы, можна падумаць, жартам?

Д р а м а т у р г. Думаеш, у мяне хопіць на гэта нахабства? Ты сам мяне запрасіў, а я такім чынам час баўлю? Мы працуем над новай сцэнай.

А к ц ё р к а. Ты мне не верыш?

Р э ж ы с ё р. Я ведаю сваю жонку і тваю літаратуру. Папярэджвалі мяне сябры, каб з табою не звязваўся.

А к ц ё р к а. А, думаеш, у Лютэра была лепшая жонка?

Р э ж ы с ё р. Лютэр, Лютэр — хопіць мне галаву тлуміць. Што вы прычапіліся да гэтага Лютэра, адкуль яго выцягнулі?

А к ц ё р к а. Ён дзеля мяне гэта прыдумаў. І Лютэра, і ягоную жонку.

Р э ж ы с ё р. Ён прыдумаў. П’еса пра Скарыну. Дзеля чужой жонкі можна прыдумаць што заўгодна.

Д р а м а т у р г. Мне можаш не верыць, але гэта гістарычны факт, апісаны ў кнізе Барталамея Капітара.

Р э ж ы с ё р. А хто гэта? Відаць, такі ж драматург, як і ты?

Д р а м а т у р г. Гэта гісторык шаснаццатага

стагоддзя. Вось таму я драматург, а ты толькі рэжысёр.

Р э ж ы с ё р. І што ён напісаў?

Д р а м а т у р г. Ён напісаў, як у Вітэнбергу прафесар Мелангтон — настаўнік Германіі, духоўны брат Лютэра...

Р э ж ы с ё р. Прафесар жанаты?

Д р а м а т у р г. Цікавы ход, можна раскінуць сцэну на два ложкі.

Р э ж ы с ё р. Ні ў якім разе — хапіла з мяне і аднаго.

Д р а м а т у р г. Як хочаш. Дык вось: гэты Мелангтон запрасіў да сябе ў госці Скарыну. Трэцім на вячэру быў запрошаны Лютэр.

А к ц ё р к а. З жонкаю.

Д р а м а т у р г. Не, пані Лютэрова засталася дома.

Р э ж ы с ё р. Вось гэта мне падабаецца. Гэта сур'ёзна. Доктар Марцін Лютэр, доктар Франциск Скарына, прафесар Мелангтон — сур'ёзны тэалагічны дыспут. Яны вырашаюць лёс Еўропы. І ніякіх жанчын. Да таго ж Лютэр святар, адкуль у яго жонка?

А к ц ё р к а. Ён жа пратэстант, яму можна.

Д р а м а т у р г. А не верыш, спраўдзі ў Секендорфа. А на вячэры ў Мелангтона Лютэр быў настолькі захоплены талентамі чужаземнага доктара, што запрасіў Скарыну да сябе ў госці і абяцаў падараваць сваё выданне Бібліі — гэта, як прынята лічыць, першы пераклад Святога пісання на народную мову.

Р э ж ы с ё р. Клас, зразумеў ход. А Скарына яму падорыць сваю і быццам між іншым заўважыць, што выдаў свой пераклад на восем гадоў раней: Лютэр у 1525 годзе, а Скарына ў 1517.

А к ц ё р к а. Ну пачалася цягамоціна. Хто гэта будзе глядзець, каму гэта цікава?

Р э ж ы с ё р. Ведаеш, як гэта будзе прыгожа глядзецца? Доктарская мантыя. Вось такі фаліянт.

Д р а м а т у р г. Ну, як, падабаецца завязка?

Будзем працаваць?

Р э ж ы с ё р. А можаш раскруціць гэты сюжэт, каб глядзелася?

Д р а м а т у р г. Барталамей Капітар усё да мяне раскруціў. Засталося на дыялогі распісаць.

Р э ж ы с ё р. Давай працаваць. Паглядзім, што з гэтага выйдзе.

Сыходзяць.

*ДЗЕЯ ДРУГАЯ*

## *Праява першая*

Спачывальня М а р ц і н а Л ю т э р а. Той жа ложак.

Выходзяць Р э ж ы с ё р і Д р а м а т у р г, сядаюць за столік з мікрафонам.

Р э ж ы с ё р кратае мікрафон.

## *Праява другая*

Выходзіць Л ю т э р.

Л ю т э р. Гэй, слуга! *(Звоніць у званочак.)*

## *Праява трэцяя*

Выходзіць с л у г а. Моўчкі чакае загаду.

Л ю т э р. Стол накрывай на трох. На вячэру запрошаны Францыск Скарына.

С л у г а сыходзіць.

Пачакай, пачакай. Францыск Скарына: а ці не той гэта Францыск-каталік? Мне ж даўно казалі

сябры: «Сцеражыся доктара Францыска-каталіка». І як я адразу не ўспомніў, не зразумеў, што гэта ён — найхітрэйшы прайдзісвет, езуіт і папскі шпіён.

*Праява чацвёртая*

Уваходзіць П а н і  Л ю т э р о в а.

Л ю т э р. Мяне папярэджвалі, што яму біскупы дзве тысячы залатых далі на тое, каб мяне са свету зжыў. Я ўжо не раз зведаў падкопы д'ябла.

П а н і  Л ю т э р о в а. Ты, Марцін, прыдбаў кепскую звычку — думаць услых.

Л ю т э р. Я мушу тэрмінова ехаць у Таргаў.

П а н і  Л ю т э р о в а. Ты ж запрасіў на вячэру нейкага доктара?

Л ю т э р. Запрасіў, а цяпер перадумаў. А ты кладзіся спаць.

П а н і  Л ю т э р о в а. А як жа твой госць?

Л ю т э р. Ён не прыйдзе.

П а н і  Л ю т э р о в а знікае ў ложку. Л ю т э р выклікае с л у г у.

*Праява пятая*

Л ю т э р  і  с л у г а.

Л ю т э р. Я ад'язджаю. Да мяне павінен прыйсці адзін чалавек. Яго ў дом не пускай. Скажы: няма гаспадара, з'ехаў. І сцеражыся яго, бо ён чараўнік і езуіт.

С л у г а. Як гаспадар пажадае. *(Убок.)* Знайшоў дурня, сам уцякае, а мне заставайся.

Л ю т э р. У дом не пускай, асабліва ў спачывальню, каб не зачараваў часам. Бо найхітрэйшы прайдзісвет. *(Ад'язджае ў Таргаў.)*

## *Праява шостая*

С к а р ы н а і с л у г а ў доме Л ю т э р а.

С к а р ы н а *(з фаліянтам пад пахай)*. Доктар Францыск Скарына да доктара Марціна Лютэра. *(Спрабуе прайсці і зазірнуць у спачывальню.)*

С л у г а. Гаспадар з'ехаў. Наказваў пана ў дом не пускаць, асабліва ў спачывальню.

С к а р ы н а. Я ж яшчэ нічога не паспеў яму зрабіць, нават кнігу не паказваў. Дык што гаспадар казаў?

С л у г а. Што пан доктар чараўнік і езуіт.

С к а р ы н а. Што праўда — то не грэх. Патрымай кнігу, а я твайму гаспадару цыдулку напішу.

С л у г а бярэ фаліянт, спрабуе разабраць, што ў ім напісана.

Тым часам С к а р ы н а падыходзіць да стала, сядае, піша.

С л у г а. Літары нейкія незразумелыя. Кабала нейкая. Відаць, і кніга чароўная, падкінуць вырашыў.

С к а р ы н а. Мацней трымай, бо ногі адаб'е, як упусціш.

С л у г а *(выпускае фаліянт з рук, уцякае)*. Кабала! Кабала!

С к а р ы н а *(падымае фаліянт)*. Добры гаспадар такога палахліўца трымаць не будзе. Кнігу на падлогу кінуў. Немчура. Лютэр мне сваю Біблію дакляраваў падарыць. У кабінеце, відаць, пакінуў. Педант. Гасцёўня неблагая. *(Шукае выданне Лютэра і не знаходзіць.)* Нічога, не апошні дзень я ў Вітэнбергу. Сустрэнемся — перадасць, разам з прабачэннямі. Яму ўжо як католік, то і папскі шпіён. Даволі звычайны дом, як і іхняя царква. Цікава, а што ён так за спачывальню перажывае? Калі мы

робім адну і тую ж справу, друкуем адну і тую ж кнігу, то і ў ягонай спачывальні я не павінен адчуць сябе чужым. *(Заходзіць у спачывальню.)* Прывабная спачывальня!

Пані Лютэрова *(з ложка).* Марцін, гэта ты?

Скарына. Не, не я.

Пані Лютэрова. А хто?

Скарына. Доктар Францыск.

Пані Лютэрова. Як мне абрыдлі гэтыя дактары. Пан, відаць, такі ж доктар, як і мой Марцін — кніжнік, пацук бібліятэчны?

Скарына. Я двойчы доктар. І вучыць, і лячыць, і маляваць, і на ложку скакаць.

Пані Лютэрова. Пан француз?

Скарына. Горш.

Пані Лютэрова. Італьянец?

Скарына. Не, я негр.

Пані Лютэрова. Што, на самай справе? *(Паспешліва падымаецца з ложка.)*

Скарына. Што, не падобны?

Пані Лютэрова. Пан не толькі доктар, а і жартаўнік.

Скарына. У Марціна Лютэра занадта прыгожая жонка.

Пані Лютэрова. Што гэта значыць — занадта? Дарэчы, як пан сюды трапіў і што збіраецца рабіць?

Скарына. Твой Марцін запрасіў мяне і дакляраваў прэзентаваць самае дарагое, што мае. Я і не ведаў, што ў немцаў ёсць такі звычай — прэзентаваць жонак. Але я не супраць.

Пані Лютэрова. Пан перабірае — гэта ўжо занадта, гэта пераходзіць межы прыстойнасці. Прыходзь заўтра, Марцін падорыць табе паперку.

Скарына. Па-першае, у спачывальні немагчыма перайсці мяжу прыстойнасці, ва ўсякім разе, мне гэта яшчэ ніколі не ўдавалася. Па-другое, паперка будзе вельмі дарэчы: я намалюю на ёй твой партрэт. Але толькі пасля таго, як...

П а н і  Л ю т э р о в а. Пасля чаго?

С к а р ы н а. Пасля таго, як ты дасі на гэта згоду.

П а н і  Л ю т э р о в а. Я не дам. Нашто мяне маляваць, нашто мне партрэт?

С к а р ы н а. Не табе, а мне. Я ўстаўлю яго ў Святое пісанне.

П а н і  Л ю т э р о в а. Гэта ж грэх, і наогул: нашто партрэт у Святым пісанні?

С к а р ы н а. Кніжкі з малюнкамі, а тым больш з аголенымі прыгажунямі куды цікавейшыя за тую нудоціну, што робіць твой Марцін. Хочаш — чытай як Святую кнігу, хочаш — як зямную. Каб і для душы, і для цела. Прыемна.

П а н і  Л ю т э р о в а. Ведаеш, самога сябе малюй у Святым пісанні.

С к а р ы н а. Я ўжо даўно намаляваў.

П а н і  Л ю т э р о в а. Маніш, маніш. Такі грэх. Мой муж цябе не запрасіў бы.

С к а р ы н а. А ён і не бачыў. *(Сыходзіць у гасцёўню, вяртаецца з разгорнутай кнігай.)* Калі ласка.

П а н і  Л ю т э р о в а. А чаму не аголены? Я ж казала, маніш.

С к а р ы н а. Калі маляваў, было халодна, не тое што зараз.

П а н і  Л ю т э р о в а *(бярэ кнігу).* Нічога не зразумела: адкуль тут відаць, што гэта Святое пісанне?

С к а р ы н а. Калі не верыш — слухай, зачытаю, у перакладзе: «Біблія беларуская, зробленая доктарам Францыскам Скарынаю». А ты не верыла.

П а н і  Л ю т э р о в а. Ну ты даў! Біблію напісаў, — можа, ты яшчэ і свет сам стварыў?

С к а р ы н а. Свет не свет, а твой партрэт намалюю, распранайся.

П а н і  Л ю т э р о в а. Бач ты, які спрытны, я зараз слугу паклічу.

С к а р ы н а. Кліч. Я Біблію зрабіў, а яна мяне служкаю палохаць будзе. Кліч!

П а н і   Л ю т э р о в а. І паклічу!
С к а р ы н а. Кліч, не дапаможа.
П а н і   Л ю т э р о в а. Гэй, слуга!

### *Праява сёмая*

У спачывальню заходзіць с л у г а.

П а н і   Л ю т э р о в а. Пакажы пану двойчы доктару дзверы.

С к а р ы н а *(да слугі)*. Хадзі сюды. Пакладзі руку на кнігу. *(Слуга падыходзіць, але рукі хавае за спіну.)* Руку на кнігу кладзі, а не тое ў рыбу ператвару, і захлынешся тады тут! *(Слуга пачынае калаціцца ад страху і кладзе руку на кнігу.)* Хацеў у птушку ператварыць, але з цябе толькі муха атрымаецца. Бачыш на маім партрэце муху? Рыхтык ты. Адчуваеш, крылцы на спіне варушацца?

С л у г а *(крычыць)*. Аааааа, кабала, кабала! *(Кідаецца ўцякаць, збягае.)*

С к а р ы н а *(наўздагон яму тупае нагамі і крычыць)*. Уууууу!..

П а н і   Л ю т э р о в а. А сапраўды, чаму на тваім партрэце муха намалявана, яна ж Біблію не пісала?

С к а р ы н а. А так, дзеля смеху. Дурняў палохаць.

П а н і   Л ю т э р о в а. Я ўсур’ёз пытаюся: можа, гэта пчала? Біблія ўсё ж такі.

С к а р ы н а. Можа, і пчала. А я не сур’ёзны чалавек. Вось намаляваў стварэнне, цяпер хай у сур’ёзных галовы баляць. І ведаеш, колькі будуць балець?

П а н і   Л ю т э р о в а. Кажаш, што ты мастак. Пакуль што, бачу, ты толькі балбатаць мастак. Яшчэ невядома, хто гэтыя малюнкі рабіў.

С к а р ы н а. Покуль сам сябе не намалюеш, ніхто цябе не намалюе. Ну, як? Даеш згоду быць намаляванай?

П а н і   Л ю т э р о в а. Ведаю я цябе. Уяўляю.

Выставіш усяму свету ды яшчэ напішаш: пані Лютэрову маляваў доктар Францыск Скарына пад той час, калі самога Лютэра не было дома. Марціна шкада: усе са старога смяяцца будуць.

Скарына. Толькі гэтага і баішся? Не, я ўсё абстаўлю. Вышэйшым гатункам пойдзе. Напрыклад, ты, як Юдзіф з галавой Алаферна на талерцы, або наложніца цара Саламона ў ружах; магу Марыяй Магдалінай.

Пані Лютэрова. А Боскай Маці зможаш?

Скарына. Толькі з павагі да святой справы пана Лютэра. Але тут ёсць адзін далікатны момант: у Маці Боскай грудзі павінны быць такія, каб толькі Хрысту цалаваць.

Пані Лютэрова. А хто іх бачыў?

Скарына. Я пакуль і тваіх не бачыў.

Пані Лютэрова скача ў ложак, хаваецца ў ім з галавой. Выкідае адтуль сукенку. Потым паказваецца з ложка па пояс, дэманструе Скарыне свой аголены стан.

Пані Лютэрова. Ну, як?

Скарына. Мне падабаецца.

Пані Лютэрова. Яму падабаецца. І толькі? А дзе твае пэндзлікі і папера?

Скарына. Прыйдзе Марцін і падорыць.

Пані Лютэрова. Дык што, ты прапануеш чакаць Марціна?

Скарына. Чакаць можна па-рознаму. Дарэчы, чалавек я несур'ёзны, а мастак, наадварот, з мяне сур'ёзны, аж занадта. Цябе, каб намаляваць, я павінен ведаць, як самога сябе, адчуваць сабой. Трэба вывучаць форму, прайсціся рукамі па абрысах. Вось Маці Боскую я намаляваць і зараз магу, як тую муху, але цябе я павінен вывучыць, як матэрыял, каб і з заплюшчанымі вачыма намаляваць.

Пані Лютэрова. За Боскую Маці табе святая інквізіцыя язык адрэжа.

С к а р ы н а. Язык не самае страшнае.

П а н і  Л ю т э р о в а. Можаш далей не казаць. Я і так усё разумею і пачынаю мерзнуць.

С к а р ы н а. Люблю здагадлівых. *(Скача ў ложак.)*

П а н і  Л ю т э р о в а. А раптам вернецца Марцін? *(Паказвае галаву з ложка.)*

Інтанацыі набываюць эратычнае адценне. З ложка ўздымаецца С к а р ы н а в а рука і ўціскае галаву пані Л ю т э р о в а й у ложак.

С к а р ы н а. Непрыемная атрымаецца сцэна для цябе. А мне давядзецца на дзень раней з'ехаць з Вітэнберга.

П а н і  Л ю т э р о в а. Добра, што ты католік.

С к а р ы н а. А мне дык і не шкодзіць, што ты пратэстантка.

П а н і  Л ю т э р о в а. Ведаеш, да чаго мой Марцін дайшоў? Напісаў, што з жонкай трэба маркітавацца два разы на...

С к а р ы н а *(перабівае)*. На дзень?

П а н і  Л ю т э р о в а. На тыдзень, блага ты ведаеш Марціна.

С к а р ы н а. Нямецкія забабоны.

П а н і  Л ю т э р о в а. Францішак, а ты мяне кахаеш?

С к а р ы н а. Я цябе выратую.

П а н і  Л ю т э р о в а. Францішак, а ты мяне намалюеш? Трэба ж паспець да прыходу мужа і тое, і гэтае.

С к а р ы н а. Я намалюю цябе пазней, па памяці. У мяне выдатная зрокавая памяць.

П а н і  Л ю т э р о в а. Ты ж у мяне такі геніяльны.

С к а р ы н а. Сам ведаю.

П а н і  Л ю т э р о в а. А ты шмат жанчын маляваў?

С к а р ы н а. Немак першы раз даводзіцца маляваць.

*Праява восьмая*

Выходзіць Л ю т э р.

Л ю т э р. Гэй, слуга, дзе ты падзеўся? А ці прыходзіў доктар Францыск? Няма... Знік некуды. Пайду ў жонкі запытаюся. *(Кіруецца да спачывальні.)*

С к а р ы н а выскоквае з ложка, паспявае абуць чаравікі. Імгненне глядзіць на свае голыя лыткі, спрабуе абцягнуць на іх доктарскую мантыю. Потым прысядае такім чынам, каб мантыя апусцілася да падлогі і закрыла лыткі. З ложка паказваецца п а н і Л ю т э р о в а, захіляе твар рукамі і хаваецца зноў.

У спачывальню заходзіць Л ю т э р.

С к а р ы н а. Вітаю пана Лютэра. Як добра, што ён прыйшоў, а то я ўжо збіраўся адыходзіць, ды не было на каго пакінуць вашу пані Лютэрову.

Л ю т э р. Пан Францыск? А што здарылася? Як хто падмяніў пана. *(Набліжаецца, прымерваецца да Скарыны ростам.)* Учора ўвечары мы былі роўныя, мне здавалася, а цяпер я вышэйшы...

С к а р ы н а. Бачыць пан, ледзь ногі перастаўляю. *(Ідзе да ложка.)*

Л ю т э р. Гэта я і сам бачу. Дык што здарылася?

С к а р ы н а. Прыйшоў я ў прызначаны час. І ўбачыў, як з дому ўцякаў слуга. Падумалася: «Відаць, нешта нядобрае здарылася ў доме пана Лютэра!» І не памыліўся. Зайшоў. Пуста паўсюль, і толькі са спачывальні чуўся такі далікатны стогн. «Пані Лютэрова», — і зноў не памыліўся. Падбег, а яна памірае! Сэрца спыняецца.

Л ю т э р. Дзіўна, дзіўна. Сыходзіў — здаровая была, ды яна дагэтуль ніколі не хварэла.

С к а р ы н а. Глісты да сэрца падышлі. Яно заўсёды так нечакана здараецца.

П а н і Л ю т э р о в а *(паказвае галаву з лож-*

*ка).* Так, так, усё было менавіта так. Мне былzо так блага, і слуга ўцёк. А тут нечакана з’явіўся пан Францыск.

Л ю т э р. Што, слуга ўцёк?

С к а р ы н а. Але, такі палахлівец. Збаяўся, што пані Лютэрова памрэ.

П а н і Л ю т э р о в а. Так, так. З’явіўся пан Францыск і мяне выратаваў.

Л ю т э р *(зазірае ў ложак).* І як ты сябе зараз адчуваеш?

П а н і Л ю т э р о в а. Зараз? Выдатна!

Л ю т э р *(выцягвае з ложка Скарынавы нагавіцы).* А гэта што? Што гэта? Я вас пытаюся.

П а н і Л ю т э р о в а. Нагавіцы...

С к а р ы н а *(выпроствaецца, робіцца вышэйшым за Лютэра, годна падыходзіць, урачыста бярэ нагавіцы).* Гэта святая рэліквія. Нагавіцы святога Георгія. Гэта яны выратавалі пані Лютэрову.

Л ю т э р. Не веру ні я, ні мая жонка ні ў якія святыя рэліквіі: хіба пан забыўся, што я рэфарматар? Каталіцкія забабоны ў маім доме! Як ты магла?

П а н і Л ю т э р о в а. Гэта пан Францыск...

Л ю т э р. Не веру ні ў якія святыя рэліквіі, і табе верыць забараняю. У рэшце рэшт, мы — пратэстанты.

С к а р ы н а. У нагавіцы святога Георгія можна не верыць, я згодны. Мне падабаюцца ідэі рэфармацыі. Але я павінен нагадаць пану Лютэру, што я, між іншым, і доктар лекарскіх навук. У дыплом Падуанскага універсітэта можна верыць? *(Дастае з нагавіц дыплом, падае Лютэру і надзявае нагавіцы.)*

Л ю т э р. Дыплом на імя Францыска Скарыны.

С к а р ы н а. А на чыё яшчэ?

Л ю т э р. На імя святога Георгія — нагавіцы ж ягоныя.

С к а р ы н а. Усё правільна, але надзетыя яны, як можна бачыць, на мне.

Л ю т э р. Як не круці, але не хапае адных

нагавіц.

С к а р ы н а. Мае засталіся ў Маскве, у Георгіеўскай зале.

Л ю т э р. Пан доктар паўсюль ходзіць з голымі лыткамі? А мне спачатку здалося, што толькі ў маім доме.

С к а р ы н а. Зайшоў я неяк перад ад'ездам з Масквы ў Георгіеўскую залу. На той час у царкве нікога не было. Перад царскай брамай заўважыў нагавіцы святога Георгія. Тут узнікла ў мяне жаданне прымераць іх, адчуць сябе ў якасці святога. Скінуў свае нагавіцы, надзеў Георгіеўскія, дыплом у іх паклаў. У гэты момант зайшоў туды архімандрыт і заўважыў, што нагавіцы змяніліся, сталі лепшымі, навейшымі. І як укленчыць: «Святы цуд, святы цуд! Нагавіцы святога Георгія аднавіліся!» Такі наіўны чалавек, нават падумаць не мог, што ў некага хопіць нахабства зняць з брамы святую рэліквію. З таго часу вось даводзіцца хадзіць у нагавіцах святога. Мне здаецца, такое не пярэчыць ідэям рэфармацыі, якія я вельмі паважаю.

Л ю т э р. Дык маскоўскія схізматыкі і дагэтуль моляцца на звычайныя нагавіцы ў Георгіеўскай зале?

С к а р ы н а. Так.

Л ю т э р. І дыплом пан Францыск пераклаў у нагавіцы святога Георгія?

С к а р ы н а. Так. Не пакідаць жа Георгію: ён на маё імя выпраўлены

Л ю т э р. Хвілінку, пан жа атрымаў дыплом у Падуі. То адкуль у Маскве ўзяўся падуанскі дыплом?

С к а р ы н а. У Маскве ў мяне быў кракаўскі дыплом — дыплом мастака. Яго і паклаў. А ў Падуі быў падуанскі — лекара. Вось сюды паклаў кракаўскі, а сюды падуанскі. І няхай пан доктар мяне не блытае.

П а н і Л ю т э р о в а *(вылазіць з ложка, захутаная ў коўдру.)* Марцін, ты запрасіў чалавека,

а сам з’ехаў; кінуў мяне тут паміраць, а ён мяне выратаваў. І цяпер ты, як езуіт-інквізітар, учыняеш тут допыт. Мы павінны быць удзячнымі. Людзі ж даведаюцца, і што пра нас казаць пачнуць у Вітэнбергу?

С к а р ы н а. Я ўдзячны пані Лютэровай за тое, што яна так высока цэніць мае здольнасці. Аб чым гаворка? Я ўжо бязмежна ўдзячны, што пазнаёміўся з панам Лютэрам.

Л ю т э р. Я абяцаў пану Францыску прэзэнтаваць сваё выданне Святога пісання. *(Сыходзіць.)*

П а н і  Л ю т э р о в а. Дык ты намалюеш мяне?

С к а р ы н а. Каб падабенства было дакладным, трэба правесці яшчэ пару сеансаў. З заплюшчанымі вачыма яшчэ не намалюю. Не дайшоў да кандыцыі. Адным вокам усё ж такі падглядаць давядзецца.

П а н і  Л ю т э р о в а. Яшчэ пару сеансаў, кажаш. Я не супраць. Лютэр засне, мы і сустрэнемся.

С к а р ы н а. Мне сюды прыходзіць зноў небяспечна. На гэты раз уратаваў святы Георгій — другі раз можа і не спрацаваць.

П а н і  Л ю т э р о в а. Лепш я да цябе прыйду. Толькі куды?

С к а р ы н а. Я ў Меланхтона жыву. Прыходзь, толькі пазней, каб гаспадары моцна пазасыналі.

П а н і  Л ю т э р о в а. Ты Меланхтона напаі, каб добра спаў. Ён не пачуе, як я прыйду. Пракрадуся паўз ягоную спачывальню і адразу ў тваю, ты толькі дзверы загадзя адамкні.

С к а р ы н а. Згода.

### *Праява дзевятая*

Уваходзіць Л ю т э р. Працягвае С к а р ы н е кнігу.

Л ю т э р. Вось самае дарагое, што маю.

С к а р ы н а. Разумею пана доктара. У нас самае дарагое адно на дваіх. Што можа быць даражэй-

шае за Святое пісанне? *(Бярэ кнігу.)* Як не было мне тут прыемна, але надышоў час развітацца. Цёмна ўжо. Мушу ісці. Маё шанаванне пану Лютэру і пані Лютэровай.

Л ю т э р. А, дарэчы, пан доктар спыніўся ў нашага брата Мелангтона?

С к а р ы н а. Так. Апошнюю ноч пабуду ў ягоным доме і паеду.

П а н і  Л ю т э р о в а. Куды?

С к а р ы н а. Гэтага ніхто не ведае. *(Сыходзіць.)*

П а н і  Л ю т э р о в а. Да пабачэння, пан Францыск.

Л ю т э р. Да пабачэння, да пабачэння, пан доктар, не ведаю ўжо якіх навук. Мы яшчэ сустрэнемся.

П а н і  Л ю т э р о в а. Ты нешта сказаў?

Л ю т э р. Я і з табой яшчэ разбяруся! Заўтра пагаворым. Кладзіся спаць!

П а н і  Л ю т э р о в а. Ты некуды сабраўся?

Л ю т э р. Кладзіся спаць, я сказаў! Я зноў еду ў Таргаў.

Чакае, пакуль жонка ляжа ў ложак, і толькі тады сыходзіць.

П а н і  Л ю т э р о в а. Шкада, каб ведаць, што стары з'едзе, то Францыску можна было б і за рогам пачакаць, а зараз давядзецца цягнуцца такой цемрай да Мелангтона. *(Устае, апранаецца.)* Не, рана яшчэ ісці. Раптам Марцін вернецца. Ды і Францыску трэба добра Мелангтона апрацаваць, каб спаў і нічога наўкола не бачыў і не чуў.

*ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ*

Тыя ж.

Р э ж ы с ё р *(кратае мікрафон)*. Дастаткова. На сёння ўсё.

А к ц ё р к а сыходзіць. Р э ж ы с ё р з Д р а м а т у р г а м устаюць, ідуць да ложка.

Д р а м а т у р г. Мы ж дамаўляліся. Я табе зрабіў тэалагічны дыспут у Мелангтона па вышэйшаму гатунку. Ты ў ім кожную дэтальку выточваў. А над гэтай сцэнай працаваць не хочаш. Ну што гэта за акт? Схаваліся ў ложак — і нічога не відаць. Не па-мастацку атрымалася. Мог бы два цені на сцяну запусціць, або заслону паўпразрыстую, накшталт сеткі. І стварыў бы настрой. Было б прыстойна. А так абы-што. Ты паглядзі, што атрымалася: Скарына скача ў ложак, скача з ложка.

Р э ж ы с ё р. Што ты напісаў, тое і зрабіў.

Д р а м а т у р г. Я раблю літаратуру, а ты робіш спектакль. Я не буду ўсе паўзы па секундамеры распісваць.

Р э ж ы с ё р. Ну і падпісвай — п'еса для чытання, я гэта дарабляць не буду і нікому паказваць не збіраюся.

Д р а м а т у р г. Чаму гэта — не будзеш?

Р э ж ы с ё р. Я не ты, я са Скарыны і з Лютэра здзекавацца не магу. Пачыналі працу, ты мне як абяцаў? Напісаць сур'ёзны, манументальны твор, па магчымасці ў вершах, накшталт «Фаўста». Узяў бы сапраўднага «Фаўста» і нарэзаў з яго цытат. Паставілася б нармальна.

Д р а м а т у р г. На класіку пацягнула — то і ставіў бы класіку. Ты мне галавы не дуры. Скарына, Лютэр яго хвалююць. Які ж ён Скарына — звычайны акцёр. Сёння ён Скарына, заўтра — святы Георгій. Рэплікі яму я напісаў, мне за іх і адказваць. А ты проста за жонку сваю баішся. Не хочаш яе аголеную на сцэне дэманстраваць, таму і ў ложак схаваў.

Р э ж ы с ё р. Тады здымай імя Скарыны і Лютэра, гані камедыю. Якія ж яны пасля гэтага дзеячы Адраджэння?

Д р а м а т у р г. А ты ўяўляеш эпоху Адраджэн-

ня? Ты ведаеш, што Петрарка і Бакача жылі пры каралеўскім двары, дзе адна французская графіня атруціла другую пры дапамозе клізмы? А праз год забіла ва ўласным ложку мужа каралевы? Двор гэты, як пісалі сучаснікі, нагадваў публічны дом. Што Мікеланджэла зламаў нос Леанарда да Вінчы і жахліва знявечыў твар аднаму нямецкаму ювеліру? А знакаміты скульптар Тарыджыяні сам расказваў Бенвенута Чэліні, як аднойчы так моцна ўдарыў маладога Мікеланджэла кулаком у нос, што нос ператварыўся ў аплатку. На што Чэліні расказваў пра тое, як ён катуе і забівае каханак, а потым пахваляўся злачынствамі, якіх нават і не рабіў. А Франсуа Рабле? Як мінімум у дзвюх краінах Франсуа Рабле быў прысуджаны да смяротнай кары. Ты думаеш, Скарына быў лепшы за іх?

Р э ж ы с ё р. Ты на мяне не цісні. Ты мне Скарыну зрабі такога, каб не сорамна было ні за яго, ні за сябе.

Д р а м а т у р г. А мне не сорамна ні за сябе, ні за Скарыну. Я раблю эпоху Адраджэння такой, якой яна была.

Р э ж ы с ё р. Я не магу гэтага паставіць.

Д р а м а т у р г. А я не магу рабіць бронзавых, ампірных балванаў-ідалаў.

Р э ж ы с ё р. Вось і дамовіліся. Ты шукай сабе другога рэжысёра, а я знайду другога драматурга.

Сыходзяць.

*Інтэрмедыя.*

З-за кулісы выходзяць філосафы Ф р ы д р ы х і Л ю д в і г, ідуць праз сцэну, не зважаючы на залу. Гавораць па-нямецку.

Л ю д в і г *(да Фрыдрыха)*. ...Было б сапраўды сафізмам, не толькі смешным, але і не разважным, — грунтаваць і тлумачыць жаніцьбу Лютэра

сыходзячы не з правоў розуму і прыроды, а станоўчых запаветаў выслоўем з Бібліі. Тады мусім даводзіць, што ў Бібліі ўзгадваецца Катарына фон Бора як наканаваная яму жонка, што Лютэр ажаніўся з Катарынаю на падставе пэўных біблейскіх слоў. Чалавек, які наважыўся ажаніцца не самастойна, а на падставе Бібліі, не здолее сам абраць тую ці іншую асобу. Але абіраць трэба толькі адну. Якую ж выбраць? Гэта галоўнае.

Людвік з Фрыдрыхам нетаропка заходзяць за супрацьлеглую кулісу. Праз хвіліну з’яўляюцца зноў, ідуць у адваротным кірунку.

Фрыдрых *(да Людвіга)*. ...А што адбылося замест гэтага? Немец-манах па прозвішчу Лютэр з’явіўся ў Рыме. І гэты мніх, з усімі помслівымі інтынктамі жраца-недаробка, што захраслі ў ягоным целе, абурыўся ў Рыме супраць Рэнесансу... Замест таго каб з вялікаю пашанаю асэнсоўваць душою тое пачварна-вялікае, што здзейснілася, — а менавіта, пераадольванне хрысціянства ў самым ягоным асяродку. Ён толькі ўмацоўваў гэтым відовішчам сваю нянавісць. Рэлігійны чалавек думае толькі аб сабе...

Фрыдрых з Людвігам сыходзяць за кулісу.

## АКТ ДРУГІ

*Інтэрмедыя.*

Зноў з-за куліс выходзяць філосафы, рухаюцца тым жа чынам: ад адной кулісы за другую і наадварот.

Фрыдрых *(да Людвіга)*. ...Лютэр убачыў псаванне папства тады, як мажліва было намацаць рукамі адваротнае: старажытнае псаванне, перша-

родны грэх, хрысціянства ўжо не было на папскім троне! А панавала жыццё! Свята жыцця! Вялікае Так, звернутае да ўсяго новага, прыгожага, дзёрзкага!.. І Лютэр аднавіў царкву — ён абвясціў ёй вайну... Рэнесанс — велічнае дарма. Ах, гэтыя немцы! У што яны нам абышліся! Кожнае «дарма» — справа нямецкіх рук... Прызнаюся: яны мае ворагі, гэтыя немцы. *(Заходзяць за кулісу.)*

Выходзяць, сунуцца ў супрацьлеглым напрамку.

Л ю д в і г *(да Фрыдрыха)*. ...Лютэр быў ворагам тэалогіі, пазней ён стаў яе прымаць, але толькі з нагоды знешняй неабходнасці, толькі з пункту гледжання яе карысці для тэалогіі. Ён, напрыклад, казаў *(пераймае голас і інтанацыю Лютэра)*: «Я перакананы, што сапраўдная тэалогія не здольная існаваць без навукі». У гэтым жа рэчышчы раіў філасофію і Мелангтон *(пераймае голас і інтанацыю Мелангтона)*: «У імя і на карысць Бога, якога мы павінны бліжэй за ўсё браць да сэрца, я заклінаю вас не зняважаць філасофію, неабходную дзеля тэалогіі».

Сыходзяць.

## *ДЗЕЯ ПЕРШАЯ*

### *Праява першая*

Р э ж ы с ё р і А к ц ё р к а.

А к ц ё р к а. Гэтыя яшчэ хто?

Р э ж ы с ё р. Гэта нямецкі тэатр, ставіць п’есу пра Лютэра.

А к ц ё р к а. А хто з іх Лютэр?

Р э ж ы с ё р. Гэта два філосафы: Фрыдрых і Людвіг.

А к ц ё р к а. Прагнаў Драматурга?

Р э ж ы с ё р. Ён сам пайшоў.

А к ц ё р к а. І што будзеш рабіць далей?

Р э ж ы с ё р. Буду думаць, працаваць. Як раней: ціха, спакойна.

А к ц ё р к а. А як жа Скарына?

Р э ж ы с ё р. Мне такога Скарыны не трэба.

А к ц ё р к а. Нармальны Скарына. Ва ўсякім разе, лепшы за Лютэра.

Р э ж ы с ё р. І чаму я тады не прыбраў ложак?

А к ц ё р к а. Цябе з гэтым ложкам заклініла. Усё ж ідзе, як ты хацеў. Адзін толькі фрагмент, а ты кідаешся ў амбіцыі.

Р э ж ы с ё р. Ды не на ложку мяне заклініла.

А к ц ё р к а. А, ведаю. У цябе навязлівая ідэя. Убіў сабе ў галаву, нібыта я табе з Драматургам здраджваю. Таму і не прымаеш ягонай драматургіі.

Р э ж ы с ё р. Пра гэта я і думаць забыўся. Мне не за сябе, а за Бацькаўшчыну крыўдна. Мне толькі адно дзіўна. Здаецца, свой хлопец гэты Драматург. Усё разумее, а піша такое, за што агідна. Мы ж павінны адну справу рабіць. Ёсць сацыяльны заказ — ушанаваць памяць Скарыны, а ён выдурвацца пачынае.

А к ц ё р к а. Цябе гэта абурае? Вось і выдатна. На тое ж і разлічана. Ён ідзе ад адваротнага. Ты бараніць Скарыну пачаў пасля гэтай сцэны. Няўжо дагэтуль не зразумеў, што ён правакуе тваю любоў і павагу, выпрабоўвае? І ты купіўся.

Р э ж ы с ё р. А мяне няма чаго выпрабоўваць. Мне не смешна, у мяне душа баліць і без ягоных выкабельванняў. Яны ж іржаць будуць, як коні.

А к ц ё р к а. Вось у гэтым і ўся хохма. І смех і грэх.

Р э ж ы с ё р. Можа, і ёсць у гэтым нейкі сэнс. Але я гэтага не прымаю. Глядзіш — і нібыта табе сярпом па пэўным месцы.

А к ц ё р к а. Можа, табе варта завесці каханку ці, як мінімум, наведаць сэксапатолага?

Р э ж ы с ё р. Можа, мне яшчэ ў вар'ятні паля-

чыцца?

А к ц ё р к а. Вар'ятня ад імпатэнцыі яшчэ нікога не ўратавала.

Р э ж ы с ё р. Гэта ты сур'ёзна?

А к ц ё р к а. Цалкам. Я маю цябе на ўвазе як творцу.

Р э ж ы с ё р. І на гэтым дзякуй.

А к ц ё р к а. Тады ты яшчэ горш.

Р э ж ы с ё р. Не думаю.

А к ц ё р к а. Ты баязлівец.

Р э ж ы с ё р. А вось тут ты памыляешся.

А к ц ё р к а. Ты за сябе баішся. Пастаў гэта дзеля мяне.

Р э ж ы с ё р. Гэта забаронены прыём, так нельга.

А к ц ё р к а. Я на гэта і разлічваю. Тады ты зробіш гэта дзеля мяне?

Р э ж ы с ё р. Драматург сышоў, мне самому яму неяк няёмка тэлефанаваць. У нас не тыя адносіны.

А к ц ё р к а. А калі ён сам зараз прыйдзе, першы руку падасць, а ты яшчэ падумаеш: паціскаць ці не?

Р э ж ы с ё р. Ды я сам бачыў, як ён з'язджаў.

А к ц ё р к а. Ты мне не адказаў.

Р э ж ы с ё р. Дзеля цябе я згодны на ўсё.

А к ц ё р к а. Ну, дык глядзі, вунь ён стаіць.

### *Праява другая*

Тыя ж і Д р а м а т у р г.

Д р а м а т у р г. Вітаю панства.

Р э ж ы с ё р. Мы тут параіліся. Слабая сцэна з Лютэрам. Ты зможаш зрабіць мацней?

Д р а м а т у р г. У якім сэнсе — мацней?

Р э ж ы с ё р. Гуляць дык гуляць. Давай адмочым фарсік.

Д р а м а т у р г. А ты потым не збаішся? Трапятацца не будзеш?

А к ц ё р к а. Ён у мяне не баязлівы.

Д р а м а т у р г. Глядзі!

Р э ж ы с ё р. У цябе ёсць прапановы?

Д р а м а т у р г. Ёсць. Мелангтон таксама быў жанаты. І ягонай жонцы надта спадабаўся Скарына.

Р э ж ы с ё р. Гэта пасля таго, як ён вярнуўся ад Лютэра?

А к ц ё р к а. А мне там роля будзе?

Д р а м а т у р г. Расклад застанецца ранейшы. Але сітуацыя ўскладняецца. Скарына, як і абяцаў табе, спойвае Мелангтона, можа, нават падсыпае соннага зелля. Але нечакана да яго пачынае заляцацца пані Мелангтонава.

Р э ж ы с ё р. Пайшлі працаваць.

Сыходзяць.

*Інтэрмедыя.*

З-за кулісы выходзяць філосафы: Ф р ы д р ы х і Л ю д в і г, сунуцца праз сцэну. Гавораць па-нямецку, не зважаючы на залу.

Ф р ы д р ы х *(да Людвіга)*. Што добра? — усё, з-за чаго ў чалавеку ўзрастае пачуццё ўласнай віны, прага ўлады, велічы. Што блага? — усё вытворнае ад слабасці. Што шчасце? — пачуццё ўзрастання моцы, улады, пачуццё, што пераадолеў новую перашкоду. Дык няхай гінуць слабыя і вырадкі — першы запавет нашай дабрачыннасці. Трэба дапамагчы ім загінуць. Што больш шкоднае за грэх? — спачуваць слабым і вырадкам — хрысціянства...

Заходзяць за кулісу, праз хвіліну з’яўляюцца зноў, ідуць у адваротным кірунку.

Л ю д в і г *(да Фрыдрыха, пераймае голас і інтанацыю Лютэра)*. «Хто не любіць віна, жанчын і спеваў, той на ўсё жыццё застанецца дурнем». *(Гаворыць сваім голасам.)* Гэтае Лютэрава выслоўе,

няхай сабе і не лічыцца ў святых кнігах і, адпаведна, не з'яўляецца афіцыйным, але тым не менш добра і дакладна зразумелае яно мае ўсеагульнае значэнне, нават у рэлігійных адносінах.

Сыходзяць за супрацьлеглую кулісу.

*ДЗЕЯ ДРУГАЯ*

## *Праява першая*

Дом Меланґтона. Гасцёўня, абапал дзве спачывальні. Уваходныя дзверы. На вокнах фіранкі. На стале бутэлькі. Рэжысёр і Драматург за столікам з мікрафонам. Рэжысёр кратае мікрафон. Меланґтон, пані Меланґтонава, Скарына за сталом у гасцёўні п'юць віно.

Меланґтон. Не, хай пан мяне не пераконвае. Вядома, прафесар вышэй за доктара, але ж пан двойчы доктар, і гэта больш за прафесара. Таму пану Францыску належыць спаць у лепшай спачывальні, а мы з пані Меланґтонавай пяройдзем у тую *(паказвае)* спачывальню для гасцей. А што ў нас так цёмна?

Пані Меланґтонава. Цёмна? Не можа быць, праўда, Францыск?

Скарына. Святла на тое, каб легчы спаць, дастаткова.

Меланґтон. Сапраўды, час класціся спаць. Тэалагічныя дыспуты з братам Лютэрам вельмі стамляюць. Пра што вы гаварылі?

Скарына. Пра значэнне святых рэліквій.

Меланґтон *(устае, хістаючыся ідзе ў спачывальню на правы бок сцэны).* Гутэн нахт, гэр Францыск. *(Падае ў ложак, нерухомее.)*

Пані Меланґтонава *(абдымае Скарыну).* Ты добра разумееш мову жэстаў. Дастаткова было аднаго позірку, каб ты зарыентаваўся.

С к а р ы н а. Гэта твая ідэя са спачывальняй?

П а н і  М е л а н г т о н а в а. Табе не падабаецца, што разам з гаспадарскай спачывальняй у тваe рукі трапілася і сама гаспадыня?

С к а р ы н а. Не, я проста кепска засынаю на новым месцы.

П а н і  М е л а н г т о н а в а. А ты збіраешся спаць?

С к а р ы н а. Але і спаць таксама. Ты ж чула — тэалагічныя дыспуты так стамляюць, нават прафесараў.

П а н і  М е л а н т о н а в а *(пачынае распранаць Скарыну).* І якую асалоду толькі знаходзяць мужчыны ў гэтых размовах? Не разумею.

С к а р ы н а. Ты маеш рацыю. У гэтым я сёння пераканаўся ў брата Лютэра. *(Пачынае распранаць пані Мелангтонаву.)*

П а н і  М е л а н г т о н а в а. Чакай, трэба загасіць святло, яшчэ хто праз акно пабачыць.

Абодва ходзяць, гасяць свечкі.

С к а р ы н а. Ну і цемра. Нічога не відаць. *(Выцягвае перад сабой руку, мацае паветра.)*

П а н і  М е л а н г т о н а в а. Не згубіся, хадзі да мяне.

Ідуць насустрач адно аднаму.

П а н і  М е л а н г т о н а в а. Дзе ты? *(Чапляецца за левы ложак, падае ў яго.)*

С к а р ы н а кіруецца на гук, таксама чапляецца і падае на п а н і  М е л а н г т о н а в у.

С к а р ы н а. Нарэшце, цяпер не згубімся.

Мілуюцца.

П а н і  М е л а н г т о н а в а. Куды ты так спяшаешся? Цэлая ноч наперадзе.

С к а р ы н а. Vita brevis — жыццё кароткае, як сцвярджаюць рымляне. Што ж тады казаць пра ноч?

С к а р ы н а
і  п а н і  М е л а н г т о н а в а працягваюць мілавацца.

*Праява другая*

З боку ўваходных дзвярэй з'яўляецца Л ю т э р , спыняецца ў разгубленасці.

Л ю т э р. Ну і цемра. *(Падносіць руку да вачэй.)* Нават пальцаў не відаць. Няёмка будзіць брата Мелангтона, але што зробіш, трэба папярэдзіць і яго. *(Навобмацак падбіраецца да ложка, дзе мілуецца Скарына з пані Мелангтонавай.)*

П а н і  М е л а н г т о н а в а *(узвізгвае).* Хто тут?

Л ю т э р. Гэта я, брат Лютэр. Не варта палохацца, пані Мелангтонава.

П а н і  М е л а н г т о н а в а *(прыглушана вішчыць яшчэ раз, накрывае Скарыну коўдрай з галавой).* Што можа спатрэбіцца ў такі час?

Л ю т э р. Брат Мелангтон спіць?

П а н і  М е л а н г т о н а в а. Так... толькі ён...

С к а р ы н а *(шэптам з-пад коўдры).* Цішэй, бо пабудзіш.

П а н і  М е л а н г т о н а в а. Каго?

С к а р ы н а. Мяне... Мелангтона.

Л ю т э р. Брат Мелангтон, у мяне адно пытанне. Скарына тут?

П а н і  М е л а н г т о н а в а. Тут? Тут яго няма, адкуль ён возьмецца ў нашай спачывальні, ён...

С к а р ы н а *(перабівае).* Яшчэ не было, не прыйшоў. А што здарылася?

Л ю т э р. Нешта голас у цябе змяніўся. І чаму ты шэптам гаворыш?

С к а р ы н а. Захварэў я, брат Лютэр, цяжка, вось і падняцца не магу, і святло не выношу, вочы рэжа, так што выбачай, давядзецца сядзець у цемры.

Л ю т э р. Бачыш, і з табой кепска, я прадчуваў гэта, таму і прыйшоў папярэдзіць. Скарыну ў доме не прымай, мне ўжо даўно казалі, што ён найхітрэйшы прайдзісвет, езуіт і папскі шпіён. Мяне папярэджвалі, што яму біскупы дзве тысячы залатых далі, каб нас з табой са свету зжыў. Казалі: сцеражыся доктара Францыска-католіка. І як я адразу не ўспомніў, не зразумеў, што гэта ён?

С к а р ы н а. Блытана гаворыш, брат Лютэр. І кажы цішэй, мне вушы таксама баляць.

Л ю т э р. Ведаеш, гэта, хутчэй за ўсё, Скарына цябе зачараваў ці атруціў чым.

С к а р ы н а. З чаго ты гэта ўзяў?

П а н і М е л а н г т о н а в а. Ён жа такі прыемны чалавек, адукаваны, выкшталцоны.

Л ю т э р. Брат Мелангтон, я хацеў бы з табой сам-насам перамовіць.

П а н і М е л а н г т о н а в а. Куды гэта я са сваёй спачывальні пайду?

С к а р ы н а. Хто ў доме гаспадар? Калі ласка, пачакай у іншым месцы.

П а н і М е л а н г т о н а в а ідзе, кладзецца ў ложак да М е л а н г т о н а. Той спіць і не рэагуе.

Л ю т э р. Не ведаю, як прызнацца. Бо надта ж далікатная тэма. *(Намацвае край ложка, сядае.)*

С к а р ы н а *(адсоўваецца на другі край)*. Але ж мне ты можаш прызнацца, нас ніхто чужы не пачуе.

Л ю т э р. Ёсць у мяне адно сумненне наконт Скарыны і маёй жонкі. Увечары прыходжу дадому, а ён у маёй спачывальні без нагавіц ходзіць, і жонка аголеная ў ложку. Ад нечаканасці да мяне не адразу дайшло. Бо такога нахабства я сабе і не

ўяўляў. Не паспеў я зарыентавацца, а яны адразу выкручвацца пачалі. І гэты Скарына — слізкі, як гад, на кожнае пытанне ў яго па тры адказы, затлуміў галаву і выслізнуў з дому. З жонкай я разбяруся. А гэтаму не дарую. Вось і прыйшоў да цябе параіцца, як да свайго духоўнага брата.

С к а р ы н а. Так, непрыемная гісторыя, брат Лютэр. Але, можа, ты памыляешся? Слугу свайго распытай.

Л ю т э р. Гэты Скарына так слугу напалохаў, што той спачатку ўцёк, а як вярнуўся, то яму і мову адняло, калоціцца ўвесь.

С к а р ы н а. Раней за такія рэчы забівалі на месцы.

Л ю т э р. Ды я ведаю, але ж я святар.

С к а р ы н а. Ну тады застаецца адно — напіцца. Пойдзем, брат Лютэр, возьмем на стале пляшку і вып’ем, а Скарына вернецца — мы з ім і разбяромся.

Ідуць у гасцёўню, бяруць келіхі і бутэльку, вяртаюцца ў спачывальню.

Л ю т э р п’е віно.

Л ю т э р. А ты што не п’еш?

С к а р ы н а. Зараз.

Л ю т э р п’е папраўдзе, С к а р ы н а кожнага разу гучна пералівае віно з келіха ў келіх.

Л ю т э р. Нейкі дзіўны прысмак у твайго віна: часам, Скарына да яго не падыходзіў? Мо, падсыпаў чаго?

С к а р ы н а. Не, не падыходзіў. Гэта карчмар цвілой вадой разводзіць.

Л ю т э р. Хоць і разведзенае, а ў галаву дало; відаць, дадому я ўжо не пайду, ды і жонцы сказаў, што з’язджаю ў Таргаў. Мы ж з табой заўсёды, калі

што, для жонак у Таргаў едзем. *(Спрабуе ўстаць, намацвае выпадкам Скарынавы нагавіцы, намысліваецца, яшчэ раз дакладна іх абмацвае.)* Дык гэта ж нагавіцы святога Георгія?!

С к а р ы н а. Што ты знайшоў?

Л ю т э р. Нагавіцы святога Георгія, ды не, Скарынавы нагавіцы. Я іх навобмацак пазнаў.

С к а р ы н а. Ну падумай сам: адкуль у маёй спачывальні могуць быць ягоныя нагавіцы? Што ён — без нагавіц ходзіць?

Л ю т э р. І я так раней думаў. А сёння вярнуўся дадому — а ў ложку ў жонкі яны ляжаць; не іначай, д'ябальская рэч.

С к а р ы н а. Гэта ж ты апошнім часам у Таргаў ездзіш, а я з жонкай сам, кожную ноч. Прымроілася табе. Давай лепш яшчэ па адным вып'ем і класціся спаць.

Л ю т э р *(кладзе нагавіцы)*. Развіднее, пабачым, што гэта такое. *(П'е віно.)* Гэта ж не твае нагавіцы?

С к а р ы н а. Не. Заставайся ў маёй спачывальні, а я да жонкі пайду, яна заснула, відаць, там.

Л ю т э р. Прыйдзе Скарына, пабудзі мяне — заб'ю гада.

С к а р ы н а. Абавязкова.

Л ю т э р падае ў ложак і нерухомее. С к а р ы н а выходзіць у гасцёўню.

Напэўна, трэба тэрмінова пакінуць Вітэнберг. Зараз яшчэ як Лютэрова прыйдзе... лепш, каб мяне на гэты момант не было тут. Хай самі тут разбіраюцца.

С к а р ы н а асцярожна, бязгучна кіруецца да ўваходных дзвярэй. У той час устае п а н і М е л а н г т о н а в а і ідзе шукаць С к а р ы н у.

П а н і М е л а н г т о н а в а. Францішак, Францішак...

С к а р ы н а моўчкі прыцiскаецца да сцяны, спрабуе

застацца незаўважаным. П а н і М е л а н г т о н а в а выпадкова ў цемры намацвае С к а р ы н у.

П а н і М е л а н г т о н а в а. Вой, хто гэта?

С к а р ы н а. Гэта я, Лютэр.

П а н і М е л а н г т о н а в а *(вобмацкам высвятляе, што Скарына без нагавіц)*. А чаму тады пан Лютэр ходзіць без нагавіц? Хопіць дурэць, Франці-шак. *(Спрабуе сцягнуць са Скарыны мантыю.)*

С к а р ы н а *(трымае мантыю аберуч)*. Ты што, звар'яцела? Тут, на калідоры? А раптам Лютэр выйдзе?

П а н і М е л а н г т о н а в а. А хто ў доме гаспадар? Ты ж Мелангтон — дзе хочаш, там і маркітуешся.

С к а р ы н а. Я нават і не як Мелангтон дзе хачу, там і маркітуюся. Але калі мяне пазнае Лютэр, то заб'е: толькі што прасіў мяне дапамагчы яму ў гэтым, сядзіць, цікуе. Думаеш, ён спіць?

П а н і М е л а н г т о н а в а. Дык што ж рабіць?

С к а р ы н а. Ідзі кладзіся да мужа ў сваю спачывальню, яшчэ не хапала мне, каб ён спахапіўся.

С к а р ы н а і п а н і М е л а н г т о н а в а ходзяць вакол стала.

П а н і М е л а н г т о н а в а. А ты? Табе ж бегчы трэба, уцякаць. Бяжы, Францішак. *(Цягне яго да ўваходных дзвярэй.)*

С к а р ы н а. Без нагавіц? Ты ідзі, кладзіся, я з астатнім сам разбяруся. *(Бярэ пані Мелангтонаву за руку і похапкам цягне да ложка Лютэра.)* Хутчэй.

П а н і М е л а н г т о н а в а абмацвае ложак, знаходзіць соннага Л ю т э р а.

П а н і М е л а н г т о н а в а. Спіць, як забіты.

С к а р ы н а. Затое Лютэр не спіць. Не чапай

ліха, покуль спіць ціха. Бывай. *(Крадзецца да ўваходных дзвярэй.)*

### *Праява трэцяя*

У гэты час у дом заходзіць Пані Лютэрова. Яны бязгучна крадуцца насустрач адно аднаму, сутыкаюцца.

Пані Лютэрова. Францішак? Ты чакаў мяне? *(Абдымае.)*

Скарына. А хто ж яшчэ? Зачакаўся я цябе. Не ведаў ад суму, што і рабіць.

Пані Лютэрова. Ведаеш, нам пашанцавала, Марцін у Таргаў з'ехаў. Мы нагонім тое, што ўпусцілі, усю ноч разам будзем.

Скарына. Хадзем, я ўжо ледзь на нагах трымаюся. *(Вядзе яе за руку ў спачывальню да Мелангтона, спыняецца каля ложка.)* Распранайся, а я ўжо лягу, змерз, на калідоры стоячы.

Пані Лютэрова *(распранаецца)*. Нічога, зараз сагрэю.

Скарына паціху сыходзіць, на калідоры спыняецца ў разгубленасці, абмацвае свае аголеныя лыткі.

Пані Лютэрова *(кладзецца побач з Мелангтонам, абдымае яго)*. Казаў, што змерз, а сам такі гарачы. Дык ты заснуў? Не, спаць я табе не дам! *(Трыбушыць Мелангтона.)* Францішак!

Скарына. Ну, усё, пачалося. Ды гары яно гарам такое каханне, разам з тымі нагавіцамі і святым Георгіем! *(Знікае за дзвярыма.)*

Пані Лютэрова. Прачынайся, не прыдурвайся! *(Садзіць Мелангтона на ложак, спрабуе распрануць.)* І калі напіцца паспеў?

Мелангтон валіцца на падлогу, прачынаецца.

Мелангтон. Ты што, ты што робіш? Ведаеш, як

мне зараз блага? *(Залазіць на ложак.)* Знайшла час на гульні. *(Спрабуе заснуць.)*

П а н і  Л ю т э р о в а. Сам запрасіў, а цяпер спаць завальваешся? Не, так не пойдзе. *(Трасе Меланґтона.)*

М е л а н г т о н. Адчапіся, кажу, я стары, хворы чалавек.

П а н і  Л ю т э р о в а. Я цябе зараз вылечу. Гэта ўсё цемра. Зараз фіранкі адсуну: як пабачыш мяне ў месячным святле — адразу акрыяеш.

Устае з ложка, адсоўвае фіранкі. Выходзіць на сярэдзіну пакоя, прымае спакуслівую позу.

Ну, чым я горшая за Марыю Магдаліну?

На ложку змрочны і хворы М е л а н г т о н паволі падымае голаў.

Некаторы час моўчкі глядзяць адно на аднаго.

М е л а н г т о н. Піць трэба менш, бо пачала сніцца розная брыдота. Добра, хоць пані Лютэрова прымроілася, а не Лютэр з голай дупай. *(Зноў укладваецца спаць, замест коўдры насоўвае на сябе сукенку пані Лютэровай.)*

П а н і  Л ю т э р о в а на дыбачках падкрадаецца да М е л а н г т о н а, спрабуе забраць сукенку, той гучна сапе і цягне сукенку на сябе. У гэты час прачынаецца Л ю т э р, прыслухоўваецца.

Л ю т э р. О, відаць, Скарына вярнуўся. Пайду зірну, што там адбываецца, ці не мая жонка прыцягнулася? *(Устае. Да пані Лютэровай і Меланґтона.)* Я так і думаў! Гэта ўжо занадта! *(Адпіхае ўбок пані Лютэрову, кідаецца на Меланґтона, таўчэ яго ў галаву.)* Гэта табе за першы раз, гэта табе за нагавіцы святога Георгія, гэта табе... *(Таўчэ з асалодай.)* Заб'ю! *(Заўважае, што гэта не Скарына, спыняецца з узнятай рукой.)*

Брат Мелангтон? З маёй жонкай???

М е л а н г т о н. Ці то я звар'яцеў, ці то яны пашалелі?

Л ю т э р. І гэта пасля таго, што я табе расказваў?

М е л а н г т о н. Дарма ты так, брат Лютэр... Цягаешся па начах са сваёй жонкай. Кідаешся біцца.

Л ю т э р. Я табе душу раскрыў. А ты мяне завёў, здраднік, каб у суседнім пакоі з маёй жонкай забаўляцца?

П а н і Л ю т э р о в а *(забірае ў Мелангтона сукенку, апранаецца).* Гэты ты так у Таргаў ездзіш, Марцін?

Л ю т э р. А ты маўчы, з табой дома разбяруся.

М е л а н г т о н. Каб я з ёй, ды нашто яна мне трэба, у мяне свая ёсць. *(Заўважае, што няма пані Мелангтонавай.)* Клаўся — побач была...

Л ю т э р. І я да цябе ішоў — сваю дома пакінуў, а яна, бач, дзе апынулася. Я да цябе як да брата прыйшоў, а ты мне рогі наставіў.

М е л а н г т о н. Куды маю жонку падзелі, вар'яты? І наогул, адкуль вы тут узяліся абодва?

П а н і Л ю т э р о в а. Я за мужам прыйшла. Ды, відаць, пакоі паблытала.

Л ю т э р. Ты ж мяне сам у тым пакоі пасадзіў Скарыну чакаць, мы з табой выпілі там, я табе даверыўся. Ты ж і сам жонку выправіў, каб размове не замінала.

М е л а н г т о н. Ды я са Скарынам піў, ты ўжо ўшчэнт ашалеў, брат Лютэр...

П а н і Л ю т э р о в а. Ну во, дапіліся святары, горш за католікаў, ужо не памятаюць, хто з кім піў.

Л ю т э р. Дык ты яшчэ і са Скарынам п'еш пасля таго?

М е л а н г т о н. Ён хаця біцца не кідаецца, як вып'е. А ты, як злодзей, залез у мой дом. *(Мелангтон устае.)* Вярзеш абы-што: жонку я выправіў.

П а н і Л ю т э р о в а. А ты, ты нашто сюды прыцягнуўся?

Л ю т э р. Ты мне тут не выкручвайся, не блытай. Я

там Скарыну чакаў.

П а н і  Л ю т э р о в а. Дзе, дзе ты яго чакаў? Гэта ты мне не блытай.

Л ю т э р. Вось тут. *(Вядзе Мелангтона і пані Лютэрову да ложка, дзе ўжо прачнулася пані Мелангтонава.)* Ты ж мяне сам паклаў.

П а н і  М е л а н г т о н а в а хаваецца пад коўдрай.

М е л а н г т о н *(рассоўвае фіранкі).* Скарыну я тут клаў, вось ён і спіць.

П а н і  Л ю т э р о в а *(сцягвае коўдру з пані Мелангтонавай.)* Гэта ты з ёй Скарыну чакаў? *(Б'е Лютэра па твары.)*

П а н і  М е л а н г т о н а в а *(да Мелангтона).* Што яны тут робяць у гэты час?

М е л а н г т о н. Не, гэта я хачу ведаць, што ты тут з Лютэрам вырабляла?

Л ю т э р. Яе не было са мной.

М е л а н г т о н. А дзе ж яна была?

Л ю т э р. Тут, з табой забаўлялася, як я прыйшоў: праўда, пані Мелангтонава?

П а н і  М е л а н г т о н а в а. Ні з кім я не забаўлялася.

М е л а н г т о н. Вы мне тут не згаворвайцеся, галаву не дурыце. Ты, брат Лютэр, хітрун: Скарыну выправіў, жонку сваю да мяне падаслаў, каб спакушала, а сам з маёй. І як толькі пані Лютэрова на такое згадзілася?

П а н і  Л ю т э р о в а. Вы мяне ў свае брудныя справы не блытайце, я за мужам сачыла, адно пакоі паблытала.

Л ю т э р. За мужам яна сачыла. А нашто Мелангтона сукенкай накрывала?

П а н і  М е л а н г т о н а в а. Ды вы што, не разумееце, гэта ж д'ябальскія штукі?

П а н і  Л ю т э р о в а. Сапраўды, чары нейкія.

Л ю т э р. Я табе, брат Мелангтон, яшчэ ноччу казаў, каб Скарыну ў дом не пускаў — гэта ўсё ён, ён і мне спачывальню зачараваў.

М е л а н г т о н. Ды нічога ты мне не казаў, ноччу я,

як нармальны чалавек, выпіў і спаць лёг з жонкай, вунь там . Гэта ж ты па начах цёгаешся.

Л ю т э р. Не, ты там спаць клаўся. Я ж ведаю. Ты тут з жонкай быў.

М е л а н г т о н. Ты хочаш сказаць, што я сам сышоў, а жонку табе пакінуў? Не, тут Скарына спаў.

П а н і  Л ю т э р о в а. Я ж казала: зачаравалі ўсіх нас.

Л ю т э р выцягвае з-пад коўдры С к а р ы н а в ы нагавіцы.

Л ю т э р. Вось яны, нагавіцы святога Георгія. *(Бярэ нагавіцы, шукае дыпломы.)* А дыпломы свае, гад, знёс. Чысты д’ябал.

## *ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ*

### *Праява першая*

Тыя ж.

Р э ж ы с ё р *(у мікрафон)*. Дастаткова. Усе вольныя.

Д р а м а т у р г. Дзякуй.

Л ю т э р, М е л а н г т о н, п а н і Л ю т э р о в а, п а н і М е л а н г т о н а в а сыходзяць.

Р э ж ы с ё р. І што далей рабіць?

Драматург. Сцэну ў магістраце. Далей на самай справе было вось што: Лютэр запатрабаваў ад магістра, каб гэтага інтрыгана ад д’ябла Францыска падверглі катаванню, але з магістрам здарылася тое ж, што з Лютэрам і Мелангтонам. Вучоны і далікатны чужаземец быў адпушчаны з простай парадай пакінуць Вітэнберг. Уяўляеш, як можна раскласці сцэну ў магістраце? Усіх па чарзе выклікаюць сведкамі.

Р э ж ы с ё р. А ты ўяўляеш, што пасля гэтага з намі зробяць пратэстанты?

Д р а м а т у р г. То табе Скарына мой не падабаецца,

то лютэранскай царквы збаяўся.

Р э ж ы с ё р. Мяне, дарэчы, з маім тэатрам у турнэ запрасілі па Скарынавых мясцінах: Прага, Падуя, Вітэнберг, Кёнігсберг. Як я гэта немцам пакажу?

Д р а м а т у р г. І ў гэтым уся праблема? Для Еўропы зробім другі варыянт: усё тое ж самае, толькі Скарына ў Маскве.

Р э ж ы с ё р. І з кім ён у Маскве сустракаўся?

Д р а м а т у р г. Васіль III, ягоная жонка Алена Глінская, дарэчы, беларуская княжна з Полацка.

Р э ж ы с ё р. Васіль III? Дык гэта ж бацька Івана Грознага, першага рускага цара.

Д р а м а т у р г. Вось у гэтым і ўся хохма. Скарына наведаў Маскву, сустракаўся з Аленай Глінскай у 1529 годзе, у снежні, а ў жніўні 30-га нарадзіўся Іван Грозны.

Р э ж ы с ё р. Нашто нашаму Скарыне сын вырадак? А ты не маніш?

Д р а м а т у р г. А ты думаў, Скарынаву Біблію дарма ў Маскве палілі?

Р э ж ы с ё р. У Германіі гэта можа пайці.

Д р а м а т у р г. Вось і дамовіліся: немцам пакажаш Івана Грознага, а маскалям Лютэра. *(Сыходзіць.)*

## *Праява другая*

У спачывальні М е л а н г т о н а з'яўляецца А к ц ё р к а.

А к ц ё р к а . Ты з ім дамовіўся?

Д р а м а т у р г. Не ведаю. Яму хочацца і вашым і нашым.

А к ц ё р к а. А нам чаго хочацца?

Д р а м а т у р г. Нам хочацца жыць.

А к ц ё р к а. Ты напішаш Алену Глінскую пад мяне?

Д р а м а т у р г. Так.

А к ц ё р к а. А ты шмат жаночых роляў напісаў?

Д р а м а т у р г. Для цябе адну пакуль што.

Мілуюцца. *Заслона*

# Прывід у гайцюнішках

TV-п'еса

*Дэтэктыў*

Дзеючыя асобы:
Б р у н а Ч ы к — дэтэктыў
В а д з і м і р Д а ў г а л е в і ч — літаратар
Ю з а ф Р а к — палкоўнік
А г а т а Р а к — Жонка Юзафа
К а з і м і р В я р ы г а — ксёндз
А д а м Ш ы ш д у д а р — доктар, Агацін кузен
Р а з а л л я Р а к — сястра Юзафа
Ё с е л ь Ц э с ь л е р — эканом
З о с я — пакаёўка
П р ы в і д
С а м с о н — сабака ангельскай пароды

*Заходняя Беларусь. 30-я гады.*

## Сцэна 1

Віленская кватэра Б р у н а Ч ы к а. За вакном касцёл святых Пятра і Паўла. Б р у н а Ч ы к і В а д з і м і р Д а ў г а л е в і ч разбіраюць пошту.

В а д з і м і р Д а ў г а л е в і ч. Ліст ад пані Твардоўскай.

Б р у н а Ч ы к. Кінь у камін.

В а д з і м і р Д а ў г а л е в і ч. Не чытаючы?

Б р у н а Ч ы к. І гэта ў камін.

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. Пан Берналік просіць знайсці злодзея, які замест фальшывых банкнотаў прадаў яму пачак рэзаных газет. А на халеру яму былі фальшывыя банкноты?

Б р у н а  Ч ы к. Ведаю, гэтым займаецца Мадэй з Новай Вільні. Прапануе партыю буйных фальшывых купюр за чвэрць наміналу і дае на спробу пару сапраўдных, а кажа, што фальшывыя. Пан Берналік ідзе з імі да ювеліра Рабіновіча, разменьвае. Калі ўжо габрэй не заўважыў падробкі, то грошы можна браць. Пан Берналік пазычае ва ўсіх сваякоў і купляе партыю фальшывых грошай. Толькі Мадэй замест грошай пакуе рэзаную газету.

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. Хай Берналік звернецца ў паліцыю.

Б р у н а  Ч ы к. І скажа, што хацеў купіць фальшывыя грошы?

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. А Мадэй хай і надалей дурыць людзей?

Б р у н а  Ч ы к. Мадэй закон не парушыў: грошы ж ён не падрабляў.

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. Тэлеграма: «У маім маёнтку ў Гайцюнішках з'явіўся прывід. Буду ў пана пасля палудня. Палкоўнік Юзаф Рак».

Б р у н а  Ч ы к. Кінь у камін.

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. Як? У агонь? Я ўсё жыццё марыў злавіць прывіда!

Б р у н а  Ч ы к. І што ты з ім будзеш рабіць?

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. Я цяпер пішу аповесць «Каралеўскае паляванне» і хачу запусціць туды прывідаў.

Б р у н а  Ч ы к. Ты ж пішаш дэтэктыў, а прывіды — гэта фантастыка.

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. Якая фантастыка? Вось тэлеграма. І не ад летуценнай паненкі — ад вайскоўца.

Б р у н а  Ч ы к. Часам вайскоўцы больш палахлівыя за паненак.

В а д з і м і р   Д а ў г а л е в і ч. Я б не казаў, каб на свае вочы не бачыў чорта. Маленькага такога, чорнага — скакаў па кабінеце. З фіранкі на стол, са стала на канапу. Хоць і выпіўшы быў, а перапалохаўся страшэнна.

Б р у н а   Ч ы к. Памятаю я гэты выпадак. Ты потым месяц у санаторыі лячыўся.

В а д з і м і р   Д а ў г а л е в і ч. Я разумею, дактары пра кровазліццё ў воку казалі. Але ж чорт натуральны быў, ён мне попел у вока і сыпануў.

Б р у н а   Ч ы к. З такім чортам яшчэ магу пагадзіцца, але прывідаў лавіць... Дай сюды *(кідае тэлеграму ў агонь)*.

В а д з і м і р   Д а ў г а л е в і ч. Дарма ты, Бруна, у замагільны свет не верыш. Вось да маёй маці ў дзяцінстве Маці Божая прыходзіла, па галоўцы палашчыла.

Б р у н а   Ч ы к. Я ж не толькі ў чорта, я і ў Бога не веру!

В а д з і м і р   Д а ў г а л е в і ч. І чалавек ад малпы пайшоў? Па мне, дык ад Бога. Лягчэй жыць, калі так думаеш.

Б р у н а   Ч ы к. Я, хутчэй, метафізік. Ніхто ніадкуль не паходзіў. Мне так лягчэй жыць.

В а д з і м і р   Д а ў г а л е в і ч. Дык што, ты і ў прывід Барбары Радзівіл не верыш, які алхімік Твардоўскі выклікаў па загадзе караля Жыгімонта Аўгуста?

Б р у н а   Ч ы к. Прывід каралевы — гэта прыгожа. А што засталося, як Жыгімонт Аўгуст злавіў яго — адзін трупны пах.

В а д з і м і р   Д а ў г а л е в і ч. Трупны пах — гэта сера, сімвал Д'ябла.

Б р у н а   Ч ы к. Серай пахне толькі сера, як тухлыя яйкі серавадародам: ты ж не лічыш, што ад іх патыхае Д'яблам?

Гучыць званок у дзверы.

## Сцэна 2

Тыя ж, палкоўнік Юзаф Рак.

Юзаф Рак. Палкоўнік Рак, па рэкамэндацыі генерал-маёра Салагуба.

Бруна Чык. Май сябар пісьменнік Вадзімір Даўгалевіч.

Юзаф Рак. Вы атрымалі маю тэлеграму?

Бруна Чык. Так, але мушу расчараваць пана, я не спецыяліст па прывідах. Справа ў тым, што я ў іх не веру.

Юзаф Рак. Гэта і добра. Я і сам не надта веру. Хацелася б, каб за справу ўзяўся чалавек дысцыплінаваны і цвярозы.

Вадзімір Даўгалевіч. Пан палкоўнік на свае вочы бачыў прывіда?

Юзаф Рак. Не ў крыўду пану, размова мусі быць канфідэнцыяльнаю.

Бруна Чык. Не шкодзіць, Вадзімір якраз буйны спецыяліст па сувязях з замагільным светам. Так бы мовіць, знаўся ўжо з гэтай пошасцю.

Юзаф Рак. Калі так, то я не супраць. Я сам прывіда покуль не бачыў, толькі чуў яго крокі — ходзіць уначы па доме. А жонка — пані Агата — бачыла і страшэнна перапалохалася.

Бруна Чык. Я ўсё ж параіў бы пану палкоўніку звярнуцца да святароў.

Юзаф Рак. Ды жыве ў мяне ксёндз, пасля таго выпадку жонка запрасіла. Але лепей не стала: відаць, раз’юшыўся прывід. Дык я на яго сабаку завёў, нанач у калідор выпускаю. Перастаў хадзіць.

Бруна Чык. Дык і выдатна.

Вадзімір Даўгалевіч. Сабака ад прывіда не ўратуе.

Юзаф Рак. Па калідоры хадзіць перастаў, але ж цыдулкі з пагрозамі піша: «Рыхтуйся, стары дурань, да смерці», а па вечарах у коміне скавыча. Прашу прабачэння.

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. А ці няма ў маёнтку патаемных хадоў?

Ю з а ф  Р а к. Як набыў летась палац, то перабудаваў. Каб што было, знайшлі б.

Б р у н а  Ч ы к. Я б узяўся шукаць забойцу, украдзеную рэч, але лавіць прывіда не бяруся.

Ю з а ф  Р а к. Тое ж мне казалі ў контрразведцы. І параілі звярнуцца да прыватнага дэтэктыва. Я ж у сейфе сакрэтныя дакументы трымаю. А калі прывід цыгары мае ды каньякі крадзе, то можа і да дакументаў дабрацца.

Б р у н а  Ч ы к. Першы раз чую пра прывідаў, якія паляць цыгары і п'юць каньяк. А больш нічога ў вас не знікла?

Ю з а ф  Р а к. Таму я і прыехаў. Заўчора прывід украў мой кішэнны гадзіннік з музыкай — граў паланезік, падарунак маршалка. Я разумею, пан Чык бярэцца за маю справу? Прывіда лавіць неабавязкова, трэба знайсці гадзіннік.

Б р у н а  Ч ы к. Няўжо гадзіннік настолькі каштоўны?

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. Падарунак маршалка?

Ю з а ф  Р а к. Не толькі. Пад накрыўкай я выдрапаў код сейфа ў маім кабінеце, а там сакрэтныя дакумэнты. Маю слабую памяць на лічбы.

Б р у н а  Ч ы к. Ніякіх пільных спраў на гэты тыдзень не маю. Відаць, давядзецца прыняць вашу прапанову. Вадзімір, зірні ў расклад: калі пойдзе цягнік на Пінск?

Ю з а ф  Р а к. Не турбуйцеся. Я замовіў купэ. Цягнік адыходзіць праз чатыры гадзіны. З раніцы будзем у маёнтку.

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. Я прапаную паехаць на маім аўтамабілі, тады мы паспеем яшчэ сёння.

Ю з а ф  Р а к *(здзіўлена)*. Гэта ваш «мерседэс» пад вокнамі?

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч *(хаваючы вочы)*.

Надоечы ў Берліне паставілі маю п'есу...

Ю з а ф Р а к. З тэхнічнага боку я вас разумею, але з патрыятычнага...

### Сцэна 3

Гасцёўня ў маёнтку.
Б р у н а Ч ы к, Ю з а ф Р а к, В а д з і м і р Д а ў г а л е в і ч, Ё с е л ь Ц э с ь л е р.
На падлозе стаяць саквояжы. Вялікі круглы стол, буфет.

Ю з а ф Р а к. Мой эканом — Ёсель Цэсьлер.

Ё с е л ь Ц э с ь л е р. Я нават не пачуў, як вы пад'ехалі.

В а д з і м і р Д а ў г а л е в і ч. У майго «мерседэса» рухавік працуе так далікатна, што можна на капот манету рубам паставіць — не зваліцца.

Ю з а ф Р а к. У маёнтку ўсё спакойна?

Ё с е л ь Ц э с ь л е р. Зноў прывід хадзіў, праз вакно бачыў — белы такі. Можа, пакаёўку падняць?

Ю з а ф Р а к. Ды не, мы тут самі. І ты ідзі кладзіся.

Ё с е л ь Ц э с ь л е р. То ўсім дабранач *(у дзвярах паварочваецца)*. Каньяк, што вы замаўлялі, у буфеце стаіць.

Ё с е л ь Ц э с ь л е р выходзіць.

Ю з а ф Р а к *(дастае з буфета графін і бляшанку з печывам)*. Ну што, панове, возмем з дарогі па кілішку? *(Разлівае каньяк у тры чаркі.)* Трэцяя гадзіна ночы, не хочацца падымаць прыслугу.

Б р у н а Ч ы к. Дзякуй, але адмаўляюся. Блага засынаю на новым месцы.

В а д з і м і р Д а ў г а л е в і ч. А я ахвотна.

Ю з а ф Р а к і В а д з і м і р Д а ў г а л е в і ч выпіваюць, глядзяць адзін на аднога, потым на Б р у н а Ч ы к а, разліваюць яго кілішак па сваіх, зноў выпіваюць

і закусваюць печывам.

Ю з а ф  Р а к. Але, пся крэў, дзе мой сабака? Самсон!

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. Можа, выбег у парк?

Ю з а ф  Р а к. Магчыма, але... Цалкам неверагодна, каб ён кінуў пост. Ангельскай пароды. Самсон!

Выходзяць.

Спачывальня. Ю з а ф  Р а к, А г а т а  Р а к. Вялікі ложак, бюро, шафа. Ю з а ф запальвае святло. А г а т а прачынаецца.

Ю з а ф  Р а к. Самсон! Самсон, пся крэў!

А г а т а  Р а к. Як ты хутка вярнуўся.

Ю з а ф  Р а к. Агата, дзе Самсон, каб яго ваўкі парвалі?

А г а т а  Р а к. Юзаф, ты прыехаў не адзін?

Ю з а ф  Р а к. Ну, усё, цяпер прывіду аман, прывёз паляўнічых: следчага Бруна Чыка і пісьменніка Вадзіміра Даўгалевіча. *(Бярэцца за клямку шафы.)* Ты што такая спалоханая?

А г а т а  Р а к. Зноў прывід...

Ю з а ф  Р а к. Лухта *(адчыняе шафу)*.

У шафе сядзіць нябожчык у мундзіры палкоўніка з усімі ўзнагародамі, канфедэратка з'ехала на акрываўлены твар.

Ю з а ф  Р а к. Лухта. *(Зачыняе шафу, глядзіць на свой адбітак у люстэрку, зноў адчыняе.)* Нябожчык у нашай шафе? Дзе мая шабля?

А г а т а  Р а к. Нябожчык?! *(Вішчыць, кідаецца да Юзафа.)* Юзаф, Юзаф! *(Цягне яго ад шафы, млее.)*

Ю з а ф  Р а к *(бярэ жонку на рукі)*. Супакойся, не хвалюйся, гэта толькі прывід.

А г а т а  Р а к. Забяры мяне адсюль, вынесі на паветра, мне блага.

Ю з а ф  Р а к выносіць жонку са спачывальні. У расчыненай шафе сядзіць акрываўлены труп. Здалёк чуваць крык палкоўніка: «Самсон!» — і Агацін: «Прывід! Ратунку!»

## Сцэна 5

Тэраса. Ю з а ф  Р а к,  А г а т а  Р а к,  Б р у н а  Ч ы к,  В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч.  А г а т а  ляжыць на лаўцы, Ю з а ф  трымае яе за руку.

Ю з а ф  Р а к. Супакойся, Агатка, нікога там не было.

Б р у н а  Ч ы к. Зноў прывід?

Ю з а ф  Р а к. Мая жонка Агата. Пан Бруна Чык і пан Вадзімір Даўгалевіч. Не бойся, яны дапамогуць нам.

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. Пані бачыла прывіда? А мне ніяк не пашчасціць.

А г а т а  Р а к. Ён, ён бачыў *(паказвае дрыжачай рукой на мужа)*.

Заходзяць А д а м  Ш ы ш д у д а р  і  Р а з а л л я  Р а к.

Р а з а л л я  Р а к. Ты крычала?

А д а м  Ш ы ш д у д а р. Прапусціце мяне *(слухае пульс)*. Нервовы шок. Яе што напалохала?

Ю з а ф  Р а к. Адам, пабудзь з ёю, і ты, Разалля. *(Адводзіць на бок Бруна Чыка.)* У мяне ў шафе сядзіць нябожчык.

Б р у н а  Ч ы к,  Ю з а ф  Р а к, за імі і В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч  сыходзяць.

А д а м  Ш ы ш д у д а р. Агата, што ты бачыла?

А г а т а  Р а к. У шафе за люстэркам — прывід.

Р а з а л л я  Р а к. Я б памерла ад страху.

### Сцэна 6

Спачывальня. Ю з а ф  Р а к,  Б р у н а  Ч ы к,  В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. Шафа зачынена.

Ю з а ф  Р а к *(працягвае)*. Падыходжу, адчыняю шафу і бачу — сябе.

Б р у н а  Ч ы к. У люстэрку?

Ю з а ф  Р а к. Не, я ж адчыніў шафу. Нябожчыка — самога сябе ў парадным мундзіры. Глядзіце самі *(адчыняе шафу)*.

У шафе нябожчыка няма.

Б р у н а  Ч ы к. Вы ўпэўнены?

Ю з а ф  Р а к. Хіба я вар'ят? Я вайсковы чалавек. Ён быў тут, і гэта быў я *(залазіць у шафу, выкідае адтуль жончыны сукенкі)*.

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. Мусіць, гэта быў прывід у вашым абліччы.

Ю з а ф  Р а к. Гэта быў я. Што я, сябе не пазнаю? *(Выходзіць з пустой шафы з шабляю.)*

Б р у н а  Ч ы к. І што, падабенства было дакладнае?

Ю з а ф  Р а к *(раззлавана)*. Натуральна — я. Вось як на партрэце. Парадны мундзір, ордэны, канфедэратка.

Б р у н а  Ч ы к. Пан палкоўнік дакладна быў нежывы, там у шафе?

Ю з а ф  Р а к. У мяне быў акрываўлены галаў, шмат крыві. Вы не верыце мне?

Б р у н а  Ч ы к. Веру. Вось і на шаблі кроў.

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. Але адкуль у прывіда кроў? Можа, ён упыр, можа, пярэварацень ці вурдалак?

Ю з а ф  Р а к. Так, жахлівае відовішча, але ж сам ён не сышоў.

Заходзяць Адам Шышдудар, Агата і Разалля Рак.

Адам Шышдудар. Дзе труп?

Юзаф Рак. Уцёк. Тут, у шафе сядзеў.

Разалля Рак. Гэта быў сапраўдны прывід.

Адам Шышдудар. Труп не мог сысці, гэта я вам сведчу як доктар. Так што або мушу пагадзіцца з Разалляй, або, хутчэй за ўсё, — гэта галюцынацыя.

Вадзімір Даўгалевіч. Усе дактары настойваюць на адным: калі што надзвычайнае, то адразу ж тлумачэнне — мроя на глебе алкагалізму.

Юзаф Рак. Якія, Адам, галюцынацыі! Яго ж бачыла і Агата.

Агата Рак. Я не бачыла.

Юзаф Рак. Ты ж мусіла бачыць?

Агата Рак. Мусіла, але не бачыла.

Юзаф Рак. А чаго самлела?

Агата Рак. Ад таго, што мусіла ўбачыць. Ты ж сказаў — нябожчык.

Бруна Чык. Давайце спынім спрэчкі. Бо да згоды не прыйдзем. Ясна адно: знік мундзір і на шаблі свежая кроў.

## Сцэна 7

Кабінет палкоўніка. Юзаф Рак сядзіць, абапершыся на шаблю. Бруна Чык і Вадзімір Даўгалевіч.

Юзаф Рак. Самае дурное: сяджу, вартую, як той сабака, і не ведаю, ці на месцы паперы.

Вадзімір Даўгалевіч. Не перажывайце, пан палкоўнік. Бруна знойдзе ваш гадзіннік.

Бруна Чык. Чаму вы ўпэўнены, што ён прыйдзе рабаваць менавіта сейф? На мой погляд, цыгары, каньяк і сакрэтныя дакументы — рэчы рознага

парадку.

Вадзімір Даўгалевіч. Можа быць, у замагільным свеце свая логіка.

Бруна Чык. Тым больш, нам не дадзена яе зразумець.

Юзаф Рак. Якая замагільная логіка, пан пісьменнік, усё проста, як у войску: навокал адны шпіёны. Вось, напрыклад, мой эканом, Ёсель Цэсьлер — жыдоўска-бальшавіцкі шпіён.

Бруна Чык. Вы што, бачылі, як ён падае ліхтарыкам сігналы расейскім самалётам?

Юзаф Рак. Вось, здаецца, і служыць у мяне дваццаць гадоў, і чалавек прыстойны, але жыватом чую: раптам што — і прадасць. Або вось, напрыклад, Агацін кузен — доктар Адам Шышдудар — натуральны нямецкі шпег. Вучыўся ў Берліне, перапісваецца з нейкай падазронай немчурой.

Бруна Чык. А яшчэ хто жыве ў доме?

Юзаф Рак. Пробашч Казімір Вярыга — ліха яго матары, таксама ад святасці не свеціцца. Яшчэ сястра мая Разалля, дурніца маладая. Вось і ўсе.

Бруна Чык. А з прыслугі хто ў маёнтку?

Юзаф Рак. З тых, хто жывуць тут, толькі эканом і пакаёўка Зося. Я б яе даўно выгнаў, ды жонка не дае.

Вадзімір Даўгалевіч. А пакаёўка, часам, не вядзьмарка?

Юзаф Рак. Наконт вядзьмаркі не ведаю, гэта ў ксяндза спытайце. Але скажу па шчырасці: пакаёўка — таксама брыда добрая. Раз за дупу ўшчыпнуў, дык адразу жонцы расказала.

Вадзімір Даўгалевіч. А ранейшыя гаспадары не скардзіліся на прывіда?

Юзаф Рак. Ніхто тут ні пра якога прывіда не чуў. А з'явіўся ён адразу пасля рамонту. Жонка пачала скардзіцца, што ўначы нехта ходзіць, пару месяцаў таму, і чым далей, тым горай. Я так моцна сплю, мяне захочаш — не пабудзіш.

Вось і я, нарэшце, нябожчыка ў шафе пабачыў. І куды ён мог падзецца? *(Глядзіць на вялікі сейф.)*

Бруна Чык. І доўга пан палкоўнік збіраецца пільнаваць сейф? Можа, злодзею гэта і трэба?

Юзаф Рак. Заўтра замоўлю майстра, каб сейф адчыніў і код змяніў. А зараз: як кінуць дакументы без нагляду? Навокал адныя шпіёны.

Стук у дзверы.

Юзаф Рак. Каго там прынесла? Незамкнёна!

У кабінет уваходзіць Агата Рак.

Агата Рак. І вы не спіцё? Я папрашу, каб Зося прынесла кавы.

Бруна Чык. Не турбуйцеся, пані Агата, мы ўжо пра ўсё пагаварылі.

Вадзімір Даўгалевіч. Не будзем замінаць. Дабранач.

Бруна Чык. Дабранач.

Юзаф Рак. Дабранач, панове. У мяне сняданак, як у войску, а восьмай, у гасцёўні.

Бруна Чык і Вадзімір Даўгалевіч выходзяць.

## Сцэна 8

Кабінет. Агата і Юзаф Рак.

Агата Рак. Ты не хочаш адпачыць? Ты такі стомлены, Юзаф *(лашчыць мужа па галаве)*.

Юзаф Рак. Покуль злодзей у доме, які можа быць адпачынак! Я мушу вартаваць сейф.

Агата Рак. І ты не прыйдзеш да мяне?

Юзаф Рак. Калі баішся адна — кладзіся тут, у кабінеце.

Агата Рак. На гэтай жорсткай і рыпучай канапе я не засну.

## Сцэна 9

Калідор. Бруна Чык і Вадзімір Даўгалевіч.

Вадзімір Даўгалевіч. Палкоўнік мае рацыю, што прывід мусіць з'явіцца яшчэ гэтай ноччу. Якраз чырвоная поўня, ты заўважыў?

Бруна Чык. Ты яшчэ скажы — крывавая. Пайшлі лепш спаць. Пакінь ноч прывіду.

Вадзімір Даўгалевіч. Не, яшчэ прайдуся па доме.

Бруна Чык і Вадзімір Даўгалевіч разыходзяцца.

## Сцэна 10

Тэраса. Ксёндз, хаваючыся, паліць.
Бруна Чык зазірае на тэрасу і заўважае ксяндза.

Бруна Чык. Ойча Казімір?

Ксёндз *(перажываючы, што яго заспелі за непачцівым заняткам)*. Так, а вы — Бруна Чык? Мне пра вас казаў доктар Адам.

Бруна Чык. І вы падняліся на лямант пані Агаты?

Ксёндз. Так. Вось, заперажываў, чалавек слабы, запаліў з хвалявання. У плябаніі такога не дазволіш сабе. Каб мая ахмістрыня даведалася...

Бруна Чык. Пан ксёндз так блізка бярэ да сэрца падзеі ў маёнтку?

Ксёндз. На мяне ўскладзена вельмі адказная місія — выгнанне Д'ябла, і перш чым турбаваць біскупа, я мушу ўпэўніцца, што ў доме сапраўды Д'ябал.

Бруна Чык. А вы яшчэ не маеце пэўных дока-

заў існавання гэтага так званага прывіда? Ды паліце, не зважайце на мяне.

Ксёндз. Не магу на вачах у людзей паліць. А што тычыцца прывіда, то Святы касцёл вельмі скептычна ставіцца да гэтых з'яў.

Бруна Чык. Дык пан ксёндз мае сумненні?

Ксёндз. Гаспадар ужо прасіў мяне пасвянціць срэбную кулю. Але давялося адмовіць: гэта справа варажбітоў і паганскіх шаманаў.

## Сцэна 11

Гасцёўня. Адам Шышдудар і Разалля Рак. На стале кошык з бутэлькамі. Вадзімір Даўгалевіч хоча ўвайсці, але вяртаецца і становіцца за парцьеру.

Адам Шышдудар *(працягвае)*. ...А гэты пісьменнік? Я па вачах бачу, што п'яніца, горшы за твайго брата.

Разалля Рак. Мяне непакоіць Бруна Чык, гэты можа дазнацца. Я чытала ў газетах, што ён лічыцца адным з лепшых прыватных следчых, ён за адзін вечар знайшоў злодзеяў, якія абрабавалі лецішча Пілсудскага.

Адам Шышдудар. Вядома, лепш бы Юзаф звярнуўся ў паліцыю.

Разалля Рак. Ён ужо звяртаўся ў контрразведку, але пасля таго, што ён нагаварыў пра прывіда, яго палічылі за вар'ята.

Адам Шышдудар. Дык ён жа і ёсць натуральны вар'ят, дапіўся, што свой адбітак у люстэрку палічыў за нябожчыка.

Разалля Рак. Ты ж сам ведзеш, што ў гэтым доме не ўсё так проста. І мы мусім зрабіць на гэтым свой інтарэс...

Вадзімір Даўгалевіч за парцьераю п'янавата прытуляецца спачатку да сцяны, а потым да парцьеры і

разам з парцьерають вывальваецца ў пакой. А д а м Ш ы ш д у д а р хапаецца за кошык.

Р а з а л л я Р а к *(пазнае Вадзіміра)*. Вы не моцна пабіліся?

В а д з і м і р Д а ў г а л е в і ч. А не, нічога страшнага. Калі вы думаеце, што я падслухоўваў... *(Вадзімір падымаецца.)*

## Сцэна 12

Кабінет. Ю з а ф Р а к. З кошыкам, поўным бутэлек піва, заходзіць А д а м Ш ы ш д у д а р.

А д а м Ш ы ш д у д а р. Не патурбаваў?

Ю з а ф Р а к. Зноў нямецкім півам разжыўся?

А д а м Ш ы ш д у д а р. Тое, што вы любіце.

Ю з а ф Р а к. Немцы, вядома, брыда, але піва варыць умеюць. Сядай.

А д а м Ш ы ш д у д а р адкаркоўвае бутэлькі, п'юць.

А д а м Ш ы ш д у д а р. А яшчэ кажуць: па начах не спяць адно злодзеі і прывіды.

Ю з а ф Р а к. А ты што не спіш?

А д а м Ш ы ш д у д а р. Прыйшоў сумненнем падзяліцца. Наконт прывіда.

Ю з а ф Р а к. Які прывід? Самы натуральны нябожчык...

А д а м Ш ы ш д у д а р. Нябожчык, мо, і натуральны, але я заўважыў такое, чаго і ваш Бруна Чык не згледзеў.

Ю з а ф Р а к. Відаць, падазраеш каго?

А д а м Ш ы ш д у д а р. Справа вашая, але я б з Ёселя вока не спускаў.

Ю з а ф Р а к. Лічыш, ён прывідам ходзіць?

А д а м Ш ы ш д у д а р. А хто ж яшчэ? Усе ж у доме, на месцы, калі ён з'яўляецца, а ці ў сваім флігелі Ёсель — ніхто не бачыць. Да таго ж усе

ключы ў яго ёсць. Яму выгодна вас прывідам запалохаць, каб вы з маёнтка з'ехалі, і ён тут за гаспадара застанецца.

Юзаф Рак. Так і я пану Бруна казаў, што Ёсель у мяне на падазрэнні. Нешта ж ты іншае заўважыў.

Адам Шышдудар. Кроў на шаблі.

Юзаф Рак. Гэта і мая Агата заўважыць *(падымае пачышчаную шаблю)*.

Адам Шышдудар. Як медык кажу: дзіўнаватая кроў. Кансістэнцыя не тая.

Юзаф Рак. Дагаворвай — не людская кроў?

Адам Шышдудар. Без лабараторнага аналізу сцвярджаць не бяруся.

Юзаф Рак. І ты мяне прывідам прыйшоў палохаць?

Адам Шышдудар. Ды не, пра Ёселя падказаць.

Юзаф Рак. А жыдоўская кроў ад чалавечай розніцца?

Адам Шышдудар. Не больш, чым варшаўскае піва ад кракаўскага. Вы падумайце наконт эканома, лепш свайго чалавека ўзяць. А я пайду ўжо. Дабранач.

## Сцэна 13

Калідор. Вадзімір Даўгалевіч, стаіўшыся за рогам, бачыць, як паўз яго праходзіць палкоўнік з шабляй. Палкоўнік заходзіць у прыбіральню, зачыняецца і насвіствае. Вадзімір Даўгалевіч чуе асцярожныя крокі па калідоры, вызірае за рог і бачыць, як зачыняюцца дзверы кабінета, крадзецца да іх і рэзка расхінае. Бачыць пусты кабінет. Робіць крок наперад. На галаву яму апускаецца рука з поўнай бутэлькай. Бутэлька разлятаецца, дзверы зачыняюцца.

## Сцэна 14

Калідор. Торгаецца клямка на дзвярах прыбіральні — не адчыняюцца. Чуюцца: удар плячом у дзверы і лаянка палкоўніка.

Юзаф Рак *(з-за дзвярэй)*. Пся крэў! Што за жарты? *(Зноў удар.)* Хто зачыніў? Ліха ягонай матары. Заб'ю, засяку!

Дзверы калоцяцца пад моцнымі ўдарамі. На калідор выбягаюць ксёндз, за ім Бруна Чык.

Бруна Чык. Пан палкоўнік!
Юзаф Рак *(не чуючы)*. Засяку, заб'ю падлу!

Ксёндз спрабуе адамкнуць прыбіральню. У гэты момант расколваецца філёнга — яе прапорве шабля. Ксёндз перапалохана адскоквае. Бруна спрабуе збоку адкінуць засаўку. Філёнга вылятае, з-за яе з'яўляецца рука з шабляй і сячэ паветра.

Бруна Чык. Спыніцеся на хвілінку, пан Юзаф! Гэта я, Бруна Чык.

Рука прыбіраецца, у дзірцы недаверлівы твар палкоўніка.

Юзаф Рак. То, халера, чаго не адчыняеце?

Бруна выпускае Юзафа Рака, на лямант з'яўляюцца Агата Рак, Разалля Рак і Адам Шышдудар.

Агата Рак. Зноў прывід? Напаў на Юзафа ў прыбіральні?
Разалля Рак. Ты біўся з ім, Юзаф?

Юзаф Рак, не зважаючы на жанчын, зашпільвае

френч, спускае ваду і з гонарам ідзе да кабінета. Усе глядзяць яму ўслед.

Адам Шышдудар *(ціха)*. Наш палкоўнік пашаткаваў прывіда і спусціў у каналізацыю.

Юзаф Рак, не азіраючыся, бярэцца за клямку дзвярэй кабінета — яго пачынае калаціць, ён спалохана адскоквае, глядзіць на руку.

Адам Шышдудар. Здаецца, у Юзафа нервовы шок.

Бруна Чык. Больш падобна на электрычны. *(Дастае насоўку і ёю адчыняе клямку.)*

З другога боку дзвярэй за клямкай цягнецца дрот, Бруна Чык абрывае яго, за ім у кабінет заходзіць Юзаф.

## Сцэна 15

Кабінет. Юзаф Рак і Бруна Чык. Агата, Разалля Рак, Адам Шышдудур, ксёндз у дзвярах. Сейф расчынены. На канапе ляжыць накрыты з галавою посцілкаю непрытомны Вадзімір Даўгалевіч.

Юзаф Рак *(не заўважаючы Вадзіміра, зазірае ў пусты сейф)*. Перахітрыў, падла. Украдзены сакрэтныя дакументы. *(Дастае з сейфа цыдулку, глядзіць і хавае яе ў кішэню.)*

Бруна Чык адхіляе посцілку. У Вадзіміра Даўгалевіча твар заліты півам і крывёю.

Разалля Рак. Нябожчык, той самы!

Агата Рак млее, валіцца на ксяндза.

Юзаф Рак. Цяпер не ўцячэ! *(Кідаецца да*

*канапы, мерыцца закалоць Вадзіміра шабляю.)*

Адам Шышдудар. Хвілінку. Ён яшчэ жывы.

Юзаф Рак. Я ж казаў: і ў шафе быў жывы нябожчык.

Бруна Чык ліе з графіна ваду на твар Вадзіміру Даўгалевічу, той расплюшчваевочы, садзіцца на канапе.

Бруна Чык. Я ж казаў табе, што па начах трэба спаць, а не лавіць прывідаў.

Вадзімір Даўгалевіч. Прывід напаў на мяне.

Бруна Чык. Ты бачыў яго?

Вадзімір Даўгалевіч. Так, жахлівае відовішча.

Бруна Чык. І як ён выглядаў?

Вадзімір Даўгалевіч. Усё адбылося залішне хутка. Я не паспеў разглядзець. Не было часу прыглядацца.

## Сцэна 16

Гасцёўня. Юзаф, Агата, Разалля Рак, Адам Шышдудар, ксёндз, Бруна Чык, Вадзімір Даўгалевіч з забінтаванай галавой. Зося разносіць каву.

Вадзімір Даўгалевіч. ...Азіраюся, бачу: клямка на дзвярах сама паварочваецца, а нікога няма. Хачу паклікаць каго — і мову адняло. І чую: мяне, як магнітам, да тых дзвярэй цягне. Расчыніў — нікога. І толькі голас у галаве гучыць: зрабі крок наперад і не азірайся. Я яго і паслухаўся.

Бруна Чык. Вадзімір, сейф быў адчынены?

Вадзімір Даўгалевіч. Так. Не. Я ж прывіда ўбачыць хацеў.

Зося *(да Юзафа)*. Вам падліць кавы?

Ю з а ф  Р а к. Не замінай.

Перад Ю з а ф а м  Р а к а м стаіць графін з каньяком, ён падлівае сабе і В а д з і м і р у  Д а ў г а л е в і ч у. Яны п'юць. Б р у н а  Ч ы к адмаўляецца і, як астатнія, п'е каву.

А г а т а  Р а к. Так вы бачылі яго?

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. Дык, удвая большы за мяне. Праўда, як след не разглядзеў. Бутэлька ляцела мне на галаву, здавалася, з-пад самай столі.

Б р у н а  Ч ы к. Мушу расчараваць. Злодзей стаяў на фатэлі пад дзвярыма. Але забіваць цябе не збіраўся.

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. Бутэлькай з півам па галаве?

Б р у н а  Ч ы к. Менавіта, што поўнай. Поўнай не заб'еш, яна разлятаецца. Каб так ляснулі парожняй, ты б сам стаў прывідам.

А д а м  Ш ы ш д у д а р. Дык вы, пан Бруна, думаеце, і папярэднім разам прывіда не было?

Б р у н а  Ч ы к. Нават на шаблі было столькі крыві, што, пагадзіцеся, доктар, такую траўму ніхто з прысутных не ўтоіў бы, быў бы забінтаваны горш за пана Даўгалевіча.

Ю з а ф  Р а к. Халера, дзе гэта Ёсель? Тады сабака знік, цяпер Ёселя не відаць.

З о с я *(сервіруючы стол)*. Дык пятая ж гадзіна ночы. Спіць Ёсель у сваім флігелі.

Ю з а ф  Р а к. А што ты яго бароніш, Зоська, ліха цябе не бярэ?

А г а т а  Р а к. Юзаф, табе не сорамна?

Ю з а ф  Р а к. Мне сорамна? На сябе паглядзі: у расхрыстаным пеньюары. Мне, мо, і сорамна, мяне ў прыбіральні замкнулі, поўны дом следчых і ксяндзоў, а прывід сейф абрабаваў ды яшчэ і цыдулку пакінуў.

Агата Рак паказвае Зосьцы, каб прыбрала каньяк ад мужа. Тая паціху хавае яго і замыкае ў буфеце.

Юзаф Рак *(дастае цыдулку)*. Рагач, рогі мне намаляваў.

Агата Рак. Юзаф, чым піць, лепш патэлефануй маёру Шмарлоўскаму з контрразведкі: укралі ж сакрэтныя дакументы, а ты пра нейкія рогі ўспомніў.

Юзаф Рак. Сціхні, дурніца!

Бруна Чык. Не хвалюйцеся, пані Агата, мяркуючы па паводзінах вашага мужа, ніякіх дакументаў, а тым больш сакрэтных, у сейфе не было.

Юзаф Рак. Хоць адзін разумны чалавек у доме. Хіба я вар'ят — трымаць сакрэтыя паперы ў сейфе, які адчыніць нават мая жонка? Але я думаў — раптам вайна. *(Спахопліваецца.)* А дзе мой каньяк? Думаеце, дапіўся, што нябожчыкі ў шафах трызняцца? Зоська, дзе ключ схавала ад буфета, курва?

Зося. Што мне пані загадала, я тое і раблю. *(Хаваецца за Агату.)*

Юзаф Рак глядзіць праз шкло на каньяк. Выцягвае шаблю, мерыцца сакануць па буфеце. Ксёндз хапае яго за руку.

Ксёндз. Пакіньце гэтую рэч на захаванне да заўтра мне.

Разалля Рак. Юзаф, пан ксёндз мае рацыю, пакінь шаблю.

Юзаф Рак аддае шаблю.

Ксёндз. Пайду прыбяру з вачэй *(сыходзіць)*.

Адам Шышдудар. Мяне гэты тэатр стаміў. Калі дакументаў і не было, то пра што й гаварыць? *(Сыходзіць)*.

Ю з а ф   Р а к. А вось рэвальвер не аддам. Трэба сыходзіць з гэтага дому. Які я гаспадар, калі пакаёўка ключы ад мяне хавае, а ксяндзы шаблі забіраюць, і нават сястра супраць мяне?

Ю з а ф   Р а к  надзяе канфедэратку, аддае чэсць і выходзіць. У двары чуецца спеў палкоўніка:

*Ад панядзелка да панядзелка*
*Смачна п'ецца нам гарэлка.*

За сталом няёмкае маўчанне.

А г а т а   Р а к. Выбачайце, панове, Юзафа, у яго сёння цяжкі дзень. Але ён неўзабаве вернецца.

Б р у н а   Ч ы к  *(падыходзіць да буфета, разглядае талерку)*. Кобальт ад Мэйсана, але, дарэчы, не лепшы за нёманскую парцэляну. Нездарма князі Радзівілы і дагэтуль замаўляюць там посуд.

Р а з а л л я   Р а к. Пан Бруна спецыяліст па парцаляне?

У двары чуюцца два стрэлы. Б р у н а   Ч ы к  падыходзіць да вакна.

А г а т а   Р а к. Ён заўсёды страляе, калі стоміцца.

Б р у н а   Ч ы к. Я ўсё ж выйду *(сыходзіць)*.

## Сцэна 17

Флігель эканома. Б р у н а   Ч ы к,   Ё с е л ь   Ц э с ь л е р. Вялікая выбеленая руская печ. Перапалоханы Ё с е л ь  накідае плашч.

Б р у н а   Ч ы к. А пан палкоўнік не мог выйсці незаўважаны праз браму?

Ё с е л ь   Ц э с ь л е р. Ды не, я ж не спаў. Бачу, святло ў доме паліцца, але, думаю, як трэба, то

паклічуць.

Б р у н а Ч ы к. А часам іншага выйсця з парку няма?

Ё с е л ь Ц э с ь л е р. Ой, пан следчы ж ведае: пан палкоўнік так баіцца шпіёнаў, замураваў усе брамкі. А паркан такі, што і з драбінамі не перараскочыш.

Б р у н а Ч ы к. Кажаце, і сюды не заходзіў?

Ё с е л ь Ц э с ь л е р. Ды не заходзіў, гавару вам: што можа быць трэба яму тут а пятай раніцы. Ён і так да мяне ніколі не заходзіў. Ён мне тэлефанаваў, бачыце, аппарат паставіў і тэлефанаваў, тэлефанаваў, спакою не было і не будзе. Вось і цяпер, відаць, дзе ў альтанцы адпачыць прылёг. Вось толькі ліхтар вазьму і пойдзем шукаць.

Ё с е л ь Ц э с ь л е р бярэ ліхтар, Б р у н а Ч ы к дастае свой кішэнны. Выходзяць.

## Сцэна 18

Гасцёўня. К с ё н д з, В а д з і м і р Д а ў г а л е в і ч, А г а т а, Р а з а л л я Р а к, А д а м Ш ы ш д у д а р, З о с я. Заходзяць Б р у н а Ч ы к і Ё с е л ь Ц э с ь л е р. Б р у н а Ч ы к трымае прастрэленую канфедэратку палкоўніка.

Б р у н а Ч ы к. Мушу прызнацца, не ўпільнаваў. Не варта было адпускаць яго аднаго. Пан палкоўнік знік.

Ё с е л ь Ц э с ь л е р. Пан Бруна ўвесь парк абшукаў. Адно, што засталося, — выбачайце, пані Агата, — канфедэратка, і тая з дзіркаю.

В а д з і м і р Д а ў г а л е в і ч. Што, прастрэленая?

Б р у н а Ч ы к. Гучала два стрэлы, але дзірка адна.

Р а з а л л я Р а к. Нехта страляў у Юзафа?

Б р у н а Ч ы к. Не думаю.

Агата Рак. Вы проста супакойваеце мяне.

Бруна Чык. Калі развіднее, яшчэ раз абыдзем парк. А вы, пане Адаме, здаецца, ужо клаліся спаць?

Адам Шышдудар. Нават не паспеў распрануцца, як пачуў стрэлы.

Ксёндз. Хіба тут спакойна заснеш?

Адам Шышдудар. На месцы Юзафа я б таксама знік. Прастрэліў канфедэратку і схаваўся. Паглядзець, што атрымаецца.

Агата Рак. Ён бы папярэдзіў мяне.

Бруна Чык. Выбачайце, але я ў гэтым не ўпэўнены.

## Сцэна 19

Кабінет. Бруна Чык і Вадзімір Даўгалевіч.

Вадзімір Даўгалевіч. Што ты маўчыш?

Бруна Чык. Думаю.

Вадзімір Даўгалевіч. Пра што?

Бруна Чык. Што трэба прыкруціць дрот да таршэра. За сталом цемнавата.

Вадзімір Даўгалевіч. Кола падазроных звузілася. Калі знік палкоўнік, у гасцёўні не было доктара, ксяндза і эканома. Я лічу, што забойца доктар. Я выпадкова пачуў яго размову з Разалляй. Разалля пераконвала Адама забіць яе брата.

Бруна Чык. Так і казала?

Вадзімір Даўгалевіч. Ну, не зусім так, але зразумела. Казала: «Ты мусіш зрабіць гэта», а потым згадала Юзафа. Вось Адам і забіў.

Бруна Чык. Забойства няма, пакуль няма трупа. А тут нават няма ані крыві, ані слядоў барацьбы, канфедэратка ляжала на непрымятай траве, кроках за дзесяць ад алеі.

Вадзімір Даўгалевіч. Яго маглі задушыць. І ён адстрэльваўся.

Б р у н а  Ч ы к. Сабе ў галаву? Адам адпадае, у яго не было часу на забойства.

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. Ён мог страляць са свайго акна.

Б р у н а  Ч ы к. А дзе ж тады труп?

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. Ёсель заадно з Адамам. Той застрэліў, а Ёсель схаваў.

Б р у н а  Ч ы к. Хуценька закапаў і пасадзіў зверху кветкі?

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. Зацягнуў у свой флігель.

Б р у н а  Ч ы к. Добра, уяві сябе на месцы Ёселя: дзе ты ў флігелі схаваеш нябожчыка?

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. Натуральна, на печы. Ты там глядзеў?

Б р у н а  Ч ы к. Вось на печы я і не глядзеў, на печы нябожчыкаў не хаваюць.

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. Я ўсё ж настойваю абшукаць Адамаў пакой. Знойдзем гадзіннік. У каго гадзіннік, той і забойца.

## Сцэна 20

Калідор. В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч  і  Б р у н а  Ч ы к пад дзвярыма А д а м а  Ш ы ш д у д а р а.

Б р у н а  Ч ы к. Ты ўпэўнены, што доктара няма ў пакоі?

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. Я сам чуў, як ён казаў, што пойдзе супакойваць гаспадыню.

Б р у н а  Ч ы к. Асцярожнасць не зашкодзіць.

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч *(прыкладае вуха да дзвярэй)*. Халера, ён у пакоі.

Б р у н а  Ч ы к. Што робіць?

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. Размаўляе.

Б р у н а  Ч ы к. То ён не адзін *(Хоча ісці)*.

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. Чакай, там нешта ўсчынаецца. Падобна да бойкі.

Б р у н а  Ч ы к. Я б не быў такі катэгарычны.

Вадзімір Даўгалевіч. Ён некага душыць! Чуеш енк?

Бруна Чык. Нешта падобнае.

Вадзімір Даўгалевіч. Давай уломімся і схопім на гарачым учынку!

Бруна Чык. На тваім месцы я б пастукаўся.

Вадзімір Даўгалевіч *(стукаецца, шум за дзвярыма імгненна заціхае)*. Спазніліся, задушыў *(расхінае дзверы)*.

## Сцэна 21

Пакой Адама Шышдудара. Бруна Чык і Вадзімір Даўгалевіч у дзвярах. Адам распрануты сядзіць на ложку.

Вадзімір Даўгалевіч. Дзе труп?

Бруна Чык. Выбачайце, пан доктар: мы праходзілі побач, і майму сябру падалося, што вы не адзін.

Адам Шышдудар. Менавіта падалося.

Бруна Чык. Тады мы пойдзем. Выбачайце, што патурбавалі.

Вадзімір Даўгалевіч. Як гэта падалося, як гэта выбачайце? Ты ж сам чуў *(падыходзіць да ложка)*.

Бруна Чык. Ідзем, Вадзімір, я табе растлумачу.

Вадзімір Даўгалевіч. Вы некага задушылі! Што вы хаваеце пад коўдрай?

Адам Шышдудар. Прынамсі, не нябожчыка.

Вадзімір Даўгалевіч, злаўчыўшыся, сцягвае коўдру, пад ёй, закрыўшы твар, — аголеная Разалля Рак.

Вадзімір Даўгалевіч. А вы казалі — падалося! То, сапраўды, выбачайце. Пан разумее —

мусім быць пільнымі.

Адам Шышдудар. Шкадую, пан Даўгалевіч, што прывід не прыбіў вас бутэлькаю.

Бруна Чык і Вадзімір Даўгалевіч выходзяць.

Бруна Чык. Спадзяюся, нарэшце ты ляжаш спаць.

Вадзімір Даўгалевіч. Так, вып'ю чарку і лягу.

## Сцэна 22

Гасцёўня. Бруна Чык, Вадзімір Даўгалевіч, Адам Шышдудар, ксёндз, Агата і Разалля Рак, Ёсель Цэсьлер. Зося разлівае гарбату. Сняданак.

Адам Шышдудар. Ты, Агата, мужная жанчына. Умееш хаваць перажыванні.

Агата Рак. Калі ты, Адам, пра тое, што знік Юзаф, то я сэрцам адчуваю — усё высветліцца. Ды і Разалля, гляджу, не вельмі бярэ гэта да галавы. Трэба ведаць майго мужа і яе брата.

Бруна Чык. Я з раніцы з Ёселем абшукаў парк, сутарэнні і гарышча. Ніякіх слядоў.

Вадзімір Даўгалевіч. Усе падзеі трэба звязаць у адзін ланцуг. На што разлічваў прывід? Палкоўнік і Бруна мусілі прыехаць цягніком толькі зараз. Але я зблытаў яму карты — прывёз іх на машыне яшчэ ўвечары. Ведаючы, што пані Агата спіць, прывід перакінуўся трупам палкоўніка і сеў у шафу. Вось вам і вынік: украдзены сакрэтныя дакументы і гаспадар скончыў жыццё самагубствам.

Бруна Чык. У сейфе не было чаго красці.

Вадзімір Даўгалевіч. Па гэтым і адчуваецца рука прывіда. Каму яшчэ спатрэбіцца

рабаваць сейф, у якім нічога няма? Толькі прывіду!

К с ё н д з . А ў вашай практыцы, пан Чык, былі падобныя выпадкі?

Б р у н а Ч ы к. Каб чалавек знік, не пакінуўшы ніякіх слядоў, то не.

А г а т а Р а к. Раскажыце нам, як вы злавілі злодзеяў, якія абрабавалі лецішча маршалка ў Друзгеніках.

Б р у н а Ч ы к. Гэта нецікава. Звычайны крадзеж. Не так даўно я таксама займаўся справай з прывідам. Да мяне звярнуўся кліент, якога шантажыравалі. І прызнаўся мне, што месяц таму гуляў у карты з панам Торбачкай і выпадкова забіў яго графінам па галаве, натуральна, спалохаўся, схаваў труп у куфэрак і пайшоў у сад капаць яму. Калі вярнуўся, убачыў, што кватэра абрабаваная, укралі не толькі грошы, срэбра і каштоўнасці, але і куфэрак з трупам. А праз месяц той злодзей, які абрабаваў кватэру, даслаў яму ліст, у якім патрабаваў грошай, а не тое гразіўся прывезці куфэрак з нябожчыкам назад.

А г а т а Р а к. Які жах! І шмат злодзей патрабаваў грошай?

Б р у н а Ч ы к. Мой кліент мог выплаціць такую суму.

А д а м Ш ы ш д у д а р. За месяц труп мусіў моцна засмярдзець. Вы знайшлі яго?

Б р у н а Ч ы к. Знайшоў, але раскайвацца ён і не думаў. Шантажыстам аказаўся сам нябожчык, пан Торбачка, які прачухаўся ў куфэрку. Глянуў у акно, за якім гаспадар капаў магілу, паскідаў у куфэрак, што трапілася пад руку, і ўцёк.

К с ё н д з . Хцівасць не мае межаў.

А г а т а Р а к. Вы, пан Чык, залішне далікатны, не хочаце лішні раз патурбаваць. Калі трэба абшукаць пакоі, то не саромцеся, пачніце з маёй спачывальні.

Б р у н а Ч ы к. Спадзяюся, панства зразумее,

што гэта не мая парожняя дапытлівасць? Але, калі хто мае што супраць...

Р а з а л л я  Р а к. А што вы думаеце знайсці?

Ё с е л ь  Ц э с ь л е р. Пан спадзяецца, нехта хавае гаспадара ў сябе?

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. Мы мусім знайсці гадзіннік.

А д а м  Ш ы ш д у д а р. У мяне таксама ёсць гадзіннік. І як вы адрозніце, чый ён?

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. Палкоўнік расказваў, што ён грае вось так *(напявае паланез)*. У вас таксама з музыкай?

А д а м  Ш ы ш д у д а р. Не, у мяне больш просты.

А г а т а  Р а к. Дык пачнем з маёй спачывальні ці з іншага пакоя?

Маўчанне. Б р у н а  Ч ы к глядзіць на ўсіх па чарзе. Раптам чуецца механічнае гранне паланезу. Усе глядзяць на к с я н д з а. Музыка замаўкае.

К с ё н д з *(да Адама)*. Гэта ваш гадзіннік граў?

А д а м  Ш ы ш д у д а р. Мой жа без музыкі. Гэта ваш, ойча.

К с ё н д з . Я наогул не маю гадзінніка *(лезе ў кішэню, дастае залаты гадзіннік, кладзе на стол)*.

Р а з а л л я  Р а к. Я пазнаю Юзафаў гадзіннік.

Б р у н а  Ч ы к *(адкрывае накрыўку)*: Так, тут выдрапаны код сейфа.

К с ё н д з . Спадзяюся, усе разумеюць — мне яго падкінулі.

Б р у н а  Ч ы к. Не хвалюйцеся, пан ксёндз: стрэлкі пераведзены, каб ён зайграў менавіта падчас сняданку.

К с ё н д з . Пан Чык, хадземце, я выкажу вам свае падазрэнні. Тут гэта рабіць небяспечна. Злодзей сярод нас.

Б р у н а  Ч ы к  і  к с ё н д з выходзяць.

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч *(папраўляючы павязку на галаве)*. Гэта ксёндз, як я й падазраваў.

А г а т а  Р а к. Як вам не сорамна вінаваціць святога айца, якога Юзаф сам запрасіў пажыць у маёнтку?

## Сцэна 23

Кабінет. Б р у н а  Ч ы к  і  к с ё н д з.

К с ё н д з. Гэта ўсё доктар. Украў, абрабаваў і гадзіннік мне падкінуў.

Б р у н а  Ч ы к. Чаму вы так лічыце?

К с ё н д з. Да сняданку кішэні ў мяне пустыя былі: я б заўважыў, як апранаўся. А за сталом ён побач са мной сядзеў, тады і падкінуў.

Б р у н а  Ч ы к. А навошта Адаму рабаваць сейф?

К с ё н д з. Не ведаю. Але палкоўніка ён не любіў. Адпомсціць мог.

Б р у н а  Ч ы к. Гаспадар чым пакрыўдзіў яго?

К с ё н д з. Не яго, а Разаллю. Адам сватаўся да сястры палкоўніка, а той адмовіўся пасаг даць.

Б р у н а  Ч ы к. Магчыма, тут і ёсць сувязь, але знікненне Юзафа гэта не тлумачыць.

К с ё н д з. Сапраўды, калі гаспадар толькі сам дзе не схаваўся, то мушу паверыць у падкопы Д'ябла *(сыходзіць)*.

## Сцэна 24

Кабінет. Б р у н а  Ч ы к. Заходзіць В а д з і м і р Д а ў г а л е в і ч.

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. Ты адпусціў ксяндза?

Б р у н а  Ч ы к. Так.

Вадзімір Даўгалевіч. Разумею: ты хочаш, каб я пайшоў сачыць за ім.

Бруна Чык. А хто сказаў, што ён збіраецца ўцякаць?

Вадзімір Даўгалевіч. Ён жа злодзей. Ты сам казаў: у каго гадзіннік, той і злодзей.

Бруна Чык. А ў каго гадзіннік цяпер?

Вадзімір Даўгалевіч. У цябе.

Бруна Чык. Значыцца, цяпер злодзей я? Маглі падкінуць табе.

Вадзімір Даўгалевіч. Я перакананы — ксёндз абрабаваў сейф.

Бруна Чык. Нашто яму сакрэтныя дакументы, якіх там, дарэчы, не было?

Вадзімір Даўгалевіч. Ну, я ж не следчы. Можа, ён клептаман, можа, шпіён. За ім трэба сачыць.

Бруна Чык. Хочаш — сачы. Толькі для шпега ты занадта вядомы і прыкметны. І не забудзь прыхапіць каску палкоўніка.

Вадзімір Даўгалевіч сыходзіць.

## Сцэна 25

Кабінет. Бруна Чык. Заходзіць Адам Шышдудар.

Бруна Чык. Прыйшлі зрабіць прызнанне?

Адам Шышдудар. Вы здагадаліся *(кладзе на стол папку)*.

Бруна Чык. Дзіўна, я лічыў, вы прыйдзеце трошкі пазней. Толькі нашто пан доктар падклаў гадзіннік у кішэню менавіта ксяндзу?

Адам Шышдудар. Мог бы й вам, але той сядзеў бліжэй. Вы ж не паверылі, быццам ён рабаўнік — на тое і разлічвалася.

Бруна Чык. Сакрэтныя дакументы? *(Разглядае папку)*.

А д а м  Ш ы ш д у д а р. Калі і ёсць тут сакрэты, то хіба ад пані Агаты — лісты каханак. У пана палкоўніка была неспакойная маладосць.

Б р у н а  Ч ы к. Я не скажу, што ў яго спакойная старасць. І вы да гэтага прычыніліся. Вы ўкралі гадзіннік, падпільнавалі, як гаспадар сышоў з кабінета, замкнулі яго ў прыбіральні — толькі пачалі адмыкаць сейф, як вам сабраўся перашкодзіць Вадзімір.

А д а м  Ш ы ш д у д а р. Выбачайце, але на скорую руку не мог прыдумаць лепшага спосабу нейтралізаваць яго на час.

Б р у н а  Ч ы к. Але вы не змаглі ўтрымацца ад спакусы і тут жа ў кабінеце развязалі папку.

А д а м  Ш ы ш д у д а р. Зразумела. І ўбачыў, што гэта далёка не планы мабілізацыі. Але для маіх мэтаў любоўная перапіска падыходзіла больш. Справа палягае на тым, што Юзаф не хоча аддаваць за мяне Разаллю. А пан жа бачыў: мы з Разаллёй кахаем адно аднага!

Б р у н а  Ч ы к. Я ўдакладню. Разаллю вы можаце браць хоць сёння, але ж палкоўнік не дае пасагу.

А д а м  Ш ы ш д у д а р. Так, мы хацелі прыціснуць Юзафа, каб аддаў ёй частку належнай спадчыны. Але цяпер, калі палкоўнік знік, я вырашыў ва ўсім прызнацца.

Б р у н а  Ч ы к. Мяне запрасіў сюды гаспадар, і па яго вяртанні я мушу ўсё расказаць яму.

А д а м  Ш ы ш д у д а р. Пан следчы яшчэ спадзяецца, што ён вернецца?

Б р у н а  Ч ы к. А вы маеце сумненні?

А д а м  Ш ы ш д у д а р. Адзіны чалавек у маёнтку, хто ўсур'ёз жадае смерці гаспадара, — ягоная жонка, пані Агата. Я ж папярэдзіў палкоўніка ў цыдулцы: ён раганосец.

Б р у н а  Ч ы к. Яна здраджвае мужу?

А д а м  Ш ы ш д у д а р. Так, прашу прабачэння, курва, маркітуецца, як швейная машынка. Таму яе

Юзаф і звёз з Вільні ў маёнтак.

Бруна Чык. А тут у яе ёсць пэўны каханак?

Адам Шышдудар. У Агаты няма нічога пастаяннага. Яна нават, ведаючы пра нас з Разалляй, заляцалася да мяне. А я ж яе стрыечны брат.

Бруна Чык. Я яшчэ па дарозе сюды зразумеў: калі па доме ходзіць прывід, які крадзе цыгары і каньяк, то ён мусіць заходзіць і да жанчын.

Адам Шышдудар. Мушу расчараваць. Прывідам я не хадзіў. Усе свае злачынствы я пералічыў.

Бруна Чык. Сапраўды, для прывіда вы занадта рацыянальны. Хаця дзеля справядлівасці адзначу: вы нават прызналіся ў тым, чаго не рабілі. Палкоўніка ў прыбіральні зачыніла Разалля.

Адам Шышдудар. Ад вас цяжка нешта ўтоіць. І ўсё ж раю больш пільна прыглядзецца да гаспадыні. Вы яе не дааццэньваеце.

Чуюцца грукат і лямант на калідоры. Стук у дзверы.
З'яўляецца пакаёўка Зося.

Зося. Пан Чык, ваш сябра, пан Даўгалевіч, праваліўся ў сутарэнні!

Бруна Чык. То што, у доме няма каму яго выцягнуць?

Зося. Яго ўжо выратаваў пан ксёндз. Сядзіць цяпер у гасцёўні, п'е каньяк пана палкоўніка.

## Сцэна 26

Кабінет. Тыя ж. З'яўляецца Агата Рак.

Бруна Чык. Вас, пані Агата, таксама патурбаваў мой сябра?

Агата Рак. Я ведаю, дзе схавалі Юзафа. У маёй спачывальні, пад ложкам.

Адам Шышдудар *(нахіляецца да Бруна Чыка)*. Я ж вам казаў.

Бруна Чык. Вы зазіралі туды?

Агата Рак. Я пачула смурод, зазірнула — а ён ляжыць пад ложкам у парадным мундзіры.

### Сцэна 27

Спачывальня. Бруна Чык, Агата Рак, Зося, ксёндз, Адам Шышдудар, Разалля Рак. Бруна Чык выцягвае з-пад ложка кілім. На ім здохлы сабака ангельскай пароды ў парадным мундзіры палкоўніка.

Зося. Пярэварацень!

Адам Шышдудар. Гэта ж Самсон! Аднага ўжо знайшлі.

Бруна Чык. А што на гэты конт думае Святы касцёл?

Ксёндз. Я веру толькі ў Боскія цуды.

Адам Шышдудар. Калі палкоўнік быў ваўкалакам, то як мы гэта пахаваем: як сабаку ці як палкоўніка?

Разалля. Не будзь цынікам! Пахаваем, як сабаку палкоўніка.

Бруна Чык. Відавочна, Самсона зарэзалі шабляй.

### Сцэна 28

Спачывальня. Тыя ж. Чуецца крык Вадзіміра Даўгалевіча.

Вадзімір Даўгалевіч. Бруна, я злавіў злодзея!

У спачывальню заходзіць Ёсель Цэсьлер з дзвюма пляшкамі каньяку. За ім Вадзімір Даўгалевіч.

Вадзімір Даўгалевіч *(убачыўшы саба-*

*ку)*. Ужо знайшлі палкоўніка? А я злавіў злодзея. Краў гаспадарскі каньяк. Ну і смярдзіць у вас тут! Як у Стамбуле.

Агата Рак. Ёсель, няўжо гэта праўда?

Ёсель Цэсьлер. Так, пані, вельмі вінаваты.

Бруна Чык. Пан Цэсьлер, сёння ж субота: хіба вы не прававерны іудзей? Сёння нават працаваць нельга, не тое што красці. Я не веру.

Ёсель Цэсьлер. Яшчэ больш вінаваты.

Вадзімір Даўгалевіч. Ды краў ён, і ў маю пастку трапіўся. Выпіў я для выгляду чатыры чаркі. Каньяк на стале пакінуў, а сам схаваўся. Ведаю — прывід каньяк крадзе. Заходзіць эканом, азіраецца і забірае каньяк.

Агата Рак. Ёсель, відаць, хацеў яго ў буфет паставіць?

Вадзімір Даўгалевіч. Ды не, я яго ўжо ў парку спыніў, да сябе ў флігель цягнуў. А вам, пані Агата, сказаў бы, што я ўсё выпіў.

Бруна Чык. Пан Цэсьлер, відаць, вас нехта прымусіў, запалохаў?

Ёсель Цэсьлер. Не, сам, усё сам, думаў на шабас выпіць.

З парку чуецца стрэл. Усе падбягаюць да вокнаў, а спалоханы Ёсель Цэсьлер не ведае, дзе схавацца.

## Сцэна 29

Тыя ж. У дзвярах з'яўляецца чорны з перапою Юзаф Рак. З рэвальверам.

Ксёндз *(гледзячы ў акно)*. Зноў нікога.

Юзаф Рак. Што, пахаваць мяне вырашылі, як сабаку?

Ёсель Цэсьлер. Вось ваш каньяк, пан палкоўнік.

Юзаф Рак. А, і ты з імі, бальшавіцкая морда!

Заб’ю шпега!

Юзаф Рак бярэ пляшку, п’е з рыльца, валіцца на ложак.

Вадзімір Даўгалевіч. Я магу напіцца, каб нікога не бачыць, але напіцца, каб мяне ніхто не бачыў...

Юзаф Рак. Прачнуся — усіх пазабіваю.

Ёсель Цэсьлер. Прашу прабачэння. Але вось так заўсёды: калі што, то вінаваты бедны Ёсель. Гаспадар хоча выпіць, а Зося замыкае буфет. Думаеце, ён прыстаўляе рэвальвер ёй да сэрца? Не, ён ідзе да Ёселя, прыстаўляе рэвальвер яму да скроні і кажа, што я бальшавіцкі шпіён. І я мушу наліваць гарэлку. І я ведаю, што ён не заб’е Ёселя, покуль у мяне ёсць што выпіць. Ён залазіць на печ і кажа, што заб’е мяне, калі Ёсель скажа каму хоць слова. Ён прачынаецца, я наліваю, а ён кажа, што заб’е мяне, як прачнецца зноў. А ўсе ходзяць і шукаюць пана палкоўніка, а ён спіць у мяне на печы. А бедны Ёсель хоча жыць. І вось у мяне скончылася гарэлка. Што я мушу рабіць? Я мушу красці ў суботу, каб уратавацца. Але Ёселю і тут не шанцуе: яго ловяць і зноў Ёсель ва ўсім вінаваты...

## Сцэна 30

Кабінет. Бруна Чык, Юзаф Рак.

Бруна Чык. Як пан палкоўнік пачуваецца?

Юзаф Рак. А ведаеце — і няблага. У маладыя гады я мог выпіць вядро пазнаньскага лікёру і маршыраваць на кані.

Бруна Чык. Дарэчы, вось ваш гадзіннік і так званыя сакрэтныя дакументы.

Юзаф Рак. Як вы знайшлі іх?

Бруна Чык. Аддаў прывід. Сам. А я абяцаў не называць яго імя. Магу дадаць адно: ён прасіў паскорыць вяселле Адама і Разаллі.

Юзаф Рак. Дык гэты нямецкі шпег і сабаку майго зарэзаў?

Б р у н а  Ч ы к. Не, гэта зрабіў іншы прывід, тут іх у вас поўна. *(Падыходзіць да камінная паліцы, падае бульбіну на вяроўцы з уторкнутымі ў яе пёркамі.)* Вось гэты, напрыклад, скавытаў па вечарах у гасцёўні — вісеў у коміне.

Ю з а ф  Р а к. Дык хто зарэзаў Самсона? Хто сядзеў у маёй шафе?

Б р у н а  Ч ы к. Гэтага прывіда вы мусіце злавіць самі. Я браўся знайсці ўкрадзеную рэч.

Ю з а ф  Р а к. Я толькі і раблю, што лаўлю яго, але хітры гад, заўсёды мяне апярэджвае.

Б р у н а  Ч ы к. А вы самі апярэдзьце яго.

Ю з а ф  Р а к. Якім чынам?

Б р у н а  Ч ы к. Ператварыцеся ў прывіда.

Ю з а ф  Р а к. Што, мне накінуць на галаву прасціну і начамі тупаць на калідоры?

Б р у н а  Ч ы к. Не, я параю іншае. Зрабіце, як у той казцы, калі салдат кладзецца ў труну вурдалака і чакае яго вяртання.

Ю з а ф  Р а к. Трэба ісці на могілкі і выкопваць труну?

Б р у н а  Ч ы к. Не, ваш прывід прыходзіць не з могілак.

Стук у дзверы. Заходзіць З о с я.

З о с я. Пан Чык, пан пісьменнік залез на гарышча і не можа спусціцца.

Б р у н а  Ч ы к. То перадайце яму наверх пляшку гарэлкі. Відаць, у яго скончыўся запас энергіі.

## Сцэна 31

Гасцёўня. За сталом гуляюць у шэсцьдзесят шэсць. А д а м  Ш а ш д у д а р, к с ё н д з, А г а т а, Р а з а л л я  Р а к. Б р у н а  Ч ы к разглядае талеркі на буфеце. В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч сядзіць збоч на фатэлі.

А д а м  Ш ы ш д у д а р. Габлюйце, пан ксёндз.

А г а т а  Р а к. Ойча недастаткова прагматычны, каб добра гуляць у карты. Але з ягонай лёгкай рукі заўсёды прыходзяць аб'яўкі.

Р а з а л л я  Р а к. Адкрываць не трэба. Козыр віні. І вось вам віновы туз.

К с ё н д з . Не гнявіце Бога — адразу ў казыры.

В а д з і м і р  бярэ са століка пустую чарку, змрочна зазірае ў яе і ставіць назад.

Б р у н а  Ч ы к *(бярэ ў рукі талерку)*. Усё ж пагадзіся, Вадзімір, кузняцоўская парцэляна не мае еўрапейскай вытанчанасці. Шмат азі-яцкай дурасці — птушак у золаце. А вось талерка ад Гарднера выглядае больш сціпла і прыстойна.

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. І як ты можаш гэтым цікавіцца, табе чарапкі даражэйшыя за прывіда. Яго лавіць трэба. Ты талеркі разглядаеш, пан палкоўнік пакуе партфель, сабраўся ехаць да натарыуса ў Вільню. І Зоська зноў буфет зачыніла.

## Сцэна 32

Тыя ж. Заходзіць Ю з а ф  Р а к  з саквояжам. Ён на падпітку.

Ю з а ф  Р а к. Ненадоўга развітваюся з усімі. Справы вымушаюць ехаць. Спадзяюся быць тут ужо заўтра на вячэру.

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. Мо, вас падвезці да вакзала? У буфеце б узялі па чарцы на развітанне.

Ю з а ф  Р а к. Дзякую, але мяне адвязе Ёсель, ён ужо заклаў брычку.

А г а т а  Р а к. Патэлефануй мне з Вільні. Я нагадаю табе, каб купіў у цукерні за Вастрабрамскай бляшанку дацкага печыва.

Ю з а ф  Р а к цалуе жонку. Выходзіць.

А г а т а  Р а к *(раскладае карты)*. Пасля цяжкай мінулай ночы хіліць у сон.

Заходзіць З о с я, адмыкае буфет.

З о с я. Паехалі ўжо.

А г а т а  Р а к. Зося, заўтра перасадзіш з аранжарэі кветкі, «разбітае сэрца», на магілу Самсона. *(Выходзіць.)*

## Сцэна 33

Гасцёўня. Б р у н а  Ч ы к  і  В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч.

Б р у н а  Ч ы к. А ты, Вадзімір,ісці спаць не збіраешся? Сёняшняя ноч мусіць быць спакойнаю.

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. Сёння поўня на небе, самы час для з'яўлення прывіда.

Б р у н а  Ч ы к. Прывіда будзе лавіць палкоўнік.

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. Ён жа з'ехаў, ды і не ведае, як лавіць. А я вось падрыхтаваў бутэльку свянцонай вады і вяроўку. Сёння ў бібліятэцы кніжку знайшоў, там адзін святар — Мацапура — піша, што калі прывіда спрыснуць свянцонай вадою, то ён зматэрыялізуецца і яго можна будзе браць голымі рукамі *(папраўляе павязку на галаве)*.

Б р у н а  Ч ы к. Паслухайся мяне, хадзем спаць.

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. Ані ў якім разе.

Б р у н а  Ч ы к. Я настойваю.

В а д з і м і р  Д а ў г а л е в і ч. Ну, добра, калі ты так настойваеш, то хадзем. Усё адно без мяне ніхто не зловіць.

## Сцэна 34

Гасцёўня. Азіраючыся, заходзіць Ю з а ф  Р а к, крывіцца на гук уласных крокаў, сядае ў фатэль, сцягвае боты, дастае з буфета пляшку, ставіць у бот. Крадком

ідзе на калідор.

### Сцэна 35

Спачывальня. Агата Рак у ложку. Без стуку адчыняюцца дзверы, заходзіць прывід.

Агата Рак. Ты казаў, што прыйдзеш пазней. Але я ўсё адно зачакалася.

Па падлозе слізгае цень ад прывіда.

Агата Рак. Хадзі да мяне. У цябе прыемныя прахалодныя рукі. Як я кахаю цябе!

Прывід і Агата Рак мілуюцца.

### Сцэна 36

Спачывальня. Тыя ж. Зноў без стуку крадком прачыняюцца дзверы. З-за іх ставіцца на падлогу спачатку адзін бот, потым другі. Прывід хаваецца пад ложкам. Агата Рак удае, нібы спіць. Следам за ботамі з'яўляецца Юзаф Рак, дастае пляшку, выцягвае шаблю, прыглядаецца да жонкі. Хаваецца ў шафу. Адтуль чуецца бульканне.

### Сцэна 37

Калідор. Вадзімір Даўгалевіч з грамнічнаю свечкаю, са скруткам вяроўкі на плячы і бутэлькай са свянцонаю вадою падыходзіць да дзвярэй гаспадарскай
спачывальні, прачыняе дзверы, зазірае за іх.

### Сцэна 38

Спачывальня. Агата ў ложку ўдае, што спіць. Юзаф Рак храпе ў шафе. Прывід пад ложкам. Вадзімір Даўгалевіч прыслухоўваецца. Ідзе да шафы, адчыняе — скур-

чыўшыся ў кутку з шабляй у руках, раскрыўшы рот, храпе Юзаф. Пустая пляшка паміж босых ног. Вадзімір адстаўляе свечку, рыхтуе вяроўку і прымерваецца, як паліць свянцонай вадой. Палкоўнік раптоўна расплюшчвае вочы. Вадзімір Даўгалевіч перахоплівае бутэльку за рыльца і б'е Юзафа Рака па галаве. Гасне свечка, чуецца роў палкоўніка,

перакульваецца мэбля.

Агата Рак *(лямантуе)*. Ратунку! Зося! Пан Бруна! Гвалт! Забіваюць! Ратуйце! Ойча Казімір!

Юзаф Рак. Я табе дам — па шафах лазіць! *(Скручвае Вадзіміра Даўгалевіча вяроўкаю.)* Ды сціхні ты, дурніца!

## Сцэна 39

Спачывальня. Тыя ж. На лямант Агаты Рак з'яўляецца Бруна Чык, за ім Зося, Адам Шышдудар, Разалля Рак, ксёндз, Ёсель Цэсьлер.

Юзаф Рак. Вось, скруціў прывіда. Хацеў мяне забіць. Сяджу я, пільную ў шафе, а ён адчыняе — і бутэлькай па галаве. Ну, я яго натуральна і скруціў.

Зося. А Божачка!

Разалля Рак. Юзаф зноў сеў на каня.

Адам Шышдудар. Вы ўжо вярнуліся?

Юзаф Рак бярэцца за шаблю.

Бруна Чык. Пан палкоўнік, ён не прывід, гэта Вадзімір.

Юзаф Рак. А на халеру бутэлькай па галаве?

Бруна Чык. Ён думаў, што вы — прывід.

Юзаф Рак. Хіба я падобны?

Бруна Чык. Вы ж бачылі самога сябе ў шафе. *(Развязвае Вадзіміра Даўгалевіча.)* Казаў я табе: кладзіся спаць.

Вадзімір Даўгалевіч. Усё як мінулым разам. Чую: нехта ў шафе сядзіць. Адчыняю — прывід. Вы ж, пан палкоўнік, з’ехалі: чаго вам у шафе сядзець? Бяру бутэльку са свянцонай вадой і думаю: вось дам зараз чорту па рагах.

Юзаф Рак. А дзе ж прывід?

Ксёндз. Я ўпэўніўся, у доме сапраўды пасяліўся Д’ябал. Мушу тэрмінова ехаць да біскупа.

Бруна Чык. Так, хто б ён ні быў, але я ведаю сродак, як пазбавіцца ад яго. Пакіньце нас з ксяндзом на пару хвілін адных у спачывальні, і мы здзейснім абрад выгнання Д’ябла.

Адам Шышдудар. Няўжо, пан Чык, вы сталі за гэтыя дні такім вернікам?

Вадзімір Даўгалевіч. Ты ж ніколі не верыў.

Агата Рак. Вы лічыце, прывід і зараз у пакоі?

Бруна Чык. Я ведаю, ён сярод нас. Спадзяюся, пан ксёндз пацвердзіць мае словы.

Ксёндз. Калі ласка, панове, трэба хутчэй пакінуць пакой, мы мусім пачынаць.

Юзаф Рак. Ды рабіце што хочаце, толькі каб ніхто болей бутэлькамі па галаве не біў *(выходзіць)*.

## Сцэна 40

Спачывальня. Бруна Чык і ксёндз.

Ксёндз. Вы сапраўды паверылі ў прывіда?

Бруна Чык. Я бачыў цуд: вы з’явіліся ў спачывальні, хоць і не заходзілі ў яе.

Ксёндз. Вы хочаце сказаць, я прайшоў скрозь сцяну?

Бруна Чык. Не, вы вылезлі з-пад ложка. На крык я прыбег першы і стаў у дзвярах. Паўз мяне вы не праходзілі. Шафа занятая — вольна толькі пад ложкам. Заўважце, я спецыяльна не кажу: у ложку.

Ксёндз. Дык вы ўсё ведаеце?

Бруна Чык. Мне ўсё было ясна з першага дня. Але не ў маіх правілах выкрываць каханкаў. Я спадзя-

ваўся: муж зловіць вас сам. Але калі ён няздатны нават на гэта, то няхай верыць — у яго доме быў прывід.

Ксёндз. Чалавек слабы, і спакусы часам мацнейшыя за яго.

Бруна Чык. Для мяне такія паводзіны больш зразумелыя, чым цэлібат. Вось вам аркуш, а чырвоны атрамант прывіда я прыхапіў у вашым пакоі.

Ксёндз. Што пісаць?

Бруна Чык. Прывід ператварыўся ў святога духа і больш ніколі не з'явіцца ў спачывальні. Дадайце: з'яўленне прывіда — пакаранне палкоўніку за сквапнасць, хай дасць Разаллі добры пасаг.

Ксёндз. Прывід ніколі не пісаў такіх доўгіх цыдулак.

Бруна Чык. Нічога, гэта развітальная.

## Сцэна 41

Віленская кватэра Бруна Чыка. Бруна Чык і Вадзімір Даўгалевіч разбіраюць пошту. Бруна праз павелічальнае шкло разглядае кляймо на талерцы.

Бруна Чык. Баварцы пачалі дамешваць свінец у парцэляну. У тым, што нямецкі посуд не б'ецца, адчуваецца нешта дурное.

Вадзімір Даўгалевіч. Мілітарызацыя дайшла да талерак.

Бруна Чык. А я лічу, пачалася з іх. Усе войны пачыналіся з-за пустых талерак.

Вадзімір Даўгалевіч. Пані Твардоўская піша, што муж вярнуўся сам, але просіць заняцца іншай справай: у яе доме завялася нячыстая сіла, якая крадзе наліўкі ды чыніць іншую дробную шкоду.

Бруна Чык. Скора пан Твардоўскі зноў уцячэ ад жонкі.

Вадзімір Даўгалевіч. Ліст з Гайцюнішкаў ад Адама і Разаллі. Запрашаюць нас на вяселле. Вянчае іх пробашч Казімір. Дзякуюць за ўсё табе і прывіду. Пішуць,

што пасля перажытага пані Агата зрабілася вельмі набожнай і два разы на тыдзень ездзіць да касцёлу. Чым пан палкоўнік вельмі ўсцешаны.

Бруна Чык. Цяпер ахмістрыні айца Казіміра будзе здавацца, што ў плябаніі завёўся жаночы прывід.

Вадзімір Даўгалевіч. Дарэчы, ты мне дагэтуль не растлумачыў: адкуль у шафе ўзяўся скрываўлены труп і куды ён падзеўся?

Бруна Чык. Я думаў, ты ведаеш. Бо расклад класічны. Муж раней на дзень вяртаецца дадому. А ў жонкі палюбоўнік — ксёндз Казімір. Святы айцец хаваецца ў шафу, а на выпадак, калі яго ўсё ж знойдзе муж, прыкідваецца трупам.

Вадзімір Даўгалевіч. А сабаку навошта зарэзалі?

Бруна Чык. Каб не замінаў кахацца. Палкоўнік жа яго выдрэсіраваў не толькі кабінет ахоўваць, а і цнатлівасць жонкі.

Вадзімір Даўгалевіч. Я б не здагадаўся надзець чужы парадны мундзір і выпацкаць твар сабачай крывёю.

Бруна Чык. Ты б сядзеў голым у шафе. І адкуль у яго растуць рогі, здагадаўся б нават палкоўнік.

Вадзімір Даўгалевіч. Што ж ты іх адразу не прыцiснуў?

Бруна Чык. Я чакаў, калі хто з каханкаў паспрабуе вынесці сабаку з дому. Але ты паводзіў сябе звышактыўна, і невядома было, з-за якой парцьеры вываліўся наступным разам.

Вадзімір Даўгалевіч. Мог бы і мне сказаць.

Бруна Чык. Я шкадаваў тваёй веры ў прывіда.

Вадзімір Даўгалевіч. Што адкажам Адаму і Разаллі? Мы едзем на вяселле ў Гайцюнішкі?

Бруна Чык. Я — не. Маёнткі з прывідамі мяне больш не цікавяць.

*Піцунда*
*12 жніўня 1992 года*

# ЧОРНЫ КВАДРАТ

*Фарс-дэтэктыў*

Дзеючыя асобы:

К а з і м і р М а л е в і ч — найвялікшы мастак XX стагоддзя, супрэматыст

Б р а н і с л а ў К о т — уладальнік рэстарацыі (тыповы нэпман)

М а р т а К о т — спявачка ў рэстарацыі, жонка Браніслава, былая мадэлька Малевіча, кельнерава каханка

В і т а ў т Ф е д а р э н к а — кельнер у рэстарацыі

К а ц а п — большы } наёмныя забойцы

Х а х о л — меншы } наёмныя забойцы

К о т — сапраўдны кот

Песні на словы Максіма Багдановіча і Адама Глобуса.

Месца і час дзеяння: Віцебск, восень 1922 года.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### *ПРАЯВА ПЕРШАЯ*

Рэстарацыя. Наведвальнікаў няма. М а р т а і В і т а ў т. М а р т а грае на раялі песню «Зорка Венера».

М а р т а (*спявае*).

*Зорка Венера*
*Узышла над зямлёю,*
*Светлыя згадкі*

*З сабой прывяла...*
*Помніш, калі я*
*Спаткаўся з табою,*
*Зорка Венера*
*Узышла.*
*З гэтай пары*
*Я пачаў углядацца*
*У неба начное*
*І зорку шукаў.*
*Ціхім каханнем*
*К табе разгарацца*
*З гэтай пары*
*Я пачаў.*
*Але расстацца*
*Нам час наступае;*
*Пэўна, ўжо доля*
*Такая у нас.*
*Моцна кахаў я*
*Цябе, дарагая,*
*Але расстацца*
*Нам час.*
*Буду ў далёкім*
*Краю я нудзіцца,*
*У сэрцы любоў*
*Затаіўшы сваю;*
*Кожную ночку*
*На зорку дзівіцца*
*Буду ў далёкім*
*Краю.*
*Глянь іншы раз*
*На яе, — у расстанні*
*Там з ёй зліём мы*
*Пагляды свае...*
*Каб хоць на міг*
*Уваскрэсла каханне,*
*Глянь іншы раз*
*На яе...*

Да Марты ззаду падыходзіць Вітаўт.

В і т а ў т. Марта!

М а р т а. Не зараз, Вітак.

В і т а ў т. Марта! (*Абдымае.*)

М а р т а. SS ж сказала — не зараз. Можа прыйсці муж.

В і т а ў т. У гэты час Браніслаў яшчэ спіць.

М а р т а. Каму лепш ведаць, мне ці табе?

В і т а ў т. А што? Ён змяніў свае звычкі, як вярнуўся з Монтэ-Карла? Ты ж з ім там не была.

М а р т а. Ашалелі вы на гэтым Монтэ-Карла. І ты, і Браніслаў.

В і т а ў т. А хто ўвесь час ные: «Абрыднуў мне гэты правінцыйны Віцебск!»

М а р т а. Дык і Монтэ-Карла не сталіца!

В і т а ў т. Ты таму так кажаш, што цябе муж з сабой туды не возьме.

М а р т а. Чаму гэта не возьме?

В і т а ў т. Усе ягоныя грошы з’ела гэта рэстарацыя.

М а р т а. У Броніка няма грошай? У яго нічога няма апроч грошай. Не смяшы мяне. Ён сквапны, як Габсэк.

В і т а ў т. Але ж рэстарацыю купіў.

М а р т а. Дзеля мяне, каб было дзе спяваць.

В і т а ў т (*зноў абдымае Марту*). Гэта ён так думае. А мне здаецца — на тое, каб нам было дзе забаўляцца.

М а р т а (*устае з-за раяля, заходзіць на другі бок інструмента*). Ты б мяне ўзяў у Монтэ-Карла?

В і т а ў т. А ты гуляеш у брыдж, покер? Што такое рулетка, ведаеш?

М а р т а. І Бронік чалавек не азартны.

В і т а ў т. А там іншы газард ёсць. Як каханку ўзяў бы, а як жонку — не.

М а р т а. Я нікуды і не паеду. Нашто так далёка ехаць, каб гуляць у карты?

В і т а ў т. Я гэтага не казаў. Карты — гульня, фон. Як гэта рэстарацыя: і паесці ж можна дома, і паспяваць. Усе ідуць сюды на цябе паглядзець.

М а р т а. Мяне прыходзяць паслухаць. А там на што глядзець?

В і т а ў т. Эратычнае казіно. Жаночы аркестр, паўаго-

лены. Круп’е прывабныя, як амазонкі ў строях Евы.

М а р т а. За дзве тысячы кіламетраў у бардэль? Усё гэта можна наладзіць і тут.

В і т а ў т. Тут? Дзеля каго? Дзеля твайго знаёмага таварыша камісара ад мастацтва Шагала?

М а р т а. Дзеля цябе. Ты б і ў казіно на адну мяне глядзеў (*распранаецца*). А Марк Захаравіч, дарэчы, ўжо ў Парыжы.

В і т а ў т. Вось табе і камісар, Марк Захаравіч...

М а р т а (*ставіць плыту і танчыць пад музыку*). Чым я горшая за французскіх маркітанак?

В і т а ў т. Нічым. Але з маркітанкай ёсць пэўнасць, што муж не прыйдзе.

М а р т а. Заўсёды ты сапсуеш (*апранаецца*). Муж, муж — толькі і чую.

В і т а ў т. Каб нам ягоныя грошы...

М а р т а. Грошы ёсць.

В і т а ў т. Толькі ў камплекце з Браніславам.

М а р т а. Не хачу больш чуць нічога аб ім.

В і т а ў т. Ты ўпэўненая? Гэта можна лёгка здзейсніць.

М а р т а. Як?

В і т а ў т. Каб не было пра каго гаварыць, яго не павінна наогул існаваць.

М а р т а. Ты ўжо казаў мне гэта — ты ж ведаеш, я не магу забіць.

В і т а ў т. А пацукоў труціць можаш? Мыш’яком (*бярэ з шафы скрынку*). Вось гэтым. То ты і яго, як пацука. Да таго ж з выгляду падобны.

М а р т а. Ты так нічога лепшага і не прыдумаў. Мінулым разам прапаноўваў грыбы. Не мой стыль. Пакінь атруту пацукам.

В і т а ў т. Лепшага, кажаш? Прыдумаў, і не сваімі рукамі, можна нават не забіваць, ён сам усё зробіць, твой Бронік. Але працаваць давядзецца разам.

М а р т а. Прапануеш давесці яго да самагубства? Што ён, ідыёт? Ён вар’ят, зайздросны вар’ят. Гэта ён каго заўгодна заб’е, калі яго раз’юшыць.

В і т а ў т. Вось ты яго і раз’юшыш. Ён заб’е, а мы яго

пасадзім у турму.

М а р т а. Яго можна раз'юшыць толькі адным: калі сказаць, што я яму здраджваю. Хочаш, каб ён забіў мяне?

В і т а ў т. Не, твайго каханка.

М а р т а. Цябе?

В і т а ў т. Я ж не вар'ят — хіба ў цябе раней не было каханкаў?

М а р т а. Але ён пра іх не ведае.

В і т а ў т. Можа даведацца, калі расказаць.

М а р т а. І хто раскажа?

В і т а ў т. Я.

М а р т а. Не паверыць.

В і т а ў т. Паверыць, бо ведае, што ты была мадэлькай у мастакоў.

М а р т а. Марк Захаравіч — у Парыжы.

В і т а ў т. А Малевіч яшчэ тут.

М а р т а. А! Казік! Такі сам каго заўгодна заб'е.

В і т а ў т. А нам якая розніца, хто каго заб'е? Казік Броніка — грошы нашы. Бронік Казіка — Броніка пасадзяць у турму, і грошы зноў нашы.

М а р т а. І як ты сабе гэта ўяўляеш?

В і т а ў т. Натуралёва. Ты зараз пойдзеш да Малевіча і спакусіш яго.

М а р т а. Гэта яшчэ нашто?

В і т а ў т. Каб усё было натуральна.

М а р т а. І як пра гэта даведаецца Бронік?

В і т а ў т. Толькі ён з'явіцца тут, я накірую яго да Малевіча.

М а р т а. І заспее мяне з ім?

В і т а ў т. Не хвалюйся, я пайду следам. Малевіч мужык дужы і амбітны. Забіць цябе не дапусціць. Хай сабе яны забіваюць адзін аднаго, а ты ўцячэш.

М а р т а. Неяк занадта проста... і страшна.

В і т а ў т. Усё геніяльнае проста, а тое, што цяжка рабіць — і не варта рабіць, як вучыў наш фі-лосаф Скаварада.

М а р т а. Баюся.

В і т а ў т. А ў Парыж без грошай не баішся?

М а р т а. То што? Вось так зараз? Ісці?

В і т а ў т. А чаго цягнуць? Чакаць, покуль мяжу закрыюць? Ці покуль Бронік сваёй смерцю дойдзе?

М а р т а. А калі Малевіча не будзе дома?

В і т а ў т. Патэлефануй (*падыходзіць да апарата, круціць ручку*). Майстэрню прафесара Малевіча (*перадае трубку Марце*).

М а р т а. Казімір?.. Пазнаеш?.. Вядома, я, Марта... Кожны дзень бываеш у нас, а да мяне не падыходзіш... Кажаш, і я да цябе не падыходжу?.. Ты ж ведаеш, які Бронік раўнівы... У мяне да цябе справа... Ты сам не заняты?.. Што?.. Які Заірчык пэндзлікі мые?.. Ты выправі яго... Я да цябе зараз прыйду... Чакай (*вешае трубку*).

В і т а ў т. Вось бачыш, як усё лёгка. Далей яшчэ лягчэй пойдзе. Увечары твой Бронік або забіты, або ў турме. Камісары з нэпманам чыкацца не будуць. Прадаем рэстарацыю — і праз тыдзень у Парыжы.

М а р т а. Нават паверыць цяжка.

В і т а ў т падае М а р ц е манто, тая цалуе яго і выходзіць. В і т а ў т сядае ў фатэль, чытае газету.

*ПРАЯВА ДРУГАЯ*

У рэстарацыю заходзіць Б р а н і с л а ў К о т, В і т а ў т Ф е д а р э н к а падхопліваецца.

В і т а ў т. Вітаю пана Браніслава.

Б р а н і с л а ў. Здароў, Віталік. А што, пані Марты тут не было?

В і т а ў т. Была.

Б р а н і с л а ў. І дзе яна зараз?

В і т а ў т. Не ведаю (*няпэўна паціскае плячыма*).

Б р а н і с л а ў. Не той ты чалавек, каб не ведаць. Кельнер павінен ведаць усё.

В і т а ў т. Усё ведаць, але не пра ўсё гаварыць, пан Браніслаў...

Б р а н і с л а ў. І пра што ж можна расказваць, а пра што нельга?

В і т а ў т. Няхай пан спытае афіцыянтак, яны расказ-

ваюць заўсёды больш, чым ведаюць.

Б р а н і с л а ў. У мяне да баб даверу няма.

В і т а ў т. Вядома, плёткі, плёткі...

Б р а н і с л а ў. Ты так лічыш?

В і т а ў т. Наконт чаго?

Б р а н і с л а ў. Не чаго, а каго. Табе не здаецца, што мая жонка змянілася апошнім часам?

В і т а ў т. Вядома, была мадэлькай — цяпер па-ні. Дарма кажуць, што грошы псуюць людзей.

Б р а н і с л а ў. Я ведаю не горш за цябе, што была мадэлькай. Але ж гэты камісарык Марк Захаравіч з'ехаў. Уцёк. Можа, яшчэ трапіцца Станіславу Нікадзімавічу. Кажуць, той цяпер у Варшаве.

В і т а ў т. Якому Станіславу Нікадзімавічу?

Б р а н і с л а ў. Булак-Балаховічу, гэты пэйсы яму абсмаліць. Таксама мастак — пагромы ладзіць.

В і т а ў т. Гэты з'ехаў, але ж тут мастакоў, што камісараў.

Б р а н і с л а ў. І еней іх не робіцца: адзін з'едзе — другі прыязджае. Вось і Дабужынскі, прафесар. Але ж яму маю жонку маляваць — грошай не хопіць.

В і т а ў т. Добра, калі толькі маляваць. А то намалюе аголеную і на выставу павесіць.

Б р а н і с л а ў. Хто, Дабужынскі?

В і т а ў т. Не, Малевіч. У яго ж пані Марта мадэлькай таксама была.

Б р а н і с л а ў. Гэты не шкодны, хай выстаўляецца — супрэматыст. Там няма на што глядзець.

В і т а ў т. І мастацтва ягонае брыдкае, і чалавек ён гадкі.

Б р а н і с л а ў. Ды не, кліент ён нармальны — у доўг ніколі не п'е.

В і т а ў т. Але ж да дзевак мастак. Маляваць не ўмее, а ў студыю адных маладзенькіх бярэ.

Б р а н і с л а ў. Састарэў ты Федарэнка, зайздросны стаў.

В і т а ў т. Не пра чужых жонак размова.

Б р а н і с л а ў. Дык ты ж не жанаты.

В і т а ў т. Дык пан Браніслаў жанаты...

Б р а н і с л а ў. Вось і ты ўжо плёткам веры даў.

В і т а ў т. Няхай пан не верыць.

Б р а н і с л а ў. Можа, яшчэ скажаш, што яна зараз з Малевічам у ложку?

В і т а ў т. Можа, і так.

Б р а н і с л а ў. Ну ты даў! Пані Марта — і з Малевічам. Што, маладзейшага каго не ўспомніў? Я і Малевіч — параўнаў!

В і т а ў т. Калі пан не верыць, то няхай завітае зараз да Малевіча.

Б р а н і с л а ў. Хіба я сваёй жонкі не ведаю, каб яна з гэтым пэцкалём... ды яна шкіпінару не выносіць. Ты яшчэ скажы, што яна з табой спіць.

В і т а ў т. Я сам чуў, як яна з ім па тэлефоне дамаўлялася.

Б р а н і с л а ў. Ну вось, нарэшце. Я цябе адразу спытаўся, дзе пані Марта, а ты пра мастацтва разважаць.

В і т а ў т. Хіба пра такое адразу гавораць?

Б р а н і с л а ў. То кажаш, яна ў Малевіча? Выдатна.

В і т а ў т. Як выдатна?

Б р а н і с л а ў. Я цябе выпрабоўваў. Скажаш ці не. Гэта я папрасіў пані Марту, каб у пустую трубку спатканне прызначыла. І вось цяпер бачу, які ты надзейны чалавек.

В і т а ў т. Знайшоў пан Браніслаў жарцікі. А калі б я не сказаў?

Б р а н і с л а ў. Забіў бы. Ты ж мяне ведаеш (*сыходзіць, дэманстратыўна не развітваецца*).

В і т а ў т. У, хітрун, у пустую трубку яна гаварыла (*сыходзіць*).

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Падчас змены дэкарацый гучыць песня «Квадрат».

*Як парад*
*Без салдат —*
*Не парад,*
*Так квадрат*

*Без вуглоў —*
*Не квадрат.*
*Як футболу*
*Патрэбны галы,*
*Так квадрату*
*Патрэбны вуглы,*
*Хай вялікі*
*Ці самы малы,*
*А ўсё роўна,*
*Як ні павярні, —*
*У квадрата*
*Чатыры вуглы.*
*Не адзін,*
*І не тры, і не пяць...*
*Можаш плакаць,*
*А можаш скакаць,*
*Можаш біцца*
*Аб столь галавой —*
*Ты не зменіш*
*Сістэмы старой.*
*Так вучылі*
*І будуць вучыць.*
*Не змяніць,*
*Не стрымаць,*
*Не спыніць.*
*Гэта добраахвотны*
*Палон,*
*Гэта самы*
*Грунтоўны закон.*
*У квадрата*
*Чатыры вуглы.*
*Хай вялікі*
*Ці самы малы,*
*А ўсё роўна,*
*Як ні павярні, —*
*У квадрата*
*Чатыры вуглы.*
*Час ідзе,*
*Час ляціць,*

*Час імчыць,*
*Не стрымаць,*
*Не спыніць,*
*Не разбіць...*
*Росквіт вызначыць*
*Заняпад.*
*Застаецца*
*Нязменным квадрат.*

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

### *ПРАЯВА ПЕРШАЯ*

Майстэрня М а л е в і ч а. М а л е в і ч піша і ўслых прагаворвае.

К а з і м і р. Мы заклікаем дзейнічаць — галасаваць, рухацца — не толькі тых, хто стварае мастацтва, але і іншых таварышоў: кавалёў, наладчыкаў, меднікаў, каменячосаў, бетоншчыкаў, ліцейшчыкаў, цесляроў, канструктараў, пілотаў, гранільшчыкаў, шахцёраў, тэкстыльшчыкаў, закройшчыкаў (*задумваецца*), мадыстак — усіх тых, хто стварае утылітарны свет рэчаў, каб нам усім разам стварыць на зямлі новыя формы і новы напрамак.

### *ПРАЯВА ДРУГАЯ*

М а л е в і ч. Заходзіць М а р т а К о т.

М а р т а. У цябе незамкнёна.
К а з і м і р (*хавае рукапіс*). Вырашыла займацца мастацтвам? Заняткі з раніцы.
М а р т а. Ты адзін?

К а з і м і р апрануты кладзецца на ложак, моўчкі чакае, што яму скажа М а р т а. Тая маўчыць. К а з і м і р чакае.

М а р т а. Казімір.

К а з і м і р. Я слухаю.
М а р т а. Ты не захварэў?
К а з і м і р. А ты?
М а р т а. Хочаш, звару кавы? Я трошкі прынесла.
К а з і м і р. Каву я п'ю ў рэстарацыі твайго мужа.
М а р т а. Няўжо табе няма чаго мне сказаць?
К а з і м і р. Не.
М а р т а. У цябе новая мадэлька?
К а з і м і р. Не.
М а р т а. А са старых хто?
К а з і м і р. Нікога.
М а р т а. Можа, зробім як раней: намалюеш мяне?
К а з і м і р. Мне не трэба мадэлька.
М а р т а. Тады намалюй мой партрэт на заказ. У мяне ёсць грошы.
К а з і м і р. Я не раблю заказных партрэтаў.
М а р т а. У мяне шмат грошай.
К а з і м і р. Я болей не займаюся жывапісам.
М а р т а. Ты не займаешся жывапісам?
К а з і м і р. Я знішчыў жывапіс.
М а р т а. Ты спаліў свае карціны?
К а з і м і р. Я напісаў дасканалы твор, і далей мне не цікава гэтым займацца.
М а р т а. Так?
К а з і м і р. Белы квадрат у белым квадраце. Цяпер мяне цікавіць толькі свет рэчаў.
М а р т а. Прыгожых?
К а з і м і р. Дасканалых.
М а р т а. А я дасканалая?
К а з і м і р. Ты прыгожая.
М а р т а. А Дабружынскі кажа, што я дасканалая, як Венера.
К а з і м і р. Дабружынскі не ведае розніцы паміж прыгажосцю і дасканаласцю.
М а р т а. Ты не хочаш аднавіць былое?
К а з і м і р. Я ж сказаў, што жывапісам не займаюся.
М а р т а. Ты што, так і будзеш ляжаць? (*сядае побач на ложак*).
К а з і м і р (*устае*). Што ты мелася мне ска-

заць?

М а р т а. Ты быў у Парыжы?

К а з і м і р. Буду.

М а р т а. Хочаш паглядзець на маю французскую бялізну?

К а з і м і р. Не.

М а р т а. А на мяне без французскай бялізны?

К а з і м і р. Не хачу.

М а р т а. А ўсе кажуць, што я змянілася.

К а з і м і р. Ты не змянілася, а сапсавалася.

М а р т а. Я хачу цябе спакусіць, а ты не падказваеш, як.

К а з і м і р. Сто рублёў.

М а р т а. Ты смяешся?

К а з і м і р. Я ўсур'ёз.

М а р т а. Ты лічыш мяне прадажнаю дзеўкаю?

К а з і м і р. Не, гэта ты лічыш, што мяне можна купіць.

М а р т а. Раней было інакш.

К а з і м і р. Раней у цябе не было грошай.

М а р т а. Я хачу, каб ты быў са мною.

К а з і м і р. Сто рублёў.

М а р т а. Табе не сорамна браць грошы з каханкі?

К а з і м і р. Ты мне не каханка, а плачу я толькі мадэлькам.

М а р т а. Добра, я дам табе грошы. Абдымі мяне.

К а з і м і р. Колькі?

М а р т а. Што колькі? Падыдзі.

К а з і м і р. Грошай.

М а р т а. Як дамаўляліся... Сто рублёў... (*пачынае распранацца*).

К а з і м і р. Дзвесце. Я перадумаў.

М а р т а. Чаму?.. (*Распранаецца далей*).

К а з і м і р. Я паглядзеў — ты сапраўды змянілася.

М а р т а. Добра, дзвесце. Толькі кладзіся хутчэй.

К а з і м і р. Ведаеш, я перадумаў — грошай не трэба.

М а р т а. Я ведала, што ты жартуеш. Чаму ж стаіш?

К а з і м і р. Ты падорыш мне пярсцёнак з дыяментам?

М а р т а. У мяне ж з сабой няма.

К а з і м і р. Я таму і прашу, што няма.

М а р т а. Гэта ж Броніславаў вясельны падарунак.

К а з і м і р. Ты лічыш, што я горшы за вясельны падарунак?

М а р т а. Мне холадна.

К а з і м і р. То апранайся.

М а р т а. А ты мяне не сагрэеш?

К а з і м і р. Прынясі пярсцёнак.

М а р т а. Ты вар'ят! (*Апранаецца.*)

К а з і м і р. Я мастак.

М а р т а ўстае з ложка, кіруецца да дзвярэй. К а з і м і р кладзецца ў ложак. М а р т а спыняецца ў дзвярах.

М а р т а. Я кахаю цябе.

К а з і м і р. Я здагадаўся.

М а р т а. Ты здзекуешся. А я марыла аб гэтай сустрэчы.

К а з і м і р. Вось бачыш, усё здзейснілася.

М а р т а. Мне няма куды ісці.

К а з і м і р. А адкуль прыйшла?

М а р т а. Я разыходжуся з Броніславам.

К а з і м і р. Можа, скажаш, што з-за мяне?

М а р т а. З-за нас з табою.

К а з і м і р. І што пра гэта думае Броніслаў?

М а р т а. Я прыйшла на тое, каб сказаць, што ён заб'е нас.

К а з і м і р. Ты перадай яму, што ўсё выдатна і нявартa нікога забіваць.

М а р т а. Ён не жартаваў.

К а з і м і р. У цябе не атрымалася купіць мяне. Цяпер вырашыла запалохаць?

М а р т а. Ён небяспечны чалавек. Ён сябра

Булак-Балаховіча.

К а з і м і р. Я не Шагал, каб мяне так палохаць.

М а р т а. Дык ты дазволіш мне ў цябе застацца?

К а з і м і р. Нашто? Каб ён забіў нас абаіх?

М а р т а. Ты пашкадуеш.

К а з і м і р. Сыходзь, я хачу спаць.

М а р т а. Я папярэдзіла.

К а з і м і р. Дзякуй.

М а р т а. Ты застанешся?

К а з і м і р. Мяне ўсё гэта не абыходзіць.

М а р т а сыходзіць. К а з і м і р некаторы час ляжыць. Затым падыходзіць да тэлефона, круціць ручку.

К а з і м і р (*у тэлефон*). Рэстаран? Пана Браніслава... У рэстаране няма?.. Дзякуй. (*Ізноў круціць ручку.*) Кватэру Браніслава Ката... Пан Браніслаў?.. Добры вечар... Гэта прафесар жывапісу Малевіч... Ці ведае пан, дзе ягоная жонка?.. Ведае, што ў мяне?.. Цікава... А хто пану сказаў?.. Не, пан памыляецца, яна не ў майстэрні... Мы знялі кватэру... Я прынясу яе ў майстэрню... Чаму прынясу?.. Таму, што яна не можа хадзіць... Я звязаў яе... Не трэба пагражаць... Лепш будзе, калі пан прыйдзе ў майстэрню і забярэ Марту... Вядома, за грошы... А колькі пан мае наяўнымі?.. Дастаткова. І шлюбны пярсцёнак да іх... Не, не зараз, я не паспею прынесці Марту... Яна не прастудзіцца, забыўся дадаць: яна закручаная ў кілім. Чакаю ў дванаццаць гадзін у сваёй майстэрні, не раней і не пазней (*вешае трубку, сыходзіць*).

Падчас змены дэкарацый гучыць песня «Павукі».

*Дзесь у хмарах*
*Жывуць павукі,*
*Што снуюць*
*Павучыну дажджу.*

*Кожны тлусты*
*І мяккі такі, скура слізкая,*
*Як у вужа.*
*У целе стыгне*
*Халодная кроў,*
*Злосць бясцэльная*
*У круглых вачах...*
*Чу, чуваць*
*Шорах ног павукоў,*
*Аплятаючых*
*Сцены і дах.*

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

### *ПРАЯВА ПЕРШАЯ*

Рэстарацыя. В і т а ў т. Заходзіць М а р т а.

М а р т а. Дзе Браніслаў?
В і т а ў т. Ён мне не паверыў.
М а р т а. Як — не паверыў?
В і т а ў т. Ці можа ўдае, а сам нешта надумаў.
М а р т а. Бачыш, з тваіх разлікаў нічога не атрымалася.
В і т а ў т. Табе не спадабалася з Малевічам?
М а р т а. Ідыёт! Ён смяяўся з мяне, я ледзь стрымалася, каб не даць яму па твары.
В і т а ў т. Ты не здолела спакусіць яго?
М а р т а. Ён нешта адчуў.
В і т а ў т. Што ён можа адчуць?
М а р т а. Што я хацела выставіць яго.
В і т а ў т. Не атрымалася гэтым разам — прыдумаем лепшае.
М а р т а. А раптам Браніслаў спытае, дзе я была?
В і т а ў т. Скажаш, была тут: ён жа ведае, што цябе тут не было. Трэба завесці яго.
М а р т а. Пакуль што завялася я!
В і т а ў т. Супакойся, усё ідзе па плану.
М а р т а. Па якому, хто яго прыдумаў, той план?

В і т а ў т. Проста ўсё пераносіцца на заўтра.

М а р т а. Ты ведаеш, што Малевіч ходзіць з наганам?

В і т а ў т. Я ж ведаю, што ён камісар. Гэтая справа будзе мець палітычную афарбоўку — нэпман забівае камісара...

М а р т а. А калі нэпман забівае сваю жонку?

В і т а ў т. Сацыяльна-бытавая драма.

М а р т а. Заўтра, увесь час заўтра. А я хачу сёння.

В і т а ў т. А хто табе перашкаджае? Муж пайшоў...

М а р т а. Я не пра тое. Табе не шкода яго?

В і т а ў т. Не.

М а р т а. Каго?

В і т а ў т. Бранiслава.

М а р т а. Я пра Малевіча.

В і т а ў т. Камісара пашкадавала. Знайшла што шкадаваць, давялі дзяржаву.

М а р т а. Ён мастак.

В і т а ў т. Знайшла мастака — пэцкаль. І я такое магу маляваць.

М а р т а. Ты так лічыш?

В і т а ў т. Што я чорны квадрат не намалюю? Яшчэ большы зраблю. І гэта жывапіс — крыжыкі-нолікі маляваць?

М а р т а. Ён адкрыў новае мастацтва.

В і т а ў т. Чорны квадрат. Звесці ўсё ў нішто. І быдла будзе панаваць. Усё разбурыць, падзяліць, затаўчы, абмежаваць. Каб не цябе, не мяне — адзін чорны квадрат.

*ПРАЯВА ДРУГАЯ*

Дзверы рэстарацыі адчыняюцца. Заходзяць двое: П ш э к і К а ц а п. Сядаюць за столік. Абодва застаюцца ў капелюшах і пальчатках.

В і т а ў т. Рэстарацыя зараз не працуе.

К а ц а п. Цябе не спыталі.

В і т а ў т. Сыходзьце, у нас зачынена.

П ш э к. Каб было зачынена — мы не зайшлі б.

В і т а ў т. Зараз вам тут няма чаго рабіць. Сыходзьце.

К а ц а п. Ты чуеш, Пшэк? Ён кажа, нам няма чаго тут рабіць (*дастае абрэз, скіроўвае рулю на Вітаўта*).

П ш э к (*да Марты*). Можа, прыгажуня нарэшце нас абслужыць?

М а р т а. Што вам трэба?

К а ц а п. Сам не ведаю (*бярэ са стала меню, разглядвае*). Ты што возьмеш, Пшэк?

П ш э к. Не ведаю, не ведаю, што ўзяць.

К а ц а п. Дай мне біфштэкс з крывёю.

П ш э к. Не люблю крыві.

В і т а ў т. Біфштэкса няма.

К а ц а п. А чаму ён ёсць у меню?

В і т а ў т. Я ж сказаў: мы не працуем.

П ш э к. А нашто меню?

М а р т а. Мы ўжо зачыніліся.

К а ц а п. А для каго дзверы незамкнёныя?

В і т а ў т. Не пра тое гаворка.

П ш э к. Халера з вамі. Так, Кацап? Возьмем тое, што ёсць.

К а ц а п. Што засталося?

В і т а ў т. Засталіся халодныя закускі. Рыбу? Салаты? Цяляціну? Вяндліну?

П ш э к. Халоднага наеўся. А ты, Кацап?

К а ц а п. Пераходзь да гарачага.

М а р т а. Гарачага няма.

П ш э к. А ты, што — рыба? Га, Кацап, яна рыба.

К а ц а п. А гэты — цяляціна. (*Да Вітаўта.*) Паслухай, цялё. Прынясі выпіць.

В і т а ў т. Шампанскае, сухі херас, марціні.

П ш э к. Ён жартуе.

К а ц а п. Ён, відаць, не дачуў, я сказаў — выпіць.

М а р т а. У нас гарэлкай не гандлююць.

П ш э к. А мы і не збіраемся купляць.

К а ц а п. Я сказаў, прынясі!

М а р т а збіраецца пайсці. К а ц а п спыняе яе.

К а ц а п. Адна не пойдзеш. Пшэк, павартуй яго.

В і т а ў т. Яна не пойдзе.

П ш э к. Ты чуў, Кацап, з табой яна не пойдзе. Яна пойдзе са мною.

М а р т а. Я нікуды не пайду.

К а ц а п (*прыстаўляе рулю абрэза да Вітаўтавага падбароддзя*). А што? Яна ходзіць толькі з табою?

П ш э к. Кацап, адчапіся. Табе ж Браніслаў казаў, з кім яна ходзіць. Астатнія нас не цікавяць.

К а ц а п. Маўчы, Пшэк. Сам ведаю.

В і т а ў т (*асцярожна адводзіць рулю*). А што панам уласна трэба? Вас прыслаў пан Браніслаў?

К а ц а п. Які Браніслаў? Першы раз чую. Пшэк, ты чуў? Мы ўжо паны.

П ш э к. Добра, што не таварышы.

М а р т а. Вы ведаеце, куды трапілі? У нас прыстойная рэстарацыя, а не бардэль.

К а ц а п. Ты так думаеш? Гэта не цяжка выправіць.

П ш э к. Шкода, што ў нас іншыя планы на гэты вечар. Там хто яшчэ ёсць (*паказвае ўбок кухні*)?

В і т а ў т. Усе разышліся.

М а р т а. Мы адны.

К а ц а п (*да Пшэка*). Схадзі, спраўдзі.

П ш э к сыходзіць, праз хвіліну вяртаецца з бутэлькай мартэля і ладным кавалкам вяндліны на талерцы.

П ш э к. (*да Кацапа*). Сядай.

К а ц а п (*да Вітаўта*). Ты даўно тут працуеш?

В і т а ў т. Так.

К а ц а п. Мастакі сюды не заходзяць?

В і т а ў т. Часам заходзяць.

П ш э к. А якім часам заходзяць?

В і т а ў т. Звычайна мы працуем да дванаццаці.

П ш э к выцягвае з рукава доўгі, як штых, нож, не здымаючы пальчатак кроіць вяндліну. М а р т а адварочваецца. К а ц а п налівае сабе і П ш э к у мартэль.

К а ц а п (*да Марты*). Не хвалюйся, ёнім яшчэ нікога не зарэзаў. Не зносіць крыві.

П ш э к. Не зношу крыві. Хіба я ўпыр?

К а ц а п. Ён толькі душыць (*сядае за стол, бярэ рукою ў пальчатцы скрыль вяндліны. Да Вітаўта*). То кажаш, мастакі заходзяць?

М а р т а. Кажыце адразу: хто вам трэба?

П ш э к. Ну, я табе скажу. Мы збіраемся забіць аднаго мастака. Казіміра Малевіча. Ведаеш такога?

К а ц а п. Ён тут вячэрае штодня.

В і т а ў т. Так.

П ш э к. Гэта мы без цябе ведаем.

К а ц а п. Калі штодня — то павінен быць і сёння.

М а р т а. Што ён вам зрабіў?

П ш э к. Я яго ніколі не бачыў.

К а ц а п. Ён нас таксама ніколі не бачыў.

В і т а ў т. Што вы з ім зробіце?

П ш э к. Будзе відаць.

К а ц а п. Кажуць, што ён камісар, ходзіць з наганам у кішэні.

П ш э к. Калі ён зойдзе, рабіце выгляд, што мы звычайныя наведвальнікі.

М а р т а. Ён можа сёння і не прыйсці.

П ш э к. Я сказаў: калі зойдзе.

К а ц а п. Калі не прыйдзе, мы заб’ем каго-небудзь іншага — можа быць, вас. Разыдзіцеся ў розныя бакі: ты сюды, а ты сюды.

М а р т а і В і т а ў т выконваюць загад.

П ш э к. Ён жартуе: нам патрэбны Малевіч.

В і т а ў т. Паны ж яго ніколі не бачылі. Раптам зойдзе хто іншы?

К а ц а п. Гэта ўжо нашы праблемы, мы яго пазнаем.

М а р т а. Нашто гэта вам?

П ш э к. Гэта простая сяброўская паслуга, нас папрасіў адзін знаёмы.

К а ц а п. Маўчы, шмат гаворыш.

П ш э к (*да Вітаўта*). Што глядзіш? Не падабаецца мой штых — прынясі відэлец.

В і т а ў т. Відэльцы афіцыянт замкнуў у буфеце.

К а ц а п. А ты хто?

В і т а ў т. Я кельнер.

П ш э к. Чакай, а можа, ён Малевіч?

В і т а ў т. Не, тутэйшы.

П ш э к. Хто тутэйшы? Жыд тутэйшы?

В і т а ў т. Я ж каталік.

К а ц а п. А можа, яго абрэжам, і стане жыд?

П ш э к. Хочаш стаць жыдам, бо я не люблю хахлоў?

М а р т а. Кіньце чапляцца, за нас жа вам ніхто не заплоціць.

К а ц а п. Мы не ўсё робім за грошы. Бывае, і дзеля ўласнага задавальнення.

П ш э к. Добра, што нагадала, што ты ёсць. Што ты тут робіш?

М а р т а. Я Марта Кот.

К а ц а п. Я так і зразумеў, што гэта твайго мужыка рэстарацыя.

П ш э к. Дык дзе ж Малевіч?

М а р т а. Хіба я магу ведаць?

К а ц а п. Нам сказалі, што ён прыйдзе. І прыйдзе да цябе.

В і т а ў т. І што будзе з намі?

П ш э к. А вось гэтага наперад ніколі не ведаеш.

К а ц а п. А сапраўды, што з імі зробім?

П ш э к. Задушым.

К а ц а п. Падабаецца яму душыць. І нічога не зробіш.

П ш э к. Дзе адзін нябожчык — там і тры.

М а р т а. А калі Малевіч не прыйдзе?

К а ц а п. То мы прыйдзем да яго.

М а р т а. Вас падманулі, ён ніколі не хадзіў да

мяне.

П ш э к. Дуры галаву свайму мужу.

В і т а ў т. Яна кажа праўду: да яе ніхто не ходзіць.

К а ц а п. Яна ходзіць да яго.

М а р т а. Я нікуды не хаджу.

П ш э к. Ты што? З гэтым вось хахлом забаўляешся?

К а ц а п. А табе што да гэтага?

П ш э к. Я так, падтрымаць размову.

К а ц а п. Тады лепш памаўчы.

П ш э к. Няхай ён расказвае.

В і т а ў т. А што мне расказаць?

П ш э к. Што-небудзь цікавае.

К а ц а п. Пра жанчын.

В і т а ў т. Не ведаю: так адразу пра што расказваць?

П ш э к. Будзе нецікава — заб’ю.

В і т а ў т. Не магу ж я пры гаспадарскай жонцы такое расказваць.

К а ц а п. А Пшэк проста так сядзець не можа. Яму сумна.

П ш э к. Пасталі, як слупы.

М а р т а. Можам і сесці.

К а ц а п. Заставайся стаяць.

П ш э к. Гэй, ты, Федарэнка, завядзі музыку.

В і т а ў т ставіць плыту. Гучыць музыка.

К а ц а п. Я ж з Пшэкам танчыць не буду. Федарэнка, запрасі пані.

В і т а ў т падыходзіць да М а р т ы.

П ш э к. Танцы, танцы! А мы пойдзем. Праз чвэрць дванаццаць.

К а ц а п. Пашукаем Малевіча ў іншым месцы.

П ш э к. І каб не спыняліся. Мы яшчэ вернемся.

П ш э к з К а ц а п а м сыходзяць. В і т а ў т выключае

патэфон. М а р т а глядзіць у акно.

В і т а ў т. У які бок яны пайшлі?
М а р т а. Відаць, у майстэрню Малевіча.
В і т а ў т. Яны заб'юць яго.
М а р т а. Маглі забіць і нас.
В і т а ў т. Не падабаецца мне гэта.
М а р т а. А мяне нашто ты сюды ўблытаў?
В і т а ў т. Не я, а твой муж. Хто ж ведаў, што ён знойдзе наёмных забойцаў?
М а р т а. А ты лічыш, гэта Баніслаў прыслаў іх?
В і т а ў т. А каму ён трэба, гэты Малевіч?
М а р т а. Не думала, што ён водзіць такія знаёмствы.
В і т а ў т. І я не чакаў, што ён такі спрытны. Бачыш, грошай на цябе не пашкадаваў.
М а р т а. Мог і на цябе не пашкадаваць, каб ведаў.
В і т а ў т. Непрыемная гісторыя.
М а р т а. І што цяпер рабіць?
В і т а ў т. А што зробіш? Ты ж іх бачыла. Нічога не зробіш.
М а р т а. Я баюся ісці дадому.
В і т а ў т. Трэба нешта прыдумаць.
М а р т а. Дык прыдумай.
В і т а ў т. Я вось і думаю.
М а р т а. Не заўважыла.

## ДЗЕЯ ЧАЦВЁРТАЯ

Падчас змены дэкарацый гучыць песня «Шлях да магілы».

*Шмат у нашым жыцці ёсць дарог,*
*А вядуць яны ўсе да магілы.*
*І без ясных надзей, без трывог,*
*Загубіўшы апошнія сілы,*
*Мы сайдземся, спаткаемся там*
*І спытаем сябе: для чаго мы*
*Па далёкіх і розных пуцях*

*Адзінока ішлі ў край невядомы?*
*І чаму паспяшаліся так,*
*Напружаючы ўсе свае сілы,*
*Калі ціха паўзушчы чарвяк*
*Усё ж дагнаў нас ля самай магілы?*

*ПРАЯВА ПЕРШАЯ*

Двор перад домам, дзе месціцца майстэрня М а л е в і - ч а. Цемра. Узнікаюць П ш э к і К а ц а п.

К а ц а п. Здаецца, гэты дом.

П ш э к. Майстэрня Малевіча на другім паверсе. Нешта ў вокнах цёмна.

К а ц а п. Я падымуся. А ты заставайся тут. Калі хто прыйдзе, ведаеш, што рабіць.

П ш э к. Ведаю.

К а ц а п заходзіць у дзверы пад'езда, праз хвіліну вяртаецца.

П ш э к. Ну?

К а ц а п. У майстэрні нікога.

П ш э к. Не адчыняе, ці сапраўды няма?

К а ц а п. А там і незамкнёна.

П ш э к. Можа, падымемся і ў майстэрні пачакаем?

К а ц а п. Пачакаем у двары.

П ш э к. У майстэрні ж зручней.

К а ц а п. А тут надзейней. Раптам ён прыйдзе не адзін? Будзе час зарыентавацца.

П ш э к. А чаму ты думаеш, што ён прыйдзе?

К а ц а п. Дзверы ж незамкнёныя.

П ш э к. Не люблю чакаць (*пачынае насвістваць*).

К а ц а п. Не свісці.

П ш э к замаўкае, дастае папяросу, запальвае.

К а ц а п (*вымае яму папяросу з зубоў*). Не палі, ты на працы.

П ш э к. Можа, у майстэрні ёсць што выпіць?

К а ц а п. Ужо няма. Я ж казаў — там незамкнёна.

П ш э к. Трэба было прыхапіць бутэльку з рэстарацыі.

К а ц а п. А бабу прыхапіць з сабой не хацеў?

П ш э к. Я ж на працы.

К а ц а п. Ты можаш памаўчаць?

П ш э к. Магу.

К а ц а п. Вось і маўчы.

П ш э к. Маўчу.

К а ц а п пачынае свісцець.

П ш э к. А колькі табе абяцалі?

К а ц а п маўчыць.

П ш э к. Колькі табе абяцалі?

К а ц а п. Дастаткова.

П ш э к. За гэтую справу трэба браць золатам, а не папераю.

К а ц а п. Ведаеш?

П ш э к. Што?

К а ц а п. Дарма я цябе ўзяў.

П ш э к. Удваіх жа лепш.

К а ц а п. І я так спачатку думаў, а цяпер гляджу — горш.

П ш э к. А калі ён прыйдзе не адзін?

К а ц а п. У цябе з'явіцца шанц адпрацаваць сваю долю. Але, відаць, ён прыйдзе адзін.

П ш э к. Апошні раз з табою звязваюся.

К а ц а п. Змоўкні: чуеш, нехта ідзе.

П ш э к і К а ц а п адыходзяць у цемру.

## *ПРАЯВА ДРУГАЯ*

У дзверы падъезда заходзіць мужчынская постаць. Шэпт К а ц а п а і П ш э к а гучыць з цемры.

К а ц а п. Я пайшоў, ты заставайся.

П ш э к. Пачакай, можа не ён. Паглядзім, ці запаляцца вокны.

К а ц а п. Сам разбяруся.

К а ц а п спешна і бязгучна знікае ў пад'ездзе, П ш э к азіраецца, заўважае к а т а.

П ш э к. Кц, кц, кц...

П ш э к лашчыць к а т а. Падымае яго за горла, душыць. К о т выкручваецца. Вяртаецца К а ц а п.

К а ц а п. Ты нашто ката задушыў?

П ш э к. Проста так.

К а ц а п. Выкінь.

П ш э к. (*кідае ката пад ногі*). Ну што?

К а ц а п. Нічога. Адкінь ката, каб ён не заўважыў, як будзе вяртацца.

П ш э к (*адкідае ката*). А гэта не ён быў?

К а ц а п. Нехта іншы.

П ш э к. Як гэта — іншы? Я ж бачыў, ён на другі паверх падняўся.

К а ц а п. Ты памыліўся.

П ш э к. Я не памыліўся.

К а ц а п. Значыцца, табе падалося.

П ш э к. Пачакаем яшчэ.

К а ц а п. Абрыдла мне чакаць.

П ш э к. Я пачакаю адзін.

К а ц а п. Не, сыходзім. Нам жа не гарыць. Заўтра паўторым.

К а ц а п бярэ пад руку П ш э к а. Сыходзяць.

*ПРАЯВА ТРЭЦЯЯ*

У двары з'яўляецца Казімір Малевіч. Заходзіць у пад'езд. Праз некаторы час вяртаецца. Нясе на плячы скручаны кілім. З кіліма тырчаць ногі ў чаравіках.

## ДЗЕЯ ПЯТАЯ

Падчас змены дэкарацый гучыць песня «Дарога».

*Зарыпела, запела дарога,*
*Дзверы груккнулі,*
*Бразгнуў замок.*
*І панесла мяне дарога*
*Не наперад, не ўзад,*
*А ўбок.*
*У тым боку*
*Нават поле з гора*
*Валунамі даўно зарасло,*
*А шырока-глыбокае мора*
*Жорсткім жвірам,*
*Пяском заплыло.*
*І знайшоў я там*
*Скрыпку і смык,*
*І зрабіў я з іх стрэльбу і штых.*

*ПРАЯВА ПЕРШАЯ*

Кватэра Браніслава і Марты Катоў. Малевіч з кілімам на плячы адчыняе дзверы ключом. Заходзіць, замыкае за сабою дзверы. Раскручвае кілім. З кіліма выкочвае труп Браніслава Ката. Малевіч цягне яго за ногі да шафы. Хавае труп у шафе. Скручвае кілім. Тэлефануе.

Казімір (*у трубку*). Рэстарацыя? Федарэнка? Слухай, Федарэнка, гаворыць Малевіч... Не, са мною нічога не здарылася... Ты ведаеш, што твай-

го гаспадара забілі?.. Так, забіты Браніслаў Кот... Хто забіў? Тыя, што палявалі на мяне. Тыя, каго ён сам наняў... Не, не на кватэры, кватэру яны не кранулі... У цябе ёсць шанц іх апярэдзіць... Нашто кажу? Дбаю пра ваша з Мартай будучае.

Казімір Малевіч вешае трубку. Праз некаторы час зноў тэлефануе.

Казімір (*у трубку*). Рэстарацыя?.. Марта, ты?.. Не, са мною ўсё нармальна. Федарэнка цябе павіншаваў?.. Не?.. Ужо пабег?.. Нават нічога не сказаў?.. Ты ведаеш, дзе ён зараз?.. Ён пабег рабаваць кватэру твайго мужа... Браніслаў яму нічога не зробіць. Браніслаў ужо нябожчык. Наёмныя забойцы паблыталі яго са мной... Бачыш, які свінтус гэты твой Федарэнка, нават нічога табе не сказаў... Не, думаю, ён яшчэ да цябе вернецца, не ўсе ж грошы Браніслаў на кватэры трымае... Пачакай, заставайся на месцы, нікуды не сыходзь. Зараз я падыду ў рэстарацыю. (*Вешае трубку, бярэ пусты кілім, сыходзіць з кватэры.*)

## *ПРАЯВА ДРУГАЯ*

Пшэк адчыняе дзверы кватэры Катоў штыхом. Асцярожна прычыняе іх за сабою. Лазіць па шуфлядах, скідае кнігі з паліц, шукае грошы. Прыслухоўваецца, стойваецца каля ўваходных дзвярэй. У кватэру асцярожна заходзіць Вітаўт Федарэнка. Пшэк накідае яму на шыю ўдаўку, душыць. Труп запіхвае пад ложак. Ізноў шукае грошай.

У кватэру бязгучна заходзіць Кацап.

Кацап. Фініш, Пшэк.
Пшэк (*ад нечаканасці нерухомее*). Я...
Кацап. Апярэдзіць мяне хацеў?
Пшэк. Я ж ведаў, што па грошы прыйдзеш.

К а ц а п. Па якія грошы?

П ш э к. Ты ж у майстэрні Малевіча (*на мігах паказвае*) зарэзаў.

К а ц а п. А ты хацеў за мяне грошы атрымаць.

П ш э к. Ты ж палову з рук забітага ўзяў. А мяне выставіць хацеў: сказаў, што гэта не Малевіч заходзіў.

К а ц а п. А ты адкуль ведаеш?

П ш э к. Ты ж сам сказаў.

К а ц а п. Што я сказаў?

П ш э к. Што табе Браніслаў абяцаў: «Дзве тысячы ў Малевіча пры сабе будуць».

К а ц а п. Ён мне абяцаў, а не табе.

П ш э к. Ты сваё ўзяў, а сюды я за сваім прыйшоў.

К а ц а п. Чакай, а чые гэта ногі з-пад ложку тырчаць?

П ш э к. Яны да справы дачынення не маюць.

К а ц а п. Сам разбяруся, выцягвай.

П ш э к. Ды гэта Федарэнка, кельнер. Выпадкова зайшоў (*выцягвае труп*). І чаго яго толькі ў такі час сюды, на кватэру Браніслава панесла?

К а ц а п. Глядзі ты, сапраўды, а я ўжо падумаў, што ты Браніслава забіў, каб рэшту маіх грошай прыбраць.

П ш э к. Ды не, я так, каб з табой не размінуцца: я ж ведаў, што ты да Браніслава прыйдзеш.

К а ц а п. Давай, парадак наводзь, каб Браніслаў нічога не заўважыў, калі прыйдзе.

П ш э к. Зараз (*цягне труп Федарэнкі да шафы*).

К а ц а п (*адчыняе шафу, адтуль вывальваецца труп Браніслава*). Ты нашто яго сюды прынёс?

П ш э к. Я, яго? Нікога я не прыносіў...

К а ц а п. Гэта ж мой труп.

П ш э к. Які твой — ты ж яшчэ цёплы, яшчэ не астыў.

К а ц а п. Ты Малевіча з майстэрні сюды да Браніслава прыцягнуў, паскуда! Маю працу пра-

даць захацеў.

П ш э к. А ты ж казаў: нікога ў майстэрні не было!

П ш э к выхоплівае ўдаўку, накідвае на шыю К а ц а п у. К а ц а п валіць П ш э к а на падлогу, выхоплівае ягоны штых і забівае П ш э к а. К а ц а п устае, штыком адмыкае шуфляду ў сакрэтніку, дастае скарбонку, адчыняе яе, задаволена прысвістае. Знаходзіць сакваяж, пакуе ў яго грошы і скарбонку. Сыходзіць.

## ДЗЕЯ ШОСТАЯ

Падчас змены дэкарацый гучыць песня «Атрута».

*У мяне ёсць атрута —*
*Вельмі лёгкая смерць.*
*Можна знішчыць пакуты,*
*Волю вольную мець.*

*Лепей спаць у закутку,*
*Ці пайсці жабраваць.*
*Лепей выпіць атруты,*
*Чым людзей забіваць.*

*Не палохайся, дружа,*
*Самагубства, даль Бог, —*
*Гэта зброя для мужных, а не для рабоў.*

### *ПРАЯВА ПЕРШАЯ*

Рэстарацыя. М а р т а К о т. Заходзіць К а з і м і р М а л е в і ч.

М а р т а. Казімір, што з Браніславам?

К а з і м і р. Тое, што вы рыхтавалі мне. Забіты.

М а р т а. Хто гэта — вы?

К а з і м і р. Ты і твой Федарэнка.

М а р т а. Хто забіў Браніслава?

К а з і м і р. Забойцы.

М а р т а. Ведаю, што не анёлы.

К а з і м і р. Яны ішлі забіваць мяне і паблыталі з Браніславам.

М а р т а. Я ж цябе папярэджвала, а ты не верыў.

К а з і м і р. Я табе і цяпер не веру.

М а р т а. Гэта Федарэнка, ён накруціў Браніслава.

К а з і м і р. А ты накруціла Федарэнку.

М а р т а. Гэта ж не мы, а мой муж наняў забойцаў.

К а з і м і р. А вы спадзяваліся, што ён сам пойдзе мяне забіваць?

М а р т а. Але ж я папярэджвала цябе.

К а з і м і р. І я папярэдзіў цябе, што твой Федарэнка пайшоў рабаваць Браніслававу кватэру.

М а р т а. Маю кватэру.

К а з і м і р. Ты яму даруеш.

М а р т а. Не, не дарую.

К а з і м і р. Я пачакаю.

М а р т а. Чаго?

К а з і м і р. Грошай.

М а р т а. Адкуль яны тут возьмуцца?

К а з і м і р. Іх прынясе Федарэнка.

М а р т а. Лічыш, ён прыйдзе развітацца са мною?

К а з і м і р. Не, проста ты апошняя сведка.

М а р т а. Думаеш, ён вернецца забіць мяне?

К а з і м і р. Упэўнены, бо ты шмат ведаеш.

М а р т а. А ты? Ты ж таксама зашмат ведаеш.

К а з і м і р. Таму я і тут.

М а р т а. Небяспечных сведак заўсёды забіваюць. Але ўсё можна змяніць. Федарэнка для мяне таксама сведка.

К а з і м і р. Маеш рацыю.

М а р т а. Гэта ж тычыцца і цябе.

К а з і м і р. А я не сведка, я ахвяра.

М а р т а. Раптам яны вернуцца?

К а з і м і р. Мяне яны ўжо забілі.

М а р т а. Яны ж убачаць, што памыліліся.

К а з і м і р. Такія людзі не памыляюцца.

М а р т а. Гляджу, і ты з такіх людзей.

К а з і м і р. Так, такі ж самы, толькі лепшы (*падыходзіць да буфета, бярэ бутэльку*). Адкуль у гэтай карчме прыстойны напой?

М а р т а. З Браніслававых запасаў. Але пастаў яе на месца. Я прынясу іншую.

К а з і м і р. Адвыкай, Браніслаў не пакрыўдзіцца.

М а р т а. Не пра тое гаворка.

К а з і м і р. Што ты маеш на ўвазе? Я не хачу іншай.

М а р т а. Пастаў, я прынясу такую ж самую.

К а з і м і р. Тады не варта прыносіць.

М а р т а. Чаму?

К а з і м і р. Я адзін бутэлькі не вып'ю.

М а р т а. Ну і што?

К а з і м і р. І Федарэнка яе дап'е. Табе ж трэба, каб ён піў менавіта з гэтай бутэлькі.

М а р т а. Не разумею...

К а з і м і р. А ў цябе, што? Па ўсіх бутэльках атрута панасыпаная?

М а р т а. Не, толькі ў гэтай.

К а з і м і р. Для Федарэнкі.

М а р т а. Так. Ты ж здагадаўся, што не для цябе.

К а з і м і р. Адкуль у цябе атрута?

М а р т а. Сам Федарэнка прынёс.

К а з і м і р. Для Браніслава?

М а р т а. Як бачыш, для самога сябе.

К а з і м і р. Ну, не буду вам замінаць, пайду і я сам для сябе чаго пашукаю ў вінным склепе (*сыходзіць у дзверы на кухню*).

*ПРАЯВА ДРУГАЯ*

М а р т а К о т сервіруе столік, ставіць навідавоку бутэльку з атрутай. Уваходзіць К а ц а п.

К а ц а п. Ты адна?

М а р т а. Не.

К а ц а п. Хто яшчэ тут?
М а р т а. Малевіч...
К а ц а п. А хто яго сюды прынёс?
М а р т а. Сам прыйшоў...
К а ц а п. Нябожчыкі самі не ходзяць.
М а р т а. Казімір!

К а ц а п падыходзіць да М а р т ы, душыць.

М а р т а. Казімір!
К а ц а п. Сціхні...

К а ц а п нарэшце расціскае пальцы. М а р т а К о т падае на падлогу. Нерухомее. К а ц а п хавае труп за б у ф е т.

Сядае за столік. Адкаркоўвае бутэльку з атрутай, п’е, закусвае, ізноў п’е. Незадаволена круціць галавою.

*ПРАЯВА ТРЭЦЯЯ*

К а ц а п за столікам. З бутэлькаю шампанскага ў руцэ заходзіць М а л е в і ч.

К а ц а п. Пан Браніслаў, усё зроблена.
К а з і м і р. А дзе Марта?
К а ц а п. Як дамаўляліся, пан Браніслаў: напалохаў, яна і ўцякла.
К а з і м і р. А Федарэнка дзе?
К а ц а п. Пшэк яго прыбраў.
К а з і м і р. Шкада.
К а ц а п. Але я Пшэка ўжо пакараў, ён вашу кватэру рабаваў.
К а з і м і р. То не мая кватэра.
К а ц а п. Як не ваша? Мо, вып’еце, пан Браніслаў?
К а з і м і р. Не, я шампанскае. А цябе, Кацап, чаго на тую кватэру панесла?
К а ц а п. Я па грошы зайшоў. А Пшэк мяне апя-

рэдзіць хацеў. Малевіча я сам забіў, а Пшэк, паскуда, апярэдзіць мяне захацеў. Труп з майстэрні да вас на кватэру прыцягнуў.

К а з і м і р. Ды гэта не Пшэк зрабіў. Труп я перацягнуў.

К а ц а п. А нашто ён вам у кватэры?

К а з і м і р. А нашто ён мне ў майстэрні?

К а ц а п (*n'e*). Гадкае віно. А я думаў — Пшэк.

К а з і м і р. Бачыш, дарма ты на Пшэка падумаў.

К а ц а п. Не дарма. Ён жа Федарэнку на вашай кватэры задушыў і грошы ўкрасці хацеў.

К а з і м і р. І дзе грошы з той кватэры?

К а ц а п. У мяне. Вось тут, у саквояжы.

К а з і м і р. І колькі ты ўзяў?

К а ц а п. Усё, што знайшоў.

К а з і м і р. І не зашмат табе?

К а ц а п. Дык чатыры ж нябожчыкі.

К а з і м і р. Якія чатыры?

К а ц а п. Малевіч — раз, ён у вас на кватэры ляжыць, Федарэнка — два, ён таксама на кватэры, і Пшэк — тры, таксама на кватэры (*спыняе падлік, спахопліваецца*).

К а з і м і р. А чацвёртую Марту забіў.

К а ц а п. Хацеў я па добраму разысціся, але, відаць, давядзецца і цябе, пан Браніслаў, прыбраць.

К а з і м і р. А Браніслава ты ўжо прыбраў, у майстэрні.

К а ц а п. А ты хто?

К а з і м і р. Я — Малевіч.

К а ц а п. Дык ты што — мяне наняў, каб сябе самога забіць?

К а з і м і р. Не, каб уратавацца.

К а ц а п. Ад каго?

К а з і м і р. Ад Браніслава і Федарэнкі.

К а ц а п. А як жа Браніслаў у майстэрню трапіў?

К а з і м і р. Я запрасіў, а сам у двары чакаў.

К а ц а п. Не веру я табе, выкручваешся. У двары Пшэк стаяў.

К а з і м і р. Расказаць, як ён ката задавіў?

К а ц а п (*п'е*). Гадкае віно.

К а з і м і р. Дык атручанае ж.

К а ц а п. Што?!

К а з і м і р. Яго ж Марта для Федарэнкі падрыхтавала.

К а ц а п падхопліваецца, ловіць ротам паветра, валіцца на падлогу, выпручваецца. К а з і м і р спакойна бярэ саквяж, няспешна адчыняе. Задаволена ківае. Тэлефануе.

К а з і м і р (*у трубку*). Вакзал?.. Калі цягнік на Оршу?.. Забраніруйце першы клас з Оршы да Берліна на імя прафесара Малевіча... Добра, да Варшавы, браніруйце, я не спазнюся.

К а з і м і р М а л е в і ч сыходзіць з саквяжам.

*Апладысменты.*

*Менск, 1990*

## Самая першая кніга

Быццё і Эклезіяст — дзве кнігі, якія складаюць Біблію. Са словам «Біблія» ў нас звязана паняцце аб адной вялікай кнізе рэлігійнага зместу, але Біблія — гэта цэлы зборнік з 77 кніг. Сама назва «Біблія» — грэчаскага паходжання і ў перакладзе азначае «кнігі». І ўсё ж невыпадкова людзі гавораць пра Біблію як пра адну кнігу. Біблія пісалася на працягу чатырнаццаці стагоддзяў — з XIII стагоддзя да н. э. Аўтарамі яе былі больш як 40 чалавек — цары, сяляне, рыбакі, святары. І тым не менш кожнага ўдумлівага чытача Біблія здзіўляе сваім ідэйным адзінствам: усе яе кнігі сведчаць пра Бога, Творцу Сусвету, правасуднага і міласэрнага да людзей. Гэта таму, што Біблія — незвычайная кніга. Біблія — гэта збор кніг, напісаных выбранымі Богам людзьмі па натхненню Святога Духа, таму Біблію мы называем яшчэ Свяшчэнным Пісаннем.

Біблію складаюць кнігі Старога Запавету і кнігі Новага Запавету. Слова «запавет» у Бібліі мае значэнне «саюз», «дагавор». Першы саюз быў заключаны яшчэ ў раі паміж Богам і першымі людзьмі — Адамам і Евай,— а потым некалькі разоў аднаўляўся. Ён існаваў да прышэсця ў свет Богачалавека Ісуса Хрыста, Які даў Новы Запавет чалавецтву, адкрыў новую, хрысціянскую эру сусветнай гісторыі.

Кнігі Свяшчэннага Пісання, напісаныя да нараджэння Хрыста, называюцца кнігамі Старога Запавету (іх 50, напісаны яны прарокамі). Біблейскія кнігі, якія з’явіліся пасля нараджэння Хрыста, называюцца кнігамі Новага Запавету (гэтых кніг 27), напісалі іх паслядоўнікі Ісуса Хрыста.

Кнігі Старога Запавету напісаны на старажытнаяўрэйскай мове, а кнігі Новага Запавету — на старажытнагрэчаскай. Біблейскія кнігі першымі ў свеце перакладзены на іншую мову. Гэта адбылося ў III стагоддзі да н. э., калі асноўныя старазапаветныя кнігі былі перакладзены на грэчаскую мову сямюдзесяццю перакладчыкамі, ад чаго і сам пераклад атрымаў назву «Сентуагінта» (з грэчаскай — «семдзесят»). У 405 годзе н. э. блажэнны Іеранім пераклаў Біблію на лацінскую мову. Яго пераклад мае назву «Вульгата», што значыць «агульнадаступны», «народны». На стараславянскую мову Біблія была перакладзена ў другой палове IX стагоддзя святымі роўнаапостальнымі братамі Кірылам і Мяфодзіем.

У 988 годзе Старажытная Русь, у якую ўваходзілі і цяперашнія беларускія землі, на чале са святым князем Уладзімірам, прыняла Хрысціянства. А ў 992 годзе на Полацкую кафедру ўзышоў першы епіскап. Адсюль бярэ свой пачатак Праваслаўная Царква на Беларусі. Разам з пашырэннем Хрысціянства распаўсюджвалася на нашай зямлі і Свяшчэннае Пісанне ў кірыла-мяфодзіеўскім перакладзе. З жыцця прападобнай Ефрасінні Полацкай (XI ст.) мы ведаем, што яна перапісвала святыя кнігі, якія разыходзіліся па храмах, манастырах і дамах багатых людзей. Мова гэтых кніг — царкоўнаславянская — стала першай літаратурнай мовай нашых продкаў.

Бясспрэчна, што яшчэ на пачатку кнігадрукавання Біблія стала самай вядомай і аўтарытэтнай у свеце кнігай. Ужо тады цалкам або часткова яна была перакладзена на 33 мовы. Калі ж у 1450 годзе ў Германіі быў упершыню сканструяваны Гутэнбергам друкарскі станок, то першай кнігай, якая была надрукавана, стала Біблія (1452—1455 гг.).

На пачатку XVI стагоддзя друкаваныя біблейскія кнігі з’явіліся і на Беларусі. Беларускі асветнік і першадрукар Францыск Скарына быў, як вядома, доктарам медыцыны, але ён не стаў выдаваць твораў тых вучоных, філосафаў і медыкаў, якія вывучаў ва універсітэтах. Скарына прысвяціў свае веды і талент выданню Свяшчэн-

ных кніг, бо добра разумеў, што яны заключаюць у сабе нешта непараўнальна большае, чым мудрасць чалавечая... Ф. Скарына зрабіў свой пераклад Бібліі, наблізіўшы царкоўнаславянскі тэкст да жывой беларускай мовы. У 1517—1525 гадах ён выдаў біблейскія кнігі са сваімі прадмовамі і пасляслоўямі.

На працягу XVII—XIX стагоддзяў Свяшчэннае Пісанне пашыралася на Беларусі на царкоўнаславянскай, польскай і пазней рускай мовах, бо беларуская мова была ў 1696—1697 гадах у выніку экспансіі уніяцтва забаронена для афіцыйнага ўжытку і доўгі час не магла развівацца. У XX стагоддзі за мяжой з'явілася некалькі перакладаў біблейскіх кніг на новую беларускую мову. Апошнім часам новыя беларускія пераклады Свяшчэннага Пісання робяцца і на Бацькаўшчыне.

Паводле звестак стакгольмскага Інстытута перакладу Бібліі, у канцы 1989 года біблейскія кнігі былі перакладзены на 1928 моў, з іх поўны тэкст Свяшчэннага Пісання — на 314 моў, Новы Запавет — на 715 моў, асобныя кнігі Бібліі — на 899 моў. Для мільёнаў людзей свету Біблія была і застаецца крыніцай вечных ісцін, адкрытых Богам чалавецтву.

*Протаіерэй Сергій Гардун,*
*кандыдат багаслоўя*

# Біблія

## Стары Запавет. Быццё

### РАЗДЗЕЛ 1

Напачатку стварыў Бог неба і зямлю. Зямля ж была нябачнаю і пустэльнаю. Адно Дух Божы лунаў над вадою.

І стварыў Бог святло, аддзяліў святло ад цемры. І назваў Бог святло днём, а цемру ноччу.

І сказаў Бог: няхай будзе абсяг пасярод вады. І аддзяліў Бог ваду, што пад абсягам, ад той, што над абсягам. І сталася так. І назваў Бог абсяг небам.

Быў вечар, і была раніца: дзень другі.

І сказаў Бог: няхай збярэцца вада, што пад небам, у адно месца і з'явіцца глеба. І сталася так. І назваў Бог глебу зямлёю, а ваду морам. І ўбачыў, што гэта добра.

І сказаў Бог: няхай народзіць зямля траву, што дае насенне, і дрэвы ўрадлівыя, што даюць плады, кожнае па роду свайму. І сталася так.

Быў вечар, і была раніца: дзень трэці.

І стварыў Бог два свяцілы на небе: Сонца, каб радзіць удзень, і Месяц, каб радзіць уночы, і зоры.

Быў вечар, і была раніца: дзень чацвёрты.

І сказаў Бог: няхай утворыць вада гадаў, душу жывую, і птушкі паляцяць над зямлёю па небе. І стварыў Бог рыб вялікіх, гадаў і птушак па роду іх. І ўбачыў, што гэта добра, і благаславіў іх: пладзіцеся і памнажайцеся.

Быў вечар, і была раніца: дзень пяты.

І сказаў Бог: няхай утворыць зямля душу жывую па роду яе, быдла і звяроў зямных. І сталася так.

І сказаў Бог: створым чалавека па падабенству і вобразу Нашаму; і няхай уладарыць над рыбамі марскімі і над птушкамі, і над быдлам, і над усёю зямлёю, і над гадамі на зямлі.

І стварыў Бог чалавека: мужчыну і жанчыну па вобразу і падабенству Свайму. І благаславіў іх: пладзіцеся і памнажайцеся, поўніце зямлю, валодайце ёю, уладарце над рыбамі і птушкамі, над усімі жывёламі і гадамі. І сталася так. І ўбачыў Бог: усё, што зрабіў, — добра.

І быў вечар, і была раніца: дзень шосты.

## РАЗДЗЕЛ 2

Так паўсталі і неба, і зямля, і ўсё жывое.

І скончыў Бог да сёмага дня справы Свае, і адпачыў у дзень сёмы. І благаславіў дзень сёмы.

І пасадзіў Бог рай у Эдэме на ўсходзе, і пасяліў там чалавека. І ўзгадаваў там дрэвы, прыемныя з выгляду і плады, прыдатныя да ежы, і дрэва жыцця пасярод раю, і дрэва пазнання дабра і ліха.

І даў Бог запавет чалавеку: ад кожнага дрэва ў садзе ты будзеш есці, але ад дрэва пазнання дабра і ліха не еш, бо ў дзень, калі паспытаеш ад яго, памрэш.

І прывёў Бог да чалавека ўсіх жывёл і птушак, каб пабачыць, як ён назаве іх. І даў чалавек імёны ўсяму жывому. Але не знайшлося памагатага чалавеку, падобнага да яго. І калі заснуў чалавек, узяў Бог адну з рабрын ягоных і загаіў тое месца. І стварыў з рабрыны жонку яму. І сказаў чалавек: вось косць ад касцей маіх і цела ад цела майго. Яна будзе звацца жонкаю, бо ўзятая ад мужа. Таму пакіне чалавек бацькоў сваіх і прылепіцца да жонкі, і зробяцца яны адным целам.

І былі яны аголеныя, Адам і жонка ягоная, і не саромеліся.

---

[1] Ева — жыццё.

## РАЗДЗЕЛ 3

Змей быў хітрэйшы за ўсіх звяроў. І сказаў змей жанчыне: чаму не паспытаеш пладоў з кожнага дрэва ў раі? Адказала жанчына змею: нам нельга есці пладоў толькі з дрэва, што пасярод раю, бо казаў Бог, як паспытаеце, то памрэце. І сказаў змей жанчыне: не, не памрэце, але ведае Бог, што ў дзень, калі вы паспытаеце іх, адкрыюцца вочы вашыя, і вы будзеце, як багі, ведаць дабро і ліха.

І ўзяла жанчына плод таго дрэва, і ела, і дала мужу свайму, і ён еў. І адкрылася ім, што яны аголеныя, і зрабілі сабе вопратку — падперазаліся лісцем смоквы.

І пачулі яны голас Бога. І схаваліся Адам і жонка ягоная паміж райскімі дрэвамі. І паклікаў Бог Адама: дзе ты? Адказаў Адам: я спалохаўся і схаваўся, бо аголены. Хто сказаў, Адам, што ты аголены? Ці не паспытаў ты ад дрэва, з якога Я забараніў табе есці?

Адказаў Адам: жонка дала мне ад дрэва, і я еў. І сказаў Бог жанчыне: што ты гэта зрабіла? Адказала яна: змей спакусіў мяне.

І пракляў Бог змея і паклаў варожасць паміж насеннем змея і насеннем жанчыны. І жанчыне сказаў: памножу пакуты твае, у іх будзеш нараджаць дзяцей сваіх, і муж будзе гаспадаром над табой.

Адаму ж сказаў: за тое, што ты паслухаўся жонку і еў з дрэва, праклінаю зямлю з-за цябе, у працы цяжкай будзеш здабываць ежу сабе, пакуль не звернешся да зямлі, з якой ты паўстаў, бо ты прах і ў прах вернешся.

І даў Адам імя жонцы сваёй: Ева[1], бо яна стала маці ўсіх жывых. Зрабіў Бог Адаму і жонцы ягонай вопратку скураную і апрануў іх. І сказаў: вось Адам стаў, як адзін з Нас, ведае дабро і ліха. І каб ён не працягнуў руку сваю, і не паспытаў ад дрэва жыцця, і не стаў жыць вечна, выгнаў яго Бог з Эдэмскага саду, каб працаваў на зямлі.

І паставіў на ўваходзе каля Эдэмскага саду херувіма з вогненным мячом абаротным бараніць шлях да дрэва жыцця.

## РАЗДЗЕЛ 4

Адам зведаў Еву, жонку сваю, і яна нарадзіла Каіна. І яшчэ нарадзіла брата ягонага, Абеля. І быў Абель авечым пастухом. А Каін быў земляробам.

Праз нейкі час прынёс Каін плён працы сваёй на зямлі — дар Богу. І Абель таксама прынёс ад першародных са статкаў сваіх. І заўважыў Бог намаганні Абеля і падарунак ягоны, а Каіна не заўважыў. І смутак агарнуў Каіна.

І спытаў Бог у Каіна: чаму ты засмуціўся? І не адказаў Каін, а калі быў з братам сваім Абелем у полі, то паўстаў на Абеля і забіў брата свайго.

І спытаў Бог у Каіна: дзе брат твой, Абель? Адказаў Каін: не ведаю, хіба я пастух брату майму?

І сказаў Бог: што ты зрабіў? Голас крыві брата твайго лямантуе з зямлі да Мяне. І цяпер пракляты ты ад зямлі, што прыняла кроў брата твайго ад тваёй рукі. Ты будзеш выгнаннікам і валацугам на зямлі.

І сказаў Каін: вось буду я выгнаннікам і валацугам на зямлі, і кожны, хто сустрэне, заб'е мяне. Адказаў яму Бог: кожнаму, хто заб'е Каіна, адпомсціцца ўсямёра.

І пазначыў Каіна знакам, каб ніхто, сустрэўшыся з ім, не забіў яго.

І пайшоў Каін, і пасяліўся ў зямлі Нод на ўсход ад Эдэма.

Зведаў Каін жонку сваю, і яна нарадзіла Яноха, і пабудаваў горад, і назваў яго Янох.

## РАЗДЗЕЛ 5

Вось радавод Адамаў: Адам жыў сто трыццаць гадоў і нарадзіў сына Сіфа. Усіх жа дзён Адамавых было дзевяцьсот трыццаць гадоў, і ён памёр.

Сіф жыў сто пяць гадоў і нарадзіў Яноса.

Янос жыў дзевяноста гадоў і нарадзіў Каінана.

Каінан жыў семдзесят гадоў і нарадзіў Магаляэля.

Магаляэль нарадзіў Ярэда. Ярэд нарадзіў Яноха. Янох — Мафусала. Мафусал — Ламеха.

Ламех нарадзіў сына і даў яму імя: Ной. І сказаў: ён суцешыць нас у працы нашай на зямлі, якую пракляў Бог.

Ной нарадзіў Сіма, Хама і Яфета.

## РАЗДЗЕЛ 6

Калі людзі пачалі памнажацца на зямлі, нарадзіліся ў іх жанчыны. Тады сыны Божыя ўбачылі жанчын, што яны прыгожыя, і бралі іх сабе за жонак.

Тады былі на зямлі волаты, асабліва з тых часоў, калі пачалі ўваходзіць да жанчын сыны Божыя, і яны нараджалі ім.

І пабачыў Бог, што вялікі блуд сярод людзей на зямлі і што ўсе думкі іх і памкненні сэрцаў ліхія. І пачаў каяцца Бог, што стварыў чалавека, і адчуў смутак у сэрцы сваім. І сказаў: вынішчу з зямлі чалавека, якога я стварыў. Вынішчу ад людзей да гадаў, і быдла, і птушак, бо раскаяўся, што стварыў іх.

Ной жа быў чысты перад абліччам Бога. І сказаў Ною: канец усяму жывому прыйшоў, бо зямля поўніцца ліхадзействамі. Зрабі сабе каўчэг з дрэва гофер, асмалі звонку і ўсярэдзіне. Я навяду на зямлю патоп, каб вынішчыць усё жывое.

А з табою будзе запавет Мой: і ты, і сыны твае, і жонка твая, і жонкі сыноў тваіх сядзеце ў каўчэг.

Вазьмі з сабою ў каўчэг таксама ўсіх жывёл, кожнае па пары, мужчынскага полу і жаночага, і птушак, і гадаў. І ежы збяры для сябе і для іх.

Зрабіў Ной усё, як загадаў яму Бог.

## РАЗДЗЕЛ 7

Праз сем дзён патоп прыйшоў на зямлю. Расчыніліся адтуліны нябёсныя, і ліўся на зямлю дождж сорак дзён і сорак начэй.

Ішла паводка сорак дзён. Прыбывала вада і падняла каўчэг і ўзвысіла яго над зямлёю. Закрыла вада горы, якія толькі ёсць пад усім небам. Усё, што мела дыханне жыц-

ця на зямлі, сканала, ад чалавека да быдла, і гады, і птушкі.

Усё вынішчылася на зямлі, застаўся толькі Ной і хто быў з ім у каўчэгу.

## РАЗДЗЕЛ 8

І згадаў Бог аб Ноі і аб усіх звярах, быдле, што былі з ім у каўчэгу. І навёў Бог вецер на зямлю, і вада спынілася. І зачыніліся крыніцы бяздоння, і адтуліны нябёсныя, і перасціх дождж.

Вада ж паступова сыходзіла з зямлі, і спыніўся каўчэг на сёмы месяц, у семнаццаты дзень у гарах Арарацкіх.

Адчыніў Ной акно і выпусціў討 Ной акно і выпусціў討

Потым Ной выпусціў голуба, але той не знайшоў месца для лапак сваіх, бо вада яшчэ была на паверхні зямлі. Ной працягнуў руку і ўзяў голуба да сябе ў каўчэг.

Праз сем дзён Ной зноў выпусціў голуба. І той вярнуўся ўвечары з маслінавай галінкай у дзюбе. Ной зразумеў, што вада сышла з зямлі.

Яшчэ сем дзён счакаў Ной і выпусціў голуба. Той не вярнуўся. Адчыніў Ной каўчэг і паглядзеў — абсохла паверхня зямлі.

І сказаў Бог Ною: выйдзі з каўчэга і выведзі ўсіх, хто быў з табою. Няхай пладзяцца і памнажаюцца. І зрабіў Ной ахвярнік Богу.

І сказаў Бог у сэрцы сваім: не буду больш праклінаць зямлю з-за чалавека, таму што ліха ад маладосці ягонае.

## РАЗДЗЕЛ 9

Благаславіў Бог Ноя і сыноў ягоных і сказаў ім: усё, што жыве і рухаецца, усе звяры зямныя і птахі нябёсныя, і рыбы марскія, аддаю ў вашыя рукі, будуць вам ежай, як зеляніна і трава, усё аддаю вам.

Толькі цела з душою, крыві не ешце. Я спытаю і за вашую кроў, у якой жыццё вашае.

Хто пралье кроў чалавечую, кроў таго пральецца

рукою чалавека, бо чалавек створаны па вобразе Божым.

Я пракладу вясёлку маю ў аблоках, каб яна была знакам запавету паміж мною і зямлёю. Я ўбачу яе і згадаю запавет мой, і не будзе болей вада патопам на вынішчэнне ўсяго жывога.

Ад трох Ноевых сыноў і насялілася ўся зямля. Ной пачаў працаваць на зямлі і пасадзіў вінаграднік. Ён выпіў віна і захмялеў і ляжаў аголены ў намёце сваім.

Убачыў Хам, бацька Ханаанаў, аголеным бацьку свайго і расказаў братам.

Сім і Яфет узялі вопратку і зайшлі ў намёт так, каб не бачыць бацькі свайго. І накрылі яго, і не пабачылі бацьку свайго аголеным.

Калі Ной прачнуўся і даведаўся, што зрабіў меншы сын ягоны, то сказаў: праклінаю Ханаана: рабом з рабоў будзе ён у братоў сваіх.

І жыў Ной пасля патопу трыста пяцьдзесят гадоў і памёр.

## РАЗДЗЕЛ 10

Вось радавод сыноў Ноевых: Сіма, Хама і Яфета. Пасля патопу нарадзіліся ў іх дзеці.

Сыны Яфетавы: Гамэр, Магог, Мадай, Ябан, Фубал, Мешэх і Фірас. Ад іх насяліліся выспы, кожная па мове сваёй, па народзе сваім.

Сыны Хамавы: Хуш, Міцраім, Фут і Ханаан.

Хуш нарадзіў Німрода, і той зрабіўся моцным на зямлі. Царства ягонае напачатку складалі: Бабілон, Эрах, Акад і Халнэ.

Ад Ханаана нарадзіўся Сідон, і былі межы Хананеяў ад Сідона на Герар да Газы, адсюль да Садома, Гаморы, Адмы і Цаваіма.

Былі дзеці і ў Сіма, бацькі ўсіх сыноў Яберавых. Селішчы іхнія былі ад Мешы да Сефара, гары ўсходняй.

Так плямёны сыноў Ноевых засялілі зямлю пасля патопу.

## РАЗДЗЕЛ 11

На ўсёй зямлі была адна мова і адна гаворка. Прыйшлі яны з Усходу і спыніліся ў зямлі Сенар.

І сказалі адзін аднаму: наробім цэглы і абпалім. І была ў іх цэгла замест камянёў, а земляная смала замест вапны.

І сказалі яны: пабудуем сабе горад і вежу да неба, і зробім сабе імя, каб не расцерушыцца па ўсёй зямлі.

І прыйшоў Бог паглядзець на горад і на вежу, якую будавалі сыны чалавечыя. І сказаў Бог: вось адзіны народ і адзіная ва ўсіх мова, і вось, што пачалі яны рабіць і не пакінуць таго, што надумалі.

Прыйдзем жа і змяшаем мову іхнюю так, каб адзін не разумеў, што гаворыць другі. І расцерушыў іх Бог па ўсёй зямлі, і яны пакінулі будаваць горад. Таму дадзена яму імя: Бабілон, бо там змяшаў Бог мовы ўсяе зямлі.

Вось радавод Сімаў: Сім меў сто гадоў і нарадзіў Арпаксада, Арпаксад нарадзіў Шалу, Шала — Эбера, Эбер — Фалека, Фалек — Рагава, Рагаў — Серуха, Серух — Нахора, Нахор — Фару, Фара нарадзіў Абрама, Нахора і Арана. Аран нарадзіў Лота.

Абрам і Нахор узялі сабе жонак: імя Абрамавай жонкі — Сара, Нахоравай — Мілка.

Сара была няплодная і не мела дзяцей. І ўзяў Фара Абрама, Лота і Сару, і пайшоў з імі з Уру Халдзейскага, каб ісці ў зямлю Ханаанскую, і не дайшоў, і памёр Фара ў Харане.

## РАЗДЗЕЛ 12

І сказаў Бог Абраму: ідзі з зямлі тваёй, ад роду твайго, з дому бацькі твайго ў зямлю, што прызначыў табе. І Я выведу ад цябе вялікі народ, і благаслаўлю цябе, а тых, хто скажа супраць цябе, пракляну. І ўзвышу імя тваё.

І пайшоў Абрам, як сказаў яму Бог. І ўзяў з сабою Сару, жонку сваю, Лота, сына брата свайго, і ўсю маёмасць сваю, і ўсіх людзей, якіх меў у Харане. Калі наблізіўся ён да Ягіпта, то сказаў Сары, жонцы сваёй: вось ведаю я,

што ты жанчына прыгожая з твару, і калі Ягіпцяне пабачаць цябе, то скажуць: гэта жонка ягоная, і заб'юць мяне, а табе пакінуць жыццё. Скажы, калі ласка, што ты сястра мне, каб мне добра было дзеля цябе.

І калі прыйшоў Абрам у Ягіпет, то пабачылі яе Ягіпцяне і пахвалілі яе, і ўзялі Сару ў дом да фараона.

І Абраму было добра дзеля яе. І было ў яго шмат рознага быдла і рабоў, і рабынь, і вярблюдаў.

Але Бог цяжка пакараў фараона і дом ягоны за Сару, жонку Абрамаву. І паклікаў фараон Абрама і сказаў: чаму не казаў мне, што яна жонка твая, чаму сказаў: яна сястра мая? І я ўзяў яе за жонку сабе. Вось, бяры яе і ідзі.

І загадаў фараон сваім людзям, каб выправілі яго і жонку ягоную, і ўсё, што ён меў.

## РАЗДЗЕЛ 13

І пайшоў Абрам на поўдзень. Быў Абрам надта багаты і на быдла, і на срэбра, і на золата.

І ў Лота, што ішоў з Абрамам, таксама было быдла і намёты. І не змяшчаліся яны на адной зямлі, каб быць разам, бо вялікая маёмасць была пры іх.

І сказаў Абрам Лоту: няхай не будзе спрэчак паміж намі, бо мы сваякі. Ці не ўся зямля перад табою? Калі ты пойдзеш налева, я пайду направа, калі ты направа, то я налева.

І абраў сабе Лот усё наваколле Ярданскае. Абрам жа застаўся жыць у зямлі Ханаанскай.

І сказаў Бог Абраму: паглядзі на ўсход і на захад, на поўдзень і на поўнач. Бо ўсю зямлю, што пабачыш, дам табе і нашчадкам тваім навечна. І нашчадкаў тваіх будзе, як пяску зямнога. Калі хто зможа аблічыць пясок зямны, то і нашчадкі твае будуць палічаны.

І паставіў Абрам ахвярнік Богу.

## РАЗДЗЕЛ 14

Было гэта ў часы цара Сенаарскага, цара Еласарскага, цара Яламскага, цара Гаімскага. Пайшлі яны вайною

супраць цара Садомскага, цара Гаморскага, цара Адмы, цара Сабаімскага і цара Бэлы. І сышліся ў бітве на полі Сідзім.

І было на полі Сідзім шмат смаляных ямаў. І пабеглі цары Садомскі і Гаморскі, і ўваліліся ў ямы, астатнія ўцяклі ў горы.

Пераможцы ўзялі ўсю маёмасць Садома і Гаморы і пайшлі, узялі Лота, пляменніка Абрамавага, і маёмасць ягоную.

Абрам даведаўся, што родзіч ягоны ўзяты ў палон, і ўзброіў рабоў сваіх, і пагнаўся за ворагамі, і напаў на іх уначы, і вярнуў усю маёмасць і Лота, родзіча свайго, і жанчын, і народ.

І калі вяртаўся Абрам пасля перамогі, выйшаў да яго цар Садомскі і сказаў: вярні мне людзей, а маёмасць пакінь сабе.

Ды сказаў Абрам цару Садомскаму: уздымаю руку маю да Бога, што нават абораў і раменьчыкаў з абутку не пакіну сабе, каб не сказаў ты: «Я ўзбагаціў Абрама».

## РАЗДЗЕЛ 15

Пасля тых падзей было слова Божае да Абрама: не бойся, Абраме, Я твой шчыт, узнагарода твая надта вялікая. Абрам сказаў: вось Ты не даў мне нашчадкаў.

Было слова Божае: паглядзі на неба і палічы зоры, калі зможаш аблічыць іх. Столькі нашчадкаў мець будзеш. Абрам паверыў Богу.

І сказаў Бог: ведай, што нашчадкі твае будуць прышлымі ў чужой зямлі, і прыгнятацьмуць іх чатырыста гадоў. Але Я здзейсню суд над народам, у якога будуць яны пад прыгнётам. І пасля таго выйдуць яны з вялікай маёмасцю. У гэты дзень склаў Бог запавет з Абрамам: нашчадкам тваім Я зямлю аддаю ад ракі Ягіпецкай да вялікай ракі, ракі Яфрат.

---

[1] Крыніца жывога, таго, хто бачыць мяне.

[2] Бог Усемагутны.

## РАЗДЗЕЛ 16

Але Сара, жонка Абрамава, не нараджала яму. І прыслужвала ёй Ягіпцянка Агар. І сказала Сара Абраму: ідзі да служкі маёй, можа, я буду мецць дзяцей праз яе. І паслухаўся Абрам Сару.

І пайшоў Абрам да Агары. І зацяжарала яна. І стала пагарджаць Сараю, гаспадыняю сваёю.

І сказала Сара Абраму: я дала служку маю табе, а яна, калі зацяжарала, пачала пагарджаць мною.

Абрам сказаў Сары: вось служка твая ў тваіх руках, рабі з ёю, што захочаш. І Сара пачала прыгнятаць яе. І яна ўцякла.

І знайшоў яе Анёл Божы каля крыніцы па дарозе да Суру. І сказаў ёй: безліч памножу нашчадкаў тваіх. І народзіш ты сына, і дасі яму імя Ізмаіл, бо пачуў Бог пакуты твае.

І крыніца тая мае назву Бэр-лахай-роі[1], яна знаходзіцца паміж Кадасам і Барэдам. Агар нарадзіла Абраму сына, і даў Абрам сыну свайму імя: Ізмаіл.

## РАЗДЗЕЛ 17

І з'явіўся Бог Абраму, і сказаў: Я — Эльшадай[2], вось запавет Мой. Не будзеш ты больш звацца Абрамам, але будзе табе імя Абрагам, бо зраблю цябе бацькам мноства народаў. І цары пойдуць ад цябе.

Ты ж выканай запавет мой: абразайце ўсіх, народжаных у доме тваім і купленых за срэбра тваё. І будзе запавет мой на целе вашым запаветам вечным. Калі неабрэзаны мужчынскага полу — вынішчыцца душа ягоная з народа свайго, бо ён парушыць запавет мой.

І сказаў Бог Абрагаму: Сару, жонку тваю, не называй Сараю, ды будзе імя ёй Сарра. Я благаслаўлю яе і дам табе ад яе сына.

І ўзяў Абрагам Ізмаіла, сына свайго, і ўсіх, народжаных у доме сваім, і ўсіх, купленых за срэбра сваё, увесь мужчынскі пол людзей дома Абрагамавага. І абрэзаў крайнюю плоць іх у той самы дзень, як сказаў яму Бог.

## РАЗДЗЕЛ 18

І з'явіўся яму Бог каля дубровы Мамрэ. Глянуў Абрагам — і вось тры мужы стаяць насупраць яго. І сказалі яму: дзе Сарра, жонка твая? Ён адказаў: тут, у намёце.

І сказаў адзін з іх: я зноў буду ў цябе ў гэты ж час, і будзе сын у Сарры. А Сарра слухала каля ўвахода ў намёт.

Абрагам і Сарра былі старыя, і звычайнае жаноцкае ў Сарры скончылася. І Сарра засмяялася. І сказаў Бог Абрагаму: чаму гэта Сарра смяялася? Ці ёсць што цяжкае для Бога? У прызначаны тэрмін будзе ў Сарры сын. Сарра ж не прызнавалася, а сказала: я не смяялася. Бо яна спалохалася. Але Ён сказаў: не, ты смяялася.

І ўсталі тыя мужы, і пайшлі адтуль да Садома. Абрагам жа пайшоў правесці іх.

І сказаў Бог: лямант Садомскі і Гаморскі вялікі, і грэх іхні цяжкі вельмі. Пайду і пагляджу, ці так робяць яны як лямант ад іх узыходзіць да Мяне.

І пайшоў Абрагам і сказаў: няўжо Ты знішчыш праведніка разам з грэшным? Сказаў Бог: калі Я знайду ў горадзе Садоме пяцьдзесят праведнікаў, то дзеля іх злітуюся. Абрагам сказаў у адказ: вось я, прах і попел, наважыўся казаць да Цябе, Уладар, можа стацца: да пяцідзесяці праведнікаў не хопіць пяці. Ты вынішчыш увесь горад?

Ён сказаў: не вынішчу, калі знайду там сорак пяць. Абрагам працягваў гаварыць з Ім і сказаў: можа стацца знойдзецца там сорак.

Ён сказаў: не зраблю таго і дзеля сарака. І сказаў Абрагам: ды не ўгнявайся, Уладар, можа стацца знойдзецца там трыццаць.

Ён сказаў: не зраблю, калі знойдзецца там трыццаць. Абрагам сказаў: можа стацца, знойдзецца там дваццаць?

Ён сказаў: не вынішчу дзеля дваццаці. Абрагам сказаў: ды не ўгнявайся, Уладар, можа стацца, знойдзецца там дзесяць. Ён сказаў: не вынішчу дзеля дзесяці. І пайшоў Бог. І перапыніў размову з Абрагамам.

## РАЗДЗЕЛ 19

Прыйшлі ўвечары два Анёлы ў Садом, калі Лот сядзеў каля брамы Садомскай. Лот устаў і схіліў твар да зямлі, і сказаў: наведайце дом раба вашага і адпачніце, і ўстанеце раніцай, і пойдзеце ў шлях ваш. Але яны сказалі: не, мы ноччу будзем на вуліцы.

І ён угаворваў іх, і яны зайшлі ў дом ягоны. І не паспелі легчы спаць, як Садамляне, ад малога да старога, усе, з усіх канцоў, увесь народ, акружылі дом. І выклікалі Лота, і казалі яму: дзе людзі, што прыйшлі да цябе на ноч? Выведзі іх да нас, мы зведаем іх.

Лот выйшаў да іх і сказаў: браты мае, не рабіце ліха. Вось у мяне дзве дачкі, што не зведалі мужа, лепш я выведу іх да вас, рабіце з імі, што пажадаеце. Толькі людзям тым не рабіце нічога, бо яны прыйшлі ў дом мой.

Але яны сказалі: вось чужынец і хоча судзіць? Цяпер мы горш абыдземся з табою, чым з імі. І падышлі, каб высадзіць дзверы.

Тады мужы тыя ўзнялі рукі свае і ўзялі Лота ў дом. А людзей, што былі пры ўваходзе пазбавілі зроку, ад меншага да большага, і яны доўга шукалі выхад.

Сказалі мужы тыя Лоту: хто ў цябе ёсць яшчэ тут, усіх выведзі з месца гэтага, бо мы вынішчым яго. І выйшаў Лот. Але зяцям ягоным падалося, што ён жартуе.

Калі развіднела, Анёлы пачалі прыспешваць Лота: бяры жонку тваю і дзвюх дачок тваіх, каб не загінуць табе за грахі горада.

І ўзялі за руку яго і жонку ягоную, і дачок, і вывелі, і паставілі па-за горадам. І адзін з іх сказаў: ратуй душу сваю, не азірайся і нідзе не спыняйся, ратуйся на гары, каб не загінуць.

І праліў Бог на Садом і Гамору серу дажджом, і полымя з неба. І зрынуў горад і ўсіх жыхароў. Жонка Лотава азірнулася і ператварылася ў саляны слуп.

І жыў Лот у пячоры, і з ім дзве дачкі ягоныя. І сказала старэйшая малодшай: бацька наш стары, і няма

чалавека на зямлі, які ўвайшоў бы да нас па звычаі ўсёй зямлі. Дык напоім бацьку нашага віном і пераспім з ім. І адновім ад бацькі нашага племя.

І напаілі бацьку свайго віном у тую ноч. І пайшла старэйшая, і спала з бацькам сваім, а ён і не ведаў, калі яна легла і калі ўстала.

І напаілі бацьку свайго віном у наступную ноч. І пайшла малодшая, і спала з ім.

І зрабіліся абедзве дачкі Лотавы цяжарнымі ад бацькі свайго. І нарадзіла старэйшая сына, і дала яму імя: Мааў. Ён бацька Маавіцянаў дагэтуль. І малодшая таксама нарадзіла сына, і дала яму імя: Бэн-Амі. Ён бацька Аманіцянаў дагэтуль.

## РАЗДЗЕЛ 20

Абрагам падаўся на поўдзень і пасяліўся паміж Кадасам і Сурам. І сказаў там Абрагам пра Сарру: яна сястра мая. І паслаў Абімялех, цар Герарскі, і ўзяў Сарру.

І прыйшоў Бог да Абімялеха ноччу ў сне, і сказаў: вось ты памрэш з-за жанчыны, якую ты ўзяў, бо яна мае мужа. Абімялех жа не дакранаўся да яе і сказаў: Уладар! Няўжо Ты пакараеш і бязвінны народ? Ці не сам ён сказаў мне: «Яна сястра мая».

І сказаў яму Бог у сне: Я ведаю і перасцярог цябе ад граху. Цяпер жа аддай жонку мужу, бо ён прарок, і застанешся жывым. А калі не вернеш, то ведай, што абавязкова загінеш і ўсе людзі твае.

І ўстаў Абімялех, і паклікаў Абрагама, і сказаў яму: што ты з намі зрабіў? Ты зрабіў са мною так, як не робяць. І сказаў Абімялех Абрагаму: што ты меў на ўвазе, калі рабіў гэта? Абрагам сказаў: я падумаў, што няма ў зямлі гэтай страху Божага і заб’юць мяне за жонку маю. Ды яна і ёсць сястра мая, яна дачка бацькі майго, толькі не дачка маці маёй.

І ўзяў Абімялех быдла рознага і рабоў, і рабынь, і аддаў Абрагаму, і вярнуў яму Сарру. І сказаў Абімялех: вось зямля мая перад табою, жыві, дзе пажадаеш.

## РАЗДЗЕЛ 21

І заўважыў Бог Сарру, і зрабіў, як казаў. Сарра нарадзіла Абрагаму сына. І даў Абрагам імя сыну свайму — Ісак. І абрэзаў Абрагам Ісака.

Абрагам меў сто гадоў, калі нарадзіўся ў яго Ісак. І сказала Сарра: смех зрабіў мне Бог, хто ні пачуе пра мяне, засмяецца.

І заўважыла Сарра, што сын Агары, Ягіпцянкі, усміхаецца, і сказала Абрагаму: прагані гэтую рабыню і сына яе. І падалося гэта Абрагаму нягодным.

Але Бог сказаў Абрагаму: ва ўсім, што скажа табе Сарра, слухайся голасу яе. Абрагам устаў раніцаю, узяў хлеба і мех вады і даў Агары, і адпусціў яе і Ізмаіла.

Яна пайшла і заблукала ў пустэльні. І скончылася вада ў мяху. І яна пакінула сына пад кустом, і сказала: не жадаю бачыць смерці сына майго.

І пачуў Бог голас хлопчыка, і сказаў: устань, падымі яго, бо я выведу ад яго вялікі народ. І Бог прачыніў вочы яе, і яна ўбачыла студню з вадою.

І Бог быў з хлопчыкам, і ён вырас, і стаў жыць у пустэльні Фаран.

І быў ён стралец з лука. І маці ўзяла яму жонку Ягіпцянку.

## РАЗДЗЕЛ 22

І пасля гэтага Бог спакушаў Абрагама. І сказаў яму: Абрагаме! Ён сказаў: вось я. Бог сказаў: бяры сына свайго, адзінага свайго, якога ты любіш, Ісака. І прынясі яго ў ахвяру на гары, пра якую я скажу табе.

Абрагам устаў раніцаю, зацугляў асла свайго і ўзяў з сабою сына свайго, Ісака. Насек дроў для ахвярніка і пайшоў на месца, пра якое сказаў яму Бог.

На трэці дзень убачыў Абрагам тое месца зда-

---

[1] Бог угледзіць.

лёк. І паклаў Абрагам дровы на Ісака, узяў у рукі агонь і нож. І пайшлі яны разам.

І пачаў Ісак казаць Абрагаму: бацька мой. Ён адказаў: вось я, сын мой. Ён сказаў: вось агонь і дровы, дзе ж ягня для ахвярніка? Абрагам сказаў: Бог угледзіць сабе ягня.

І пайшлі яны на месца, аб якім сказаў Бог. І зрабіў там Абрагам ахвярнік. Расклаў дровы. І сына свайго Ісака звязаў і паклаў на ахвярнік.

І ўзняў Абрагам руку сваю, і ўзняў нож, каб закалоць сына свайго.

Але Анёл Божы паклікаў яго: Абрагаме! Абрагаме! Не ўзнімай рукі на сына і не рабі ім нічога, бо цяпер Я ведаю, што баішся ты Бога і не пашкадаваў сына свайго адзінага для Мяне.

І ўбачыў Абрагам барана, што захрас рагамі ў гушчары. І пайшоў Абрагам, і прынёс у ахвяру яго замест сына свайго.

І даў імя месцу таму: Ягова-ірэ[1].

## РАЗДЗЕЛ 23

Саррынага жыцця было сто дваццаць сем гадоў. І памерла Сарра ў Кірыяф-Абрэ, што цяпер Хэўрон, у зямлі Ханаанскай. Абрагам пахаваў Сарру, жонку сваю, у пячоры на полі Махпэла, што насупраць Мамрэ ў зямлі Ханаанскай.

## РАЗДЗЕЛ 24

Абрагам быў ужо стары. І сказаў Абрагам рабу свайму: кляніся мне Богам неба і Богам зямлі, што не возьмеш сыну майму жонкі з Хананеяў, сярод якіх я жыву. Але пойдзеш у зямлю маю, на радзіму маю і возьмеш жонку сыну майму Ісаку.

Раб сказаў яму: можа здарыцца, не захоча жанчына ісці са мною ў гэтую зямлю? Ці павінен я вярнуць сына твайго ў зямлю, з якой ты выйшаў? Абрагам сказаў яму: сцеражыся, не вяртай сына майго туды.

I ўзяў раб дзесяць вярблюдаў, і пайшоў, і ў руках ягоных былі скарбы розныя гаспадара свайго.

Ён устаў і пайшоў у Месапатамію, у Нахор. I спыніў вярблюдаў каля студні, перад горадам.

I сказаў: Божа, гаспадар майго Абрагама, вось я стаю каля крыніцы. I дзяўчына, што прыйдзе па ваду сюды, і якой я скажу: «Нахілі збан свой, я нап'юся», — і якая скажа: «Пі, я і вярблюдам тваім дам вады», вось тая, якую Ты прызначыў рабу Твайму Ісаку.

I вось выйшла Рэбека, што нарадзілася ад Бафуіла, сына Мілкі, жонкі Нахора, брата Абрагамавага. I збан мела на плячы. Дзяўчына была прыгожая з твару. Яна сышла да крыніцы, напоўніла збан свой. I пайшла ўгору.

I пабег раб насустрач ёй. I сказаў: дай мне крыху вады са збана твайго. Яна сказала: пі, я прынясу і вярблюдам тваім.

Чалавек той глядзеў на яе са здзіўленнем і маўчаў, бо жадаў зразумець: ці благаславіў Бог шлях ягоны, ці не.

Калі вярблюды напіліся, тады чалавек той узяў залатую завушніцу вагой у палову сікля і залатыя бранзалеты вагой у дзесяць сікляў. I сказаў: чыя ты дачка? Ці ёсць у доме бацькі твайго месца нам спыніцца на ноч? Яна сказала яму: я дачка Бафуіла, у нас шмат саломы, і ёсць месца для вас.

Дзяўчына пабегла і расказала пра гэта ў доме маці сваёй.

У Рэбекі быў брат Лабан. Лабан выбег да таго чалавека: я падрыхтаваў дом і месца для вярблюдаў.

I прапанавана была яму ежа, і ён сказаў: я раб Абрагама, Бог благаславіў гаспадара майго, і ён зрабіўся вялікім. Ён даў яму авечак і валоў, срэбра і золата. I ўзяў з мяне клятву гаспадар мой, і сказаў: не бяры жонкі сыну майму з зямлі, дзе я жыву, ідзі ў дом бацькі майго, да родзічаў маіх, і возьмеш жонку сыну майму.

Ён сказаў мне: Бог, пад якім я хаджу, пашле з табою Анёла свайго, і будзе благаславёны шлях

твой.

І адказвалі Лабан і Бафуіл: ад Бога прыйшла гэтая справа. Мы не можам сказаць табе супраць ні добрага, ні благога. Вось Рэбека перад табою, бяры і ідзі. Няхай стане яна жонкаю сына гаспадара твайго, як сказаў Бог.

Калі пачуў раб Абрагамавы словы іхнія, то выняў срэбныя і залатыя рэчы, і вопратку, і даў Рэбецы. І елі, і пілі і ён, і людзі, што былі з ім.

Але брат яе і маці яе сказалі: няхай пабудзе з намі дзяўчына хаця б дзесяць дзён, потым пойдзеш.

Ён сказаў: не трымайце мяне. Яны сказалі: спытаем, што яна скажа? І паклікалі Рэбеку, і сказалі ёй: ці пойдзеш з гэтым чалавекам? Яна сказала: пайду.

І адпусцілі Рэбеку, і сказалі ёй: сястра нашая, ды народзяцца ад цябе тысячы тысяч, ды будуць валодаць нашчадкі твае дамамі ворагаў тваіх. І раб узяў Рэбеку і пайшоў.

А Ісак прыйшоў на Бэр-лахай-роі і ўбачыў: вось ідуць вярблюды. Рэбека глянула і ўбачыла Ісака. І сказала рабу: хто гэты чалавек, што ідзе насустрач нам? Раб сказаў: гэта гаспадар мой. Яна ўзяла радзюжку і накрылася ёю.

І павёў яе Ісак у Саррын намёт, і ўзяў Рэбеку, і яна зрабілася яму жонкаю, і ён пакахаў яе, і суцешыўся Ісак у жалобе па маці сваёй.

## РАЗДЗЕЛ 25

Дзён Абрагамавага жыцця было сто семдзесят пяць гадоў, і памёр Абрагам. І пахавалі яго Ісак і Ізмаіл у пячоры насупраць Мамрэ. Пасля смерці Абрагамавай Бог благаславіў Ісака.

Ісаку было сорак гадоў, калі ён узяў сабе за жонку Рэбеку, дачку Бафуіла, Арамяніна. І зацяжарала Рэбека, жонка ягоная, і сыны пачалі біцца ў жываце яе. І яна сказала: калі гэта так, то нашто мне гэта?

І пайшла прасіць Бога. Бог сказаў ёй: два народы

пойдуць ад цябе, адзін народ зробіцца мацнейшым за другі, і большы будзе служыць меншаму.

I настаў час нарадзіць ёй, і вось блізняты ў жываце яе. Першым выйшаў чырвоны, увесь у поўсці. I далі яму імя: Ісаў. Потым выйшаў брат ягоны, і трымаў рукою пятку Ісававу. I далі яму імя: Якуб.

Дзеці выраслі, і зрабіўся Ісаў майстравітым у паляванні, чалавекам палёў. А Якуб — чалавекам лагодным, што жыве ў намётах. Ісак любіў Ісава, бо дзічына была ў смак яму. А Рэбека любіла Якуба.

I зварыў Якуб ежу, а Ісаў прыйшоў стомлены. I сказаў Ісаў Якубу: дай мне паесці чырвонага, чырвонага гэтага, бо я стаміўся.

Але Якуб сказаў: прадай мне зараз першародства сваё. Ісаў сказаў: вось я на смяротнай дарозе, што мне ў першародстве маім? Якуб сказаў: пакляніся мне зараз.

Ён пакляўся яму і прадаў першародства сваё Якубу. I даў Якуб Ісаву хлеба і сачыўкавую поліўку.

I ён еў, і піў, і ўстаў, і пайшоў, і пагрэбаваў першародствам сваім.

## РАЗДЗЕЛ 26

Быў голад. I пайшоў Ісак да цара Абімялеха ў Герар. I стаў жыць Ісак у Герары.

Жыхары таго месца спыталіся ў яго пра жонку. Ён сказаў: «Гэта сястра мая». Бо збаяўся і падумаў: «Каб не забілі мяне людзі месца таго за Рэбеку». Таму што была яна прывабнаю.

Аднаго разу Абімялех паглядзеў у акно і ўбачыў, як Ісак забаўляўся з Рэбекаю, жонкаю сваёю. Паклікаў яго і сказаў: вось жонка твая, як жа ты казаў: «Яна сястра мая?» Ісак сказаў яму: я думаў, каб не памерці б мне дзеля яе.

Але Абімялех сказаў: што гэта ты зрабіў з намі? Адзін з народу майго ледзь не спазнаў жонку тваю. I ты давёў бы нас да граху. I загадаў Абімялех усяму

народу: хто дакранецца да гэтага чалавека і да жонкі ягонае, таго спасцігне смерць.

І зрабіўся Ісак вялікім чалавекам, і ўзвялічваўся ўсё болей і болей, і зрабіўся вельмі вялікім. У яго былі статкі рознага быдла і безліч палеткаў. І пачалі зайздросціць яму. І ўсе студні, што выкапалі рабы бацькі ягонага, Абрагама, Філісцімляне завалілі і засыпалі зямлёю.

І Абімялех сказаў Ісаку: ідзі прэч ад нас, бо ты зрабіўся значна мацнейшы за нас.

І Ісак пайшоў адтуль. І пасяліўся ў лозе Герарскім. Зноў выкапаў Ісак студні. І капалі рабы Ісакавы, і знайшлі крыніцу жывой вады. І спрачаліся пастухі Ісакавы з пастухамі Герарскімі, і казалі: нашая вада.

І ён пайшоў адтуль, і выкапаў другую студню, і даў ёй імя: Шыва.

І было Ісаву сорак гадоў, і ўзяў сабе за жонку Ягудзіфу. І мелі з імі клопат Ісак і Рэбека.

## РАЗДЗЕЛ 27

Калі Ісак састарэў і зацьміліся вочы ягоныя, паклікаў старэйшага сына свайго Ісава і сказаў яму: вось я састарэў і не ведаю дзень смерці маёй; вазьмі зброю тваю, ідзі ў поле і ўпалюй мне дзічыны. Згатуй страву, якую я люблю, і прынясі мне паесці, каб благаславіла цябе душа мая да таго, як памру.

Рэбека чула, як казаў Ісак сыну свайму Ісаву. І сказала сыну свайму, Якубу: вось я чула, як бацька твой казаў брату твайму, Ісаву: «Прынясі мне дзічыны, я паем і благаслаўлю цябе перад абліччам Божым».

Цяпер, сын мой, паслухайся слоў маіх, пайдзі ў статак, вазьмі два казляняці, і я згатую з іх бацьку твайму страву, якую ён любіць, каб благаславіў цябе перад смерцю сваёю.

Якуб сказаў Рэбецы: Ісаў, брат мой, — чалавек калматы, а я чалавек гладкі. Можа здарыцца — абмацае мяне бацька мой, і буду я ў вачах ягоных падманшчыкам, і навяду на сябе праклён, а не бла-

гаслаўленне. Маці сказала яму: на мне няхай будзе праклён твой.

Ён пайшоў і ўзяў, і прынёс маці сваёй, і яна згатавала страву. І ўзяла Рэбека багатую вопратку старэйшага сына, і апранула ў яе малодшага сына свайго, Якуба, а рукі ягоныя і гладкую шыю абгарнула казлінаю скураю.

І ён пайшоў да бацькі свайго, і сказаў: я Ісаў, першынец твой, я зрабіў, як ты казаў мне.

І сказаў Ісак Якубу: падыдзі, я абмацаю цябе, ці ты сын мой Ісаў, ці не? Якуб падышоў, і ён абмацаў яго, і сказаў: голас, голас Якубавы, а рукі, рукі Ісававы.

І не пазнаў яго, таму што рукі ягоныя былі, як рукі Ісававы, калматыя, і благаславіў яго.

Як скончыў Ісак благаслаўляць Якуба, і як выйшаў Якуб ад Ісака, Ісаў, брат ягоны, вярнуўся з палявання. Згатаваў і прынёс бацьку свайму страву, і сказаў: паеш дзічыны сына твайго, каб благаславіла мяне душа твая.

І спытаў Ісак: хто ты? Ён сказаў: я сын твой, першынец, Ісаў. І занепакоіўся моцна Ісак, і сказаў: хто ж гэта, што прынёс дзічыну, і я еў перад тым, як ты прыйшоў, і я благаславіў яго, і ён будзе благаславёны?

І вельмі горка залямантаваў Ісаў, і сказаў бацьку свайму: благаславі і мяне. Але ён сказаў: брат твой хітрыкамі ўвёў у зман мяне. І сказаў Ісаў: ці не таму мае ён імя Якуб, што апярэдзіў мяне ўжо двойчы? Ён узяў першародства маё, і вось цяпер узяў благаславенне маё.

Ісак адказаў Ісаву: вось я паставіў яго гаспадаром над табою, і ўсіх братоў дам яму ў рабы. Што ж я зраблю дзеля цябе, сын мой? Але Ісаў сказаў бацьку свайму: няўжо ў цябе адно благаслаўленне? Благаславі і мяне, бацька мой.

І ўзвысіў Ісаў голас свой і заплакаў. І адказаў Ісак: ты будзеш жыць мячом тваім і будзеш служыць брату твайму, будзе час, калі супрацівішся і зрынеш яго з шыі тваёй.

І ўзненавідзеў Ісаў Якуба. І сказаў у сэрцы сваім:

набліжаюцца дні жалобы па бацьку маім, і я заб'ю Якуба, брата майго.

І пераказалі Рэбецы словы Ісававы, і яна паклікала малодшага сына свайго, Якуба, і сказала яму: вось Ісаў, брат твой, пагражае забіць цябе, і цяпер паслухайся слоў маіх, уцякай да Лабана, брата майго, у Харан, і пажыві ў яго колькі часу, покуль натоліцца гнеў брата твайго і ён забудзе, што ты зрабіў яму.

## РАЗДЗЕЛ 28

І паклікаў Ісак Якуба, і благаславіў яго. І сказаў: не бяры сабе жонкі з Хананеяў, ідзі ў Месапатамію і вазьмі сабе жонку з дачак Лабанавых. І пайшоў Якуб у Месапатамію да Лабана.

Ісаў убачыў, што Ісак благаславіў Якуба, і пайшоў Ісаў да Ізмаіла і ўзяў сабе жонку Махалафу, дачку Ізмаіла, сына Абрагамавага.

## РАЗДЗЕЛ 29

І ўбачыў Якуб студню, і там тры статкі дробнага быдла. І сказаў Якуб пастухам: браты мае, скуль вы? Яны сказалі: мы з Харана.

І ён сказаў ім: ці ведаеце вы Лабана? Яны сказалі: ведаем, і вось Рахіль, дачка ягоная, ідзе з авечкамі.

Калі Якуб убачыў Рахіль і авечак Лабанавых, то наблізіўся Якуб і пацалаваў Рахіль, і ўзвысіў голас свой, і заплакаў. І сказаў Якуб Рахілі, што ён родзіч бацькі яе, што ён сын Рэбекі. А яна пабегла і сказала бацьку свайму.

Лабан выбег насустрач і павёў яго ў свой дом. І расказаў ён Лабану ўсё, як было. І жыў у яго Якуб цэлы месяц.

І сказаў Лабан Якубу: няўжо ты задарма будзеш служыць мне, скажы, чым заплаціць табе?

У Лабана было дзве дачкі. Імя старэйшай — Лія, імя малодшай — Рахіль. Лія была слабая на вочы. А Рахіль была прыгожая. Якуб пакахаў Рахіль і ска-

заў Лабану: я буду служыць табе сем гадоў за Рахіль, дачку тваю. Лабан сказаў: лепш аддаць яе за цябе, чым аддаць за каго другога, жыві ў мяне.

І служыў Якуб за Рахіль сем гадоў. І сказаў Якуб Лабану: дай жонку маю, таму што мне ўжо надышоў час, каб увайсці да яе. Лабан склікаў усіх людзей таго горада і наладзіў фэст.

Увечары ўзяў дачку сваю Лію і павёў да яго, і ўвайшоў да яе Якуб. Раніцай выявілася, што гэта Лія.

І сказаў Лабану: што гэта ты зрабіў са мною, ці не за Рахіль я служыў табе, нашто ашукаў мяне?

Лабан сказаў: у нашым месцы так не робяць, каб малодшую выдаваць паперадзе старэйшай. Скончы тыдзень з гэтай, а потым дадзім табе і тую за службу, якую ты будзеш служыць у мяне яшчэ сем гадоў.

Якуб так і зрабіў. І скончыў тыдзень з гэтай. І Лабан даў Рахіль яму за жонку.

Увайшоў Якуб да Рахілі і служыў яшчэ сем гадоў. Рахіль была няплоднаю, а Лія нарадзіла сына і дала яму імя — Рубім, і зноў нарадзіла сына, і сказала: Бог пачуў, што я нялюбая, і даў мне сына. І дала яму імя — Сымон.

І яшчэ нарадзіла сына, і было дадзена яму імя — Леў.

І яшчэ нарадзіла сына, і сказала: цяпер я ўхвалю Бога. Таму дала яму імя — Юда.

## РАЗДЗЕЛ 30

І ўбачыла Рахіль, што яна не нараджае дзяцей Якубу, і пазайздросціла сястры сваёй, і сказала Якубу: дай мне дзяцей, а калі не так, я паміраю.

Якуб раззлаваўся на Рахіль і сказаў: хіба я Бог? Яна сказала: вось служка мая, Бала, увайдзі да яе, няхай яна народзіць на калені мае. І дала яна Балу за жонку яму.

Бала нарадзіла Якубу сына. Далі яму імя — Дан.

І яшчэ нарадзіла Бала другога сына Якубу. І ска-

зала Рахіль: упарта змагалася я з сястрою, і перамагла. І дала яму імя — Нефалім.

Лія ўбачыла, што перастала нараджаць, і дала служку сваю, Зэлфу, Якубу за жонку. І Зэлфа нарадзіла Якубу сына. І сказала Лія: пашчасціла. І дала яму імя — Гад.

І нарадзіла Зэлфа другога сына Якубу, і дала яму імя — Асір.

Рубім пайшоў падчас жніва і знайшоў мандрагоравыя яблыкі, і прынёс іх Ліі. А Рахіль сказала Ліі: дай мне мандрагораў сына твайго. Але яна сказала ёй: няўжо мала табе валодаць мужам маім, што ты хочаш і мандрагораў сына майго? Рахіль сказала: дык няхай ён ляжа з табою гэтай ноччу за мандрагоры сына твайго.

Якуб прыйшоў з поля ўвечары, і Лія выйшла да яго, і сказала: увайдзі да мяне, бо я купіла цябе за мандрагоры.

І ён быў з ёю, і пачуў Бог Лію, і яна нарадзіла пятага сына. І дала яму імя — Ісахар.

І яшчэ нарадзіла шостага сына, і дала яму імя — Забулон. Потым нарадзіла дачку, і дала ёй імя — Дзіна.

І ўспомніў Бог пра Рахіль, і пачуў яе Бог. Яна нарадзіла сына і сказала: зняў Бог ганьбу з мяне. І дала яму імя — Язэп.

Пасля таго, як Рахіль нарадзіла Язэпа, Якуб сказаў Лабану: адпусці мяне, і я пайду ў сваю зямлю. І сказаў Лабан: што даць табе? Якуб сказаў: не давай мне нічога, аддзялі з усіх статкаў авечак тваіх, кожнае быдла з крапкамі і з плямамі, і чорнае. Гэтае быдла будзе мне ўзнагародаю.

Узяў Якуб свежых галінак таполевых, мігдалавых і яваравых. І выразаў на іх белыя паскі, і паклаў галінкі з нарэзкамі перад быдлам.

І зачынала быдла перад галінкамі, і нараджалася быдла пярэстае і з крапкамі, і з плямамі. Кожнага разу, калі зачынала быдла моцнае, Якуб клаў галінкі ў ночвы перад быдлам, а калі зачынала быд-

ла слабае, то не клаў.

І дасталося слабае быдла Лабану, а добрае Якубу. І зрабіўся гэты чалавек вельмі і вельмі багатым. І было ў яго безліч быдла і рабоў, і рабынь, і вярблюдаў, і аслоў.

## РАЗДЗЕЛ 31

І пачуў Якуб словы сыноў Лабанавых, якія казалі: Якуб завалодаў усім, што было ў бацькі нашага. І ўбачыў Якуб твар Лабанаў, і вось ён не такі, як быў учора і заўчора.

І сказаў Бог Якубу: вяртайся ў зямлю бацькоў тваіх, і Я буду з табою.

Якуб паклікаў Рахіль і Лію і сказаў ім: я бачу твар бацькі вашага, што ён да мяне не такі, як быў учора і заўчора. Але Бог быў са мною. Вы самі ведаеце, што я служыў шчыра бацьку вашаму, а ён ашукваў мяне, і дзесяць разоў адменьваў узнагароду маю. Але Бог не даў яму пашкодзіць мне.

Калі сказаў ён мне, што быдла з крапкамі будзе табе ўзнагародаю, то быдла ўсё нарадзілася з крапкамі, а калі ён сказаў: пярэстае будзе табе ўзнагародаю, то быдла ўсё нарадзілася пярэстае. І забраў Бог быдла ў бацькі вашага, і даў мне.

Рахіль і Лія адказалі яму: ці ёсць яшчэ нашая маёмасць у доме бацькі нашага, ці не чужымі лічыць ён нас? Бо ён прадаў нас, і нават з'еў срэбра нашае. Таму ўсе скарбы, якія Бог забраў у бацькі нашага — нашыя і дзяцей нашых. То рабі ўсё, як сказаў табе Бог.

І ўстаў Якуб, і пасадзіў дзяцей сваіх і жонак сваіх на вярблюдаў, і ўзяў з сабою ўсё быдла і ўсе скарбы, якія набыў у Месапатаміі, каб ісці да Ісака, бацькі свайго.

Рахіль украла ідалаў, што былі ў бацькі яе. Якуб жа ўкраў сэрца ў Лабана Арамяніна, бо не паведаміў яму, што ад'язджае. І ўцёк ён з усім, што меў.

На трэці дзень сказалі Лабану, што Якуб уцёк. Тады ён узяў з сабою родзічаў сваіх, і праз сем дзён

нагнаў яго на гары Галаад. І прыйшоў Бог да Лабана ноччу ў сне. І сказаў: сцеражыся, не кажы Якубу ні добрага, ні благога.

І нагнаў Лабан Якуба, і сказаў: што ты зрабіў? Нашто ты падмануў мяне? Ты не дазволіў мне нават пацалаваць унукаў маіх і дачок. Ёсць у руцэ маёй моц учыніць вам ліха, але Бог бацькі вашага сказаў мне: «Не кажы Якубу ні добрага, ні благога.» Але нашто ты ўкраў багоў маіх?

Якуб адказаў Лабану: у каго знойдзеш багоў тваіх, таму не быць жывым. Якуб не ведаў, што Рахіль украла іх.

І хадзіў Лабан па намётах, і шукаў, і не знаходзіў. І зайшоў у намёт да Рахілі. Рахіль паклала ідалаў пад вярблюджае сядло і села на іх. Яна сказала да бацькі свайго: ды не ўгневайся, уладар мой, што я не магу падняцца перад табою, бо ў мяне жаночае. І ён шукаў, і не знайшоў ідалаў.

Якуб зазлаваў: у чым мая віна, у чым грэх мой? Я служыў табе чатырнаццаць гадоў за дзвюх дачок тваіх, і шэсць гадоў за быдла тваё, а ты дзесяць разоў адменьваў узнагароду маю. Каб не было са мною Бога бацькі майго, Бога Абрагамавага, ты і цяпер не даў бы мне нічога.

І адказаў Лабан, і сказаў: дочкі — мае дочкі, дзеці — мае дзеці, быдла — маё быдла, і ўсё, што ты бачыш,— гэта маё. Ці зраблю я што дочкам і дзецям іхнім? Цяпер пагодзімся я і ты.

І ўзяў Якуб камень, і паставіў яго на гары як помнік.

І сказаў Лабан Якубу: вось гара — сведка, і гэты помнік — сведка, што ні я, ні ты не пяройдзем за гэтую гару дзеля ліха. Бог Абрагамаў і Бог Нахораў няхай рассудзяць нас.

## РАЗДЗЕЛ 32

І паслаў Якуб паперадзе сябе вестуноў да брата свайго, Ісава, і загадаў ім: скажыце ўладару майму,

Ісаву: «Вось што кажа раб твой, Якуб: я жыў у Лабана і маю валоў і аслоў, і дробнае быдла, і рабоў, і рабынь. І я паслаў паведаміць пра сябе ўладара майго, каб мець ласку перад абліччам ягоным».

І вярнуліся вестуны да Якуба, і сказалі: мы хадзілі да брата твайго, Ісава, — ён ідзе насустрач табе, і з ім чатырыста чалавек.

Якуб моцна спалохаўся. І падзяліў людзей, што былі з ім, і сказаў: калі Ісаў нападзе на адных, то другія ўратуюцца. І сказаў Якуб: Божа бацькі майго Абрагама, адвядзі ад мяне руку брата майго, руку Ісававу, бо я баюся, каб ён, калі прыйдзе, не забіў мяне.

Якуб узяў з таго, што меў, у падарунак Ісаву: дзвесце коз, дваццаць казлоў, дзвесце авечак, дваццаць бараноў, трыццаць вярблюдзіц дойных з вярблюдзянятамі, сорак кароў, дзесяць валоў, трыццаць аслоў.

І даў рабам сваім кожны статак асобна, і сказаў: калі сустрэнеце брата майго, Ісава, і спытае ён: «Чый ты і куды ідзеш?», то скажы: «Раба твайго, Якуба, гэта падарунак, што паслаў гаспадару майму, Ісаву». Тое ж загадаў ён і другому, і трэцяму, і ўсім, што ішлі за статкамі.

І пайшлі дары паперадзе яго.

І застаўся Якуб адзін, і змагаўся Нехта з ім да світанку. І калі пабачыў, што не можа перамагчы, дакрануўся да сцягна ягонага, і пашкодзіў Якубава сцягно, калі ён змагаўся з Ім. І сказаў: пусці Мяне, бо развіднелася. Якуб сказаў: не пушчу Цябе, покуль не благаславіш мяне. І сказаў: як імя тваё? Ён сказаў: Якуб.

І сказаў: адгэтуль імя табе будзе не Якуб, а Ізраэль, бо ты змагаўся з Богам, і людзей адольваць будзеш.

Спытаўся і Якуб: назаві імя Тваё. І Ён сказаў: нашто пытаешся пра імя Маё? І благаславіў яго.

І ўзышло сонца, і кульгаў ён на пашкоджанае сцягно. Таму і дагэтуль сыны Ізраэлевыя не ядуць жылаў, што на сцёгнах. Бо Той, хто змагаўся, дакрануўся да іх на сцягне Якубавым.

## РАЗДЗЕЛ 33

Паглядзеў Якуб і ўбачыў, што ідзе Ісаў і з ім чатырыста чалавек. І пабег Ісаў яму насустрач і абняў яго, і пацалаваў яго. І плакалі.

І вярнуўся Ісаў у той жа дзень шляхам сваім у Сяір. А Якуб рушыў у Сакхоф і пабудаваў сабе дом.

## РАЗДЗЕЛ 34

Дзіна, дачка Лііна, якую яна нарадзіла Якубу, выйшла паглядзець і ўбачыў яе Сіхем, сын Ямора, князя зямлі той. І ўзяў яе, і спаў з ёю, і зрабіў ёй гвалт.

І прыляпілася душа ягоная да Дзіны, і ён пакахаў дзяўчыну. І сказаў Сіхем бацьку свайму: вазьмі мне гэтую дзяўчыну за жонку.

Якуб чуў, што сын князя згвалціў Дзіну, але сыны ягоныя былі ў полі, і ён маўчаў, покуль не прыйшлі яны. І выйшаў Ямор, бацька Сіхемаў да Якуба, пагаварыць з ім.

Сыны ж Якубавы прыйшлі з поля і калі пачулі, то ўгневаліся, бо сорам учыніў ён Ізраэлю, калі пераспаў з дачкою Якубавай: а так не варта было рабіць.

Ямор казаў ім: Сіхем, сын мой, прыляпіўся душою да дачкі вашай, дайце яе за жонку яму. Парадніцеся з намі і жывіце з намі. Я дам, што не скажаце мне: толькі аддайце дзяўчыну за жонку.

І адказалі сыны Якубавы Сіхему і Ямору: не можам так зрабіць — аддаць сястру за чалавека, які не абрэзаны, бо гэта ганьба для нас. Толькі тады мы пагодзімся з вамі, калі вы будзеце, як мы, каб абрэзаўся ў вас кожны мужчына. І спадабаліся словы гэтыя Ямору і Сіхему.

І паслухаліся Ямора і Сіхема ўсе, хто выходзіў праз браму горада. І былі абрэзаны ўсе мужчыны — усе, хто выходзіў праз браму горада ягонага.

На трэці дзень, калі яны ўсе нядужалі, сыны Якубавы, Сымон і Леў, браты Дзініны, узялі кожны

свой меч і смела напалі на горад. І пазабівалі ўсіх мужчын. І самога Ямора, і Сіхема забілі мячом. І ўзялі Дзіну.

Сыны Якубавы прыйшлі да забітых і абрабавалі горад, яны ўзялі рознага быдла і ўсё, што было ў горадзе, і ўсё, што было ў полі. І ўсе скарбы іхнія, і ўсіх дзяцей, і жонак узялі ў палон.

І сказаў Якуб Сымону і Льву: вы абурылі мяне, бо наклікалі на мяне нянавісць людзей гэтай зямлі. У мяне людзей мала, збяруцца супраць мяне і вынішчаць мяне і дом мой. Яны сказалі: а хіба можна абыходзіцца з сястрою нашаю, як з распусніцаю?

## РАЗДЗЕЛ 35

Бог сказаў Якубу: ідзі ў Бяфіль і жыві там, і зрабі ахвярнік Богу. І рушылі яны.

І быў жах Божы ў навакольных гарадах, і не было пагоні за сынамі Якубавымі. І па дарозе Рахіль нарадзіла. І роды былі цяжкія. Калі ж яна пакутвала, павітуха сказала ёй: не бойся, бо гэта табе сын. І калі адыходзіла ад яе душа, бо яна памірала, то далі яму імя — Бяноні. Але бацька назваў яго Бенямінам. І рушылі, і паставілі намёты свае за вежаю Гадзер.

Пад час, калі былі яны ў той краіне, Рубім пайшоў і пераспаў з Балаю, наложніцаю бацькі свайго.

І прыйшоў Якуб да Ісака, бацькі свайго, і было дзён жыцця Ісакавага сто восемдзесят гадоў, і памёр Ісак, і дадаўся да народа свайго.

## РАЗДЗЕЛ 36

Ісаў узяў сабе жонак з Хананеяў: Аду і Алібему, і Басемафу, дачку Ізмаілаву. І ўзяў Ісаў жонак сваіх, сыноў і дачок сваіх, і статкі свае, і ўсю маёмасць сваю, і пайшоў у другую зямлю ад брата свайго, Якуба. Бо маёмасць іхняя была такою вялікаю, што

не маглі жыць разам, і зямля не змяшчала іх.
І пасяліўся Ісаў на гары Ядом.

## РАЗДЗЕЛ 37

Вось Якубава жыццё. Язэп пасвіў быдла разам з братамі сваімі, сынамі жонак бацькі свайго. І прыносіў Язэп ліхія словы, што казалі браты ягоныя, да бацькі. І Якуб любіў Язэпа болей за ўсіх сваіх сыноў. І зрабіў яму стракатую вопратку. Убачылі браты ягоныя, што бацька любіць яго болей за іх. І зненавідзелі яго. І не маглі гаварыць з ім прыязна.

Убачыў Язэп сон і расказаў яго братам, і яны зненавідзелі яго яшчэ болей. Ён сказаў ім: паслухайце сон. Вось мы вяжам снапы пасярод поля, і вось мой сноп выпрастаўся, а вашыя снапы сталі наўкола і пакланіліся майму снапу. І сказалі яму браты: няўжо ты будзеш панаваць над намі? І ўзненавідзелі яго дзеля сноў і слоў ягоных.

І бачыў ён яшчэ сон, і расказаў яго братам: вось сонца і месяц, і адзінаццаць зорак пакланіліся мне. І сказаў яму бацька: што гэта за сон? Няўжо я і твая маці, і твае браты прыйдзем пакланіцца табе да зямлі?

Браты ягоныя пайшлі пасвіць быдла бацькі свайго. І сказаў Якуб Язэпу: ідзі да іх, паглядзі, ці здаровыя браты твае. І ён пайшоў.

І ўбачылі браты яго здалёк, і сказалі адзін аднаму: вось ідзе празорца. Пойдзем і заб’ём яго, і кінем у які-небудзь роў, і скажам: драпежны звер задраў яго, і паглядзім, што будзе з ягоных прароцтваў.

Пачуў гэта Рубім і сказаў: не пралівайце крыві, кіньце яго ў роў, але не забівайце.

Калі Язэп прыйшоў да братоў сваіх, яны знялі з яго стракатую вопратку, і кінулі яго ў роў, і селі есці хлеб.

І ўбачылі, што ідзе караван Ізмаільцянаў. І ска-

заў Юда братам сваім: якая карысць нам з таго, што заб'ём брата нашага? Пойдзем прададзім яго, і рукі нашай не будзе на ім, бо ён брат наш.

Браты паслухаліся і прадалі Язэпа Ізмаільцянам за дваццаць срэбранікаў. І яны павялі Язэпа ў Ягіпет.

Браты ўзялі вопратку Язэпаву і забілі казла, і выпэцкалі яе крывёю, і прынеслі да бацькі свайго, і сказалі: мы гэта знайшлі, паглядзі, ці не сына твайго гэта вопратка? Ён пазнаў яе, і падраў адзенне сваё, і плакаў па сыне сваім шмат дзён.

У Ягіпце Язэпа прадалі Паціфару, начальніку целаахоўнікаў, фараонаваму еўнуху.

## РАЗДЗЕЛ 38

У той час Юда адышоў ад братоў сваіх. І ўбачыў Юда дачку аднаго Хананея, і ўзяў яе, і ўвайшоў да яе. Яна нарадзіла сына, і ён даў яму імя — Ір. І зацяжарала зноў, і нарадзіла сына — Анана.

І ўзяў Юда жонку сыну свайму, Іру. Імя ёй Фамар. Ір, першынец Юдаў, быў нялюбы Богу, і ўсмерціў яго Бог.

І сказаў Юда Анану: бяры жонку брата твайго і аднаві насенне брату твайму. Анан ведаў, што насенне пойдзе яе яму, і таму, калі быў з жонкаю брата свайго, спускаў на зямлю, каб не даць насення брату свайму. Кепскім было тое, што ён рабіў. Усмерціў Бог і яго. І сказаў Юда Фамары: жыві, як удава, покуль падрасце Шэла, сын мой.

Прайшло шмат часу, і памерла Юдава жонка. Юда суцешыўся і пайшоў у Фамну. І скінула Фамар вопратку ўдоўства свайго, накрылася дзяружкаю і села каля брамы, што па дарозе да Фамны, бо ведала, што Шэла вырас і яе не аддалі яму за жонку.

І прыкмеціў яе Юда, і палічыў за распусніцу, бо яна схавала аблічча сваё. Ён сказаў: увайду я да цябе. Бо не ведаў, што гэта нявестка ягоная.

Яна сказала: што ты мне дасі, калі ўвойдзеш да мяне? Ён сказаў: я прышлю табе казляня. Яна сказала: ці атрымаю я заклад ад цябе? Ён сказаў: што табе даць у заклад? Яна сказала: пячатку тваю, пас твой і кіёк твой. I даў ён ёй, і ўвайшоў да яе, і яна зацяжарала ад яго.

Юда паслаў казляня, каб вярнуць заклад. Але не знайшоў яе.

Мінула тры месяцы. I сказалі Юду: кажуць, Фамар зацяжарала ў распусце. Юда сказаў: бярыце яе, і няхай спаляць яе.

I калі ўзялі яе, яна сказала: пазнаеш, чый гэта пас, пячатка і кіёк? Юда пазнаў і сказаў: праўда на яе баку, бо я не аддаў яе Шэлу.

Калі нараджала яна, то былі блізняты ў жываце яе, і з'явілася рука, і навязала павітуха на руку чырвоную стужку. I сказала: гэты выйшаў першым. Але ён схаваў руку сваю, і вось выйшаў брат ягоны. I дадзена яму імя — Фарэс. Потым выйшаў другі, з чырвонай стужкай на руцэ, і дадзена яму імя — Зара.

## РАЗДЗЕЛ 39

I жыў Язэп у Ягіпце ў доме гаспадара свайго, Паціфара, начальніка целаахоўнікаў, фараонавага еўнуха. I быў Бог з Язэпам. I ўбачыў гаспадар ягоны, што Бог з ім.

I меў Язэп ласку ад гаспадара свайго. I той паставіў яго над домам сваім, і усё, што меў, аддаў у рукі ягоныя. I з таго часу Бог благаславіў дом Ягіпцяніна дзеля Язэпа.

Язэп жа быў прыгожы. I заўважыла Язэпа гаспадарская жонка, і сказала: спі са мною. Але ён адмовіўся. Казала яна так штодня да Язэпа, а ён не слухаўся і не спаў з ёю.

Аднаго разу здарылася, што ён увайшоў у дом па справах сваіх, а яна схапіла яго за адзежу і сказала: кладзіся са мною. А ён пакінуў адзежу сваю ў

руках яе, пабег і выбег.

Калі яна ўбачыла, што ён пакінуў адзежу сваю, паклікала людзей сваіх і сказала: глядзіце — прывялі да нас жыда, каб здзекаваўся з нас. Ён прыйшоў да мяне, каб легчы са мною, але я закрычала, і ён пакінуў у мяне адзежу сваю, і пабег.

І пераказала Паціфару тыя словы: раб, якога ты прывёў да нас, прыходзіў згвалціць мяне, але я ўсчала лямант. Калі гаспадар пачуў словы жончыны, то раз'юшыўся, і ўзяў Язэпа, і аддаў яго ў турму, дзе былі вязні фараонавы.

І Бог быў з Язэпам. І аддаў начальнік турмы ў Язэпавы рукі ўсіх вязняў, што былі ў турме. І што б яны ні рабілі, быў Язэп распарадчым. Начальнік турмы і не глядзеў ні за чым, таму што Бог быў з Язэпам. Бог даваў яму поспех.

## РАЗДЗЕЛ 40

Угневаўся фараон на галоўнага вiначэрпа і на галоўнага хлебадара і пасадзіў іх пад варту. І начальнік целаахоўнікаў паставіў пры іх Язэпа.

Аднаго разу віначэрпу і хлебадару былі сны, кожнаму свой, абодвум у адну ноч.

І прыйшоў да іх Язэп раніцаю і спытаў: чаму смутныя твары вашыя? Яны сказалі яму: нам былі сны, а вытлумачыць іх няма каму. Язэп сказаў: раскажыце мне.

І сказаў віначэрп: мне снілася вінаградная лаза, на ёй тры галінкі, яна заквітнела і выспелі на ёй гронкі. Я ўзяў гронкі і выціснуў іх у келіх фараонавы, і падаў келіх у фараонаву руку.

І сказаў яму Язэп: вось тлумачэнне. Тры галінкі — гэта тры дні. Праз тры дні фараон узвысіць галаву тваю, і верне цябе на пасаду тваю, і ты падасі келіх фараону. Згадай пра мяне, калі табе будзе добра, і скажы пра мяне фараону, і выведзі з гэтага дома.

Галоўны хлебадар убачыў, што растлумачыў

ён добра, і сказаў Язэпу: мне снілася, вось на галаве ў мяне тры кашы, у верхнім розныя стравы фараонавы, і птушкі дзяўблі іх з каша на галаве маёй.

І адказаў Язэп: тры кашы — гэта тры дні, праз тры дні фараон здыме з цябе галаву, і павесяць цябе на дрэве, і птушкі будуць дзяўбці цела тваё.

На трэці дзень, дзень народзін фараонавых, наладзіў ён фэст, і згадаў пра віначэрпа і хлебадара, і вярнуў віначэрпа на былую пасаду. А галоўнага хлебадара павесіў, як тлумачыў ім Язэп. І не згадаў віначэрп пра Язэпа.

## РАЗДЗЕЛ 41

Як мінула два гады, фараону быў сон: вось ён стаіць каля ракі, і выйшлі з ракі сем кароў гладкіх і сытых, і вось за імі выйшлі сем кароў худых і здохлых. І з'елі каровы худыя і здохлыя сем кароў гладкіх і сытых.

Прачнуўся фараон. І заснуў зноў. І снілася яму: вось на адной сцяблінe ўзняліся сем каласкоў, поўных і добрых. І вось пасля іх выраслі сем каласкоў кволых і ссохлых пад усходнім ветрам. І апалілі кволыя каласкі сем каласкоў, поўных і добрых.

Прачнуўся фараон і зразумеў, што гэта сон. Раніцаю смутак агарнуў душу ягоную. Паклікаў ён усіх вешчуноў і мудрацоў. Але не было нікога, хто здолеў бы вытлумачыць сон.

І сказаў віначэрп фараону: грахі мае прыгадаліся мне зараз. Фараон быў угневаўся на рабоў сваіх і аддаў мяне пад варту, і сніўся нам сон, а быў з намі маладзён, і як ён вытлумачыў нам, так і здзейснілася.

І фараон паклікаў Язэпа. І вывелі яго з турмы, і прыйшоў ён да фараона. Фараон сказаў Язэпу: я чуў, што ты ўмееш тлумачыць сны. І адказаў Язэп фараону: гэта не маё, Бог адкажа за мяне. І сказаў

фараон Язэпу: мне быў сон, і я расказаў яго вешчунам, але ніхто не мог вытлумачыць мне.

І тлумачыў Язэп фараону: сем кароў гладкіх і сем каласкоў поўных — гэта сем гадоў дастатку. І сем кароў худых, і сем каласкоў кволых — гэта сем гадоў голаду. Вось надыходзяць сем гадоў вялікага дастатку па ўсёй зямлі. Пасля надыдуць сем гадоў голаду. І будзе ён вельмі цяжкі. А тое, што сон паўтарыўся двойчы, азначае, што неўзабаве Бог здзейсніць гэта.

А зараз няхай угледзіць фараон чалавека кемлівага і мудрага і няхай паставіць яго над зямлёю Ягіпецкаю. Ды загадае фараон збіраць у сем гадоў дастатку пятую частку з зямлі. І збяруць у гарадах жыта, і будзе запас на сем гадоў голаду.

Гэта спадабалася фараону. І сказаў фараон: ці знойдзем мы такога, як ён, у якім быў бы дух Божы? І сказаў фараон Язэпу: ты будзеш над домам маім, і слова твайго будзе трымацца ўвесь мой народ. Толькі пасадам я буду большы за цябе.

І зняў фараон пярсцёнак з рукі сваёй, і надзеў яго на Язэпаву руку. І паклаў залаты ланцуг на шыю ягоную. І паставіў над усёю зямлёю Ягіпецкаю. І даў яму за жонку дачку Пацыфера.

І назбіраў Язэп шмат жыта, як пяску марскога, так, што і не злічыць, бо не хапала ліку.

Да надыходу гадоў голаду ў Язэпа нарадзіліся два сыны: Манасія і Яхрэм. І надышлі сем гадоў голаду, і быў голад па ўсёй зямлі. І расчыніў Язэп усе свірны, і пачаў гандляваць жытам, а голад узмацняўся. З усіх краін прыходзілі купляць жыта ў Язэпа.

## РАЗДЗЕЛ 42

Даведаўся Якуб, што ў Ягіпце ёсць жыта, і сказаў сынам сваім: вось я чуў, што ёсць жыта ў Ягіпце, пойдзем туды і купім, каб нам жыць і не памерці.

Дзесяць Язэпавых братоў пайшлі, каб набыць

жыта. А Беняміна не паслаў Якуб з братамі ягонымі, бо сказаў: каб не здарылася з ім якой бяды. І прыйшлі яны купляць жыта. Язэп прадаваў жыта ўсяму народу зямному. І ўбачыў Язэп братоў сваіх, і пазнаў іх. Але зрабіў выгляд, нібыта не ведае. І гаварыў з імі сурова. Але яны не пазналі яго.

І ўспомніў Язэп сны, што сніліся яму пра іх, і сказаў ім: вы выведвальнікі, прыйшлі вызнаць слабыя месцы зямлі гэтай. І аддаў іх пад варту на тры дні.

І сказаў ім Язэп на трэці дзень: застаняцеся жыць, бо я баюся Бога. Калі вы людзі сумленныя, то няхай адзін з братоў застанецца тут, а вы ідзіце, завязіце жыта, дзеля голаду сем'яў вашых. А брата вашага малодшага прывядзіце да мяне, каб пацвердзіліся словы вашыя.

Так яны і зрабілі. І казалі яны адзін аднаму: сапраўды, гэта кара за грэх наш супраць брата нашага. Мы бачылі, як пакутавала душа ягоная, калі ён упрошваў нас, але не паслухаліся, за тое і напаткала нас бяда гэтая. Рубім адказаў ім: ці не казаў я вам, не рабіце граху, але вы не паслухаліся, вось за кроў ягоную і спаганяецца.

Але таго не ведалі яны, што Язэп разумее, бо да гэтага паміж імі быў перакладчык. І адышоў ён ад іх, і заплакаў.

І вярнуўся да іх, і загадаў Язэп насыпаць у мяхі ім жыта, і срэбра паціху паклаў кожнаму ў мех ягоны, што далі яны за жыта. І ўзяў Сымона, і звязаў яго на вачах у іх. І яны паклалі мяхі, і пайшлі.

І развязаў адзін з іх мех свой, і ўбачыў срэбра сваё, і сказаў братам: срэбра маё вярнулася, вось яно, у мяху маім. І смутак агарнуў сэрцы іхнія. І яны ўсхвалявана казалі адзін аднаму: што гэта Бог зрабіў з намі?

І прыйшлі да Якуба, і расказалі яму ўсё, што здарылася з імі. І казалі: начальнік зямлі той размаўляў з намі сурова. І сказалі мы яму: мы людзі сумленныя, нас дванаццаць братоў, аднаго няма больш, а меншы цяпер з бацькам нашым. І сказаў ён нам: пакіньце ў мяне аднаго з вас, і прывядзіце да мяне меншага брата вашага, і я даведаюся, што вы не выведвальнікі, а людзі сумленныя.

Калі яны высыпалі з мяхоў сваіх, і вось у кожнага пакунак са срэбрам ягоным. І ўбачылі яны срэбра, і спа-

лохаліся. І сказаў ім Якуб: вы пазбавілі мяне дзяцей. Язэпа няма, і Сымона няма, і Беняміна хочаце ўзяць, — усё гэта на мяне!

І сказаў Рубім бацьку свайму: забі двух сыноў маіх, калі я не прывяду яго да цябе. Дай яго на мае рукі. Я вярну яго табе.

Ён сказаў: не, не пойдзе сын мой з вамі, таму што брат ягоны памёр, і ён адзіны застаўся. Калі здарыцца з ім бяда ў дарозе, то ўвагоніце вы сівізну маю са смуткам маім у дамавіну.

## РАЗДЗЕЛ 43

Голад мацнеў на зямлі. І калі яны з'елі жыта, якое прывезлі з Ягіпта, тады бацька сказаў ім: ідзіце зноў, купіце нам колькі ежы.

І сказаў яму Юда: той чалавек папярэдзіў нас: «Не прыходзьце да мяне без брата вашага». Калі адпусціш з намі брата нашага, то мы пойдзем і купім табе ежу, а калі не адпусціш, то не пойдзем.

Якуб сказаў: нашто вы зрабілі мне такую бяду, калі сказалі, што ў вас ёсць яшчэ брат?

Яны сказалі: распытваў той чалавек пра нас і пра родзічаў нашых. І яшчэ сказалі: калі б не марудзілі мы, то ўжо двойчы абярнуліся.

Якуб сказаў ім: калі так, то вось што зрабіце — бярыце з сабою плён зямлі гэтай і занясіце ў падарунак таму чалавеку: колькі бальзаму, колькі мёду, стыраксаў, ладану, фісташак і мігдалу. Бярыце і срэбра, і тое вярніце, што было ў мяхах вашых. І брата вашага бярыце, Беняміна.

І пайшлі яны ў Ягіпет.

Язэп убачыў Беняміна і сказаў начальніку дома свайго: вядзі гэтых людзей у дом, забі якую худобу і згатуй страву. І зрабіў гэты чалавек, як загадаў Язэп.

І спалохаліся людзі тыя, і сказалі: гэта за срэбра, што было ў мяхах нашых, павялі нас, каб прычапіцца і напасці на нас, і ўзяць нас у рабства, і аслоў нашых. І пайшлі яны да начальніка, і сказалі: мы прыходзілі мінулым разам па жыта і здарылася, што, калі развязалі мяхі

свае, вось срэбра ў кожным мяху, і мы вяртаем яго ўласнаручна. А каб набыць ежы, мы прынеслі іншае срэбра. Мы не ведаем, хто паклаў срэбра ў мяхі нашыя. Ён сказаў: супакойцеся, і не варта баяцца. Бог бацькі вашага даў вам скарб.

Прыйшоў Язэп, і яны аддалі яму падарункі, і пакланіліся яму да зямлі. І ўбачыў ён Беняміна, брата свайго, і спешна пакінуў іх, бо апякла яго любасць да сына маці сваёй, і ён ледзь не заплакаў. І зайшоў у сярэдні пакой, і плакаў там.

І памыў твар свой, і выйшаў, і здужаў, і сказаў: падавайце ежу. І падалі яму асобна, і ім асобна, і Ягіпцянам, што абедалі з імі, асобна. Бо Ягіпцяне не могуць есці з габрэямі, таму што для Ягіпцянаў гэта паскудства. І прыносілі ім ежу ад яго, і Бенямінава доля была ўпяцёра большая за долю кожнага з іх. І пілі, і ўпіліся з ім.

## РАЗДЗЕЛ 44

І загадаў Язэп начальніку дома свайго: напоўні мяхі гэтых людзей ежаю, і срэбра пакладзі ў мяхі, і келіх мой, келіх срэбны, пакладзі ў мех да малодшага. І зрабіў той.

Калі развіднела, гэтых людзей адпусцілі. Яшчэ не паспелі яны далёка адысціся ад горада, як Язэп сказаў начальніку: нагані гэтых людзей. І скажы ім: нашто вы адплацілі ліхам за дабро? Ці не той гэта келіх, з якога п’е і на якім варожыць гаспадар мой?

І ён нагнаў іх, і сказаў гэтыя словы. І яны сказалі яму: нашто гаспадар наш гаворыць так? У каго з рабоў тваіх знойдзеш, таму смерць, і мы будзем рабамі гаспадару нашаму. Ён сказаў: добра, як вы сказалі, няхай так і будзе. У каго знайду келіх, той будзе мне рабом.

І ён шукаў, пачаў са старэйшага і скончыў малодшым, і знайшоўся келіх у Бенямінавым мяху. І падралі яны вопратку сваю, і вярнуліся ў горад. І прыйшлі да Язэпа, і паваліліся перад ім на зямлю.

Язэп сказаў: што гэта вы зрабілі? Хіба вы не ведалі, што такі чалавек, як я, вядома, здагадаецца. Юда сказаў: чым апраўдацца нам перад гаспадаром нашым? Вось

мы рабы — і мы, і той, у каго знайшоўся келіх.

Язэп сказаў: не, я гэтага не зраблю. Той, у каго знайшоўся келіх, будзе мне рабом, а вы вернецеся да бацькі вашага.

І наблізіўся Юда да яго, і сказаў: мы казалі гаспадару нашаму, што ў нас ёсць бацька стары і малодшы сын, сын старасці. Брат ягоны памёр, а ён застаўся адзіны па маці сваёй, і бацька любіць яго.

Цяпер, калі я вярнуся да бацькі нашага і не будзе з намі сына малодшага, душа якога ў повязі з душою бацькавай, то ён, калі ўбачыць, што няма сына ягонага, памрэ.

Дык няхай я, раб твой, замест юнака застануся рабом у гаспадара майго, а ён няхай ідзе з братамі сваімі. Бо як вярнуся я да бацькі свайго, калі яго не будзе са мною?

## РАЗДЗЕЛ 45

Язэп не здолеў болей стрымліваць сябе пры ўсіх, хто стаяў вакол яго, і закрычаў: прыбярыце ўсіх ад мяне.

І калі Язэп адкрыўся братам сваім, не было вакол іх нікога. І ўголас заплакаў ён, і пачулі Ягіпцяне, і дом фараонавы.

І сказаў Язэп братам: я — Язэп. Ці жывы яшчэ бацька мой? Але браты ягоныя не маглі адказаць яму, таму што смутак агарнуў іх. І паклікаў Язэп іх, і сказаў: я — Язэп, брат ваш, якога вы прадалі ў Ягіпет. Але цяпер не журыцеся і не шкадуйце аб тым, што вы прадалі мяне, таму што Бог паслаў мяне, каб я ўратаваў вашае жыццё.

Паставіў мяне Бог бацькам фараону і ўладаром усёй зямлі Ягіпецкай. Скажыце бацьку майму пра ўсю славу маю, і пра ўсё, што бачылі ў Ягіпце. І прывядзіце бацьку майго сюды.

І даведаўся фараон, што прыйшлі браты Язэпавы, і радасць была фараону і рабам ягоным. І сказаў фараон Язэпу: скажы братам сваім, вось што зрабіце, прыйдзіце да мяне, і я дам вам лепшае на зямлі Ягіпецкай. Не шкадуйце маёмасці вашай, бо лепшае на ўсёй зямлі Ягіпецкай дам вам.

Так і зрабілі сыны Ізраэлевы. І прыйшлі да бацькі свайго, Якуба, і паведамілі: Язэп жывы, і цяпер пануе над усёй зямлёю Ягіпецкаю.

Але сэрца ягонае агарнуў сум, бо ён не паверыў ім. Калі ж ён убачыў калёсы, якія прыслаў Язэп, каб весці яго, тады акрыяла душа Якубава.

І сказаў Якуб: досыць, яшчэ жывы сын мой, Язэп, пайду і пабачу яго, пакуль не памёр.

## РАЗДЗЕЛ 46

Усіх душ, што прыйшлі з Якубам у Ягіпет, апроч жонак сыноў Якубавых, усяго шэсцьдзесят шэсць душ.

Сыноў Язэпавых, якія нарадзіліся ў яго ў Ягіпце, дзве душы.

Усіх душ дома Якубава, што прыйшлі ў Ягіпет, семдзесят.

І выехаў Язэп насустрач бацьку свайму, і ўбачыў яго, і доўга плакаў на шыі ягонай.

## РАЗДЗЕЛ 47

І прыйшоў Язэп, і паведаміў фараону: бацька мой і браты мае прыйшлі з зямлі Ханаанскай. І з братоў сваіх ён узяў пяць чалавек, і паставіў іх перад фараонам. І сказаў фараон: які ваш занятак? Яны сказалі: пастухі авечак і мы, і бацькі нашыя. Мы прыйшлі пажыць на гэтай зямлі, бо ў зямлі Ханаанскай голад вялікі.

І сказаў фараон Язэпу: зямля Ягіпецкая перад табою. На лепшым месцы пасялі бацьку твайго і братоў тваіх.

І прывёў Язэп Якуба, і паставіў яго перад фараонам, і благаславіў Якуб фараона, і выйшаў ад фараона.

І пасяліў Язэп, і забяспечваў бацьку свайго і братоў сваіх жытам, і не было жыта па ўсёй зямлі, таму што голад павялічваўся.

Язэп сабраў усё срэбра, што было ў зямлі Ягіпецкай за жыта, і прынёс Язэп срэбра ў дом фараонавы, і срэбра вычарпалася ў зямлі Ягіпецкай.

Усе Ягіпцяне прыйшлі да Язэпа і сказалі: дай нам

жыта. Язэп сказаў: прыганіце быдла сваё, і я дам вам за быдла вашае, калі срэбра выйшла ў вас.

І прыганялі яны да Язэпа быдла сваё.

І прыйшлі да яго на другі год, і сказалі: не схаваем ад гаспадара нашага, што срэбра вычарпалася, і быдла нашае ў гаспадара нашага. І нічога не засталося ў нас, апроч целаў нашых і зямлі нашай.

І купіў Язэп усю зямлю Ягіпецкую для фараона. І сказаў Язэп народу: вось я купіў вас і зямлю вашую для фараона, вось вам насенне, засявайце зямлю.

Яны сказалі: ты ўратаваў нашае жыццё.

І надышоў час Ізраэлю памерці, і паклікаў ён Язэпа, і сказаў яму: клянiся, што не пахаваеш мяне ў зямлі Ягіпецкай, каб легчы мне з бацькамі маімі.

Язэп сказаў: зраблю згодна са словам тваім.

## РАЗДЗЕЛ 48

Язэпу сказалі: вось бацька твой хворы. І ён узяў двух сыноў сваіх, Манасію і Яхрэма. І ўзяў Яхрэма ў правую руку, а Манасію ў левую, і падвёў да Ізраэля. Але Ізраэль узняў правую руку і паклаў на галаву Яхрэму, а левую на галаву Манасіі.

Наўмысна паклаў ён так рукі свае, хаця Манасія быў першынец. І ўбачыў гэта Язэп, і ўзяў ён руку бацькаву, каб перакласці яе з галавы Яхрэма на галаву Манасіі, але бацька не пагадзіўся і сказаў: ведаю, і ад яго пойдзе народ, але меншы брат ягоны будзе большым за яго. І благаславіў іх у той дзень.

## РАЗДЗЕЛ 49

І паклікаў Якуб сыноў сваіх, і сказаў: Язэп — галіна ўрадлівага дрэва над крыніцаю, галінкі ягоныя ўзнімаюцца над мурамі. Засмучалі яго. І стралялі, і варагавалі на яго стральцы, але цвёрдым застаўся лук ягоны і моцнымі мышцы рук ягоных, з рук моцнага Бога Якубавага. Адгэтуль Пастыр — Камень Ізраэлевы, ад Бога бацькі твайго, які дапа-

можа табе і благаславіць цябе.

І вось што сказаў ім бацька, і благаславіў іх, і даў ім благаслаўленне, кожнаму сваё. І скончыў Якуб запавет свой, і памёр, і дадаўся да народа свайго.

## РАЗДЗЕЛ 50

Язэп паваліўся і плакаў, і цалаваў бацьку свайго.

І загадаў Язэп служкам сваім — лекарам бальзаміраваць бацьку свайго, і лекары бальзаміравалі. І пайшоў Язэп хаваць бацьку свайго, і ўвесь дом Язэпавы, і браты ягоныя, адно дзяцей і дробнае быдла пакінуў на зямлі той.

І дайшлі яны да Гарэнгаатада пры Ярдане, і зрабіў Язэп жалобу па бацьку сваім сем дзён.

І аднеслі яго сыны ў зямлю Ханаанскую і пахавалі яго ў пячоры на полі Махпэла.

Вярнуўся Язэп у Ягіпет сам і браты ягоныя. І пабачылі браты, што памёр бацька іхні, і сказалі: што калі Язэп зненавідзіць нас і захоча адпомсціць нам за ўсё ліха, што мы зрабілі яму?

І сказаў Язэп: не бойцеся, бо я баюся Бога. Вось вы наўмысна зрабілі ліха супраць мяне, але Бог абярнуў гэта дабром, каб зрабіць тое, што ёсць цяпер. І таму не бойцеся, я буду карміць вас і дзяцей вашых, і супакоіў іх.

І жыў Язэп у Ягіпце ўсяго сто дзесяць гадоў. І сказаў Язэп братам сваім: вось я паміраю, але Бог наведае вас і выведзе вас з зямлі гэтай у зямлю, якую абяцаў Абрагаму, Ісаку і Якубу.

І памёр Язэп, і бальзаміравалі яго, і паклалі ў дамавіну ў Ягіпце.

# Біблія

# Кніга Эклезіяста, або Прапаведніка

## РАЗДЗЕЛ 1

Слова Эклезіяста, Давідавага сына, цара Ярусалімскага.

2 Марная мітусня, сказаў Эклезіяст, марная мітусня, — усё мітусня!

3 Якая карысць Адаму[1] ад кожнае працы ягонай, што робіць ён пад сонцам?

4 Род праходзіць, і род прыходзіць, а зямля быцьме да веку.

5 Узыходзіць сонца, і заходзіць сонца, і спяшаецца да месца свайго, адкуль узышло.

6 Ідзе вецер на поўдзень і вяртаецца да поўначы, кружляе, кружляе на сваім шляху, і вяртаецца вецер на колы свае.

7 Усе рэчкі сплываюць у мора, але мора не перапаўняецца; да таго месца, адкуль рэкі цякуць, яны вяртаюцца, каб цячы ізноў.

8 Усе рэчы ў працы; не можа чалавек пераказаць усяго, вочы не здаволяцца зрокам, вушы не здаволяцца слыхам.

9 Што было, тое і будзе; і што рабілася, тое і рабіцца будзе, і няма нічога новага пад сонцам.

10 Бывае штосьці, пра што кажуць: «Глядзі, вось гэта новае»; але было ўжо так спрадвеку, паперадзе нас.

---

1 Адам — чалавек.

11 Няма напаміну з мінулага; і з таго, што будзе, не застанецца напаміну ў тых, хто прыйдзе пасля нас.

12 Я, Эклезіяст, быў царом над Ізраэлем у Ярусаліме;

13 І аддаў я сэрца сваё, каб даследаваць і выпрабаваць розумам усё, што дзеецца пад нябёсамі: гэты цяжкі занятак даў Бог сынам чалавечым, каб яны практыкаваліся ў ім.

14 Бачыў я ўсе справы, што робяцца пад сонцам, і вось, усё — марнасць і стома душы!

15 Крывое не можа зрабіцца роўным, і чаго няма, таго нельга лічыць.

16 Казаў я да сэрца свайго так: вось, я ўзвысіўся і прыдбаў розуму болей за ўсіх, што былі паперадзе мяне над Ярусалімам, і сэрца маё бачыла шмат ведаў і шмат разумнага.

17 І даў я сэрцу свайму зведаць розум і зведаць глупства і вар'яцтва, спазнаў, што і гэта — стома душы.

18 Таму што ў вялікім розуме вялікі смутак; і хто памнажае веды, памнажае журбу.

## РАЗДЗЕЛ 2

Сказаў я ў сэрцы сваім: «Дай, выпрабую я цябе весялосцю, і нацешся дабром»; але і гэта — марнасць!

2 Пра смех сказаў я: «Глупства!», а пра весялосць: «Што з яе?»

3 Спрабаваў я ў сэрцы сваім цешыць цела сваё вінам, і сэрца маё, кіруючыся розумам, трымалася і глупства, покуль не ўбачыў, што добра для сыноў чалавечых, што мусілі б яны рабіць пад нябёсамі за кароткі век свайго жыцця.

4 Я распачаў вялікія справы: пабудаваў сабе дамы, насадзіў сабе вінаграднікі;

5 Зладзіў сабе сады і гаі і насадзіў у іх розныя ўрадлівыя дрэвы;

6 Зрабіў сабе ставы, каб арашаць з іх гаі, дзе растуць дрэвы;
7 Набыў сабе слуг і служанак, і пакаёўкі былі ў мяне; таксама і буйнога і дробнага быдла ў мяне было болей за ўсіх тых, хто быў паперадзе мяне ў Ярусаліме;
8 Сабраў сабе срэбра і золата, і каштоўнасці ад цароў і абласцей; завёў у сябе спевакоў і спявачак і асалоду сыноў чалавечых — розныя музычныя прылады.
9 І зрабіўся я вялікім і заможным болей за ўсіх, хто быў паперадзе мяне ў Ярусаліме; і розум мой быў са мною.
10 Чаго б ні пажадалі вочы мае, я не адмаўляў ім; я не забараняў сэрцу свайму ніякае весялосці, таму што сэрца маё цешылася ў кожнай працы сваёй, і гэта было маёю доляю ў кожнай працы маёй.
11 І азіраўся я на ўсе справы свае, якія зрабілі рукі мае, і на працу, якую здзейсніў я, працуючы; і вось, усё — марная мітусня і стома душы, і няма карысці з гэтага пад сонцам!
12 І азірнуўся я, каб паглядзець на розум і глупства, і вар'яцтва, бо што можа зрабіць чалавек пасля цара звыш таго, што ўжо зроблена?
13 І ўбачыў я, што перавага розуму над глупствам такая ж, як перавага святла над цемраю.
14 У разумнага вочы ягоныя — у галаве ягонай, а дурань ходзіць у цемры. Але зведаў я, што адна доля чакае ўсіх.
15 І сказаў я ў сэрцы сваім: «І мяне напаткае тая ж доля, што і дурня: нашто ж я зрабіўся вельмі разумным?» І сказаў я ў сэрцы сваім, што і гэта — марнасць;
16 Таму што разумнага не будуць памятаць вечна, як і дурня; у будучым усё забудзецца, і, на жаль, разумны памірае нароўні з дурнем.
17 І зненавідзеў я жыццё: таму што абрыдлі мне справы, якія робяцца пад сонцам; бо ўсё — марнасць і стома душы!

18 І зненавідзеў я ўсю працу сваю, што зрабіў пад сонцам; таму што мушу пакінуць яе чалавеку, які прыйдзе пасля мяне.

19 І хто ведае: ці разумным будзе ён, ці дурнем? А ён будзе карыстацца з усяе працы маёй, якую я зрабіў і з якой стаў разумным пад сонцам. І гэта — марнасць!

20 І звярнуўся я, каб пераканаць сэрца сваё адрачыся ад усяе працы, якою я займаўся пад сонцам:

21 Таму што іншы чалавек працуе з розумам, з ведамі і з поспехам і мусіць аддаць усё чалавеку, які не працаваў над тым, нібыта то частка ягоная. І гэта марнасць і ліха вялікае!

22 Бо што мецьме чалавек з усяе працы сваёй і клопату сэрца свайго, што зрабіў ён пад сонцам?

23 Таму што ўсе дні ягоныя — журба, і ягоная праца — турботы: нават уначы сэрца ягонае не знаходзіць супакаення. І гэта — марнасць!

24 Не падуладная чалавеку і тая раскоша, каб есці і піць і цешыць душу сваю з працы сваёй. Я ўбачыў, што і гэта — ад рукі Божае;

25 Бо хто можа есці і хто можа цешыцца без Яго?

26 Бо чалавеку добраму перад абліччам Ягоным Ён дае розум і веды, і радасць, а грэшнаму дае клопат збіраць і запасіць, каб пасля аддаць добраму перад абліччам Божым. І гэта — марнасць і стома душы.

## РАЗДЗЕЛ 3

На ўсё свой час, і час на кожную рэч пад нябёсамі.

2 Час нараджацца, і час паміраць; час насаджаць, і час вынішчаць пасаджанае.

3 Час забіваць, і час лекаваць; час разбураць і час будаваць;

4 Час плакаць, і час смяяцца; час скардзіцца і

час танцаваць,
5 Час раскідаць камяні, і час складаць камяні;
час абдымаць, і час пазбягаць абдымкаў;
6 Час шукаць, і час губляць; час берагчы, і час
пакідаць;
7 Час раз'ядноўваць, і час злучаць; час маўчаць,
і час гаварыць;
8 Час любіць, і час ненавідзець; час вайны, і час
міру.
9 Якая карысць з працы таму, хто робіць яе?
10 Бачыў я гэты клопат, што даў Бог сынам
чалавечым, каб яны практыкаваліся ў ім.
11 Усё стварыў Ён цудоўным у свой час, і змясціў
свет у іхняе сэрца, але чалавек не можа спасцігнуць
спраў, якія робіць Бог, ад пачатку да канца.
12 Зведаў я, што няма для іх нічога лепшага, як
весяліцца і рабіць добрае ў сваім жыцці.
13 І калі які чалавек есць і п'е і знаходзіць дабро
ў кожнай працы сваёй, то гэта — Божы дар.
14 Зведаў я, што ўсё, што робіць Бог, існуе да
веку; да таго няма чаго дадаваць і няма чаго ады-
маць; і Бог робіць так, каб мелі пашану перад
абліччам Ягоным.
15 Што было, тое і цяпер ёсць, і што будзе, тое
ўжо было; і Бог пакліча мінулае.
16 Яшчэ бачыў я пад сонцам: месца суда, а там
не было закону; месца праўды, а там няпраўда.
17 І сказаў я ў сэрцы сваім: «Праведнага і грэш-
нага будзе судзіць Бог; таму што час для кожнае
рэчы і суд над кожнаю справаю там».
18 Сказаў я ў сэрцы сваім пра сыноў чалавечых,
каб выпрабаваў іх Бог, каб яны бачылі, што яны
самі па сабе — быдла:
19 Таму што доля сыноў чалавечых і доля быд-
ла — адная доля; як тыя паміраюць, так паміраюць і
гэтыя, і адное дыханне ва ўсіх, і няма ў чалавека
перавагі над быдлам; таму што ўсё — марнасць!
20 Усё сыходзіцца ў адным месцы; усё паўстае з
пылу, і ўсё вернецца ў пыл.

21 Хто ведае: дух сыноў чалавечых ці ўзыхо-
дзіць угору, ці дух быдла сыходзіць долу, у зямлю?
22 Гэтак пабачыў я, што няма нічога лепшага, як
цешыцца чалавеку са спраў сваіх: таму што гэта —
лёс ягоны; бо хто прывядзе яго паглядзець на тое,
што будзе пасля яго?

## РАЗДЗЕЛ 4

І звярнуўся я, і ўбачыў увесь прыгнёт, які ёсць
пад сонцам: і вось слёзы прыгнечаных, а суце-
шыць няма каму; і ў руцэ прыгнятальніка — моц,
а суцешыць няма каму.
2 І ўлагоджваў я нежывых, якія даўно памерлі,
болей жывых, якія жывуць дагэтуль.
3 А шчаслівейшы за іх той, хто яшчэ не існаваў,
хто не бачыў ліхіх спраў, якія робяцца пад сонцам.
4 Бачыў я таксама, што кожная праца і кожны
поспех у справах спараджаюць зайздрасць паміж
людзьмі. І гэта марнасць і стома душы!
5 Дурны сядзіць, склаўшы рукі свае, і жарэ цела
сваё.
6 Лепей жменя спакою, як прыгаршчы нама-
ганняў са стомай душы.
7 І звярнуўся я, і бачыў марнасць пад сонцам.
8 Чалавек самотны, і другога няма; ані сына, ані
брата няма ў яго; а ўсім намаганням ягоным няма
канца, і вока ягонае не насыціцца багаццем. «Дзе-
ля каго ж я працую і пазбаўляю душу сваю дабра?»
І гэта — марнасць, і благая справа.
9 Удваіх лепей, чымсьці аднаму, бо яны маюць
добрую ўзнагароду за намаганні свае;
10 Бо калі адзін паваліцца, то другі падыме сяб-
ра свайго. Але бяда аднаму, як ён паваліцца, бо
няма другога, каб падняць яго.
11 Таксама, як лягуць два, то цёпла ім; а як адно-
му ўгрэцца?
12 І калі хтосьці змагаецца з ім, то два супраць-
ставяцца яму. І вяроўка ў тры столкі не хутка пар-

вецца.

13 Лепей беднае, але разумнае дзіцё, чымсьці
стары, але неразумны цар, якому нельга парадзіць.

14 Бо іншы з вязніцы выходзіць на царства,
а той, што нарадзіўся ў царстве, марнее.

15 Бачыў я ўсіх, хто жыве і ходзіць пад сонцам з
дзіцём — з тым, што стане на месца ягонае.

16 Не было ліку ўсяму народу, які быў паперадзе
яго, але апошнія не нацешацца з яго. Напэўна, і
гэта — марнасць і стома душы.

## РАЗДЕЛ 5

Зважай на крокі свае, як пойдзеш да дому Божага, і рыхтуйся болей слухаць, чымсьці даваць парады дурням, бо яны не ведаюць, што робяць блага.

2 Не спяшайся вуснамі сваімі, і сэрца тваё няхай
не спяшаецца вымавіць слова перад Богам; таму
што Бог на небе, а ты на зямлі; таму няхай у цябе
мала будзе словаў;

3 Бо сны прыходзяць ад мноства турботаў,
а голас неразумнага ад мноства словаў.

4 Як абяцаеш Богу, то не адцягвай споўніць абя-
цанне; бо няма зычлівасці да неразумных; што
абяцаў, споўні.

5 Лепей, каб ты не абяцаў, чымсьці, каб абяцаў
і не споўніў.

6 Не дазваляй вуснам сваім уводзіць у грэх цела
тваё і не кажы перад анёламі: «Гэта памылка».
Нашто гнявіць Бога голасам тваім і нішчыць пра-
цу рук тваіх?

7 Бо ў мностве сноў, як і ў мностве словаў, шмат
марнасці; але ты бойся Бога.

8 Як пабачыш у краі прыгнёт беднага і спабыццё
суду і справядлівасці, то не здзіўляйся гэтаму; бо
вышэйшы за высокім назірае і найвышэйшыя над
імі;

9 Перавага ж таго краю, дзе цар служыць зямлі

сваёй.
10 Хто любіць срэбра, той не насыціцца ім; і
хто любіць багацце, не будзе мець прыбытку. І
гэта — марнасць.
11 Павялічваецца маёмасць, памнажаюцца і
тыя, хто спажывае яе; і якая карысць уласнікам?
Хіба што глядзець вачыма сваімі.
12 Салодкі сон мае, хто працуе, ці шмат, ці мала
ён з'есць; але сытасць багатага не дае яму спаць.
13 Ёсць пакутлівае ліха, што бачыў я пад сонцам:
багацце, ашчаджанае ўласнікам, было ў шкоду яму;
14 Але тое багацце гіне з прычыны няшчаснага
выпадку: і народзіцца сын у яго, і нічога няма ў
руках ягоных.
15 Як выйшаў ён з улоння маці сваёй, так голы і
адыходзіць зноў, як прыйшоў; і нічога не мае з
працы сваёй, што мог бы панесці ў руцэ сваёй.
16 І гэта таксама пакутлівае ліха, што, як прый-
шоў ён, так і адыдзе. І што за карысць яму з таго,
што ён працаваў на вецер?
17 А ён ва ўсе дні свае еў у цемры з нянавісцю, з
гневам і з хваробаю.
18 Вось што я бачыў: добра есці і піць, і цешыц-
ца дабром з кожнае працы сваёй, якую рабіў хто
пад сонцам увесь лік дзён сваіх, што даў яму Бог;
бо гэта доля ягоная.
19 І калі якому чалавеку даў Бог багацце і маё-
масць, і даў уладу карыстацца з гэтага і браць долю
сваю, і цешыцца з працы сваёй, то гэта дар Божы.
20 Бо нядоўга будзе ён памятаць жыццё сваё,
таму Бог узнагародзіць радасцю сэрца ягонае.

## РАЗДЗЕЛ 6

Ёсць ліха, якое бачыў я пад сонцам, і шмат яго
паміж людзей:
2 Чалавеку даў Бог багацце, маёмасць і гонар, і
няма нястачы душы ягонае ні ў чым, чаго душа яго-
ная жадае; але не дае яму Бог карыстацца з гэтага,

а карыстаецца з гэтага чужынец: гэта — марнасць і
пакутлівы боль.
3 Калі б які чалавек нарадзіў сто дзяцей і пражыў
шмат гадоў, і яшчэ б дадалося дзён жыцця яму,
то душа ягоная не насыціцца дабром, і не будзе ён
пахаваны, і я скажу: скідышу лепей за яго;
4 Бо ён прыходзіць у марнасці і адыходзіць
у цемру, і цемраю імя ягонае накрыецца;
5 Таксама сонца ён не бачыў і не ведаў; яму спа-
кайней за таго.
6 А той няхай пражыве дзве тысячы гадоў і не
нацешыцца дабром, ці не ўсё пойдзе ў адно месца?
7 Уся праца чалавечая — дзеля рота ягонага,
а душа ягоная не насычаецца.
8 Якая перавага разумнага над дурнем, беднага,
што ўмее абыходзіцца перад жывымі?
9 Лепей бачыць вачыма, чымсьці ў летуценнях.
І гэта таксама — марнасць і стома душы.
10 Што было, даўно названа імя ягонае, і вядо-
ма, што гэта — чалавек, і што ён можа змагацца з
тымі, хто дужэйшы за яго.
11 Ёсць шмат рэчаў, якія памнажаюць мар-
насць: якая ж карысць чалавеку?
12 Бо хто ведае, што добра чалавеку ў жыцці,
у ліку дзён жыцця марнасці ягонае, якія ён прахо-
дзіць, як цень? Бо хто можа сказаць чалавеку, што
будзе пад сонцам пасля яго?

## РАЗДЕЛ 7

Добрае імя лепей за добрую маёмасць, і дзень
смерці — за дзень нараджэння.
2 Лепей хадзіць да дому жалобы, чымсьці да
дому фэсту, бо там канец кожнага чалавека, і жывы
возьме гэта да сэрца свайго.
3 Скардзіцца лепей, чымсьці смяяцца, бо самот-
нае аблічча паляпшае сэрца.
4 Сэрца разумных — у доме жалобы, а сэрца
неразумных — у доме радасці.

5 Лепей слухаць кпіны разумнага, чымсьці слухаць песні дурня:
6 Таму што смех дурня, як трэск церняў пад саганом. І гэта — марнасць.
7 Разумны, як прыгнятае іншых, робіцца дурнем, і падарункі псуюць сэрца.
8 Канец справы лепей за пачатак; цярплівы за пыхлівага.
9 Не спяшайся душою сваёю ўгневацца, таму што гнеў спачывае ў грудзях неразумных.
10 Не кажы: «Чаму гэта папярэднія дні лепшыя за гэтыя?» Таму што не ад розуму ты пытаешся пра гэта.
11 Добра розум са спадчынаю, асабліва, калі бачыць сонца:
12 Таму што розум бароніць, і срэбра бароніць, але перавага ведаў у тым, што розум дае жыццё таму, хто мае яго.
13 Глядзі на справы Божыя: бо хто можа выпрастаць тое, што Ён скрывіў?
14 У дзень добры карыстайся з дабра, але ў дзень благі зважай: адно супраць другога паставіў Бог; бо не знойдзе чалавек пасля сябе нічога.
15 Усяго нагледзеўся я ў дні марнасці сваёй: справядлівы гіне ў справядлівасці сваёй; нягоднік доўга жыве ў нягодніцтве сваім.
16 Не будзь залішне справядлівым, і не выказвай залішняй мудрасці: нашто табе нішчыць самога сябе?
17 Не будзь залішне нягодным, і не будзь дурным: нашто табе паміраць не ў час?
18 Добра, калі ты будзеш трымацца аднаго і не здымеш з гэтага рукі сваёй; той, хто баіцца Бога, пазбегне ўсяго.
19 Розум мацуе разумнага болей як дзесяць уладароў, якія ў горадзе;
20 Бо няма чалавека, нават справядлівага, на зямлі, які рабіў бы дабро і не рабіў ліха;
21 Таму не на кожнае слова, што гавораць,

звяртай увагу, каб не пачуць табе слугі свайго, які кляне цябе;
22 Бо сэрца спазнала не раз, як ты сам кляў іншых.
23 Усё гэта выпрабаваў я розумам; я сказаў: «Я буду разумны», але ён далёка ад мяне.
24 Далёка тое, што было, і глыбока — глыбокае: хто знойдзе яго?
25 Звярнуўся я сэрцам сваім да таго, каб зведаць і зразумець, і знайсці мудрасць і розум, і спазнаць нягоднасць дурасці і дурноту шалу.
26 І знайшоў я, што жанчына горшая за смерць, таму што яна — пастка, і сэрца ейнае — сіло, рукі — кайданы, каго ўпадабае Бог — уратуецца ад яе, а грэшнага схопіць яна.
27 Вось гэта знайшоў я, сказаў Эклезіяст, як выпрабоўваў адно за адным, каб знайсці лічбу.
28 Чаго яшчэ шукала душа мая, але я не знаходзіў? Мужчыну сярод тысячы я знайшоў; але жанчыны паміж імі не знайшоў.
29 Гэта толькі я знайшоў, што Бог стварыў чалавека добрым, але людзі распачалі свае намеры.

## РАЗДЗЕЛ 8

Хто разумны, і хто ведае сэнс рэчаў? Розум чалавечы робіць светлым твар ягоны, а гарэзлівасць аблічча змяняе.
2 Я раю: трымайся слова царскага дзеля прысягі Богу.
3 Не спяшайся адыходзіць ад аблічча ягонага, не трымайся настойліва благое справы, бо ён зробіць, што пажадае, усё зможа зрабіць.
4 Дзе слова цара, там улада, і хто скажа яму: «Што ты робіш?»
5 Хто трымаецца запаветаў, не спазнае ніякага ліха; і час, і суд ведае сэрца разумнага;
6 Бо кожнаму зычанню ёсць час і суд; а чалавеку вялікае ліха з-за таго,

7 Што ён не ведае, што будзе; і хто скажа яму, як гэта будзе?

8 Ніхто не мае ўлады над духам, каб стрымаць душу, і няма ўлады над днём смерці, і няма спачынку на вайне, і не ўратуе нягодніцтва нягодніка.

9 Усё гэта я бачыў і звяртаў увагу на кожную справу, што робіцца пад сонцам. Ёсць час, калі чалавек мае ўладу над чалавекам і шкодзіць яму.

10 Бачыў я, што хавалі нягоднікаў, і падыходзілі, і адыходзілі ад святога месца, і на іх забываліся, што яны гэтак зрабілі. І гэта — марнасць.

11 Не хутка дзеецца суд над ліхімі ўчынкамі, таму сэрца сыноў чалавечых схільнае да ліха.

12 Дарма, што грэшны сто разоў робіць ліха і далей жыве, я ведаю толькі, напэўна, што будзе добра тым, якія баяцца Бога, якія баяцца аблічча Ягонага;

13 Але не будзе дабра нягодніку, і, як цень, нядоўга пратрымаецца той, хто не баіцца Бога.

14 Ёсць і такая марнасць на зямлі: каго спаткае доля, як за ўчынкі нягодных. І сказаў я: і гэта — марнасць.

15 І пахваліў я радасць, таму што няма лепшага чалавеку пад сонцам, як есці, піць і весяліцца, бо гэта застаецца з ім да скону дзён ягоных, якія даў яму Бог пад сонцам.

16 Я звярнуўся сэрцам сваім да таго, каб спасцігнуць мудрасць і агледзець справы, што дзеюцца на зямлі, ад якіх ані ўдзень, ані ўначы не мае чалавек сну на вачах сваіх.

17 І тады я ўбачыў кожны ўчынак Божы, і знайшоў, што не можа чалавек зразумець справы, што дзеюцца пад сонцам. Колькі б ні намагаўся чалавек даследаваць, ён не спасцігне гэтага; і нават, калі які мудрэц спадзяецца, што ведае, ён не спасціг гэтага.

## РАЗДЗЕЛ 9

Да ўсяго гэтага я звярнуў сэрца сваё і зразумеў,
што справядлівыя і разумныя справы іхнія —
у руцэ Божае і што чалавек ані любові, ані нянавісці
не ведае ва ўсім тым, што наперадзе ў яго.
2 Усяму і ўсім — адно: адная доля справядліваму
і нягодніку, добраму і ліхому, чыстаму і нячыстаму,
ахвяры і ахвярніку, як дабрачыннаму, так і грэш-
наму, як таму, хто прысягае, так і таму, хто пазбя-
гае прысягі.
3 Гэта і блага ва ўсім, што дзеецца пад сонцам,
што адна доля ўсім, і сэрца сыноў чалавечых поў-
нае ліха, і шал у сэрцы іхнім, у жыцці іхнім; і пасля
гэтага яны адыходзяць да памерлых.
4 Хто знаходзіцца паміж жывымі, у таго ёсць
надзея, бо жывому сабаку лепей за здохлага льва.
5 Жывыя ведаюць, што памруць, а мёртвыя
нічога не ведаюць, і ўжо няма ім адплаты, бо ў
забыццё пайшла памятка пра іх.
6 Як любоў іхняя, так і нянавісць іхняя, і зайз-
драсць іхняя даўно зніклі, і няма ўжо ім надзелу на
вякі ні ў чым, што дзеецца пад сонцам.
7 Ідзі есці з весялосцю хлеб свой і пі віно сваё з
вясёлым сэрцам, калі Бог прымае справы твае.
8 Няхай заўжды адзенне тваё будзе белым, і
заўжды стае алею на галаве тваёй.
9 Цешся жыццём з жанчынаю, якую кахаеш, ва
ўсе дні марнага жыцця свайго, якую даў табе Ён
пад сонцам на ўсе дні марнасці тваёй; бо гэта доля
твая ў жыцці і ў працы тваёй, якую робіш ты пад
сонцам.
10 Усё, што знойдзе рука твая да працы, рабі па
здольнасці сваёй; таму што ў магіле, куды ты
сыдзеш, няма ані працы, ані разваг, ані ведаў, ані
мудрасці.
11 І азірнуўся я і пабачыў пад сонцам, што ані
спрытным лёгка бегчы, ані дужым даецца пера-
мога, ані мудрым — хлеб, ані разумным — багац-

це, ані здольным — зычлівасць; але час і выпадак над усімі;

12 Бо не ведае чалавек часу свайго. Як рыба, што трапіла ў згубную сетку, як птушкі, што заблыталіся ў сіле, так сыноў чалавечых ловяць у згубным часе, калі ён нечакана находзіць на іх.

13 Вось якую мудрасць бачыў я пад сонцам, і яна падалася мне значнаю:

14 Мястэчка, і людзей у ім няшмат, да яго падступіўся вялікі цар, і абклаў яго, і пабудаваў навокал яго вялікія гарады;

15 Але знайшоўся ў ім разумны жабрак, і ён ўратаваў мястэчка розумам сваім; але ніхто не згадаў жабрака.

16 І сказаў я: розум лепшы за моц, але ж розумам жабрака грэбуюць, і словаў ягоных не слухаюць.

17 Спакойныя словы разумных лепей за крык уладара сярод неразумных.

18 Розум лепей за зброю; але адзін грэшны знішчыць шмат добрага.

## РАЗДЗЕЛ 10

Здохлыя мухі сапсуюць і засмуродзяць водарныя лекі; тое ж робіць малая дурасць паважанага чалавека з ягонымі гонарам і мудрасцю.

2 Сэрца разумнага — праваруч у яго, а сэрца неразумнага — леваруч.

3 Якім бы шляхам ні пайшоў неразумны, у яго не хопіць мудрасці, і кожны ўбачыць, што ён дурань.

4 Калі ўгневаецца гаспадар на цябе, не пакідай месца свайго, таму што лагоднасць сцішвае вялікія грахі.

5 Ёсць ліха, якое бачыў я пад сонцам, — гэта нібыта памылка, што паходзіць ад уладара.

6 Невуцтва дасягае вялікай вышыні, а заможныя сядзяць нізка.

7 Бачыў я слуг на конях, а князі, як слугі, хадзілі

па зямлі.
8 Хто капае яму, той уваліцца ў яе; і хто разбурае плот, таго ўкусіць гад.
9 Хто карае камяні, той можа падарвацца. І хто сячэ дровы, той можа апынуцца ў небяспецы ад іх.
10 Як ступіцца сякера, і ён не навострыць ляза, то мусіць высільвацца; але розум здолее гэта выправіць.
11 Як гад укусіць без замовы, то няма ўжо карысці ў замове.
12 Словы з вуснаў разумнага — зычлівыя, а вусны неразумнага — ягоная згуба:
13 Пачатак словаў у вуснах ягоных — дурнота, а канец — вар'яцтва.
14 І неразумны памнажае словы, дарма што чалавек не можа сказаць, што будзе, ды й хто скажа яму, што будзе пасля яго?
15 Праца стамляе неразумнага, бо не ведае ён, як ісці да мэты.
16 Бяда табе, зямля, калі цар твой — юнак і князі твае ядуць рана.
17 Добра табе, зямля, калі цар твой — сын годнага і князі твае ядуць у пару, каб есці, а не нажэрціся.
18 Ад ляноты валіцца столь, а калі апусціць рукі, то пацячэ дом.
19 Дзеля радасці ладзяць фэст, і віно весяліць жыццё, а срэбра адказвае за ўсё.
20 Нават у думках сваіх не кляні цара, і ў спачывальні сваёй не кляні багатага; таму што птушка нябёсная можа перанесці голас твой і пераказаць словы твае.

## РАЗДЗЕЛ 11

Пускай хлеб свой па вадзе, таму што праз пэўны час знойдзеш яго.
2 Давай частку сямі і нават васьмі, бо не ведаеш, якое ліха прыйдзе на зямлю.

3 Калі аблокі будуць поўныя, то яны пральюць на зямлю дождж; і калі ўпадзе дрэва на поўдзень або на поўнач, то на месцы, дзе паваліцца яно, там і застанецца.
4 Хто назірае вецер, таму не сеяць; і хто глядзіць на аблокі, таму не жаць.
5 Калі ты не ведаеш шляхоў душы, ані касцей у жываце цяжарнай, так ты не ведаеш учынкаў Бога, Які робіць усё.
6 Раніцаю сей насенне сваё, і ўвечары хай не спачываюць рукі твае; бо ты не ведаеш, што ўродзіць, адно ці другое, ці абодва аднолькава добра.
7 Салодкае святло, і прыемна вачам бачыць сонца.
8 Няхай чалавек пражыве шмат гадоў, і няхай весяліцца ўсе тыя гады, і няхай памятае пра дні цёмныя, якіх будзе шмат; усё, што будзе, — марнасць.
9 Цешся, юнак, у маладосці сваёй, і няхай сэрца тваё весяліцца ў часы маладосці тваёй, і хадзі шляхамі сэрца твайго, і паводле бачання твайго; адно ведай, што за ўсё гэта Бог прывядзе цябе на суд.
10 І пазбягай смутку ў сэрцы сваім, і адпрэчвай ліхое ад цела свайго, бо маленства і маладосць — марнасць.

## РАЗДЗЕЛ 12

Памятай Творцу свайго ў часы маладосці свае, покуль не прыйшлі цяжкія часы і не насталі гады, пра якія ты скажаш: «Няма мне радасці ў іх»;
2 Покуль не зацьмілася сонца і святло, і месяц, і зоры, ані аблокі не вярнуліся па дажджу;
3 У дзень, калі задрыжаць вартаўнікі, і скрывяцца асілкі; і перастануць малоць млынары, таму што іх мала, і кінуцца глядзець з вокнаў;
4 І замыкаць будуць дзверы на вуліцу, як і змоўкне гук жорнаў, і будзе ўставаць чалавек, як птушыны крык, і будуць прыцішаны гукі спеваў;

5 І будуць баяцца вышыняў і жахаў на дарогах; і заквітнее мігдал; і пацяжэе казюрка; і счэзне зычэнне, бо людзі адыходзяць да вечнага дому свайго, і плакальшчыцы абыходзяць вуліцы;

6 Аж покуль не парвецца срэбны ланцуг, і не парвецца залатая повязь, і не паб’ецца збан каля крыніцы, і не зломіцца кола над студняю.

7 І вернецца прах у зямлю, як яно было, а душа звернецца да Бога, Які быў даўшы яе.

8 Марная мітусня, сказаў Эклезіяст, усё — марнасць.

9 Апроч таго, што Эклезіяст быў разумны, ён яшчэ вучыў людзей ведам, ён усё зведаў, даследаваў і пакінуў шмат прыпавесцей.

10 Стараўся Эклезіяст знайсці дакладныя словы і напісаў словы праўды.

11 Словы разумных, як дзіды, і да ўбітых цвікоў падобныя словы складальнікаў; дадзеныя ад адзінага пастыра.

12 А што звыш усяго гэтага, сын мой, таго сцеражыся: складаць шмат кнігаў — канца не будзе, і шмат чытаць — стома целу.

13 Паслухаем сутнасць усяго: бойся Бога і трымайся запаветаў Ягоных, таму што ўсё гэта дзеля чалавека;

14 Бо кожны ўчынак прывядзе на суд Божы, і ўсё таемнае, добрае ці благое.

# ЗМЕСТ



* Твор напісаны пры ўдзеле Максіма Клімковіча.
** Твор напісаны пры ўдзеле Адама Глобуса і Максіма Клімковіча.